НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры
Філіял «Інстытут мовы і літаратуры
імя Якуба Коласа і Янкі Купалы»

# *БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯЛЕКТАЛОГІЯ*

*матэрыялы і даследаванні*

**Зборнік навуковых артыкулаў**

Заснаваны ў 2010 годзе

*Выпуск 3*



Мінск
«Беларуская навука»
2014

УДК 811.166.3’28(082)

Чарговы выпуск зборніка «Беларуская дыялекталогія. Матэрыялы і даследаванні» захоўвае традыцыйную структуру папярэдніх зборнікаў, аднак ён пашыраны за кошт рубрыкі «Нашы юбіляры». Па традыцыі зборнік змяшчае вялікую падборку дыялектных слоў з розных рэгіёнаў Беларусі. У трэці выпуск у адрозненне ад іншых уключаны лексічныя матэрыялы з архіваў. У раздзеле «Навуковыя даследаванні» пераважаюць артыкулы па праблемах нацыянальнага сінтаксісу. Запісы сучаснага маўлення з розных рэгіёнаў Беларусі прадстаўлены ў раздзеле «Тэксты з беларускіх гаворак». Завяршае кнігу пакет інфармацыйна-даведачных матэрыялаў. Гэта паказальнік слоў, а таксама звесткі па афармленні артыкулаў.

Разлічана на моваведаў, этнографаў, гісторыкаў, а таксама ўсіх, хто цікавіцца родным словам.

# ПРАДМОВА

Зборнік «Беларуская дыялекталогія. Вып. 3», як і папярэднія дыялекталагічныя зборнікі, падрыхтаваны да друку супрацоўнікамі аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі. У кнізе асвятляюцца важнейшыя пытанні дыялекталагічнага характару ў розных галінах лінгвістыкі – лексікаграфіі, лексікалогіі, фразеалогіі і парэміялогіі, сінтаксісу і інш.

Матэрыялы ў зборніку размеркаваны па шасці раздзелах: да пяці традыцыйных рубрык з папярэдніх выпускаў зборніка («З лексікі народных гаворак», «Тапанімія», «Фразеалогія і парэміялогія», «Навуковыя даследаванні», «Тэксты з беларускіх гаворак») упершыню даецца раздзел «Нашы юбіляры». Акрамя таго, назва раздзела «Тапанімія» заменена назвай «Анамастыка». Гэта замена абумоўлена зместам і характарам мовазнаўчых матэрыялаў.

Раздзел «З лексікі народных гаворак» у зборніку па традыцыі самы прадстаўнічы, але на гэты раз адрозніваецца ад раздзелаў папярэдніх выданняў: у яго ўключаны архіўныя матэрыялы як па лексікаграфіі, так і па тапаніміцы. Да ліку першых належыць слоўнік, які ў якасці дысертацыйнага дадатку быў падрыхтаваны М. В. Бірылам, а таксама апрацаваныя ў форме слоўніка матэрыялы, сабраныя на тэрыторыі Дзісеншчыны ў 20-я гады мінулага стагоддзя Я. Н. Драздовічам. Цікавую тапанімічную падборку складаюць знойдзеныя ў архівах Вільнюса матэрыялы па тапаніміцы з паўночна-заходняга рэгіёна Беларусі. У аўтарскіх словазборах рэпрэзентуецца лексіка з розных рэгіёнаў Беларусі – з паўночнай Віцебшчыны, са Случчыны і Любаншчыны, з заходнепалескіх гаворак Брэстчыны. Большасць з уключаных у выданне слоўнічкаў – гэта лексічныя падборкі тлумачальнага характару, але змест іх неаднастайны. Асобныя слоўнічкі з'яўляюцца лексіка-тэматычнымі ці ідэаграфічнымі артыкуламі. Гэта, у прыватнасці, слоўнік эмацыянальна-ацэначнай лексікі, словазбор аб абазначальных сродках, якімі карысталіся ў сваёй маўленчай дзейнасці плытнікі басейна Дняпра, а таксама лексічная падборка батанічнай наменклатуры, характэрная для групы заходнепалескіх гаворак. У кожным са слоўнічкаў можна атрымаць шмат цікавых звестак з разнастайных галін жыцця і дзейнасці чалавека і навакольнага свету, пэўную інфармацыю пра традыцыйную мясцовую матэрыяльную і духоўную культуру. Такая інфармацыя падаецца пераважна ў прыкладах. Звесткі пра асаблівасці гукавога ладу гаворак звычайна не ўказваюцца, толькі ў некаторых выпадках адзначаюцца іх спецыфічныя і тыповыя рысы. Рэестравыя словы і ілюстрацыі да іх падаюцца ў фанетычным запісе графічнымі сродкамі беларускага літаратурнага пісьма. Пры рэалізацыі адметных для гаворкі гукаў ужываюцца спецыяльныя графічныя абазначэнні, пра што дадаткова паведамляецца. Усе падрыхтаваныя да друку лексічныя словазборы з'явяцца базай для перспектыўнага фундаментальнага выдання «Зводны слоўнік беларускіх народных гаворак».

Словазборы ў аўтарскіх артыкулах маюць алфавітны парадак. З мэтай аблягчэння пошуку ўключаных у выданне абазначальных сродкаў дадаецца лексічны паказальнік. Пры кожным слове адзначана старонка (старонкі), дзе яно разглядаецца.

У гэтым выданні, як і ў папярэдніх, скарачэнні, якімі карыстаюцца аўтары, уніфікаваны. Як дадатковы інфармацыйны пакет яны змяшчаюцца ў канцы кнігі.

Раздзел «Навуковыя даследаванні» ўключае артыкулы па розных лінгвістычных праблемах. Асобныя з артыкулаў маюць анамасіялагічны характар і прысвечаны раскрыццю матывацыі, увасобленай у караняслове. На аснове аналізу мікратапанімічнага матэрыялу даследуюцца таксама праблемы фарміравання дыялектнага ўсходнепалескага ландшафту, але асноўная частка

гэтага выпуску прысвячаецца сінтаксічнай праблематыцы. Прынамсі, выяўляецца статус асобных сінтаксічных канструкцый, якія ўжываліся ў якасці моўных сродкаў у газеце «Наша Ніва», шляхам іх параўнання з дыялектнымі сінтаксічнымі асаблівасцямі.

У трэцім выпуску, як і ў папярэдніх, вылучаны ў асобны раздзел артыкулы, прысвечаныя збіранню і ўпарадкаванню беларускай мясцовай айканіміі. Яна рознага тыпу і з розных куткоў Беларусі. Адметнасць гэтага раздзела ў тым, што чытачам прапануюцца архіўныя матэрыялы, сабраныя ў пачатку 30-х гадоў мінулага стагоддзя на Віленшчыне, друкуюцца яны ўпершыню.

Ужо традыцыйны для зборніка раздзел «Фразеалогія» складаецца з трох частак. Акрамя новай падборкі сінтаксічна звязаных адзінак, характэрных для беларускага дыялектнага маўлення жыхароў Брэстчыны, змяшчаецца слоўнік прыказак, прымавак, загадак з гэтага рэгіёна.

У раздзеле «Тэксты з беларускіх гаворак» істотную частку матэрыялаў складаюць запісы ўзораў сучаснай гаворкі насельнікаў Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці, Быхаўскага Магілёўскай, Іўеўскага Гродзенскай, Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці, колькасна багата на запісы выглядае Міншчына. Тэксты падрыхтавалі пераважна супрацоўнікі Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры, некаторыя з запісаў належаць аўтарам-аматарам. У тэкстах адлюстраваны рознаўзроўневыя асаблівасці, характэрныя для беларускіх народных гаворак у іх сучасным стане. Улічваючы вялікую запатрабаванасць матэрыялаў такога жанру, у запісах адлюстроўваюцца акцэнталагічныя адметнасці гаворак. Усе ўключаныя ў зборнік тэксты захоўваюць аўтарскую апрацоўку запісаў.

У тэматычных адносінах тэксты характарызуюцца разнастайным зместам. У іх змяшчаецца цікавая інфармацыя з жыцця беларускага народа пра яго побыт, звычаі, традыцыі, гісторыю і культуру, навакольны свет. Думаецца, што новыя лексічныя і тэкставыя матэрыялы, надрукаваныя ў кнізе, будуць мець навуковае і практычнае значэнне. Яны не толькі дапамогуць ўвесці частку слоў у зводны слоўнік беларускіх народных гаворак і новы тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы, але і стануць аб’ектам спецыяльных лінгвістычных і інтэрдысцыплінарных даследаванняў, а таксама знойдуць сваё прымяненне ў разнастайных сферах сацыяльна-культурнага жыцця ў нашай краіне.

*Рэдакцыйная калегія*

# З ЛЕКСІКІ НАРОДНЫХ ГАВОРАК

## *З АРХІЎНАЙ МОЎНАЙ СПАДЧЫНЫ*

*М. В. Бірыла*

## СЛОЎНІК КАПЫЛЬШЧЫНЫ

Падрыхтавала *В. М. Курцова*

Прапанаваны ўвазе чытачоў слоўнік М. В. Бірылы – гэта лексічны дадатак да дысертацыйнага даследавання аўтара, які меў назву «Некаторыя асаблівасці слоўнікавага саставу былога Чырвонаслабодскага раёна былой Бабруйскай вобласці»[1]. З улікам таго, што большую частку вёсак, дзе ў 40-х – пач. 50-х гадоў маладым лінгвістам збіраўся лексічны матэрыял для даследавання, склалі паводле сучаснага тэрытарыяльна-адміністрацыйнага падзелу вёскі Капыльскага раёна, пры публікацыі дысертацыйнага дадатку ў форме слоўніка апошняму вырашана было даць назву «Слоўнік Капыльшчыны». Як асобны лексічны даведнік ён яшчэ цалкам не друкаваўся, аднак асобныя прыклады з працы выкарыстоўваліся. Акрамя таго, асабіста М. В. Бірылам значная частка лексічных матэрыялаў была выкарыстана ў падборцы «З лексікі Чырвонаслабодчыны», якая друкавалася ў дыялекталагічным зборніку «З народнага слоўніка» (1975). Змешчаныя ў названым зборніку лексічныя матэрыялы адрозніваюцца ад зыходнага тэксту асаблівасцямі ўкладання, да таго ж словазбор у кнізе падаецца ў адпаведнасці з набыткамі і патрабаваннямі тагачаснай лексікаграфічнай практыкі.

Спробы апрацаваць і выдаць словазбор з Капыльшчыны рабіліся раней. Ідэя ўпарадкаваць, сістэматызаваць наогул усе лексічныя матэрыялы, сабраныя М. В. Бірылам, у тым ліку і яго дысертацыйны дадатак, і старыць на іх аснове аўтарскі слоўнік узнікла ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа і Янкі Купалы пры набліжэнні васьмідзесяцігадовага юбілею акадэміка. Падрыхтоўкай да друку архіўных матэрыялаў займалася ў той час Г. К. Усціновіч – вядомы беларускі лексікограф, якая добра ведала М. В. Бірылу і прапрацавала разам з ім не адзін дзясятак гадоў. Аднак справа не была даведзена да канца. У аддзеле дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі малодшым навуковым супрацоўнікам В. І. Крупко толькі быў набраны дысертацыйны лексічны дадатак. Ён з'яўляўся поўнай копіяй арыгінала і захоўваў аўтарскую канцэпцыю слоўніка ў тым выглядзе, як гэта вымагалася патрэбамі дысертацыйнага даследавання.

Сёння, працуючы над упарадкаваннем матэрыялаў розных інфармацыйных крыніц, у сувязі з задумай стварыць «Зводны слоўнік беларускіх народных гаворак» у аддзеле дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі вырашана было даць жыццё дысертацыйнаму словазбору акадэміка М. В. Бірылы.

Прапанаваны слоўнік у асноўным захоўвае распрацаваную аўтарам структуру. Так, як і задумваў даследчык, рэестравыя адзінкі падаюцца ў форме адзіночнага і множнага ліку, месца першай сярод дзвюх словаформаў вызначаецца іх статусам у граматычнай катэгорыі ліку. З улікам гэтага лінгвіст адлюстроўваў найбольш пашыраную ў тагачасных мясцовых гаворках флексію роднага склону. Яе ён падаваў толькі для адной з дзвюх прадстаўленых у рэестравым радзе адрозных па лікавай форме лексічных адзінак. Прынцып падобнага напісання канчатка захоўваецца ў дадзенай публікацыі. Адметнасць дысертацыйнага словазбору складае наступнае: да рэестравай

[1] Згодна са звесткамі даведніка «Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь. Мінскай вобласць» (Мінск, 2003), вёскі былога Чырвослабодскага раёна Бабруйскай вобласці былі падзелены паміж рознымі раёнамі Мінскай вобласці. Абследаваныя аўтарам вёскі Бучаціна (іншы варыянт назвы Бычаціна), Выгода, Жыліхава (іншы варыянт назвы Жылехава), Семежава, Смалічы, Старына адышлі ў склад Капыльскага раёна, у склад Слуцкага раёна – вёскі Бялевічы, Танежыцы, Чапліцы (іншы варыянт назвы Чаплічы), Салігорскага – вёскі Веска, Малы Рожан, г. п. Чырвоная Слабада, Клецкага – в. Макраны. Назва в. Жываглодавічы страчана.

адзінкі ў якасці адсылачных параўнальных адзінак прыводзяцца словы з прылеглай тэрыторыі гаворак Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці, а таксама з выдадзеных беларускіх і найбольш запатрабаваных на той час рускамоўных лексікаграфічных дыялектных крыніц. Скарачэнні адсылачных крыніц, ужытыя аўтарам, заменены на прынятыя для выдання. Так, адсылкам *сл. Чэрв.* адпавядае Шатэрнік, *сл. Віц.* – Каспяровіч, *сл. Насовіча* – Насовіч, *сл. Смал.* – Дабравольскі, *сл. Даля* – Даль, *сл. Ушакова* – Ушакоў. Прыведзеныя як параўнальныя лексемы найчасцей з'яўляюцца семантычна тоеснымі эквівалентамі загалоўных слоў, часам іх структура мае поўнае або частковае фармальнае і структурнае супадзенне пры адрозненні значэння. Зрэдку аўтарам да загалоўнага слова падаюцца сінонімы з мясцовых гаворак. Захоўваюцца таксама і цытаты, у якіх слова выступае з семантыкай, адлюстраванай даследчыкам. Гэта прыклады з літаратурных твораў пісьменнікаў, гаворкі якіх мяжуюць з даследаванымі М. В. Бірылам, передаецца дадатковая, галоўным чынам этнаграфічнага характару, інфармацыя, што суправаджае значэнне лексемы.

Слоўнік М. В. Бірылы належыць да ліку дыферэнцыяльных тлумачальных дыялектных даведнікаў. Аднак семантызацыя слова мае ў ім адну выразную адметнасць. Пры раскрыцці значэння абазначальных лексічных сродкаў як кампаненты тлумачэння аўтарам выкарыстоўваюцца дыялектныя словы. Яны вылучаюцца курсівам і адначасова маюць статус адсылачных лексічных адзінак, паказваючы, што дадзенае слова выступае не толькі як кампанент значэння, але і з'яўляецца ў слоўніку самастойнай рэестравай адзінкай.

Прапанаваны словазбор захоўвае сістэму граматычных памет, прынятых М. В. Бірылам. Змены, зробленыя ў аўтарскім экзэмпляры, маюць пераважна тэхнічны характар і накіраваны на тое, каб слоўнік адпавядаў сучасным патрэбам лексікаграфічнай практыкі. У прыватнасці, формы дзеясловаў закончанага і незакончанага трывання разглядаюцца ў асобных слоўнікавых артыкулах, зафіксаваныя фраземы, якія не вылучаліся аўтарам, вылучаны як асобныя адзінкі і падаюцца ў адпаведных тыпах слоўнікавых артыкулаў пад знакам ◊. Састаўныя тэрміны захоўваюць свой статус, іх прыналежнасць да дадзенай групы абазначальных сродкаў суправаджаецца спецыяльным адсылачным знакам ○. Як асобныя камунікатыўныя адзінкі, абазначаныя адсылачным знакам □[1], у межах слоўнікавага артыкула вылучаюцца парэміі, праўда, у аўтара яны сустракаюцца адзінкава.

У дысертацыйным дадатку ілюстрацыі падаваліся з выкарыстаннем сродкаў спрошчанай транскрыпцыі. У падрыхтаваным да друку варыянце цалкам захоўваецца зафіксаванае даследчыкам гучанне слоў, аднак перадаецца яно літарнымі сродкамі сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Зрэдку ў аўтара, відаць, з-за недагляду адсутнічае націск ва ўжытых ім прыкладах. У параўнальных адсылачных матэрыялах акцэнталагічны склад амаль паўсюдна не вылучаецца. У такім выглядзе яны захоўваюцца ў тэксце.

## А

**АБЕ́ЧАК** *м.*, *-а*; **АБЕ́ЧКІ** *мн.* Абадок рэшата, сіта. *Абе́чак паламаўся, рэ́шато прапа́ло.* Семежава. *Трэ́бо другі́ абе́чак.* Веска.

*Абеча́йка* (Дзярж.), *абяча́як, абяча́йка* (Шатэрнік), *абіча́йка* (Каспяровіч), *абіча́йка* (Насовіч), *обеча́йка, обе́чка* (Даль, усх.).

**АБЗАДА́ЧВАЦЬ** *незак.* Знаходзіць патрэбны для куплі прадмет, даваць за яго задатак і прасіць захаваць яго на некаторы час. *Абзада́чыў каро́ву, цепе́р гро́шай трэ́бо даста́ць.* Танежыцы.

**АБЗАДА́ЧЫЦЬ** *зак.* Знайсці патрэбны для куплі прадмет, даць за яго задатак і папрасіць захаваць яго на некаторы час. Танежыцы.

*Абзада́чваць, абзада́чыць* (Дзярж.), *абзада́чыць* (Шатэрнік), *обзада́тчивать, обзада́тчить, обзада́точить* (Даль).

Усю зямлю адразу абзадачылі нейкія два былыя арандатары (К. Чорны. Вялікі дзень).

**АБЗО́Й** *м. толькі адз.*, *-я.* Неабрэзаны край дошкі. *Абзо́й на дзьвох до́шках аста́ўса.* Семежава. *Абзо́й на до́сца велі́кі.* Веска.

*Абза ж.* (Дзярж.), *абзол* (Даль, калужск.), *абзёл* (Даль, курск.).

**АБМЕ́ШВАЦЬ** *незак.* Здобрыць корм для жывёлы мукой. Семежава.

**АБМЯША́ЦЬ** *зак.* Здобрываць корм для жывёлы мукой. *О́бмешкі ўсып, абмеша́й, кап лепш е̂лі.* Семежава.

*Абме́шаваць, абмяша́ць* (Дзярж.).

[1] Пералічаныя тут спецыяльныя сімвалы з'яўляюцца агульнымі ўніфікаванымі знакамі для ўсяго выдання.

**АБРО́К** *м. толькі адз., -у.* Сыпкі корм (авёс, сечка з аўсом), які бярэцца ў дарогу для каня. *Абро́к – э́то рэ́ска с аўсо́м.* Семежава. *Чаму́ ш абро́ку ні далі́ на даро́гу.* Бялевічы.

*Абро́к* (Дзярж., Шатэрнік, Насовіч), *оброк* (Даль, паўдн.-зах.).

**АБРУ́С** *м., -а*; **АБРУ́СЫ** *мн.* Абрус, настольнік; кусок спецыяльна вытканай тканіны, якой засцілаюць стол. *Накры́й абру́сам стол. Зальé ш абру́с чарні́лам, зьнімі́.* Танежыцы. *Насто́льнік – ге́то то́е, што і абру́с.* Семежава.

*Абру́с* (Дзярж., Шатэрнік, Каспяровіч, Насовіч), *абрус, обрусник* (Даль, зах.).

**АБСАЮ́ЗІЦЬ** *зак.* Паставіць *саю́зкі* на боты. *Трэ́бо чо́баты апсаю́зіць, ды саю́зак німа́.* Семежава.

*Абсаю́зіць* (Дзярж.), *обсаюзить* (Даль, Ушакоў).

**АБУВА́ЦЦА** *незак.* Абувацца, адзяваць абутак. Старына.

**АБУ́ЦЦА** *зак.* Абуць, адзець абутак. *Каза́ла ш абу́йса.* Старына.

**АБШЭ́ЎКІ** *толькі мн., -вак.* Манжэты ў рукавах. *Паабрыва́ліся апшэ́ўкі, трэ́бо падла́дзіць.* Макраны.

*Манке́ты* (Дзярж.), *манкэты* (Каспяровіч).

**АВА́Д** *м., -а*; **АВАДЫ́** *мн.* Авадзень. *Гэ́та ў нас ава́т называ́юць.* Малы Рожан.

*Ава́д* (Насовіч), *овад* (Даль, курск.), *авад* ругат. слово, бестолковый (Дабравольскі).

**АВАДЗЕ́НЬ** *м., -я́*; **АВАДНІ́** *мн.* Тое ж. *Авадні́ заеда́юць тава́р, як со́нца паднело́са, так і гані́ дамо́ў.* Старына. *Згані́ авадне́.* Веска.

*Авадзе́нь* (Дзярж.), *авадзень* (Шатэрнік, Каспяровіч).

А авадні, як рой пчаліны, / Сляпіцай лезуць да скаціны. (Я. Колас. Новая зямля).

**АВАДЗЬЕ́** *н. зб.* Авадні. *У нас авадз'е́ ле́там жыць ні дае́ць.* Старына.

**АГЛАБЕ́Ц** *м., -бца́*; **АГЛАБЦЫ́** *мн.* Аглабіна, верхняя перакладзіна ў *драбі́нах*. *Па аглапцы́ палажыы́ў снапо́ў і прыўёс. У ма́зі аглабе́ц.* Семежава.

*Ве́ршнік. Вяршні́к зламо́ўся.* (Дабрынёва Дзярж.).

**АГЛАБІНО́** *н., -а́*; **АГЛАБІ́НА** *мн.* 1. Верхняя і ніжняя частка ў *драбі́нах*; у іх замацоўваюцца *лёсткі*. Танежыцы, Веска. 2. Ніжняя частка ў *драбі́нах*. Семежава. *Ве́рхнее аглабіно́ злама́ласа, а ніжнее яшчэ́ до́брае.* Танежыцы.

**АГЛО́БЛІ** *мн., -ель*; **АГЛО́БЛЯ** *ж.* Аглобля. *Во́зьме паперо́су, як агло́блю, і сма́ліць.* Танежыцы. *Кôнь агло́блю зламаў.* Веска. *Са́ма лêпша аглобля бе-ро́зава.* Старына.

*Аглабля́* (Дзярж.), *аглабля* (Шатэрнік), *аглабіліна* (Каспяровіч), *аглобля, оглобень* (Даль, пскоўск., цвярск.), *аглобля* (Дабравольскі).

**АГЛЕ́ДЗЕЦЦА** *зак.* Выканаць штодзённую неадкладную работу па гаспадарцы ў канцы дня. Семежава.

*Ухадзі́цца*; *аглядáцца* (Дзярж.), *аглядацца* (Шатэрнік).

**АГЛЯДА́ЦЦА** *незак.* 1. Паварочвацца, глядзець назад. *Ідзі́ ды й агледа́йса.* Семежава. 2. Выконваць штодзённую неадкладную работу па гаспадарцы ў канцы дня, уходжвацца. *Пара́ агледа́цца.* Бялевічы, Семежава.

**АГЛЯНУ́ЦЦА** *зак.* Павярнуцца, глянуць назад. Семежава.

**АГО́РАЦЬ** *толькі зак.* З цяжкасцю што-н. набыць, зрабіць. *За тры гады́ не́ек аго́раў ха́ту сабê.* Танежыцы.

На га́зу якую-небудзь залатоўку агораем (К. Крапіва. Мядзведзічы). Яно б усё гумно перасыпаць трэба, ды дзе ты агораеш яго (М. Лынькоў. На чырвоных лядах).

**АГУРЫ́ЦЦА** *зак., незак. няма.* Абвыкнуцца, апусціцца. *Агуры́ўса і жыве́ не́ек.* Семежава.

*Агуры́цца* (Дзярж.), *агурэць* (Каспяровіч); *агурыцца*. Упрямиться, ослушиваться, отлынивать; упрямиться.

**АДЗЁР** *м., -у.* Адзёр; дзіцячая хвароба. *У іх дзêці на адзёр пахварэлі. Ашчэ́ адзёру наберу́цца.* Танежыцы.

*Адзёр* (Дзярж.), *адзёр* (Шатэрнік).

**АДЗЁР** *м.* Калодка для пчол (форма Р. *адз.* і Н. *мн.* не выяўлена). *Заву́ць гэ́ты дуп Дзем'я́наў дуп, а на ду́бе адзёр – кало́да для пчол.* Малы Рожан.

*Одер.* Помост в лесу на деревьях, *одрина ж.* Полати, кровать для постановки ульев или стрельбы медведя (Даль); *одёр.* Полати, с которых караулят медведя (Дабравольскі).

**АДЛЕ́ГА**, **АДЛЁГА** *ж., -і.* Адліга. *Атле́га бу́дзе: маро́с атлёх.* Семежава. *На атлёгу пака́звае.* Бялевічы.

*Адлі́га* (Дзярж.), *адлега* (Шатэрнік), *адліга, одліг* (Насовіч), *отлыга* – паўдн., *отлига* – зах. (Даль).

**АДМЫСЛО́ВА** *прысл.* 1. Дабротна, прыгожа. *Адмысло́ва ён пе́чы ро́біць, ніхто́ так ні зро́біць.* Танежыцы. 2. Асобна. *Што я табê адмысло́ва есьць вары́цьму.* Танежыцы.

**АДНО́** *прысл.* Толькі. *Адно́ ў пêцца то́рфам па́лім. Усê жо́ны абêт несу́ць, адно́ мае́й німа́* (з песні). Семежава. *По́йдам у брусьні́цы; адно́ хлêп вы́мем.* Смалічы. *Ты адно́ на ве́рсі саладзі́ла. Ешчэ́ ве́рнесься, бежы́ адно́.* Макраны.

*Адно́* (Шатэрнік, Каспяровіч). *Адно ўсё крычаць: дай есці, дай піць.* (Старына Шатэрнік); *одно. Барин казал: ня буду приймать батракоў – адно, кали прикуплю мения.* (Дабравольскі).

**АДО́НАК** *м., -а*; **АДО́НКІ** *мн.* Стажар'е, адонак; подсціл з вецця і саломы, падмостак для стога. *Пайдзі́ паледзі́ ці стаі́ць стары́ адо́нак ці но́ваго рабі́ць трэ́бо.* Веска. *Насечы́ на адо́нак галья́.* Танежыцы.

*Адо́нак* (Дзярж., Шатэрнік), *одонок* – тамб., *одонье* – наўгарод., арх. (Даль); *адонок.* Остатки от хлебной или сенной скирды (Каспяровіч, Насовіч.); *адонак.* 1. Остаток хлебной скирды. 2. Стог сена или соломы (Дабравольскі).

**АДРЫ́НА** *ж., -ы*; **АДРЫ́НЫ** *мн.* Адрына. *Адры́на – дзê ста符ля́рскі верста́т стаі́ць і на сенажа́ці стая́ла, дзê сêно хава́лі. У ка́ждаго па дзьвê адры́не на сенако́се.* Семежава.

*Адры́на* (Дзярж., Шатэрнік), *адрына* (Каспяровіч), *адрына, адрынец* (Насовіч), *одрина* (Даль, зах.).

*Одрина* (цвярск.). Большой хлев для рогатого скота (Даль); *одрина.* Спальня, почивальня; жилой покой вообще; *одрина* ругат. слово, неповоротливый, неловкий (Дабравольскі).

На спатканне ім з адрыны / Два дзядзькі бягуць (Я. Колас. Сымон-музыка). След пашоў (нацярушана было) аж пад самую адрыну Наздрэйкаву (К. Крапіва. Мядзведзічы).

**АДЧЭ́ПНАЕ** *н.* Адчапное; зрабіць што-н. ці даць што каму-н. для віду. *Даў атчэ́пнага і йдзі.* Семежава.

*Атчэпнае* (Дзярж.), *адчэпнае* (Шатэрнік).

**АЖАГІ́** *мн.*, **О́ЖАГ** *м. адз.* 1. Агульная назва ўсіх неабходных пры печы прылад (вілкі, качарга, чапяла і інш.). *Вы́несі ты гэ́тые ажагі́ с ха́ты.* Танежыцы. 2. Кут у хаце каля печы, дзе стаяць вілкі, качарга, чапяла і інш. прылады. *Ажагі́ – ге́то куто́к каля пêчы, дзе стая́ць ві́лкі, качарга́, метла́. Паледзі́ мо ў ажагôх стаі́ць.* Семежава.

**АЗУВА́ЦЦА** *незак.* Абувацца. Танежыцы.

**АЗУ́ЦЦА** *зак.* Абуцца. *Азу́йсе, хо́ладно ў ха́це. Як азу́ўсе ра́ніцаю, так і прахадзі́ў уве́сь дзень.* Танежыцы.

**АЗЫ́ЗНІВЕЦЬ** *толькі зак.* Азызнуць; апухнуць, атрымаць нездаровую хваравітую паўнату. *Азы́зьнівеў – уро́дзе апу́хне.* Семежава.

*Азы́знуць* (Дзярж.), *азызнуць* (Шатэрнік, Каспяровіч).

**АЗЯРО́Т** *м.*, *-а*; **АЗЯРО́ДЫ** *мн.* Азярод; прыстасаванне для сушкі снапоў, якое складаецца з укапаных у зямлю слупоў і раду жэрдак, размешчаных адна пад другою і замацаваных на гэтых слупах. Семежава.

*Азяро́т* (Дзярж.), *азярот* (Шатэрнік, Каспяровіч), *озеред, озород* (Даль, зах.).

Па ўсім гэтым судзіць можна: / Па ветраках такіх удумных, / Па старасвецкіх азяродах (Я. Колас. Новая зямля).

**АКАЛО́Т** *м. толькі адз.*, *-у.* Абмалочаныя ручным спосабам жытнія снапы. *Трэ́бо акало́ту накалаці́ць ды кулёў вы́трасьці.* Семежава.

*Акало́т* (Дзярж., Шатэрнік); *акалотыш.* Аб адным акалочаным снапе (Каспяровіч).

Копкі дзве акалоту / Грэчкі з возік ляжыць (Я. Купала. Адвечная песня). Асабліва акалот даўся ў знакі (К. Крапіва. Мядзведзічы).

**АКРА́ЕЦ** *м.*, *-а*; **АКРА́ЙЦЫ** *мн.* Акраец; кусок хлеба, адрэзаны з краю булкі. *О́лька, пайдзі́ пазы́ч акра́ец хлêба.* Выгода. *Ён до́бры акра́ец хлêба зьесьць.* Семежава.

*Акра́ец* (Дзярж.), *акраец* (Шатэрнік, Каспяровіч, Насовіч).

**АНДАРА́К** *м.*, *-а*; **АНДАРА́КІ** *мн.* Шырокая і доўгая спадніца з клятчатага ці паласатага матэрыялу. *Андара́кі ціпе́р ма́ло но́сяць.* Семежава. *Маладôй дзêўчыне ні за што́ андара́ка не адзêнеш.* Веска.

**АПА́Д** *м. зб.*, *-у.* Апад, ападкі; без пары апалыя яблыкі ці грушы. *Пасушы́ць апа́т трэ́бо.* Чапліцы. *Ге́ту нôч апа́ду мнôго насы́палaсо.* Танежыцы.

*Опад* (Даль).

**АПА́ДКІ** *толькі мн.*, *-аў.* Тое ж. *Назьбіра́ў апа́ткаў ды прыно́сіць.* Семежава.

*Апа́ткі* (Дзярж.), *ападкі* (Шатэрнік), *опадок, опадка, опадень, опадыш* (Даль).

**АПА́ЛУШКІ** *толькі мн.*, *-шак.* Апалушкі; невялікія начоўкі для апалання збожжа. *Ссып мак у апа́лушкі паку́ль што.* Танежыцы.

**АПАНАВА́ЦЬ** *зак.* Акружыць, напасці, накінуцца. *Як апанава́лі саба́кі, ні мôх абараніцца. З забôт во́шы былі́ мене́ апанава́лі у во́йну.* Семежава.

**АПАНО́ЎВАЦЬ** *незак. рэдк.* Акружаць, нападаць, накідвацца. Семежава.

**АПО́ЛАК** *м.*, *-а*; **АПО́ЛКІ** *мн.* Дошка з адным абрэзаным бокам, а другім акруглым. *С апо́лкаў зрабі́ў хлêўчук.* Веска.

*Апо́лак* (Дзярж., Шатэрнік, Каспяровіч, Насовіч), *ополок* (Даль, зах.).

Пад паху сунуў ён аполак / На латакі і на падстаўкі (Я. Колас. Новая зямля).

**АПО́РКІ** *мн.*, *-аў*, *-рак.* Старыя боты ці валёнкі з адрэзанымі халявамі. *Уссу́нь апо́ркі, а то но́гі паме́рзнуць. Апо́ркі ро́бяць с стары́х бо́таў і ва́ленак.* Танежыцы.

*Апо́рак* (Дзярж., Каспяровіч).

**АПУ́ХА** *ж. толькі адз.*, *-і.* Дрэннай якасці скура – слабая, з рэдкай шэрсцю. *Апу́ха – э́то, ска́жам, у шкуры́ каля нôх, як чэ́раво, дзê шэ́рсьці ма́ло й шку́ра сла́бая. С апу́хі панара́ды ро́бяць.* Семежава.

*Апуха.* Закрыліна страхі (Дзярж.); *апуха.* Края шубы, обложенные чем-либо пушистым или цветным сукном (Насовіч).

**АПУ́ШЫНА** *ж.*, *-ы*; **АПУ́ШЫНЫ** *мн.* Дошка, якая ўтрымлівае салому на страсе, закрыліны страхі. *Апу́шыну атарва́ло, вêцер само́му зьнесе́.* Семежава.

*Апу́ха* (Дзярж.).

**АРАБІ́НА** *ж.*, *-ы*; **АРАБІ́НЫ** *мн.* Рабіна. Бялевічы. □ *Урадлі́ва арабі́на – о́сенью гразі́ па аглабі́на.* Семежава.

*Арабіна* (Шатэрнік), *рабі́на* (Дзярж.).

**АСАВЕ́ЦЬ** *толькі зак.* Стаць сонным, вялым ад стомленасці, замарыцца. *Два дні папако́шваў і асавêў.* Семежава. *Пад вêчар кôнь асавêў саўсі́м.* Бялевічы.

*Асаве́ць* (Дзярж.), *асалавець* (Шатэрнік, Каспяровіч), *осоветь* (Даль).

**АСА́ДА** *ж.*, *-ы*; **АСА́ДЫ** *мн.* Рама. *У барану́ харо́шые аса́ды ро́біш, я чую́. На сьвердзя́дло но́ву аса́ду зрабі́ў.* Семежава.

**АСІ́ПНУЦЬ** *зак.* Страціць голас. *Ко́ля Гры́шкаў асі́п.* Семежава.

*Сіпа́ць*; *асі́пці, асі́пнуць* (Дзярж.), *асіпці* (Шатэрнік), *осипать, осипеть, осипнуть* (Даль).

**АСНІ́К** *м. зб.*, *-у́.* Асіннік. *Асьніку́ дава́й нарэ́жам.* Семежава.

**АСНЯ́К** *м. зб.*, *-у́.* Тое ж. Семежава.

**АСО́ЎВАЦЦА** *незак.* Спаўзаць, ссоўвацца (пра зямлю). Танежыцы.

**АСУ́НУЦЦА** *зак.* 1. Спаўзці, ссунуцца (пра зямлю). *Асу́нуласа кана́ва.* Семежава. *Прагні́ў тын, асу́нуўсо кало́дзежь.* Танежыцы. 2. *перан. толькі зак.* Змяніцца ў твары, як бы пахудзець і пастарэць ад стомленасці ці недамагання. *Не́што асу́нуўса ты за ге́ты мêсец.* Танежыцы.

**АСЦА́** *ж. толькі адз.*, *-ы́.* Непрыемны, хваравіты стан пры ўзмоцненым выдзяленні сліны. *Асца́ падвернýла, сьлі́ну го́ніць.* Семежава.

*Асца.* Зуд подкожный на ладони или подошве ноги (Насовіч).

**АСЦЮ́К** *м. адз.*, *-а*; **АСЦЮКІ́** *мн.* Асцюк. *Асцюко́ў зь ечме́ню налêзло.* Семежава.

*Асьцю́к* (Дзярж.), *асьцюк* (Шатэрнік), *асцюк*, *асцень*, *асцюлька* (Насовіч).

**АСЫКА́ЦЦА** *незак.* Рэзка адказваць каму-н., агрызацца. *Хай ні асыка́еццa, калі́ ба́цько гаво́рыць.* Семежава.

*Асыка́цца* (Дзярж., Шатэрнік).

**АСЫКНУ́ЦЦА** *зак.* Рэзка адказаць каму-н., агрызнуцца. Семежава.

**АТАЛАПАНÊЦЬ** *толькі зак.* Здранцвець ад здзіўлення ці перапалоху. *Аталапанêў дый стаі́ць як ду́рань.* Семежава.

**АХАЛО́ДАЦЬ** *зак.* Астыць, зрабіцца халодным. *Карто́пля ужэ́ ахало́дала.* Семежава.

**АХАЛО́ДВАЦЬ** *незак.* Астываць, рабіцца халодным. *Паста́ў на дварэ́, хай ахало́двае.* Танежыцы.

**АХА́ЯЦЬ** *толькі зак.* Ачысціць, памыць. *Чуць ха́ту аха́яла: сто́лько гразі́ сабра́ласо.* Семежава.

*Аха́яць* (Дзярж.), *ахаяць* (Каспяровіч), *ахаяцца* (Шатэрнік).

**АЦЕ́СЛІВЫ** *прым.* Ацеслівы, недапечаны; цвёрды ад таго, што дрэнна *падышоў* (пра хлеб). *Сего́ньня у мене́ хлêп аце́сьлівы, ні вы́печаны.* Семежава.

*Аце́сьлівы* (Дзярж.), *ацесліві* (Каспяровіч).

**АЧО́ПА** *ж.*, *-ы*; **АЧО́ПЫ** *мн.* Верхняе бервяно ў сцяне будынка па ўсёй яе даўжыні. *До́бру ачо́пу нашо́ў.* Чапліцы.

*Ачэп* (Шатэрнік).

**АШУ́ШКАЦЦА** *толькі зак.* Адзець многа адзення, цяжка адзецца; зрабіцца ад гэтага непаваротлівым. *Ашу́шкаўса, што ні паве́рнецца.* Семежава.

*Ашу́шкацца* (Дзярж.), *ашушківацца* (Насовіч); *ашушкаць.* Абмануць. (Шатэрнік).

**АШЧЭ́**, **ШЧЭ** *прысл.* 1. Яшчэ. *Гуся́м дала́, а парася́ці, каро́ве шчэ ні да́вана.* Семежава. *Ашчэ́ ўчо́ра сказа́ў.* Жываглодавічы. 2. *часц.* Толькі. *Дай ашчэ́ аднаго́ блі́на.* Танежыцы.

## Б

**БА́БКА** *ж.*, *-і*; **БА́БКІ** *мн.* Від укладкі снапоў на полі; у *ба́пкі* складаюцца жытнія і пшанічныя снапы; колькасць снапоў у *ба́пцы* 10 ці 15, снапы ставяцца нахільна, *гузыра́мі* да зямлі і каласамі ўверх, зверху накрываюцца *ша́пкаю.* Семежава.

*Му́длік* (Дзярж.), *бабка* (Шатэрнік, Каспяровіч, Насовіч, Даль).

**БА́ВІЦЦА** *незак.* Затрымлівацца, праводзіць час. *Дзê ты так до́ўго ба́віўса.* Семежава.

*Ба́віцца* (Дзярж.), *бавіцца* (Шатэрнік, Каспяровіч, Насовіч), *бавиться* (Дабравольскі), *бавить* (Даль, паўдн., зах.).

**БА́ЙБУС** *м.*, *-а*; **БА́ЙБУСЫ** *мн.* Гультай, дарослы хлопец, які нічога не робіць. *Хо́дзіць без дзêла ге́ты ба́йбус.* Танежыцы.

*Байбус* (Шатэрнік, «Лексічны паказальнік» Насовіча), *байбас* (Каспяровіч), *байбак* (Даль).

**БАЛАЗÊ**, **БАЛАЗÊЙ** *прысл.* Добра што (слова выражае адабрэнне). *Балазê ты прышла́, кле́яць ха́ту памо́жаш.* Жыліхава. *Балазêй ты прышо́ў, я табê адда́м зра́зу.* Семежава.

*Балазе́, балазе́й* (Дзярж.), *балазе*, *балазей* (Шатэрнік), *балазе* (Каспяровіч, Насовіч), *болого* – усх., *болозе* – паўн., усх., *болозя* – сіб., *балазё* – зах. (Даль).

**БАЛЯ́СА** *ж. адз.*, *-ы*; **БАЛЯ́СЫ**. Точаныя слупкі, якія падтрымліваюць стрэшку ганка. *Баля́сы пагнілі́, трэ было́ п но́вые зрабі́ць, ды ча́су німа́.* Танежыцы.

*Балясины*, *балясы* (Даль); *балясы.* Изгородь, тын из кольев, столбиков (Каспяровіч).

**БАРЖДЖЭ́Й** *прысл.* Хутчэй. *Баржджэ́й ідзі́.* Семежава.

Ужываецца толькі ў прыведзенай форме, *бо́рзда* няма.

*Баржджэй устар.* (Дзярж.), *барджэй* (Шатэрнік, Каспяровіч), *баржджэй* (Насовіч, Каспяровіч).

Баржджэй, як можа, у хлеў пражэцца (Я. Колас. Новая зямля).

**БАРУ́ХАЦЦА** *толькі незак.* Няўстойліва стаяць на нагах, хістацца. *Бару́хаецца, на нага́х ні дзе́ржыцца, мо ён п'я́ны.* Семежава.

**БАСО́НАЖ** *прысл.* На босую нагу. *Ён басо́наш уссу́нуў бо́ты.* Танежыцы. *На басо́наш ні абува́йса, но́гі паме́рзнуць.* Чапліцы.

*Басано́ш* (Дзярж.), *басанож.* Не абуўшыся, басяком. (Шатэрнік, Каспяровіч, Насовіч).

**БЕРАЗА́К** *м. толькі адз.*, *-у́*. 1. Бярэзнік, бярозавы лясок. *У беразаку́ тôлько чырвонагало́вікі быва́юць.* Смалічы. 2. *зб.* Бярозавыя дровы. *Вôс беразаку́ не́хта забра́ў.* Макраны. *Нарэ́заў беразаку́.* Семежава.

**БЛЕВА́ЦЬ** *незак.* Ванітаваць, рваць. *Нудзі́ло так, што аш блева́ў.* Веска.

*Блеваць* (Даль, Дабравольскі).

**БЛЕХ** *м. толькі адз.*, *-у.* Хлорка. *Дзê ш ге́то блêху даста́ць. Блêхам мы ніткі бêлім.* Жываглодавічы.

*Блех.* Ровное место (Каспяровіч).

**БЛЕХАВА́ЦЬ** *толькі незак.* Бяліць ніткі *бле́хам. Німа́ чым ні́ткі блехава́ць.* Жываглодавічы.

**БЛЫХА́** *ж.*, *-і́*; **БЛО́ХІ** *мн.* Клоп. *У іх бло́хі па сьцêнах по́ўзаюць. Ско́чка то́лькі ска́чэ, ды мо ўку́сіць калі́, а блыха́ до́бра аб'е́сьць.* Танежыцы.

**БО́ТЫ** *мн.*, *-аў*; **БÔТ** *м. адз.* Боты. *Па́ўлік ні лю́біць бо́ты насі́ць.* Танежыцы. *Шэсь гôт хадзі́ла у шко́лу, а дурна́я, як бот. Вы́ступкі зрабі́ са стары́х бо́таў.* Семежава.

**БОЎТ** *м.*, *-а́*; **БАЎТЫ́** *мн.* Жардзінка з перакладзінкай на адным канцы, якой заганяюць рыбу пры лоўлі сеткай. *Бôўт вазьмі і ды ры́бу пагані́.* Семежава.

**БРАВЭ́РКА** *ж.*, *-і*; **БРАВЭ́РКІ** *мн.* Від мужчынскага адзення. *Бравэ́рка шы́ецца с сукна́ на кажу́се.* Выгода.

*Брава́рка* (Дзярж., Шатэрнік).

Я – на кані, ён мне – па карку. / Пасек мне спіну праз браварку (Я. Колас. Новая зямля).

**БРА́МА** *ж.*, *-ы*; **БРА́МЫ** *мн.* Вароты, зробленыя з дошак, без шчылін, часта з аздабленнем. *Бра́ма ру́біцца з до́шчак, беш шчы́лін.* Выгода.

*Бра́ма* (Дзярж., Шатэрнік, Каспяровіч, Насовіч).

За браму хлопцаў выпраўляюць (Я. Колас. Новая зямля).

**БРАЦЬ** *незак.* Рваць (лён). *Я сёнечы лён бра́ла.* Веска. *Пара́ лён браць.* Танежыцы.

**БРО́СНЯ** *ж. толькі адз., -і.* Плесня на вадкасці (на расоле, квасе). *Бро́сьня на гуркôх сабра́ласа.* Семежава.

*Бро́сьня* (Дзярж. ), *бросньь* (Насовіч, Даль).

**БРУС** *м., -а*; **БРУ́СЫ** *мн.* 1. Брусок (тачыльны). *Брус тапо́р ці ко́су тачы́ць.* Семежава. 2. Бервяно, плашчак. *І плашча́к так называ́юць.* Семежава.

**БУЗАВА́ЦЬ** *незак.* Мяць, пэцкаць (адзенне) альбо проста неакуратна насіць. *На што бузу́еш но́вы касьцю́м.* Танежыцы.

**БУЯ́ЦЬ** *незак.* Расці ад лішняга перагною не ў клубні, а ў зелень (пра бульбу). Семежава.

**БЭ́СЦІЦЬ** *незак.* Лаяць. Семежава.

## В

**ВАДЫ́Р** *м., -а́*; **ВАДЫРЫ́** *мн.* Вадзяны пухір ад апёку. *Апёк руку́, усхапі́ўса вады́р.* Семежава.

*Вадыр* (Дзярж., Шатэрнік).

**ВА́ЛЕН** *м., -а*; **ВА́ЛЕНЫ** *мн.* Вясельны вянок маладой. [З галавы ў маладой] *скіда́юць ва́лен і завіва́юць у ша́пку завіва́льніцы.* Семежава. *Пашла́ і ена́, тôлькі скі́нула ва́лен* (з казкі). Выгода.

*Вэлен* (Шатэрнік).

**ВАЛЬЕ́** *н. толькі адз., -я́.* Валлё. *У гусі́ валье́ велі́ка, нае́ласа до́бра.* Семежава.

*Валяк* (Дзярж., Шатэрнік).

**ВАРО́НКА** *ж., -і*; **ВАРО́НКІ** *мн.* Ход у склеп; аконца, праз якое спускаюцца ў склеп. *Накры́й до́бра варо́нку, кап маро́с ні зале́с у по́грап.* Выгода. *Праз варо́нку маро́с уле́с.* Макраны.

**ВАРО́ТА** *толькі мн., варо́т.* Вароты, зробленыя з гарызантальна размешчаных планачак, змацаваных на канцах *стаўпца́мі*; маюць дзве форткі. *Варо́та зачыні́.* Семежава. *Прывежы́ варо́та вазьмі́. Зрабі́ў но́выe варо́та.* Выгода.

**ВЕ́ГАЦЬ** *м., -я*; **ВЕ́ГЦІ** *мн.* Вехаць; пучок саломы, сухой травы ці мачалкі для мыцця посуду. *Вазьмі́ ве́гцем памы́й.* Семежава.

*Ве́хаць* (Дзярж., Шатэрнік).

**ВЕ́ЙКІ** *мн., -ек*; **ВЕ́ЙКА** *н.* Вейкі. *Ве́йкі велі́кі і чо́рны у ее́. На ве́йку ечме́нь сêў.* Семежава. *Ве́йко мае́ балі́ць.* Веска.

*Абяча́йка* (Дзярж.), *века* (Шатэрнік).

**ВЕ́КО** *н., -а*; **ВЕ́КІ** *мн.* Крышка дзяжы. *Прынесі́ ве́ко, накры́ем дзежэ́ і хай стаі́ць у хаце.* Семежава.

Ве́ка ( Дзярж., Каспяровіч, Дабравольскі).

**ВЕ́ЛЬМО** *прысл.* Вельмі. *Ні ве́льмо дале́ко.* Старына. *Шыба́юць ве́льмо дро́ва.* Танежыцы.

*Вельмі* ( Дзярж., Шатэрнік, Каспяровіч, Насовіч).

**ВЕ́НІК** *м., -а*; **ВЕ́НІКІ** *мн.* Памяло. *Ве́нікам сь пе́чы вымета́юць.* Выгода. *Ве́нік стары́, ні до́бра вымета́ць печ.* Семежава.

Такі венік робіцца з бярозавых галінак з лістамі, служыць для вымятання з печы попелу. Падлогу ім не мятуць. Для гэтай мэты ўжываецца *метла́*, якая, як і венік, робіцца з галінак бярозы, але без лістоў.

*Памяло* (Дзярж.), якое робіцца не з галінак бярозы, а з сасновых лапак. Слова *венік* там ужываецца ў такім жа значэнні, у якім у Чырвонаслабодскіх гаворках ужываюцца словы *мятла́, дзярка́ч.*

**ВЕРАІ́** *мн., -ёў*; **ВЕРАЯ́** *ж.* Слупы, на якія навешваюцца дзверы ў хаце ці гумне. *Саўсі́м верая́ згніла́.* Танежыцы.

*Верэя* (Каспяровіч, Дабравольскі).

**ВЕ́ХА** *ж., -і́*; **ВЕ́ХІ** *мн.* Жэрдка, кол з пучком сена ці саломы на адным канцы і ўбіты ў зямлю другім канцом, знак забароны для праезду. *Ве́ха стая́ла там, кап ні е́здзілі.* Семежава.

*Ві́тка* (Дзярж., Каспяровіч, Насовіч), *ве́шка* (Дзярж.).

Калашыны штаноў вісяць на іх, як на вешках (М. Лынькоў. На чырвоных лугах). І на відэльцы іх чаплялі, / Як бы на тычкі тыя вешкі (Я. Колас. Новая зямля).

**ВЕ́ШНІЦЫ** *толькі мн., -ніц.* Вароты з вертыкальна ці гарызантальна рэдка размешчаных планачак. *Ад у́ліцы больш варо́та ро́бяць, а ве́шніцы на двара́э́.* Выгода.

*Весьніцы* (Шатэрнік), *веснікі* (Каспяровіч).

(Жывёла) Барджджэй, як можа ў хлеў пражэцца – / І горш у весніцах таўчэцца (Я. Колас. Новая зямля). Чарада авец, прыпёртая ззаду ўзбуджаным натоўпам, збілася ў кучу перад весніцамі і не хацела скрануцца з места (К. Крапіва. Мядзведзічы).

**ВІДЗЕ́ЛКА** *ж., -і*; **ВІДЗЕ́ЛКІ** *мн.* Відэлец. *Беры́ відзе́лкамі, ні лêсь руко́ю.* Танежыцы.

**ВІРО́К**, *-а́*; **ЮРО́К** *м., -а́*; **ВІРКІ́**, **ЮРКІ́** *мн.* Прылада, пры дапамозе якой уюць ніткі на клубок. *А дзê ш наш віро́к? Цяпе́р віркі́ ні ро́бяць, у каго́ то́лько стары́ есь.* Семежава. *Юрко́м лепш віць, ні́тка ні скру́чваецца.* Выгода.

*Вірок* (Дзярж., Шатэрнік, Каспяровіч).

**ВІХЛА́** *ж., -ы́.* ◊ ЯК ВІХЛА́. Пра энергічнага чалавека, у якога хутка і спорна ідзе работа. *Такі́ бы́стры, уда́лы як віхла́. Ена́ як віхла́, ні усьпêеш нажа́ць, а ў ее́ два.* Семежава.

**ВІША́** *ж. толькі адз., -ы́.* Няскошаная, высахлая на корані трава, якая засталася на зіму. *Ма́ло снêгу, на́ват вішы́ ні закры́ў.* Танежыцы.

*Вішар.* Сена скошанае на лёдзе (Шатэрнік).

**ВО́ЖКІ** *толькі мн., -жак, -аў.* Лейцы. *Во́шкі вазьмі́ і заважа́й каню́. Прызапа́сіў дво́е вôшкі.* Семежава.

*Вожка.* Лейчына (Каспяровіч).

**ВО́ЛАС** *м., -а*; **ВАЛАСЫ́** *мн. вельмі рэдк.* Валасы. *Зьнімі́ во́лас.* Семежава. *У рот во́лас папа́ў.* Выгода.

Слова *валасы́* ўжываецца пераважна ў мове бывалых людзей, звычайна ў такім значэнні выкарыстоўваецца слова *ко́сы.*

**ВУДЗІ́ЛНА** *н., -а*; **ВУДЗІ́ЛНЫ** *мн.* Дзяржанне ў вудзе. *Вудзі́лно харо́ша у цебе́.* Семежава.

*Вудзі́дла* (Дзярж.).

**ВУСТА́ЎКА** *ж., -і*; **ВУСТА́ЎКІ** *мн.* Вышыўка на верхняй частцы рукава сарочкі. *Я у саро́чку ўшы́ла но́ву вуста́ўку.* Семежава.

**ВУША́ТАК** *м., -тка*; **ВУША́ТКІ** *мн.* Невялікі цабэрак з двума вушкамі. *У Слу́цку харо́шы вуша́так купі́ла.* Танежыцы.

**ВЫ́БЕРКІ** *толькі мн.*, *-аў.* Маніцы (плоскуні канапель). *Вы́беркі прыве́сьці трэ́бо.* Смалічы.

*Мані́цы* (Дзярж.).

**ВЫГО́РЫЧ** *м.*, *-а*; **ВЫГО́РЫЧЫ** *мн.* Вугор (рыба). *Выго́рыч патхадзя́ на ўюна́.* Семежава.

**ВЫЖЫМА́ЦЬ** *незак.* Мыць (бялізну). *Я сего́ня бу́ду выжыма́ць пла́ця. Зімо́ю ў ха́це выжыма́ем пла́цья.* Бучаціна.

**ВЫКЛАДА́НЬЕ** *н. толькі адз.*, *-я.* Спосаб ткання посцілак, калі кожны ўзор выкладаецца. *Выклада́нем ця́шко ткаць, гêто тôлькі хто ўмêе.* Веска.

Пры тканні гэтым спосабам ніткі намотваюцца не на *цэ́лкі*, а ўюцца ў *матру́шкі* – невялікія маточкі. Пры тканні посцілак са шматкаляровым узорам выкарыстоўваецца столькі *матру́шак*, сколькі ёсць колераў. Нітка таго ці іншага колеру праходзіць не праз усю шырыню тканіны, а толькі на пэўным участку, дзе патрабуе ўзор, таму з адваротнага боку тканіны такія ж узоры, як на вонкавым баку, толькі яны маюць колер *асновы*.

**ВЫ́САДКІ** *толькі мн.*, *-дак.* Насенне, экзэмпляр якой-н. агароднай расліны. *Пакі́нь на вы́саткі буракôў і бру́шкі. Пара́ ўжо вы́саткі зьбіра́ць.* Семежава.

*Высадкі* (Дзярж., Шатэрнік).

**ВЫ́СЕКАЦЬ**, **ВЫ́СНЕКАЦЬ** *толькі зак.* Высмаркаць. *Вы́секай нôс тро́хо.* Танежыцы. *Така́я дзêўчына, а вы́снекаць но́са ні ўмêе.* Смалічы.

**ВЫ́СТУПКІ** *мн.*, *-аў*; **ВЫ́СТУПАК** *адз.* Апоркі; старыя боты ці валёнкі з адрэзанымі халявамі. *Вы́ступкі зрабі́ са старых бо́таў.* Семежава.

**ВЫЦІНА́ЦЬ** *толькі незак.* Пець не словамі, а мелодыяй. *Так выціна́е, аш на ву́ліцы чува́ць.* Семежава.

**ВЫ́ШКІ** *толькі мн.*; *-шак.* Месца над столлю (паміж столлю і страхою ў хаце і ў хляве). *Сêно злажы́лі на вы́шках у хляве́. Палêсь на вы́шкі* [у хаце] *зьнімі́ са́ла.* Семежава.

*Гара.* Месца над столлю (паміж столлю і страхою ў хаце), *вы́шкі.* Тое ж. (Дзярж.).

## Г

**ГАВЯ́ДА** *толькі* ў Н. *мн.* Жывёла, скаціна. *Гаўя́да пашлі́ дамо́ў. Гаўя́да і та́вар усякс е гаво́раць.* Бучаціна.

*Гавяда* (Шатэрнік).

**ГАЛАМО́ЗЫ** *прым.* Стары, невысокі (?). *У его́ не́йка ха́та галамо́за.* Семежава.

**ГАНІ́ЦЬ** *незак.* Ганяць. *Людзе́й гані́лі ў падво́ды.* Смалічы.

**ГАНКІ́** *мн.*, *-ôў*; **ГО́НЧЫК** *адз.* Гоні; няпэўная мера даўжыні прыкладна ў 150–200 метраў. *Ганкі́ прабêх і стаў. Я прайшла́ го́нчык, ні бôльш.* Семежава.

**ГАНЯ́ЦЬ** *незак.* Акучваць, ганяць (пра бульбу). *Со́шкаю карто́плю ганя́юць, граду́сікі ро́бяць.* Смалічы.

Абсыпаюць радкі бульбы пры дапамозе спецыяльнага плужка – *со́шкі.*

*Абганя́ць* (Дзярж.).

**ГАРШЧЫ́СКО** *м.*, *-а*, *павеліч.* Гаршчок. *Гаршчы́ско до́бры.* Макраны.

**ГНЕ́ВАЦЦА** *незак.* Злавацца, крыўдавацца. *Ты ўжо на мене́ не гне́вайса, як-не́будь зро́бім.* Семежава.

Сінонімы *сердава́ць, злава́цца.*

**ГНЮСІ́ЦЬ** *незак.* Пэцкаць. *Ні хо́чам гнюсі́ць ле́йкі.* Семежава.

*Гнюсіць* (Шатэрнік).

**ГО́НЫ** *мн.*, *-аў.* Гоні; няпэўная мера даўжыні прыкладна ў 150–200 метраў. *Карто́плі пасêялі адны́ го́ны.* Семежава.

*Гоні* (Дзярж., Шатэрнік).

**ГО́ПА** *ж. толькі адз.*, *-ы.* Бабка, дранка, каша з дранай бульбы. *А го́пу êсьцімеш.* Веска. *Го́па – гэ́то тарко́вана ка́ша.* Жыліхава. *Тарко́ванка ў нас, а ў Се́межаве – го́па.* Бучаціна.

*Дранка, бапка* (Дзярж.).

**ГО́РЫН** *м. толькі адз.*, *-у.* Ніткі для вышывання. *Го́рын – ге́то чырво́ные фабры́чные ніткі.* Семежава.

**ГРАДУ́СА** *ж.*, *-ы*; **ГРАДУ́СЫ** *мн.* Бульбяная градка, баразна. *У граду́се карто́плі расту́ць. Паміж граду́самі разо́ры. Ні везді́ каня́ на граду́се, а па разо́ры.* Семежава. ГРАДУ́СІК *памянш. Сôшкаю карто́плю гоня́юць, граду́сікі ро́бяць.* Смалічы.

**ГРУ́БКА** *ж.*, *-і*; **ГРУ́БКІ** *мн.* Печка для абагравання. *У гру́пку дроў прынесі́. Ідзêце грэ́йцеса пат гру́пку.* Жываглодавічы.

*Грубка* (Шатэрнік).

**ГРУЗІ́ЦЬ** *незак.* 1. Грузіць. Семежава. 2. Хадзіць па глыбокім снезе.

**ГРЫБ** *м.* ○ ПРАЎДЗІ́ВЫ ГРЫП. Баравік. *Баравікі́ мы завôм прудзі́вымі грыба́мі.* Смалічы.

**ГУ́БКА** *ж.*, *-і*; **ГУ́БКІ** *мн.* Няпэўная даўжыня асновы, роўная даўжыні ўнутранай часткі сцяны хаты. *Ку́жалю, зрэ́б'я тка́лі на гу́бак шэсь. Са́ма бо́льша но́рма шасна́ццаць гу́бак, бо больш ні́так ні уле́зе на наво́й.* Веска.

*Губка* (Дзярж., Шатэрнік).

**ГУЖБА́** *ж. толькі адз.*, *-ы́.* Хамуты з дубцоў, якімі звязваюць бярвенне ў *кле́йны* (плыты). *Гужба́ у два дупцы́ ро́біцца – зьвя́зваюць дзе́раво у кле́йны.* Смалічы.

**ГУЗЫ́Р** *м.*, *-а́*; **ГУЗЫРЫ́** *мн.* Ніжняя частка снапа. *Паста́ў на гузы́р снапы́.* Танежыцы. *Гузыры́ яшчэ́ сыры́е, травы́ мнôго.* Бялевічы.

**ГУМНО́** *н.*, *-а́*; **ГУ́МНА** *мн.* Ток, будынак, дзе складаюць снапы. *По́ўно гумно́ вады́ нацекло́. У гумно́ везêце і з во́зам паста́ўце.* Бучаціна.

**ГУ́НЬКА** *ж.*, *-і*; **ГУ́НЬКІ** *мн.* Посцілка. *Вазьмі́ гу́ньку, пайдзі́ травы́ прынесі́. Закры́й ло́жак гу́нькаю.* Танежыцы.

У такім жа значэнні ў «Засценку» ў Танежыцы ўжываецца і слова *по́сьцілка*, у іншых вёсках толькі *по́сьцілка.*

*Гу́нька* (Шатэрнік).

**ГУ́РЫ** *мн.*, *-аў*; **ГУ́РА** *адз.* Гурбы снегу. *Ні пераêхала машы́на, гу́ры ро́ўна с ха́таю.* Макраны.

*Гура* (Дзярж., Шатэрнік), *гурба* (Дзярж., Шатэрнік).

**ГЭ́ТТА** *прысл.* Тут. *Гэ́тта атагрêю́ стары́е кôсткі.* Жываглодавічы. *Гэ́тта лêс быў.* Веска. *Палажы́ гэ́тта.* Смалічы.

## Д

**ДА́ЛЕ** *прысл.* Пасля, пасля гэтага. *Плетôм, да́ле уно́сім наво́й і навіва́ем.* Веска. *Седзêла так, а да́ле дава́й цехці́ вато́ўку на пле́чы.* Старына.

**ДАЎНЕ́Й** *прысл.* Слова абагульненага абазначэння прошлага часу; не толькі ў значэнні ‘калісьці’, ‘даўно’, ‘у мінулым’, ‘у старыя часы’ і інш., але і ў значэнні ‘нядаўна’, ‘дзень ці колькі дзён назад’. *Я ш даўнếй* [тут – ‘два дні назад’] *на цу́кар ёй гро́шай дала́. Даўнếй* [тут – ‘сёння, незадоўга перад размовай’] *прыхо́дзіць, дай ёй на штаны́ гро́шы.* Старына.

**ДЗЮ́БЕЛЬ** *м., -я*; **ДЗЮ́БЛІ** *мн.* Дзюба. *Дзю́блем варо́на вы́цегае сало́му ура́с, зро́біць стрэ́ху, што страх гледзêць. Дзю́блемі дзеўбу́ць.* Семежава.

**ДЗЯРКА́Ч** *м., -а*; **ДЗЕРКАЧЫ́** *мн.* Дзяркач, галень; робіцца з бярозавых галінак без лістоў, служыць для падмятання падлогі. *Ча́му у цебе́ дзерка́ч вêчно пад нага́мі валя́ецца.* Семежава. *Метла́ і дзерка́ч – ге́то адно́.* Бучаціна.

*Дзяркач.* Стары венік, які ў выніку доўгага ўжывання страціў не толькі лісце, але і драбнейшае веццe (Дзярж.).

**ДЗЯРУ́ЖКА** *ж., -і*; **ДЗЯРУ́ЖКІ** *мн.* *Расьцелю́ дзеру́шку, насы́плю гаро́шку, палажу́ акра́йчык хле́ба* (загадка). Смалічы.

**ДЗЯЎЗНО́** *ж.* Рослая, здаровая дзяўчына. *Гэ́така дзеўзно́, а на рабо́ту ні хо́дзіць.* Бучаціна.

**ДО́ХЛАЕ** *н. толькі ў* Р. Нечысць, пошасць. *Німа́ на цібê до́хлае.* Семежава.

**ДЖА́ЛА** *н., -а*; **ДЖА́ЛЫ** *мн.* Джала. *Пчала́ джа́ла дала́. Вым джа́ло.* Смалічы.

**ДО́ЛЕ**, **ДО́ЛІ** *прысл.* На зямлі. *Мы сра́зу і спа́лі до́ле.* Смалічы. *А ты беры́ да мый до́лі.* Макраны.

*Доле* (Дзярж.), *доля* (Шатэрнік).

**ДРАБІ́НЫ** *толькі мн., -і́н.* 1. Лесніца. *Драбі́ны паста́ў, так ні ўзьлêзеш.* Танежыцы. 2. Частка павозкі. *Драбіны скінь, пае́дзеш у лес – пало́міш.* Танежыцы. 3. Павозка з *драбінамі. Патрэ́бувалі драбін на жалêзнум хаду́.* Семежава.

**ДРУ́ЖКА** *ж., -і*; **ДРУ́ЖКІ** *мн.* Удзельніца вяселля з боку маладой, шаферка маладой. *У субо́ту перад весêльем сабіра́юцца дру́шкі маладо́е – ге́то ее́ радня́ і падру́гі. За ёю* [маладою] *увахо́дзяць усê дру́шкі і садзя́цца напро́ціў маладо́го. Мала́ды с сваéю радне́ю займа́юць мêсца за стало́м паўс сьцêну, а малада́я з дру́шкамі напро́ціў. Дру́шкі прычэ́пваюць ба́нты, а за ўто ім дае́ць гро́шы. А по́тым ужэ́ выкупля́е дру́шку у дру́жак маладу́ю. Дру́жка во́зьме гро́шы ад маладо́го і пало́жыць на тарэ́лку і накры́е іх, а по́тым атдае́ ста́ршай дру́сцы. Перад ат’êздам к маладо́му дру́шкам дае́ць гарэ́лку, і ены́ іду́ць гуля́ць, дру́шкі – дзеўча́та – больш не каса́юцца да весêлья.* Семежава.

**ДРУЖКО́** *м., -а́*; **ДРУЖКІ́** *мн.* Галоўны сват з боку маладога. *Друшко́ – хто-ніб́уць із радні́, ге́то ён кама́ндуя весêльем. Друшко́ прыво́дзіць маладу́ю, а за ёю уваходзяць усê дру́шкі. А по́тым ужэ́ выкуплю́е друшко́ у дру́жак маладу́ю. Друшко́ во́зьме гро́шы ад маладо́го і пало́жыць на тарэ́лку і накры́е іх, а по́тым атдае́ ста́ршай дру́сцы. Дру́шко êдзе па пасьце́ль к маладо́й. На на́шум дружку́ кашу́ля да сто зло́тых кашту́е* (з песні). *Як у на́шаго сва́та да тры дру́шкі, / А ніво́днаго лю́цкаго, / У аднаго́ дру́шка́ лыса галава́, / А ў друго́го – сі́ва барада́, / А ў трэ́цего – крыва́я нага́. / То на лы́сай галавê боп малаці́ць, / Ніку́ды зе́рне ні палеці́ць – / Ні у бок, ні у сто́рану, / Да усê дру́шку́ у бораду* (з песні). *Ге́то мы прыпева́ем друшкôм. Возьмі́, друшко́, гро́шы, / Ды купі́ жо́нцэ со́лі, / Сьвірэ́піцу пасалі́ці, / Сва́е дзе́ці пакармі́ці* (з песні). Семежава.

*Дружко́* (Шатэрнік, Насовіч).

**ДРЫВО́ТНЯ** *ж., -і*; **ДРЫВО́ТНІ** *мн.* Дрывотня; месца, дзе рэжуць, колюць і складаюць дровы. *Пайдзі́ на дрыво́тню трасо́к прынесі́.* Бучаціна.

*Дрыво́тня* (Дзярж.).

І трэскі кучамі ляжалі па ўсім дварэ і на дрывотні. (Я. Колас. Новая зямля).

**ДРЫГВА́** *ж. толькі адз., -ы́.* 1. Квашаніна, халоднае (пра страву). *У нас уся́кся ка́жуць: і квашані́на, і студзяні́на, і дрыгва́, часьце́й дрыгва́.* Танежыцы. 2. Балота. *Каля Карэ́ва земля́ дрыжы́ць, як дрыгва́.* Танежыцы.

*Дры́гва.* Балота; *засту́дзіны.* Халоднае, студзень (пра страву) (Дзярж.).

**ДУ́ДКА** *ж., -і*; **ДУ́ДКІ** *мн.* Касцяністая аснова птушынага пяра. *Абдзеру́ць перо́ – застае́цца ду́тка. Што ты пад но́гі ду́ткі вы́сыпала.* Семежава.

*Кашчары* (Дзярж.).

## Е

**Е́СЦЕКА**, **ЕСЬ** *незак.* Ёсць. *А сêно е́сцека, есь ашчэ́. Е́сьцека рабо́та табê до́брая сёня.* Жываглодавічы.

## Ж

**ЖАЛЯ́СКО** *н., -а.* Капкан. *Кôт у не́йчае жаля́ско папа́ў.* Семежава.

**ЖМАЦЬ** *незак.* Мыць (бялізну). *Ты пагуля́й с Ыва́нкам, а я бу́ду жмаць белье́.* Веска.

**ЖУКО́ВІНА** *ж., -ы*; **ЖУКО́ВІНЫ** *мн.* Пярсцёнак. *Жуко́віна – ге́то кальцо, персцёнак.* Танежыцы. *Не́катарые і ціпе́р жуко́віны но́сяць.* Семежава. *Як венча́юцца, мяня́юцца жуко́вінамі.* Веска.

Жуковіна (Шатэрнік).

**ЖУ́ПІЦЬ** *толькі незак.* Гаварыць, размаўляць. *Што ён жу́піў с табо́ю*? Танежыцы. *А ена́ жу́піць*: *Міро́нко, вазьмі́ ва́ленкі.* Веска. *Што вы жу́пілі. Жу́плю, нам веселêй бу́дзе.* Старына. *С прадсяда́целем жу́піла. Іва́н атхо́дзіць у Вызну на рабо́ту, так е́на жу́піла, жу́піла зь ім.* Жываглодавічы.

□ *Што каму́ ру́піць, той то́е і жу́піць.* Семежава.

*Жу́піць* ужываецца ў мове прадстаўнікоў традыцыйнай гаворкі.

**ЖУПЛІ́ВЫ** *прым.* Разгаворлівы, гаваркі. *Жуплі́ва жо́нка ў его́.* Семежава.

**ЖЫВЕ́Ц** *м., -а́*; **ЖЫЎЦЫ́** *мн.* Нітка на верхняй і ніжняй частцы ніта, на якой замацоўваюць *кабы́лкі.* Жываглодавічы, Веска.

**ЖЫ́ЖКА** *ж. толькі адз., -і.* Бульбяны суп. *Налі́ жы́шкі, зьем тро́хо.* Жываглодавічы.

Бульён. Бульбяны суп, *жышка.* Жыдкая частка стравы. *Жы́шку зьеў, а гу́шчу пакінуў* (Дзярж.).

## З

**ЗАБА́ВІЦЦА** *зак.* Затрымацца, правесці час. Семежава.

**ЗАВАЖА́ЦЬ** *толькі зак.* Надзець лейцы, заляйцаць. *Во́шкі вазьмі́ і заважа́й каня́.* Семежава.

*Заляйца́ць* (Дзярж.).

**ЗА́ВАРАЦЕНЬ** *м., -тня.*; **ЗА́ВАРАТНІ** *мн.* Вяроўка, прывязаная да ніжняй часткі капыла саней для замацавання аглабель. *Ло́пнуў за́варацень.* Танежыцы. *Слабы́ за́варацень, кап ні парва́ўса у даро́зе.* Веска.

*За́верацень, заверцень* (Шатэрнік), *за́варатня* (Дзярж.).

**ЗАВЕ́РЫЧ** *м., -а*; **ЗАВЕ́РЫЧЫ** *мн.* Палка даўжынёй каля двух метраў, адзін канец якой усаджаны ў вуха (адтуліну) навоя, а другі ляжыць на падлозе, не даючы навою круціцца. *Усё вы́несьлі, адзі́н заве́рыч аста́ўса.* Веска.

*Завірыч* (Шатэрнік). Инструмент для натягивания обручей.

**ЗАВІВА́ЛЬНІЦА** *ж., -ы*; **ЗАВІВА́ЛЬНІЦЫ** *мн.* Завівальніца; удзельніца вясельнага абраду *завіва́ць у ша́пку. Малады́е жанкі́ – сваячкі і сусе́ткі маладо́е – называ́юцца завіва́льніцы.* [З галавы маладой] *скіда́юць ва́лен і завіва́юць у ша́пку завіва́льніцы. Ся́дуць завіва́льніцы наабапал маладо́е за стало́м і накры́юцца ху́сткамі* [а малады павінен пазнаць маладую]. *Як пазна́е* [малады маладую], *садзя́цца за стôл і часту́юць завіва́льніц.* Семежава.

*Завівальніца* (Шатэрнік).

**ЗАВІВА́ЦЬ** *незак.* ◊ ЗАВІВА́ЦЬ У ША́ПКУ. Вясельны абрад, калі ў маладой з галавы знімаюць вянок і адзяваюць шапку, якую яна з гэтага часу павінна насіць. [З галавы маладой] *скіда́юць ва́лен і завіва́юць у ша́пку завіва́льніцы.* Семежава.

**ЗАВІШАВА́ЦЬ** *зак.* Зазімаваць на корані на балоце (аб траве, якая засталася на зіму не скошанай). *Завішава́ло ў тôм го́дзе мнôго травы́.* Веска.

**ЗАВІШЭ́ЦЬ** *зак.* Тое ж. *На бало́це уся́ трава́ заві́шэла.* Веска.

**ЗАКА́ЛЕЦ** *м. толькі адз., -у.* 1. Цвёрды, недапечаны слой у ніжняй частцы булкі хлеба. *Ні ўда́ўса хлêп не́шта – зака́лец есь.* Жываглодавічы. *Зака́лец на па́лец.* Жываглодавічы. 2. *перан.* Астатак крыўды на каго-н. *А ў его́ зака́лец на брыгадзі́ра й ціпе́р есь.* Старына.

*Зака́лец* (Дзярж., у абодвух значэннях).

**ЗАЛА́ПІЦЬ** *незак.* Залапіць, залатаць. *Зала́піць рука́ў трэ́бо.* Веска.

**ЗА́ПЕЧАК** *м., -чка*; **ЗА́ПЕЧКІ** *мн.* Адзін з чатырох кутоў хаты – кут над печчу. *Кут над пе́ч'ю – за́печак.* Танежыцы.

*За́пячак.* Прамежак паміж печчу і ложкам (Дзярж.), *запечак.* Часть полатей около печи (Шатэрнік).

**ЗАПУСКА́ЦЦА** *незак.* Пераставаць даіцца перад цяленнем (пра карову). Старына.

**ЗАПУСЦІ́ЦЦА** *зак.* Перастаць даіцца перад цяленнем (пра карову). *Ні до́іцца на́ша каро́ва, запусьці́ласа, ена́ це́лна.* Старына.

*Запусціцца* (Дзярж., Шатэрнік).

**ЗАПЫНІ́ЦЬ** *зак.* Спыніць. *Запыні́лі ко́ні, і ён зьлêс.* Семежава.

**ЗАПЫНЯ́ЦЬ** *незак.* Спыняць. Семежава.

**ЗАПЯ́ТАК** *м., -тка*; **ЗАПЯ́ТКІ** *мн.* Пята нагі. *Запʼя́так гаво́рэць, пета́ – рэ́тко.* Семежава.

*Пята* (Дзярж.).

**ЗА́САП** *прысл.* Запар, разам. *За́сап тры мêсецы гуля́й.* Семежава.

**ЗАСЛО́Н** *м., -а*; **ЗАСЛО́НЫ** *мн.* Сярэдняй даўжыні лаўка ў хаце. *Паста́віла на заслôн. Заслôн вы́тры і дай сêсьць.* Макраны.

*Засло́н, зусло́н, зысло́н* (Шатэрнік), *зэдаль* (Дзярж.).

**ЗА́СТАВАЦЬ** *толькі незак.* Засціць, засланяць святло. *Ні за́стуй, ба́чыш вежу́.* Семежава.

*За́ставаць* (Дзярж.), *заставаць* (Шатэрнік).

**ЗАЦЕ́КАЦЦА** *незак.* Захлёбвацца ад смеху ці плачу. *Ні злакі́чы, ба́чыш дзіця́ заце́каецца ат сьме́ху.* Танежыцы.

**ЗБУЗАВА́ЦЬ** *зак.* Змяць, запэцкаць (адзенне) альбо проста неакуратна насіць, адзяваць на работу. *Збузава́ў чы́сту адзе́жу.* Семежава.

*Збузава́ць* (Дзярж., Шатэрнік).

**ЗБУЯ́ЦЬ** *зак.* Вырасці ад лішняга перагною не ў клубні, а ў зелень (пра бульбу). *Збуя́ла карто́пля.* Семежава.

*Збуя́ць* (Дзярж.); *збуяць.* Зарости зеленью (о картофеле, конопле) (Шатэрнік).

**ЗБЭ́СЦІЦЬ** *зак.* Злаяць. *Збэ́сьціў, зла́яў ні за што чалавêка.* Семежава.

**ЗВАЦЬ** *незак.* 1. Клікаць. *Пазаві́ ба́цьку, хай абêдаць ідзе́.* Танежыцы. *Ні́як ні дазаве́сса вас.* Бялевічы. *Іва́нко, цябе́ ма́ма заве́.* Веска. 2. Запрашаць. *Заве́ць у Мінск ра́зом êхаць.* Выгода. 3. Называць. *А як его́ зваць?* Семежава. *Заву́ць гэ́ты дуп Дзем'я́наў дуп.* Малы Рожан.

*Зваць* (Дзярж., у тых жа значэннях).

**ЗВО́ДЫ** *толькі мн., -аў.* Плёткі. *Зво́даў нарабі́ла.* Семежава.

*Зво́ды* (Дзярж.).

**ЗЕЛЯНЦО́ВЕНЬКІ** *прым.* Зеленаваты. *Зеленцо́венькі чай.* Макраны.

**ЗЕ́ЛЬЕ** *н. толькі адз., -я.* Пустазелле. *Зе́лье уве́сь агаро́т заглушы́ло.* Семежава. [Лён] *і́ншы гôт парасьце́, а і́ншы гôт зе́лье во́зьмецца на ём.* Старына.

*Зелье.* Трава. *Трава́ заêла гра́ды, трэ́ба пало́ць* (Дабрынёва Дзярж.).

**ЗІ́МНІК** *м., -а.* Рукаў ракі. *У зі́мніку ры́бы мно̂го быва́е.* Малы Рожан.

**ЗЛАВА́ЦЦА** *незак.* Злавацца. *Чаго́ табе̂ злава́цца.* Семежава.

*Злаваць* (Дзярж.), *злавацца, злаваць* (Шатэрнік).

**ЗЛАКІТА́ЦЬ** *незак.* Казытаць. *Ні злакі́чы́, ба́чыш дзіця́ аш заце́каецца ат сьме̂ху.* Семежава.

*Шчаката́ць* (Дзярж.).

**ЗНАКАМЕ́ТНЫ** *прым.* Прыкметны, які вылучаецца, адрозніваецца ад іншых. *Мо̂й знакаме̂тны мешо́к.* Жываглодавічы.

**ЗЫ́РКІ** *прым.* 1. Гарачы. *Зы́ркі чай, хай асты́не тро́хо. Зы́рка пе̂ч сёньня.* Семежава. *Зы́рка пе̂ч, так і чай зы́ркі.* Семежава. 2. Увішны, спрытны. *Неве̂стка на рабо́ту зы́рка.* Семежава.

## І

**ІГРУ́ШКА** *ж., -і;* **ІГРУ́ШКІ** *мн.* Вазон, хатняя кветка аганёк. *Игру́шка ўвесь го̂т цьвіце́.* Веска.

*Аганёк* (Дзярж.).

**ІМША́РЫНА** *ж., -ы;* **ІМША́РЫНЫ** *мн.* Балота. *Імша́рына – ге́то бало́то, як ідзе́ш, угіна́ецца і прова́льваецца.* Семежава.

*Імшарына* (Шатэрнік).

## К

**КАБЫ́ЛКА** *ж., -і;* **КАБЫ́ЛКІ** *мн.* Звяно ніта; мае форму лічбы 8 (восем). *Лічы́ на п'яць кабы́лак.* Жываглодавічы. *Кабы́лка парва́ласа.* Веска.

*Кабы́лка* (Дзярж., Шатэрнік).

**КАГАДЗЕ́, КАДЗЕ́** *прысл.* Нядаўна, толькі што. *Кадзе́ прышо́ў і зно́ў по́йдзе.* Семежава. *Дай пакуры́ць – сам ото́ кадзе́ ўзяў.* Макраны. *Кадзе́ за́муш пашла́. Кадзе́ с капера́цыі прышо́ў.* Жываглодавічы.

**КАЗЛЫТА́ЦЬ** *незак.* Казытаць. Семежава, Старына.

**КАЛАЎРО́ТАК** *м., -тка;* **КАЛАЎРО́ТКІ** *мн.* Калаўрот. *Калаўро́так прынесі, хачу́ папра́сьці тро́хо.* Семежава.

*Калаўро́т, караўлот* (Дзярж.), *калаўро́т, калаўро́тка* (Шатэрнік).

**КАЛАТУ́ША** *ж. толькі адз., -ы.* Зацірка; від стравы. *Табе̂ малака́ даць ці забелі́ць калату́шы.* Жыліхава.

**КАЛІ́ТКА** *ж., -і;* **КАЛІ́ТКІ** *мн.* Кашалёк. *Калі́тка як бума́жнік. С калі́ткі цэ́тлік не́йкі упа́ў.* Семежава.

**КАЛО́ДЗЕЗЬ** *м., -я;* **КАЛО́ДЗЕЗІ** *мн.* Студня, калодзеж. *У нас вада́ дале́ко, кало́дзезь бу́дзем капа́ць.* Танежыцы.

*Кало́дзіж, сту́дня* (Шатэрнік), *студня* (Дзярж.).

**КАЛЫБЕ́ЛЬ, КАЛУБЕ́ЛЬ** *ж., -і;* **КАЛЫБЕ́ЛІ** *мн.* Калыска. *Пакача́е калубе́ль тро́хо.* Макраны. *У калубе́ль палажы́ць трэ́бо да пакача́ць.* Смалічы. *Зьня́лі ужэ́ калыбе́ль.* Танежыцы.

*Калыбе́ль, калы́ска* (Шатэрнік), *калыска* (Дзярж.).

**КАЛЫВА́ЦЦА** *незак.* 1. Вагацца. *Чаму́ ге́то ля́мпа калыва́ецца.* Жываглодавічы. 2. Хістацца. *Калыва́ецца як п'я́ны.* Бялевічы.

**КАМЯКІ́** *мн., -о́ў.* 1. Каша з макам. *Е́то на Мі́колу таўку́ць камекі́ – е́то ка́ша з ма́кам.* Бучаціна. 2. Тоўчаная бульба. *Камекі́ – ге́то ка́ша с карто́пель, то́ўчаная.* Веска.

**КАПЕЛЮШЫ́** *мн., -о́ў.* Лісты гарбузоў. Танежыцы.

**КАПЛАВУ́ХІ** *прым.* Віславухі, лапавухі. *Каплаву́хі епру́к.* Семежава.

*Лапаву́хі* (Дзярж.).

**КАРА́ЛІ** *толькі мн., -яў.* Пацеркі. *У Се́межаве кара́лі чуць ні усе̂ жанкі́ но́сяць.* Семежава.

*Каралі* (Шатэрнік).

**КАРА́СЬ** *м., -я́;* **КАРАСІ́** *мн.* Металічная пласцінка, прымацаваная з бакоў восі, каб вось не сціралася ў час язды. *Трэ́бо карасі́ прыбі́ць.* Танежыцы.

*Кара́сь* (Дзярж.).

**КАШУ́ЛЯ** *ж., -і;* **КАШУ́ЛІ** *мн.* Ніжняя рубашка. *Як ты кашу́лю памы́ла, й зна́ку німа́.* Танежыцы.

Кашуля ўжываецца толькі ў «Засценку» ў Танежыцы, у іншых вёсках – *саро́чка.*

**КАШЭ́ЛЬ** *м., -я́;* **КАШАЛІ́** *мн.* Сяўня. *Пашо́ў с кашале́м, ма́быць, се̂ець бу́дзе. Кашэ́ль ско́ро ні трэ бу́дзе, се̂елкамі се̂ецьмем.* Жываглодавічы.

*Сяўня́, каро́пка* (Дзярж.), *сяўня́, сява́лка, каро́бка* (Шатэрнік).

**КВАШАНІ́НА** *ж. толькі адз., -ы.* Квашаніна, халоднае (пра страву). *А квашані́ну ні вары́ла.* Танежыцы.

Сінонімы *студзеніна, застудзіны толькі мн.* (Дзярж.).

**КЕ́ПКАВАЦЬ** *незак.* Падсмейвацца з каго-н., строіць кепікі. *Ён ке́пкуе сь цебе́, а ты сьмее́сса.* Семежава.

*Ке́піць, наке́пляваць* (Дзярж.).

**КІ́ПЕНЬ** *м., -ю.* Вар, кіпяток. *Гледзі́ кі́пень абе́рнеш.* Семежава. *Як кі́пень.* Смалічы.

*Вар* (Дзярж.).

**КІ́ПЦІ** *мн., -яў;* **КІ́ПАЦЬ** *адз.* Ногці. *Абрэ́ш кі́пці на рука́х і на нага́х.* Веска. [Немцы старога] *му́чылі, па́льцы параздушвалі, кі́пці пазрыва́лі.* Старына.

Слова *ногці* амаль не ўжываецца.

Толькі *нохці* (Дзярж.), *кі́паць.* Большой ноготь, ноготь (Шатэрнік).

**КЛЕ́ЙНА** *ж., -ы;* **КЛЕ́ЙНЫ** *мн.* Плыт на даўжыню бервяна, адно звяно па́сы. *Кле́йна – гэ́то адзі́н плыт. Кле́йны зьвя́зваюцца ў па́сы.* Смалічы.

**КЛУБО́К** *м., -бка́;* **КЛУБКІ́** *мн.* 1. Шаравідны прадмет, утвораны навіваннем нітак. *Паледзі́ клубо́чак не́дзе закаці́ўса.* Танежыцы. 2. Прылада разам з навітымі на яе ніткамі, складаецца з чатырох планачак, змацаваных на канцах перакладзінамі. *Паста́ў клубо́к на ла́ву, ле̂пш на сно̂ўніцу бу́дзе мата́ць.* Старына.

**КО́ВАРАТ** *м., -а;* **КО́ВАРАТА** *мн.* Бервяно-рычаг у жураўлі студні. *До́ўгі ко́варат трэ́бо, вада́ глыбо́ко.* Семежава. *Атыдзі́, ато́ ашчэ́ ко́варатам вытне.* Смалічы.

*Вага́* (Дзярж., Шатэрнік).

**КО́ЛІСЬ** *прысл.* Калісьці. *Азеро́д быў ко́лісь.* Семежава.

*Не́калі* (Дзярж.), *некалі, некаліся* (Шатэрнік).

**КО́ПУСТКА** *ж., -і*; **КО́ПУСТКІ** *мн.* Лапатачка для размешвання цеста. *Ко́пустка меша́ць хлêп, калі́ рашчыня́юць, бо замêс ужо́ памеша́еш.* Семежава.

**КО́СЫ** *толькі мн., кôс, -аў.* 1. Валасы. *Ко́сы асмалі́ў, як ла́зіў у печ па ву́галь, кап прыкуры́ць.* Семежава. 2. Від жаночай прычоскі (усюды).

*Валасы* (Дзярж.).

**КОШ** *м., -а́*; **КАШЫ́** *мн.* Кош. *Прынесí кôш карто́плі.* Жываглодавічы.

*Кашэ́ль* (Дзярж., Шатэрнік).

**КРА́МА** *ж., -ы*; **КРА́МЫ** *мн.* 1. Магазін (*мн. кра́мы*). *Што там у кра́му прыве́зьлі.* Танежыцы. 2. *адз.* Тканіна фабрычнага вырабу. *Набра́ла кра́мы дзêцям.* Танежыцы.

**КРАСНАГАЛО́ВІК** *м., -а*; **КРАСНАГАЛО́ВІКІ** *мн.* Падасінавік (грыб). *Кôш краснагало́вікаў прынёс на база́р.* Жываглодавічы.

*Падасі́навік* (Дзярж., Шатэрнік).

**КРУК** *м., -а́*; **КРУКІ́** *мн.* Вочап, жэрдка ў калодзежным жураўлі. *Сьлі́скі крук абмёрс, з рук вырыва́ецца, тру́дно вады́ даста́ць.* Чапліцы.

*Вочап* (Дзярж., Шатэрнік).

**КРУЦІ́ЦЦА** *незак.* Шалець. *Ціпе́р саба́кі ча́сто кру́цецца.* Выгода.

**КРУ́ЧАНЫ** *прым.* 1. Шалёны. *Кру́чаны саба́ка пакуса́ў каро́ву.* Бучаціна. *Кру́чаны саба́ка бêгае.* Танежыцы. 2. Чалавек з непастаянным характарам. *От кру́чаны не́йкі: сёньня адно́, а за́ўтра друго́е.* Бучаціна.

**КРЫШАНІ́** *толькі мн., -ёў.* Бульбяны суп; від стравы. *А крышані́ ні вары́ла.* Семежава.

*Булён* (Дзярж., Шатэрнік); *крышаны.* Кусочкі бульбы ў страве (Дзярж., Шатэрнік).

**КУБЁЛАК** *м., -лка*; **КУБЁЛКІ** *мн.* Кубелец. *По́ўны куб'ёлак са́ла накла́лі.* Веска. *Паледзі за куб'ёлкам.* Танежыцы. *На куб'ёлку абру́ч ло́пнуў.* Бучаціна.

*Кубе́лец* (Дзярж.), *кубёлак, кубелец* (Шатэрнік).

**КУДЗЕ́ЛЬНІЦА** *ж., -ы*; **КУДЗЕ́ЛЬНІЦЫ** *мн.* Коўдра, пашытая з посцілак і падбітая *кудзе́ляю.* Семежава.

**КУДЗЕ́ЛЯ** *ж., -і.* 1. *толькі адз.* Горшы сорт апрацаванага лёну. *Заткні́ кудзе́лею шчы́ліны.* Семежава. 2. Лён, падрыхтаваны для прадзення, *тру́бка* з лёну, якую прымацоўваюць да прасніцы. *Напрадзі́ кудзе́лю і мнê. Трэ́бо кудзе́лю нарадзі́ць. А ці спрадзе́ш за вêчар кудзе́лю.* Семежава.

**КУДЗЯЛЯ́НКА** *ж., -і*; **КУДЗЯЛЯ́НКІ** *мн.* Коўдра, пашытая з посцілак і падбітая *кудзе́ляю. Залёсь пат кудзеля́нку ды сьпі.* Семежава. *Трэ́бо кудзе́льніцу ла́дзіць.* Веска. *Прынесі́ паду́шку і кудзеля́нку.* Смалічы.

**КУЛІ́ТКА** *ж., -і*; **КУЛІ́ТКІ** *мн.* Булка (хлеба). *Пазы́чыла веліку кулі́тку хлêба, а прыне́сла еку́ю.* Веска.

**КУЛЬ** *м., -я́*; **КУЛІ́** *мн.* Вялікі сноп жытняй саломы, зроблены з адборнай саломы – з *акало́ту. Трэ́бо акало́ту накалаці́ць ды кулёў вы́трасьці. С акало́ту кулі́ ро́бяць.* Семежава.

**КУ́ЛЬКА** *ж., -і*; **КУ́ЛЬКІ** *мн.* Ручка на кассі ў форме дужкі (абагнутага лучка). *Ку́лька кру́ціцца, як ко́сіш. Ку́льку ро́бяць зь вішняку́ ці з ду́бу.* Макраны.

**КУ́РАВЫ** *прым.* Цёмна-чырвоны. *Ку́равая спадні́ца с плі́сам.* Семежава.

## Л

**ЛА́ЗНЯ** *ж., -і*; **ЛА́ЗНІ** *мн.* Асець, сушня; памяшканне, дзе труць лён. *Ла́зьня – дзê лён труць.* Макраны.

*Восяць* (Дзярж.).

**ЛАПА́ТКА** *ж., -і*; **ЛАПА́ТКІ** *мн.* 1. Лапата; прылада, якою капаюць зямлю. *Вазьмі́ лапа́тку ды глі́ны накапа́й.* Семежава. 2. Частка цела. *Не́шта пад лапа́тку ко́ле.* Семежава. 3. Брыль у шапцы. *Трэ ік ша́пцэ прышы́ць лапа́тку, бо паламá́ласа стара́я.* Семежава.

*Лапатка.* Прылада, якою капаюць зямлю (Дзярж., Шатэрнік); *лапатка.* Частка цела (Дзярж.).

**ЛА́ПІК** *м., -а*; **ЛА́ПІКІ** *мн.* Лапік, лата. *Прыгато́ў мнê напа́рстак і ні́ткі, я ла́пік палажу́.* Макраны.

**ЛА́ПІКЛА** *н., -а*; **ЛА́ПІКЛЫ** *мн.* Тое ж. *Ла́пікло, як рэ́шато, пастá́віла.* Танежыцы.

*Латка, лата* (Дзярж.), *латка* (Шатэрнік).

**ЛА́ПІЦЬ** *незак.* Лапіць, латаць. *На́дзя мешкі́ ла́піць.* Танежыцы.

*Лапіць* (Шатэрнік), *латаць* (Дзярж.).

**ЛЕ́ЙЦЫ** *мн., -аў.* Лейцы. *Прынесі́ ле́йцы с каню́шні. Вазьмі́ ле́йцамі прывежы́.* Веска. *Но́выя ле́йцы згубі́ў.* Танежыцы.

*Лейцы* (Дзярж., Шатэрнік).

**ЛЕ́СТКА** *ж., -і*; **ЛЕ́СТКІ** *мн.* Папярочная перакладзіна ў драбінах. *Дзьвê драбі́не нала́дзіў, сêм ле́стак наста́віў.* Танежыцы. *Ело́вые ле́сткі ско́ра пало́мяцца.* Выгода.

*Ле́стка* (Дзярж.).

**ЛІ́ТРА** *ж., -ы*; **ЛІ́ТРЫ** *мн.* Літр. *Тôлькі адну́ лі́тру малака́ дае́. А там адна́ лі́тра.* Смалічы.

**ЛУГ** *м. толькі адз., -у.* Вада са шчолакам. *Ідзі́ лу́гу набяры́ дзêці памы́ць.* Макраны. *Лу́гам до́бра ко́сы мыць.* Семежава.

*Луг* (Дзярж., Шатэрнік).

**ЛУЖО́К** *м., -жка́*; **ЛУЖКІ́** *мн.* Невялікі вадаём сярод лугу, які ніколі не высыхае. *Да калхо́зу мачы́лі ў лушку́ лён.* Веска.

*Лужо́к* (Дзярж.).

**ЛУЧНІ́К** *м., -а́*; **ЛУЧНІКІ́** *мн.* Прыстасаванне для асвятлення і абагравання хаты ў зімнія вечары. Складаецца з трубы, адзін канец якой уведзены ў комін, а другі загнуты ўніз і расшыраны ў форме конуса, да гэтага канца трубы падвешаны металічны ліст, на якім распальваецца агонь. *Мо адзі́н лучні́к на ўсё Се́межаво й аста́ўса.*

*Лушні́к* (Шатэрнік).

Лучнік звісае, нібы звон, / І таіць нейкі сум зацяты (Я. Колас. Рыбакова хата).

**ЛУЧО́К** *м., -чка́*; **ЛУЧКІ́** *мн.* Ручка на кассі ў форме абагнутай кругом яго дужкі. *Но́вы лучо́к зрабі́ў.* Смалічы.

**ЛЬГА** *прысл.* Можна. *Ці льга ш вы́лесьці агаро́дамі*? Семежава. *Прынесі кнігу, кап льга было́ пісаць*. Макраны. *Калі́ льга шыць, то шы́йце*. Смалічы.

**ЛЯ́ДА** *н., -а*; **ЛЯ́ДЫ** *мн.* Набіліцы (пра кросны). *Прыне́сла ля́до вам, вы ш ткаць ме́це ско́ро*. Танежыцы.

*Набіліцы*. Набіліцы ў кроснах (Дзярж.), *набіліцы, набілкі, набільніцы* (Шатэрнік).

**ЛЯ́ДА** *н., -а*. Пустазелле ў збожжы. *До́бры ячме́нь, буйны́, але́ ля́да есь*. Танежыцы.

**ЛЯЛЕ́Я** *ж.* ◊ ЛЯЛЕ́Я РАКА́. Рака, якая выйшла з берагоў, разлілася ў час вясновай паводкі. Танежыцы.

**ЛЯ́СКА** *ж., -і*; **ЛЯ́СКІ** *мн.* 1. Папярочныя перакладзінкі, *драбі́ны*. *Трэ́бо уставіць ля́ску, даўно́ ўжо вы́кінуласа*. Семежава. 2. Палка плытагона, якой ён правіць плыты. *Ля́скаю дзê трэ́бо, ён кіру́е*. *Ля́ска – гэ́та жо́ртка ме́тры на тры*. Смалічы. 3. Калок. *Наш паліса́днік ля́скамі агаро́джаны*. Семежава.

**ЛЯХТА́РНЯ** *ж., -і*; **ЛЯХТА́РНІ** *мн.* 1. Матавіла. Семежава. 2. Вітушка (прылада), на якую навіваюць ніткі. *Лехта́рня ўжо по́ўна, ві на другу́ю*. Семежава.

## М

**МА́БЫЦЬ** *прысл.* Мабыць, відаць. *Я, ма́быць, ні прывы́кла п у го́радзе*. Жыліхава. *Ма́быць, ўжо па даро́зе* [не будзе дарогі]. *Ма́быць, гу́сі на жы́це*. Семежава. *Ма́быць, дошч со́нечны бу́дзе*. Бучаціна. *Ма́быць, сêчку рэ́жуць. Пашо́ў с кашале́м, ма́быць, сêець бу́дзе*. Жываглодавічы.

*Ма́быць* (Шатэрнік), *му́сіць, віда́ць* (Дзярж.).

**МАЙДА́Н** *м., -а*. Вялікі ўчастак зямлі. *Гэ́такі майда́н ашчэ́ ні ўзо́раны*. Танежыцы.

**МАСНІ́ЧЫНА** *ж., -ы*; **МАСНІ́ЧЫНЫ** *мн.* Бервяно насцілу моста. *Масьні́чына на мôсьце. Усê масьні́чыны трэ́бо меня́ць*. Семежава.

**МАТАВІ́ЛА** *н., -а*; **МАТАВІ́ЛЫ** *мн.* 1. Шаравідны прадмет, утвораны навіваннем нітак. Жываглодавічы. 2. Вітушка (прылада), на якую навіваюць ніткі. Складаецца з чатырох планачак, змацаваных на канцах перакладзінамі. *Прынесі́ матаві́ло і ні́ткі замата́й*. Танежыцы. *Ідзêце берэ́це матаві́ло*. Жываглодавічы.

*Матавіла* (Шатэрнік), *вітушка* (Дзярж.).

**МАТРУ́ХА** *ж., -і*; **МАТРУ́ХІ** *мн.* Вітушка (прылада). *Вы́несі матру́ху, хай ні заміна́е*. Жываглодавічы.

**МАТРУ́ШКІ** *мн., -шак*; **МАТРУ́ШКА** *ж., матру́шкі*. Маточкі нітак, якія выкарыстоўваюцца пры тканні *выкла́даньем*. *А дзê матру́шкі бêлые*? Веска.

**МЕНТАВА́ЦЬ** *незак.* Вастрыць касу. *Ментава́ць ко́су ніяк ні наву́чысса*. Бучаціна.

*Мянташыць* (Шатэрнік), *мяньціць* (Дзярж.).

**МЕ́ШАЛКА** *ж., -і*; **МЕ́ШАЛКІ** *мн.* Прылада для замешвання корму свойскай жывёле. *Вазьмі́ ме́шалку, ды ме́шалкаю, а так ні улі́еш* [аб свіннях, якія лезуць да карытца]. Бучаціна.

*Мешалка* (Дзярж., Шатэрнік).

**МО** *часц.* Можа, відаць. *Каля Ружа́на стаі́ць дуп то́ўсты-то́ўсты, мо гадо̂ў пяцьсо̂т*. Жыліхава. *Мо хо́ладно бу́дзе, то кажуха́ вазьмêце. Мо петна́ццаць мêцел было́*. Семежава. *Сёньня маро́зу мо ні́як німа́. Мо ма́ло і старэ́йшы за ва́шаго*. Макраны.

**МУРТАЎНЯ́** *ж., -і́*. Мурашнік. *Муртаўня́ – ге́то дзê мура́шкі жыву́ць*. Танежыцы. *Дзêці раскапа́лі муртаўню́*. Старына.

*Мура́шнік, мураве́йнік* (Дзярж.), *мурашнік* (Шатэрнік).

**МЫ́ЦЕЛЬНІК** *м., -а*. Кут у хаце насупраць печы каля парога. *Чаго́ ты таўчэ́сса у мы́цельніку, ідзі́ да́лей*. Семежава. *Вы́тры тро́хо падло́гу, мы́цельнік згніе́*. Танежыцы. *Назьбіра́ласа ў цебе́ ў мы́цельніку, як у хлевê*. Веска.

**МЫ́ЦЕЛЬНІКАВЫ** *прым.* ○ МЫ́ЦЕЛЬНІКАВА АКНО́. Акно, размешчанае блізка да *мы́цельніка*. *Зачыні́ мы́целнікаво акно́*. Семежава.

**МЭ́ДЛІ** *толькі мн., -яў*. Спосаб укладкі аўсяных і ячменных снапоў у форме *кры́жыка*, снапы кладуцца каласамі адзін да другога (унутр), а *гузыра́мі* звонку. Макраны.

*Крыжыкі* (Дзярж.).

**МЭ́НДЛІКІ** *мн., -аў*; **МЭ́НДЛІК** *м.* Тое ж. Макраны.

**МЯНТУ́ШКА** *ж., -і*; **МЯНТУ́ШКІ** *мн.* Мянташка. *Алёш, у Мікала́я менту́шку вазьмі́*. Веска. *Менту́шку трэ́бо купі́ць*. Бучаціна.

*Мянта́шка, трапа́шка* (Дзярж.), *мянташка* (Шатэрнік).

**МЯТЛА́** *ж., -ы́*. Дзяркач, галень; робіцца з бярозавых галінак без лістоў, служыць для падмятання падлогі. *Метлу́ другу́ю вазьмі́*. Танежыцы. *Прыўёс мêцел*. Семежава. *Метла́ і дзерка́ч – ге́то адно́*. Бучаціна. *Вазьмі́ метлу́ ды ха́ту замеці́*. Выгода.

*Мятла, мяцёлка*. Венік, уссаджаны на дзяржанне і прызначаны для падмятання двара, вуліцы, току (Дзярж.).

**МЯШЛА́** *ж., -ы́*; **МЕ́ШЛЫ** *мн.* Мешалка; прылада для замешвання корму свойскай жывёле. *Мешла́, што сьвіня́м меша́ць ды каро́вам, як лапа́тачка*. Семежава.

## Н

**НАГНО́М** *прысл.* Нагбом; піць з вядра ці збанка, крыху нахіліўшы яго да сябе. *Напі́ўся нагно́м*. Смалічы.

*Нагном* (Дзярж.).

**НАГРУЗІ́ЦЬ** *зак.* Нагрузіць. *Нагрузі́це машы́ну, ідзêце к малата́рні*. Семежава.

**НАМÊТКА** *ж., -і*; **НАМЯТКІ́** *мн.* Намітка; кусок палатна пэўнай даўжыні, які завязвалі на галаву. *Намêтка – кусо́к палатна́ з натыка́ньем, даўне́й заўя́звалі на галаву́*. Семежава.

**НАМЯНЦІ́ЦЬ** *зак.* Навастрыць касу. *Наменьці́ ко́су хло́пцу*. Бучаціна.

**НАПАКАВА́ЦЬ** *зак.* Накласці многа чаго-н., шчыльна зламыць. *Чаты́ры гумнê напаку́юць сêнам*. Макраны.

**НАПА́РСТАК** *м., -тка*; **НАПА́РСТКІ** *мн.* 1. Напарстак. *Прыгато́ў мнê напа́рстак і ні́ткі, я ла́пік палажу́*. Макраны. 2. Кальцо, якім прымацоўваецца

каса да касся. *Пада́й напа́рстак, трэ́бо ко́су асадзі́ць.* Макраны.

*Ба́нька* (Дзярж., Шатэрнік).

**НАПІЛІ́ЦЬ** *незак.* Напілаваць. *Напілі́ дроў тро́хо.* Семежава.

**НАПРАСТЫ́** *прысл.* Напрамкі, напрасткі; прамой дарогай, не абходзячы. *Я сего́ньня ра́ніцаю йшла напрасты́, а ціпе́р пабая́ласа.* Семежава. *Напрасты́ кіло́метраў дзе́сець бу́дзе.* Старына.

*Напрамі́к* (Дзярж.).

**НАРА́Д** *м., -а*; **НАРА́ДЫ** *мн.* Увесь набор ткацкіх прылад. *Ты палі́ ў пêчы, а я палêзу па нара́т, пачнôм зау́тра по́сьцілкі ткаць.* Веска.

**НАРАДЗІ́ЦЬ** *зак.* ◊ НАРАДЗІ́ЦЬ КУДЗЕ́ЛЮ. Раскласці чэсаны лён тонкімі пласцінкамі, а пасля скруціць у трубку — *кудзе́лю. Нарадзі́ кудзелю і мнê. Трэ́бо кудзêлю нарадзі́ць.* Семежава.

*Чыніць кудзелю* (Дзярж.).

**НАСІ́ЛА** *н., -а*; **НАСІ́ЛЫ** *мн.* 1. Частка калодзежнага жураўля, вочап. *Насі́ло ско́ро атарве́цца, прывежы́ мацнêй.* Семежава. 2. Жэрдачка над столлю каля печы, над печчу ці нават у сенцах, на якую вешаюць адзенне. *На насі́ла паве́сь і хай вісі́ць.* Веска. *Зьнімі́ насі́ло, кап ні меша́ло.* Танежыцы.

*Во́чап.* Частка жураўля, жэрдка, пры дапамозе якой дастаюць ваду са студні; *шесток.* Жэрдка пад столлю ўздоўж сцяны (каля печы, над печчу альбо нават у сенцах) для вешання адзення (Дзярж).

**НАСІ́ЛКА** *н., -а.* Частка жураўля, жэрдка, пры дапамозе якой дастаюць ваду са студні. *Насілко замені́ць трэ́бо.* Смалічы.

**НАСТÔЛЬНІК** *м., -а*; **НАСТÔЛЬНІКІ** *мн.* Абрус; кусок спецыяльна вытканай тканіны, якой засцілаюць стол. *Пакажы́, екі́е настôльнікі ў нас есь.* Танежыцы. *Настôльнік – ге́то то́е, што і абру́с.* Семежава.

**НАЦІ́НА** *ж. толькі адз., -ы.* Бацвінне, лісце буракоў. *На буракôх нацí́на.* Семежава.

*Бура́чнік* (Дзярж.).

**НЕНАРО́КАМ** *прысл.* 1. Праўда, на самай справе (з пытальнай інтанацыяй). *Пустапе́хо то́жэ разво́дзіцца. – Ненаро́ком? – Не. – А я ду́маў наро́кам.* Семежава. 2. Незнарок. *Я табê ненарôкам зрабі́ў.* Бучаціна.

**НІ́ШАЧКАМ** *прысл.* Без шуму, ціха. *Адзі́н рас ні́шачкам прышлі́ стро́іць мост.* Семежава.

**НІ́ШКАМ** *прысл.* Тое ж. *Мы рабо́таім ні́шкам і ду́маем, ба́чыць ён* [вораг] *ці не* (з расказа ўдзельніка Вялікай Айчыннай вайны). *І ціпе́р, кап на его́ лі́хо, кап і хацêў ні́шкам прайці́ – ні дась, брэ́ша і брэ́ша.* Семежава.

**НІШТАВА́ТЫ** *прым.* Добры, якасны. *Ніштава́ты лён расьце́.* Веска.

**НО́ША** *ж., -ы*; **НО́ШЫ** *мн.* Нарасць (?). *У старо́е гусі́ но́ша зьяўля́ецца каля нôх.* Семежава.

*Паноша* (Дзярж.).

**НЯВЕ́ХНА** *ж., -ы*; **НЯВЕ́ХНЫ** *мн.* Нявестка. *Узнаро́віш, неве́хно, узнаро́віш, як ты па маём падво́рэйку пахо́дзіш* (з песні). Семежава.

Толькі ў песнях, звычайна *неве́стка.*

**НЯМА́ШАКА** *незак.* Няма. *Сухі́х дроў нема́шака.* Бялевічы.

## О

**О́БМЕШКА, О́ММЕШКА** *ж. толькі адз., -і.* Горшыя гатункі мукі, якія ідуць на корм жывёле (часцей свінням). *О́бмешкі ўсып, абмеша́й, кап лêпш êла. О́ммешкі ўсып, лêпш êсьціме.* Семежава.

*Вобмяшка* (Дзярж.).

**О́ВАД** *м., -а*; **О́ВАДА** *зб.* Авадзень. *О́ват як нася́дзе, беда́, уцека́й дамо́ў.* Веска.

**О́ЖАГ** *м., -а*; **ОЖАГІ́** *мн.* Дзяржанне ў вілках, мятле і інш. *О́жах – дзераўя́ная часьць ві́лак.* Семежава. *О́жах – ге́то па́лка для метлы́.* Танежыцы. 2. Кут у хаце каля печы, дзе стаяць вілкі, чапяла і інш. *Мо́жа ў о́жах закаці́ласо.* Танежыцы.

*О́жаг м.* Качарэжнік (Дзярж).

**ОЙДЗЕ-О́** *прысл.* Тут. *А дзе бума́га? – Ойдзе-о́.* Жыліхава.

**О́ММАЛЬ** *прысл.* Мала. *О́ммаль со́ды, купі́ць трэ́бо.* Семежава.

*Во́бмаль* (Дзярж.).

**О́СІЛКА** *ж., -і*; **О́СІЛКІ** *мн.* Почапка. *У ведрэ́ о́сілка атарва́ласа.* Танежыцы.

*Посялка* (Дзярж.), *посілка* (Шатэрнік).

**ОТО́, ОТО́-О́** *часц.* 1. Зараз, неадкладна. *Ото́ êсьціму.* Семежава. – *Ты скоро іці́меш? – Ото́-о́, по́йдам ра́зам.* Веска. 2. Толькі што. *Ото́ Стафа́н пае́хаў, а по́тым мы пае́дам.* Макраны.

**О́ЧАП** *м., -а*; **О́ЧАПЫ** *мн.* 1. Бервяно-рычаг у калодзежным жураўлі; служыць для аблягчэння здабывання вады са студні. *О́чап і ко́варат – ге́то адно́.* Семежава. 2. Верхняе бервяно ў сцяне будынка па ўсёй яе даўжыні. *Тако́го до́ўгаго о́чапа ні на́йдзеш.* Танежыцы.

*Вага.* Частка калодзежнага жураўля, бервяно-рычаг для аблягчэння здабывання вады са студні (Дзярж.).

## П

**ПАВЕ́САМ** *прысл.* Вагою. *Кôлькі ш паве́сам льну было́?* Семежава. *Ілну́ даста́лі паве́сам два́ццаць кіло́.* Смалічы.

**ПА́ДАЛКІ** *мн., -аў.* Апад, ападкі; без пары апалыя яблыкі ці грушы. *Ідзі́ па́далкі пазьбіра́й.* Чапліцы.

**ПАДБІЦЦЕ́** *н. толькі адз., -я́.* Падкладка ў адзенні. *Падбіцьце́ было́ сваé.* Жываглодавічы.

*Падбіццё* (Шатэрнік), *паткпатка* (Дзярж.).

**ПАДГЕ́РАЦ** *м., -рца*; **ПАДГЕ́РЦЫ** *мн.* Жалезны прут, які злучае шворан з трайнёй калёс. *Падге́рац — ге́то, што на шво́ран зьні́зу адзева́ецца, кап с перапатка́ ні выла́зіў.* Веска. *Чаму́ ў цібе́ падге́рац ця́гнецца.* Танежыцы.

*Падгэрац* (Дзярж., Шатэрнік).

**ПАДДЫ́МНІК** *м., -а*; **ПАДДЫ́МНІКІ** *мн.* Вузкі даўжынёй 2–3 метры кавалак палатна, ручнік з узорамі чырвонага колеру для падарунка парадзісе і яе цёткам. Семежава.

**ПАДЗІ́Ў**, **ПО́ДЗІЎ** *м. толькі адз.*, *-у.* Урок; недамаганне «ад дрэнных вачэй». *Мо падзі́ў на его́ напа́ў. От тваі́х ачэ́й падзі́ў ні нападзе́.* Танежыцы. *По́дзіў ашчэ́ накі́нецe на мене́.* Жываглодавічы.

*Падзі́ў* (Шатэрнік), *уро́кі* (Дзярж.).

**ПАДО́САК** *м.*, *-ска*; **ПАДО́СКІ** *мн.* Металічная пласцінка, прымацаваная з нізу восі, каб вось не сціралася ў час язды. Танежыцы, Бялевічы.

*Падо́сак* (Дзярж., Шатэрнік).

**ПАДПЯСО́ЧНІК** *м.*, *-а*; **ПАДПЯСО́ЧНІКІ** *мн.* Верхняе бервяно ў хаце, якое кладзецца па бэльках. *Ужэ́ падпесо́чнікі палажы́лі.* Веска.

**ПАДХАДЗЯ́** *прысл.* Падобны да чаго-н., на што-н. *Выго́рыч патхадзя́ на уюна́.* Семежава.

**ПАЗАВУГО́ЛЬЮ** *прысл.* Абы-дзе. *Туля́ецца пазавуго́лью, а на рабо́ту ні йдзе.* Семежава.

**ПАЖУ́ПІЦЬ** *зак.* Пагаварыць, паразмаўляць. *Пажу́плю, пажу́плю ды і галашу́.* Старына. *Пажу́піла с усі́мі і паме́рла.* Жываглодавічы.

*Пажу́піць* ужываецца ў мове прадстаўнікоў традыцыйнай гаворкі.

**ПАКАЦІ́ЦЦА** *зак.* 1. Каціцца. *Калесо́ зьлецêло с о́сі і пакаці́ласо.* Танежыцы. 2. *толькі зак.* Паваліцца. *Сяць, бо пако́цісса.* Веска.

**ПАЛАВЫ́** *прым.* ○ ПАЛАВЫ́ КУТ. Кут хаты, дзе стаяць ложкі ці зроблены *пôл. С палаво́го ку́та вы́меці хôць рас до́бра.* Танежыцы.

**ПАЛАКА́ЦЬ** *незак.* Паласкаць, мыць. *Трэ́бо бель́е палака́ць.* Веска.

**ПАЛО́Й** *м. толькі адз.*, *-ю.* Верхаводка, вада на лёдзе ў час адлігі. *Па раццэ́ пашо́ў пало́й.* Семежава.

**ПАЛУ́ННАВАЦЬ** *незак.* Абедаць. *Палу́ннаваць лехчэ́й сказа́ць, чым абêдаць.* Старына. *То хай жа ш бы ты сказа́ў, што ні абêдаў.* Старына.

Ужываецца і слова *абêдаць*, але радзей.

**ПАМО́СТ** *м.*, *-а.* Падлога. *Ены́ мы́юць памôст. Ха́ты с памо́стам.* Семежава.

*Памост* (Шатэрнік).

**ПАПАГРУЗІ́ЦЬ** *зак.* Хадзіць па глыбокім снезе. *Е́здзіў учо́ра у лêс, ну і папагрузі́ў сьнêгу.* Семежава.

**ПАРТМАНЕ́Т** *м.*, *-а*; **ПАРТМАНЕ́ТЫ** *мн.* Кашалёк. *Палажы́ сабê ў партмане́т.* Семежава.

**ПА́СА** *ж.*, *-ы*; **ПА́СЫ** *мн.* Плыт з некалькіх звенняў, *клейн. Кле́йны зьвя́зваюцца ў па́сы.* Смалічы.

**ПАСА́ЖАНЫ** *прым.* ○ ПАСА́ЖАНЫ БА́ЦЬКА. Удзельнік вяселля, хросны бацька. ○ ПАСАЖА́НАЯ МА́ЦІ. Удзельніца вяселля, хросная маці. Бучаціна.

**ПА́СКАЛАК** *м.*, *-лка*; **ПА́СКАЛКІ** *мн.* Палена, кол, кавалак дрэва. *Па́скалак вазьмі́ ды пагані́ саба́ку.* Семежава.

*Паскалак* (Шатэрнік), *пакалак* (Дзярж.).

**ПАСО́БІЦЬ** *зак.* Дапамагчы. *Пасо́п мнê тро́хо.* Бялевічы. *Ты ш ему́ пасабля́еш.* Смалічы.

**ПАСПЫТА́ЦЬ** *толькі зак.* Паспрабаваць на смак. *Паспыта́ў я́блыко і атда́ў наза́т.* Танежыцы. *Пля́шку прынёс, паспыта́й.* Веска.

*Паспытаць* (Шатэрнік), *пакаштава́ць*, *папробаваць* (Дзярж.).

**ПАСПЯШО́К** *м.*, *-шка.* Прасліца, гліняны ці алавяны дыяметрам у 5–7 см дыск з адтулінай у цэнтры, які адзяваецца на верацяно, калі прадуць, каб яно даўжэй круцілася. *С пасьпешко́м лехчэ́й пра́сьці.* Бялевічы. *Пасьпешо́к адзева́ем на верацено́.* Старына.

**ПАСЦЕ́ЛЬ** *ж.*, *-і.* 1. Пасцель, ложак. *Засьцелі́ ло́жак, лю́дзі прыхо́дзяць, а пасьце́ль ні прыбра́на.* Танежыцы. 2. Насціл з дошак у павозцы. *Зьлêсь с аглабіна́, сяць на пасьце́ль, а то зва́лісса.* Танежыцы.

*Пасьце́ль* (Дзярж., у абодвух значэннях).

**ПА́СЫНАЧАК** *м.*, *-чка*; **ПА́СЫНАЧКІ** *мн.* Адростак дрэва, вазона і інш. *Атрэ́ш па́сыначка і пасадзі́.* Жываглодавічы.

*Пасынак*, *атожылак* (Дзярж.).

**ПАЎ́К** *м.*, *-а́*; **ПАУКІ́** *мн.* 1. Павук (насякомае). *Пісьмо́ бу́дзе – паў́к на калêні апусьці́ўса.* Выгода. 2. Від упрыгожання ў хаце, зроблены з нітак і зерня лубіну ці фасолі, расфарбаваныя ў розныя колеры зярняты нанізваюцца на нітку. Такая *ні́зка* падвешваецца да столі над сталом і мае выгляд *лю́стры. Друго́го паука́ зро́бім, ге́таго вы́кінуць трэ́бо.* Старына.

**ПАЎЛІ́ТРА** *ж.*, *-ы*; **ПАЎЛІ́ТРЫ** *мн.* Палова літра. *Каро́ва іх маладзе́нька, бôльш як паўлі́тру не дае́.* Смалічы.

**ПАЦВЕ́ЛЬВАЦЬ** *незак.* Падражніваць. *Што ты пацьве́льваеш мене́, я ш ні саба́ка.* Семежава. *От жу́лік, лю́біць пацве́львацца зь дзя́дзем* [аб малым хлопчыку]. *Ні пацьве́львай, а то карандаша ухо́піць* [аб дзецях]. Веска. *Ні пацьве́львай, ні цьвелі́са, а так уку́сіць.* Бучаціна. *Набі́ў за ге́то, што пацьве́льваесса.* Жываглодавічы.

**ПАЎПРЫ́ЦА** *ж.*, *-ы*; **ПАЎПРЫ́ЦЫ** *мн.* Металічная пласцінка на верхнім камені жорнаў, якая адзяваецца на шпянёк, замацаваны ў цэнтры ніжняга каменя жорнаў. Дзякуючы гэтаму верхні камень можна паднімаць і апускаць, у час работы жорнаў *паўпры́ца* разам з верхнім каменем круціцца, шпянёк выконвае ролю восі. Танежыцы, Веска.

**ПАЧЫ́НАК** *м.*, *-нка*; **ПАЧЫ́НКІ** *мн.* Верацяно з ніткамі. *Пачы́нак – ге́то по́ўно напра́дзенае верацено́. Пачы́нак на пêч палажы́, мнê пада́й верацено́.* Старына.

*Пачы́нак* (Шатэрнік).

**ПАШНЯ́** *ж. толькі адз.*, *-і.* Збожжа. *Засêкі по́ўные пашні́.* Чапліцы. *Пашнёю заня́ў усê по́сьцілкі.* Бялевічы.

**ПАШЧО́ПКА** *ж.*, *-і*; **ПАШЧО́ПКІ** *мн.* Дрывотня; месца, дзе рэжуць, колюць і складаюць дровы. *Я на пашчо́пцы сакеру кі́нуў.* Жываглодавічы.

*Дрывотня* (Дзярж.).

**ПЕРАДО́К** *м.*, *-дка́*; **ПЕРАДКІ́** *мн.* Пярэдняя вось павозкі з коламі і аглоблямі. *Вазьмі́ другі́ передо́к, ге́ты ла́дзіць трэ́бо.* Танежыцы. *Падгерац – ге́то, што на шво́ран зьнізу адзева́ецца, кап сь пера́тка ні выла́зіў.* Веска.

**ПЕ́РЫЦЬ** *незак.* Біць (пранікам). *Ена́ сёнечы пе́рыць сва́е пало́тна. Берэ́ пра́нік, адзе́жу, ідзе́ на рэ́чку і перыць.* Семежава.

**ПІЛІ́ЦЬ** *незак.* Пілаваць. *Пілі́цьму дро́ва вêчарам.* Семежава.

**ПІ́ШЧЫКІ** *мн.*, *-аў*; **ПІ́ШЧЫК** *адз.* Кончыкі пальцаў рук. *У пі́шчыкі ко́ле, так ру́кі пакалêлі.* Веска.

**ПЛАЎ** *м. толькі адз.*, *-у.* Бераг, падмыты вадой. *Плаў паўз рэ́чку, вада́ пад ім, а ён вісі́ць.* Семежава.

**ПЛІС** *м. толькі адз.*, *-у.* Шырокая стужка, лента. *Ку́равая спадні́ца с плі́сам.* Семежава.

**ПЛО́СКУНІ** *толькі мн.*, *-яў.* Маніцы. *Пло́скуні выбіра́юць ране́й.* Веска.

*Пласконьне* (Шатэрнік), *мані́цы* (Дзярж.).

**ПЛЯ́ГА** *ж.* ◊ ПЛЯ́ГА ЕГО́ ВЕ́ДАЕ. Ліха яго ведае; пра адсутнасць паняцця, ведаў, звестак. Семежава.

**ПЛЯЦ** *м.*, *-а*; **ПЛЯЦЫ́** *мн.* Пляц, зямельны надзел. *С усі́х уса́дзьбаў наш пляц во́ду го́ніць.* Жываглодавічы.

*Пляц* (Шатэрнік).

**ПЛЯЦЕ́НЬ** *м.*, *-тня*; **ПЛЯТНІ́** *мн.* Від агароджы з веццяў. *У землю́ набі́ты калы́ і перапле́цены ело́ўцам у калêно вышыні́ ці у по́ес, а у верху́ жо́рдачка і пераві́то зноў.* Семежава.

*Пляцень* (Шатэрнік).

**ПЛЯ́ШАЧКА** *ж. эмац.-ацэн.*, *-і.* Бутэлька. *Чаму́ ш ена́ пля́шачкі ні узела́.* Старына.

**ПЛЯ́ШКА** *ж.*, *-і*; **ПЛЯ́ШКІ** *мн.* Тое ж. *Пля́шку прынёс, паспыта́й.* Веска.

*Пляша*, *пляшка* (Шатэрнік).

**ПО́ЖАР** *м.*, *-у*; **ПО́ЖАРЫ** *мн.* Пажар. *Велі́кі по́жар быў.* Веска. *Ат по́жару ні уцечэ́ш, як ад ваўкôў.* Жываглодавічы.

**ПО́КУЦЬ** *м.*, *-я.* Кут хаты каля стала. *А чаго́ ш ты на по́куць залêс.* Танежыцы.

**ПОЛ** *м.*, *-а*; **ПАЛЫ́** *мн.* Палок. *Вы́кінам пôл і лôжак паста́вім.* Танежыцы.

**ПÔЛНЫ** *прым.* ○ ПÔЛНЫ КУТ. Кут хаты, дзе стаяць ложкі ці зроблены *пол* (палок для спання, ад назвы якога кут атрымаў назву). *У пôлны кут паста́ў цепе́р.* Семежава. ○ ПÔЛНАЕ АКНО́. Акно, самае блізкае да *пôлнага ку́та.* Семежава.

**ПО́МЕЖ** *прыназ.* Паміж. *По́меж на́мі жыве́.* Семежава.

**ПО́НАЧЫ** *прысл.* Уначы. *Дзе ты по́начы ўба́чыш.* Семежава.

**ПО́РГАБ** *м.*, *-а*; **ПО́РГАБЫ** *мн.* Пограб. *У по́ргап схадзі́, карто́пель прынесі́. Пакі́нь каля по́ргаба.* Семежава.

**ПО́СПЕХ** *м.*, *-а.* Прасліца, гліняны ці алавяны дыяметрам у 5–7 см дыск з адтулінай у цэнтры, які адзяваецца на верацяно, калі прадуць, каб яно даўжэй круцілася. *У нас по́сьпех с о́лава ро́бяць.* Выгода.

**ПО́СЦІЛКА** *ж.*, *-і*; **ПО́СЦІЛКІ** *мн.* Посцілка. *Ма́быць, зь дзе́сець по́сьцілак вы́ткала.* Танежыцы. *У нас харо́шые по́сьцілкі ткуць.* Семежава. *Маю́ по́сьцілку на мо́ды* [для фасона] *узя́лі.* Выгода. *Зьвежы́ ў по́сьцілку і вы́несі.* Старына. *Мы завôм по́сьцілкі. Харо́шу по́сьцілку прыне́сла. Пачнôм за́ўтра по́сьцілкі ткаць. Ты́дзень тка́цьме адну́ по́сьцілку.* Веска.

**ПРА́ДЗЕДА** *м.*, *-а.* Прадзед. *А не́калі пра́дзеда ні хаце́ў там селі́цца.* Семежава.

**ПРА́ННІК**, **ПРА́ЛЬНІК**, **ПРА́ДНІК** *м.*, *-а*; **ПРА́ННІКІ**, **ПРА́ЛЬНІКІ**, **ПРА́ДНІКІ** *мн.* Пранік; прылада, каб перыць, мыць бялізну. *Вазьмі́ пра́ньніка с сабо́ю.* Семежава. *Пра́льнікам пало́тна пе́раць.* Бучаціна. *Прынесі́ мне пра́дніка.* Жываглодавічы.

**ПРО́СТА** *прысл.* 1. Звычайна. *Ён про́сто гаво́рыць, як усê.* Веска. 2. Нескладана. *А его́ про́сто знайсьці́ празь дзьвê хацê ат брыгадзі́ра.* Бялевічы. 3. Прама. *Про́сто село́м ідзêце, і даро́га заведзе́ вас.* Веска.

*Проста* (Шатэрнік).

**ПРУГЛО́** *н.*, *-а́*; **ПРУГЛА́** *мн.* Бервяно-рычаг калодзежнага жураўля. *Пругло́ ско́ро перало́міцца.* Чапліцы.

**ПРУГМЕ́НЬ** *м.*, *-я*; **ПРУГМЕ́НІ** *мн.* Прыгуменне; месца каля гумна, пляцоўка, зарослая травой. *Пругме́нь перад гумно́м, на ём расьце́ трава́.* Семежава.

**ПРЫГРЭ́БІЦА** *ж.*, *-ы*; **ПРЫГРЭ́БІЦЫ** *мн.* Прыгрэбнік, сенечкі, тамбурчык пры ўваходзе ў пограб; частка пограба (сенечкі), абмежаваная з аднаго боку надворнай сцяной, у якой таксама ёсць дзверы, у *по́ргап* можна папасці, толькі прайшоўшы *прыгрэ́біцу.* *Прынесі́ с прыгрэ́біцы малако́.* Веска.

**ПРЫГУ́МНІК** *м.*, *-а*; **ПРЫГУ́МНІКІ** *мн.* Прыгуменне; месца каля *гумна*, пляцоўка, зарослая травой. *На прыгу́мніку пагуля́й.* Веска.

**ПРЫДА́НКІ** *мн.*, *-аў.* Замужнія жанчыны –удзельніцы вяселля. *Пасêлі прыда́нкі ў се́нцах на ла́ўцэ, гледзя́ць у ако́нце ці высо́ко со́нце, калі́ высо́ко, то бу́дзем гуля́ці, а калі́ ні́ско лягам спа́ці* (з песні). Семежава.

**ПРЫЖДА́ЦЬ** *зак.* Дачакацца. *Прыжда́лі сенако́су – назнача́е у Слуцк на рабо́ту. Прыждôм зімы́ – ні бу́дзе чым палі́ць.* Семежава.

**ПУЖА́ЛНА** *н.*, *-а*; **ПУЖА́ЛНЫ** *мн.* Пугаўё. *Згубі́ў пу́гу, так пужа́лнам паганя́ў.* Бучаціна.

*Пугаўё* (Дзярж.).

**ПУПО́К** *м.*, *-а́*; **ПУПКІ́** *мн.* Прамая ручка на касі. Семежава.

По словах Папкоўскага Максіма, у в. Семежава раней усе косы былі з такімі акоссямі.

**ПЯЧА́Й** *м. толькі адз.*, *-ю́.* Пякотка. *Печа́йка печэ́, сьвіня хвост валачэ́ цераз мôст, мост увалі́ўса, печа́й увалі́ўса.* Танежыцы.

**ПЯЧА́ЙКА** *ж.*, *-і.* Тое ж. *Печа́йка печэ́.* Семежава.

*Пякота* (Шатэрнік), *пякотка* (Дзярж.).

**ПЯЧО́РА** *ж.*, *-ы*; **ПЯЧО́РЫ** *мн.* Норка. *Ра́кі і ры́ба веду́цца у печо́рах.* Семежава.

## Р

**РАЖКІ́** *толькі мн.*, *-оў.* Вілы для гною. *Не́хто на́шы рашкі́ узя́ў.* Веска. *Беры́ рашкі́ с сабо́ю, гнôй вазі́цьмеш.* Танежыцы. *Рашкі́ і сахо́р – гэ́та адно́.* Бучаціна.

**РАЗВО́ДЗІЦЬ** *незак.* 1. Разбаўляць. *Гара́ча вада́, дзіця́ апа́рыш, хало́днаю разьведзі́.* Веска. 2. Раствараць. *Разьведзі́ ме́лу, пêч пабêлім.* Танежыцы. 3. Аб манеры

гаварыць (гаварыць плаўна, расцягваючы гукі). *Семежоўкі нек разво́дзяць, расьця́гваюць, як гаво́раць* Жыліхава. ◊ РАЗВЕ́СЦІ РУКА́МІ. Дайсці да крайняга здзіўлення, недаўмення; не ведаць, як выйсці з цяжкага становішча. *То́лькі рука́мі разьвёў.* Танежыцы.

□ *Чужо́ю беду́ руко́ю разведу́*. Веска.

**РАЗНЕ́СЦІ** *зак.* 1. Расказаць, пераказаць. *Па усему́ селу́ разьнесе́ зау́тра.* Танежыцы. 2. Разбурыць. *Я упру́са мôцно, кап ні разьнёс на́шае хі́жыны.* Семежава. 3. Забіць. *Гледзі́, як з гары́ êхацьмеш, кап кôнь ні разьнёс* (з казкі). Выгода.

**РАЗНО́СІЦЬ** *незак.* Разносіць, прыносіць. *Ена́ павêсткі разно́сіла.* Макраны.

**РАСКІ́ПВАЦЬ** *незак.* Разварвацца (пра бульбу). *Раскі́пвае на́ша карто́шка, нісма́шна, земля́ гно́йна.* Старына.

**РАСТАРО́П** *м. толькі адз., -у.* Разводдзе, бездарожжа. *Цепе́р са́мы растаро́п, сьнêх зганяе́.* Семежава.

**РАСЦВЕ́ЛІЦЬ** *зак.* Раздражніць. *Як расьцьве́лілі пчол прайці́ ні было́ як.* Семежава.

**РОМ** *м. толькі адз., -у.* Месца, з якога сплаўлялі бярвенне. *На рôм ду́бу ні вазі́лі.* Семежава.

**РОД** *м. толькі адз., -у.* Радня. *Са́дзяць маладо́е рот за той стôл, дзê маладые́ седзя́ць. Ге́то рот па жо́нцы. Ге́то рот усе́* [сваякі, радня]. Семежава.

**РУБІ́ЦЬ** *незак.* Часова, без моху складаць сцены будынка з новага бярвення. *Ру́біцьмам ха́ту Іва́ну.* Семежава.

**РУЧА́ЙКА** *ж., -і*; **РУЧА́ЙКІ** *мн.* Верацяно з ніткамі. *За вêчар напра́ла цэ́лу руча́йку* [поўнае верацяно]. Выгода.

**РУШНІ́К** *м., -а*; **РУШНІКІ́** *мн.* Спецыяльны ручнік на абразы. *Уціра́льнік – што выціра́цца, а рушні́к на іко́нах.* Бучаціна.

**РЭ́ЗКА** *ж. толькі адз., -і.* Сечка; дробна парэзаная салома на корм жывёле. *Дай каро́ве рэ́скі сёньня.* Семежава.

## С

**САМАПРА́ДКА** *ж., -і*; **САМАПРА́ДКІ** *мн.* Калаўрот. *У нас ніхто́ не прадзе́ на самапра́тку.* Семежава. *Самапра́ткі ў нас ні ро́бяць.* Танежыцы.

**САРО́ЧКА** *ж., -і*; **САРАЧКІ́** *мн.* Ніжняя рубашка. *Купі́ла саро́чку хло́пцу.* Танежыцы. *Велі́ка саро́чка на его́.* Бялевічы. *Зьнімі́ саро́чку.* Веска.

**САХА́** *ж., -і*; **СО́ХІ** *мн.* Апора калодзежнага жураўля; слуп, на які абапіраецца *о́чап, ко́варат*. *Прыўёс со́сну зь ві́ламі, харо́ша саха́ бу́дзе.* Семежава. *На́ша саха́ гадо́ў мо два́ццаць ужэ́ стаі́ць.* Смалічы. *Саху́ падапры́, а то нахілі́ласа, тын абру́шыць і цібê заб'е́.* Чапліцы.

*Ві́лы* (Дзярж.), *саха* (Шатэрнік).

**САХО́Р** *м., -а*; **САХАРЫ́** *мн.* Вілы для гною. *Рашкі́, сахо́р – ге́то адно́.* Бучаціна. *Сахаро́м вазьмі́ укі́нь.* Выгода.

**СА́ЧАК** *м., -чка.* Жаночая куртка на ваце ці кудзелі; *са́чак* кароткі (крыху ніжэй пояса), так называецца незалежна ад матэрыялу, з якога пашыты. *Ні йдзі так, адзêнь са́чак. Купі́ла ку́рту, ду́маю са́чак пашы́ць.* Выгода.

**САЮ́ЗКА** *ж., -і*; **САЮ́ЗКІ** *мн.* Нашыўка на насок ці на пад'ём у ботах; пярэдняя частка загатоўкі для абутку. *Трэ́бо чо́баты апсаю́зіць, ды саю́зак німа́.* Семежава.

**СВАТЫ́** *мн., -оў.* Радня маладога. *Уся́ радня́ маладо́го – ге́то сваты́ і сва́хі* [кожны ў адносінах да іншых]. Семежава.

**СВА́ХА** *мн.* Свацця. Семежава.

**СВІ́ТКА** *ж., -і*; **СВІ́ТКІ** *мн.* Жаночая куртка на ваце ці кудзелі; *сві́тка* кароткая (крыху ніжэй пояса). *Адзêнь маю́ сьві́тку і зьбêгай у магазі́н. Ш чо́ртавай ко́жы са́ма лêпш сьві́тка.* Выгода.

**СВЯРДЗЯ́ДЛА** *н., -а*; **СВЯРДЗЯ́ДЛЫ** *мн.* Люстэрка. *Вазьмі́ сьвердзя́дло ды пагледзі́са.* Семежава.

Слова ў такім значэнні ўжываецца толькі ў Семежаве.

**СЕРДАВА́ЦЬ** *незак.* Злавацца, крыўдаваць. *А ён на цябе́ ні серду́е.* Семежава.

Сінонім *гневацца, злавацца.*

**СЕ́РНІК** *м., -а*; **СЕ́РНІКІ** *мн.* Запалка. *Дай адзі́н се́рнік.* Семежава.

*Сярнічка* (Шатэрнік), *запа́лка* (Дзярж.).

**СЕ́ЧКА** *ж. толькі адз., -і.* Сечка; дробна парэзаная салома на корм жывёле. *Ма́быць, сêчку рэ́жуць.* Жываглодавічы.

*Сечка* (Дзярж., Шатэрнік).

**СЁНЕЧЫ** *прысл.* Сёння. *Сёнечы ўжэ ні прыêдзе.* Танежыцы. *Ма́быць, дошч сёнечы бу́дзе.* Бучаціна. *Ду́шно сёнечы, хай ено́ шча́хне.* Смалічы.

**СІНЮ́ШКА** *ж., -і.* Лучына для абіўкі сцен пад тынкоўку. *Надра́ў сіню́шкі.* Семежава.

*Сіню́ха* (Шатэрнік), *лучына* (Дзярж.).

**СІПА́ЦЬ** *незак.* Губляць голас. *Сіпа́е ена́.* Семежава.

**СКВАРЭ́Ц** *м., -рца́*; **СКВАРЦЫ́** *мн.* Шпак. *Скварцы́ ско́ро прылецяць.* Семежава.

Слова *шпак* вядома з літаратуры, яго ўжываюць вучні, і то не часта.

*Шпак* (Дзярж.).

**СКІ́БКА** *ж., -і*; **СКІ́БКІ** *мн.* Луста, скібка. *Атрэ́ш скі́пку хлêба ды дай дзіця́ці.* Семежава.

*Скі́бка* (Шатэрнік), *луста* (Дзярж.).

**СКО́ЧКА** *ж., -і*; **СКО́ЧКІ** *мн.* Блыха. *Ско́чка то́лькі ска́чэ, ды мо уку́сіць калі́, а блыха́ до́бра аб'êсьць.* Танежыцы. *Лêтам ско́чкі, ма́быць, сь песку́ беру́цца – памые́ш ха́ту, а ены́ йзноў на но́гі ска́чуць.* Веска.

**СКРУ́ЦІЦЦА** *зак.* Ашалець. *Карова скруці́лася, ёй, як ліну́лі вады́, дык і ко́нчылася.* Выгода.

**СКРЫ́НЯ** *ж., -і*; **СКРЫ́НІ** *мн.* 1. Вялікі куфар, у якім захоўваецца адзенне, палатно, пасцельныя прыналежнасці і інш., куфар часта з кольцамі. *Прынесі́ са скры́ні пакажы́ по́сьцілкі. Мо ў скры́ню палажы́лі.* Семежава. *Са́ма харо́шша та́я, што вы́несла ў скры́ню.* Старына. 2. Частка *ты́на*; забітыя ў дно студні дошкі. *До́бру скрыню зрабі́лі з до́бувых до́сак.* Чапліцы.

**СЛО́ІК** *м., -а*; **СЛО́ІКІ** *мн.* Шкляная банка. *Гэ́такі сло́ік разьбі́ла.* Макраны. *Пазы́ч сло́іка у О́лькі.* Выгода.

**СÔШКА** *ж.*, *-і*; **СÔШКІ** *мн.* Сошка, акучнік; плужок для акучвання бульбы. *Сôшкаю карто́плю ганя́юць, граду́сікі ро́бяць.* Смалічы.

**СПАЛАКА́ЦЬ** *зак.* Спаласнуць, памыць. *Нêмец да таго́ чы́сто спалака́ў, што ніч́ого ні астало́со.* Старына.

**СПЕХ** *м.*, *-а*; **СПЕ́ХІ** *мн.* Прасліца, гліняны ці алавяны дыяметрам у 5–7 см дыск з адтулінай у цэнтры, які адзяваецца на верацяно, калі прадуць, каб яно даўжэй круцілася. *Адзêнь мой сьпêх, я ні пра́сьціму.* Семежава.

**СПЕ́ШКА** *ж. толькі адз.*, *-і.* Сорт ранняй скараспелай бульбы. *У агаро́дзе сьпе́шкі пасадзі́лі. Мы свае́ сьпе́шку ужэ́ капа́ем.* Танежыцы.

**СПІ́ЧАК** *м.*, *-а*; **СПІ́ЧКІ** *мн.* Запалка. *Дай адзі́н сьпі́чак, агне́ німа́ чым запалі́ць, за́ўтра купі́ць трэ́бо. Ні аднаго́ сьпі́чка німа́.* Выгода. *Сьпі́чак не́дзе ўпа́ў.* Семежава.

**СПЛЕХАВА́ЦЬ** *зак.* Збіць, утрамбаваць, зрабіць шчыльным. *Землю́ сплехава́ло, як тôк.* Бучаціна.

**СТАЛЮ́ГА** *ж.*, *-і*; **СТАЛЮ́ГІ** *мн.* Казлы для распілоўкі дошак. *На сталю́гі пало́жым кало́тку.* Семежава.

*Сталю́гі* (Дзярж.).

**СТАЛЬНІ́ЦА** *ж.*, *-ы*; **СТАЛЬНІ́ЦЫ** *мн.* Кухонная дошчачка, на якой рэжуць сала, мяса, крышаць капусту, цыбулю і інш. *Зрабі́ мнê стальніцу но́ву, ге́та раскало́лася.* Выгода.

**СТАН** *м. толькі адз.*, *-а.* Стан, фігура (чалавека). *Е́на ні брытка́я ста́нам.* Семежава.

**СТАЎПЦЫ́** *мн.*, *-о́ў*; **СТАЎПЕ́Ц** *м.* Стойкі варот; вертыкальныя слупкі варот, якія служаць для ўмацавання гарызантальных планак *варот. Раскало́ўсе стаўпе́ц.* Выгода.

**СТАЦІ́ВА** *мн.*, *-аў.* Асноўная частка ткацкага станка, на якой мацуюцца ніты, бёрда, навой, панажы і інш. *За мае́ па́мець было́ на́чэй, стацівôў ні было́, у зе́млю убіва́лі сôшкі і на іх кла́лі навôйчык, а наво́й – на ла́ву.* Веска.

**СТАЯ́Н** *м.*, *-а*; **СТАЯ́НЫ** *мн.* Грубка, стаяк. *Стая́н пабелі́лі.* Семежава.

*Стаяк* (Дзярж., Шатэрнік).

**СТО́ЛАК** *м.*, *-лка*; **СТО́ЛКІ** *мн.* Услон; нешырокая і нядоўгая лаўка, якая звычайна стаіць каля стала. *Палажы́ на сто́лак, прынесі́ с ку́хні сто́лак. Мо́жэ сто́лак блі́жай патсу́нуць.* Выгода.

**СТО́ЎБІКІ** *мн.*, *-аў*; **СТО́ЎБІК** *м.* 1. Частка варот. Выгода. 2. Стойкі варот; вертыкальныя слупкі варот, якія служаць для ўмацавання гарызантальных планак *варот. Пакало́ліся сто́ўбікі ў варо́тах.* Макраны.

**СТУДЗЯНІ́НА** *ж. толькі адз.*, *-ы.* Квашаніна, халоднае (страва). *Несі́ студзені́ну на стôл.* Бучаціна.

Сінонімы *квашані́на; дрыгва, засту́дзіны* (Дзярж.).

**СТУ́ДНЯ** *ж.*, *-і*; **СТУ́ДНІ** *мн.* Студня, калодзеж. *Каля сту́дні стаі́ць.* Танежыцы. *Сваю́ сту́дню зрабі́лі.* Выгода.

**СУГНЕ́Й** *м.*, *-я*; **СУГНЕ́І** *мн.* Суровы, негаварлівы чалавек. *Седзі́ць, як сугне́й, у свае́й ха́це, ніко́лі к людзя́м ні вы́йдзе.* Бучаціна.

**СУМАРО́КАВАТЫ** *прым.* Суровы з выгляду, строгі, негаварлівы, замкнуты чалавек. *Ён не́йкі сумаро́каваты, усе́ адзі́н і адзі́н.* Бучаціна.

**СУМАРО́КІ** *прым.* Тое ж. *Ець, та́тко, дадо́му, вазьмі́ мене́ с сабо́ю, бо я ні прывы́кну: тут го́ры высо́кі, кало́дзезі глыбо́кіе, сусêдачкі сумаро́кіе* (з песні). Семежава.

**СУ́РАМ** *м. толькі адз.*, *-у.* Сырамятная скура. *Су́рам выкру́чваецца зь дзёхцем.* Семежава.

**СУ́ТАЧКІ** *толькі мн.*, *-чак.* Праход (завулачак) паміж двума будынкамі, накрыты стрэшкаю і прыстасаваны для захавання дроў ці розных прылад. Веска.

**СУ́ТКІ** *толькі мн.*, *-так.* Тое ж. Веска.

**СЦЕ́БАЛКА** *ж.*, *-і*; **СЦЕ́БАЛКІ** *мн.* Мянташка. *Сьце́балку забы́ў.* Бучаціна.

**СЦЕ́НКА** *ж.*, *-і.* Нешырокая дарожка. *Пашла́ па сьцêнцэ.* Семежава. СЦÊНАЧКА *памянш. Іці́мецe пра́мо, а по́тым напра́во сьце́начка така́я бу́дзе.* Семежава.

**СЦЁПКА** *ж.*, *-і*; **СЦЁПКІ** *мн.* Стопка, варыўня. *Сцёпка праце́кае. Трэ́бо страху́ ла́дзіць.* Бучаціна. *Схадзі́ у сьцёпку прынесі́ капу́сты.* Танежыцы.

**СЦЯЖА́Р** *м.*, *-у.* Стажар'е, адонак; подсціл з галля і саломы, на які кладзецца стог. *Сьцежа́р насла́ць трэ́бо, бу́дзем сêно вазі́ць.* Макраны.

**СЦЯЖА́Р'Е** *н.*, *-я.* Тое ж. *Сьцежа́р'е ні забеpы́ ра́зам с сêнам.* Бялевічы.

**СЯ́БЕР** *м.* Пакупнік і прадавец адзін для другога. *Ся́бер: адзі́н нарва́ўса, ду́маў ся́бер бу́дзе, але́ ні купі́ў.* Жываглодавічы.

**СЯРЭ́ДЗІНА** *ж.*, *-ы.* Ніжняя частка спіны, паясніца. *Вы́раш, мі́лы, бярэ́зінку, да на маю́ серэ́дзінку, / Бо ў полі березіна́. / Балі́ць мая́ серэ́дзінка* (з песні). Семежава.

**СЯЎНІ́К** *м.*, *-а́*; **СЕЎНІКІ́** *мн.* Сяўня для ручной сяўбы. *Вазьмі́ сеўні́к, памо́жаш сêець.* Жываглодавічы.

*Сяўня, сявалка* (Шатэрнік).

## Т

**ТАВА́Р** *м. толькі адз.*, *-у.* Свойская жывёла, скаціна. *Тава́р гало́дны не́мо раве́.* Веска. *Гаўя́да і тава́р – уся́ксе гаво́раць.* Бучаціна. *Авадні́ заеда́юць тава́р, як со́нца паднело́са, так і гані́ дадо́му.* Старына. *Калхо́зны тава́р ні пагіба́цьме.* Бялевічы. *Ско́ро тава́р с по́ля пры́дзе.* Жываглодавічы.

**ТАВА́РЫНА** *ж.*, *-ы.* Адна адзінка свойскай жывёлы. *У міне́ ёсь то́лькі адна́ тава́рына.* Жываглодавічы.

**ТАРКО́ВАНКА** *ж.*, *-і.* Бабка, дранка, каша з дранай бульбы. *Зрабі́ за́ўтра тарко́ванкі. Тарко́ванка у нас, а ў Се́межаве – го́па.* Бучаціна.

**ТАЎСМА́ТЫ** *прым.* Пушысты. *Екі́ кôт таўсма́ты.* Танежыцы.

**ТОК** *м. толькі адз.*, *-у.* Пляцоўка для малацьбы ў гумне. *Пшані́ца на таку́ астала́са.* Макраны. *Землю́ сплехава́ло, як тôк.* Бучаціна.

**ТРАЙНЯ́** *ж.*, *-і*; **ТРАЙНІ́** *мн.* Частка павозкі, на якой замацоўваецца *узгало́ўе*; яна працягваецца на ўсю даўжыню павозкі, задняя частка *тро́йні* раздвоена.

*Но́ву трайню́ трэ́бо рабі́ць*. Семежава. *Трайня́ ешчэ́ пахо́дзіць*. Танежыцы.

**ТРАПА́ШКА** *ж*., *-і*; **ТРАПА́ШКІ** *мн*. Падстаўка, на якой трэплюць лён. Семежава.

Такая падстаўка складаецца з уласна падстаўкі, якая стаіць на зямлі (звычайна дошка), дошкі, вертыкальна прымацаванай да падстаўкі, – вышынёй да пояса чалавека. На гэтай дошцы і трэплюць лён.

**ТРО́ІЦЬ** *незак*. Траіць; апрацоўваць зямлю плугам трэці раз. Танежыцы, Семежава. □ *Хто тро́іць, той хлêп кро́іць*. Семежава.

**ТРО́ПАНКА** *ж*., *-і*; **ТРО́ПАНКІ** *мн*. Дзве жмені цёртага лёну. *Жме́ня льну як сатрэ́ць, а калі́ дзьвê жме́ні зло́жыш – тро́панка, як дзьвê жме́ні зло́жаць – трэ́плюць*. Выгода.

**ТРЭ́БО**, **ТРЭ** *прысл*. Трэба. *Мне но́чаўку трэ, а ёй штаны́ трэ́бо. Лека́рства трэ*. Старына. *Тако́му чалаве́ку ні трэ на сьве́це жыць. Пайду́ карто́плю на ве́чэру трэ ш вары́ць. Кашэ́ль ско́ро ні трэ бу́дзе, се́елкамі сêецьмем*. Жываглодавічы.

**ТУК** *м. толькі адз*., *-у*. Жыр з прэжанага сала. *У тук памачы́ў і кату́ даў*. Бучаціна. *Каўбаса́ уве́сь тук вы́качала*. Старына.

*Тлустасць* (Дзярж.).

**ТУЛЯ́ЦЦА** *незак*. Хадзіць без работы, аціраццa. *Туля́ецца пазавуго́лью, а на рабо́ту ні йдзе*. Семежава.

**ТЫН** *м*., *-а*; **ТЫНЫ́** *мн*. Зруб студні. *Саху́ пада́пры́, а то нахілі́ласа, тын абру́шыць і цебе́ заб'е́*. Чапліцы. ◊ ПЛОТ З ТЫ́НАМ. Спосаб укладкі плота, разнавіднасць плота. *Плот с ты́нам – пла́шкі заклада́юцца ў шу́лца*. Семежава.

*Зруп* (Дзярж.).

## У

**УГЛЕ́ДЗЕЦЬ** *зак*. Убачыць. *Калі́ угле́дзіш Мікала́я, скажы́, кап дадо́му йшоў*. Веска.

**УДАВА́ЦЬ** *незак*. Даносіць. *Я бая́ўса, набра́ў дзе́рава, а ста́расту сказа́лі, ён на міне́ напа́ў, але́ я зна́ю, хто ўдава́ў*. Семежава.

*Удаваць, удаць* (Дзярж.).

**УДА́ЦЬ** *зак*. Данесці. Семежава.

**УДЫ́РЫЦЦА** *зак*. Стукнуцца, выцяцца аб што-н. *Уды́рыласа ў столп*. Жыліхава.

**УЗА́ЎТРА** *прысл*. Заўтра. *Піса́цьмуць уза́ўтра*. Семежава.

**У́ЗГАЛАЎЕ** *н*., *-я*; **У́ЗГАЛАЎІ** *мн*. Частка павозкі, замацаваная на пярэдняй і задняй частках *трайні́*, разам з апошняй складаюць аснову павозкі. *Трэ́бо меня́ць перэ́днее і за́днее у́згалаўе*. Семежава.

*Во́зглаўе* (Дзярж.).

**УКЛАДА́НЬЕ** *н. толькі адз*., *-я*. Спосаб ткання посцілак, калі кожны ўзор выкладаецца. *Уклада́ньем ця́шко ткаць, гêто тôлькі хто ўмêе*. Веска.

Пры тканні гэтым спосабам ніткі намотваюцца не на *цэ́лкі*, а ўюцца ў *матру́шкі* – невялікія маточкі. Пры тканні посцілак са шматкаляровым узорам выкарыстоўваецца столькі *матру́шак*, сколькі ёсць колераў. Нітка таго ці іншага колеру праходзіць не праз усю шырыню тканіны, а толькі на пэўным участку, дзе патрабуе ўзор, таму з адваротнага боку тканіны такія ж узоры, як на вонкавым баку, толькі яны маюць колер *асновы*.

**УКРО́П** *м. толькі адз*., *-у*. Укроп (расліна). *С укро́пам агуркі́ смашнêйшые*. Танежыцы.

**УКРО́П** *м. толькі адз*., *-у*. Вар, кіпяток. *Укро́п на кі́пень гаво́рацъ, то́лько стары́е*. Веска.

**УЛЕ́ХЦЫ** *прысл*. З пустым возам. *Уле́хцы прыêхаў*. Макраны.

**УРУ́НА** *ж. толькі адз*., *-ы*. Рунь. *Харо́ша ўру́на – до́брае жыто бу́дзе*. Танежыцы.

*Рунь* (Дзярж.).

**УСЕ́НЬКІ** *займ*. Увесь, поўнасцю. *Усе́нькі торф спалі́ла, усе́нькіе дро́ва*. Семежава.

**УСЯ́КСЕ** *прысл*. Усяк. *Уся́ксе было́*. Веска. *Гаўя́да і тава́р – уся́ксе гаво́рацъ*. Бучаціна.

**УХАДЗІ́ЦЦА** *зак*. Дагледзець гаспадарку; закончыць штодзённую працу па гаспадарцы вечарам. *Ухадзі́ласа сёня ра́но*. Семежава. *Ешчэ́ ні ухадзі́ласа. Кап дзêўка, так ухадзі́ласа п ужо́*. Веска.

*Агле́дзіцца* (Дзярж.).

**УЦІРА́ЛЬНІК** *м*., *-а*; **УЦІРА́ЛЬНІКІ** *мн*. Ручнік. *Уціра́льнік — што выціра́цца, а рушні́к на іко́нах*. Бучаціна.

*Ручнік* (Дзярж.).

**УШУ́ШКАЦЦА** *зак*. 1. Адзець многа адзення. *Ушу́шкаўса, як мядзьвêдзь*. Веска. 2. Доўга збірацца. *Паку́ль ты ушу́шкаесса, так і йці бу́дзе по́зно*. Танежыцы.

## Х

**ХАДЗІ́ЦЬ** *незак*. 1. Хадзіць, рухацца. *Стары́, а хо́дзіць, што ні уся́кі малады́ спра́віцца*. Танежыцы. 2. Пасвіцца. *Дзê сёнечы каро́вы хо́дзяць*. Веска. 3. Прыгожа апранацца. *Цепе́р лêпш жыве́цца, малады́е лêпш хо́дзяць, як даўнêй паны́, паны́ так ні адзева́ліса*. Жыліхава. 4. Заляцацца. *Алёша да не́йкае у Замагілле хо́дзіць*. Семежава.

**ХАЛА́Т** *м*., *-а*; **ХАЛАТЫ́** *мн*. Від мужчынскага адзення. *Хала́т ро́бецъ с сукна́, ён нацега́ецца на кажу́х ад дажджу́ ці сьнегу́*. Выгода.

**ХАЛЕ́ПА** *ж. толькі адз*., *-ы*. Непагода, мокры снег. *Така́я хале́па, на двор ні хо́чацца выла́зіць*. Семежава.

**ХВАТА́ТАЦЬ** *незак*. 1. Хапаць, вырываць. *Што ты хвата́еш с-пад рук, мнê самôй трэ́бо*. Бялевічы. 2. У дастатковай меры, многа. *Гро́шай его́ хвата́е*. Смалічы. *У нас ваўко́ў хвата́е*. Старына. *Гало́ш хвата́е цепер у магазі́нах*. Семежава.

**ХРА́ПА** *ж*., *-ы*; **ХРА́ПЫ** *мн*. 1. Качарэжка. *Хра́па – на чôм галоўка капу́сты расьце́ і ў серэ́дзіне ў гало́ўца*. Бучаціна. 2. Храпка. Бучаціна.

## Ц

**ЦВЯЛІ́ЦЬ** *незак*. Дражніць, уводзіць у злосць. *Ні пацьве́львай, ні цьвелі́са, а так уку́сіць*. Веска.

**ЦЕ́РАЗ** *прыназ*. Цераз, праз. *Два браты́ цераз даро́гу жыву́ць – адзі́н друго́га ні ба́чаць* (загадка).

Смалічы. *Цераз пе́нь, кало́дзіну ламáла я смуро́дзіну.* [Немец] *біў пра́мо цераз дзерэ́ўню на рôх ле́су.* Смалічы. *Не́льга цераз рэку́ пераêхаць.* Макраны.

**ЦЕ́РНІЦА** *ж., -ы;* **ЦЕ́РНІЦЫ** *мн.* Мяліца, мялка. *Це́рніц цепе́р ні ро́бяць, то́лькі ў каго́ старые́.* Смалічы, Старына.

**ЦЁМНАЧЫ** *прысл.* Упацёмку, у цемнаце. *Прыêхаў цёмначы.* Веска.

**ЦІВО́СЯ** *прысл.* Нядаўна. *Ціво́ся тут быў.* Танежыцы.

**ЦУКЕ́РАК** *м., -а;* **ЦУКЕ́РКІ** *мн.* Цукерка. *Цуке́рак засêў у зу́бі. Ні трэ́бо цуке́ркаў прасі́ць.* Макраны.

**ЦУ́РКА** *ж., -і;* **ЦУ́РКІ** *мн.* 1. Нятоўсты кароткі кіёк, пры дапамозе якога вяжуць *кулі́. Ты і с цу́ркаю так ні зьвя́жаш, як я рука́мі.* Бучаціна. 2. Усякая шчэпка. *Падняў цу́рку да ў сабаку.* Бучаціна.

**ЦЭ́ЛКА** *ж., -і;* **ЦЭ́ЛКІ** *мн.* Цэўка. *Усё цэ́лкі заня́ты, пайдзі́ папрасі ў Мару́сі. Тры цэ́лкі насукáла. Чырво́нага* (чырвоных нітак) *то́лькі адна́ цэ́лка засталáса.* Семежава. *С арэ́шыны цэ́лкі ро́бяць.* Веска. *Не сучы́ цэ́лак.* Бучаціна.

**ЦЯ́ВЕ**, **ЦЯЎЕ́** *н., -я.* Націнне, цяўнік. *Прынесі́ цяў́е сьвіня́м.* Танежыцы. *Ця́ве – ге́то сьцеблі́на зь ліста́мі.* Веска.

**ЦЯ́ВІНКА** *ж.* ◊ ЯК ЦЯВІ́НКА. Вельмі худы. *Зрабі́ўся як цяві́нка.* Бучаціна.

**ЦЯГНУ́ЦЬ** *незак.* Цягнуць. *Вераўка́мі па рацэ́ бервéна цегну́лі, цеглі́ напро́ціў ва́ды.* Семежава.

**ЦЯГЦІ́** *незак.* Тое ж. Семежава.

**ЦЯПЕ́РАЧЫ** *прысл.* Цяпер, зараз. *Цепе́рачы ты схадзі́ прынесі ва́ды.* Бучаціна. *Цепе́рачы дроў прывезу́ць.* Макраны.

**ЦЯ́ЎНІК** *м., -у.* Націнне; сцёблы агародных раслін. Веска.

*Цяце́ўнік* (Дзярж.).

## Ч

**ЧАКЕ́ТНЫ** *прым.* Зроблены з частаколу (ялавага суччa). Танежыцы, Бялевічы.

*Частакол* (Дзярж.).

**ЧАКЕ́ТЫ** *мн., -аў.* Частаколіны (яловае сучча), з якога зроблены *чаке́тны плот.* Танежыцы, Бялевічы.

**ЧАКЕ́ЦІНЫ** *мн., -ін;* **ЧАКЕ́ЦІНА** *ж.* Тое ж. Танежыцы, Бялевічы.

*Частако́ліна, частако́л* (Дзярж.).

**ЧАЛАВЕ́К** *м., -а.* Муж. *Мой чалаве́к верну́ўся зь Мі́нска.* Семежава.

**ЧАРАЎЗНО́** *н., -а.* Вялікі жывот. *Ну й чараўзно́ вы́гадаваў.* Семежава.

**ЧАСТКО́Л** *м., -у.* Частакол. *Дубо́выя калы́, адзі́н кане́ц заго́страны і убі́ты у зе́млю, зьве́рху перапле́таюць ду́бам.* Семежава.

**ЧО́БАТЫ** *мн., чабо́т;* **ЧО́БАТ** *адз.* Чобаты, боты. *Па шарашэ́ ва́ленкі ці чо́баты пар́эжаш, як ба́чыш. Трэ́бо чо́баты апсаю́зіць, ды саю́зак німа́. Чабо́т ні уне́сьлі маі́х.* Семежава.

## Ш

**ШАЛЯНО́ВЫ** *прым.* Шарсцяны (пра хустку ў кветкі). *Я п сабê шалено́вую ху́стку купі́ла.* Семежава.

**ШАМАТУ́НЧЫКІ** *мн., -аў;* **ШАМАТУ́НЧЫК** *м.* Званочкі. *Як весе́ле – ш шамату́нчыкамі маладу́ю везу́ць.* Семежава.

*Шамкі* (Дзярж.).

**ША́ПКА** *ж., -і;* **ША́ПКІ** *мн.* 1. Жаночы галаўны убор, чапец. *З галавы маладо́й скіда́юць ва́лен і заві-ва́юць у шапку завіва́льніцы. Ша́пку трэ́бо насі́ць да сьме́рці.* Семежава. 2. Сноп, якім накрываюцца астатнія снапы *ба́бкі.* Семежава.

**ШАРО́Н** *м. толькі адз., -у́.* Шарон; ледзяная скарынка на снезе пасля адлігі. *Па шарану́ до́бра йці, ні так права́льваясса.* Танежыцы. *Шаро́н – ге́то лёт на сьнêгу.* Жываглодавічы.

**ШАРО́Ш** *м. толькі адз., -у́.* Тое ж. *Па шарашу́ ва́ленкі ці чо́баты пар́эжаш, як ба́чыш.* Семежава. *Шаро́ш сёнечы бу́дзе: по́сьле атле́гі маро́с узя́ўса.* Бучаціна.

**ШАСТУ́Н** *м., -а́;* **ШАСТУНЫ́** *мн.* Сяннік, матрац, напхнуты саломай ці сенам. *Шастуна́ пайдзі́ напха́й, кап было́ на чôм спаць.* Семежава.

*Сяньнік* (Дзярж.).

**ШО́ПА** *ж., -ы;* **ШО́ПЫ** *мн.* 1. Шафа, звычайна кустарнай работы. *А на́шу шо́пу ні по́мняць хто і рабі́ў.* Бучаціна. *Зачыні́ шо́пу.* Веска. *Адзе́жа асталаса ў шо́пе.* Смалічы. 2. Шкафчык для побытавых патрэб (посуду, хлеба і інш.). *Хлеп вазьмі ў шо́пе.* Семежава.

**ШПАРЫ́** *мн.* ◊ У ШПАРЫ́ ПАЗАХО́ДЗІЛІ РУ́КІ. Боль, паколванне ў пальцах ад пераахалоджвання; аняменне ад холаду. *Ёй шпа́ры пазахо́дзілі у ру́кі. Шпа́ры пазахо́дзілі у рукі́ – ге́то не про́сто памерзлі, а аш ко́ле, баля́ць, як сагрэ́юцца тро́хо.* Веска.

**ШЧА́ВЕ** *н. толькі адз., -я.* Шчаўе. *А дзê у вас шча́ве расьце́? Ён шча́вя ні любіць.* Танежыцы.

**ШЧА́ВЕЛЬ** *м., -ю.* Тое ж. *Шча́вель, у нас шча́вель называ́юць, а ў засьце́нку – шча́ве.* Танежыцы. *Навары́ла шча́велю цэ́лы чыгу́н.* Танежыцы. *Пайдзêм у шча́вель.* Веска. *Шча́велю назьбіра́ць бы до́бра было.* Жываглодавічы.

**ШЫБА́ЦЬ** *незак.* Добра гарэць (пра дровы). *Шыба́юць ве́льмо дро́ва.* Танежыцы.

**ШЫРХО́ЎКА** *ж., -і.* Пярэвітка з вецця, якой звязваюць асобныя звенні плыта (звычайна *кле́йны ў па́су*). *Шырхо́ўка ро́біцца сь семі́ дупцо́ў зь беразаку́, е́ю зьвя́зваюць кле́йны ў па́сы.* Смалічы.

## Я

**ЯЧМЕ́НЬ** *м., -ю.* 1. Від збожжа. *Асьцюко́ў зь ечме́ню налêзло.* Семежава. 2. Хвароба вачэй. *На ве́йку ячме́нь сêў.* Семежава.

**ЯПРУ́К** *м., -а́;* **ЕПРУКІ́** мн. Вяпрук. *Каплаву́хі епру́к.* Семежава.

*І. У. Галуза*

# СКЛАД І АДМЕТНАСЦІ ЎПАРАДКАВАННЯ ЛЕКСІЧНЫХ МАТЭРЫЯЛАЎ ЯЗЭПА ДРАЗДОВІЧА З ДЗІСЕНШЧЫНЫ

На пачатку ХХ стагоддзя на Беларусі пачалася праца па ўкладанні слоўніка жывой беларускай мовы. Спачатку гэтым займаліся Слоўнікавая, Правапісна-Тэрміналагічная і Дыялекталагічная камісіі Інбелкульта, а з 1925 г. пачала працаваць Камісія па ўкладанні слоўніка жывой беларускай мовы, якая ўжо ў верасні 1925 г. выдала «Інструкцыю да збірання народнага слоўнікава-тэрміналагічнага матэрыялу ў беларускай мове»[1] і ў 1928 г. праграму «Як сабраць і ўкласьці слоўнік мовы свайго раёну»[2]. Было распачата ўкладанне краёвых слоўнікаў як непасрэдных складнікаў слоўніка жывой беларускай мовы. З іх былі надрукаваны толькі «Віцебскі краёвы слоўнік» М. Каспяровіча (1927) і «Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны» М. Шатэрніка (1929), іншыя словазборы мелі наступны лёс: слоўнік Мазыршчыны ў лістападзе 1928 г. паступіў для рэдакцыі ў Слоўнікавую Камісію, а слоўнік Калініншчыны толькі часткова быў падрыхтаваны на канец 1928 г.

Трэба адзначыць, што дзейнасць спецыяльна створаных камісій грунтавалася пераважна на калектыўнай краязнаўчай працы: у складанні слоўніка жывой беларускай мовы былі задзейнічаны ўсе дасведчаныя і зацікаўленыя людзі рэспублікі.

Сярод такіх непрафесійных лінгвістаў быў і Язэп Драздовіч, які больш вядомы як мастак, скульптар, педагог, археолаг, этнограф, пісьменнік і астраном. Ён з 1921 г. самастойна пачаў назапашваць слоўнікавы матэрыял, потым Б. Эпімах-Шыпіла выслаў Я. Драздовічу «Інструкцыю», дзякуючы якой можна было збіраць і класіфікаваць лексіку з большай дасведчанасцю, а ў 1926 г. Я. Драздовіч «атрымаў ад Беларускага навуковага таварыства ў Вільні накіраванне на Піншчыну для збору этнаграфічнага і лінгвістычнага матэрыялу сярод палешукоў»[3]. Па захаваных матэрыялах можна меркаваць, што Язэп Драздовіч задумаў па ўласнай ініцыятыве выданне краёвага слоўніка Дзісеншчыны, а пазней і краёвага слоўніка Піншчыны.

Як адзначае Я. Драздовіч у «Агульным спісе этнаграфічнага матэр’ялу, собранага мной (Я. Н. Драздовічам) і высланага у распараджэньне: а) Інстытуту Беларускай Культуры (Інбелкульту) і б) Беларускай Акадэміі Навук (БАН)»[4], то за 1926 г. ён даслаў у Інбелкульт «калекцыю, каля двухсот дробных рыс.[ункаў] графікай, этнаграфічна-лінгвістычнага значэньня, як ільлюстраціі слоўнікавых выданьняў (Галубіччына)», «сшыт картак слоўнікавага матэр’ялу палешуцка-пінчуцкай вымовы (Піншчына)» і за 1926–1927 гг. «альфабэтычны набор картак слоўнікавага матэр’ялу, да слоўніка бел. мовы паўночнага краю Заходняй Беларусі на літ. А і Б (Дзісеншчына)», а вясной 1930 г. Я. Драздовіч даслаў у Беларускую акадэмію навук акрамя мноства іншых фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў «альфабэтычны набор картак слоўнікавага матэр’ялу на літ. Б»[5]. Таксама ў нататніку[6], сярод чарнавых запісаў, ёсць паметы Я. Драздовіча, што за другую палову 1929 г. ён выканаў «~~альфабэтычную апрацоўку у картках літ. «Б»~~ і падрыхтаваў «каля тысячы картак слоўнікавага матэр’ялу на літару «Б» для ~~краёвага слоўні~~ (Дзісеншчына)»[7].

«Краёвы слоўнік Дзісеншчыны» складзены Я. Драздовічам па матэрыялах, якія ён збіраў на Дзісеншчыне на працягу прыблізна 1921–1929 гг.

У рукапісе слоўнік не мае канкрэтнай назвы: гэта або слоўнікавыя матэрыялы на літару Б (або А і Б пазней), або «слоўнік бел.[арускай] мовы паўночнага краю Заходняй Беларусі», або

[1] Інструкцыя для зьбіраньня народнага слоўніка тэрмінолёгічнага матар’ялу ў беларускай мове // Наш край. 1925. № 1. С. 49–53.
[2] Як сабраць і ўкласьці слоўнік мовы свайго раёну // Наш край. 1928. №1. С. 32–46.
[3] Раманюк М. Этнаграфічныя малюнкі Язэпа Драздовіча // Спадчына. 1994. №3. С. 79.
[4] Арфаграфія Я. Драздовіча.
[5] Архіў рэдкіх выданняў Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх. Фонд № 21 «Язэп Драздовіч». Адз. зах. 95. Л. 4.
[6] Тамсама. Адз. зах. 97. Л. 32.
[7] Закрэсленні і арфаграфія Я. Драздовіча.

«краёвы слоўнік», як пра гэта згадвалася вышэй. Для выдання дзісенскіх матэрыялаў намі была абрана назва «Краёвы слоўнік Дзісеншчыны», што, па-першае, адпавядае саставу і характару ахопленага матэрыялу, а, па-другое, падкрэслівае шчыльную сувязь слоўніка Я. Драздовіча з краёвымі слоўнікамі 20-х гадоў М. Шатэрніка, І. Бялькевіча, М. Каспяровіча.

### *Афармленне слоўнікавага матэрыялу Я. Драздовічам*

Язэп Драздовіч падрыхтаваў да друку 975 слоўнікавых картак, якія па змесце можна падзяліць наступным чынам: 1) «Слоўнікавы матэр'ял з Дзісеншчыны. Літ. Б» (165 картак), 2) Слоўнікавы матэрыял з Дзісеншчыны на літары А і Б (469 картак)[1] і 3) Слоўнікавы матэрыял з вёскі Рымкі Пастаўскай вобласці (273 карткі), вёскі Стральцы Гарадзенскага павета (38 картак) і вёскі Лаўрыкавічы Ваўкавыскага павета (30 картак)[2]. Далей у працы для зручнасці прыведзеныя слоўнікавыя матэрыялы будуць называцца Слоўнік на літару Б, Слоўнік на літары А і Б, Слоўнік вёскі Рымкі.

Указаныя 975 слоўнікавых артыкулаў, падрыхтаваныя Я. Драздовічам, складаюцца з наступных частак і маюць такую візуальную форму:

1. ***Рэестравае слова***. Рэестравае слова заўсёды падаецца з вялікай літары, выдзяляецца тлустым шрыфтам, падкрэсліваецца. У загалоўным слове часцей за ўсё пастаўлены націск. Зрэдку адлюстроўваюцца асобныя граматычныя характарыстыкі слова. Так, пасля некаторых назоўнікаў праз злучок падаюцца цалкам формы множнага ліку або часткі асновы формы (часцей за ўсё гэта апошні зычны асновы ў спалучэнні з флексіяй), у якіх таксама, калі змяняецца, указваецца націск. Сабраны словазбор мае алфавітную форму ўпарадкавання, якая, аднак, часта парушаецца ў Слоўніку на літару Б і дастаткова часта ў Слоўніку на літары А і Б.

***Фанетычныя варыянты рэестравага слова***. Фанетычныя варыянты афармлены такім жа чынам, што і загалоўныя словы: выдзяляюцца, падкрэсліваюцца і маюць націск.

***Словаўтваральныя варыянты рэестравага слова*** (***аднакарэнныя словы, што маюць аднолькавае лексічнае значэнне, але адрозніваюцца афіксамі***) звычайна выступаюць як самастойныя рэестравыя адзінкі. Яны размешчаны на асобным радку з малой літары, падкрэсліваюцца, націск маюць у большасці выпадкаў.

***Аднакарэнныя да рэестравага словы, якія адрозніваюцца лексічным значэннем і афіксамі.*** Афармляюцца двума спосабамі: 1) як і загалоўнае слова: асобным радком у слоўнікавым артыкуле, але з малой літары, без націску, 2) у дужках з малой літары адразу пасля рэестравага слова, з націскам.

***Іншамоўныя*** (*польскія, рускія, лацінскія або ўкраінскія*) ***адпаведнікі.*** Змяшчаюцца звычайна пасля рэестравага слова з асобнага радка або ў дужках з малой літары.

2. ***Сэнсавая характарыстыка***. Тлумачэнне рэестравага слова (праз сінонім або апісальна) падаецца з малой літары асобным радком.

3. ***Прыклад***. Прыклад заўсёды прыводзіцца з новага радка з вялікай літары. У слоўніках на літару Б і літары А і Б бярэцца ў двукоссе. У гэтых жа архіўных матэрыялах у большасці выпадкаў над кожным словам у прыкладзе, што мае два і больш склады, указаны націск. У Слоўніку вёскі Рымкі націск над словамі ў прыкладзе ставіцца рэдка, пераважна над асобнымі словамі.

4. ***Лінгвістычны пашпарт***. У Слоўніку на літару Б лінгвістычны пашпарт адсутнічае, у Слоўніку на літары А і Б і Слоўніку вёскі Рымкі прыводзіцца на кожнай картцы («*Дзісеншчына* (*Язэп Драздовіч*)» і «*Вёска Рымкі Пастаўскае гм. Ул. Павалковіч*» / «*Вёска Стральцы, гміна Скідэль, повет Горадзен Міхал Кізевіч*» / «*Вёска Лаўрыкавічы Ваўкавыскага пав.* (*В. Шкодзіч*)» адпаведна).

За выключэннем рэестравага слова асобныя ці ўсе пералічаныя складнікі слоўнікавага артыкула ў аўтара могуць адсутнічаць.

---

[1] Архіў аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі. Фонд № 2 «Язэп Драздовіч». Воп. 1. Адз. зах. 30 «Слоўнікавы матэр'ял з Дзісеншчыны. Літ. Б».

[2] Архіў рэдкіх выданняў Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх. Фонд № 21 «Язэп Драздовіч». Адз. зах. 126 1/2.

### *Будова слоўнікавага артыкула*

Пры падрыхтоўцы да выдання словазбору Язэпа Драздовіча «Краёвы слоўнік Дзісеншчыны» былі ўнесены некаторыя змены ў аб'ём працы лексікографа, у структуру і змест слоўнікавых артыкулаў.

Для ўпарадкавання матэрыялаў была прынята наступная будова слоўнікавага артыкула:

а) загалоўнае слова, б) граматычныя і стылістычныя паметы, в) тлумачэнне значэння ці значэнняў загаловачнага слова, г) прыклад або прыклады, д) фразеалагічнае словазлучэнне або састаўны тэрмін з наяўнасцю ў яго складзе лексічнага кампанента, фармальна тоеснага рэестраваму слову, е) жанрава маркіраваныя тэксты, у склад якіх уваходзіць рэестравае слова, ё) лінгвістычны пашпарт (калі ўказаны складальнікам), ж) заўвагі аўтара адносна значэння зафіксаванага слова.

Рэестравае слова падаецца вялікімі літарамі тлустым шрыфтам, напрыклад: **БУДЖЭ́НЬНЕ**.

Разнастайныя фанетычныя і акцэнталагічныя варыянты загаловачнага слова змяшчаюцца ў адным рэестравым радзе ў парадку, указаным Я. Драздовічам, напрыклад:

**БО́ЛІ**, **БО́ЛІЙ**, **БО́ЛЕЙ**, **БАЛЕ́Й** *прысл.* Больш. *Мно́га – каб яшчэ́ бо́лі. Даў бы й яшчэ́, ды бо́лі ні ма́ю. Ох каб бо́лі. Бале́й за со́тню.*

Загалоўнае слова Я. Драздовіч меркаваў падаваць у фанетычным выглядзе, таму рэестравае слова захоўвае зафіксаваную аўтарам асімілятыўную мяккасць зычных і пазіцыйнае чаргаванне па звонкасці-глухасці. Літара «J» на пачатку некаторых загалоўных слоў, а таксама ў прыкладах заменена на «Й (й)».

Пасля рэестравага слова падаюцца граматычныя і стылістычныя паметы.

Пры наяўнасці ў аўтара дзвюх памет, граматычнай і стылістычнай, яны размяшчаюцца пасля рэестравага слова і выдзяляюцца курсівам, напрыклад:

**БРУХА́Ч** *м. пагардж.* Пра чалавека з вялікім жыватом.

Вытворныя ад загалоўнага слова, якія маюць памяншальную або памяншальна-ласкальную форму, змяшчаюцца ў адным слоўнікавым артыкуле пасля асноўнага (асноўных) значэнняў. Пры наяўнасці некалькіх ацэначных форм да адной рэестравай адзінкі яны пералічваюцца ў адным радзе:

**АХА́ПАК**, **АХО́ПАК** *м.* Абярэмак; такая колькасць чаго-н., якую можна панесці, абхапіўшы дзвюма рукамі. *Ухапі́ў ма́ліц дзе́ўку у ахо́пак і панёс.* АХА́ПАЧАК *памянш.-ласк. Аха́пачак сена.*

**СЕРМЯ́ГА** *ж.* Сярмяга. СЕРМЯ́ЖКА, СЕРМЯЖО́НКА *памянш.-ласк.*

Пры немагчымасці дакладна ўстанавіць значэнне слова (або азначэнне Я. Драздовічам не ўказваецца, або не зусім выразны прыклад) даецца значэнне слова, пасля якога ў круглых дужках ставіцца пытальнік, напрыклад:

**БРЭ́ДЗІЦЬ** *незак.* Ілгаць (?), выклікаць агіду (?). *Я на яе́ ніко́лі на́ват «брэ́дзіш» ні сказа́ла.*

Лексемы з аднолькавым значэннем, але з адрознымі словаўтваральнымі афіксамі даюцца асобнымі артыкуламі. Калі такія словы па алфавіце размяшчаюцца адно за другім, то выкарыстоўваецца памета «Тое ж», напрыклад:

**БЫДЛІНА́** *ж.* Адна свойская жывёліна.

**БЫДЛЯ́** *ж.* Тое ж.

Пры аддаленасці адзін ад аднаго семантычна тоесных абазначальных сродкаў іх значэнне паўтараецца:

**БРАХЛО́** *н. пагардл.* Хлус, манюка. *Ня ве́р ты гэ́таму брахлу́, пустабро́ху.*

**БРАХУ́Н** *н. пагардл.* Хлус, манюка.

Калі адно са значэнняў мае абмежаваную семантыку, то такое ўдакладненне бярэцца ў круглыя дужкі, напрыклад:

**БУЙНЫ́** *прым.* 1. Буйны (пра дождж). *Буйны́ дождж.* 2. Урадлівы (пра зерне). *Буйно́е зярно́, буйны́і зе́рніты.* 3. Пародзісты, вялікі (пра свойскую і нясвойскую жывёлу). *Буйна́я скаці́ніна.*

Графічна вылучаюцца сінтаксічна звязаныя канструкцыі (фразеалагізмы і састаўныя тэрміны), яны падаюцца вялікімі літарамі, напрыклад: ◊ НОС ЯК БУ́ЛЬБІНА.

Фразеалагізмы афармляюцца ў межах рэестравага слова і змяшчаюцца пасля ўказання ўласна лексічнага значэння (значэнняў) абазначальнага сродку, аднак прыведзеныя збіральнікам асобныя сінтаксічныя канструкцыі, асаблівая тыя з іх, у складзе якіх змяшчаецца параўнальны кампанент, часам падаюцца спрэчнымі. Для падкрэслівання іх асаблівага намінатыўнага статусу выкарыстоўваецца спецыяльны сімвал ◊:

**ГАДЗІ́НА** *ж.* ◊ ШЭ́РАЯ ГАДЗІ́НА. Змрок вечарам пасля захаду сонца. *На шэ́рую гадзі́ну ля́мпу запа́ліваюць.* Рымкі Паст.

Калі тлумачэнне рэестравага слова адсутнічае ў Я. Драздовіча, то адразу пасля адпаведных граматычных і стылістычных памет змяшчаецца сінтаксічна звязаная канструкцыя. Тлумачэнне сінтаксічна звязанай канструкцыі прыводзіцца ў тым выпадку, калі яно ёсць у Я. Драздовіча; у адваротным выпадку такая канструкцыя пакідаецца без тлумачэння. Напрыклад:

**БОЙ** *прым.* ◊ *Бо́й-ба́ба, ба́ба-бо́й.* Адважны, бойкі на язык (звычайна пра жанчыну).

Састаўныя тэрміны падаюцца ў межах слоўнікавага артыкула таго рэестравага слова, да якога матывацыйна адносяцца, і змяшчаюцца пасля ўказання лексічнага значэння (значэнняў) такіх намінатыўных адзінак. Для выдзялення састаўных тэрмінаў выкарыстоўваецца сімвал ○, напрыклад:

**БАРТАВЫ́**, **БАРЦЯВЫ́** *прым.* ○ БАРТАВЫ́Я (БАРЦЯВЫ́Я) ПЧО́ЛЫ. Дзікія пчолы.

Калі ў якасці ілюстрацыі выкарыстоўваецца прыказка, прымаўка, праклён або жарт і іншыя народныя афарызмы, то такі маркіраваны тэкст змяшчаецца звычайна з чырвонага радка пасля слоўнікавага артыкула. Прыказкі і прымаўкі не дыферэнцуюцца, вылучаюцца адным спецыяльным знакам □, прыналежнасць іншых маркіраваных выслоўяў адпаведнаму жанру адзначаецца ў дужках (калі на гэта ёсць спасылка ў Я. Драздовіча), напрыклад:

**БОК** *м.* 1. Напрамак на мясцовасці. *У гэ́тый бок, у той бок, у тым баку́ – на по́ўнач.* 2. Прастора злева і справа. *На тым баку́ ракі́. На пра́вым баку́ Дзісе́нкі. На той бок пу́шчы.* 3. Мясцовасць, краіна. *Што ў ва́шым баку́ чува́ць, хвалі́цыся.* 4. Правая ці левая частка тулава. *Ні кладзі́ся на ле́вым баку́ – сэрцу ніздаро́ва.*

*Каб табе́ ску́лы ў бок* (праклён). □ *Ці се́на клок ці ві́лы ў бок.*

Таксама ў дужках, калі гэта адлюстравана Я. Драздовічам, можа быць запісана тлумачэнне дадзенага выслоўя (складальнік толькі на жарт са словам «*бубка*» падае тлумачэнне).

Заўвагі аўтара, калі толькі яны маюць важнасць як звесткі этнаграфічнага ці іншага характару або з'яўляюцца каштоўнымі фактамі ў філалагічных адносінах, захоўваюцца. У такіх выпадках яны падаюцца з чырвонага радка і вылучаюцца меншым памерам шрыфту. Калі пэўная заўвага адносіцца да канкрэтнага значэння мнагазначнага слова, то гэта ўказваецца перад адпаведнай заўвагай. Напрыклад:

**БУ́ДКА** *ж.* 1. Невялікая пабудова для начлежнікаў або начных канапасаў. *Начле́зьніцкая бу́дка.* 2. Збітае з дошак жыллё для сабакі. *Бу́дка саба́чая.*

Да 1 значэння: Прыземістая саламянная або з хворасту страха для начлезьнікаў, начных канапасаў.

Да 2 значэння: Крытае ад ветру і дажджу лаўжо для сабакі.

Круглыя дужкі выкарыстоўваюцца ў заўвагах Я. Драздовіча, калі яны ёсць у арыгінале. Ва ўсіх астатніх выпадках выкарыстоўваюцца квадратныя дужкі.

### *Сэнсавая характарыстыка*

Усе слоўнікавыя артыкулы, уключаныя аўтарам у названыя словазборы, маюць тыповую структуру і складаюцца з рэестравага слова, яго семантыкі і прыкладу на словаўжыванне. Але, улічваючы тэхнічную неаднастайнасць афармлення слоўнікавага матэрыялу, а таксама асаблівасці тлумачэння, можна выразна падзяліць усе матэрыялы на дзве адрозныя групы: першую складаюць слоўнікі на літару Б і літары А і Б, а другую – Слоўнік вёскі Рымкі. З гэтай прычыны ўказаныя слоўнікавыя матэрыялы будуць характарызавацца асобна.

## Аналіз артыкулаў Слоўніка на літару Б і Слоўніка на літары А і Б

Слоўнікавыя матэрыялы ахопліваюць часткова літару А і цалкам літару Б. Аналіз указаных слоўнікавых артыкулаў паказаў вялікую неаднастайнасць падачы тлумачальнага матэрыялу Я. Драздовічам. Разам з тым умоўна можна вылучыць тры асноўныя спосабы раскрыцця значэння, выкарыстаныя аўтарам:

1) да рэестравага слова абавязкова дадаецца яго тлумачэнне і прыклад на ўжыванне, а таксама могуць дадавацца іншыя сродкі сэнсавай характарыстыкі (напрыклад, рускі адпаведнік, вытворныя словы, адсылачныя паметы і пад.);

2) да рэестравага слова абавязкова дадаецца толькі яго тлумачэнне, якое можа суправаджацца дадатковымі сродкамі сэнсавай характарыстыкі;

3) значэнне рэестравага слова раскрываецца або праз прыклад у некаторых выпадках, або толькі праз нейкі дадатковы сродак сэнсавай характарыстыкі.

1. Асноўнымі часткамі слоўнікавага артыкула з’яўляюцца ***рэестравае слова, яго семантыка і прыклад на ўжыванне***:

**Арганíсты**
Касьцельны музыкант на арганах.
Я ні арганíсты – ні перабіраю́.
Дзісеншчына (Я. Драздовіч)[1]

**Бунтаўшчы́к**
Бунтар, муціцель
Што ты мне маю́ сямью́ бунту́іш, бунтаўшчык!

Да пералічаных кампанентаў у якасці *дадатковай сэнсавай характарыстыкі* могуць дадавацца:

а) *рускі або польскі або рускі і лацінскі адпаведнікі*:

**Анэ́гды**, **(anégdy)**
Надовічы, надоінь, анадоінь.
Анэ́гды я быў на кірма́шы.

**Ару́д**, **ару́ды**
Сьвіронныя засекі.
рас. Закром, закрома.
По́він сьві́ран дабра́. Усе ару́ды збо́жжам ~~пазасыпаны~~ засыпаны.

б) *дыялектныя сінонімы* да рэестравага слова, якія часцей за ўсё змяшчаюцца ў межах тлумачальнай часткі слоўнікавага артыкула, але могуць быць таксама і ў прыкладзе:

**Анадо́інь**
*Надо́ічы*, *надо́інь*, *анады́сь* – нінадта даўна, на днях.
Ні та́к даўна, анадо́інь.

**Бе́ліва**
1) працэс выбеляваньня саматканага палатна.
2) мало́чная закра́са е́жы, *забе́лка* е́жы малако́м.
бе́ліва ні хапі́ла.
Ні зьліва́й усяго́ малака́ (у стаўбу́н), аста́ў часьць на бе́ліва (на *забе́лку*).

➢ *словаўтваральныя варыянты загалоўнага слова*, якія змяшчаюцца праз коску або ў дужках пасля рэестравага слова:

**Баце́ны**, **баце́нкі**
Жаласьліва-ласкальны назоў боцікаў.
Аста́тніі баце́нкі панёс у заста́ву.
Адны меў баце́ны, і ты́і знасіліся. Німа за што спра́віць.

**Блеў**, **блея́ньне (бліяньне)**
Авечча гук «Бя-а-а!»
Аве́чкі разбія́ліся, бляю́ць… Чуваць іхны блеў.

➢ *рад вытворных ад рэестравага слова*, што прыводзяцца ў дужках на наступным радку пасля загалоўнага слова:

**Аса́да**
(*Аса́да*, *аса́дка*, *-кі*, *аса́джанае*).

---

[1] Тут і далей па тэксце прыводзяцца слоўнікавыя артыкулы Я. Драздовіча. Усе яны падаюцца з захаваннем аўтарскай формы запісу (асіміляцыйная мяккасць, правапіс звонкіх і глухіх, *у* і *ў кароткага*, ужыванне літар *j* і *й* захавана без змен). Правапіс *не/ні*, вялікай літары і расстаноўка знакаў прыпынку прыводзяцца ў адпаведнасці з правіламі сучаснай беларускай мовы. Улічваючы, што амаль паўсюдна ў аўтара захоўваецца пашпартызацыя матэрыялаў, намі ў наступным запіс «Дзісеншчына (Я. Драздовіч)» паўтарацца не будзе.

Аправа.
Абраз у пазало́чанай аса́дзе.
Гэ́баль (лязо́) аса́джан у гладкую кляновую асаду.

➢ *адсылачная памета* «гл.»:

**Бада́й**
Гл. сл. Багда́й
Узмацоўнік заганутага, прадпало́жанага.
Бада́й што нічо́га з гэ́тага ня вы́йдзіць.

**Бліне́ц, -нцы́**
Ценкля́ва сьпечаныя бліны.
Падай, ба́бка, сюды́ блінцы́ са сьміта́най
(Гл. сл. блін і аладка).

➢ *адзінкава памета* «тое самае, што й»:

**Бало́тны**
*Тое самае, што й* Лаза́ты
Чорт ты бало́тны!

➢ *адзінкава ўказанне на паходжанне рэестравага слова або ад якога слова, на думку аўтара, яно утворана*:

**Алага́джваць**
(*ад сл. лаго́днасьць*)
Алаго́дзіць, задабрыць, вызваць прыемнае пачуццё.
Алага́джавай яго, як ту́ю ску́лу благу́ю, каб ні расквя́ліць.

**Бай**
(Бай, ба́йка, ба́сьня, краснабай).
Цар ба́як.
Безканечніца а баю:
Јшоў Бай па сьцяне́,
Нёс сямёра лапце́й,
І мне́, і жане́,
Ј дзяцёнку па лапцёнку.
Ці ба́іць ці не?
-Бай!... Ј ты ка́жаш – бай,
І я кажу бай…
Јшоў бай і г. д.
*Паходж. ад арабск.* «*Бей*», «*Бэй*», «*Бай*».

Адзначым, што пералічаныя сродкі дадатковай сэнсавай характарыстыкі часта спалучаюцца, напрыклад, падаецца рад вытворных і рускі адпаведнік або дыялектны сінонім і памета *гл.* і інш.

Непаслядоўнасць адлюстравання матэрыялу выяўляецца галоўным чынам у наступным:

а) *азначэнне падаецца на рэестравае слова, а прыклад – на вытворнае*:

**Аржа́**
Јржа́
*Аржа́вае* зяле́за – јржавае зялеза.
Замок у скрыні *заржавеў*.

b) *азначэнне падаецца на рэестравае слова, а прыклады – і на рэестравае, і на вытворнае словы*:

**Брук**
каменны памост вуліцы або дарогі.
*брукава́ная* дарога
*брукава́ны* панадво́рак
па *бруку́* дра́гка е́хаць?

с) *рэестравае слова пакідаецца без тлумачэння, вытворнае або вытворныя ад рэестравага словы выдзяляюцца і суправаджаюцца азначэннем, а прыклад падаецца на рэестравае слова*:

**Асу́да**
рас. Осуждение.
Асуда сьвету, Асуда людзей.
Асуджа́ць – осуждать.

d) *рэестравае слова пакідаецца без тлумачэння, вытворнае або вытворныя ад рэестравага словы суправаджаюцца азначэннем, прыклад падаецца на ўказанае вытворнае або іншыя вытворныя ад рэестравага словы*:

**Афутро́ўка**
(Афутро́ўка, футро́ўка, падфутро́ўка)
Афутраваць – паддубальтава́ць, павалачы́, зрабіць падвойным.
Кажу́х афутрава́ў – павалак кажух сукном.

**Бра́кнуць**
бра́клае або набра́кшае
прасочанае вільгацьцю да павялічаньня у сваім абыйме.
Гаро́х вадо́й набра́к, пабуйне́ў.
Дзьве́ры ад ві́льгаці разбра́клі, ня счыняюцца.

e) *рэестравае і вытворнае словы ў слоўнікавым артыкуле маюць азначэнне, але прыклад прыводзіцца толькі на рэестравае слова*:

***Бясе́да***
*Засто́ліца гасьцей, пір.*
***Бясе́даваць** – піраваць.*
Як багаце́й жыло́ся, дык і бясе́ды спраўля́лі.

f) *рэестравае і вытворнае словы ў слоўнікавым артыкуле маюць азначэнне, але прыклад прыводзіцца толькі на вытлумачанае вытворнае слова*:

**Блядзе́ць**
Бляднець, прынімаць выгляд бязкроўнага.
Зблядзе́ць – пабляднець знінацку.
Перапужа́ўся… Аж зблядзе́ў ад стра́ху.

g) *рэестравае і вытворнае словы ў слоўнікавым артыкуле маюць азначэнне і прыклад*:

**Бырэ́ць**
станавіца нязьменна упарчывым у сваіх прывычках.
Убырэць – устарэць у сваіх прывычках, упарчывець.
Ужо́ бырэ́ць пачына́іць.
Ніяк яго ні пераро́біць: збырэў… убырэў.

У адзінкавым выпадку тлумачэнне падаецца па-руску, пасля паметы «рас.»:

**Акаці́лася**
Рас. разрешеніе от бремені беременной овцы или кошки.
Кошка наша у падпеччыку акаці́лася.
Аве́чка акацілася, двое јгня́т прывіла́.
Нешта на́шыя аве́чачкі ня ко́цюцца.

Часцей за ўсё Я. Драздовіч падае толькі адзін прыклад (пры такіх лексемах, як *бра́цітка*, *бро́віна*, *брахло́*, *бу́рбалка*, *бу́бка*, *бяльмо́*, *брухе́ль*, *бо́ндзіць*, *будо́ўля* і інш.); таксама даволі часта сустракаюцца два прыклады на рэестравае слова (пры лексемах *брушно́*, *бразь*, *браце́нік*, *бобр*, *бядзіць* і інш.). У некалькіх выпадках значэнне лексемы або адно са значэнняў мнагазначнага слова ілюструецца трыма або чатырма прыкладамі:

**Амбара́с**
~~Неспадзе́ваны~~ кло́пат, сумато́ха.
Яшчэ раз – амбара́с.
Нарабілі нам амбара́су.
За адным амбара́сам.
Адзін раз амбарас.

**Буза́**
падводны ул, вязкая у́лістае дно ракі або возера ці сажалкі.
Бузя́нае во́зіра. Бузяно́е дно… занясло бузой
Вязнуць ногі у бузу.

2. Асноўнымі складнікамі слоўнікавага артыкула з’яўляюцца ***рэестравае слова і яго сэнсавая харатарыстыка***:

**Ахра́п’е**
Зе́лень, наці́на гаро́дніны, сьвінны́ корм.

**Бры́ка**
1) параконная павозка.
2) з высокімі бакавымі драбінаватымі рамамі для возкі сена і саломы, вазавая павозка.

Аднак часта заўважаюцца наступныя недакладнасці:

➢ *рэестравае і вытворнае ад яго словы падаюцца з тлумачэннем*, напрыклад, *бяро́ста* і *бірасьця́нае*, *бірасьця́нка*, *братдзе́ці* і *тры́братдзеці* і інш.:

**Братдзе́ці**
радня па дзеду, дзеці родных братоў, дваюродныя брацьця або сёстры.
Тры́братдзеці, радня па прадзеду, троюродныя брацьця або сёстры.

➢ *аднакаранёвыя словы, якія падаюцца пасля рэестравага, суправаджаюцца азначэннем, а само рэестравае слова не мае тлумачэння*, напрыклад, *бракоўнае*, *бракаўно́е* пры лексеме *брак*, *абухшы*, *абухлы* пры *бухнуць*, *бунтаваць* пры *бунтава́ньне* і інш.:

**Бра́таваньне**
Бра́тавацца – раўнава́цца, пераходзіць у блізкія прасьцяцкія адносіны, як роўны з роўным.

➢ *значэнне рэестравага слова ўяўляе сабой удакладненне і суправаджаецца паметай* «гл.»:

**Бразджэ́ліна**
дзерава бразджэлі.
гл. сл. бразджэ́ль.

**Бруха́ч**
таўсьцяк.
(гл. сл. брухель).

➢ *падаецца тлумачэнне спалучэння слоў, галоўнае з якіх – рэестравае*:

**Бало́та**
(бало́та, бало́тца, балацяві́на, балоцішча, балоцітка, прыбалаць, ~~забалоцьце~~).
1) балота травяністае – балота, парослае травой.
2) б. драгбі́стае – дрыгвістае балота, дрыгва.
3) б. јмшарнае – махавое балота, јмша́ра.
4) б. јржа́вае – б., аплыўшае зялезна-рудною јржой, јржаві́шча.
5) б. крынічнае – балота ад разрыхлінага крынічнымі вадападцёкамі грунту.

**Барaво́е**
Барaвы́я мяйсцы́ – высокія, пясчыстыя, паросшыя сасновым лесам грунты.
Барaвы́ воск – белы воск ад пчол, зьбіраючых мёд па баравых мяйсцох.
Барaва́я па́ша – скудная, малакормная, баравое пасьбішча.
Барaво́е жы́та – летняе жыта або ярыца.

Сэнсавая характарыстыка можа ўдакладняцца іншымі спосабамі. Пашыранымі сярод іх з'яўляюцца:

➢ *рад вытворных ад рэестравага слова*:

**Барса́ць**
(*барса́ць*, *абарса́ць*, *перабарса́ць*)
1) Прыладжаваць да лаплей або́ры.
2) увіваць ногі лапцявымі аборамі.

➢ *словаўтваральныя варыянты загалоўнага слова*, якія змяшчаюцца асобным радком, падаюцца праз злучнік «або» пасля рэестравага слова ці пасля рэестравага слова ў дужках:

**Бра́тавая**
або братавіха
братняя жонка, жонка брата

➢ *рад падобных па структуры слоў да рэестравага* (у адным выпадку):

**Асе́цішча**
(Асе́цішча, такаві́шча, пунішча, хацішча і г. д.).
Мейсца калішняга, неістнуючага будынку ~~сушыльн~~ асеці.

➢ *дыялектныя сінонімы да рэестравага слова*, якія могуць змяшчацца праз злучнік «або» пасля рэестравага слова, у тлумачэнні, у прыкладзе, асобным радком:

**Арбі́т**
*Арта́й*, *рата́й* – чалавек, працуючый у полі плугам або сахой.

**Ашчара́ка**
*Насьме́шнік*, ~~*зубаскал*~~, *наруга́йла*, *зубашчэр*.

➢ *да рэестравага слова дадаецца рускі* (напрыклад, да лексем *бы́для*, *бура́к*, *брыдлі́васць*, *бярэ́зіна*, *бру́ха*), *або польскі* (*брыдо́та*), *або рускі і польскі адпаведнікі* (*апцугі*):

**Апцугі́**
Рас. Щипцы
Пол. Obcegi
Шавецкія кле́шчы, шчы́пцы.

➢ *адсылачная памета* «гл.»:

**Астро́жнік**
Турэ́мшчык – арашта́нт.
Гл. сл. Астрог.

**Бляха́рня (бліха́рня)**
Бляхарская майстроўня
Гл. сл. Бляха́р

➢ *як адзінкавая сустракаецца адсылачная памета* «тое самае, што й»:

**Бра́тка**
1) тое самае, што й «брато́к».
2) часта ужываецца жанчынамі між сабой замейсц «сястрыца».
Каб ты ве́дала, бра́тка, што я чу́ла.

Неабходна таксама адзначыць, што прыведзеныя вышэй сродкі часта камбініруюцца, напрыклад, падаецца рускі адпаведнік або дыялектны сінонім і словаўтваральны варыянт, тлумачэнне вытворнага слова і адсылачная памета «гл.» і інш.

3. Фіксуецца ***рэстравае слова***, а яго значэнне толькі ўскосна раскрываецца праз:

*рускі адпаведнік*, напрыклад:

**Апяку́н -ка**
рас. Покровитель.

**Бадзя́ўка**
рас. Бродяга
Лаічнае слова.

Рускі адпаведнік у матэрыялах у слоўнікавых матэрыялах можа суправаджацца:

▪ радам вытворных ад рэстравага слоў, напрыклад:

***Ахво́та***
рас. охо́та
(Ахвота, ахвочасьць, ахвоч, ахвочы, ахвотнік, ахвотніца, дабрахвочы, дабрахвочасьць).

▪ прыкладам або прыкладамі на рэстравае слова:

**Апа́д**
рас. Опадение
Апад лісту. Апад яблакаў з дрэва.
Дзісеншчына (Я. Драздовіч)

**Бегані́на (бігані́на)**
Рас. Беготня.
Цэ́лы дзень на нага́х, безупы́нку, бігані́на і бігані́на…
Ня то́лькі тэй работы, ко́лькі бегані́ны.
Дзісеншчына (Я. Драздовіч)

▪ прыкладам на аднакаранёвае да рэстравага слова:

**Асу́нутасьць**
рас. Осунутость.
Пастарэ́ў, абві́с, *асу́нуўся* на целе.

▪ радам аднакаранёвых слоў і прыкладам на рэстравае слова:

**Апо́ра**
Рас. Опора
(апо́ра, апіра́цца, абапё́рціся).
На гэтым уся моц, уся наша апора.

▪ радам аднакаранёвых слоў і прыкладамі на іх:

**Апы́таваньне**
рас. Поиски
(*Апы́товаць*, *напы́таваць*)
Пайшоў па людзёх *апытаваць* сабе белага гароху на насёна.
Вось, *апыта́ў* сабе не́дзе...

▪ адсылачнай паметай «гл.» на іншую лексему:

**Ба́йня**
З рас. сл. баня.
(гл. сл. Ла́зьня і Цяплі́ца).

▪ прыкладамі на рэстравае слова і адсылачнай паметай «гл.»:

**Асту́п**
Рас. атака.
Кінуліся у асту́п. Прыняліся ўсе аступам. Наляцелі наваліліся аступам.
Гл. сл. аступіца.

*украінскі ці польскі або рускі і польскі адпаведнікі адначасова*, *да якіх можа дадавацца прыклад на рэстравае слова*:

**Амбо́нія**
пол. Ambona
Ксёндз з амбоніі казаў.

**Ашука́нства**
рас. Обман, пол. Oszystwo.
Разьвялося ашука́нства.

*рад вытворных да рэестравага слова або аднакаранёвых*:

**Боль**
(боль, балець, балючы, балесьць, баляўка, баленьне, болька).

Адзначым, што ў шматлікіх выпадках да раду вытворных да рэестравага слоў могуць дадавацца іншыя спосабы сэнсавай характарыстыкі:

▪ прыклад на рэестравае слова:

**廃ся́н**, **баця́н**
(бу́сл, бу́сел, бу́сько).
Басян, бася́н даўгано́сы,
Прапі́ў бо́ты, а сам бо́сы.
Падпеіваюць дзеці буслу.

▪ прыклад ці прыклады на адно з пералічаных аднакаранёвых ці на іншае аднакаранёвае слова:

**Апане́ласьць**
(апане́ць, зпане́ць)
Апане́ў, па́нскага духу набраўся.

**Ачарстве́ласьць**
(Ачарствеласьць, зчарствеласьць, прычарстveўшае, чорствасьць, чорствае).
Хлеб ачарствеў.
Земля ачарстве́ла, пачала́ абсыха́ць (з до́жджу).

▪ адсылачная памета «гл.»:

**Асі́пласьць**
(сі́пка, сі́пнуць, асі́пнуць)
Гл. сл. Сіпка.

*прыклад або прыклады*:

▪ на рэестравае слова:

**Апарасі́лася**
Сьвіня́ паро́сная, апарасі́лася, сямёра парася́т прывіла́.

**Ара́п**
Чо́рны, як ара́п.

▪ на вытворнае слова:

**Ару́даваньне**
Раскрычаўся, разбушава́ўся і пачаў з намі ару́даваць.

~~**Асаладзэ́ласцьць**~~
**Асаладжа́ласьць**
Бу́льба ад маро́зу, як прасты́ніць, саладжа́іць.
Саладу́ха, на раўге́ню, у печы саладжа́іць.
Ячме́нь на со́лад расьціцца, саладжа́іць

*адсылачную памету* «гл.»:

**Бадзя́ка**
Гл. сл. Бадзя́ўка

**Біга́**
(гл. сл. бега́)

Адсылачная памета ў некаторых выпадках можа суправаджацца прыкладам на рэестравае слова:

**Аняўжо-ж**
(Аняўжы́ж, анягo̍ж)
Гл. сл. Анягож.
Аняўжо́ж мы ні дачакаім чаго лепшага.

*указанне, ад якога рэестравае слова ўтворана, разам з літаратурным адпаведнікам*:

**Бразгатня́**
ад сл. бражджэць, бра́згат.

Адзначым, што 505[1] рэестравых слоў з 644 маюць азначэнне; 34 вытворныя словы, што вылучаны асобна ў межах слоўнікавага артыкула, маюць азначэнне, прычым рэестравае слова пакінута без азначэння. У 27 выпадках азначэнне маюць і рэестравае слова, і вытворнае.

[1] Значэнні мнагазначных слоў, калі яны падаваліся, падлічваліся разам з азначэннямі адназначных рэестравых слоў: у некаторых выпадках азначэнні мнагазначных слоў не фіксуюцца складальнікам.

У 18 выпадках загалоўнае слова толькі фіксавалася Я. Драздовічам і, адпаведна, не мае ніякіх сэнсавых характарыстык: *алабу́ніваць*, *акры́тце*, *асаладзе́ласьць*, *астано́ўка*, *ах-ей!*, *багара́д*, *баўды́р*, *бая-рын*, *біга́*, *бры́зга*, *бры́згаўка*, *бу́сі*, *бубо́льньне*, *буф*, *быдле́ць*, *быт*, *быццё*, *бяджэ́ньне*. Але пасля супастаўлення слоўнікавых матэрыялаў Слоўніка на літару Б і Слоўніка на літары А і Б значэнне некаторых з указаных лексем было раскрыта складальнікам:

**БАЛДЫ́Р**, **БАЎДЫ́Р** *м.* Пра нешта круглае, тоўстае, пузатае. *На царкве́ ку́пал, як баўды́р.*

**БЕГА́**, **БІГА́** *ж.* Шпаркі рух (пра жывых істот). *Мой конь хоць да вазо́ў і слабава́т, затое да бягі́ – страла́. На бягу́ споран, а у твайго біга́ – ния́кая.*

## Аналіз матэрыялаў Слоўніка вёскі Рымкі

Слоўнікавыя матэрыялы з вёсак Рымкі, Стральцы і Лаўрыкавічы ахопліваюць словы на ўсе літары беларускага алфавіта: па сутнасці, гэта слоўнічкі мовы асобнай вёскі. Слоўнікавы артыкул складаецца, як і ў Слоўніку на літару Б і Слоўніку на літары А і Б, з тлумачальнай часткі, прыкладу на рэестравае слова і лінгвістычнага пашпарту.

Галоўнае адрозненне заключаецца ў тым, што 1) большая частка рэестравых слоў з вёсак Рымкі і Лаўрыкавічы тлумачыцца па-руску, без памет тыпу «*рас.*»; у слоўніку вёскі Стральцы два словы суправаджаюцца паметай «рас.», дзевяць слоў – «руск.», адно слова – «polsk.» і адно слова – «украінск.»; 2) падаецца больш грунтоўны лінгвістычны пашпарт, які сведчыць пра тое, што запісы былі зроблены ад пэўных інфармантаў і ў канкрэтным месцы.

Значэнне рэестравых слоў раскрываецца праз:

1) *рускі адпаведнік* (у 167 выпадках):

**Абшчапе́рыць**
Обнять.
Дзіця абшчаперыла матку за шыю…
Вёска Рымкі Пастаўскае гм.
Ул. Павалковіч[1].

**Апраме́̈тнік**
Озорник
Вясковыя апрамётнікі пусьцілі жыду «воўчка» у бараду.
в. Рымкі

2) *апісальна праз словазлучэнне* (у 96 выпадках):

**Бу́рбалкі**
Пузырки од дождя
На вадзе ад раптоўнага дажджу з’яўляюцца бурбалкі.
в. Рымкі

**Жлукт**
Мытьё белья
Бабы заняліся жлуктам, бо бялізна абкарэла.
В. Рымкі

3) *апісальна праз сказ* (у 5 выпадках):

**Трэль**
Вывоз дерева с неудобнаго места на чистое, откуда легко свозить прямо на место назначения. Вывести человека на чистую воду.
Дрэва вы́траліваў – вывез на трэль.
Абманшчыка вывеў на трэль.
в. Рымкі

**Цярэ́шка**
Старинная беларуская игра на подобие свадьбы.
На каляды жэнюць цярэ́шку.
в. Рымкі

Неабходна адзначыць, што часцей за ўсё словазлучэнне ці сказ падбіраюцца да безэквівалентнай лексікі:

**Брэд**
Цвет лиственных деревьев.
Асіна апранулася ў брэд.
в. Рымкі

**Ра́гуля**
Капля пота
Гаспадарь у зыркую пагоду абліваецца ра́гулямі.
в. Рымкі

**Наду́цька**
Надменный человек
З надуцькамі «піва не/сварыш».
в. Рымкі

**Талято́й**
Человек физически и духовно ненормальный.
Талятой, калі ён бедны, то і жабруець.
в. Рымкі

[1] У наступных ілюстрацыях запіс «Вёска Рымкі Пастаўскае гм. Ул. Павалковіч» цалкам не падаецца, адзначаецца толькі назва вёскі.

**Паўпа́льцік**
Короткое пальто женщин.
Паўпальцік – вопратка жанчын.
в. Рымкі

**Шварка**
Полупальто с теплой подкладкой.
Шварка карацей пальта.
в. Рымкі

Амаль усе загалоўныя словы ў Слоўніку вёскі Рымкі забяспечаны азначэннем; сустракаюцца толькі рэдкія адхіленні ў падачы тлумачальнай часткі, напрыклад:

1) чатыры лексемы (*зьвягач*, *зьвяганьне*; *плінта*; *спры́скі*; *шэра́я гадзі́на*) падаюцца без тлумачальнай часткі, але з прыкладам на рэестравае слова (або вытворнае ад яго):

**Зьвягач**, **зьвяганьне**
От прычапіўся: зьвякае, ды зьвякае.
В. Лаўрыкавічы, Воўкавыскога пав. (В. Шкодзіч)

**Шэра́я гадзі́на**
На шэрую гадзіну лямпу запаліваюць.
в. Рымкі

2) у чатырох выпадках да загалоўнага слова пададзены беларускі адпаведнік замест рускага (*на пагатове* да *на падарожже*, *шумёлкі* да *балабэ́йкі*, *порысты* да *сітава́ты*, *суглінак* да *краша́к*), у адным – украінскі эквівалент (*о-цэ* да *о-ля*) і ў адным – польскі (*koszula* да *сарочка*):

3) у трох выпадках да рэестравага слова прыведзены рускі адпаведнік і беларускае тлумачэнне (*вантробы*, *ві́нкіль*, *малаве́ня*):

**Вантробы**
Внутренности
Вантробамі называюць наагул усе внутренности (легкія, печань, сэрца, трэбух, кішкі).
в. Рымкі

**Ві́нкіль**
Прямоугольнік – струмэнт сталяра.
Бяз вінкіля рам у вокны ня свяжыш.
в. Рымкі

4) у 24 выпадках рэестравае слова забяспечваецца тлумачэннем па-беларуску: *бі́рка*, *бро́дзень*, *бялю́г*, *валацу́га*, *ві́льчык*, *вы́звалка*, *загігула*, *кату́х*, *клевая*, *ку́бел*, *кузла*, *ма́ціцы*, *мятрэ́га*, *нечасьць*, *плойма*, *скабля́*, *слата́*, *талака́*, *трайнік*, *хлуса́*, *чале́сьнік*, *чарапло́*, *шлюгаві́ны*, *шупля́да*.

Дастаткова часта ў дадзеных слоўнікавых матэрыялах Я. Драздовіч выкарыстоўвае ў тлумачальнай частцы, а таксама ў прыкладах *дужкі* (у 24 выпадках). Інфармацыя, змешчаная ў іх, утрымлівае:

1) указанне пра тое, што рэестравае слова з’яўляецца назвай хваробы:

**Дрыстун**[1]
Понос (болезнь)

**Заўшніца**
Жаба (болезнь свиней)

**Зі́ркасьць**
Дальнозоркость (болезнь)

**Мы́шкі**
Колікі (болезнь жывотных)

2) удакладненне лексічнага значэння пэўнага слова:

**Красы́**
Течка у волчиц
Красы пачынаюцца з Міколы (6/XII па 20/XII)

**Ласы**
Любящий хорошо (вкусно) покушать.

3) сінонім да пэўнага паняцця:

**Скарада́**
Неборонованная пашня (арба)

**Сырабу́ха**
Снятое молоко (одгон)

4) пераклад на рускую мову:

**Лю́шка**
Труба
Люшка зачынена без пары – будзе чад (угар).

5) Лексічнае значэнне пэўнага слова:

**Пры́сак**
Печная зола
У ямку (мейсца, куды выграбаюць гарачы прысак) выграблі прысак з вугальлям.

У пяці выпадках для больш поўнага разумення рэестравага слова да яго дадаюцца праз коску дыялектныя сінонімы: *азія́тка*, *карбу́няц*; *байстру́к*, *баньдзю́к*; *валасяні́ца*, *матыліха*; *зэ́длік*, *усло́н*; *натутка*, *блюзка*.

[1] У гэтым і наступных чатырох падпунктах прыводзяцца толькі часткі слоўнікавых артыкулаў.

Трэба таксама адзначыць, што ў тлумачальнай частцы, якая пададзена Я. Драздовічам на рускай мове, сустракаюцца памылкі, якія часцей за ўсё тлумачацца інтэрферэнцыяй (адлюстраванне фанетычных і марфалагічных рыс беларускай мовы пры напісанні слоў па-руску): *студзень 'холодец'*; *беларуская игра*, *кусок пустой зямлі*, *наперста* і інш. У некаторых выпадках складальнік заўважаў такога плана недакладнасці і выпраўляў іх, напрыклад: *чихацть*. Сустракаюцца таксама арфаграфічныя памылкі (*аллюминий*, *катарр горла*, *предрасудкі* і інш., словаўтваральныя (*косноязычий*, *вперегонку*), адрукоўкі (*охотнчая собака*), напісанне беларускага *і* замест рускага *и* (*болезні яйцеводов у птиц*, *прямоугольнік*, *яічкі вшей*, *колікі*, *отлеглый кусок землі* і інш.).

Як і ў матэрыялах Слоўніка на літару Б і Слоўніка на літары А і Б, амаль да ўсіх рэестравых слоў падаецца адзін прыклад па-беларуску. Да чатырох загалоўных слоў прыводзіцца па два прыклады (*ванця́ка*, *зы́рка*, *ква́рта*, *хлуса́*).

У 8 выпадках прыклад змяшчае акрамя рэестравага слова яшчэ і аднакаранёвыя да яго (гэта лексемы: *габэ́лек*, *звод*, *лягчэньне*, *махля́р*, *скабля́*, *спуск*, *трэль*, *хлуса́*):

**Лягчэньне**
Кострация
Жарабца легчуць, бо *лягчоны*, ці ад *лягчэньня*, ён не зварочваець увагі на кабыл.
в. Рымкі

Невялікую колькасць недакладнасцей можна заўважыць у падачы ілюстрацый Я. Драздовічам:

1) без прыкладу прыводзяцца 26 загалоўных слоў:

**Талака́**
На вёсцы часта працуюць талакой: перш вывезуць гной, жнуць і г. д. аднаму гаспад, патым другому, трэцьцяму.
в. Рымкі

**Шалба́н**
Болван
в. Рымкі

2) у 15 выпадках прыклад прыводзіцца не на рэестравае, а на вытворнае ад яго слова:

**Качэ́ньне**
Роды овечки
Авечка акацілася.
в. Рымкі

**Краса́**
Цвет злаковых растений
Жыта красуець у канцы вясны альбо пачатку лета.
в. Рымкі

3) у двух выпадках прыводзіцца два прыклады – на загалоўнае слова і вытворнае ад яго:

**Ванця́ка**
Выговор, замечание
Войт ад старосты атрымаў за неакуратнасьць ванцяку. Начальства любіць ванцяць.
в. Рымкі

4) адзінкава прыклад указаны на дыялектны сінонім да загалоўнага слова:

**За́лзы**
Мыт лошадей
На мыт хварэюць балей усяго маладыя коні.
в. Рымкі

Лінгвістычны пашпарт складаецца з указання вёскі і гміны, вёскі, павета і гміны, вёскі і павета (*вёска Рымкі Пастаўскае гм.*[іны]; *вёска Стральцы*, *пов. Горадзен*, *гміна Скідэль*; *в. Лаўрыкавічы*, *Ваўкавыскага пав.*[ета]), дзе збіраўся слоўнікавы матэрыял, а таксама імя і прозвішча інфарманта (*Ул. Павалковіч*, *М. Кізевіч*, *В. Шкодзіч*).

Трэба адзначыць, што структура слоўнікавых матэрыялаў з вёскі Рымкі вытрымліваецца вельмі дакладна: амаль усе рэестравыя словы забяспечаны тлумачальнай часткай, прыкладам на ўжыванне, да ўсіх загалоўных слоў прыведзены лінгвістычны пашпарт.

### *Афармленне слоўнікавых артыкулаў для выдання*

Пры падрыхтоўцы слоўніка Я. Драздовіча да выдання неабходна было, з аднаго боку, захаваць адметнасць аўтарскага спосабу ўкладання слоўнага матэрыялу, а з другога – перапрацаваць і ўніфікаваць матэрыял такім чынам, каб ён потым мог быць уключаны ў іншыя абагульненыя выданні.

### Матэрыялы Слоўніка на літару Б і Слоўніка на літары А і Б

У сувязі з неаднастайнасцю афармлення сэнсавай характарыстыкі слоў указаных матэрыялаў, а ў некаторых выпадках і з яе адсутнасцю пры падрыхтоўцы слоўніка тлумачэнні Я. Драздовіча былі адпаведным чынам перапрацаваны. Асноўнымі спосабамі сэнсавай характарыстыкі рэестравых слоў намі былі абраны наступныя:

1. Да рэестравага слова падаецца толькі літаратурны адпаведнік у тых выпадках, калі загалоўнае слова з'яўляецца, па-першае, мнагазначным, але канкрэтнае значэнне Я. Драздовічам не ўказваецца, па-другое, пашыраным і агульнавядомым і таксама не тлумачыцца складальнікам. Напрыклад:

**БРУШТЫ́Н** *м.* Бурштын.

2. Да рэестравага слова прыводзіцца сучасны літаратурны адпаведнік і поўнасцю або часткова падаецца азначэнне Я. Драздовіча больш дробным шрыфтам унізе слоўнікавага артыкула. Гэта мае месца, калі загалоўнае слова агульнавядомае і вытлумачэння не патрабуе, а азначэнне Я. Драздовіча перанасычана збыткоўнай інфармацыяй (змяшчае звесткі, народныя ўяўленні і іншае або абцяжарана ўдакладненнямі). Напрыклад:

**БРАЗДЖЭ́ЛЬ** *м.* Бружмель.

Куставое малараслае лясное дрэўца з лычанай карой, дробным лісьцьцем, чырвонымі «завушнічкамі» плоду і жоўтаватым, цьвёрдым, што косьць, дзеравам, ідучым на кіі, пугоўі, шавецкія цовачкі і дробныя (гузікавыя) такарныя вырабы (род сухадрэўкі).

3. Да загалоўнага слова даецца азначэнне, распрацаванае на аснове азначэння, прапанаванага аўтарам, аднак яно мае трансфармаваны выгляд, бо аўтарскі варыянт па прычыне яго грувасткасці, няпоўнай дакладнасці і зразумеласці не адпавядае патрэбам сучаснай лексікаграфічнай практыкі. Тлумачэнне Я. Драздовіча ў якасці дадатку ўключаецца ў слоўнікавы артыкул, напрыклад:

**БРЭТ** *м.* Першыя кветкі раслін і дрэў, на якія вылятаюць пчолы для нарыхтоўкі вясенняга мёду. *Пчо́лы на брэт вылета́юць.*

Вясеньніе красаваньне лісьцьвянога лесу, сьвежараспушчаныя пладавыя пупы́шкі (пупу́шкі) дрэў, служ. [ачыя] першым [ай] медавой пажтвай для пчол.

4. Да рэестравага слова прыводзіцца літаратурны адпаведнік, але праз коску з кропкай раскрываецца, фактычна дубліруецца, яго семантыка. Тлумачэнне, прапанаванае Я. Драздовічам, цалкам ці часткова змяшчаецца ўнізе слоўнікавага артыкула больш дробным шрыфтам. Такі спосаб сэнсавай характарыстыкі выкарыстоўваецца ў наступных выпадках:

1) рэестравае слова з'яўляецца мнагазначным, а Я. Драздовічам вельмі шырока ўказваецца канкрэтнае значэнне;

2) лексема можа быць незразумелая для сучаснага чытача;

3) значэнне ў Я. Драздовіча раскрываецца не вельмі дакладна або аб'ёмна і расплывіста.

**БРА́КАР** *м.* Бракёр; чалавек, які сарціруе, выбракоўвае драўніну, лес.

Прыёмшчык высечанага дзерава лесу на тралёўку.

5. Загалоўныя словы маюць толькі азначэнне. Такім спосабам адлюстроўваецца азначэнне, калі рэестравыя словы ў Я. Драздовіча не маюць сэнсавай характарыстыкі, але:

1) тлумачэнне маюць аднакарэнныя з імі словы;

2) да рэестравых слоў падаецца добры прыклад, на аснове якога можна меркаваць пра лексічнае значэнне пэўных лексем;

3) тлумачэнне маюць словы, да якіх рэестравыя з'яўляюцца сінонімамі.

У выпадку, калі прапанаванае азначэнне можа быць не зусім дакладным з-за недастатковай змястоўнасці і інфармацыйнасці матэрыялу на картцы для пэўнага рэестравага слова, то пасля яго ў круглых дужках ставіцца пытальнік. Ён выступае паказчыкам меркавальнасці значэння. Напрыклад:

**БО́ЦЬКАЦЦА** *незак.* Бадзяцца, швэндацца (?). *Цэ́лы дзень адшвэ́ндаўся, бо́цькаўся па гразі́.*

**БРЭ́ДЗІЦЬ** *незак.* Ілгаць (?), выклікаць агіду (?). *Я на яе́ ніко́лі на́ват «брэ́дзіш» ні сказа́ла.*

6. Рэестравае слова наогул пакідаецца без тлумачэння, калі такое слова толькі фіксуецца Я. Драздовічам, але не суправаджаецца ніякімі дадатковымі сэнсавымі характарыстыкамі і не мае прыкладаў яго словаўжывання, напрыклад:

**БРЫ́ЗГАЎКА** *ж.*

## Матэрыялы Слоўніка вёскі Рымкі

Па прычыне таго, што пераважная большасць указаных слоўнікавых артыкулаў забяспечана тлумачэннем на рускай мове, былі абраны наступныя спосабы сэнсавай характарыстыкі загалоўных слоў:

1) Да рэестравага слова прыводзіцца толькі літаратурны адпаведнік у тых выпадках, калі складальнікам да загалоўнага слова падаецца толькі аднаслоўны рускі пераклад. Гэта агульнавядомыя і шырокараспаўсюджаныя словы. Напрыклад:

**АБЦУГІ́** *мн.* Абцугі. *Абцуга́мі вынімáю цьвякі́.* Рымкі Паст.

**АПРАНУ́ЦЬ** *зак.* Перакуліць. *У злосьці ён апрануў вядро дагары.* Рымкі Паст.

2) Да рэестравага слова падаецца літаратурны адпаведнік, але праз коску з кропкай дубліруецца яго семантыка. Дадзены спосаб сэнсавай характарыстыкі выкарыстоўваецца ў выпадках, калі:

існавала неабходнасць канкрэтызаваць значэнне рэестравай лексемы;

лексема можа быць не зусім зразумелая для сучаснага чытача:

**АНГЭ́ЛЬКА**, **АНГЕ́ЛЬКА** *ж.* Рахіт (у жывёл); парушэнне развіцця касцей. *Ангелькай хварэюць найбалей маладыя свіньні.* Рымкі Паст.

**ЖАРСТВА** *ж.* Жарства; буйны калючы пясок, дробныя каменьчыкі, якія ўтвараюцца ад разбурэння каменя. *Жарства з'яўляецца ад перагарэўшага камяня́.*

3) Да рэестравага слова прыводзіцца азначэнне ў наступных выпадках:

складальнік слоўніка падаў разгорнутае азначэнне рэестравай лексемы (якое пры неабходнасці было скарочана або ўдакладнена);

складальнік тлумачыць аднаслоўна лексему, але яна не з'яўляецца шырокараспаўсюджанай і зразумелай большасці чытачоў:

**ЗА́ЛЗЫ** *мн.* Інфекцыйная хвароба ў коней, якая суправаджаецца запаленнем слізістай абалонкі насаглоткі і падсківічных залоз. Рымкі Паст.

**ЗАЎШНІЦА** *ж.* Запаленне калявушнай залозы (хвароба свіней). *Свіньня́ захварэ́ла на заўшніцу.* Рымкі Паст.

4) Да загалоўных слоў падаецца азначэнне, а тлумачэнне Я. Драздовіча цалкам змяшчаецца ўнізе слоўнікавага артыкула для захавання цікавых этнакультурных звестак:

**БІ́РКА** *ж.* Палачка, на якой надрэзамі вёўся ўлік чаго-н. *Адда́ў аўчы́нкі ў рабо́ту – атрыма́еш бірку.* Рымкі Паст.

Паквітаньне нечым людзей пры помачы розных палачак.

**КУЗЛА** *м.* Чалавек, які пастаянна ўсім перашкаджае. Рымкі Паст.

Слова «Кузла» ўжываецца у сэнсе чалавека, пастаянна усяму мешаюшчаму, пярэчашчаму.

## *Колькасць слоўнікавых артыкулаў*

Язэп Драздовіч, як адзначалася, падрыхтаваў да друку 975 картка-слоў. Пасля праведзенага аналізу матэрыялаў колькасць слоўнікавых артыкулаў была істотна павялічана і склала 1532 словы.

Агульная колькасць рэестравых слоў была павялічана на 66 слоў, па-першае, за кошт нетыпова аформленых рэестравых слоў. Так, у Слоўніку на літару Б у трох выпадках Я. Драздовіч падаў рэестравыя словы наступным чынам: *бягу́н*, *-но́к*; *бядзі́ць* (*бяджэ́ньне*); *быт*, *бытцё.* У 39 выпадках у Слоўніку на літары А і Б яны маюць наступную форму падачы: *але́шына*, *але́шынка* /[1] *алешніна*; *апазыча́цца* / *апазы́чыцца*; *апанава́ць* / *апано́віваць*; *апастылёны* / *апастылёнік*; *апрыкро́нік* / *апрыкро́ніц*; *аржаві́ньне* / *јржавіньне*, *јржавіны*; *арфава́ньне* /*арфава́нае*; *асабняк* / *асабняком*; *асіве́ласьць* / *пасіве́ласьць*; *асіро́чаны* / *асірацелы*; *асос* / *абсо́с*; *астро́жнік* / *турэ́мшчык*; *атама́лка* / *адыма́лка*; *ато́жылак* / *ато́жыліна*; *ато́жыль* / *ато́жыльле*; *ато́са* / *ато́сіна*; *ахіл* / *абхіл*; *ахутаваньне* / *ахутанасьць*; *ацё́к* / *ацёкласьць*; *аціля́каваньне* / *аціля́ка*; *ацяру́шкі* / *ацяру́шша*; *ачучаваньне* / *ачучанасьць*; *балбата́ньне* / *балбатня́*; *біру́лька*, *-кі* / *біру́балка*, *-кі* / *цыру́балка*, *-кі*; *апішáліц*, *апішáлы*; *апяку́н*, *-ка*; *асі́лак*, *асі́лач*; *атла́с*, *атласо́вае*; *бажанёнак*, *бажанё́*, *бажаня́ты*; *бажні́ца*, *бажнічка*; *балаўні́к*, *~~-ўніца~~*; *~~барадзі́шча або~~ барадзі́зна*; *басано́ж*, *-но́жжа*; *ба-*

[1] Знак «/» абазначае, што ўказанае пасля яго слова прыводзіцца аўтарам з вялікай літары з новага радка.

*хýр, -рка*; *бацёны*, *бацёнкі*; *бéдка або «біда́»*; *бітла́га*, *бітла́жка*; *блеў*, *блея́ньне* (*бліяньне*); *бліскаві́ца або маланьня́*. У Слоўніку вёскі Рымкі ў 13 выпадках так аформлены наступныя лексемы: *азія́тка*, *карбу́няц*; *байстру́к*, *баньдзю́к*; *валасяні́ца*, *матыліха*; *дуронік*, *дурэць*, *дурэньне*; *зэ́длік*, *усло́н*; *зьвягач*, *зьвяганьне*; *лялька*, *зрэнка*; *натутка*, *блюзка*; *арба́* //[1] *мéшань* // *траéньне* // *прыбі́ўка* // *сяўба́* // *пашня*; *панара́д* // *таранта́с*; *сёмка* // *спаржа* // *спас* // *шо́сьнік* // *асяніны*; *тарчыца* // *аполак*; *чарапло́* // *бро́дзень* // *трайнік*.

Па-другое, прычынай павелічэння пачатковай картатэчнай базы слоўніка стала наяўнасць вытворных і аднакаранёвых да рэестравай адзінкі слоў, а таксама сінонімаў, якія прыводзяцца аўтарам да загалоўнага слова.

Так, Я. Драздовічам былі выдзелены падкрэсліваннем вытворныя або аднакаранёвыя да рэестравай адзінкі словы і вынесены асобна ў межах слоўнікавага артыкула. Гэта група вытворных абазначальных сродкаў суправаджаецца асобнай сэнсавай характарыстыкай (*бракованае*, *бракаўное*; *бра́клае*, *набра́кшае*; *тры́братдзеці*; *бра́таваца*; *брадо́к*; *брушні́чніна*; *брыклі́вы*; *абрытаваць*; *булкавасты*; *бульбо́ўніна*; *бунтаваць*, *збунтава́цца*; *абухшы*, *абухлае*; *бухо́нае*; *бярнушко́*; *бясéдаваць*; *убырэ́ць* і інш.), а таксама адным або некалькімі прыкладамі (*брахлі́вы*, *абрытаць* і інш.).

| | |
|---|---|
| <u>**Бунтава́ньне**</u><br>бунтаваць – муціць, унасіць безладзьдзе.<br><u>**Збунтава́цца**</u> – растераться, утерать ніть мысли. | **БУНТАВА́НЬНЕ** *н.* Падбухторванне да парушэння ладу, парадку.<br>**БУНТАВА́ЦЬ** *незак.* Падбухторваць да парушэння ладу, парадку. *Што ты мне маю́ сямью́ бунту́іш, бунтаўшчык!*<br>**Бунтаваць – муціць, унасіць безладзьдзе.**<br>**ЗБУНТАВА́ЦЦА** *зак.* Разгубіцца.<br>**Збунтава́цца – растераться, утерать ніть мысли.** |

Некаторыя вытворныя або аднакаранёвыя да рэестравага слова падаюцца ў дужках у слоўтваральным радзе пасля загалоўнага слова (напрыклад, *бра́васьць*, *бра́вы*; *бычо́к*, *бы́ська*, *бычы́на*, *бычачы́на*; *бабо́к*, *бубіна́*, *бабо́віны*, *бабо́вішча*, *бабо́ўка*; *балець*, *балючы*, *балесьць*, *баляўка*, *баленьне*; *баро́к*, *баравіна*, *бары́стае*, *барав́ое* і інш.). Падставай для афармлення іх самастойнымі слоўнікавымі артыкуламі паслужыў той факт, што некаторыя з гэтых вытворных вынесены як рэестравыя словы і маюць тлумачэнне на іншых картках (напрыклад, *бу́льбіна*, *бярэ́зьнік*, *бярэ́зіна*, *бярасьця́нае*, *бірасьця́нка*; *бо́лька*; *боль* і інш.).

Шмат вытворных і аднакарэнных да рэестравага слова прыводзіцца ў прыкладах на рэестравае слова (*брадзі́ць* пры *браджэ́ньне*; *набра́кнуць*, *разбра́кнуць* пры *бра́кнуць*; *чарнабро́вы* пры *бро́ва-вы*, *браха́ць* пры *брох*, *брэх*; *брукава́ны* пры *брук*; *адбрыліва́ць* пры *брыліва́ць*; *буды́начак* пры *буды́нак*; *збузава́ць* пры *бузава́ць*; *разбурчэ́цца* пры *бурчэ́ць*; *бу́хнуць*, *бу́хнуцца*, *вы́бухнуць*, *бу́хаць* пры *бух*; *збырэ́ць* пры *бырэ́ць*; *збо́ндзіць* пры *бо́ндзіць*; *убо́цькаць і бо́цькацца* пры *бо́цьканьне* і інш.). Падставай для іх вылучэння як рэестравых адзінак было імкненне захаваць усе аўтарскія прыклады.

| | |
|---|---|
| **Ару́даваньне**<br>Раскрычаўся, разбушава́ўся і пачаў з намі ару́даваць.<br>Дзісеншчына (Я. Драздовіч) | **АРУ́ДАВАННЕ** *н.* Бойка (?), сварка (?).<br>**АРУ́ДАВАЦЬ** *незак.* Біцца (?), сварыцца (?), камандаваць (?). *Раскрычаўся, разбушава́ўся і пачаў з намі ару́даваць.* |
| **Асу́нутасьць**<br>Рас. Осунутость.<br>Пастарэ́ў, абві́с, асу́нуўся на целе.<br>Дзісеншчына (Я. Драздовіч) | **АСУ́НУТАСЦЬ** *ж.* Схуднеласць, змарнеласць.<br>**АСУ́НУЦЦА** *зак.* Схуднець, змарнець (пра чалавека). *Пастарэ́ў, абві́с, асу́нуўся на целе.* |

Сінонімы як абазначальныя сродкі для раскрыцця семантыкі загалоўнага слова афармляюцца Я. Драздовічам наступным чынам:

1) у зоне рэестравага слова праз коску або праз злучнік «або»:

| | |
|---|---|
| **Азія́тка**<u>**, карбу́няц**</u><br>Сибирская язва. Антракс.<br>Мейсцамі Сібірскую язву старыя людзі называюць «азіяткай» і «карбунцам».<br>в. Рымкі | **Бéдка** <u>**або Біда́**</u><br>Легкава́я праездна́я двухколка.<br>Дзісеншчына (Я. Драздовіч) |

[1] Знак «//» абазначае, што ўказанае пасля яго слова прыводзіцца аўтарам у асобнай калонцы ў табліцы.

2) у тэксце слоўнікавага артыкула праз злучнік «або»:

**Бразджо́лка**
рас. позвонок.
металёвая круглая пустацелая з кулькай унутры бразгучка.
<u>бразджо́лкі</u> **або** <u>**шаркі́**</u>
учэплёный бразджолкамі (узамен званка) конскі нашыйнік.

<u>**Бульбя́нік -кі**</u>
або «**дранікі**», бульбяныя бліны з дранай, таркованай на тарку, бульбы.

3) выступаюць у якасці азначэння:

**Бо́лька-кі**
(боль, бо́лька, баля́ўка)
~~Дробная~~ Маленькі нарыў на скуры цела. **Ску́лка**, **скуля́нкі**.
твар у больках
з ма́лінькай бо́лькі – вялі́зная ску́ла

**Бру́шка**, **брушко́**
1) бруха, у ласкальным выразе.
2) круглявая мяккая часьць пальца рукі, **шчуплік**.

4) змяшчаюцца ў дужках ў канцы слоўнікавага артыкула:

**Бялі́зна**
1) јсподняя адзежа, кашуля і г. д.
2) пасьцельная бялізна: прасьцерадла, наўлякі і г. д.
(бялізна, **бяльлё**, **бе́льля**).

5) выносяцца асобна ў слоўнікавым артыкуле і падкрэсліваюцца:

**Бярно́**, **бёрны** –
рас. бревно
буйныя штукі дзерава, з якіх будуюць сьцены дзераўляных будынкаў.
<u>**белька-кі**, **балька-кі**</u>.
**бярнушко́** – нівялічкае, ценкае бярно.

6) тлумачацца з указаннем, замест якога слова можа ўжывацца («*бра́тка» **замест** «сястрыца»*).

**Бра́тка**
1) тое самае, што й «брато́к».
2) часта ужываецца жанчынамі між сабой замейсц «сястрыца».
Каб ты ве́дала, бра́тка, што я чу́ла.

Таксама сінонімы могуць прыводзіцца ў азначэнні на іншыя словы: *скудны ўраджай – уродай*, *берасьцяная скрынка* або *пушка*, *дзікія пчолы – бартавыя* або *барцявыя*.

Ускоснай падставай для вынясення сінонімаў у асобныя слоўнікавыя артыкулы паслужыў той факт, што, напрыклад, Я. Драздовіч падае пры тлумачэнні словазлучэння *брыклівы конь* сінонім *брыкун*, таму лексема *брыкун* афармляецца на асобнай картцы.

Такім чынам, мы палічылі мэтазгодным вынесці асобна ўказаныя сінонімы.

Па-трэцяе, у асобныя слоўнікавыя артыкулы былі аформлены наступныя групы слоў:

➢ словаўтваральныя варыянты загалоўнага слова, якія 1) вылучаюцца падкрэсліваннем і падаюцца праз злучнік «або» пасля загалоўнага слова: *бра́тавая або братавіха*, *б.*[*роўца*] *або броўка* (у другім значэнні), *бура́чашча або бурся́нішча* і інш.; 2) падаюцца з новага радка, з вялікай літары: *апазыча́цца / апазы́чыцца*; *апанава́ць / апано́вавацьь*; *апастылё́ны / апастылёнік*; *апрыкро́нік / апрыкро́ніц* і інш.;

➢ лексемы, памылкова запісаныя аўтарам з адваротнага боку картак, відаць, для далейшай апрацоўкі і ўключэння ў склад слоўніка Дзісеншчыны (яны вылучаны тлустым шрыфтам, у іх прастаўлены націск): *бры́джаньне*, *банка́фт*, *бальша́к*, *бале́йка*, *бега́* (*біга́*) і інш.;

➢ аманімічныя граматычныя формы, якія былі ў складзе адзназначных слоў:

**Бра́ва**
(бра́ва, бра́васьць, бра́вы)
-рас. брава.
бра́вая дзяўчына… -
бра́ва-малайца?!

**БРА́ВА** *выкл.* Вокліч, які азначае захапленне, пахвалу, адабрэнне. *Бра́ва-малайца́!*
**БРА́ВЫ** *прым.* Смелы, адважны, бойкі. *Бра́вая дзяўчына.*

➢ лексічныя амонімы, значэнне якіх разглядалася Я. Драздовічам як адно са значэнняў шматзначнага слова: *бру́шка* ‘бруха’ і *бру́шка* ‘падушачкі пальцаў на руцэ’; *бо́йка* ‘бітва, пабоішча, бойка’ і *бо́йка* ‘прылада ў выглядзе судна для збівання масла са смятаны’ і інш.;

➢ адсылачныя словы, якія засталіся ў Я. Драздовіча без тлумачэння: *бражджэць*, *брато́к*, *нібыльні́ца* і інш.

Разам з тым у 23 выпадках у розных словазборах Я. Драздовічам былі зафіксаваны аднолькавыя лексемы, значэнні якіх поўнасцю або часткова супадаюць: *адба́бліваць*, *акаці́цца*, *акрыцьцё́*, *андара́к*, *апо́лак*, *ба́біць*, *бабо́вішча*, *бале́зьць*, *бале́йка*, *бале́ньне*, *бальша́к*, *банка́рт*, *бега́*, *быльлё́*, *бядзі́ць*, *звадзі́ць*, *звconfigу́н*, *ква́шаніна*, *наро́г*, *пур*, *пу́шка*, *са́жалка*, *стаўбу́н*. Гэтыя лексемы пасля апрацоўкі не дублююцца.

Такім чынам, пасля фіксацыі ўсіх вытворных ад рэестравых слоў, сінонімаў, словаўтваральных варыянтаў, закрэсленых складальнікам лексем, аманімічных граматычных форм, адсылачных слоў, размежавання аманіі і шматзначнасці і пасля ўліку лексем, якія паўтараюцца, агульная колькасць слоўнікавых артыкулаў склала 1532 адзінкі.

### *Размежаванне мнагазначных слоў і амонімаў*

Я. Драздовічам фіксуецца 156 мнагазначных слоў. Аўтарскае размежаванне шматзначных слоў і амонімаў у большасці выпадкаў у слоўніку не захоўваецца.

Пры апрацоўцы слоўнікавага матэрыялу значэнне 61 мнагазначнага слова было пакінута ў тым жа выглядзе, як было пададзена складальнікам. Гэта такія лексемы, як: *абрытаваць*, *абрытаць*, *апо́ліны*, *асё́тка*, *асілак*, *асілач*, *асно́ва*, *асо́ба*, *аступі́ца*, *асцяро́га*, *асяро́дак*, *аўсяні́ца*, *аціжа́ранасьць*, *ахво́тнік*, *ашале́ць*, *ашалё́ўка*, *бабо́ўка*, *бабу́ля*, *бабы́ль*, *ба́гна*, *бадзя́лы*, *бадзя́ньне*, *баё́к*, *бажні́ца*, *бажні́чка*, *байстру́к*, *балаба́йка*, *балбату́н*, *балдава́*, *барада́*, *бара́нька*, *барса́ць*, *барсу́к*, *бару́лька*, *басано́ж*, *бася́к*, *баўтаніна*, *бацьві́ньне*, *ба́цькавіч*, *ба́цькаўшчына*, *бая́рка*, *бе́дніцца*, *бе́ліва*, *бель*, *біда́*, *бі́рка*, *бі́тка*, *блеск*, *блін*, *блішчэ́ць*, *бо́ндзіць*, *борць*, *бру́ха*, *бры́ка*, *бу́да*, *будо́ўля*, *бэ́лька*, *бяле́ньне*, *бялі́зна*, *бяло́к*, *бяльмо́*.

| | |
|---|---|
| **Бі́тка**<br>1) выйграны ход у карты́жнай ігры́.<br>2) з надбі́таю шалу́пкаю яйко́.<br>Дзісеншчына (Я. Драздовіч) | **БІ́ТКА** *ж.* 1. У картачнай гульні – выйгрышны ход. 2. Яйка з пабітай шкарлупінай.<br>**ШАЛУ́ПКА** *ж.* Шкарлупіна (яйка). |
| **Блішчэ́ць**<br>1) пярсцёнак блішчыць на пальцы. Агонь блішчыць праз вакно. Вада блішчыць на слонцы.<br>2) Сабака «блішчыць» ля столу, каб хто кінуў яму костку. | **БЛІШЧЭ́ЦЬ** *незак.* 1. Адсвечваць роўным святлом. *Пярсцёнак блішчы́ць на па́льцы. Аго́нь блішчы́ць праз вакно́. Вада́ блішчы́ць на сло́нцы.* 2. *перан.* Мітусіцца. *Саба́ка «блішчы́ць» ля сто́лу, каб хто кі́нуў яму́ ко́стку.* |

Да таго ж былі аформлены як мнагазначныя некаторыя вытворныя ад указаных слоў або сінонімы да іх: *абарса́ць*, *ашале́лы*, *бабы́лька*, *збе́дніцца*, *перабарса́ць*.

У некалькіх выпадках Я. Драздовіч на асобных картках аформіў аманімічныя формы, якія пасля рэдакцыі былі захаваны. Гэта *аўча́рнік, віхт, лялька.* Напрыклад:

**ВІХТ** *м.* Догляд свойскай жывёлы. *Як дась гаспады́ня каро́ве ві́хту, дык яна́ дась і бо́лей малака́.* ◊ ДАЦЬ ВІ́ХТУ. Дагледзець (пра свойскую жывёлу); **ВІХТ** *м.* Дрэсіроўка. *Паляўні́чыя саба́кі ча́ста атры́мліваюць віхт.*

У 20 выпадках значэнні мнагазначных слоў былі разгледжаны як аманімічныя і пададзены асобнымі слоўнікавымі артыкуламі: *аржані́ца*, *байстру́к*, *балва́н*, *бальша́к*, *бандо́ра*, *ба́нька*, *бара́н*, *баўту́н*, *бой*, *бо́йка*, *бо́нда*, *бо́ртнік*, *боршч*, *бо́ўтка*, *бра́тка*, *бро́ўца*, *бру́шка*, *бу́хнуць*, *бык*, *бяро́за*.

| | |
|---|---|
| **Банду́ра**<br>1) украінскі струнны музыкальны струмэ́нт.<br>2) жартаўлівая прозва пахвіннай грызі, кілы́: Пада́рваўся і нажы́ў сабе́ «банду́ру».<br>Дзісеншчына (Я. Драздовіч) | **БАНДУ́РА** *ж.* Украінскі струнны музычны інструмент.<br>**БАНДУ́РА** *ж. жарт.* Пахвінная грыжа. *Падарва́ўся і нажы́ў сабе́ банду́ру.* |

На дзвюх картках было ўказана аднолькавае рэестравае слова *ба́ба*, але з рознымі значэннямі. У выніку апрацоўкі некаторыя значэнні былі аб’яднаны, а некаторыя вынесены асобна як аманімічныя.

**Баба**
1) маламужнага характару мужчына.
Ба́ба з цябе́ а німужчы́на.
2) Сваябітная, для заганяньня у зямлю, калода.
3) Калаўротная, для навіваньня пацяжно́й вяроўкі, абіча́я або калода,
бываюць: для напінаньня апорная ліны цераз раку у парамах; для валачбы па падлёдзьдзю рыбалоўнага неваду на азёрах; і для узніманьня на столь збажжавых мяхоў у млынох.
Дзісеншчына (Я. Драздовіч)

**Баба**, **-ба**
Простанародны зоў выйшаўшай з дзявочага стану жанчыны.
З дзе́ўкі ба́ба хоць калі́, а з ба́бы дзе́ўка ніко́лі.
2) Кабета паджылых гадоў, адбабліваючая дзяцей. Павівальная бабка.
3) Матчына або бацькава матка. Дзедава жонка. Гл. сл. Бабуля.
Дзісеншчына (Я. Драздовіч)

**БАБА** *ж.* 1. *разм.* Жанчына. 2. Кабета. 3. Бабуля; матчына або бацькава маці; дзедава жонка. 4. Павівальная бабка; жанчына ў веку, якая прымае дзяцей у час родаў. 5. *разм.* Пра нерашучага мужчыну. *Ба́ба з цябе́, а ні мужчы́на.*
□ *З дзе́ўкі ба́ба хоць калі́, а з ба́бы дзе́ўка – ніко́лі.*

**БАБА** *ж.* Калаўротная калода, на якую прымацоўваецца вяроўка для таго, каб нацягнуць апорную лінію праз раку для парома, каб цягнуць рыбалоўны невад па лёдзе або каб узнімаць на млын мяшкі са збожжам.
Калаўротная, для навіваньня пацяжно́й вяроўкі, абіча́я або калода, якая бываюць: для напінаньня апорная ліны цераз раку у парамах; для валачбы па падлёдзьдзю рыбалоўнага неваду на азёрах; і для узніманьня на столь збажжавых мяхоў у млынох.

**БАБА** *ж.* Калода для забівання ў зямлю паляў.
Сваябітная, для заганяньня у зямлю, калода.

У пяці выпадках пасля аналізу ілюстрацыйнага матэрыялу былі выдзелены наступныя аманімічныя формы: *алі́/але́ – супраціўны злучнік* і *алі́/але́ – ўзмацняльная часціца*, *ані́ – прыслоўе* і *ані́ – часціца*, *апры́ч/апро́ч – прыназоўнік* і *апры́ч/апро́ч – прыслоўе*, *блуда́ – назоўнік* і *‘блуда́ – выклічнік*, *бра́ва – выклічнік* і *бра́вы – прыметнік*:

**Алі́**
Прысловак «Але́».
Я-то жада́ю, алі́ ты ня хо́чыш!.
Алі што́ ж ты зробіш…
Дзісеншчына (Я. Драздовіч)

**АЛІ́**, **АЛЕ́** *злучн. супраціўны.* Служыць для супрацьпастаўлення. *Я-то жада́ю, алі́ ты ня хо́чыш!*
**АЛІ́**, **АЛЕ́** *часц. узмацняльная.* Ужываецца пры здзіўленні, абурэнні. *Алі́ што́ ж ты зро́біш…*

Вельмі часта сэнсавая характарыстыка і ілюстрацыя або ілюстрацыі (у тым ліку і на аднакаранёвыя словы або сінонімы да рэестравых слоў) былі даволі аб’ёмнымі і змяшчалі разнастайныя дадатковыя звесткі, а таксама інфармацыйнымі былі ілюстрацыі, што дало падставы:

➢ у 69 выпадках ператварыць адназначныя словы ў шматзначныя. Гэта такія лексемы, як *абу́х*, *акрэ́пнуць*, *але́шнік*, *алуне́лы*, *алуне́ўшы*, *альха́*, *амбара́с*, *аняго́ж*, *ара́п*, *апі́сы*, *апо́лак*, *апрагчы́ся*, *апу́шчаны*, *аса́да*, *асё́тны*, *асіні́на*, *асіраце́ць*, *асту́п*, *ачарстве́ць*, *аўся́нішча*, *аўся́нка*, *багаві́ца*, *багаво́е*, *бага́ты*, *бага́цьце*, *бада́ч*, *бадзі́ла*, *ба́іньне*, *ба́іць*, *бако́ўка*, *балацяві́на*, *бало́тнішча*, *бало́цішча*, *бале́сьць*, *бара́н*, *барані́ць*, *баро́к*, *барсучы́нны*, *бару́лька*, *біда́к*, *бізу́н*, *бітва́*, *бітла́га*, *бітла́жка*, *бля́шка*, *бо́нда*, *бор*, *бра́жны*, *бразджэ́льнік*, *брушні́ца*, *буга́й*, *бу́дка*, *буза́*, *буйны́*, *бульбя́нішча*, *бу́тля*, *бычано́к*, *бядзі́ць*, *бязба́цькавіч*, *бярэ́зьнік*, *забалдавя́сты*, *замо́рак*, *затрыма́ньне*, *касмылі́*, *ко́наўка*, *па́цяркі*, *пу́шка*, *сяўня́*, *трэль*:

**Сяўня́**
Посуда, с которой сеют.
На гэтым кавалку лягла сяўня жыта.
в. Рымкі

**СЯЎНЯ́** *ж.* 1. Посуд, з якога сеюць. 2. Мера зерня, роўная аб’ёму гэтай пасудзіны. *На гэтым кавалку лягла сяўня жыта.* в. Рымкі.

➢ у трох выпадках да ўказаных значэнняў дадаць адно новае (*бегуно́к*, *бок*, *бягу́н*):

**Бок**
1) край сьвету па компасу.
у гэ́тый бок, у то́й бок, у тым баку́ – на по́ўнач.
2) старана ракі ~~або дарогі~~ або краіны і г. д.
на тым баку́ ракі́
на пра́вым баку? Дзісе́нкі
на той бок пу́шчы
што ў ва́шым <u>баку́</u> чува́ць, хвалі́ціся.
3) правая або левая ~~палавіна корпусу~~ удоўжная палавіна корпусу цела.
Каб табе скулы ў бок.
Нікладзі́ся на ле́вым баку́: сэрцу ніздаро́ва
ці сена клок ці вілы ў бок.

**БОК** *м.* 1. Напрамак на мясцовасці. *У гэ́тый бок, у то́й бок, у тым баку́ – на по́ўнач.* 2. Прастора злева і справа. *На тым баку́ ракі́. На пра́вым баку́ Дзісе́нкі. На той бок пу́шчы.* 3. Мясцовасць, краіна. *Што ў ва́шым баку́ чува́ць, хвалі́ціся.* 4. Правая ці левая частка тулава. *Ні кладзі́ся на ле́вым баку́ – сэрцу ніздаро́ва.*
*Каб табе́ ску́лы ў бок* (праклён). □ *Ці се́на клок ці ві́лы ў бок.*

Ускосна ў асобных выпадках на такую мнагазначнасць указвалі тлумачэнні пэўнага словазлучэння з рэестравым словам пасля асноўнай сэнсавай характарыстыкі (напрыклад, *Бу́тля. Вялізная бутэлькавастая шкляная пасудзіна, аплеціная лазой.* «Бутля гарэлкі» – *гарніц гарэлкі*). У адным выпадку два значэнні мнагазначнага слова намі былі аб’яднаны, бо змяшчалі аднолькавыя звесткі. Так, 2-е і 3-е значэнні лексемы ‘брусо́к’ былі злучаны: 2) *камень для навастраваньня нажоў ці тапара*, 3) *каменная трапачка для вастрэньня касцом касы*.

У адным выпадку разгледжаныя Я. Драздовічам значэнні слова ‘*бало́та*’ былі аформлены як састаўныя тэрміны, у склад якіх уваходзіць рэестравае слова:

**Бало́та**
(бало́та, бало́тца, балацяві́на, балоцішча, балоцітка, прыбалаць, ~~забалоцьце~~).
1) балота травяністае – балота, парослае травой.
2) б. драгбі́стае – дрыгвістае балота, дрыгва.
3) б. јмшарнае – махавое балота, јмша́ра.
4) б. јржа́вае – б., аплыўшае зялезна-рудною јржой, јржаві́шча.
5) б. крынічнае – балота ад разрыхлінага крынічнымі вадападцёкамі грунту.
Дзісеншчына (Я. Драздовіч)

**БАЛО́ТА** *н.* Балота. БАЛО́ЦІТКА *памянш.-ласк.* Невялікае балота. *Кругло́ мало́ бало́цітка...* (з песні касцоў). ○ БАЛО́ТА ТРАВЯНІ́СТАЕ. Балота, парослае травой. ○ БАЛО́ТА ДРАГБІ́СТАЕ. Дрыгва; дрыгвістае балота. ○ БАЛО́ТА ЙМША́РНАЕ. Імшара; мохавае балота. ○ БАЛО́ТА ЙРАЖА́ВАЕ. Балота, пакрытае жалезна-рудой іржой. ○ БАЛО́ТА КРЫНІ́ЧНАЕ. Балота, якое ўзнікла з-за размывання грунту крыніцамі.

Мнагазначныя словы афармляюцца, як і адназначныя. Значэнні іх характарызуюцца і ілюструюцца асобна адно ўслед за другім і нумаруюцца арабскай лічбай з кропкай. Яны захоўваюць аўтарскі парадак размяшчэння, напрыклад:

**БРУ́ХА** *н.* 1. Жывот. 2. Цяжарнасць. *Хадзі́ў, хадзі́ў, паку́ль «бру́ха» ні прыстро́іў.*

Рэестравыя словы, што маюць аманімічныя формы, падаюцца асобнымі слоўнікавымі артыкуламі, напрыклад:

**БРУ́ШКА**, **БРУШКО́** *н. ласк.* Бруха.
**БРУ́ШКА**, **БРУШКО́** *н.* Падушачкі пальцаў на руцэ.
Круглявая мяккая часьць пальца рукі, шчуплік.

Укладальнік слоўніка раскрываў пераважна прамыя значэнні слоў. Пераносныя значэнні слоў у яго адзначаюцца вельмі рэдка: напрыклад, пры лексеме «*бядзі́ць*» выкарыстоўваецца памета «*ў іранічных выразах*», пры лексеме «*банду́ра*» – «*жартаўлівая прозва*». Пры падрыхтоўцы слоўніка да выдання прамыя і пераносныя значэнні слоў былі размежаваны дзякуючы ілюстрацыйнаму матэрыялу. У выніку памета *перан.* была дадазена да 21 загалоўнага слова або да асобных значэнняў мнагазначнага слова:

**Барсу́к**
1) Вядомы усім лясны зьвер.
2) Капрызны ~~і нелюдзімы~~ з надутым, панурым характарам чалавек.
Ходзіць, як барсук надуўшыся.
Дзісеншчына (Я. Драздовіч)

**БАРСУ́К** *м.* 1. Барсук. 2. *перан.* Пра чалавека з капрызлівым, панурым характарам. *Хо́дзіць як барсу́к наду́ўшыся.*

### *Адсылачныя паметы*

Адсылачныя паметы поўнасцю адсутнічаюць у Слоўніку вёскі Рымкі, аднак прадстаўлены ў невялікай колькасці ў Слоўніку на літару Б (10 выпадкаў) і дастаткова шырока ў Слоўніку на літары А і Б (44 выпадкі).

Тоеснасць аднаго слова па значэнні да другога двойчы ў слоўнікавых матэрыялах Я. Драздовіча была пазначана пры дапамозе адсылкі «тое самае, што й...» (*Бра́тка. 1) тое самае, што й* «*брато́к*»; *Бало́тны*, *Тое самае што й* «*Лаза́ты*»), прычым лексем «*брато́к*» і «*лаза́ты*» няма сярод рэестравых слоў. Аднак у апрацаваным словазборы лексемы *бра́тка*, *брато́к*, *бало́тны*, *лаза́ты* атрымалі тлумачэнне свайго значэння. Дадзеныя змяненні ў тэксце слоўніка спецыяльна не выдзяляюцца.

З мэтай указання на вытворнасць слова тройчы Я. Драздовіч выкарыстаў памету «ад сл.»: *Алага́джваць*, (*ад сл. лаго́днасьць*); *Ату́каны*, (*Ад пагрознага крыку на ваўка «Aha-tu!»*); *Бразгатня́. ад сл. Бражджэць*. Лексемы «лаго́днасць», «ага́ту», «браздж́эць» не былі зафіксаваны ўкладальнікам слоўніка, таму пасля апрацоўкі слоўнікавых матэрыялаў не былі ўнесены ў рэестр.

Раскрыццё значэння аднаго слова другім словам праз адсылку «*гл. сл.*» давалася ўкладальнікам для больш эканомнага і сціслага афармлення слоўнікавага матэрыялу (у 49 выпадках):

1) пры сінонімах, значэнне якіх поўнасцю або часткова супадае (у 11 выпадках): *Аму́т, Гл. сл. Вір*; *Атра́ва, Гл. сл. Атрута*; *Баба, -ба, Гл. сл. Бабуля*; *Бага́ч, Гл. сл. Багаты́р*; *Ба́йня*, (*гл. сл. Ла́зьня і Цяплі́ца*); *Бе́лка, гл. сл. Вавёрка*; *Бе́льле, Гл. сл. Бялізна*; *Бі́рка*, (*гл. сл. Бірубалка*); *Блі́не́ц, -ныц́*, (*Гл. сл. блін і аладка*); *Блі́скаві́ца або маланьня́, Гл. сл. Маланьня́*; *Бруха́ч. Таўсьцяк.* (*гл. сл. брухель*);

2) пры аднакаранёвых словах, калі а) рэестравая адзінка мае тлумачэнне, але не вельмі падрабязнае і дакладнае, б) у такім азначэнні апорнымі кампанентамі могуць быць аднакаранёвыя словы да рэестравай адзінкі, якія былі папярэдне вытлумачаны складальнікам (у 12 выпадках): *Алуне́ласьць*, (*лунь, луне́ць, алуне́ць*), «*Алуне́лы*», – ~~*як непрытомны*~~ *утраціўшый шу́страсьць, бадзёрасьць духу. Як за́спаны, як ніпрыто́мны*, (*Гл. сл. Лунь*); *Апіша́ліц, апіша́лы, Чалавек нідба́лы, няру́пны, нісхамя́нны, Гл. сл. Апіша́ласьць*; *Астро́жнік, Турэ́мшчык – араштант, Гл. сл. Астрог*; *Асту́п, рас. атака, «Кінуліся у асту́п. прыняліся ўсе аступам. Наляцелі, наваліліся аступам», Гл. сл. аступіца*; *Ато́жылак, Ато́жыліна, Аддзельная былі́на з атожыльля*, (*Гл. сл. атожыль*); *Ато́сьсе, Нялічаны множны лік атосаў, Гл. сл. Атос, -сы*; *Барта́сіць, Пераверта́ць задам на́ўперад»*, (*Гл. сл. Абартас*); *Ба́цькавіч, 1) Сын, пасачы́ўшый як па адабе́, так і па характару свайго бацьку, 2) Выхаваны пад апекаю свайго бацькі*, (*Гл. сл. Безбацькавіч*); *Бляха́рня (бліха́рня), Бляхарская майстро́ўня, Гл. сл. Бляха́р*; *Браздж́эліна. Дерава браздж́элі. гл. сл. браздж́эль*; *Браздж́эльнік. Браздж́элевы па́расьнік, кустоўе браздж́элі. гл. сл. браздж́эль*; *Будаўні́чы. гл. сл. Будаўнік. Архітэктар*;

3) пры вытворных словах без дадатковых памет аб асаблівасці значэння дадзенага слова ў параўнанні з адпаведным утваральным (у 7 выпадках): *Апыне́ньне, Гл. сл. Апынуцца*; *Асаджаваньне, Гл. сл. Асада*; *Асі́пласьць, Гл. сл. Сіпка*; *Багні́стасьць, Гл. сл. Ба́гна*; *Бузава́ць*, (*гл. сл. буза́*); *Бу́хнуць, 1) гл. сл. бух*). Трэба адзначыць, што калі слова, на якое даецца адсылка, не з'яўляецца непасрэдна вытворным для дадзенай лексемы, то ў яго межах можа быць вытлумачана менавіта ўтваральнае да разглядаемай рэестравай лексемы: *Асьці́стасьць, Гл. сл. Асьцё* (*Асьцё, асьцьце, Вусы жытняга або ячнага кало́сься, Асьці́стае, – калючае, з асьцьцём*);

4) пры вытворных словах, пасля грунтоўнага азначэння рэестравага слова (адзінкава): *Ба́бліньне, Гл. сл. Ба́біць, Працэс абразаньня павівальная бабкай пупка народжанаму дзяцёнку*;

5) пры фанетычных варыянтах (у 11 выпадках): *Аняўжо-ж, гл. сл. «Анягож»*; *Атлі́га, Гл. сл. Адліга*; *Аўся́ньнік, Гл. сл. Аўсянік*; *Бада́й, Гл. сл. Багда́й*; *Бамбі́ла, Гл. сл. Байбіла*; *Бара́нкі, Гл. сл. Абара́нкі*; *Барвік-кі́, Гл. сл. Баравік*; *Барнавало́к, Гл. сл. Баранавало́к*; *Баця́н, Гл. сл. бася́н*; *Бі́га́*, (*гл. сл. бега́*); *Борт-ты, гл. сл. борць-ці*;

6) пры словаўтваральных варыянтах (у 4 выпадках): *Апа́дкі, Гл. сл. Апа́душы*; *Аця́жаваньне, Гл. сл. Зьцяжаваньне*; *Бадзя́ка, Гл. сл. Бадзя́ўка*; *Бывальні́ца, гл. сл. нібыльні́ца*;

7) пры граматычных формах, якія, верагодней за ўсё, памылкова вынесены ў асобныя артыкулы (*адзінкава*): *Акра́ўкі, Гл. сл. Акра́вак*;

8) пры тэрмінах, якія вытлумачаны ў іншых слоўнікавых матэрыялах, падрыхтаваных Я. Драздовічам (адзінкава): *Бабо́ўнік*, (*Гл. сл. мат. з Дзісеншчыны «назовы расьлін» агранома Павалковіча*);

9) пры лексемах адной тэматычнай групы, калі значэнне раскрываецца праз параўнанне (адзінкава): *Асьмі́на, васьмі́на, Мера бульбы – восьмая часьць болкі, або, два́цаць гарцаў*, (*на чатыры гарцы менш ад пу́ра*), (*гл. сл. Пур*).

Двойчы падаецца адсылачная памета адразу на два словы: *Ба́йня*, (*гл. сл. Ла́зьня і Цяплі́ца*); *Блі́не́ц, -ныц́*, (*Гл. сл. блін і аладка*).

У 14 выпадках адсутнічае слова, на якое падаецца адсылачная памета «гл.». Гэта можна патлумачыць наступнымі прычынамі:

1) такое слова пачынаецца з літары, на якую слоўнікавыя матэрыялы або не захаваліся, або не былі аформлены самім складальнікам, а толькі планаваліся: *Алуне́ласьць*, (*Гл. сл. Лунь*); *Аму́т, Гл. сл. Вір*; *Асі́пласьць, Гл. сл. Сіпка*; *Асьмі́на, васьмі́на*, (*гл. сл. Пур*); *Атлі́га, Гл. сл. Адліга*; *Аця́жаваньне, Гл. сл. Зьцяжаваньне*; *Ба́йня*, (*гл. сл. Ла́зьня і Цяплі́ца*); *Бара́нкі, Гл. сл. Абара́нкі*; *Барта́сіць, Пераверта́ць задам*

*наўперад*», (*Гл. сл. Абартас*); *Бе́лка*, *гл. сл. Вавёрка*; *Бліне́ц, -ныы́*, (*Гл. сл. блін і аладка*); *Бліскаві́ца або маланьня́*, *Гл. сл. Маланьня́*;

2) памылкова прапушчана: *Ба́бліньне*, *Гл. сл. Ба́біць*; *Ба́цькавіч*, (*Гл. сл. Безбацькавіч*); *Ба́цькавіч*, (*Гл. сл. Безбацькавіч*).

У некаторых выпадках спасылка падаецца на іншыя рукапісныя слоўнікавыя матэрыялы:

1) у Слоўніку на літары А і Б указана лексема «*бе́льле*» і спасылка на лексему «*бялізна*», якая зарэгістравана і тлумачыцца ў Слоўніку на літару Б;

2) у Слоўніку на літару Б указана лексема «*быльні́ца*» і спасылка на лексему «*нібыльні́ца*», якая зарэгістравана і ўскосна тлумачыцца ў Слоўніку на літары А і Б;

3) у Слоўніку на літары А і Б указана лексема «бабо́ўнік» і спасылка на іншыя слоўнікавыя матэрыялы Я. Драздовіча: *Бабо́ўнік*, (*Гл. сл. мат. з Дзісеншчыны* «*назовы расьлін*» *агранома Павалковіча*).

Для аднастайнасці афармлення слоўнікавых матэрыялаў і пры ўліку таго, што падобных выпадкаў не так і многа (54), замест адсылак даюцца тлумачэнні тых слоў, да якіх аўтар адсылае. Такія рэдакцыйныя змяненні ў слоўніку не выдзяляюцца.

Памета Я. Драдовіча «гл. рыс.» была апушчана ў двух выпадках – на лексемы *буч* і *бо́йка*, як і памета «рыс.» пры лексеме *блуда*. Гэта было зроблена па прычыне таго, што малюнкі, якія павінны суправаджаць гэтыя словы, сярод архіўных матэрыялаў не знойдзены.

### *Іншамоўныя адпаведнікі*

Іншамоўныя адпаведнікі ўказаны Я. Драздовічам да 132 лексем або значэнняў мнагазначнага слова ў Слоўніку на літару Б і Слоўніку на літары А і Б.

У Слоўніку на літару Б да 23 лексем у Язэпа Драздовіча дададзены рускія адпаведнікі (напрыклад, *бразджо́лка*, *рас. позвонок*; *бро́ва-вы*, *рас. бровь*; *бруд*, *рас. нечыстоты*; *брыдлі́васьць*, *рас. брезгливость*; *бура́к-кі́*, (*рас.*) *сьвякла*; *бэз*, *рас. сирень*; *бурчэ́ць*, *рас. урчеть*; *бот-ты*, *рас. сапог-гі* і інш.); да дзвюх лексем указаны польскія эквіваленты: *бра́га* (*bráha*); *брыдо́та*, *пол. brzyolota*[1], да дзвюх – лацінскія: *бу́льба*, (*Cartotel.*); *бо́бра*, *бабё́р*, (*castor*), да адной – польскі і рускі адпаведнікі: *бруштын́*, *рас. янтарь*, *пол. Bursztyn*.

У Слоўніку на літары А і Б да 95 лексем у Язэпа Драздовіча дададзены рускія адпаведнікі: напрыклад, *арандо́ўнік*, *рас. орендатор*; *афарбо́ўка*, *рас. окраска*; *афармоўка*, *рас. оформление*; *афя́ра*, *рас.*, *ахво́та*, *рас. охо́та* і інш.; да пяці лексем указаны польскія эквіваленты: *амбо́нія*, *пол. ambona*; *анэ́гды*, (*anégdy*); *арна́т*, *пол. ornat*; *ашу́ка*, *пол. oszustwo*; *бітла́га*, *бітла́жка*, *баклага*, *баклажка*, «*карна́ты*», *круглы*, *пузга́н* (*puzgan*); да дзвюх – польскі і рускі адпаведнікі: *апцугі́*, *рас. щипцы*, *пол. obcegi*; *ашука́нства*, *рас. обман*, *пол. oszystwo*; да адной – рускі і лацінскі адпаведнікі: *ашáл*, *шал*, *ашале́ньне* (*hidrotobia*), *рас. бешенство*; да адной – украінскі адпаведнік: *ака́зія*, *укр. оказія*.

Паметы «рас.» і «пол.» афармляюцца неаднастайна:

1. З новага радка, з вялікай літары памета, з вялікай або малой – іншамоўны адпаведнік (у 85 выпадках):

***Акры́ўка***
*Рас. Окрывка.*
***Апцугі́***
*Рас. Щипцы*
*Пол. Obcegi*

***Акрыцьцё́***
*Рас. покрывало, покрывалы.*
***Ашука́нства***
*Рас. Обман, пол. Oszystwo.*

2. З новага радка, з малой літары і памета, і іншамоўны адпаведнік (у 19 выпадках):

***Бруштын́***
*рас. янтарь*
*пол. bursztyn*

***Брыдо́та***
*брыдкае, ніладнае, ніпрыгожае.*
*пол. brzyolota.*

***Бяло́к***
*рас. белок*

3. З новага радка, з малой літары, пасля злучка (у 2 выпадках):

***Бра́ва***
(*бра́ва, бра́васьць, бра́вы*).
*-рас. брава.*

***Браджэ́ньне***
*-рас. брожение.*

[1] Вельмі часта Я. Драздовічам іншамоўныя адпаведнікі прыводзяцца з памылкамі.

4. З новага радка, у дужках разам з адпаведнікам (адзінкава):

***Бярэ́зіна***
*дзерава бярозы.*
(*рас. древесина березы*).

5. У дужках разам з адпаведнікам у межах тлумачальнай часткі (у 7 выпадках):

***Апа́л***
*Атапле́ньне* (*рас. Отопление*), *дро́вы*

***Быдля́***
*жывёліна* (*рас. животное*).

6. Праз коску ці без у дужках у межах тлумачальнай часткі (у 2 выпадках):

***Бака́с***
Птушка (рас.) бекас

***Бура́к-кі́***
*гародная карняплодная расьліна*, (*рас.*) *сьвякла.*

7. Праз кропку ці коску з працяжнікам з малой літары ў межах тлумачальнай часткі (у 6 выпадках):

***Асо́т***
*Калючая гародна-палівая расьліна, – рас. Осот.*

***Бурчэ́ць***
*вурчэць. рас. урчеть*
*«разбурчэ́ўся, як капры́зьлівая баба».*

У 7 выпадках іншамоўны адпаведнік заключаецца ў дужкі і без усякіх памет змяшчаецца або пасля рээстравага слова, або ў канцы тлумачальнай часткі:

***Бра́га*** (***bráha***)
***Бо́бра***, ***бабёр***
*Бобр, пушчаўскі* (*на Галубіцкай пушчы*) *рачны зьвярок-грызун* (*castor*).

***Бу́льба***
*Гародная карняплодная з сям'і пасьлёнавых, родам з Амэрыкі, гародная расьліна,* (*Cartotel.*)

У трох выпадках памета «*рас.*» афармляецца як «*па рас.*» або «*з рас. сл.*»:

***Ба́ган***
*Јмшарная, нізкарослая кустовая, з адурманіваючым пахам, расьліна. Па рас. Богульник.*

***Ба́йня***
*З рас. сл. баня.*
***Баўту́н***
*1) па рас. болту́н*

У 8 выпадках у Слоўніку на літару Б і ў 36 выпадках у Слоўніку на літары А і Б выключна праз іншамоўны адпаведнік раскрываецца значэнне рэестравага слова: гэта такія лексемы, як *акамяне́ласьць*, *акаці́цца*, *акліно́ўка*, *акно́*, *акрыва́ньне*, *акрыва́ўлінасьць*, *акрыве́ласьць*, *акры́ўка*, *акрыцьцё́*, *аксамі́т*, *аранда́тар*, *арга́ны*, *ару́жжа*, *асе́дласьць*, *асіве́ласьць*, *асно́ва*, *аўта́р*, *аўто́рак*, *ацале́ласьць*, *ацё́к*, *акале́чаны*, *акалі́чнасьць*, *бадзя́ўка*, *байра́к*, *ба́кі*, *балбата́ць*, *балю́шка* і інш.

Усе іншамоўныя адпаведнікі пры падрыхтоўцы слоўніка апушчаны, бо яны выкарыстоўваюцца і афармляюцца непаслядоўна і асноўная іх роля – праясніць значэнне рэестравых слоў.

### *Фанетыка-акцэнталагічныя і словаўтваральныя варыянты*

Да некаторых рэестравых і вытворных слоў, што маюць сэнсавую характарыстыку, прыводзяцца фанетыка-акцэнталагічныя варыянты. Пры гэтым фанетычныя варыянты маюць розны лінгвістычны статус: яны з'яўляюцца лексічнымі адзінкамі з адлюстраваннем з'яў пазіцыйнага чаргавання і фармальнымі асаблівасцямі. Фанетыка-акцэнталагічныя варыянты ўказваюцца рознымі спосабамі:

• праз злучнік «або»: *бо́ндар або банда́р*; *бро́віна або бравіна́*; *бярасьця́нае або бірасьця́нае* і інш.,

• з чырвонага радка пасля рээстравага слова: *аржа́* і *јржа́*; *аха́пак* і *ахо́пак*, *ажарга́ць* і *ажырга́ць*; *бальшына́* і *бальшыня́*; *балды́р* і *баўды́р* і інш.,

• праз коску: *ачаха́ньне*, *ачыха́ньне*; *брох*, *брэх*; *белька-кі*, *балька-кі*; *бру́шка*, *брушко́*; *бяльлё́*, *бе́льля* і інш.,

• у дужках: *бега́* (*біга́*); *бо́лі* (*бо́лій*, *бо́лей*, *бале́й*) і інш.,

• асобна ў азначэнні: да *бо́бра*, *бабёр* азначэнне «*бобр – пушчаўскі* (*на Галубіцкай пушчы*) *рачны зьвярок-грызун* (*castor*)» і інш.,

• у радзе вытворных у слоўнікавым артыкуле на аднакаранёвае слова, напрыклад:

○ ***Бяро́за***, (*бяро́за*, *бяро́зка*, *бяро́зачка*, <u>*бярэ́зьнік*, *біразьня́к*</u>, *бярэ́зіна*) і інш.,

• у прыкладзе, напрыклад: *ангэ́лька* і «<u>*ангелькай*</u> *хварэюць найбалей маладыя свіньні*» і інш.,

• на іншай слоўнікавай картцы, на якую адсылае памета «гл. сл.» *Аняўжо-ж*, *гл. сл.* «*Анягож*»; *Атлíга*, *Гл. сл. Адлíга*; *Аўся́ньнік*, *Гл. сл. Аўсянік* і інш.

Усе фанетыка-акцэнталагічныя варыянты былі захаваны пры падрыхтоўцы слоўнікавых матэрыялаў і ўказваюцца ў такім парадку, як іх прывёў Язэп Драздовіч.

Пры некаторых рэестравых словах праз коску ці праз злучнік «або» падаюцца іх словаўтваральныя варыянты (*бра́тавая або братавіха*, *бура́чашча або бурся́нішча*, *Б. [роўца] або бро́ўка*). Такія лексемы афармляюцца як самастойныя слоўнікавыя артыкулы.

### *Закрэсленні*

У Я. Драздовіча сустракаюцца закрэсленні (словы, словазлучэнні, сказы) як у тлумачэнні рэестравага слова, так і ў ілюстрацыйным матэрыяле. Аўтарскі спосаб апрацоўкі і падачы матэрыялу захоўваецца толькі ў некаторых выпадках. Найчасцей, калі гэта вымагаецца патрэбамі слоўнікавага артыкула, напрыклад:

**БЯРЭ́СЬЦІНА** *ж.* Кавалак бярoсты.

~~*Адцінак (кусок) бярозавай (кары) скуры, бяросты*~~. Адцінак (кусок) бяросты.

### *Граматычная характарыстыка*

З граматычнага боку рэестравыя словы ў рукапісе былі ахарактарызаваны наступным чынам:

а) большасць загалоўных слоў, якія адносяцца да зменных часцін мовы, пададзены ўкладальнікам у пачатковай форме;

б) у назоўніках, што маюць форму адзіночнага і множнага ліку, указваюцца адпаведныя канчаткі.

Найбольшая колькасць рэестравых слоў – гэта абазначальныя сродкі, якія належаць да іменных часцін мовы: назоўнікі (858 адзінак), прыметнікі (38). Іншыя граматычныя разрады слоў размеркаваны наступным чынам: дзеясловы (81), дзеепрыметнікі (7), прыслоўі (29), часціцы (4), прыназоўнікі (1), злучнікі (1), выклічнікі (13).

У сувязі з гэтым да рэестравых слоў былі дададзены наступныя граматычныя паметы. Сёння яны агульнапрынятыя ў нацыянальнай лексікаграфічнай практыцы:

пры назоўніках: *м.*, *ж.*, *н.*, *агульн.*; пры прыметніках, дзеепрыметніках і прыслоўях: *прым.*, *дзеепрым.* і *прысл.* адпаведна; пры дзеясловах: *зак.* або *незак.*, пры выклічніках: *выкл.*

У 14 выпадках Я. Драздовіч указаў па алфавіце замест рэестравага слова сінтаксічна звязаныя адзінкі – тэрміналагічныя словазлучэнні (*анельская каша*; *асвянны́ пузы́р*; *аўта́рная часьць*; *бара́нькавыя хма́ркі*; *жыво́е срэ́бра*; *зяле́ны ка́мень*; *куры́ная сьлепата́*; *пераго́нныя хма́ркі*; *сі́ні ка́мянь*; *хво́ры на по́шасьць*), фразеалагізмы (*ба́біна ка́ша*; *няма́ клёпкі*; *шэ́рая гадзі́на*); адзінкава была вынесена толькі частка фразеалагізма (*бара́нні рог*), у прыкладзе ж фразема была прыведзена поўнасцю (*зкруці́ць у бара́нні рог*). Апорнае слова такіх адзінак было афомлена ў сваёй пачатковай форме як загалоўнае, а сінтаксічна звязаная канструкцыя была пададзена пасля спецыяльнага знака (○ ці ◊). Ва ўсіх устойлівых выразах прыводзіцца іх значэнне, указанае складальнікам. У чатырох выпадках вынесеныя складальнікам словазлучэнні былі разгледжаны як свабодныя (*барсучы́ннае са́ла*; *барсучы́нныі но́ры*; *брызлае малако́*; *дагля́д расьлі́н*), таму апорны кампанент быў вынесены як загалоўны, а словазлучэнне перанесена ў прыклад. Апорныя словы ўключаны ў вышэйпрыведзены часцінамоўны пералік.

Адзінаццаць прыметнікаў былі зафіксаваны аўтарам не ў пачатковай форме, інакш кажучы, не ў форме мужчынскага роду: *альхо́вае*; *арандо́ўнае*; *аржано́е*; *аро́мае*; *асётнае*; *барраво́е*; *бляды́*, *-да́я*; *бра́жная*; *бра́тніе*; *бу́рае*; *була́ны-ная*. Апошняе можна патлумачыць тым, што, па-першае, хутчэй за ўсё, Я. Драздовіч кіраваўся ўжытай у прыкладзе або ў азначэнні словаформай: *арандо́ўнае – арандо́ўніцкае жыцьце*, *арандо́ўніцкая гаспада́рка*; *аржано́е – жы́тніе*; *аро́мае – пашно́е*; *асётнае – асётнае жы́та*; *бляды́*, *-да́я – бле́дны*, *бле́дная*, *з бязкро́ўным вы́глядам тва́ру*, «*Ах яка́я ж ты бліда́я*, *ані крыві́нкі...*»; *бра́жная – бра́жныі каро́вы*, *бра́тніе – бра́тніі дзе́ці*, *бра́тніі ко́ні*, *була́ны-ная – була́ны конь*. Па-другое, пад формай

ніякага роду Я. Драздовіч меў на ўвазе «ўсё, што тычыцца; розныя рэчы, якія маюць адносіны да...», інакш кажучы, субстантыўныя прыметнікі: *альхо́вае – альхо́вы стол*, *альхо́вы коўш*, *альхо́вы пало́нік*, *бараво́е – баравы́я мя́йсцы*, *баравы́ воск*, *барава́я па́ша*, *бараво́е жы́та*.

У 7 выпадках замест пачатковай формы дзеяслова ў аўтара былі вынесены наступныя формы: *акаці́лася*, *акрыя́ў*, *апро́гся* і *апрагла́ся*, *ахлы́ў*, *брэ́дзіш*, *зво́дзіш*, *чапку́еш*. Менавіта на гэтыя словарфомы пададзены прыклады пад адпаведнымі загалоўнымі лексемамі: *Я на яе́ ніко́лі на́ват «брэ́дзіш» ні сказа́ла*; *Ко́шка на́ша у падпе́ччыку акаці́лася*; *Аве́чка акаці́лася, двое јгня́т прывіла́*; *Каро́ва здо́хла, апрагла́ся*; *Каня жытам абкармілі, вы́пруціў ногі, апро́гся*» і інш.

У пералічаных выпадках неадпаведныя формы былі заменены на формы адзіночнага ліку назоўнага склону мужчынскага роду або форму інфінітыва (дзеяслоў).

У 60 выпадках Я. Драздовіч акрамя формы адзіночнага ліку падае форму множнага ліку назоўніка. Такія формы прыводзяцца скарочана праз злучок або праз коску і злучок у выглядзе часткі асновы з абавязковым пазначэннем націску, калі ён змяняецца: *апа́душ*, *-шы*; *апе́нка*, *-кі*; *апса́ц*, *-цы*; *апу́ха*, *-хі*; *асу́шак*, *-кі*; *аўчы́на*, *-ны*; *ашука́ніц*, *-ка́нцы*; *бабо́вік*, *-кі*; *бабы́ль*, *лі́*; *бага́тка*, *-кі*; *багаты́р*, *-ры́*; *ба́йка*, *-кі*; *байра́к*, *-кі*; *ба́лька*, *-кі*; *банька*, *-кі*; *баравı́к*, *-кі́*; *барвік-кі́*; *батрак*, *-кі́*; *башмак*, *-кі*; *бая́рка*, *-кі*; *белька-кі*; *біру́балка*, *-кі*; *біру́лька*, *-кі*; *блін*, *-ны́*; *бліне́ц*, *-нцы́*; *бліску́чка*, *-кі*; *бо́лька-кі*; *борт-ты*; *бот-ты*; *борць-ці*; *браце́нік-нькі*; *бро́ва-вы*; *бро́ўца-цы*; *брус-сы́*; *брусо́к-скі́*; *брызга-гі*; *бура́к-кі́*; *бу́рбалка-кі*; *буч-чы́*; *бу́фа-фы*; *бык-кі́*; *бэ́лька-кі*; *цыру́балка*, *-кі*. Некаторыя формы множнага ліку ўказваюцца ў поўным выглядзе з-за змены націску і фанетычнай будовы асновы: *ала́дак*, *ала́дкі*; *алёс*, *альсы́*; *ата́лак*, *ата́лкі*; *бажанёнак*, *бажанё*, *бажаня́ты*; *біда́*, *бе́ды*; *б.[яльмо́]*, *бе́льмы* (у 2-м значэнні); *бярно́*, *бёрны*; часам такое ўказанне субстантываў выглядае нематывавана: *андзе́я*, *андзе́і*; *а́нёл*, *анёлы*; *ану́ча*, *ану́чы*; *ара́к*, *ара́кі*; *ару́д*, *ару́ды*; *ато́ка*, *ато́к*, *ато́кі*; *ато́с*, *ато́сы*; *афя́рнік*, *афя́рнікі*; *бо́цік*, *бо́цікі*; *бель*, *бе́лі*.

Яшчэ ў чатырох выпадках формы адзіночнага і множнага ліку назоўнікаў аформлены ў адрозныя слоўнікавыя артыкулы: *акра́вак* і *акра́ўкі*; *браздж́о́лка* і *браздж́о́лкі*; *брушні́ца* і *брушні́цы*; *буды́нак* і *буды́нкі*. Першыя тры з пералічаных пар лексем былі аб'яднаны намі ў адзін артыкул з-за тоеснасці лексічнага значэння.

Заўважым, што па родавай прыналежнасці субстантывы размяркоўваюцца наступным чынам: мужчынскі род – 31 адзінка, жаночы род – 123, ніякі – 5; адзін назоўнік зафіксаваны складальнікам і ў мужчынскім родзе, і ў жаночым (*ато́ка*, *ато́к*, *ато́кі*). Астатнія назоўнікі ў слоўнікавых матэрыялах Я. Драздовіча падаюцца ў форме адзіночнага ліку, за выключэннем множналікавых або парных, напрыклад: *бра́ткі*, *бацёны*, *бацёнкі*, *бу́сі* і інш. Пры падрыхтоўцы слоўніка згаданыя 63 назоўнікі аформлены як назоўнікі, што маюць форму адзіночнага і множнага ліку (г. зн. формы адзіночнага і множнага ліку пералічаны як рээстравыя), напрыклад:

**БУЧ** *м.*, **БУЧЫ́** *мн.* Рыбалоўная снасць, сплеценая звычайна з лазовых дубцоў у выглядзе вузкага круглага каша з лейкападобным уваходам; верша; нерат.

Граматычная памета *зб.* была дададзена да некаторых лексем у наступных выпадках:

➢ калі азначэнне, пададзенае Я. Драздовічам, уключала ў сябе ўдакладненне «ў нялічанай колькасці»: *буды́нкі*, *бярве́ньня*, *будо́ўля* і інш.;

➢ у адпаведнасці з лексічным значэннем: *быльлё́*, *бялі́зна*, *бяльлё́*, *бульбо́ўнік*, *бярэ́зьнік*, *брушні́чнік*, *бы́дла*, *бру́сьсе*, *брыда́* і інш.

### *Ілюстрацыйны матэрыял*

Значэнне і ўжыванне слоў або толькі значэнне ў слоўніку ілюструецца прыкладамі ў выглядзе сказаў або словазлучэнняў. Прыклады належаць да аўтарскіх уласных запісаў.

Ілюстрацыі пададзены ўкладальнікам у арфаграфічным напісанні, набліжаным да мясцовага гучання. Словападзел і пунктуацыя ў прыкладах прыведзены ў адпаведнасці з правіламі сучаснай беларускай літаратурнай мовы (напісанне *не*, вялікай літары, асобнае і праз дэфіс напісанне прыслоўяў і прыметнікаў, пастаноўка знакаў прыпынку і інш.). Асіміляцыйная мяккасць, правапіс звонкіх і глухіх, *у* і *ў* і *й* захаваны без змен.

У некаторых прыкладах сустракаецца літара *j*. Пасля рэдакцыі слоўніка такое напісанне лацінкай у ілюстрацыйным матэрыяле (а таксама ў асобных рэестравых адзінках) было поўнасцю заменена на кірылічны адпаведнік:

**АСАЧЫ́ЦЬ** *зак.* Высачыць, знайсці. *Чуць курыцу асачыла, чуць знайшла, дзе jна* [адпаведна *йна*] *нясецца.*

Праўда, наконт гэтай літары, а таксама іншых абазначэнняў Язэп Драздовіч у падрыхтаваным ім выданні «Беларускіх народных песень з Дзісеншчыны» ў фанетычным запісе (Ф 21–121) заўважае, што ўводзіць тры новыя абазначэнні гукаў:

1) «*літара* «*ė*» (*з кропкай*) *вымаўляецца у краёвым дыалекце Дзісеншчыны як нешта сярэдняе між* «*е*» *і* «*j*» (*Вясенныіі – ė*);

2) *літ. j ужыта ні як* «*й*», *а як польск j*;

3) *літ. ê як нешта сярэдняе між* «*е*» *і* «*я*» (*Ф 21–121, ліст 1*)[1] »[2].

Звычайна над усімі неаднаскладовымі словамі ў прыкладзе (маючы на ўвазе слоўнікавыя матэрыялы на літару Б і літары А і Б) Я. Драздовіч указваў націск, што намі захавана поўнасцю. Акрамя таго, націск захоўваецца і ў прыкладах, але непаслядоўна. У тым выпадку, калі акцэнталагічны склад аўтарам не быў выдзелены або ў адных і тых жа словах як кампанентах ілюстрацый быў вылучаны непаслядоўна, а таксама калі слова не мае хістанняў у выкарыстанні націску ў параўнанні з сучасным маўленнем, націск з мэтай надання аднастайнасці кантэксту быў пастаўлены. У прыкладах, дзе націск не быў пастаўлены і адпаведныя слоўныя эквіваленты нельга было знайсці ў лексікаграфічных і іншых крыніцах, матэрыял для якіх збіраўся з тэрыторыі, абследаванай аўтарам, або ў слове магчымы былі розныя націскныя склады, націск не ўказваўся.

Да 561 загалоўнага слова (або адно са значэнняў мнагазначных загалоўных слоў) падаюцца прыклады. У 17 выпадках з 561 прыклад выступае асноўным спосабам тлумачэння загалоўнага слова, бо сэнсавая характарыстыка або іншыя сродкі сэнсавай характарыстыкі да слова не прыведзены.

Яшчэ ў 86 выпадках прыклады пададзены не на рэестравыя словы, а на вытворныя ад іх. У такіх выпадках вытворныя словы афармляюцца асобнымі слоўнікавымі артыкуламі і суправаджаюцца адпаведнымі ілюстрацыямі.

У 12 выпадках прыклады пададзены і на загалоўнае слова, і на вытворнае.

Калі прыклад утрымлівае і вытворнае слова, якое тлумачыцца, і новае вытворнае ад рэестравага слова, то такі прыклад выкарыстоўваецца да абодвух слоў.

Звычайна загалоўнае слова забяспечваецца адным прыкладам, разам з тым у рукапісных матэрыялах у 85 выпадках на адно слова або значэнне мнагазначнага падаецца два прыклады, у 18 выпадках – 3, у пяці – 4.

Колькасць прыкладаў захоўваецца поўнасцю. Калі рэестравае або вытворнае слова не мае адпаведнага прыкладу, яно ўносіцца ў слоўнік без ілюстрацыйнага матэрыялу. Досыць часта ў слоўнікавых матэрыялах Я. Драздовіча прыклады выконваюць шмат дадатковых функцый:

1. Канкрэтызуюць лексічнае значэнне загалоўных слоў, калі яно або не ўказана або ўказана вельмі шырока і не зусім дакладна:

| | |
|---|---|
| **Буза́**<br>падводны у́л, вязкая у́лістае дно ракі або возера ці сажалкі.<br>Бузя́нае во́зіра. Бузяно́е дно… занясло бузой.<br>Вязнуць ногі у бузу. (~~увязьлі ногі у бузу~~). | **БУЗА́** *ж.* 1. Іл у вадаёме. *Занясло бузой. Вязнуць ногі у бузу.* ~~*Увязьлі ногі у бузу́*~~.<br>**БУЗЯ́НЫ** *прым.* Гразкі, ілісты (пра дно ракі, возера або сажалкі́. *Бузя́нае во́зіра. Бузяно́е дно.* |
| **Быльлё́**<br>Зьелі коні сена… толькі адно́ быльлё́ ад се́на заста-ло́ся. | **БЫЛЬЛЁ́** *н. зб.* Быллё, сцябліны. *Зье́лі ко́ні се́на, то́лькі адно́ быльлё́ ад се́на засталóся.* |

[1] Архіў рэдкіх выданняў Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх. Фонд № 21 «Язэп Драздовіч». Адз. зах. 122. Л. 1.

[2] Правапіс аўтара захаваны; пунктуацыя зменена.

2. Указваюць на лексічнае значэнне ў выпадках, калі яно складальнікам увогуле не прыводзіцца:

| | |
|---|---|
| **Акура́т**<br>Акура́т так і ста́лася.<br>Дзісеншчына (Я. Драздовіч) | **АКУРА́Т** *прысл.* Якраз, менавіта так. *Акура́т так і ста́лася.* |
| **Акуцьцё́**<br>Ні так до́рагі санкі, як іх акуцьцё́.<br>Дзісеншчына (Я. Драздовіч) | **АКУЦЬЦЁ́** *н.* Абабіванне металам чаго-н. *Ні так до́рагі са́нкі, як іх акуцьцё.* |

3. Павялічваюць колькасць рэестравых слоў за кошт таго, што ўтрымліваюць новыя лексемы, вытворныя ад рэестравага слова:

| | |
|---|---|
| **Брыліва́ць**<br>рас. блестаць<br>красава́цца, пахара́шавацца, слыць між першымі за найпершага.<br>Адбрылі́вала я ўжо сваё змалада. | **БРЫЛІВА́ЦЬ** *незак.* Прыцягваць увагу, вылучацца сваёй прыгажосцю. *Красава́цца, пахара́шавацца, слыць між першымі за найпершага.*<br>**АДБРЫЛІВА́ЦЬ** *зак.* Страціць былую прыгажосць і прыцягальнасць. *Адбрылі́вала я ўжо сваё, змалада.* |

4. Дапамагаюць вызначыць часцінамоўную прыналежнасць аманімічных форм загалоўных слоў (пры такіх парах слоў, як: *бра́вы* прым. і *бра́ва* выкл. і інш.).

5. Размяжоўваюць амонімы і мнагазначныя словы:

| | |
|---|---|
| **Бара́н**<br>1) Авечча самец ніскапчоны.<br>Зьбе́гаўся, зьвё́ўся, як бара́н. Абстры́глі, абгалі́лі, як барана́.<br>2) Сталярскі струмэнт, вузкалёзы гэ́баль, руба́нік.<br>Дзісеншчына (Я. Драздовіч) | **БАРА́Н** *м.* 1. Самец авечкі. 2. Ягня. 3. *перан.* Пра някемлівага чалавека. *Зьбе́гаўся, зьвё́ўся, як бара́н.* ◊ (абстры́гчы) ЯК БАРАНА́. Нагала. *Абстры́глі, абгалі́лі, як барана́.*<br>**БАРА́Н** *м.* Сталярны інструмент; рубанак для стругання дошак.<br>Сталярскі струмэнт, вузкалёзы гэ́баль, руба́нік. |

6. Размяжоўваюць прамыя і пераносныя значэнні слоў:

| | |
|---|---|
| **Барсу́к**<br>1) Вядомы усім лясны зьвер.<br>2) Капрызны ~~і нелюдзімы~~ з надутым, панурым характарам чалавек.<br>Ходзіць, як барсук надуўшыся.<br>Дзісеншчына (Я. Драздовіч) | **БАРСУ́К** *м.* 1. Барсук. 2. *перан.* Пра чалавека з капрызлівым, панурым характарам. *Хо́дзіць як барсу́к наду́ўшыся.* |

У 29 выпадках у якасці прыкладу падаецца жанрава маркіраваны тэкст. Гэта пераважна прыказкі (іх больш за 20), а таксама праклёны (5): *А ніхай яго багаво́е!*; *Ах каб ты апо́х!*; *Багда́й цябе́ тра́сца!*; *Багда́й яно́ тут зато́нула!*; *Беззяме́льнаму ба́цькаўшчына – цэ́лы сьвет*; *Бой ні ўмало́т*; *Бу́бка бубку прывела*; *Заракалася сьвіньня г… есьці*; *З дзе́ўкі ба́ба хоць калі́, а з ба́бы дзе́ўка – ніко́лі*; *З міру па нітцы – голаму сарочка*; *Каб табе скулы ў бок*; *Каб цібе ўзяла карбонка*; *На Бары́са пе́ршы ко́лас выплыва́ць*; *Ня толькі тэй брагі, колькі зьвягі*; *Ня ўсё ж тое сло́нца* (*сонца*), *што сьве́ціць ў ако́нца*; *Па касьцях ламані́на, а ў жываце бурчаніна*; *Пажыве́ш – і Кузьму ба́цькам назаве́ш*; *Прыйшоў з бо́ру ды го́ніць з двору*; *Пусьці́ўшыся ў бо́йку – чуба́ ні шкадуй ні жале́ць*; *Сядзі́ й чака́й як вол абуха́*; *У ану́чца гро́шыкі вяду́цца*; *У яго́ што поп, то й ба́цька*; *Усё мі́лае пайшло́ за пасты́лае*; *Ці сена клок ці вілы ў бок*; *Чый андара́к сьмярдзі́ць? – Няве́стчын*; *Юр'е – Новы год для беззямельнікаў і сьвята для пастухоў, а Барыс – для канапасаў*; *Я ні арганісты – ні перабіраю*; *Які́і бацькі́, такі́і й дзе́ці*; *Яко́е дзе́рава, такі́ й клін, які́ ба́цька, такі́ й сын*.

Заўвагі Я. Драздовіча пра жанр або пра тэматыку такога маркіраванага тэксту абавязкова захоўваюцца[1]:

| | |
|---|---|
| Прымаўка да сьвякрыві: Чый андара́к сьмярдзі́ць? – Няве́стчын. | *Чый андара́к сьмярдзі́ць? – Няве́стчын* (прымаўка свякрові). |
| А ніхай яго багаво́е! – дабрадушная клятба. | *А ніхай яго багаво́е!* (дабрадушны праклён). |
| Узмацоўнік выразу <u>худых пажаданьняў</u>:<br>Багда́й цябе́ тра́сца!<br>Багда́й яно́ тут зато́нула! і г. д. | *Багда́й цябе́ тра́сца!* (праклён), *Багда́й яно́ тут зато́нула!* (праклён). |

[1] Прыводзіцца толькі частка слоўнікавага артыкула.

| | |
|---|---|
| Беззяме́льнаму – ба́цькаўшчына – цэ́лы сьвет (~~шляхоцкая памоўка~~). | *Беззяме́льнаму ба́цькаўшчына – цэ́лы сьвет* (шляхецкая прымаўка). |

З усяго блоку ілюстрацыйнага матэрыялу ў звыш чым 30 выпадках былі выдзелены фразеалагічныя адзінкі: *а няўжо ж, абстры́гчы як барана́; акра́ўкамі ха́ту падміта́ць; ану ж, ба́ба-бо́й; ба́біна ка́ша; без аднэ́й клёпкі; бо́й-ба́ба; быць у цяжку́; выве́сці на трэль; го́ркі як атру́та; даць ві́хту; за пабадзя́ную па́лку; круго́м увакру́жкі; ле́зці як асва́ ў во́чы; нос як бу́льбіна; няма́ ані маку́лінкі; няма́ клёпкі; пад'е́сці як на асянінах; прычапі́цца як асва́; прычапі́цца як слата́; пусці́цца на бані́ты; пусці́ць а́чмут; расці́ на лес гле́дзячы; зкруці́ць у бара́нні рог; сыр-бор загарэ́ўся; у агла́бкі; у арца́бы; чырво́ны як апа́раны; шэрая гадзі́на; я́саўка грому́; як бо́бу; як бяльмо́ ў во́ку.*

Фразеалагізмы суправаджаюцца тлумачэннем толькі тады, калі іх азначэнне пададзена Я. Драздовічам. У астатніх выпадках значэнне ўстойлівых выразаў не ўказваецца.

У наступных выпадках у складзе прыкладу было вылучана тэрміналагічнае словазлучэнне: *акрава́чныя ла́пці; ане́льская ка́ша; асвянны́ пузы́р; аўта́рная часьць; бабо́ўнік кацíнны; бабо́ўнік свінны́; бало́та драгбі́стае; бало́та ймша́рна; бало́та йража́вае; бало́та крынí́чнае; бало́та травяні́ста; барава́я па́ша; барово́е жы́та; баравы́ воск; баравы́я мя́йсцы; бара́нькавыя хмаркі; бартавы́я (барцявы́я) пчо́лы; глуха́я трава́; дзядкí́-пухава́ткі; жывое срэ́бра; зяле́ны ка́мень; касна́я ба́нька; красёная асно́ва; курына́я слепата́; нябе́сныя бе́гі; пераго́нныя хма́ркі; сі́ні ка́мянь.* Усе тэрміналагічныя словазлучэнні маюць тлумачэнні, прыведзеныя Я. Драздовічам.

### *Стылістычныя паметы*

Стылістычнымі паметамі суправаджаюцца 30 слоў. Прыведзеныя Я. Драздовічам стылістычныя паметы можна аб'яднаць у наступныя групы:

1) «ласкальны памін» (*браце́нік*), «ласкальн. памін.» (*бро́ўца*), «ласкальнае слова» (*бра́цітка*), «у ласкальным выразе» (*бру́шка*), «ласкальна-зваротная назова» (*булю́тка*), «спагадлівае слова» (*біда́к*), «жаласьліва-ласкальны назоў» (*бацёны*, *бацёнкі*);

2) «лаячнае слова» (*брахло́*, *бо́ўтка*), «лаячная назова» (*брахня́*), «лаічнае слова» (*бадзя́ўка*, *балва́н*);

3) «вульгар. назова» (*бруха́тая*), «(вульгар.)» (*брухе́ль*);

4) «у іранічных выразах» (*бядзі́ць*);

5) «жартаўлівая прозва» (*банду́ра*);

6) «дзяцінная слова» (*бу́бка*);

7) «простанародны зоў» (*ба́ба*);

8) «рэдкаспатыканая назова» (*бе́лка*);

9) «старасьвецкая …» (*андара́к*, *бурно́с*), «старасьвецкае … слова» (*багаво́е*), «старсьвецкія …» (*біру́лька*, *біру́балка*, *цыру́балка*), «ад старасьвецкіх …» (*бало́нка*), «старасьвецкая, захованая ў прымаўках, слова» (*багаві́ца*), «… старада́ўнейшых …» (*астро́г*);

10) «гістарычн. слова» (*бая́рка*).

У 8 выпадках стылістычная памета вылучана асобна ад адзначэння і пададзена:

➢ у дужках: *Брахло́, ілгун, манюка, перасьмешнік* (*лаячнае слова*); *Брухе́ль, чалавек з таўстым брухам, трухач* (*вульгар.*);

➢ праз коску ці кропку: *Бру́шка, брушко́, 1*) *бруха, у ласкальным выразе*; *Бадзя́ўка, Лаічнае слова*; *Балва́н, 1*) *лаічнае слова*; *Бо́ўтка, 2*) *безталковы, неабдумліваючый сваю гутарку і паступкі чалавек, – лаячнае слова*; *Бядзі́ць* (*бяджэ́ньне*), *прынімаць блізка у сэрцу, бедаваць, клапаціцца. У іранічных выразах*: «*Ах, як яму́ гэ́та бядзі́ць*», «*Ах, як я па ім бяджу́*; *Бая́рка, 1*) *гістарычн. слова, – дачка баярына*.

У астатніх выпадках стылістычная памета з'яўляецца часткай азначэння загалоўнага слова: *Бацёны, бацёнкі, жаласьліва-ласкальны назоў боцікаў*; *Біда́к, спагадлівае слова у адносінах чалавека нацярпеўшага бяду, нісчасьця, або церпю́чага матэр'яльны нідастаткі, беднасьць, так сама, ніздароўе*; *Браце́нік-нькі, ласкальны памін а братах за вочы*; *Бра́цітка, ласкальнае слова у адносінах да брата*; *Бро́ўца-цы, 1*) *ласкальны памін. а бровах*; *Булю́тка, ласкальна-зваротная назова бульбы*; *Брахня́, лаячная назова злоснай абмовы*; *Бруха́тая, вульгар. назова цяжарнай кабета, жанчыны у цяжку*; *Банду́ра, 2*) *жартаўлівая прозва пахвіннай грызі, кілы*; *Бу́бка, дзяцінная слова, замяняючае «боб», «гарох»*; *Баба, простанародны зоў выйшаўшай з дзявочага стану жанчыны*; *Бе́лка, рэдкаспатыканая назова пералінаваўшай на зіму белапоўстнай ваверкі*; *Андара́к, даўнейшая, старасьвецкая, жаночая вопратка, спадніца*; *Астро́г, вастро́г, тып старада́ўне́йшых турмаў, абгаро-*

*джаных вастракольным частаколам*; *Багавіца*, *старасьвецкая*, *захованая ў прымаўках*, *слова прыпамінаючае сабою з дахрысьціянскіх старaславянскіх часоў нешта ў родзе слова «Багіня» або «Жрыца»*; *Багавое*, *старасьвецкае*, *малавыясьнінае слова напамінаючае сабой старaславянскія аджыткі*, *нітo жэртвапрынос*, *нітo сьвяцілішча багоў*; *Балонка*, *Ад старасьвецкіх пузырных вакон* (*балон*, *балонка*), *– ваконная шыба*; *Бірулька*, *-кі*, *Бірубалка*, *-кі*, *Цырубалка*, *-кі*, *старсьвецкія*, *скураныя або дзераўляныя у вопратках засьцяжкі*; *Бурнос*, *дамское пальто*, *старасьвецкая беларуская вопратка*.

Пры апрацоўцы слоўніка Я. Драздовіча стылістычныя паметы тыпу «ласкальнае слова», «спагадлівае слова», «жаласьліва-ласкальны назоў» былі заменены на *ласк*., «вульгар.» і «лаячнае» – на *пагардж*., «у іранічных выразах» – на *іран*., «жартаўлівая прозва» – на *жарт*., «дзяціннае слова» – на *дзіц*., «простанародны зоў» – на *разм*., «рэдкаспатыканая назова» – на *рэдк*., «страсьвецкае...» або «страдаўнейшае» – на *уст*.

Пры падрыхтоўцы слоўнікавых матэрыялаў было вырашана дадаць да некаторых рэестравых слоў або аднаго са значэнняў мнагазначных слоў наступныя паметы:

➢ *перан*.: на падставе прыведзеных Я. Драздовічам 1) прыкладаў пры вылучэнні іншых значэнняў рэестравага слова (*абрытаваць*, *абрытаць*, *алунелы*, *алунеўшы*, *ачарствець*, *баран*, *барсук*, *бітлага*, *бітлажка*, *блішчэць*, *бражны*, *брытаць*, *забалдавясты*, *збузаваць*, *снаваць*); 2) тлумачэнняў або заўваг (*бізун)*: Параўнаньне: «Разцягнулася перак сьцежкі вужака – як бізун»; *блін*$_2$: 1) звычайнае..., 2) «Блін» – шапка сядушка з плазкім расплывістым запасам верху; *маліц*: *баравік*, *-кі*, найлепшы найсмачнейшы з ежных грыбоў, – рашотчата спорай пароды, – белы грыб з бурай мясістай шапкай. «Маліц»);

➢ *ласк*.: пры наяўнасці характэрных словаўтваральных марфем у абазначальным сродку (*аканца*, *асётка*, *бабулічка*, *бабулька*, *баравічок*, *баранька*, *барок*, *барулька*, *бацёнкі*, *бацёны*, *бегунок*, *боцікі*, *будыначак*, *буланчык*, *бульбачка*, *бульбінка*, *бусько*, *быська*, *бычанок*, *бычок*, *скацінка*);

➢ *пагардж*.: дададзены да ўключаных у лік рэестравых слоў сінонімаў да лексем, якія суправаджаюцца адпаведнай паметай (*бадзяка*, *брахун*, *брухач*, *брушно*, *пустаброх*, *трухач*);

➢ *памянш*.: калі азначэнне, пададзенае Я. Драздовічам, уключае ўдакладненне «невялікі» (*брусок*, *бярнушко*);

➢ *памянш.-ласк*: пры ўліку семантыкі і наяўнасці словаўтваральных марфем (*алешынка*, *армячок*, *армячонак*, *ахапачак*, *аўчынка*, *балоцітка*, *бярозачка*, *бярозка*, *сермяжка*, *сермяжонка*);

➢ *жан. да*: на падставе аналагічных форм мужчынскага і жаночага роду (*ахвотніца*, *ашчадніца*, *балаўніца*);

➢ *уст*.: дададзены да ўключаных у лік рэестравых слоў сінонімаў або аднакаранёвых да слоў, якія суправаджаюцца адпаведнай паметай (*бірка*$_4$, *астрожны*);

➢ *разм*.: пры ўліку семантыкі (*баба*).

Калі рэестравае слова з'яўляецца назвай раслін або жывёл, то спецыяльныя паметы тыпу *бат*. або *заал*. не выкарыстоўваюцца, бо Я. Драздовічам яны не ўказваюцца. Да таго ж ён складаў асобныя слоўнікі па батаніцы, заалогіі і інш.

### *Лінгвістычны пашпарт*

Скарочаныя назвы вёсак і раёна ўказваюцца толькі пасля адпаведных ілюстрацый з вёсак Лаўрыкавічы, Рымкі і Стральцы.

Вельмі шырокае геаграфічнае абазначэнне «*Дзісеншчына*» апушчана пасля ілюстрацый са Слоўніка на літары А і Б і са Слоўніка на літару Б. Яно захоўваецца і прыводзіцца, каб:

а) прадэманстраваць, што зарэгістраваныя лексемы ў Слоўніку на літару Б (або ў Слоўніку на літары А і Б) і слоўніку вёскі Рымкі (або ў слоўніку вёскі Стральцы ці Лаўрыкавічы) маюць адрозненні ў лексічным значэнні:

**АКАЦІЦЦА** *зак*. 1. Нарадзіць ягнят або кацянят. *Авечка акацілася*, *двое ягнят прывіла*. *Кошка наша у падпеччыку акацілася*. Дзісеншчына. 2. Нарадзіць ягнят (толькі пра авечку). *Авечка акацілася*. Рымкі Паст.

**АПОЛАК** *м*. 1. Дошка з гарбылём. Дзісеншчына. 2. Крайняя дошка, выпуклая з аднаго боку (з гарбылём), якая атрымліваецца пры рэзанні бэлькі на дошкі. *З бэлькі бывае 5–10 тарчыц і два аполкі*. Дзісеншчына, Рымкі Паст.

**АРБА́** *ж.* 1. Апрацоўка зямлі плугам ці сахой. Дзісеншчына. 2. Першае ўзворванне глебы. Рымкі Паст.

**БАЙСТРУ́К** *м.* 1. Сын, бацька якога невядомы. Дзісеншчына. 2. Сын, у якога няма бацькі. Дзісеншчына. 3. Незаконнанароджанае дзіця. *Байструкі́ і баньдзюкі́ ня ве́даюць сваі́х бацько́ў.* Рымкі Паст.

**БЕРАСЬЦЕ́НЬ** *м.* 1. Збан. *Гану́льля пабі́ла берасьце́нь.* Стральцы Гарадзенск. 2. Гліняны гаршчок, аплецены бяростай. Дзісеншчына.

Да значэння 2: Гліняная пасу́дзіна – стаўбу́н або гляк – шчытна абвіты дзеля моцы лыкамі бярosты.

**ПУР** *м.* 1. Мера, роўная прыблізна тром пудам жыта. *Сёлета намалаці́ў 15 пур жы́та.* Рымкі Паст. 2. Старая мера (?). Дзісеншчына.

**СТАЎБУ́Н** *м.* Гаршчок для малака. *У стаўбуна́х ква́сіцца малако́.* Рымкі Паст. 2. Гліняны гаршчок. Дзісеншчына.

**ШАЛЁЎКА** *ж.* Вонкавая абшыўка з тонкіх дошак драўляных пабудоў. *Дзісеншчына.*

**ШАЛЁЎКА**, **ШАЛЕЎКА** *ж.* Шаляванне; вонкавая і ўнутраная абіўка сцен, акон і дзвярэй тонкімі дошкамі. *Шалеўка прыдае́ ха́ці пе́кны від.* Рымкі Паст.;

б) паказаць, што зарэгістраваная лексема прадстаўлена ў розных словазборах, але мае адно і тое ж значэнне на ўсёй тэрыторыі даследавання:

**БУЛА́НЫ** *прым.* Светла-чырвоны колер (пра масць коней). *Конь була́ны, а каро́ва палава́я, сьвятле́й, крыху ры́жсыя.* Рымкі Паст., Дзісеншчына.

**ЗВАДУ́Н** *м.* Ілгун, інтрыган. *Паўлюке́віч ве́лькі звconfigurationsду́н.* Стральцы Гарадзенск., Дзісеншчына.

Упарадкаваныя і сістэматызаваныя матэрыялы словазбора Я. Н. Драздовіча ў форме слоўніка маюць наступны выгляд.

*Я. Драздовіч*

## КРАЁВЫ СЛОЎНІК ДЗІСЕНШЧЫНЫ

Падрыхтавала *І. У. Галуза*

### А

**АБАКПІ́ЦЬ** *зак.* Высмеяць.

**АБАЛВА́НІВАЦЬ** *незак.* Збольшага абчэсваць, падрыхтоўваць для далейшай апрацоўкі.

**АБАЛВА́НІЦЬ** *зак.* Збольшага абчасаць, падрыхтаваць для далейшай апрацоўкі. *З паўкапы́ кляно́вых лы́жак абалва́ніў. Зрабі́ць ні зрабі́ў, а то́лькі паку́ль што абалва́ніў.*

**АБАЛО́НЬ**, **БАЛО́НЬ** *ж.* Верхні слой кары дрэва.

Круглавы́, пасьледні ванкавы́ слой дзе́рава у дрэ́ве.

**АБАПЁРЦІСЯ** *зак.* Абаперціся.

**АБАРСА́ЦЬ** *зак.* 1. Прымацаваць аборы да лапцей. 2. Завязаць лапці на нагах пры дапамозе абор.

**АБАРТАС** *м.* Паварочванне ззаду наперад.

**АБАЧХНУ́ЦЦА** *зак.* Прачнуцца, абудзіцца.

**АБГА́РАК** *м.* Абгарэлая і абсмыленая рэшта (бервяна).

**АБДАЎЖЫ́ЦЦА** *зак.* Увайсці ў вялікія даўгі. *Абдаўжы́ўся, апазы́чыўся круго́м.*

**АБЕ́РУЧ** *прысл.* Абедзвюма рукамі.

**АБІЧАЯ́** *ж.* ○ КАЛАЎРО́ТНАЯ АБІЧАЯ́. Прыстасаванне, на якое прымацоўваецца вяроўка для таго, каб нацягнуць апорную лінію праз раку для парома або каб цягнуць рыбалоўны невад па лёдзе ці каб узнімаць на млын мяшкі са збожжам.

Калаўротная, для навіваньня пацяжно́й вяроўкі, абічая́ або калода, якая бываюць: для напінаньня апорная ліны цераз раку у парамах; для валачбы па падлёдзьдзю рыбалоўнага неваду на азёрах і для узніманьня на столь збажжавых мяхоў у млынох.

**АБНІХА́ІЦЦА** *зак.* Перастаць сачыць за сваім знешнім выглядам. *Апусьці́ўся, абніхаі́ўся.*

**АБРО́ІК** *м.* Акраец; кавалак хлеба, булкі.

**АБРЫ́ТАВАЦЬ** *незак.* 1. Надзяваць аброць. 2. *перан.* Суцішваць, супакойваць (?).

**АБРЫТА́ЦЬ** *зак.* 1. Збрытаць, надзець аброць. *Абрыта́ў каня́.* 2. *перан.* Суцішыць, супакоіць (?). *Абрыта́лі малайца́.*

**АБСО́С** *м.* Абсасванне (?).

**АБУ́Х** *м.* 1. Абух. 2. *перан.* Пра недалёкага чалавека. *Тупы́ як абу́х.*

□ *Сядзі́ й чака́й як вол абуха́.*

**АБУХАВА́СТАСЬЦЬ** *ж.* Недалёкасць (пра чалавека).

**АБУХАВА́ТЫ** *прым.* *перан.* Пра недалёкага чалавека. *Тупы́ як абу́х... Абухава́ты.*

**АБУ́ХЛЫ** *прым.* Распухлы; аб'ём якога павялічыўся.

**АБУ́ХШЫ** *прым.* Тое ж.

**АБУШАВАЦЬ** *зак.* Асадзіць сякеру (?).

**АБУШЫНА** *ж.* Абух (?).

**АБХІ́Л** *м.* Адхіленне (?).

**АБХУ́ТАЦЦА** *зак.* Захутацца.

**АБЦУГІ́** *мн.* Абцугі. *Абцуга́мі выніма́ю цьвякі́.* Рымкі Паст.

**АБЦЯ́ЖАВАЦЬ** *незак.* Абкладаць падаткамі.

**АБЦЯ́ЖЫЦЬ** *зак.* Абкласці падаткамі.

**АБШЧАПЕ́РЫЦЬ** *зак.* Абняць. *Дзіця́ абшчапе́рыла ма́тку за шы́ю.* Рымкі Паст.

**АГЛА́БКІ** *мн.* ◊ У АГЛА́БКІ. Абедзвюма рукамі.

**АГУ́КАНЫ** *дзеепрым.* Запужаны.

**АДБА́БІЦЬ** *зак.* Абрэзаць пуп толькі што народжанаму дзіцяці. *Абмы́ла, адба́біла дзяцёнка і спаві́ла яго́ у по́лачкі.*

**АДБА́БЛІВАЦЬ** *незак.* 1. Прымаць дзяцей у час родаў. 2. Абразаць пуп толькі што народжанаму дзіцяці.

**АДБРЫЛІВА́ЦЬ** *зак.* Страціць былую прыгажосць і прыцягальнасць. *Адбрыліва́ла я ўжо сваё, зма́лада.*

**АДВО́Д** *м.* Запавольванне.

**АДПУ́ДЖАНЫ** *прым.* Спуджаны, перапалоханы.

**АДРАКА́ЦЦА** *незак.*

**АДУМЫСЛО́ВІЦ** *м.* Спецыяліст у нейкай справе.

**АДЫМА́ЛКА** *ж.* Ануча для вымання гаршчкоў з печы.

**АЖАРГА́ЎШЫ** *дзеепрысл.* Асядлаўшы; сеўшы вярхом на што-н. *Ажарга́ўшы нага́мі кало́ду.*

**АЖАРГА́ЦЬ**, **АЖЫРГА́ЦЬ** *зак.* Асядлаць; сесці вярхом на што-н. *Ажарга́ю каня́ і пае́ду.*

**АЗІЯ́ТКА** *ж.* Сібірская язва. *Ме́йсцамі сібі́рскую я́зву старыя лю́дзі называ́юць «азія́ткай» і «карбу́нцам».* Рымкі Паст.

**АЗЮ́КАНЫ** *дзеепрым.* Запужаны.

**АКА́ЗІЯ** *ж.* Нечаканае здарэнне.

**АКАЗЭ́Я** *ж.* Дзіўнае здарэнне. *Гэ́та про́ста аказэ́я!..*

**АКАЛЕ́ЛАСЬЦЬ** *ж.* Акалеласць (ад моцнага холаду).

**АКАЛЕ́ЧАНЫ** *дзеепрым.* Акалечаны, скалечаны.

**АКАЛЕ́ЧЫЦЦА** *зак.* Пашкодзіць які-н. орган пры траўме. *Руку́ акале́чыў.*

**АКАЛІ́ЧНАСЬЦЬ** *ж. зб.* Наваколле.

**АКАЛІ́ЧНАСЬЦЬ** *ж.* Умова, абставіны.

**АКАЛО́Т** *м. зб.* Снапы жыта пасля няпоўнага папярэдняга абмалоту. *Сем коп жы́та абабі́лі, нарабі́лі акало́ту на куляву́ю сало́му.*

**АКАМЯНЕ́ЛАСЬЦЬ** *ж.* Акамянеласць.

**АКАЦІ́ЦЦА** *зак.* 1. Нарадзіць ягнят або кацянят. *Аве́чка акаці́лася, дво́е йгня́т прывіла́. Ко́шка на́ша у падпе́ччыку акаці́лася.* Дзісеншчына. 2. Нарадзіць ягнят (толькі пра авечку). *Аве́чка акаці́лася.* Рымкі Паст.

**АКІСА́НЬНЕ** *н.* Укісанне, скісанне.

**АКІ́СНУЦЬ** *зак.* Скіснуць. *Заці́рка, знаць, до́ўга у пе́чы стая́ла, акі́сла.*

**АКІ́СШЫ** *дзеепрым.* Закіслы.

**АКЛА́ДЗІНЫ** *мн.* Дзень памінання нябожчыкаў, у які папраўляюцца іх могілкі.

**АКЛА́ДКІ** *мн.* Вокладка. *Прыго́жыі акла́дкі.*

**АКЛІНО́ЎКА** *ж.*

**АКНО́**, **ВАКНО́** *н.* Акно. АКА́НЦА, АКО́НЦА, ВАКО́НЦА *ласк.*

□ *Ня ўсё ж то́е сло́нца (со́нца), што сьве́ціць ў ако́нца.*

**АКО́ЛІЦА** *ж.* Шляхецкая вёска.

**АКО́РАК**, **КО́РАК** *м.* Каленная, бязмясная костка, частка свіного кумпяка. *Укі́нь ты ко́рак у капу́сту.*

**АКО́РЫЦЬ** *зак.* Акорыць; зняць кары, ачысціць ад кары. *Капу́ жэ́рдзя, узя́ўшы ска́блю, ако́рыў.*

**АКО́ЎКА** *ж.* Акоўка; тое, чым акаваны які-н. прадмет. *Ні так лі́нейка, як ейная ако́ўка до́рага кашту́іць.*

**АКПІ́ЦЬ** *зак.* Высмеяць.

**АКРА́ВАК** *м.*, **АКРА́ЎКІ** *мн.* Абрэзак, акраек нейкага тонкага матэрыялу. *Акра́вак лыка, акра́вак ску́ры, акра́вак рэ́меня.* ◊ АКРА́ЎКАМІ ХА́ТУ ПАДМІТА́ЦЬ. Хадзіць у лыкавых лапцях.

Выкраіны, абкроіны, абрэзак ценка-плазкага матэр'ялу. Аскрамётак.

**АКРА́ВАЧНЫ** *прым.* ○ АКРА́ВАЧНЫЯ ЛА́ПЦІ. Лыкавыя лапці; лапці, зробленыя з акраўкаў. *Хо́дзець у лычаных (акра́вачных) лапцёх.*

**АКРА́ІЦ** *м.* Акраец; кавалак хлеба, булкі. *Зкро́ілі бу́лку хле́ба на акра́іц. Скро́ілі карава́й хле́ба аж да акра́йца. Вазьмі́ ў то́рбу акра́іц хле́ба сабе́ у даро́гу.*

**АКРУ́ЖКІ** *прысл.* Паўсюль, навокал.

**АКРЫВА́НЬНЕ** *н.* Пакрыццё.

**АКРЫВА́ЎЛІНАСЬЦЬ** *ж.* Акрываўленасць.

**АКРЫВЕ́ЛАСЬЦЬ** *ж.* Акрывеласць, кульгавасць.

**АКРЫ́ЎКА** *ж.* Накрыўка (?).

**АКРЫЦЬЦЁ**, **АКРЫ́ТЦЕ** *н.* Пакрывала (?).

**АКРЫЯ́ЦЬ** *зак.* Акрыяць; ачуняць, набрацца сіл. *Ці даўно́ акрыя́ў, а ўжо й ні падхо́дзь да яго́.* Лаўрыкавічы Ваўк.

**АКРЭ́ПЛАСЬЦЬ** *ж.* Змерзласць, закачанеласць.

**АКРЭ́ПНУЦЬ** *зак.* 1. Акрыяць. 2. Падужэць, памацнець. 3. Усталявацца.

**АКРЭ́ПНУЦЬ** *зак.* Змерзнуць. *Ад сьцю́жы ру́кі акрэ́плі (зкрэ́плі).*

**АКРЭ́СЬЛІНАСЬЦЬ** *ж.* Акрэсленасць.

**АКСАМІ́Т** *м.* Аксаміт.

**АКСЫ́ЛЯ** *выкл.* Выгук, якім адганяюць ці падганяюць цяля. *Аксы́ля дамо́ў!.. Аксы́ля да каро́ў!*

**АКУПІ́ЦЬ** *зак.* Выкупіць. *Прые́халі аку́пшчыкі і ўвесь двор, усю́ зямлю́ акупі́лі.*

**АКУ́ПКА** *ж.* Выкуп.

**АКУ́ПЛІВАНЬНЕ** *н.* Выкупліванне.

**АКУ́ПШЧЫК** *м.* Пакупнік. *Прые́халі аку́пшчыкі і ўвесь двор, усю́ зямлю́ акупі́лі. Аку́пшчык на пні ле́су. Аку́пшчык двара́, аку́пшчык зямлі́ дво́рнай. Аку́пшчык дво́рам заўлада́ў.*

**АКУРА́Т** *прысл.* Якраз, менавіта так. *Акура́т так і ста́лася.*

**АКУЦЬЦЁ** *н.* Абабіванне металам чаго-н. *Ні так до́рагі са́нкі, як іх акуцьцё.*

**АКЫ́ЗЯ** *выкл.* Пагрозлівы крык на казу. *Акы́зя, каб цябе́ воўк!*

**АКЫ́Ш** *выкл.* Пагрозлівы крык на курыцу. *Акы́ш, каб цябе́ каршу́н!*

**АКЯНІ́ЦА**, **ВАКЯНІ́ЦА** *ж.* Аканіца; створкі, якімі закрываюцца знадворку вокны. *Ха́та з бе́лымі акяні́цамі.*

**АЛАБУ́НІВАЦЬ** *незак.*

**АЛАГА́ДЖВАЦЬ**, **АЛАГА́ДЖАВАЦЬ** *незак.* Улагоджваць; задобрываць, дагаджаць. *Алага́джавай яго́, як ту́ю ску́лу благу́ю, каб ні расквя́ліць.*

**АЛАГО́ДЗІЦЬ** *зак.* Улагодзіць; задобрыць, дагадзіць.

**АЛА́ДАК** *м.*, **АЛА́ДКІ** *мн.* Невялікія блінкі, якія па некалькі за раз пякуцца на патэльні. *Напікла́ ала́дкаў по́ўную ла́тку.*

**АЛЕ́ШНІК** *м. зб.* 1. Альховы параснік. 2. Альховы зараснік.

**АЛЕ́ШНІНА** *ж.* Вольха.

**АЛЕ́ШЫНА** *ж.* Тое ж. АЛЕ́ШЫНКА *памянш.-ласк.*

**АЛЁС** *м.*, **АЛЬСЫ́** *мн.* Лясная сенажаць. *Пайшо́ў на альса́х у стагі́ се́на склада́ць.*

Лесная сенакосная про́галь. Астраві́на сенакосу, абвако́леная лесам.

**АЛІ́** *злучн.* Служыць для супрацьпастаўлення. *Я-то жада́ю, алі́ ты ня хо́чыш!*

**АЛІ́** *часц.* Ужываецца пры здзіўленні, абурэнні. *Алі́ што́ ж ты зро́біш...*

**АЛУНЕ́ЛАСЬЦЬ** *ж.* Адсутнасць жвавасці, бадзёрасці.

**АЛУНЕ́ЛЫ** *прым.* 1. Які страціў жвавасць, бадзёрасць духу. 2. *перан.* Які выглядае як заспаны, непрытомны.

**АЛУНЕ́ЎШЫ** *прым.* 1. Які страціў жвавасць, бадзёрасць духу. 2. *перан.* Які выглядае як заспаны, непрытомны. *Хо́дзіць алуне́ўшы.*

**АЛУНЕ́ЦЬ** *зак.* Страціць бадзёрасць і жвавасць духу.

**АЛЫСЕ́ЛАСЬЦЬ** *ж.* Аблыселасць.

**АЛЫСЕ́ЦЬ** *зак.* Аблысець. *Алысе́ў чалаве́к – гала́ва́ што кале́на.*

**АЛЬТА́НКА** *ж.* Альтанка. *А сяро́д са́ду цві́тае паво́імі альта́нка.*

**АЛЬХА́** *ж.* 1. Альха (дрэва). 2. Матэрыял з гэтага дрэва. *Цэ́лую во́льху парэ́залі на до́шкі.*

**АЛЬХО́ВІК** *м. зб.* Рэчы, зробленыя з вольхі.

**АЛЬХО́ВЫ** *прым.* Зроблены з вольхі. *Альхо́вы стол, альхо́вы коўш, альхо́вы пало́нік.*

**АЛЬХО́ЎКА** *ж. зб.* Рэчы, зробленыя з вольхі.

**АЛЮМЭ́НЬ** *м.* Алюміній. Рымкі Паст.

**АЛЮМЭ́НЯВЫ** *прым.* Алюмініевы. *Алюмэ́нявая рэч лёгкая.* Рымкі Паст.

**АМА́ТАР** *м.* Аматар.

**АМБАРА́С** *м.* 1. Нечаканыя клопаты. *Яшчэ́ раз амбара́с. Нарабі́лі нам амбара́су.* 2. Сумятня, мітусня. *Адзі́н раз амбара́с. За адны́м амбара́сам.*

**АМБО́НІЯ** *ж.* Амбон; узвышэнне ў царкве перад так званымі царскімі варотамі. *Ксёндз з амбо́ніі каза́ў.*

**АМУ́Т** *м.* Вір. *На аму́т усплы́ў (усплы́ў на вадаваро́т), чуць на дно ні пацягну́ла.*

**АНАДО́ІНЬ**, **НАДО́ІНЬ** *прысл.* Зусім нядаўна; днямі. *Ні та́к да́ўна, анадо́інь.*

**АНАДЫ́СЬ** *прысл.* Тое ж. *А ў мяне́ анады́сь вый-шла вось яко́е здарэ́ньне...*

**АНГЭ́ЛЬКА**, **АНГЕ́ЛЬКА** *ж.* Рахіт (у жывёл); парушэнне развіцця касцей. *Анге́лькай хварэ́юць найбале́й малады́я сві́ньні.* Рымкі Паст.

**АНДАНА́РКА** *ж.* Служба работніка ў двары за анданарый.

**АНДАНА́РШЧЫК** *м.* Работнік ў дварэ ці слуга, які працуе на ўмовах анданаркі і атрымоўвае «анданарыю» для ўласнага пражыцця і пражыцця сваёй сям'і.

**АНДАНА́РЫЯ** *ж.* Натуральны харчовы паёк для рабочых двара.

**АНДАРА́К** *м.* 1. Спадніца. *Стэ́пка вы́ткала крыжа́сты андара́к.* Стральцы Гарадзенск. 2. *уст.* Спадніца.

□ *Чый андара́к сьмярдзі́ць? – Няве́стчын* (прымаўка свякрові).

**АНДЗЕ́Я** *ж.*, **АНДЗЕ́І** *мн.* Аповед, апавяданне. *Як распача́ў, як разьвёў свае́ андзе́і... Дасыць табе́ пра́віць, распра́ўляць гэ́тыя свае́ андзе́і.*

**АНЕ́** *часц.* Служыць адмоўным адказам на пытанне. *Ане́, гэ́та ні я́. Ане́, гэ́та ня мой. Ане́, ня гэ́дак.*

**АНЁЛ** *м.*, **АНЁЛЫ** *мн.* Анёл. *Каб тут і анёл з не́ба, дык з ім не ужыве́цца.*

**АНІ́** *прысл.* Аніколькі, зусім. *Няма́ ані́.*

**АНІ́** *часц.* Служыць для ўзмацнення адмаўлення. *Ані́ так, ані́ сяк, ані́ туды́ то́е.*

**АНУ́** *выкл.* ◊ АНУ́ Ж. Ужываецца для выражэння магчымасці, верагоднасці. *Да́йце мне, я паспро́бую. Ану́ ж мне уда́сца.*

**АНУ́ЧА** *ж.*, **АНУ́ЧЫ** *мн.* Ануча; кавалак тканіны, якой абмотваюць ногі пад абутак.

**АНУ́ЧКА** *ж.* Тое ж.

□ *У ану́чца гро́шыкі вязду́цца.*

**АНУ́ЧЫНА** *ж.* Ануча; старыя, паношаныя рэчы. *Збадзя́ла ху́стку, зрабі́ла на ану́чыну.*

Збадзянае лайно.

**АНЭ́ГДЫ** *прысл.* Зусім нядаўна; днямі. *Анэ́гды я быў на кірма́шы.*

**АНЯГО́Ж** *часц.* 1. Ужываецца ў пытальных сказах у значэнні: хіба, ці магчыма, выказваючы акрамя пытання сумненне, недавер, здзіўленне. *Анягож я го́ршы за людзе́й?* 2. Ужываецца для сцвярджэння. *– Ці пра́ўда, Гану́ла, што твой дзед к табе́ бі́цца сува́ўся? – Анягож, пра́ўда...*

**АПА́Д** *н.* Ападанне. *Апа́д лісту́. Апа́д я́блакаў з дрэ́ва.*

**АПА́ДКІ** *мн.* Яблыкі і грушы, што ўпалі з дрэў.

**АПА́ДУШ** *м.*, **АПА́ДУШЫ** *мн.* Тое ж.

**АПАЗЫЧА́ЦЦА** *незак.* Уваходзіць у вялікія даўгі.

**АПАЗЫ́ЧЫЦЦА** *зак.* Увайсці ў вялікія даўгі. *Абдаўжыу́ся, апазы́чыўся круго́м.*

**АПА́Л** *м. зб.* Тое, чым паляць (звычайна дровы). *Тру́дна з апа́лам таму́, хто ні ма́іць свайго́ ле́су.*

**АПА́ЛАВАЦЬ** *незак.* Ачышчаць ад пустазелля гародніну.

**АПА́МІТАВАНЬНЕ** *н.* Вяртанне ў стан прытомнасці.

**АПА́МІТАВАЦЦА** *зак.* Апрытомнець. *Апа́мятаваўся, ды па ча́се.*

**АПАНАВА́ЦЬ** *зак.* Акружыць з усіх бакоў, напасці. *Жыды́ ба́бу з я́йкамі на ву́ліцы апанава́лі, усе́ я́йкі раскупі́лі. Баю́ся, каб мяне́ там саба́кі ні апанава́лі.*

**АПАНЕ́ЛАСЬЦЬ** *ж.* Фанабэрыя.

**АПАНЕ́ЦЬ** *зак.* Зафанабэрыцца. *Апане́ў, па́нскага ду́ху набра́ўся.*

**АПАНО́ВАВАЦЬ** *незак.* Акружаць з усіх бакоў, нападаць.

**АПА́РАНЫ** *дзеепрым.* Пашкоджаны гарачай парай або кіпнем. ◊ ЧЫ́РВАН ЯК АПА́РАНЫ. Чырвоны (пра твар). *Стаў чы́рван як апа́раны.*

**АПАРАСІ́ЦЦА** *зак.* Нарадзіць парасят. *Сьвіня́ паро́сная, апарасі́лася, сямёра парася́т прывіла́.*

**АПА́РКА** *ж.* Апрацоўка парай або кіпнем. *Апа́рка бялі́зны. Апа́рка сьвіня́м ме́шанкі ва́рам.*

**АПАРО́ЦЬ** *зак.* Знайсці. *Саба́ка наш не́дзе у ле́се за́йца апаро́ў, чува́ць, я́хаіць.*

**АПА́РЫЦЬ** *зак.* Апрацаваць парай або кіпнем.

**АПАСТЫ́ЛАСЬЦЬ** *ж.* Апрыкрасць.

**АПАСТЫЛЁНІК** *м.* Чалавек, які вельмі надакучвае; апрыкры чалавек.

**АПАСТЫЛЁНЫ** *прым.* Які вельмі надакучвае; апрыкры. *Апастылёнае дзяцёнка. Апастылёнае ствара́ньне.*

**АПАСТЫ́ЛІЦЦА** *зак.* Апастылець; вельмі надакучыць, апрыкраць. *Круго́м апры́крыўся, апасты́ліўся з усі́мі.*

**АПАЯ́САВАНЬНЕ** *н.* Апаясванне.

**АПАЯ́САВАЦЬ** *незак.* Падпярэзвацца.

**АПЕ́КА** *ж.* Апека. *Без ба́цькавай апе́кі гадава́ўся. Здаў сваё дабро́ пад чужу́ю апе́ку.*

**АПЕ́НКА** *ж.*, **АПЕ́НКІ** *мн.* Апенька; восеньскі ядомы грыб, які расце каля карчоў дрэў.

**АПІРА́ЗАВАЦЬ** *незак.* Падпярэзвацца.

**АПІРАЗА́ЦЬ** *зак.* Падперазацца.

**АПІРА́ЗКА** *ж.* Тое, чым можна падперазацца.

**АПІРА́ЦЦА** *незак.* Апірацца.

**АПІ́РАШЧА** *н.* Апора.

**АПІ́СЫ** *мн.* 1. Гістарычныя дакументы (летапісы). *Вы́чыталі ў апі́сах...* 2. Гістарычныя дакументы, што змяшчаюць апісанні. *Знайшлі́, вы́капалі, скарб па апі́сах.*

**АПІША́ЛАСЬЦЬ** *ж.* Нядбайства; абыякавыя, нядобрасумленныя адносіны да сваіх абавязкаў, спраў. *Трэ́ба ж тако́е апіша́льства, дапусьці́цца, каб лён пад сьнег папа́ў... А ўсё гэ́та твая́ апіша́ласьць.*

**АПІША́ЛІЦ** *м.* Нядбалец; чалавек, які нядобрасумленна адносіцца да сваіх спраў.

**АПІША́ЛЫ** *прым.* Нядбайны, неруплівы.

**АПІША́ЛЬСТВА** *ж.* Нядбайства; абыякавыя, нядобрасумленныя адносіны да сваіх абавязкаў, спраў. *Нядбайства́. Трэ́ба ж тако́е апіша́льства, дапусьці́цца, каб лён пад сьнег папа́ў... А ўсё гэ́та твая́ апіша́ласьць.*

**АПО́ЛАК** *м.* 1. Дошка з гарбылём. Дзісеншчына. 2. Крайняя дошка, выпуклая з аднаго боку (з гарбылём), якая атрымліваецца пры рэзанні бэлькі на дошкі. *З бэ́лькі быва́е 5–10 тарчыц і два апо́лкі.* Дзісеншчына, Рымкі Паст.

**АПО́ЛІНЫ** *мн.* 1. Пустазелле, выпаланае з агарода. 2. Дрэнныя крупы, смецце, выбраныя з добрых таўчоных круп.

**АПО́МНІЦЦА** *зак.* Апрытомнець.

**АПО́РА** *ж.* Апора. *На гэ́тым уся́ моц, уся́ на́ша апо́ра.*

**АПО́РАК** *м.* Стары, зношаны абутак.

**АПО́ЎЗЛАСЬЦЬ** *ж.* Аселасць, друзласць, драхласць.

**АПО́ЎЗЛЫ** *прым.* Аселы, састарэлы. *Апо́ўзлая страха́, апо́ўзлыі буды́нкі.*

**АПО́ЎНАЧЫ** *прысл.* Апоўначы. *Разбудзі́лі мяне́ апо́ўначы... Трэ́ба ж так по́зна верта́цца дамо́ў, аж апо́ўначы.*

**АПО́ХЛАСЬЦЬ** *ж.* Апухласць.

**АПО́ХНУЦЬ** *зак.* Апухнуць. *Рука́ апо́хла: пчо́лы абкуса́лі. Ах каб ты апо́х!* (праклён).

**АПО́ХШЫ** *прым.* Апухлы.

**АПРАГА́НЬНЕ** *н.* Кананне ад чаго-н. празмернага.

**АПРАГА́ЦЦА** *незак.* Канаць ад чаго-н. празмернага. *Хто галаду́іць, а хто аж апрага́іцца ад жы́ру.*

**АПРАГЧЫ́СЯ** *зак.* 1. Сканаць ад чаго-н. празмернага. *Апро́гся.* 2. Здохнуць. *Каро́ва здо́хла, апрагла́ся. Каня́ жы́там абкармі́лі, вы́пруціў но́гі, апро́гся.*

**АПРАМЁТНІК** *м.* Гарэза. *Вяско́выя апрамётнікі пусьці́лі жыду́ «воўчка» у бараду́.* Рымкі Паст.

**АПРАНУ́ЦЬ** *зак.* Перакуліць. *У зло́сьці ён апрану́ў вядро́ дагары́.* Рымкі Паст.

**АПРА́ТАЦЬ** *зак.* Набіць. *Хо́дзіць ды апрыкра́іцца, паку́ль каго́ ў злосьць ні ўвядзе́ць ды бакі́ яму́ кіім ні апра́таюць. Кіім бакі́ апра́талі.*

**АПРУ́ДЖАВАНЬНЕ** *н.* Дэзынфекцыя бялізны пры дапамозе высокай тэмпературы (пары або вады).

**АПРУ́ДЗІЦЬ** *зак.* Прадэзынфікаваць бялізну пры дапамозе высокай тэмпературы (пары або вады).

**АПРУ́ЦІЦЦА** *зак.* Сканаць ад чаго-н. празмернага. *Апру́ціўся.*

**АПРЫ́КРАНЬНЕ** *ж.* Апрыкрасць.

**АПРЫ́КРАСЬЦЬ** *ж.* Тое ж. *Нашто́ мне з людзьмі́ апрыкра́цца, на што мне гэ́тая апры́красьць.*

**АПРЫКРА́ЦЦА** *незак.* Станавіцца нязносным для іншых людзей, надакучваць. *Ла́іцца, з людзьмі́ апрыкра́іцца. Нашто́ мне з людзьмі́ апрыкра́цца, на што мне гэ́тая апры́красьць.*

**АПРЫКРО́НІК** *м.* Апрыкры чалавек; чалавек, які надакучвае, не падабаецца, выклікае пачуццё брыдкасці, незадавальнення.

**АПРЫКРО́НІЦ** *м.* Тое ж. *Апрыкро́ніц, з кім ён ні апры́краўся?*

**АПРЫ́КРЫЦЦА**, **АПРЫ́КРАЦЦА** *зак.* Апрыкраць; спрацівець, стаць нязносным для іншых. *Кругом апрыкрыўся, апастыліўся з усімі. Апрыкроніц, з кім ён ні апрыкраўся?*

**АПРЫ́Ч**, **АПРО́Ч** *прысл.* Асобна. *Жывець апрыч – жывець аддзельна.*

**АПРЫ́Ч**, **АПРО́Ч** *прыназ.* Апрача. *Усе, апрыч нас з табой.*

**АПРЫЧО́НКІ** *мн.* Сямейнікі, якія ў асабістых мэтах выкарыстоўваюць сямейнае дабро. *У сям'і завяліся апрычонкі.*

**АПРЭ́ЛАСЬЦЬ** *ж.* Апрэласць.

**АПСА́Ц** *м.*, **АПСА́ЦЫ** *мн.* Абцас.

**АПСІ́К** *выкл.* Выкрык, якім адганяюць ката ці кошку. *Апсік, каб цябе каршун!*

**АПУ́ДЖАНАСЬЦЬ** *ж.* Запалоханасць.

**АПУ́ДЖАНЫ** *прым.* Спуджаны, перапалоханы, ахоплены спалохам, баязлівы.

**АПУ́ДЗІЦЦА** *незак.* Спалохацца, спужацца.

**АПУ́ДЗІЦЬ** *зак.* Спалохаць, застрашыць. *Апудзілі чалавек, што і носу баіцца паказаць.*

**АПУСТАВА́ЦЬ** *зак.* Апустошыць.

**АПУСЬЦІ́ЦЦА** *зак.* Перастаць сачыць за сваім знешнім выглядам. *Апусьціўся, абніхаіўся.*

**АПУ́ХА** *ж.*, **АПУ́ХІ** *мн.* Борт чаўна або лодкі. *Ні садзіся на апуху, чавён перакуліш.*

**АПУ́ШЧАНАСЬЦЬ** *ж.* Занядбанне.

**АПУ́ШЧАНЫ** *дзеепрым.* 1. За якім няма догляду, які парахнее. *Будоўля апушчана, драхлеіць.* 2. Спустошаны. *Земля (грунт) апушчана – спуставана.*

**АПЦУГІ́** *мн.* Абцугі, якія выкарыстоўваюцца ў шавецкай справе.

**АПЫНЕ́НЬНЕ** *н.* Месца, дзе можна апынуцца, куды можна трапіць.

**АПЫНУ́ЦЦА** *зак.* Трапіць куды-н., апынуцца дзе-н. *Апынесься аж за парогам. Глядзі, каб ні апынуцца на «Лукішках».*

**АПЫ́ТАВАНЬНЕ** *н.* Пошукі чаго-н. праз распытванне.

**АПЫ́ТАВАЦЬ** *незак.* Шукаць што-н. пра распытванне. *Пайшоў па людзёх апытаваць сабе белага гароху на насёна.*

**АПЫТА́ЦЬ** *зак.* Знайсці сабе што-н. праз распытванне. *Вось, апытаў сабе недзе...*

**АПЯКУ́Н** *м.* Апякун.

**АПЯКУ́НКА** *ж.* Апякунка.

**АРА́ВА** *ж.* Крыклівы натоўп. *Цэлая арава на вуліцы баб сабралося.*

**АРА́К** *м.*, **АРА́КІ** *мн.* Рак. *Пайшлі з лучнікам на возера лавіць аракаў.*

**АРА́ЛА** *агульн.* Пра грубага няўклюднага чалавека. *Эх ты, грубіян, мужык-арала. Арала-нізграбэла.*

**АРАЛЬЛЯ́** *ж.* Ралля; узаранае плугам або сахой поле.

**АРАНДА́ТАР** *м.* Арандатар.

**АРАНДО́ЎНІК** *м.* Тое ж. *Арандоўнік-вандроўнік.*

**АРАНДО́ЎНІЦКІ** *прым.* Арандатарскі. *Арандоўніцкае жыцьце, арандоўніцкая гаспадарка.*

**АРАНДО́ЎНЫ** *прым.* Арандаваны.

**АРА́П** *м.* 1. Негр (?). 2. Пра вельмі смуглага чалавека. *Чорны як арап.*

**АРБА́** *ж.* 1. Апрацоўка зямлі плугам ці сахой. Дзісеншчына. 2. Першае ўзворванне глебы. Рымкі Паст.

**АРБІ́Т** *м.* Чалавек, які абрабляе зямлю плугам ці сахой.

**АРГАНІ́СТЫ** *м.* Музыкант, які іграе на арганах у касцёле.

□ *Я ні арганісты – ні перабіраю.*

**АРГА́НЫ** *мн.* Арганы; музычны інструмент.

**АРЖА́**, **ЙРЖА** *ж.* Іржа; чырвона-буры налёт на паверхні жалеза.

**АРЖАВІ́НЬНЕ**, **ЙРЖАВІНЬНЕ** *н.* Іржа; прымесь вокісаў жалеза ў балотнай вадзе, якая надае ёй буры колер і спецыфічны прысмак.

**АРЖА́ВЫ**, **ЙРЖА́ВЫ** *прым.* Пакрыты ржой, заржавелы. *Аржавае зялеза. Йржавае зялеза.*

**АРЖАНІ́ЦА** *ж.* Жытняя мука.

**АРЖАНІ́ЦА** *ж.* Іржа; жоўта-аранжавыя плямы на паверхні раслін, якія растуць на мокрай пожні або лузе.

Мокрая пожня, луг, з балотнай зялезнай ржаўчынай.

**АРЖАНЫ́** *прым.* Жытні. *Аржаная мука. Аржаная салома.*

**АРЖЫ́ШЧА**, **ЙРЖЫ́ШЧА** *н.* Жытняе поле.

**АРМЯ́К** *м.* Армяк. АРМЯЧО́К, АРМЯЧО́НАК *памянш.-ласк.*

**АРНА́Т** *м.* Арнат.

**АРО́МЫ** *дзеепрым.* Прызначаны для арання. *Аромы конь. Аромыі гужы. Хамут аромы.*

**АРТА́Й**, **РАТА́Й** *м.* Чалавек, які абрабляе зямлю плугам ці сахой. *Пайшла ў поле, панісла артаям сьнедаць.*

**АРУ́Д** *м.*, **АРУ́ДЫ** *мн.* Засек у свіране; адгароджанае месца ў свіране, куды ссыпаюць збожжа, муку і пад. *Повін сьвіран дабра. Усе аруды збожжам засыпаны.*

**АРУ́ДАВАНЬНЕ** *н.* Бойка (?), сварка (?).

**АРУ́ДАВАЦЬ** *незак.* Біцца (?), сварыцца (?), камандаваць (?). *Раскрычаўся, разбушаваўся і пачаў з намі арудаваць.*

**АРУ́ЖЖА** *н.* Зброя.

**А́РФА** *ж.* Сельскагаспадарчая машына для ачысткі зерня пасля малацьбы ад мякіны і смецця.

**АРФАВА́НЫ** *дзеепрым.* Ачышчаны ад мякіны і смецця пры дапамозе веялкі (пра зерне пасля малацьбы).

**АРФАВА́НЬНЕ** *н.* Ачыстка зерня пасля малацьбы ад мякіны і смецця пры дапамозе веялкі (арфы).

**АРЦА́БЫ** *мн.* ◊ У АРЦА́БЫ. Падобны да шахматнай дошкі. *Тафляваная падлога у арцабы.*

**АРЭ́НДА** *ж.* Часовае карыстанне пэўнай маёмасцю. *Арэнда-вэнда.*

**АСАБІ́СТАСЬЦЬ** *ж.* Прыналежнасць пэўнай асобе.

**АСАБІ́СТЫ** *прым.* Які належыць пэўнай асобе. *Асабі́стая спра́ва.*

**АСАБНЯ́К** *м.* Той, хто, ажаніўшыся, жыве асобна ад бацькоў. *Той, што жані́ўся і аддзялі́ўся ад ба́цькі, – асабня́к.*

**АСАБНЯКО́М** *прысл.* Асобна, самастойна, без бацькоў (жыць). *Жыве́ць з брата́мі ў паасо́бку, асабняко́м.*

**АСА́ДА** *ж.* 1. Рамка. *Абраз у пазало́чанай аса́дзе.* 2. Аправа праёмаў для дзвярэй, акон і інш.

**АСА́ДЖАНЫ** *дзеепрым.* Устаўлены ў аправу (праём для акон, дзвярэй і інш.). *Гэ́баль* (*лязо́*) *аса́джан у гла́дкую кляно́вую аса́ду.*

**АСА́ДКА** *ж.*, **АСА́ДКІ** *мн.* 1. Рамка. 2. Аправа праёмаў для дзвярэй, акон і інш.

**АСАДЖАВАНЬНЕ** *н.* Устаўленне ў рамку, у аправу.

**АСАКА́** *ж.* Балотная расліна з вузкім і жорсткім лісцем, якая выкарыстоўваецца на корм жывёле. *Асако́й каня́ ні адко́рміш.*

**АСАЛАДЖА́ЛАСЬЦЬ** *ж.* Саладжавасць.

**АСАЛАДЗЕ́ЛАСЬЦЬ** *ж.* Тое ж.

**АСА́ЧАВАЦЬ** *незак.* Падпільноўваць, асочваць.

**АСАЧЫНА́** *ж.* Ліст асакі (балотнай расліны). *Асачыно́й па́ліц парэ́зала.*

**АСАЧЫ́ЦЬ** *зак.* Высачыць, знайсці. *Чуць куры́цу асачы́ла, чуць знайшла́, дзе йна́ нясе́цца.*

**АСВА́** *ж.* Аса. ◊ ПРЫЧАПІ́ЦЦА ЯК АСВА́. Назойліва прыставаць. *Прычапі́ўся ка мне́ як асва́.* ◊ ЛЕ́ЗЦІ ЯК АСВА́ Ў ВО́ЧЫ. Тое ж. *Ле́зіць як асва́ у во́чы.*

**АСЕ́ДЛАСЬЦЬ** *ж.* Аседласць.

**АСЕ́ЛАК**, **АСЭ́ЛАК**, **АЦЭ́ЛАК** *м.* Тачыльны камень. *Найстры́ў бры́тву на сівым бруску́, на асе́лку.*

**АСЕ́СЦІ** *зак.* Не падняцца (пра хлеб). *Хлеб у пячы́ ня вы́рас, асе́ў.*

**АСЕ́ЦІШЧА** *н.* Месца, дзе раней была асець.

**АСЕ́ЦЬ** *ж.* Прыбудоўка да тока, у якой сушаць снапы жыта і нямятага лёну.

А.[сець] складаіцца: з чатырох імшоных сьцен з дымаадводнымі аконцамі; глухой столі; духавой, курнай, глыбока топнай, каптурна-чалесьніковай печы, падстольных перарубаў з перасуўнымі жардзянымі «ла́вамі» з «цапкамі» і «градкамі» для «насаджаваньня» і сушкі снапоў збожжа або вязак немятага лёну.

**АСЁТКА** *ж.* 1. Асець для сушкі збожжа. 2. *ласк.* Асець (памяшканне) як мера вымалачанага збожжа (лёну і пад.). *Дзьве асёткі лёну зьмя́лі. Тры асёткі жы́та змалаці́лі.*

**АСЁТНЫ** *прым.* 1. Сухі (пра жыта). *Асётнае жы́та – жы́та сухо́е.* 2. Жыта, вымалачанае з высушаных у асеці снапоў.

**АСІВЕ́ЛАСЬЦЬ** *ж.* Пасівенне.

**АСІДА́НЬНЕ** *н.* Асяданне.

**АСІДА́ЦЬ** *незак.* Паніжацца, ушчыльніўшыся, зляжаўшыся. *Страха́ старая, асіда́іць. Бе́раг ракі́ паніжэ́ў, асіда́іць.*

**АСІ́ЛАК** *м.* 1. Чалавек надзвычайнай фізічнай сілы. *Трэ́ба ж мець чалаве́ку таку́ю ко́нскую сілу – асі́лак.* 2. Герой, пераможца. *Пававадзі́ліся асі́лкі, ні так, як даўне́й.*

**АСІ́ЛАЧ** *м.* 1. Чалавек надзвычайнай фізічнай сілы. 2. Герой, пераможца.

**АСІ́ЛІВАНЬНЕ** *н.* Адольванне.

**АСІ́ЛІЦЬ** *зак.* Перамагчы, адолець. *Чуць змаглі́, чуць асілілі. Хто каго́ асіліць.*

**АСІ́НА** *ж.* Асіна.

**АСІНІНА́**, **АСІ́НІНА** *ж.* 1. Асіна. 2. Драўніна з гэтага дрэва.

**АСІ́НЬНІК** *м. зб.* Асінавы лес.

**АСІ́ПЛАСЬЦЬ** *ж.* Асіпласць.

**АСІ́ПНУЦЬ** *зак.* Асіпнуць; зрабіцца сіплым.

**АСІРАЦЕ́ЛАСЬЦЬ** *ж.* Уласцівасць асірацелага.

**АСІРАЦЕ́ЛЫ** *прым.* Які стаў сіратой.

**АСІРАЦЕ́ЦЬ** *зак.* 1. Стаць сіратой. *Асірацэ́ў чалаве́к, аста́ўся адзі́н, як па́ліц.* 2. Быць адзінокім.

**АСІРО́ЧАНЫ** *дзеепрым.* Які стаў сіратой. *Ма́тка памёрла, ба́цьку на вайне́ забі́лі, – пазаста́ўся круго́м асіро́чаны.*

**АСКО́М** *м.*, **АСКО́МА** *ж.* Аскома. *Ад кі́слых я́блыкаў аско́м на зуба́х.*

**АСКРАМЁТАК** *м.* Абрэзак, кавалак нейкага тонкага матэрыялу.

**АСЛА́ВІЦЦА** *зак.* Стаць вядомым.

**АСЛЫ́ЦЬ** *зак.* Тое ж. *Аслы́ў круго́м-увакру́жкі.*

**АСМАКАВА́ЦЦА** *незак.* Адчуць смак чаго-н.

**АСМО́ЛАК** *м.* Абгарэлая і абсмыленая рэшта (бервяна). *Асмо́лак дзе́рава.*

**АСМУ́ШКА** *ж.* Аўчына са скуры ягняці-сасунка. *Асму́шка-благу́шка.*

**АСНО́ВА** *ж.* 1. Аснова. 2. Папярочныя ніткі, якія пераплятаюцца з асновай і ўтвараюць тканіну. *Асно́ва і ўто́к.* ○ КРАСЁНАЯ АСНО́ВА. Асноўныя, навіўныя ніткі ў кроснах.

**АСО́БА** *ж.* 1. Асоба, чалавек. *Сем асо́б гасьце́й. Ва́жная асо́ба.* 2. Статуэтка, статуя.

**АСО́БКА** *ж.* Статуэтка.

**АСО́С** *м.* Абсасванне (?).

Абсо́с.

**АСО́Т** *м.* Асот; калючая расліна, якая расце ў агародзе і на полі. *Гаро́д паро́с асо́там. Назьбіра́й, нарві́ для сьвіне́й асо́ту на ахра́п’е.*

**АСПАКО́ІЦЦА** *зак.* Уціхамірыцца, суняцца. *Аціхамі́раўся – прыці́х, аспако́іўся.*

**АСТАНО́ЎКА** *ж.* Астаноўка (?).

**АСТАШЫ́** *мн.* Шырокія, абшытыя скурай боты з войлаку.

**АСТРО́Г**, **ВАСТРО́Г** *м. уст.* Турма, абгароджаная вострым частаколам.

**АСТРО́ЖНІК** *м. уст.* Арыштант. *Астро́жнікі з астро́гу уцяклі́.*

**АСТРО́ЖНЫ** *прым. уст.* Астрожны, турэмны. *Астро́жная ва́рта.*

**АСТУ́П** *м.* 1. Неперарыўная праца талакой. *Прыняліся ўсе асту́пам. Наляце́лі, навалі́ліся асту́пам.* 2. Атака, наступленне. *Кі́нуліся у асту́п.*

**АСТУПІ́ЦА** *ж.* 1. Неперарыўная праца талакой. *Прынялі́ся аступі́цай і зрабі́лі.* 2. Атака.

**АСТУПІ́ЦЬ** *зак.* Атакаваць. *Аступі́лі – атакава́лі.*

**АСУ́ДА** *ж.* Асуджэнне. *Асу́да сьве́ту. Асу́да людзе́й.*

**АСУДЖА́ЦЬ** *незак.* Асуджаць.

**АСУ́НУТАСЬЦЬ** *ж.* Схуднеласць, змарнеласць.

**АСУ́НУЦЦА** *зак.* Схуднець, змарнець (пра чалавека). *Пастарэ́ў, абві́с, асу́нуўся на це́ле.*

**АСУ́ШАК** *м.*, **АСУ́ШКІ** *мн.* Сухія перапечкі хлеба; сухары. *Гара́чае, па́ранае, малако́ з асу́шкамі.*

**АСУ́ШКА** *ж.* Асушванне. *Асу́шка ніў́я. Асу́шка бало́та.*

**АСЫ́ПКА** *ж.* Гарохавая або жытняя мука, якая сыплецца ў корм для свіней, бульбяную мешанку.

**АСЫСТЭ́НТКІ** *мн.* Сяброўкі нявесты на вяселлі.

**АСЬВЯННЫ́** *прым.* ○ АСЬВЯННЫ́ ПУЗЫ́Р. Асінае гняздо; сівога колеру шурпаты капшук, у якім плодзяцца восы.

**АСЬКЕ́ЛІВАННЕ** *н.* Вышчэрванне.

**АСЬКЕ́ЛІВАЦЬ** *незак.* Смяяцца, вышчараючы зубы.

**АСЬКЕЛЯ́КА** *агульн.* Выскаляка.

**АСЬКІЛЯ́ЦЦА** *незак.* Смяяцца, вышчараючы зубы.

**АСЬКЯЛЁПАК** *м.* Шчэпка. *Паськіпа́ў до́шку на аськялёпкі.*

Шчэ́пка, адшчэ́пак дзе́рава.

**АСЬМІ́НА**, **ВАСЬМІ́НА** *ж.* Мера бульбы, роўная 1/8 бочкі або 20 гарцам (што на 4 гарцы менш за пур).

**АСЬЦЁ**, **АСЬЦЕ́** *н. зб.* Вусы на жытніх або ячменных каласах.

**АСЬЦІНА́** *ж.* Вусік жытняга або ячменнага коласа. *Асьціна́ у во́ка папа́ла. Асьціно́й во́ка запаро́шыла.*

**АСЬЦІ́СТАСЬЦЬ** *ж.* Уласцівасць асцістага.

**АСЬЦІ́СТЫ** *прым.* Калючы, з асцюкамі.

**АСЬЦЯРО́ГА** *ж.* 1. Асцярожнасць, далікатнасць. 2. Перасцярога, папярэджанне.

**АСЯНІ́НЫ** *мн.* Дзяды; традыцыйнае восеньскае свята памінання памерлых. Дзісеншчына, Рымкі Паст. ◊ (*пад'е́сці*) ЯК НА АСЯНІ́НАХ. Уволю, добра (пад'есці). *Пад'е́ў, – ка́жэ, – як на асяні́нах.* Дзісеншчына.

**АСЯНЧЫ́НА** *ж.* Балотнае або лугавое сена без зёлак. *Падкі́нь каню́ хоць асянчы́ны.*

**АСЯРО́ДАК** *м.* 1. Цэнтральная частка будынка разам з бакавымі памяшканнямі. 2. Цэнтр. *Злажы́ў кладню́ снапо́ў на асяро́дку пу́ні.*

**АТА́БАРАВАЦЦА** *незак.* Шукаць прыстанак.

**АТА́БАРАЦЦА** *зак.* Знайсці прыстанак, асесці.

**АТА́БАРЫЦЦА** *зак.* Тое ж. *Дзе́-то ён цяпе́р, біда́к, ата́барыўся? Каб хоць дзе ата́барыцца.*

**АТА́БАРЫШЧА** *н.* Прыстанак. *Ата́барашча цыга́нь – цыга́нская стая́нка, стая́нка цыга́нскага та́бару.*

**АТА́ВА** *ж.* Трава, якая вырасла ў той жа год на сенажаці.

**АТА́Л** *м. зб.* Рэшткі нерасталага снегу.

**АТА́ЛАК** *м.*, **АТА́ЛКІ** *мн. зб.* Тое ж. *Ад вялі́зных гу́рбаў сьне́гу засталі́ся то́лькі адны́ ата́лкі.*

**АТА́МАЛКА** *ж.* Ануча для вымання гаршкоў з печы.

**АТАПЛЕ́НЬНЕ** *н.* Абаграванне.

**АТЛА́С** *м.* Атлас; тканіна.

**АТЛАСО́ВЫ** *прым.* Атласны.

**АТЛІ́ГА**, **АДЛІ́ГА** *ж.* Адліга.

**АТО́ЖЫЛАК** *м.* Асобны парастак з пня ці караня лісцевага дрэва, якое было ссечана вясной.

**АТО́ЖЫЛІНА** *ж.* Тое ж.

**АТО́ЖЫЛЬ** *ж. зб.* Тое ж.

**АТО́ЖЫЛЬЛЕ** *н. зб.* Парасткі з пня ці караня лісцевага дрэва, якое было ссечана вясной. *Карчы́ бяро́з ато́жыльле пусьці́лі.*

**АТО́КА** *ж.*, **АТО́К** *м.*, **АТО́КІ** *мн.* Паўвостраў.

**АТО́П** *м.* Плаціна.

Штучны, за́стаўны або свайны стрым цякучай вады з мэтаю атапіць вызначаную мяйсцовасьць, каб зрабіць яе гэтым непрыступнай, адцятай вадою ад іншых мяйсцовасьцяў. (Атопы замкаў і гарадзішч даўнейшай Полатчыны.)

**АТО́ПАК** *м.* Стары, зношаны абутак.

**АТО́С** *м.*, **АТО́СЫ** *мн.* Нацяжныя гужы ў возе.

**АТО́СА** *ж.* Дрот або рэмень у нацяжных гужах у возе. *Парва́лася ато́са.*

**АТО́САК** *м.* Зачэпка на восі, да якой прымацоўваецца атоса. *Ато́сак зьдзе́ўся. Ато́сак з васі́ сарва́ўся.*

**АТО́СІНА** *ж.* Дрот або рэмень у нацяжных гужах у возе. *Ато́сіну парва́ў.*

**АТО́СЬСЕ** *н. зб.* Атосы; нацяжныя гужы ў возе.

**АТРА́ВА** *ж.* Атрута.

**АТРА́ЗКА** *ж.* Тое, чым можна падперазацца.

**АТРУ́СКІ** *мн.* Атрускі; рэшткі чаго-н. *Атру́скі лёну. Атру́скі се́на. Атру́скі кулаво́й сало́мы.*

**АТРУ́ТА** *ж.* Атрута. *Купі́ў атру́ты на ваўко́ў.* ◊ ГАРКІ́ ЯК АТРУ́ТА. Надзвычай горкі. *Гарка́я як атру́та.*

**АТРУ́ЧАВАЦЬ** *незак.* Атручваць.

**АТРУ́ЧАНАСЬЦЬ** *ж.* Атручанасць.

**АТРУЦІ́ЦЦА** *зак.* Прыняць атруту. *Атруці́ўся – прыня́ў атру́ты.*

**АТУ́** *выкл.* Ужываецца для выражэння незадаволенасці ў значэнні 'хопіць, досыць'. *Ату́ ўжо! Прыста́ў, прычапі́ўся, каб было́ хоць за што́. Ату́, ні хачу́ і слухаць.*

**АТУ́КАНЫ** *дзеепрым.* Запужаны.

**АТУ́КАЦЬ** *зак.* Зняважыць, запужаць (?). *Ату́калі́ чалаве́ка, як ваўка́, на ўвесь сьвет.*

**АТУМА́Н** *м.* Падман. *Эт, усё гэ́та атума́н, каб то́лькі атума́ніваць людзе́й...*

**АТУМА́НІВАЦЬ** *незак.* Падманваць. *Эт, усё гэ́та атума́н, каб то́лькі атума́ніваць людзе́й...*

**АТУМА́НІЦЬ** *зак.* Падмануць. *Атума́ніць чалаве́ка.*

**АТЫ́ЛАСЦЬ** *ж.* Азызласць (пра чалавека).

**АТЫ́ЛЫ** *прым.* Азызлы; пра тоўстага ад нараджэння і ў сталым веку чалавека.

**АЎКАННЕ** *н.* Рэха. *У до́брую паго́ду па ле́се дале́ка ляці́ць аўканьне.* Рымкі Паст.

**АЎСЫ́** *мн.* Пасевы аўса. *Жыты́ як жыты́, але́ аўсы́, па людзёх, урадзі́лі. До́брая уро́да на аўсы́.*

**АЎСЮ́К** *м.* Пустазелле, падобнае на авёс.

**АЎСЯНІ́К**, **АЎСЯ́НЬНІК** *м.* Аўсяны хлеб.

**АЎСЯНІ́К**, **АЎСЯ́НЬНІК** *м.* Сыты, ільсняны конь, адкормлены аўсом.

**АЎСЯ́НІЦА** *ж.* 1. Аўсяная мука. 2. Аўсяная салома.

**АЎСЯ́НІШЧА** *н.* 1. Поле, на якім рос авёс. 2. Поле, з якога сабраны ўраджай аўса.

**АЎСЯ́НКА** *ж.* 1. Аўсяныя крупы. 2. Суп з такіх круп.

**АЎТА́Р** *м.* Алтар.

**АЎТА́РНЫ** *прым.* ○ АЎТА́РНАЯ ЧАСЬЦЬ. Усходняя частка царквы, дзе знаходзіцца прастол.

**АЎТО́РАК** *м.* Аўторак.

**АЎЧА́РНІК** *м.* Аўчарня; авечы хлеў.

**АЎЧА́РНІК** *м.* Парода дробных ваўкоў.

**АЎЧЫ́НА** *ж.*, **АЎЧЫ́НЫ** *мн.* Аўчына. АЎЧЫ́НКА *памянш.-ласк.*

**АЎЧЫ́НІНА** *ж.* Аўчына.

**АЎЧЫ́НЬНІК** *м.* Майстар, які вырабляе аўчыны.

**АФАРБО́ЎКА** *ж.* Афарбоўка.

**АФАРМО́ЎКА** *ж.* Афармленне.

**АФУТРАВА́ЦЬ** *зак.* Абцягнуць сукном футра на кажуху. *Кажу́х афутрава́ў.*

Кажу́х афутрава́ў – павалок кажух сукном. Афутраваць – паддубальтава́ць, павалачы́, зрабіць падвойным.

**АФУТРО́ЎКА**, **ФУТРО́ЎКА** *ж.* Абцягванне футра сукном на кажуху.

**АФЯ́РА** *ж.* Ахвяра.

**АФЯ́РНІК** *м.*, **АФЯ́РНІКІ** *мн.* Паломнік.

**АХА́ПАК**, **АХО́ПАК** *м.* Абярэмак; такая колькасць чаго-н., якую можна панесці, абхапіўшы дзвюма рукамі. *Ухапі́ў ма́ліц дзе́ўку у ахо́пак і панёс.* АХА́ПАЧАК *памянш.-ласк. Аха́пачак се́на.*

**АХВО́ТА** *ж.* Ахвота.

**АХВО́ТНІК** *м.* 1. Ахвочы; аматар чаго-н. *Як пада́п'ець – ахво́ч і пабі́цца. Ахво́тнік да бо́ю.* 2. Добраахвотнік. *Самахо́ць на вайну́ пайшо́ў. У ахво́тнікі.*

**АХВО́ТНІЦА** *ж.* Жан. да ахвотнік.

**АХВО́ЧАСЬЦЬ** *ж.* Ахвота.

**АХВО́ЧЫ** *прым.* Ахвочы; які выказвае жаданне, ахвоту да чаго-н. *Як падап'е́ць – ахво́ч і пабі́цца.*

**АХ-ЕЙ!** *выкл.* Ах, ой (?).

**АХІ́Л** *м.* Адхіленне (?).

Абхіл.

**АХЛЫ́ЦЬ** *зак.* Страціць сілы. *Я зусі́м ахлы́ў ад зане́бнае сьпе́кі.* Лаўрыкавічы Ваўк.

**АХРА́П'Е** *н. зб.* Зелень, націна гародніны як корм для свіней.

**АХУ́ТАВАНЬНЕ** *н.* Захутанне.

**АХУ́ТАНАСЬЦЬ** *н.* Захутанасць.

**АХУТАЦЦА** *зак.* Захутацца.

**АЦАЛЕ́ЛАСЬЦЬ** *ж.* Уцалеласць.

**АЦЁК** *м.* Ацёк.

**АЦЁКЛАСЬЦЬ** *ж.* Ацёчнасць.

**АЦІЖА́РАНАСЬЦЬ** *ж.* 1. Цяжкасць, вагавітасць. 2. Абкладанне падаткамі.

**АЦІЖА́РАЦЦА** *зак.* Зрабіцца цяжкім, вагавітым. *Аціжа́ралася, што й ця́жка на ру́кі узьня́ць.*

**АЦІЖА́РАЦЬ** *незак.* Абкласці падаткамі. *Аціжа́ралі наро́д цяжкімі пада́ткамі.*

**АЦІЛЯ́КА** *агульн.* Гультай. *Гульта́й, цілянце́й, аціля́ка.*

**АЦІЛЯ́КАВАНЬНЕ** *н.* Гультайства; унікненне працы.

**АЦІЛЯ́КАВАЦЦА** *незак.* Гультаяваць, унікаць працы.

**АЦІХАМІ́РАВАЦЦА** *незак.* Уціхамірвацца, супакойвацца.

**АЦІХАМІ́РАЦЦА** *зак.* Уціхамірыцца, суняцца. *Надво́р'е* (*паго́да*) *аціхамі́ралася*: *ве́цер аці́х, зіціхамі́раўся.*

**АЦЯ́Г** *м.* Запавольванне. *Аця́г ча́су. Аця́г спра́вы.*

**АЦЯ́ЖАВАНЬНЕ** *н.*

**АЦЯ́ЖАВАЦЬ** *незак.*

**АЦЯ́ПАВАНЬНЕ** *н.* Абарона сваіх інтарэсаў.

**АЦЯ́ПАВАЦЬ** *незак.* Абараняць свае інтарэсы.

**АЦЯ́ПАЦЬ** *зак.* Абараніць свае інтарэсы. *Чуць аця́паў сва́е інтарэ́сы.*

**АЦЯЛЕ́НЬНЕ** *н.* Цяленне.

**АЦЯЛІ́ЦЦА** *зак.* Нарадзіць, прывесці цяля. *Каро́ва цёлная* (*це́льная*) *аця́лілася, бычка́ прывела́.*

**АЦЯРУ́ШКІ** *мн.* Рэшткі ад абтрэсенага, абабітага.

**АЦЯРУ́ШША** *н. зб.* Тое ж.

**АЦЯРУ́ШЫЦЦА** *зак.* Абтрэсціся, абабіцца. *На ве́ніку ліст ацяру́шыўся.*

**АЧАДЗЕ́ЛАСЬЦЬ** *ж.* Учадзеласць.

**АЧАДЗЕ́ЦЬ** *зак.* Учадзець; атруціцца чадам.

**АЧАРНІ́ЦЬ** *зак.* Узвесці паклёп, зняславіць (чалавека). *Ачарні́лі чалаве́ка, што ён такі́, што ён сякі́, што ён гэ́такі…*

**АЧАРСТВЕ́ЛАСЬЦЬ** *ж.* Ачарсцвеласць.

**АЧАРСТВЕ́ЦЬ** *зак.* 1. Ачарсцвець; зрабіцца чэрствым. *Хлеб ачарстве́ў.* 2. *перан.* Падсохнуць. *Земля́ ачарстве́ла, пачала́ абсыха́ць* (*з до́ждж*у).

**АЧАХА́НЬНЕ**, **АЧЫХА́НЬНЕ** *н.* Прабуджэнне (са сну).

**АЧМУТ** *м.* Падман зроку, фокус. *Пусьці́ў ён ачмут і усадзі́ў у го́рла трохаршы́навы прут жале́за.* ◊ ПУСЦІ́ЦЬ АЧМУТ. Падмануць, зрабіць фокус. Рымкі Паст.

**АЧУНЕ́ЛАСЬЦЬ** *ж.* Выздараўленне пасля хваробы.

**АЧУНЕ́ЦЬ** *зак.* Ачуняць; паправіцца пасля хваробы. *Чуць-чуць ачуне́ў, чуць вы́хадзіўся.*

**АЧУ́НІВАЦЦА** *незак.* Ачуньваць; папраўляцца пасля хваробы.

**АЧУ́ЦІЦЬ** *зак.* Вывесці са стану непрытомнасці. *Так забі́ўся, да паўсьме́рці, што чуць вадо́й ачу́цілі.*

**АЧУ́ЧАВАНЬНЕ** *н.* Вывядзенне са стану непрытомнасці.

**АЧУ́ЧАВАЦЦА** *зак.* Апрытомнець.

**АЧУ́ЧАНАСЬЦЬ** *н.* Вяртанне да стану прытомнасці.

**АЧХНУ́ЦЦА** *зак.* Прачнуцца, абудзіцца.

**АЧЭ́РНІВАНЬНЕ** *н.* Знеслаўленне (пра чалавека).

**АЧЭ́РНІВАЦЬ** *незак.* Узводзіць паклёп, знеслаўляць (чалавека).

**АШАКІ́** *мн.* Дрэнныя крупы, смецце, выбраныя з добрых таўчоных круп.

**АША́Л** *м.* Шал, шаленства; вадабоязь. *Не́шта шчэ́пюць, памага́юць ад аша́лу.*

**АШАЛЕ́ЛЫ** *прым.* 1. Хворы на шаленства. 2. Раз'юшаны. *Крычы́ць, бе́гаіць, но́сіцца як ашале́лы.*

**АШАЛЕ́ЦЬ** *зак.* 1. Захварэць на шаленства, вадабоязь. *У сусе́да саба́ка ашале́ў, збег не́дзе.* 2. Прыйсці ў стан раз'юшанасці.

**АШАЛЁВАВАЦЬ** *незак.* Ашалёўваць; абшываць шалёўкай.

**АШАЛЁЎКА** *ж.* 1. Шалёўка; вонкавая абшыўка з тонкіх дошак драўляных пабудоў. *Прыго́жая ашалёўка.* 2. Шаляванне; абшыванне шалёўкай драўляных пабудоў. *Распачала́ся ашалёўка Мікітавай ха́ты.*

**АШКІ́РА**, **ШКІ́РА** *выкл.* Выгук, якім адганяюць ці падганяюць авец. *Ашкі́ра ў по́ле, ашкі́ра ў по́ле! Шкі́ра да аве́ц!*

**АШУ́КА** *ж.* Падман. *Трэ́ба ж така́я ашу́ка: сукно́ мульта́нам падмяні́ць.*

**АШУ́КАВАНЬНЕ** *н.* Тое ж.

**АШУ́КАВАЦЬ** *незак.* Падманваць. *Мані́ш, ашу́каваіш!*

**АШУКА́НІЦ** *м.*, **АШУКА́НЦЫ** *мн.* Ашуканец. *Круце́ль – ашука́ніц.*

**АШУКА́НСТВА** *н.* Ашуканства, падман. *Разьвяло́ся ашука́нства.*

**АШУКА́ЦЬ** *зак.* Падмануць. *Ашука́ў дзяўчы́ну і сам уцёк, не́дзе вы́йхаў.*

**АШЧА́ДА** *ж.* Ашчаднасць, эканомнасць.

**АШЧА́ДНА** *прысл.* Ашчадна, эканомна.

**АШЧА́ДНАСЬЦЬ** *ж.* Ашчаднасць, эканомнасць.

**АШЧА́ДНІК** *м.* Той, хто ашчаджае. *Ніпрыго́жа быць і скна́рай, але́ няху́да быць і ашча́днікам.*

**АШЧА́ДНІЦА** *ж.* Жан. да ашчаднік.

**АШЧАРА́КА** *агульн.* Перасмешнік, вышчарка.

**АШЫТРАВА́ЦЬ** *зак.* Ачысціць зерне ад смецця і асцюкоў перад млівам.

Ачысьціць, на млыне на муку ці кру́пы, збажжаво́е зярно́ ад шалупак, ашако́ў.

**АШЫТРО́ЎКА**, **ШЫТРО́ЎКА** *ж.* Ачыстка зерня ад смецця і асцюкоў перад млівам.

**АЮ́СЬ** *выкл.* Выгук, якім адганяюць ці падганяюць свіней. *Аю́сь у по́ле! Аю́сь да сьвіне́й!*

## Б

**БА́БА** *ж.* 1. *разм.* Жанчына. 2. Кабета. 3. Бабуля; матчына або бацькава маці; дзедава жонка. 4. Павівальная бабка; жанчына ў веку, якая прымае дзяцей у час родаў. 5. *разм.* Пра нерашучага мужчыну. *Ба́ба з цябе́, а ні мужчы́на.*

□ *З дзе́ўкі ба́ба хоць калі́, а з ба́бы дзе́ўка – ніко́лі.*

**БА́БА** *ж.* Калаўротная калода, на якую прымацоўваецца вяроўка для таго, каб нацягнуць апорную лінію праз раку для парома, каб цягнуць рыбалоўны невад па лёдзе або каб узнімаць на млын мяшкі са збожжам.

Калаўротная, для навіваньня пацяжно́й вяроўкі, абіча́я або калода, якая бываюць: для напінаньня апорная ліны цераз раку у парамах; для валачбы па падлёдзьдзю рыбалоўнага неваду на азёрах і для узніманьня на столь збажжавых мяхоў у млынох.

**БА́БА** *ж.* Калода для забівання ў зямлю паляў.

**БА́БІН** *прым.* ◊ БА́БІНА КА́ША. Традыцыйная хрэсьбінная куцця, падчас якой госці кладуць грошы ў падарунак для бабкі-павітухі. *Аж тры рублі́ вы́лажыў на ба́біну ка́шу.*

**БА́БІЦЬ** *незак.* 1. Прымаць дзяцей у час родаў; абразаць пупок народжанаму дзіцяці (роля павівальнай бабкі).

**БА́БЛІНЬНЕ** *н.* Абразанне пупка нованароджанаму (роля павівальнай бабкі). *Заняла́ся ба́бліньнем дзяце́й.*

**БА́БНІК** *м.* Ахвотнік да чужых жонак. *Ніхто́, до́бры чалаве́к, алі́ ба́бнік.*

**БАБО́ВІК** *м.*, **БАБО́ВІКІ** *мн.* Бліны або перапечкі з бобовай мукі.

**БАБО́ВІНЫ** *мн.*

**БАБО́ВІНЫ** *мн.* Быллё з вымалачанага боба.

**БАБО́ВІШЧА** *н.* Поле, на якім рос боб.

**БАБО́К** *м.* Боб.

**БАБО́ЎКА** *ж.*

**БАБО́ЎКА** *ж.* 1. Бабовая мука. 2. Бабовая мякіна.

**БАБО́ЎНІК** *м.* ○ БАБО́ЎНІК КАЦІ́ННЫ. Канюшына. ○ БАБО́ЎНІК СВІННЫ́. Тое ж.

**БАБЫ́ЛЬ** *м.*, **БАБЫЛІ́** *мн.* 1. Кутнік; бядняк; чалавек без уласнай хаты і гаспадаркі. 2. Незаможная бяздзетная сям'я (звычайна дзед і баба).

**БАБЫ́ЛЬКА**, **БАБЫ́ЛКА** *ж.* 1. Кутнік; бядняк; чалавек без уласнай хаты і гаспадаркі. 2. Незаможная бяздзетная сям'я (звычайна дзед і баба).

**БАБУ́ЛЯ** *ж.* 1. Бацькава або матчына маці. 2. Старая жанчына. БАБУ́ЛЬКА, БАБУ́ЛІЧКА *ласк.*

**БАГАВІ́ЦА** *ж. уст.* 1. Багіня. 2. Жрыца.

Старое слова, захавалася ў прымаўках, нагадвае нешта з дахрысціянскіх часоў тыпу «Багі́ня» або «Жры́ца».

**БАГАВО́Е** *н. уст.* 1. Ахвярапрынашэнне. 2. Свяцілішча багоў. *А ніха́й яго́ багаво́е!* (дабрадушны праклён).

Старасьвецкае, малавыясьнінае слова, напамінаючае сабой стараславянскія аджыткі, ніто жэртвапрынос, ніто сьвяцілішча багоў.

**БАГА́Н** *м.* Багун; імшарная, нізкарослая з адурманьваючым пахам расліна.

**БАГАРА́Д** *м.*

**БАГА́ТКА** *ж.*, **БАГА́ТКІ** *мн.* Дзьмухавец (расліна).

Палявыя, узьмётныя, растучыя па сухіх прысланях, дзядкі-пухаваткі, разквітаючыя пухам пасьля засушкі.

**БАГАТЫ** *прым.* 1. Які мае шмат матэрыяльных каштоўнасцей. *Багат зямлёй. Багат грашмі.* 2. Які характарызуецца добрымі якасцямі. *Багат здольнасьцямі.*

**БАГАТЫР** *м.*, **БАГАТЫРЫ** *мн.* Багач; багаты, заможны чалавек. *Багатыр на ўсю акругу.*

**БАГАЦЬЦЕ** *н.* 1. Матэрыяльныя каштоўнасці. 2. Духоўныя набыткі.

**БАГАЧ** *м.* Надзвычай багаты чалавек.

**БАГДАЙ**, **БОГДАЙ**, **БАДАЙ** *часц.* 1. Ужываецца для ўзмацнення нядобрых пажаданняў. 2. *пабочн.* Выказвае дапушчэнне якой-н. магчымасці, меркавання. *Бадай што нічога з гэтага ня выйдзіць.*

*Багдай цябе трасца!* (праклён). *Багдай яно тут затонула!* (праклён).

**БАГНА** *ж.* 1. Вязкі топкі грунт. *Конь увяз у багну.* 2. Дрыгва.

**БАГНІСТАСЬЦЬ** *ж.* Грузкасць.

**БАГНІСТЫ** *прым.* Грузкі. *Багністы грунт. Багністы луг. Багністае балота.*

**БАГОР** *м.* Жалезны крук на доўгай жэрдцы для расцягвання на сплаве бярвення.

Плытніцкі, для ~~упраўкі~~ спраўкі з пушчаным на ваду бярвеньнем; асаджаны на даўгі шост зялезны дзюбаты крук.

**БАДАЧ** *м.* 1. Даследчык. 2. Недарэка.

**БАДЗІЛА** *м.* 1. Даследчык. 2. Недарэка. *Бадзіла ты дурное…*

**БАДЗЯКА** *м. пагардж.* Бадзяга.

**БАДЗЯЛЫ** *прым.* 1. Чалавек, які шмат дзе быў. *Чалавек сьветам бадзялы, людзьмі абцёрты. Каля людзей выцерся.* 2. Чалавек, які марна траціць час, сланяючыся без справы. *Бадзялы сабака.*

**БАДЗЯНЬНЕ** *н.* 1. Вандроўнае жыццё. 2. Знявага. 3. Нешанаванне рэчаў.

**БАДЗЯЎКА** *м. пагардж.* Бадзяга.

**БАДЗЯЦЦА** *незак.* Весці вандроўнае жыццё. *Бадзяцца абы-дзе.*

**БАЁК** *прым.* 1. Бойкі ў гутарцы і спрэчцы. *Баёкдзеўка.* 2. Няўступчывы, буяністы.

Да значэння 2: Буян-ніўступака, спрытны поўхабой.

**БАЖАНЁНАК** *м*, **БАЖАНЁ** *н.*, **БАЖАНЯТЫ** *мн.* Пястун; спешчанае бацькамі дзіця. *Зачапі яго, ого! Ён у яе чысты бажанёнак.*

**БАЖБА** *ж.* Клятва, якая суправаджаецца біццём кулаком сябе ў грудзі для доказу сваёй праваты, напрыклад: *Да душы ж праўда! Далібог жа было...*

**БАЖНІЦА** *ж.* 1. Хатняя мініяцюрная капліччка ў застольным куце, на якой трымаюцца рэчы рэлігійнага прызначэння. 2. Любыя рэчы рэлігійнага прызначэння.

**БАЖНІЧКА** *ж.* 1. Хатняя мініяцюрная капліччка ў застольным куце, на якой трымаюцца рэчы рэлігійнага прызначэння. 2. Любыя рэчы рэлігійнага прызначэння.

**БАІНЬНЕ** *н.* 1. Убаюкванне. 2. Забаўлянне байкамі і небыліцамі.

**БАІЦЬ** *незак.* 1. Убаюкваць. 2. Забаўляць байкамі і небыліцамі.

**БАЙ** *м.* Міфічная істота, якая расказвае байкі, казкі; цар баек. *Йшоў Бай па сьцяне / Нёс сямёра лапцей, / І мне, і жане, / Й дзяцёнку па лапцёнку. / Ці баіць ці не? / – Бай!... Й ты кажаш – бай, / І я кажу бай… / Йшоў бай і г. д.* (з песні пра Бая).

**БАЙБАС** *м.* Высака624рослы падлетак, які расце надзвычай хутка, не па гадах. *Расьцець байбас на лес гледзючы.*

**БАЙБІЛА**, **БАМБІЛА** *м.* Высакарослы, няспрытны, непаваротлівы, нехлямяжны мужчына.

**БАЙКА** *ж.*, **БАЙКІ** *мн.* Выдумка.

**БАЙНЯ** *ж.* Лазня.

**БАЙРАК** *м.*, **БАЙРАКІ** *мн.* Барак.

**БАЙСТРУК** *м.* 1. Сын, бацька якога невядомы. Дзісеншчына. 2. Сын, у якога няма бацькі. Дзісеншчына. 3. Незаконнанароджанае дзіця. *Байструкі і баньдзюкі ня ведаюць сваіх бацькоў.* Рымкі Паст.

**БАЙСТРУК** *м.* Вучань у рамесніка.

**БАКАС** *м.* Бакас (птушка).

**БАКІ** *мн.* Бакенбарды.

**БАКЛАГА** *ж.* Біклага.

**БАКЛАЖКА** *ж.* Тое ж.

**БАКОЎКА** *ж.* 1. Бакавы пакой. 2. Каморка.

**БАЛАБАЙКА** *ж.* 1. Балалайка; рускі трохструнны музычны інтрумент. 2. Драўляная бразджолка, што складаецца з дошчачкі і прычэпленых да яе бразгучак і надзяваецца каню ці жарабятам на шыю начлежнікамі.

**БАЛАБЭЙКІ** *мн.* Бразготкі. *Дзяцюк паехаў у сваты з балабэйкамі.* Рымкі Паст.

**БАЛАГУР** *м.* Пустаслоў.

**БАЛАКАЦЬ** *незак.* Весці пустыя размовы.

**БАЛАМУТ** *м.* Ілгун, інтрыган.

**БАЛАМУЦІЦЬ** *незак.* Спакушаць, падманваць. *Ні баламуць нашых дзіўчат.*

**БАЛАЎНІК** *м.* Легкадумны, нястрыманы чалавек, дураслівец. *Адзін сын, і той балаўнік: рэдка ў хаці сутыкаіцца, біз дзіўчат ані часу.*

**БАЛАЎНІЦА** *ж.* Жан. да балаўнік.

**БАЛАЦЯВІНА** *ж.* 1. Лагчына, якая ніколі не высыхае. 2. Невялікае балота.

**БАЛБАТАНЬНЕ** *н.* Пустая гутарка.

**БАЛБАТАНЬНЕ** *н.* Гукі цецерука, які такуе.

**БАЛБАТАЦЬ** *незак.* Балбатаць.

**БАЛБАТНЯ** *ж.* Пустая гутарка.

**БАЛБАТНЯ** *ж.* Гукі цецерука, які такуе.

**БАЛБАТУН** *м.* 1. Той, хто празмерна шмат гаворыць. 2. Які гаворыць невыразна і хутка.

Да значэння 1: Гаварлівы да безталкоўшчыны, гаварун.
Да значэння 2: Нівыразна і сьпешна гукаючый.

**БАЛВАН** *м.* 1. Калодка ў шапачніка для меры і шыцця шапак. 2. Манекен у краўца. 3. Грубая, без прапорцый, непафарбаваная, непрыгожая статуэтка.

**БАЛВА́Н** *м. пагардж.* Дурань.

**БАЛВА́НІЦЬ** *незак.* Збольшага абчэсваць, падрыхтоўваць для далейшай апрацоўкі.

**БАЛВА́НІЦЬ** *незак.* Лаяць, называючы балванам. *Што ты другі́х балва́ніш!*

**БАЛДАВА́** *ж.* 1. Круглая ручка на кіі. 2. Ваенная паліца. *З галаво́й, як з балдаво́й.*

Да значэння 1: Круглая галка на кіі, як патрачка.

Да значэння 2: Старасьвецкая ваяцкая пабавешка, паліца.

**БАЛДАВЯ́СТАСЬЦЬ** *ж.* Камлюкавастасць.

**БАЛДАВЯ́СТЫ** *прым.* Які мае тоўсты камлюкаваты канец (пра кульбаку). *Балдавя́сты кій.*

**БАЛДЫ́Р**, **БАЎДЫ́Р** *м.* Пра нешта круглае, тоўстае, пузатае. *На царкве́ ку́пал, як баўды́р.*

**БАЛЕ́ЗЬЦЬ**, **БАЛЕ́СЬЦЬ** *ж.* 1. Хваравіты стан здароўя. 2. Хвароба. *Бале́зьць апанавала.*

**БАЛЕ́ЙКА** *ж.* Хатняя круглая, невысокая, шырокая пасудзіна ў выглядзе цэбра з вушкамі.

Круглая нізкая шырокая ~~бандарскай работы пасудзіна, – бад – рас. бадья~~ з вушамі, як у цэбры, бандарскай работы пасу хатняе судно.

**БАЛЕ́НЬНЕ** *н.* Фізічны боль (пэўнай часткі цела). *Ад зубо́ў бале́ньня.*

**БАЛЕ́ЦЬ** *незак.*

**БА́ЛМАЧ** *ж.* Гультайскае жыццё. *Век свой ба́лмаччу жыве́ць, ~~нïпрацуючы~~. Абы́ ба́лмаччу адбы́ць.*

**БАЛО́НКА**, **АБАЛОНКА** *ж. устар.* Аконная шыба ў старасвецкіх вокнах.

Ад старасьвецкіх пузырны́х вако́н (балон, балонка) – ваконная шыба.

**БАЛО́ТА** *н.* Балота. БАЛО́ЦІТКА *памянш.-ласк.* Невялікае балота. *Кругло́ мало́ бало́цітка...* (з песні касцоў). ○ БАЛО́ТА ТРАВЯНІ́СТАЕ. Балота, парослае травой. ○ БАЛО́ТА ДРАГБІ́СТАЕ. Дрыгва; дрыгвістае балота. ○ БАЛО́ТА ЙМША́РНАЕ. Імшара; мохавае балота. ○ БАЛО́ТА ЙРЖА́ВАЕ. Балота, пакрытае жалезна-рудой іржой. ○ БАЛО́ТА КРЫНІ́ЧНАЕ. Балота, якое ўзнікла з-за размывання грунту крыніцамі.

**БАЛО́ТНІНА** *ж. зб.* Балотнае сена, якое выкарыстоўваецца на корм жывёле.

**БАЛО́ТНЫ** *прым.* Балотны. *Чорт ты бало́тны!*

**БАЛО́ТЦА** *н.* Невялікае балота.

**БАЛО́ЦІШЧА** *н.* 1. Месца, дзе раней было балота. 2. Месца з-пад асушанага балота.

**БАЛО́Н** *м. устар.* Аконная шыба ў старасвецкіх вокнах.

**БАЛО́ТНІШЧА** *н.* 1. Месца, дзе раней было балота. 2. Месца з-пад асушанага балота.

**БАЛЬ** *ж.* Вечарына з гульнямі і багатым пачастункам. *Як было́ з чым, за што, дык і ба́лі спраўля́лі.*

**БА́ЛЬКА** *ж.*, **БА́ЛЬКІ** *мн.* Падрыхтаванае бярвенне для сплаву або для будоўлі.

**БАЛЬНІ́ЦА** *ж.* Бальніца; установа для лячэння хворых.

**БАЛЬША́К** *м.* 1. Самае рослае дзіця ў сям'і. 2. Старэйшы між братоў.

**БАЛЬША́К** *м.* Гасцінец; вялікая дарога. *Як уз'е́дзіш на бальша́к, валі́ про́ста бальшако́м.*

**БАЛЬШЫНА́**, **БАЛЬШЫНЯ́** *ж.* Большасць; большая частка. *За кім бальшына́ – той і старшына́.*

**БА́ЛЫ** *мн.* Забаўка, гулянка.

**БАЛЮ́ЧЫ** *прым.*

**БАЛЮ́ШКА** *ж.* Гулянка.

**БАЛЯ́ЎКА** *ж.*

**БАНДА́РКА** *ж. зб.* Бондарскія вырабы.

Вырабы бандарскага рамясла, бандарскай работы як: цэ́бры, ка́дзі, дзе́жы, фа́скі, ра́жкі, я́шчакі, даёнкі, лагуны́, бале́йкі і г. д.

**БАНДА́РСТВА** *н.* Бандарскае рамяство.

Рамясло бандара – бандарнае рамясло па вырабу з дзерава круглых, дашчаных, змацованых абручамі хатня-гаспадарчых судзён.

**БАНДУ́РА** *ж.* Украінскі струнны музычны інструмент.

**БАНДУ́РА** *ж. жарт.* Пахвінная грыжа. *Падарва́ўся і нажы́ў сабе́ банду́ру.*

**БАНІТАВА́ЦЬ** *незак.* Зневажаць, аблайваць.

**БАНІ́ТЫ** *мн.* Зняважлівая лаянка. ◊ ПУСЦІ́ЦЦА НА БАНІ́ТЫ. Груба размаўляць. *Пусьці́ліся на бані́ты.*

**БАНКА́РТ** *м.* Пазашлюбнае дзіця; сын, бацька якога невядомы.

**БАНКЕ́Т** *м.* Бяседа. *На банке́це шмат і пьюць, і яду́ць, і гука́юць.* Рымкі Паст.

**БАНКРУ́Т** *м.* Банкрут; збяднелы неплацежаздольны даўжнік.

**БАНСЮ́Р** *м.* Пазашлюбнае дзіця; сын, бацька якога невядомы. *Настара́лася сабе́ бансюро́ў, а гадава́ць іх не́каму.*

**БАНЬДЗЮ́К** *м.* Незаконнанароджанае дзіця. *Байструкі́ і баньдзюкі́ ня ве́даюць сваі́х бацько́ў.* Рымкі Паст.

**БА́НЬКА** *ж.*, **БА́НЬКІ** *мн.* Набор невялікіх шклянак, якія ўжываюцца ў медыцыне, каб выклікаць прыліў крыві да скуры.

**БА́НЬКА** *ж.* ○ КАСНА́Я БА́НЬКА. Шырокае жалезнае кальцо для прымацавання касы да касся.

**БАРАВІ́К**, **БАРВІК** *м.*, **БАРАВІКІ́**, **БАРВІКІ́** *мн.* Баравік; высокакаштоўны ядомы грыб з белай ножкай і з бурай мясістай шапкай.

Найлепшы найсмачнейшы з ежных грыбоў, рашотчата-спорай пароды, белы грыб з бурай мясістай шапкай.

**БАРАВІ́НА** *ж.*

**БАРАВІЧО́К** *м. ласк.* Пра крэпкае прыгожае дзіця. *Ма́льчык, як баравічо́к, ні адлюбава́цца.*

**БАРАВЫ́** *прым.* ○ БАРАВЫ́Я МЯЙСЦЫ́. Высокія пясчаныя ўчасткі, на якіх расце сасновы лес. ○ БАРАВЫ́ ВОСК. Белы воск, што робіцца пчоламі, якія збіраюць мёд па баравых месцах. ○ БАРАВА́Я ПА́ША. Бедная на корм паша. ○ БАРАВО́Е ЖЫ́ТА. Летняе жыта або ярыца.

**БАРАДА́** *ж.* 1. Валасяное покрыва ніжняй часткі твару. *Вы́йшаў нам насу́страч барада́ч, барада́ як*

*памяло́*. 2. Касмыль шэрсці, які вісіць у казла пад барадой. 3. Касмыль недапрадзенай шэрсці або льну, які ўвязаны ў прасніцу. *Трэ́ба ж мне гэ́ту бараду́ дапра́сьці*. 4. Невялікі кусцік жыта, які пакідаецца жнеямі і каля якога спраўляюць дажынкі.

Да значэння 4: Дажыначны знак са зьвезанага у каласох на пні куста жыта, пакінутага жнеямі.

**БАРАДА́Ч** *м.* Чалавек з вялікай барадой. *Вы́йшаў нам насу́страч барада́ч, барада́ як памяло́.*

**БАРА́ДАЎКА** *ж.* Бародаўка; невялікая цвёрдая нарасць на скуры. *Пара́й, чым мне бара́даўкі сагна́ць.*

**БАРАДЗІ́ЗНА** *ж.* Частка твару мужчыны, на якой расце барада. *Пара́ галі́цца: барадзі́зна адраста́іць.*

**БАРАДЗІ́ШЧА** *н.* Тое ж.

**БАРА́Н** *м.* 1. Самец авечкі. 2. Ягня. 3. *перан.* Пра някемлівага чалавека. *Зьбе́гаўся, зьвёўся, як бара́н.* ◊ (абстры́гчы) ЯК БАРАНА́. Нагала. *Абстры́глі, абгалі́лі як барана́.*

**БАРА́Н** *м.* Сталярны інструмент; рубанак для стругання дошак.

Сталярскі струмэнт, вузкалёзы гэ́баль, руба́нік.

**БАРАНАВА́НЬНЕ** *н.* Апрацоўка ўсходаў пасеянага, пасаджанага пры дапамозе бараны. *Ад дрэ́ннага баранава́ньня трава́ расьце́ць па ні́ве.*

**БАРАНАВАЛО́К**, **БАРНАВАЛО́К** *м.* Баранавальшчык; той, хто баранує ніву.

**БАРА́НІНА** *ж.* Мяса барана ці авечкі.

**БАРАНІ́ЦЬ** *незак.* 1. Абараняць. 2. Станавіцца ў абарону.

**БАРА́НКІ**, **АБАРА́НКІ** *мн.* Абаранкі.

**БАРА́НЫ** *мн.* Вырабленая аўчынка барана. *Шу́бка на бара́нах.*

**БАРА́НЬКА** *м.* 1. Маленькі баран. 2. Ягня. 3. *ласк.* Зварот да барана або ягняці.

**БАРА́НЬКАВЫ** *прым.* ○ БАРА́НЬКАВЫЯ ХМА́РКІ. Перыстыя воблакі. *З'яві́ліся на не́бе бара́нькавыя хма́ркі – варажбі́ткі на паго́ду.* Рымкі Паст.

**БАРЛЁЧ** *м.* Від абутку.

**БА́РМА** *ж.* Шуба начлежніка; цёплы даўгаполы кажух з армячком. *Дзе мая́ ба́рма? Пара́ на начле́г зьбіра́цца.*

**БАРМАТА́ЦЬ** *незак.* Мармытаць.

**БАРО́К** *м.* 1. Невялікі бор. 2. Сасновы лес. *Пайшла́ у баро́к ры́жыкі зьбіра́ць.*

**БАРО́К** *м. ласк.* Бор.

**БАРСА́НІКІ** *мн.* Ільняныя або пяньковыя лапці на аборах.

**БАРСА́ЦЬ** *незак.* 1. Прымацоўваць аборы да лапцей. 2. Завязваць лапці на нагах пры дапамозе абор.

**БАРСУ́К** *м.* 1. Барсук. 2. *перан.* Пра чалавека з капрызлівым, панурым характарам. *Хо́дзіць як барсу́к наду́ўшыся.*

**БАРСУКО́ВЫ** *прым.* Атрыманы з барсука. *Барсуко́вае са́ла – лой з забі́тага барсука́, у наро́дзе цэ́ніцца як лека́рства.*

**БАРСУ́ЧКА** *ж.* Самка барсука.

**БАРСУЧЫ́ННЫ** *прым.* 1. Які зроблены барсуком. *Барсучы́нныі но́ры.* 2. Атрыманы з барсука. *Барсучы́ннае са́ла.*

**БА́РТА** *ж.* Сякера, зробленая на фабрыцы. *Сяке́ра-ба́рта до́брага сло́ва ні ва́рта.*

**БАРТАВЫ́**, **БАРЦЯВЫ́** *прым.* ○ БАРТАВЫ́Я (БАРЦЯВЫ́Я) ПЧО́ЛЫ. Дзікія пчолы.

**БАРТА́СІЦЬ** *незак.* Пераварочваць ззаду наперад.

**БАРТУ́ЛЬ** *м.* Дажджавы чарвяк.

**БАРУ́ЛЬКА** *выкл. ласк.* Выгук, якім падзываюць барана. *Бару́-бару́-бару́лька!*

**БАРУ́ЛЬКА** *м.* 1. Маленькі баран. 2. Ягня. 3. *ласк.* Баран.

**БАРЫ́ЛКА** *ж.* Маленькая, на адзін гарэц, бочачка для гарэлкі.

**БАРЫ́С** *м.* Дзень у традыцыйным народным календары. *Юр'е – Но́вы год для беззяме́льнікаў і сьвя́та для пастухо́ў, а Бары́с – для канапа́саў* (народная мудрасць). *На Бары́са пе́ршы ко́лас выплыва́іць* (народная мудрасць).

**БАРЫ́СТЫ** *прым.*

**БАРЫ́Ш** *м.* Грашовы прыбытак ад удала перапрададзенага тавару. *Вярну́ў сваё з барышо́м.*

**БАРЫ́ШНІК** *м.* Гандляр коньмі.

**БАРЫШЫ́** *мн.* Выпіўка пасля ўдалай пакупкі або ўдалага абмену.

**БАСАНО́Ж** *прысл.* 1. Босымі нагамі, без абутку. 2. На босую нагу; надзеўшы абутак на босыя ногі, без ануч.

**БАСАНО́ЖЖА** *прысл.* Тое ж.

**БА́СТА** *прысл.* Даволі, хопіць, канец. *Забарані́ў і ба́ста. Кі́нулі, ры́нулі й ба́ста усяму́.*

**БА́СЬНЯ** *ж.* Байка.

**БА́СЬНЯ** *ж.* Байка; выдумка.

**БАСЭ́ДЛЯ** *ж.* Басэтля; музычны інструмент.

**БАСЯ́К** *м.* 1. Бесхарактарны чалавек. 2. Гультай і п'яніца.

**БАСЯ́Н**, **БАЦЯ́Н** *м.* Бусел. *Беся́н, бася́н даўгано́сы, / Прапі́ў бо́ты, а сам бо́сы* (з дзіцячай песенькі).

**БАТО́ЎЕ** *н. зб.* Націна карняплодных раслін.

**БАТРА́К** *м.*, **БАТРАКІ́** *мн.* Батрак.

**БАЎДЫ́Р** *м.*

**БАЎТАНІ́НА** *ж.* 1. Неразбярыха, нешта бесталковае. 2. Беспарадкі, разлад.

**БАЎТАЎНЯ́** *ж.* Пустая гутарка.

**БАЎТУ́Н** *м.* Неаплодненае, без зародка яйцо.

**БАЎТУ́Н** *м.* Балбатун, пляткар.

**БАХУ́Р** *м. пагардж.* Незаконнанароджанае дзіця.

**БАХУ́РКА** *ж. пагардж.* Жан. да баху́р.

**БАЦЁНКІ** *мн. ласк.* Боты. *Аста́тніі бацёнкі панёс у заста́ву.*

**БАЦЁНЫ** *мн. ласк.* Боты. *Адны́ меў бацёны, і ты́і знасі́ліся. Німа́ за што спра́віць.*

**БАЦЬВІ́НІНА** *ж.* Сцябліна бурака.

**БАЦЬВІ́НЬНЕ** *н. зб.* 1. Лісце і сцёблы буракоў. 2. Боршч з крышанага лісця і сцёблаў буракоў.

**БАЦЬВІ́НА** *ж.* Боршч з крышанага лісця і сцёблаў буракоў.

**БА́ЦЬКА** *м.* Бацька. *Дзе ж сірацѐ ба́цьку браць?*

□ *Які́е дзе́рава, такі́ й клін, які́ ба́цька, такі́ й сы́н.* □ *Пажыве́ш – і Кузьму́ ба́цькам назаве́ш.* □ *У яго́ што поп, то й ба́цька.*

**БА́ЦЬКАВІЧ** *м.* 1. Сын, падобны па знешнасці і характары да свайго бацькі. 2. Сын, выхаваны пад апекай уласнага бацькі.

**БА́ЦЬКАЎШЧЫНА** *ж.* 1. Родная краіна; айчына. *Пае́хаў на сваю́ ба́цькаўшчыну.* 2. Родны куток, месца, дзе хто-н. нарадзіўся. 3. Набытак бацькі, спадчынная маёмасць. *Ле́две чуць адсудзі́ў сабе́ сваю́ ба́цькаўшчыну.*

□ *Беззямé льнаму ба́цькаўшчына – цэ́лы сьвет* (шляхецкая прымаўка).

**БАЦЬКІ́** *мн.* Бацька і маці. *Дзяўчы́на з до́брай ха́ты, дачка́ пара́дачных бацько́ў.*

□ *Які́і бацькі́, такі́і й дзе́ці.*

**БАЧУРКА** *ж.* Маленькая, на адзін гарэц, бочачка для гарэлкі.

**БАШМА́К** *м.*, **БАШМАКІ́** *мн.* Стары, зношаны абутак.

**БАЯ́РКА** *ж.*, **БАЯ́РКІ** *мн.* 1. *уст.* Дачка баярына. 2. Сяброўкі нявесты на вяселлі.

**БАЯ́РЫН** *м. уст.* Баярын (?).

**БАЯ́СЬЦЬ** *ж.* Боязь.

**БЕГА́, БІГА́** *ж.* Шпаркі рух (пра жывых істот). *Мой конь хоць да вазо́ў і слабава́т, зато́е да бягі́ – страла́. На бягу́ спо́ран, а у твайго́ біга́ – ніякая.*

**БЕГАНІ́НА, БІГАНІ́НА** *ж.* Беганіна. *Цэ́лы дзень на нага́х: безупы́нку біганіна і біганіна. Ня то́лькі тэй рабо́ты, ко́лькі беганіны.*

**БЕ́ГІ** *мн.* Сістэматызаваны рух чаго-н. ○ НЯБЕ́СНЫЯ БЕ́ГІ. Парадак руху нябесных цел, планет, камет і інш. *Ён у на́с чалаве́к вучо́ны, як астрано́м, пазна́ў усе́ нябе́сныя бе́гі. Пагавары́ ты з ім... Хто знаіць нябе́сныя бе́гі.*

**БЕ́ДКА** *ж.* Выязная двухколавая павозка.

**БЕ́ДНАСЬЦЬ** *ж.*

**БЕ́ДНІЦЦА** *незак.* 1. Прыкідвацца бедным. 2. Прымаць пакорлівы, жаласны выгляд.

**БЕ́ДНЫ** *прым.* Бедны. *Ні та́к бе́дзін, як зьбе́дніўся.*

**БЕЗБА́ЦЬКАВІЧ** *м.* 1. Бязбацькавіч; сын, бацька якога невядомы. 2. Сірата; сын, у якога няма бацькі.

**БЕ́ЛІВА** *н.* 1. Выбельванне саматканага палатна. *Бе́ліва ні хапі́ла.* 2. Забельванне ежы малаком. *Ні зьліва́й усяго́ малака́ (у стаўбу́н): аста́ў часьць на бе́ліва (на забе́лку).*

**БЕ́ЛКА** *ж. рэдк.* Белапоўсцевая паліналая на зіму вавёрка.

**БЕЛЬ** *ж.*, **БЕ́ЛІ** *мн.* 1. Выбеленыя тканіны. *А на мо́ры бель бялі́ла, / На ле́сі сушы́ла, / На не́бі кача́ла, / Ў арэ́шах склада́ла* (са старасвецкай песні). 2. Вопратка з выбеленай тканіны. *Прыбра́лася як да шлю́бу: хто ў «чэ́рні», а йна – у бе́лі.*

**БЕ́ЛЬКА, БА́ЛЬКА** *ж.* Бервяно.

**БЕ́ЛЬЛЕ** *н. зб.* Бялізна; сподняе адзенне. *Адзіва́йся, ба́бка, / У бе́лае бе́льле, / По́йдзім з табо́й, ба́бка, / К сусе́ду ў вясе́льле* (з песні).

**БЕРАСЬЦЕ́НЬ** *м.* 1. Збан. *Гану́льля пабі́ла берасьце́нь.* Стральцы Гарадзенск. 2. Гліняны гаршчок, аплецены бяростай. Дзісеншчына.

<u>Да значэння 2</u>: Гліняная пасу́дзіна – стаўбу́н, або гляк – шчытна абвіты дзеля моцы лыкамі бяросты.

**БЕРАСЬЦЯ́НКА, БІРАСЬЦЯ́НКА** *ж.* Каробка з бярозавай кары.

**БЕРАСЬЦЯ́НЫ** *прым.* Той, які зроблены з бярозавай кары.

**БЕ́РКАВІЦ** *м.* Мера вагі, роўная дзесяці пудам. *Два бе́ркаўцы лёну намя́лі – 20 пуд.[оў] лёну. Дзе́сяць бе́ркаўцаў се́на – сто пудоў се́на.*

**БЁРДА** *н.* Прылада ў ткацкім станку для прыбівання ўточнай ніткі.

Набойная, для набіваньня у аснову нітак утоку, красённая, ткацкая, прылада.

**БІДА́** *ж.* Выязная двухколавая павозка.

**БІДА́** *ж.*, **БЕ́ДЫ** *мн.* 1. Бяда, няшчасце. 2. Дадатковыя клопаты. *Біда́ з малы́мі.* 3. Недахоп матэрыяльных сродкаў.

**БІДАВА́ЦЬ** *незак.*

**БІДА́К** *м. ласк.* 1. Бяздольны чалавек; той, які церпіць бяду або няшчасце. 2. Чалавек, які не мае дастатковых для жыцця матэрыяльных сродкаў. 3. Хворы чалавек. *Шкада́ бідака́.*

**БІЗУ́Н** *м.* 1. Плецены з раменных ці лазовых палосак біч. *Хо́дзіць, як кат, з бізуно́м.* 2. *перан.* Пра нешта, што па форме нагадвае арапнік або біч. *Разцягну́лася пе́рак сьце́жкі вужа́ка, як бізу́н.*

**БІРАСЬЦЯ́НКА** *ж.* Скрынка з бяросты.

**БІ́РКА** *ж.* 1. Месца на востраве Гатландыя, дзе ў мінулым вёўся гандаль паміж Полаччынай і готамі. 2. Умоўны знак гандляроў, які абазначаў, што тавар куплены на пагостах былой Полаччыны. 3. Драўляная палачка, расшчэпленая на дзве палавіны, з зарубкамі, якая выкарыстоўвалася для атрымання назад здадзеных гарбару на апрацоўку скур. 4. *устар.* Драўляная зашпілька.

**БІ́РКА** *ж.* Палачка, на якой надрэзамі вёўся ўлік чаго-н. *Адда́ў аўчы́нкі ў рабо́ту – атрыма́еш бі́рку.* Рымкі Паст.

Паквітаньне нечым людзей пры помачы розных палачак.

**БІРУ́БАЛКА** *ж.*, **БІРУ́БАЛКІ** *мн. устар.* Драўляныя ці скураныя зашпількі, якія выкарыстоўваліся замест гузіка.

**БІРУ́ЛЬКА** *ж.*, **БІРУ́ЛЬКІ** *мн. устар.* Тое ж.

**БІ́ТКА** *ж.* 1. У картачнай гульні – выйгрышны ход. 2. Яйка з пабітай шкарлупінай.

**БІТВА́** *ж.* 1. Бойка. 2. Пабоішча.

**БІТЛА́ГА** 1. *ж.* Біклага. 2. *агульн. перан.* Пра чалавека з вялікім пузам.

**БІТЛА́ЖКА** 1. *ж.* Біклага. 2. *агульн. перан.* Пра чалавека з вялікім пузам. *Карна́ты, кру́глы, пузга́н. Як бітла́жка.*

**БЛЕСК** *м.* 1. Лоск, знешняя блішчасць. 2. Яркае, асляпляльнае святло.

**БЛЕЎ** *н.* Крык авечак. *Аве́чкі разбія́ліся, бляю́ць. Чува́ць і́хны блеў.*

**БЛЕЯ́НЬНЕ**, **БЛІЯ́НЬНЕ** *н.* Тое ж.

**БЛІН** *м.*, **БЛІНЫ́** *мн.* 1. Блін. 2. *перан.* Шапка.

**БЛІНАВАСТАСЬЦЬ** *ж.* Форма чаго-н., што нагадвае блін.

**БЛІНАВАСТЫ** *прым.* Круглы, расплывісты, падобны па форме на блін.

Блінавастасць, -тае – круглае, асадзістае, расплывістае, як блін.

**БЛІНЕ́Ц** *м.*, **БЛІНЦЫ́** *мн.* Тонка спечаны блін. *Пада́й, ба́бка, сюды́ блінцы́ са сьміта́най.*

**БЛІСКАВІ́ЦА** *ж.* Маланка.

**БЛІСКУ́ЧКА** *ж.*, **БЛІСКУ́ЧКІ** *мн.* Бліскаўка, блішчынка.

**БЛІШЧА́ЦЬ** *незак.* Адсвечваць яркім святлом. *Блішчы́ць, палыску́іцца.*

**БЛІШЧЭ́ЦЬ** *незак.* 1. Адсвечваць роўным святлом. *Пярсцёнак блішчы́ць на па́льцы. Аго́нь блішчы́ць праз вакно́. Вада́ блішчы́ць на со́нцы.* 2. *перан.* Мітусіцца. *Саба́ка «блішчы́ць» ля сто́лу, каб хто кі́нуў яму́ ко́стку.*

**БЛУДА́** *агульн.* Пра чалавека, які блукае з месца на месца. *Слу́хай ты гэ́тага блуды́.*

**БЛУДА́** *ж.* 1. Дзіцячая гульня: дзеці робяць кола, а па цэнтры – ямку, у якую кожны з удзельнікаў гульні ўтыкае свой кій; па камандзе «блуда́!» дзеці дастаюць свае кіі, разбягаюцца за кола і зноў вяртаюцца да ямкі; той, хто першым утыкнуў свой кій, выйграе «заклад». 2. *выкл.* Выклік, што выкарыстоўваецца ў дзіцячай гульні «блуда»: пасля яго дзеці дастаюць свае кіі з ямак і пачынаюць разбягацца.

**БЛУТНЯ́** *ж.* Блытаніна.

**БЛЮ́ЗКА** *ж.* Блузка. *Ба́ба апрану́лася у но́вую нату́тку, а дзяўчы́на – у блю́зку.* Рымкі Паст.

**БЛЯ́ШКА** *ж.* 1. Невялікі выраб з бляхі. 2. Бляшаная таблічка з ініцыяламі на дзвярах ці чым-н. іншым. *Начапі́ў сабе́ бля́шку на ло́б.*

**БЛЯДЗЕ́ЦЬ** *незак.* Бляднець; рабіцца бледным.

**БЛЯДЫ́**, **БЛІДЫ́** *прым.* Бледны, бяскроўны. *Ах, яка́я ж ты бліда́я, ані крывінкі.*

**БЛЯХА́** *ж.* Ліст тонкага жалеза.

**БЛЯХА́Р**, **БЛІХА́Р** *м.* Майстар, які вырабляе рэчы з бляхі.

**БЛЯХА́РНЯ**, **БЛІХА́РНЯ** *ж.* Бляхарная майстэрня.

**БЛЯХА́РСКІ** *прым.* Бляхарны.

**БЛЯША́НКА**, **БЛІША́НКА** *ж.* Бляшаная пасудзіна.

**БЛЯША́НЫ** *прым.* Зроблены з бляхі. *Бляша́нае судзянцэ, пу́шка, ко́наўка і г. д.*

**БЛЯЯ́ЦЬ** *незак.* Бляяць (пра авечак). *Аве́чкі разбія́ліся, бляю́ць. Чуваць і́хны блеў.*

**БОБ** *м.* ◊ ЯК БО́БУ. Вельмі многа (пра дзяцей). *Дзяце́й як бо́бу.*

**БО́БРА**, **БАБЁР**, **БОБР** *м.* Бабёр. *Спла́каўся як бабёр.*

□ *Усе́ бабры́ дабры́.*

**БОЙ** *м.*

□ *Бой ні ўмало́т.*

**БОЙ** *прым.* ◊ БО́Й-БА́БА, БА́БА-БО́Й. Адважны, бойкі на язык (звычайна пра жанчыну).

**БО́ЙКА** *ж.* Бойка; прылада для збівання масла са смятаны.

**БО́ЙКА** *ж.* Пабоішча.

□ *Пусьці́ўшыся ў бо́йку – чуба́ ні жале́ць.*

**БОК** *м.* 1. Напрамак на мясцовасці. *У гэ́тый бок, у то́й бок, у тым баку́ – на по́ўнач.* 2. Прастора злева і справа. *На тым баку́ ракі́. На пра́вым баку́ Дзісенкі. На той бок пу́шчы.* 3. Мясцовасць, краіна. *Што ў ва́шым баку́ чува́ць, хваліці́ся.* 4. Правая ці левая частка тулава. *Ні кладзі́ся на ле́вым баку́ – сэ́рцу ніздаро́ва.*

*Каб табе́ ску́лы ў бок* (праклён). □ *Ці се́на клок ці ві́лы ў бок.*

**БО́ЛІ**, **БО́ЛІЙ**, **БО́ЛЕЙ**, **БАЛЕ́Й** *прысл.* Больш. *Мно́га – каб яшчэ́ бо́лі. Даў бы й яшчэ́, ды бо́лі ні ма́ю. Ох каб бо́лі. Бале́й за со́тню.*

**БОЛЬ** *м.*

**БО́ЛЬКА** *ж.* Болька, скулка; гнойны нарыў на скуры. *Твар у бо́льках. З ма́лінькай бо́лькі – вялі́зная ску́ла.*

**БО́НДА** *ж.* 1. Участак зямлі для асабістага карыстання адным з членаў сям'і. *Узара́ў дзірва́н пад лён сабе́ на бо́нду.*

**БО́НДА** *ж.* 1. Хатняе рамяство. 2. Даход з хатняга рамяства.

**БО́НДЗІЦЬ** *незак.* 1. Займацца хатнім рамяствам. 2. Зарабляць сабе, жывучы дома. *Як пача́лі хтоль сабе́ бо́ндзіць.*

**БОР** *м.* 1. Сасновы лес. 2. Сухая мясцовасць, пaрослая буйным сасновым лесам. *Су́ха як на бару́.* ◊ СЫР-БОР ЗАГАРЭ́ЎСЯ. Падняўся шум, перапалох, распачалася сварка.

□ *Прыйшо́ў з бо́ру ды го́ніць з дво́ру.*

**БОРТ** *м.*, **БО́РТЫ** *мн.* 1. Гняздо лясных пчол ў дупле дрэва. 2. Спецыяльна зроблены ставок на дрэве для пчол.

**БО́РТНІК** *м.* Пчаляр; той, хто займаецца бортніцтвам.

**БО́РТНІК** *м.* Асаблівая парода мядзведзя, які перамяшчаецца па дрэвах і выядае з пчаліных борцяў мёд.

**БО́РТНЯ** *ж.* Старая дуплаватая хвоя з гняздом дзікіх пчол.

**БОРЦЬ** *ж.*, **БО́РЦІ** *мн.* 1. Гняздо лясных пчол ў дупле дрэва. 2. Спецыяльна зроблены ставок на дрэве для пчол.

**БОРШЧ** *м.* Суп з квашанай гародніны.

**БОРШЧ** *м.* Снітка.

**БОТ** *м.*, **БО́ТЫ** *мн.* Бот.

**БО́ЎДЗІЛА** *агульн.* 1. Даследчык. 2. Недарэка.

**БО́ЎТКА** *ж.* Доўгі шост, якім заганяюць рыбу ў сетку.

**БО́ЎТКА** *м. пагардж.* Чалавек, які не сочыць за сваімі словамі і ўчынкамі. *Вядо́ма, бо́ўтка: у яго́ што прыйшло́, то́е й пайшло́.*

**БО́ХАН** *м.* Выпечаны хлеб круглай формы.

**БО́ЦІК** *м.*, **БО́ЦІКІ** *мн. памянш.-ласк.* Боты. *Вось дзе бо́цік дык бо́цік: на назе́ сядзі́ць як аблі́заны.*

**БО́ЦЬКАНЬНЕ** *н.* Бадзянне.

**БО́ЦЬКАЦЦА** *незак.* Бадзяцца, швэндацца (?). *Цэ́лы дзень адшвэ́ндаўся, бо́цькаўся па гразі́.*

**БРА́ВА** *выкл.* Воклiч, які азначае захапленне, пахвалу, адабрэнне. *Бра́ва-малайца́!*

**БРА́ВАСЬЦЬ** *ж.* Смеласць, адвага.

**БРА́ВЫ** *прым.* Смелы, адважны, бойкі. *Бра́вая дзяўчы́на.*

**БРА́ГА** *ж.* Адходы пры вытворчасці спірту, гарэлкі.

□ *Ня то́лькі тэй бра́гі, ко́лькі зьвя́гі.*

**БРАДЖЭ́НЬНЕ** *н.* Браджэнне.

**БРАДЗІ́ЦЬ** *незак.* Брадзіць, хадзіць. *Бро́дзіць, хо́дзіцца хлеб у дзяжы́.*

**БРАДО́К** *м.* Месца, прызначанае для вадапою.

**БРАЖДЖЭ́ЦЬ** *незак.* Бразгатаць.

**БРА́ЖНЫ** *прым.* ◊ ЯК БРА́ЖНАЯ КАРО́ВА *перан.* Пра тоўстага чалавека. *Разье́ўся, растаўсце́ў, як бра́жная каро́ва.*

**БРА́ЗГАТ** *м.* Бразгат.

**БРАЗГАТНЯ́** *ж.* Бразгат.

**БРАЗДЖО́ЛКА** *ж.*, **БРАЗДЖО́ЛКІ** *мн.* Шамкі, бомкі. *Учэплёный браздж о́лкамі (узаме́н званка́) ко́нскі нашы́йнік.*

**БРАЗДЖЭ́ЛЬ** *м.* Бружмель.

Куставое маларослае лясное дрэўца з лычанай карой, дробным лісьцьцем, чырвонымі «завушнічкамі» плоду і жоўтаватым, цьвёрдым, што косьць, дзеравам, ідучым на кіі, пугоўі, шавецкія цовачкі і дробныя (гузікавыя) такарныя вырабы (род сухадрэўкі).

**БРАЗДЖЭ́ЛЬНІК** *м. зб.* 1. Параснік бружмелю. 2. Кусты бружмелю.

**БРАЗЖЭЛІ́НА** *ж.* Куст бружмелю.

**БРАЗЬ** *выкл.* Нечакана стукнуць, грукнуць нечым металічным. *Бра́зь мі́су во́бземлю. Бра́зь касо́й па камяні́.*

**БРАК** *м.* Недабраякасны тавар; тавар з заганай.

**БРА́КАР** *м.* Бракёр; чалавек, які сарціруе, выбракоўвае драўніну, лес.

Прыёмшчык высечанага дзерава лесу на тралёўку.

**БРАКАЎНЫ́** *прым.* Недабраякасны, негатунковы.

**БРА́КЛЫ** *прым.* Набраклы, набухшы.

**БРА́КНУЦЬ** *незак.* Павялічвацца ў аб'ёме ад вільгаці, набухаць.

**БРАКО́ВАНЫ** *прым.* Недабраякасны, негатунковы.

**БРА́ТАВАНЬНЕ** *н.* Братанне; усталяванне блізкіх, сяброўскіх адносін.

**БРА́ТАВАЦЦА** *незак.* Братацца; усталёўваць блізкія, сяброўскія адносіны.

**БРА́ТАВАЯ** *ж.* Жонка брата.

**БРАТАВІХА** *ж.* Тое ж.

**БРАТДЗЕ́ЦІ** *мн.* Стрыечныя браты або сёстры.

**БРА́ТКА** *ж.* Ласкавы зварот да жанчыны, дзяўчыны. *Каб ты ве́дала, бра́тка, што я чу́ла.*

**БРА́ТКА** *м.* Ласкавы зварот да мужчыны.

**БРА́ТКІ** *мн.* Браткі (расліна?).

**БРА́ТНІ** *прым.* Братаў; які належыць брату. *Бра́тнії дзе́ці. Бра́тнії ко́ні. Гэ́та бра́тняя стра́ва.*

**БРАТО́К** *м.* Ласкавы зварот да мужчыны.

**БРАЦЕ́НІК** *м.*, **БРАЦЕ́НЬКІ** *мн. ласк.* Брат. *Мае́ браце́нькі. Асталя́ся пры браце́ньках.*

**БРА́ЦІТКА** *м. ласк.* 1. Брат. *Сістра́ бра́цітку ў го́сьці наджыда́ла.* 2. Ласкавы зварот да брата, асобы. *Бра́цітка ты мой мі́лы!*

**БРА́ЦТВА** *н.* Брацтва.

**БРАТО́ЎСТВА** *н.* Блізкія прыязныя адносіны паміж кім-н., заснаваныя на ўзаемнай прыхільнасці, агульнасці інтарэсаў і пад.; сяброўства. *Разьвёў сабе́ брато́ўства.*

**БРАХЛІ́ВАСЬЦЬ** *ж.* Ілжывасць, нястрыманасць, цынізм.

**БРАХЛІ́ВЫ** *прым.* Які любіць хлусіць, маніць; цынік. *А брахлі́вы як саба́ка.*

**БРАХЛО́** *н. пагардж.* Хлус, манюка. *Ня вер ты гэ́таму брахлу́, пустабро́ху.*

**БРАХНЯ́** *н. пагардж.* Хлусня, абгавор. *Распусьці́ў брахню́ па сьве́це.*

**БРАХУ́Н** *н. пагардж.* Хлус, манюка.

**БРО́ВА** *н.*, **БРО́ВЫ** *мн.* Брыво, бровы. *Чо́рныі бро́вы.*

**БРО́ВІНА**, **БРАВІНА́** *ж.* Брыво. *Разсе́к конь бро́віну капыто́м.*

**БРОД** *м.* Брод; неглыбокае месца на ўсю шырыню ракі, возера, па якім можна перайсці, пераехаць; пераход, пераезд. *Чым які́ пераво́з, ляпе́й у брод.*

**БРО́ДЗЕНЬ** *м.* Рыбалоўная снасць у выглядзе чарпака для лоўлі рыбы ўдваіх. Рымкі Паст.

**БРО́ДЗІНЬ** *ж.* Рыбалоўная сетка для лоўлі рыбы на мелкаводных месцах.

**БРО́ЎКА** *н.* Вейка.

**БРО́ЎЦА** *н.* Тое ж. *Сьвярбі́ць паве́чка ў бро́ўца.*

**БРО́ЎЦА** *н.*, **БРО́ЎЦЫ** *мн. ласк.* Броўца, броўцы.

**БРОХ**, **БРЭХ** *м.* Брэх. *Вы́йдзі глянь, на каго́ там саба́кі брэ́шуць. Во… Чу́іш брох? Саба́ка брэ́шыць, брох як на ваўка́.*

**БРУД** *м.* Гразь, смецце.

**БРУД** *м.* Нагнаенне ў ране. *Скулу́ прарэ́залі, і бруд вы́цек.* Рымкі Паст.

**БРУК** *м.* Брук; кладзеная каменем праезджая частка вуліцы, дарогі. *Брукава́ная даро́га. Брукава́ны панадво́рак. Па бруку́ дра́гка е́хаць?*

**БРУС** *м.*, **БРУСЫ́** *мн.* Ачышчаны ад галля з чатырох бакоў ствол тоўстага дрэва.

**БРУСО́К** *м.*, **БРУСКІ́** *мн.* 1. Брус. 2. Тачыльны камень прадаўгаватай формы, мянташка.

**БРУ́СЬСЕ** *н. зб.* Брусы.

**БРУ́ХА** *н.* 1. Жывот. 2. Цяжарнасць. *Хадзі́ў, хадзі́ў, паку́ль «бру́ха» ні прыстро́іў.*

**БРУХА́ТАЯ** *прым. пагардж.* Цяжарная. *Яна́ ж бруха́тая.*

**БРУХА́Ч** *м. пагардж.* Пра чалавека з вялікім жыватом.

**БРУХЕ́ЛЬ** *м. пагардж.* Тое ж. *Той табе́ ня то́й брухе́ль, як каро́ва.*

**БРУ́ШКА**, **БРУШКО́** *н. ласк.* Бруха.

**БРУ́ШКА**, **БРУШКО́** *н.* Падушачкі пальцаў на руцэ.

**БРУШНІ́ЦА** *ж.*, **БРУШНІ́ЦЫ** *мн.* 1. Брусніцы; кустовая ягадная расліна сямейства бруснічных. 2. Каліва брусніц разам з ягадамі.

**БРУШНІ́ЧНІК** *м. зб.* Бруснічнік.

**БРУШНІ́ЧНІНА** *ж.* Каліва брусніц.

**БРУШНІ́ЧЫНА** *ж.* Брусніца; ягада брусніц.

**БРУШНО́** *н. пагардж.* Бруха. *Вось брушно́ дык брушно́… Нажы́ў, нае́ў сабе́ брушно́.*

**БРУШТЫ́Н** *м.* Бурштын.

**БРУШЫ́НА** *ж.* Брушына.

**БРЫДА́** *ж.* Нечысць, хвароба (?). *Прычапі́лася не́йкая брыда.* Лаўрыкавічы Ваўк.

**БРЫДА́** *ж.* Брыдота.

**БРЫ́ДЖАНЬНЕ** *н.*

**БРЫ́ДКА** *прысл.* Агідна, непрыемна, непрыгожа.

**БРЫДЛІ́ВАСЬЦЬ** *ж.* Грэблівасць, гідлівасць.

**БРЫДО́ТА** *ж.* Брыдкае, агіднае, непрыгожае.

**БРЫЖ** *м.* Кант, рабро.

**БРЫ́ЗГА** *ж.*, **БРЫ́ЗГІ** *мн.*

**БРЫ́ЗГАЎКА** *ж.*

**БРЫ́ЗЛЫ** *прым.* Абрызглы, кіслы (пра малако).

**БРЫ́КА** *ж.* 1. Павозка, запрэжаная парай коней. 2. Калёсы для перавозкі сена і саломы.

**БРЫКЛІ́ВАСЬЦЬ** *ж.* Звычка, схільнасць брыкацца (пра свойскую жывёлу).

**БРЫКЛІ́ВЫ** *прым.* Брыклівы (пра свойскую жывёлу). *Брыклі́вая каро́ва. Брыклі́вы конь.*

**БРЫКУ́Н** *м.* Брыклівы конь.

**БРЫЛІВА́ЦЬ** *незак.* Прыцягваць увагу, вылучацца сваёй прыгажосцю.

Красава́цца, пахара́шавацца, слыць між першымі за найпершага.

**БРЫЛЬ** *м.* Палі капелюша.

**БРЫНДЗАЛЕ́ТКА** *ж.* Бранзалетка. *Бага́тыя лю́дзі но́сюць брынзале́тку.* Рымкі Паст.

**БРЫ́НДЗАЛІ** *мн.* Аблямоўка, кайма. *Ча́ста падо́л гарні́тара абшыва́ецца бры́ндзалямі.* Рымкі Паст.

**БРЫСЬЦІ́** *незак.* Павольна ісці.

**БРЫТА́Н** *м.* Празмерна вялікі сабака.

**БРЫТА́ЦЬ** *незак.* Брытаць; надзяваць аброць, пятлю вяроўкі на галаву, шыю жывёліны, браць на вяроўку.

**БРЫ́ЧКА** *ж.* Лёгкі выязны вазок.

**БРЭ́ДЗІЦЬ** *незак.* Ілгаць (?), выклікаць агіду (?). *Я на яе́ ніко́лі на́ват «брэ́дзіш» ні сказа́ла.*

**БРЭД** *м.* Цвіценне лісцевых дрэў. *Асі́на апрану́лася ў брэд.* Рымкі Паст.

**БРЭТ** *м.* Першыя кветкі раслін і дрэў, на якія вылятаюць пчолы для нарыхтоўкі вясенняга мёду. *Пчо́лы на брэт вылета́юць.*

Вясеньніе красаваньне лісьцьвянога лесу, сьвежараспушчаныя пладавыя пупы́шкі (пупу́шкі) дрэў, служ.[ачыя] першым [ай] медавой пажатвай для пчол.

**БУ́БЕН** *м.* Барабан. *Ро́та салда́т пашла́ з бу́бнам.* Рымкі Паст.

**БУБІНА́** *ж.* Боб (?).

**БУ́БКА** *ж. дзіц.* Боб, гарох.

*Бу́бка бу́бку прывела́* (жарт пра бедны ўраджай).

**БУГА́Й** *м.* 1. Заводны бык. 2. Пародзісты бык для заводу.

**БУ́ДА** *ж.* 1. Крыты палатном кузаў на калёсах, машыне і пад. 2. Будан.

**БУДАЎНІ́К** *м.* Будаўнік, спецыяліст па будоўлі.

**БУДАЎНІ́ЧЫ** *м.* Будаўнік.

**БУДЖЭ́НЬНЕ** *н.* Буджэнне. *Ад тако́га крыклі́вага буджэ́ньня мо́жаш спрасо́ньня перапужа́цца.*

**БУ́ДКА** *ж.* 1. Невялікая пабудова для начлежнікаў або начных канапасаў. *Начле́зьніцкая бу́дка.* 2. Збітае з дошак жыллё для сабакі. *Бу́дка саба́чая.*

Да 1 значэння: Прыземістая саламянная або з хворасту страха для начлезьнікаў, начных канапасаў.

Да 2 значэння: Крытае ад ветру і дажджу лаўжо для сабакі.

**БУДО́ЎЛЯ** *ж.* 1. Будаванне, будаўніцтва. *Пача́ў будава́цца, распача́ў будо́ўлю. Будо́ўля апу́шчана, стрэ́хі кладу́цца.* 2. *зб.* Будынкі.

**БУДЫ́НАК** *м.*, **БУДЫ́НКІ** *мн. зб.* 1. Абмежаваная колькасць будынкаў. БУДЫ́НАЧАК *ласк. Будына́чак як яе́чка.* 2. Вялікая колькасць будынкаў.

**БУДЫ́НІНА** *ж.* Асобны будынак.

**БУЗ** *м.* (?). Багна, гразь, іл (?). *Вя́знуць но́гі у бузу.*

**БУЗА́** *ж.* Іл у вадаёме. *Занясло́ бузо́й.*

**БУЗАВА́ЦЬ** *незак.*

**БУЗЯ́НЫ** *прым.* Гразкі, ілісты (пра дно ракі, возера або сажалкі). *Бузя́нае во́зіра. Бузяно́е дно.*

**БУЙ** *м.* Высокае, адкрытае з усіх бакоў для ветру месца.

**БУЙНЫ́** *прым.* 1. Буйны (пра дождж). *Буйны́ дождж.* 2. Урадлівы (пра зерне). *Буйно́е зярно́, буйны́і зе́рніты.* 3. Пародзісты, вялікі (пра свойскую і нясвойскую жывёлу). *Буйна́я скаці́ніна.*

**БУЛА́НЧЫК** *м. ласк.* Буланы; жаўтаваты, з белай грывай і белым хвастом (пра масць каней).

**БУЛА́НЫ** *прым.* Светла-чырвоны колер (пра масць коней). *Конь була́ны, а каро́ва палава́я, сьвятле́й, крыху ры́жыя.* Рымкі Паст., Дзісеншчына.

**БУЛЁН** *м.* Бульбяны суп, заскварены салам.

**БУ́ЛКА** *ж.* Булка, бохан хлеба.

**БУЛКАВА́СТАСЬЦЬ** *ж.* Бугрыстасць.

**БУЛКАВА́СТЫ** *прым.* Бугрысты. *Булкава́сты ўзго́рак.*

**БУ́ЛЬБА** *ж.* Бульба. БУ́ЛЬБАЧКА *ласк.*

**БУ́ЛЬБІНА** *ж.* Адзін клубень бульбы. БУ́ЛЬБІНКА *ласк.* ◊ НОС ЯК БУ́ЛЬБІНА.

**БУ́ЛЬБІНІНА** *ж.* Тое ж.

**БУЛЬБО́ЎНІК** *м. зб.* Націна бульбы. *Нажні́ сьвіня́м бульбо́ўніку на ахра́п'е.*

**БУЛЬБО́ЎНІНА** *ж.* Бульбяная быліна, націніна.

**БУЛЬБЯ́НІК** *м.*, **БУЛЬБЯ́НІКІ** *мн.* Дранік; аладка з дранай сырой бульбы.

**БУЛЬБЯ́НІШЧА** *н.* 1. Поле, на якім расла бульба. 2. Поле, на якім папярэдняй культурай была бульба.

Да 1 значэння: Участак грунту з-пад выбранай бульбы.
Да 2 значэння: Ніва, быўшая пад бульбай.

**БУЛЬБЯ́НКА** *ж.* Бульбяная каша.

Таўчоная з адваранай бульбы каша. Таўчонка.

**БУЛЮ́ТКА** *ж. ласк.* Бульба. *Мі́лая йда́ – пячо́ная булю́тка.*

Ласкальна-зваротная назова бульбы.

**БУНТАВА́НЬНЕ** *н.* Падбухторванне да парушэння ладу, парадку.

**БУНТАВА́ЦЬ** *незак.* Падбухторваць да парушэння ладу, парадку. *Што ты мне маю́ сямью́ бунту́іш, бунтаўшчы́к!*

Бунтаваць – муціць, унасіць безладзьдзе.

**БУНТАНІ́НА** *ж. зб.* Беспарадак, бязладдзе.

Хаос, безпарадак, поўнае безладзьдзе.

**БУНТАЎШЧЫ́К** *м.* Бунтар, удзельнік бунту. *Што ты мне маю́ сямью́ бунту́іш, бунтаўшчы́к!*

Бунтар, муціцель.

**БУРА́К** *м.*, **БУРАКІ́** *мн.* Бурак.

Гародная карняплодная расьліна.

**БУРА́ЧАШЧА** *н.* Бурачышча; поле, дзе раслі буракі.

Гародны грунт з-пад буракоў.

**БУ́РБАЛКА** *ж.*, **БУ́РБАЛКІ** *мн.* Пузыры на вадзе. *Віда́ць, надо́ўга дождж сабра́ўся: на вадзе́ бу́рбалкі ўска́каваюць.*

**БУ́РБАЛКІ** *мн.* Бурбалкі (ад дажджу). *На вадзе́ ад раптоў́нага дажджу́ з'яўля́юцца бу́рбалкі.* Рымкі Паст.

**БУРБО́ЛЕНЬНЕ** *н.*

**БУРДА́** *ж.* Пра нешта брыдкае, амаральнае, бязладнае.

Нешта брыдкае, бязладнае, безпарадачнае, злосна-цёмнае, безмаральнае.

**БУРЖУА́** *м.* Надзвычай багаты чалавек.

**БУ́РКА** *ж.* Шырокая і доўгая адзежына з даматканага сукна з башлыком, якая надзяваецца паверх кажуха.

Апшырны, доўгаполы, з капішонам і паясьнічнымі перацяжкамі, для надзеваньня паверх кажуха суконны насоў.

**БУРЛАКАВА́ТЫ** *прым.* Непаваротлівы тоўсты чалавек з грубым выразам твару.

Чалавек здаровага непаваротлівага грубога складу з таўстым і грубым выглядам твару.

**БУРНО́С** *м. уст.* Дамскае паліто. Рымкі Паст.

**БУРСЯ́НІШЧА** *н.* Бурачышча; поле, дзе раслі буракі.

Гародны грунт з-пад буракоў.

**БУРЧА́К** *м.* Сорт шэрага буйнога гароху.

Шэры гарох буйнога заводу.

**БУРЧАНІ́НА** *ж. зб.* Глухія перарывістыя гукі ў жываце.

□ *Па касьця́х ламані́на, а ў жываце́ бурчані́на.*

**БУРЧЭ́ЦЬ** *незак.* Сярдзіта і незадаволена мармытаць.

**БУ́РЫ** *прым.* Буры; карычнева-рыжаваты колер (пра масць каровы).

**БУ́СІ** *мн.*

**БУ́СІЛ**, **БУ́СЕЛ** *м.* Бусел. *Бася́н, бася́н даўгано́сы, / Прапі́ў бо́ты, а сам бо́сы* (*падпеіва́юць дзе́ці бу́слу*).

**БУ́СЬКО** *м. ласк.* Бусел.

**БУ́ТЛЯ** *ж.* 1. Вялікая шкляная бутэлька, аплеценая лазой. 2. Мера гарэлкі; гарнец. *Бу́тля гарэ́лкі.*

Да 2 значэння: Бутля гарэлкі – гарніц гарэлкі.

**БУ́ФА** *ж.*, **БУ́ФЫ** *мн.*

**БУХ** *выкл.* Глухі адрывісты раптоўны гук пры ўдары, стрэле і пад.

~~Глухі гук, знінацку~~. Кароткі, таўсты, адрывісты, глухі, насільны гук.

**БУ́ХАЦЬ** *незак.* Стукаць; страляць. *За вёрст со́рак чува́ць, як на фро́нце бу́хаюць гарма́ты.*

**БУ́ХНУЦЦА** *зак.* Грузна з шумам упасці; грымнуцца. *Па шы́ю бу́хнуўся ў ваду́.*

**БУ́ХНУЦЬ** *зак.* 1. Утварыць глухі, адрывісты гук. *Бу́хнула вада́.* 2. Грузна з шумам упасці; грымнуцца. *Мех збо́жжа бу́хнуў у ару́д.*

**БУ́ХНУЦЬ** *незак.* Пухнуць.

**БУХО́НАСЬЦЬ** *ж.* Пышнае цвіценне дрэў.

**БУХО́НЫ** *прым.* Які пышна цвіце. ○ БУХО́НАЕ ДРЭ́ВА. Дрэва з густым лісцем.

**БУЧ** *м.*, **БУЧЫ́** *мн.* Рыбалоўная снасць, сплеценая звычайна з лазовых дубцоў у выглядзе вузкага круглага каша з лейкападобным уваходам; верша; нерат.

Рыбалоўная прылада, пляцёная з лазы, з устаўным горлам.

**БУЯ́Н** *м.* Пра няўступчывага, буяністага чалавека.

**БЫ́ДЛА** *н. зб.* Свойская жывёла, скаціна.

**БЫДЛЕ́ЦЬ** *незак.*

**БЫДЛІНА́** *ж.* Адна свойская жывёліна.

**БЫДЛЯ́** *ж.* Тое ж.

**БЫ́ЗАЎКА** *ж.* Паразітная муха.

Паразітная муха, кладучая свае яйкі-гніды, прымацоўваючы іх да паўсці ~~(гаспадарчай жывёлы (конь)~~) каней, выдаючы гукі «бызззз».

**БЫК** *м.* Самец каровы; бугай. БЫЧО́К *ласк.*

**БЫК** *м.*, **БЫКІ́** *мн.* 1. Прамежкавыя апоры маста. 2. Высокія казлы для трымання бэлек пры пілаванні.

**БЫЛІНА́** *ж.* Сцябло расліны.

**БЫЛЬЛЁ** *н. зб.* Быллё, сцябліны (?). *Зьелі ко́ні се́на, то́лькі адно́ быльлё ад се́на застало́ся.*

**БЫЛЬНІ́ЦА** *ж.* Байка; выдумка.

**БЫРЭ́ЦЬ** *незак.* Упарціцца. *Ужо́ бырэ́ць пачына́іць.*

**БЫ́СЬКА** *м. ласк.* Самец каровы; бугай.

**БЫТ** *н.* Быццё.

**БЫ́ТТО** *злучн. або часц.* (?) Быццам. Лаўрыкавічы Ваўк.

**БЫЦЦЁ** *н.*

**БЫЧАНО́К** *м.* 1. Невялікі бык. 2. Бычок.

**БЫЧАЧЫ́НА** *м.* Самец каровы; бугай.

**БЫЧЫ́НА** *м.* Тое ж.

**БЭЗ** *м.* Бэз.

**БЭ́ЛЬКА** *ж.* 1. Падоўжная маціца, на якую кладзецца столь у будынку. 2. Бэлька, бервяно.

**БЯГУ́Н** *м.* 1. Жвавае дзіця. 2. Дзіця, якое пачынае само хадзіць. *Ён у нас ужо бягу́н.* 3. Скоры, шпаркі на ходу конь.

**БЯГУНКІ** *мн.* 1. Маладыя пабегі дрэў. 2. Маладыя елкі з апрацаванымі, закручанымі ў вітку карчамі, якія выкарыстоўваліся для замацавання плытоў.

**БЯГУНО́К** *м.* 1. Жвавае дзіця. 2. Дзіця, якое пачынае само хадзіць. *Ён у нас ужо́ бягуно́к.* 3. Скоры, шпаркі на ходу конь.

**БЯГУНЫ** *мн.* 1. Маладыя пабегі дрэў. 2. Маладыя елкі з апрацаванымі, закручанымі ў вітку карчамі, якія выкарыстоўваліся для замацавання плытоў.

**БЯДЗІ́ЦЬ** *незак.* 1. Прымаць блізка да сэрца, клапаціцца. 2. *іран.* Не зважаць, не звяртаць увагі. *Ах, як яму́ гэ́та бядзі́ць. Ах, як я па ім бяджу́.*

**БЯЛЕ́НЬНЕ** *н.* 1. Пабелка (?). 2. Выбельванне бялізны. 3. Забельванне ежы малаком. 4. Здыманне шкуры з забітай жывёлы.

**БЯЛІ́ЗНА** *ж. зб.* 1. Споднее адзенне. 2. Пасцельная бялізна.

**БЯЛО́К** *м.* 1. Празрыстая частка яйка. 2. Бялок вока.

**БЯЛЬЛЁ**, **БЕ́ЛЬЛЯ** *н. зб.* Пасцельная бялізна.

**БЯЛЬМО́** *н.* Белаватая празрыстая пляма на рагавой абалонцы вока. ◊ ЯК БЯЛЬМО́ Ў ВО́КУ. Пра вялікую перашкоду, што пастаянна раздражняе сваёй прысутнасцю (наяўнасцю). *Хто каму́, а ён яму́ як бяльмо́ на во́ку.*

**БЯЛЬМО́** *н.*, **БЕ́ЛЬМЫ** *мн.* 1. Бялок вока. 2. *пеган.* Пры шырока расплюшчаныя, здзіўленыя вочы. *Пакасу́рыўся, вы́пучыўшы свае́ бе́льмы.*

**БЯЛЮ́Г** *м.* Белая гліністая глеба. *Бялю́г лі́чыцца бе́днай гле́бай.* Рымкі Паст.

**БЯРАСЬЦЯ́НЫ**, **БІРАСЬЦЯ́НЫ** *прым.* Зроблены з бяросты.

**БЯРВЕ́НЬНЯ** *н. зб.* Бярвёны. *Цэ́лая ку́ча бярве́ньня.*

**БЯРНО́** *н.* Бервяно. *Адно́ бярно́, два бярны́, дзе́сяць бёран або́ бёрнаў.*

**БЯРНУШКО́** *н. памянш.* Невялікае тонкае бервяно.

**БЯРО́ЗА** *ж.* 1. Бяроза; лісцевае дрэва сямейства бярозавых з белай карой. БЯРО́ЗКА, БЯРО́ЗАЧКА *памянш.-ласк.* 2. Назва ракі. *Ра́ка́ Бяро́за.*

**БЯРО́СТА** *ж.* Верхні слой бярозавай кары.

**БЯРЭ́ЗІНА** *ж.* Драўніна з бярозы; матэрыял.

**БЯРЭ́ЗЬНІК**, **БІРАЗЬНЯ́К** *м. зб.* 1. Бярозавы лес, хмызняк. 2. Параснік з маладых бярозак.

**БЯРЭ́СЬЦІНА** *ж.* Кавалак бяросты.

~~Адцінак (кусок) бярозавай (кары) скуры, бяросты.~~ Адцінак (кусок) бяросты.

**БЯСЕ́ДА** *ж.* Збор гасцей з пачастункам. *Як багаце́й жыло́ся, дык і бясе́ды спраўля́лі.*

**БЯСЕ́ДАВАЦЬ** *незак.* Праводзіць час за застоллем.

## В

**ВАВЁРКА** *ж.*

**ВАДАВАРО́Т** *м.* Вір. *На аму́т усплы́ў (усплы́ў на вадаваро́т), чуць на дно ні пацягну́ла.*

**ВАЗО́Н** *м.* Гаршчок для вырошчвання дэкаратыўных пакаёвых раслін. *У вазо́нах расту́ць кве́ткі.* Рымкі Паст.

**ВАЗЯНЯ́ЦЦА** *незак.* Катацца. *Вазяня́юцца на панара́дзе, санях, канька́х.* Рымкі Паст.

**ВАЙЛАКІ́** *мн.* Валёнкі. Рымкі Паст.

**ВАЛАНТУ́ЗІЦЦА** *незак.*Важдацца. *Напры́крала ма́ці валанту́зіцца з дуро́нымі дзяцьмі́.* Рымкі Паст.

**ВАЛАСЯНІ́ЦА** *ж.* Захворванне жывёлы, пераважна авечак і коз, выкліканае лічынкамі стужачных глістоў. *На сыры́х вы́ганах аве́чкі хварэ́юць заўжды́ на валася́ніцу.* Рымкі Паст.

**ВАЛАЦУ́ГА** *агульн.* Валацуга; чалавек, які цягаецца абы-дзе, ухіляючыся працы. Лаўрыкавічы Ваўк.

**ВАЛЕНЦЫ** *мн.* Валёнкі. Рымкі Паст.

**ВАЛЬЛЁ** *н.* Валлё (у птушак); пашыраная частка стрававода ў птушак для накаплення ежы. *Куры́ца нае́ла вальлё.* Рымкі Паст.

**ВАНТРО́БЫ** *мн.* Вантробы; унутраныя органы. Рымкі Паст.

**ВАНЦЯ́КА** *ж.* Вымова, заўвага. *Войт ад старо́сты атрыма́ў за неакура́тнасьць ванця́ку.* Рымкі Паст.

**ВАНЦЯ́ЦЬ** *незак.* Даваць заўвагі, рабіць вымовы. *Нача́льства лю́біць ванця́ць.* Рымкі Паст.

**ВАРАЦА́НЬНЕ** *н.* Ваніты, рвота. *Пья́ны хварэ́е на варацаа́ньне.* Рымкі Паст.

**ВА́РТЫ** *прым.* Варты; які заслугоўвае чаго-н. або мае каштоўнасць. *Найле́пша сва́рка ніц не варт.* Стральцы Гарадзенск.

**ВАШТА́Й** *м.* Фурман. *Язэ́п стаў на по́шце ваштаём.* Рымкі Паст.

**ВЕ́ІЛКА** *ж.* Веялка; сельскагаспадарчая машына для ачысткі зерня пасля малацьбы ад мякіны і смецця.

**ВІ́ЛЬЧЫК** *м.* Верхні стык страхі; канёк. *Чым ваша́й ві́льчык, тым страмчэ́й страха́.* Рымкі Паст.

**ВІ́НКІЛЬ** *м.* Інструмент сталяра; лінейка ў выглядзе прамавугольнага трохвугольніка для праверкі прамых вуглоў. *Бяз ві́нкіля рам у во́кны ня звя́жыш.* Рымкі Паст.

**ВІХТ** *м.* Догляд свойскай жывёлы. *Як дась гаспады́ня каро́ве ві́хту, дык яна́ дась і бо́лей малака́.* Рымкі Паст.

**ВІХТ** *м.* Дрэсіроўка. *Паляўні́чы́я сабакі ча́ста атры́млі́ваюць віхт.* Рымкі Паст.

**ВІХТАВА́ЦЬ** *незак.* Дрэсіраваць. *Саба́каў-сышчакаў віхту́юць.* Рымкі Паст.

**ВІЦІ́НІК** *м.* Бурлак. *Па Нёмні віці́нік сплаўля́е ў Прусь лес.* Стральцы Гарадзенск.

**ВО́БМАЦКАМ** *прысл.* Вобмацкам. *Сьля́пы́ пазнае́ рэ́чы во́бмацкам.* Рымкі Паст.

**ВО́ТРУБІ** *мн.* Вотруб'е. *Во́трубі атры́млі́ваюць пры пятлёўцы.* Рымкі Паст.

**ВОТРЫНЫ** *мн.* Атрускі; рэшткі чаго-н.

**ВОРВАЛЬ** *м.* Рыбін тлушч. *Ворвальлю мажуць скуры.* Рымкі Паст.

**ВУЗЯНЯЧКА** *ж.* Каток, коўзанка. *На рацэ можна зрабіць вузянячку.* Рымкі Паст.

**ВУНДЗЕКА** *часц.* Вунь; ужываецца для ўдакладнення месцазнаходжання каго-, чаго-н. *Вундзека… гарыць вёска!* Стральцы Гарадзенск.

**ВУХО** *н.*, **ВУШЫ** *мн.* Абух (на сякеры).

**ВУШАК** *м.* Абух (на сякеры).

**ВЫБУХНУЦЬ** *зак.* З'явіцца адразу ў вялікай колькасці. *З-пад страхі выбухнуў агонь* (*на пажары*).

**ВЫВАЛКАВАНЫ** *дзеепрым.* Выкаваны.

**ВЫЖЛА** *ж.* Гончая паляўнічая сука. *Выжла добра ганяе зайцаў, затое кепска вартуе дом.* Рымкі Паст.

**ВЫЗВАЛКА** *ж.* Нявыгаднасць (пра ацэнку здзельнай працы, якая не адпавядае кошту тавараў). Рымкі Паст.

**ВЫЛІВАК** *м.* Хвароба яйцавода ў птушак. *Выліўкамі хварэюць балей носкія птушкі.* Рымкі Паст.

**ВЫЛІЎКІ** *мн.* Галалёдзіца. *Па выліўкам на някутым каню не паедзеш шыбка.* Рымкі Паст.

**ВЫПАЛАВАЦЬ** *незак.* Ачышчаць ад пустазелля гародніну.

**ВЫПАРАЦЬ** *зак.* Знайсці.

**ВЫПАРКА** *ж.* Апрацоўка парай або кіпнем.

**ВЫПРАЗАВАЦЬ** *зак.* Падперазацца.

**ВЫПРАТАЦЬ** *зак.* Набіць.

**ВЫПРУДЗІЦЬ** *зак.* Прадэзынфікаваць бялізну пры дапамозе высокай тэмпературы (пары або вады).

**ВЫПУСТАВАЦЬ** *зак.* Выпусташыць.

**ВЫРАКАЦЦА** *незак.*

**ВЫТРАЛІВАЦЬ** *зак.* Вывезці бярвенне на адкрытае чыстае месца. *Дрэва вытраліваў: вывез на трэль.* Рымкі Паст.

**ВЫТРАСКІ** *мн.* Атрускі; рэшткі чаго-н.

**ВЫТРУЧАВАЦЬ** *незак.* Атручваць.

**ВЫЦЯПАЦЬ** *зак.* Абараніць свае інтарэсы.

## Г

**ГАБЛЯВАЦЬ** *незак.* Габлявацъ; зразаць тонкі слой з паверхні драўніны пры апрацоўцы яе гэблем, рубанкам. *Габэлькам габлююць (чысьцюць) дошкі.* Рымкі Паст.

**ГАБЭЛЕК** *м.* Малы рубанак. *Габэлькам габлююць* (*чысьцюць*) *дошкі.* Рымкі Паст.

**ГАВАРУН** *м.* Той, хто празмерна шмат гаворыць.

**ГАДЗІНА** *ж.* ◊ ШЭРАЯ ГАДЗІНА. Змрок вечарам пасля заходу сонца. *На шэрую гадзіну лямпу запаліваюць.* Рымкі Паст.

**ГАЛАВЕШКА** *ж.* Абгарэлая і абсмыленая рэшта (бервяна).

**ГАЛАЎНЯ** *ж.* Тое ж.

**ГАЛДАКА** *ж.* Галоп. *Вайсковы конь бярэ з мейсцу галдакой.* Рымкі Паст.

**ГАЛЕНЬ** *м.* Дзяркач. *Гальнём вымялі падлогу.* Рымкі Паст.

**ГАЛЕЧА** *ж.* Збяднелы, згалелы. *Учора ён быў заможна, а сяньня – галеча.* Рымкі Паст.

**ГАМАШ** *м.* Від абутку.

**ГАНАВІЦЫ** *мн.* Штаны. *Янцук, злажы ганавіцы.* Стральцы Гарадзенск.

**ГАРА** *ж.* Гарышча. *На гарэ многа павуціны.* Стральцы Гарадзенск.

**ГАРЛЯНКА** *ж.* Запаленне горла (хвароба жывёл). *Пры гарлянцы жывотныя кашлююць.* Рымкі Паст.

**ГАРНІТАР** *м.* Касцюм. *Гарнітар пашылі з новага сукна.* Рымкі Паст.

**ГАСЬЦІНЕЦ** *м.* Гасцінец, тракт. *Ад Вільні да Горадна ідзе велькі гасьцінец.* Стральцы Гарадзенск.

**ГЛЕДЗЮЧЫ** *дзеепрым.* ◊ (расці) НА ЛЕС ГЛЕДЗЮЧЫ. Вельмі хутка (расці; пра дзяцей). *Расьцець байбас на лес гледзючы.*

**ГЛУХІ** *прым.* ○ ГЛУХАЯ ТРАВА. Пустазелле.

**ГЛЯК** *м.* Гліняны гаршчок.

**ГНАТЫ** *іран.* або *пагардж.* Ногі. *Я табе гнаты паперабіваю.* Лаўрыкавічы Ваўк.

**ГНІДЫ** *мн.* Яечкі вошай. *З гніды вырастае вошь.* Рымкі Паст.

**ГРАНЕНЬНЕ** *н.* Кушчэнне. Рымкі Паст.

**ГРУНТ** *м.* Глеба. *Які грунт – гэтакі і ўраджай.* Рымкі Паст.

**ГРЫЗЬ** *ж.* Грыжа.

**ГУГНАВІЦЬ** *незак.* Гугнявіць; гаварыць у нос. Рымкі Паст.

**ГУГНАВЫ** *прым.* Гугнавы. *Гугнавы чалавек гавора балей носам.* Рымкі Паст.

**ГУЛЬТАІЦЬ** *незак.* Гультаяваць, унікаць працы.

**ГУЛЬТАЙ** *м.* Гультай. *Гультай, ~~філют~~ цілянцей, аціляка.*

**ГУМАЛЯСТ** *м.* Рызіна. Рымкі Паст.

**ГУМАЛЯСТОВЫ** *прым.* Рызінавы. *Калошы гумалястовыя.* Рымкі Паст.

**ГЭБАЛЬ** *м.* Рубанак.

**ГЭРЦ** *м.* Палавая цяга. *У жэрбца няма гэрцу.* Рымкі Паст.

## Д

**ДАБРАХВОЧАСЬЦЬ** *ж.* Добраахвотнасць.

**ДАБРАХВОЧЫ** *прым.* Добраахвотны.

**ДАГЛЯД** *м.* Догляд (раслін). *Дагляд расьлін. Ад добрага дагляду расьлін трэ спадзевацца і добрага ураджаю.* Рымкі Паст.

**ДАЁНКА** *ж.* Вядро, у якое дояць карову. *Даёнку трэ часта мыць, каб малако не псавалася.* Рымкі Паст.

**ДАСЬЦІПНЫ** *прым.* Цікаўны, дапытлівы. *Гэты хлопец натто дасьціпны.* Стральцы Гарадзенск.

**ДЗЕЦЮК** *м.* Дзяцюк; дарослы хлопец, яшчэ нежанаты малады чалавек. *Дзецюкі з дзеўкамі гуляюць па бярэзьніку.* Стральцы Гарадзенск.

**ДЗЯДКІ** *мн.* ○ ДЗЯДКІ-ПУХАВАТКІ. Дзьмухаўцы.

**ДЗЯЖА** *ж.* Пасудзіна, у якой рашчыняюць хлеб. *У дзяжы рашчынен хлеб.* Рымкі Паст.

**ДРА́НІК** *м.* Дранік; аладка з дранай бульбы.

**ДРАГБА́** *ж.* Дрыгва.

**ДРАГБІ́СТЫ** *прым.* Грузкі, дрыгвісты. *Драгбі́стае бало́та.*

**ДРАТАВА́ЦЬ** *незак.* Таптаць. Рымкі Паст.

**ДРАЧЛІ́ВЫ** *прым.* Прыручаны. *Кот драчлі́вы ла́шчыцца і не баі́цца людзе́й.* Рымкі Паст.

**ДРУ́ЖКІ** *мн.* Сяброўкі нявесты на вяселлі.

**ДРУЗА́** *ж.* Топкае месца. *Уле́з у друзу́, чуць но́гі вы́цягнуў.* Рымкі Паст.

**ДРУЗАВА́ТЫ** *прым.* Грузны. *Наш поп друзава́ты і ва́жыць 6 пуд.* Рымкі Паст.

**ДРЫ́ГАЦЦА** *незак.* Трэсціся. *Па ке́пскай даро́зе прыхо́дзіцца дры́гацца.* Рымкі Паст.

**ДРЫ́ГАЦЬ** *незак.* Падаваць прыкметы жыцця. *Цялёнак то́лькі што заре́заны. Яшчэ́ дры́гаець.* Рымкі Паст.

**ДРЫГВА́** *ж.* Дрыгва.

**ДРЫСТУ́Н** *м.* Панос. *На дрысту́н хварэ́юць і лю́дзі, і бы́дла.* Рымкі Паст.

**ДУРО́НІК** *м.* Дуронік, свавольнік. Рымкі Паст.

**ДУРЭ́НЬНЕ** *н.* Свавольства. Рымкі Паст.

**ДУРЭ́ЦЬ** *незак.* Дурэць, сваволіць. Рымкі Паст.

## Ж

**ЖА́БА** *ж.* Запаленне калявушной залозы (хвароба свіней). Рымкі Паст.

**ЖАРАБЯ́ТНІК** *м.* Парода буйных ваўкоў.

**ЖАРСТВА** *ж.* Жарства; буйны калючы пясок, дробныя каменьчыкі, якія ўтвараюцца ад разбурэння каменя. *Жарства з'яўля́ецца ад перагарэ́ўшага камя́ня́.* Рымкі Паст.

**ЖАРСТВЕ́НІК** *м.* Жарсцвянік; камень, які лёгка рассыпаецца на жарству. *Жарстве́нікам выбрукавана ву́ліца.* Рымкі Паст.

**ЖВІР** *м.* Жвір; буйназярністы жоўты пясок. *Даро́га папра́ўлена жві́рам.* Рымкі Паст.

**ЖЛУКТ** *м.* Мыццё бялізны. *Ба́бы заняслі́ся жлу́ктам, бо бялі́зна абкарэ́ла.* Рымкі Паст.

## З

**ЗАБАЛДАВЯ́СТЫ** *прым.* 1. Які мае тоўсты камлюкаваты канец (пра кульбаку). *Забалдавя́сты кій.* 2. *перан.* Тоўсты, мясісты. *Забалдавя́сты нос.*

**ЗАБАЛО́ЦЬЦЕ** *н.*

**ЗАБЕ́ЛКА** *ж.* Забельванне ежы малаком.

**ЗАБУБО́НЫ** *мн.* Забабоны, прымхі. *На весцы і́стну́е шмат забубо́наў, як напр.: «У панядзе́лак не́льга се́яць» і г. д.* Рымкі Паст.

**ЗАВУШАВАЦЬ** *зак.* Асадзіць сякеру (?).

**ЗА́ГАДЗЬДЗЯ** *прысл.* Загадзя, зараней. *Падрыхтава́цца да палявы́х рабо́т трэ за́гадзьдзя.* Рымкі Паст.

**ЗАГІГУЛА** *агульн.* Няпекны чалавек. *Ці ён на што крыху падо́бны? – Ат, не́ка загігула.* Лаўрыкавічы Ваўк.

**ЗАІ́КА** *агульн.* Той, хто заікаецца. *Заі́ка на ко́жным сло́ву затры́мліваецца.* Рымкі Паст.

**ЗАІМКА** *ж.* Участак зямлі, які знаходзіцца далёка ад асноўнага. *На заімку рэ́дка в855во́зяць гной.* Рымкі Паст.

**ЗАКІ́СШЫ** *дзеепрым.* Закіслы, скіслы.

**ЗА́ЛЗЫ** *мн.* Інфекцыйная хвароба ў коней, якая суправаджаецца запаленнем слізістай абалонкі насаглоткі і падсківічных залоз. Рымкі Паст.

**ЗАЛО́ЎКА** *ж.* Сястра мужа. *Зало́ўку вы́далі за́муж, і я адна́ асталася́ гаспады́ньяй у ха́це.* Рымкі Паст.

**ЗАМО́РАК** *м.* 1. Кволае зерне. 2. Кволае яечка. *З замо́рку не чака́й кары́сьці.* Рымкі Паст.

**ЗАПАНАВА́ЦЬ** *зак.* Акружыць з усіх бакоў, напасці.

**ЗАПА́РКА** *ж.* Апрацоўка парай або кіпнем.

**ЗАПА́РЫЦЬ** *зак.* Апрацаваць парай або кіпнем.

**ЗАПРА́ТАЦЬ** *зак.* Набіць.

**ЗАПУ́ДЖАНЫ** *прым.* Перапалоханы, застрашаны.

**ЗА́РА** *прысл.* Хутка. *– Ці ты за́ра йдзеш? – За́ра.* Лаўрыкавічы Ваўк.

**ЗАРАКА́ЦЦА** *незак.* Заракацца.

□ *Зарака́лася сьвіньня́ г… е́сьці.*

**ЗАРЖАВЕ́ЦЬ** *зак.* Пакрыцца ржой. *Замо́к у скры́ні заржаве́ў.*

**ЗАРО́К** *м.* Зарок. *Даў заро́к ня пі́ць гарэ́лкі.*

**ЗАТРУ́ЧАВАЦЬ** *незак.* Атручваць.

**ЗАТРЫМА́НЬНЕ** *н.* 1. Затрымка мачы. 2. Затрымка стулу. *Пры затрыма́ньні жыво́т бы нага́мі аб жыво́т.* Рымкі Паст.

**ЗАЎСЁГДЫ** *прысл.* Заўсёды. *Заўсёды пра́ўда вы́йдзе наве́рх.* Стральцы Гарадзенск.

**ЗАЎШНІЦА** *ж.* Запаленне калявушной залозы (хвароба свіней). *Свіньня́ захварэ́ла на заўшніцу.* Рымкі Паст.

**ЗАЎШНІ́ЦЫ** *мн.* Завушніцы. *Жанчаны но́сюць заўшні́цы.* Рымкі Паст.

**ЗАФЯРА́НКІ** *мн.* Фіранкі, занавескі (на вокнах). Рымкі Паст.

**ЗБАДЗЯ́ЦЬ** *зак.* 1. Зняважыць. *Ні та́к зла́іў, як збадзя́ў.* 2. Знасіць, парваць. *Збадзя́ла ху́стку, зрабі́ла на ану́чыну.*

**ЗБАНІТАВА́ЦЬ** *зак.* Зняважыць, аблаяць. *Зла́іў, збадзя́ў, збузава́ў, збанітава́ў, збэ́сьціў.*

**ЗБАРО́ЦЬ** *зак.* Перамагчы, адолець.

**ЗБЛЯДЗЕ́ЦЬ** *зак.* Пабляднець раптоўна, знянацку. *Перапужа́ўся. Аж збля́дзе́ў ад стра́ху.*

**ЗБО́НДЗІЦЬ** *зак.* Зарабіць з хатняга рамяства. *Збо́ндзіў грош сабе́ на бо́ты.*

**ЗБУЗАВА́ЦЬ** *зак. перан.* Зняважыць, аблаяць. *Зла́іў, зла́іў, збадзя́ў, збузава́ў – про́ста з гра́зьзю зьміта́ў.*

**ЗБУНТАВА́ЦЦА** *зак.* Разгубіцца.

**ЗБЫРЭ́ЦЬ** *зак.* Застацца пры сваіх звычках; заўпарціцца. *Ніяк яго́ ні пераро́біць – збырэ́ў.*

**ЗВАДЗІ́ЦЬ** *незак.* Маніць. *Як? Гэ́та ты хіба зво́дзіш.* Стральцы Гарадзенск. *Нато́е ён і звод, каб звадзі́ць лёгкаве́рных людзе́й.* Рымкі Паст.

**ЗВАДУ́Н** *м.* Ілгун, інтрыган. *Паўлюке́віч ве́лькі звäду́н.* Стральцы Гарадзенск., Дзісеншчына.

**ЗВОД** *м.* Ілгун. *Нато́е ён і звод, каб звадзі́ць лёгкаве́рных людзе́й.* Рымкі Паст.

**ЗДРАТАВА́ЦЬ** *зак.* Стаптаць. *Сёлята жы́та ўшчэнт здратава́лі.* Рымкі Паст.

**ЗІ́РКАСЬЦЬ** *ж.* Дальназоркасць. Рымкі Паст.

**ЗІРКА́ТЫ** *прым.* Дальназоркі. *Зірка́ты пад но́сам ніч́ога не ба́чыць.* Рымкі Паст.

**ЗКІ́СШЫ** *прым.* Укіслы.

**ЗКРУЦІ́ЦЬ** *прым.* ◊ ЗКРУЦІ́ЦЬ У БАРА́ННІ РОГ. Строгасцю, уціскам прымусіць пакарыцца, падпарадкавацца. *Зкруці́ў, звярце́ў у бара́ньні рог.*

**ЗКРЭ́ПНУЦЬ** *зак.* Змерзнуць. *Ад сьцю́жы ру́кі акрэ́плі* (*зкрэ́плі*).

**ЗЛЫСЕ́ЦЬ** *зак.* Аблысець.

**ЗМАГЧЫ́** *зак.* Перамагчы, адолець. *Чуць змаглі́, чуць асі́лілі.*

**ЗНАРО́КАМ** *прысл.* Знарок.

**ЗОЛЬ** *ж.* Халоднае мокрае надвор’е. *Ся́ньня на дворы́ така́я золь, што хоць з ха́ты ня выхадзі́.* Рымкі Паст.

**ЗПАНЕ́ЦЬ** *зак.* Зафанабэрыцца. *Зпане́ць.*

**ЗПО́ХШЫ** *дзеепрым.* Апухлы. *Зпо́хшае.*

**ЗПРА́ТАЦЬ** *зак.* Набіць.

**ЗПРЫ́КРЫЦЬ** *зак.* Апрыкраць.

**ЗПУ́ДЖАНЫ** *прым.* Перапалоханы, застрашаны.

**ЗПУСТАВА́ЦЬ** *зак.* Спустошыць.

**ЗРАКА́ЦЦА** *незак.*

**ЗРЭ́НКА** *н.* Зрэнка. Рымкі Паст.

**ЗСАЧЫ́ЦЬ** *зак.* Высачыць, знайсці.

**ЗТРУЦІ́ЦЬ** *зак.* Атруціць.

**ЗУБАШЧЭ́Р** *м.* Вышчарка.

**ЗЦІХАМІ́РАЦЦА** *зак.* Уціхамірыцца, суняцца. *Надво́р’е* (*паго́да*) *аціхамі́ралася*: *ве́цер аці́х, зціхамі́раўся.*

**ЗЧАРНІ́ЦЬ** *зак.* Узвесці паклёп, зняславіць (чалавека).

**ЗЧАРСТВЕ́ЛАСЬЦЬ** *ж.* Ачарсцвеласць.

**ЗЫ́РКА**, **ЗЫ́РКО** *прысл.* Горача. *Дро́вы ў пе́чы гара́ць зырко. На дворы зырко, аж пот ліе́цца.* Рымкі Паст.

**ЗЬБЕ́ДНІЦЦА** *зак.* 1. Прыкінуцца бедным. *Ні та́к бе́дзін, як зьбе́дніўся.* 2. Прыняць спакарнелы жаласны выгляд. *Зко́рчыўся, зьбе́дніўся, распла́каўся.*

**ЗЬВЯГА́ННЕ** *н. перан.* Назойлівае приставанне, надакучванне (?). Лаўрыкавічы Ваўк.

**ЗЬВЯГА́Ч** *м. перан.* Звяга; чалавек, які назойліва прыстае, надакучвае (?). Лаўрыкавічы Ваўк.

**ЗЬВЯ́ГІ** *мн.* Сківіцы. *У каро́вы ёсць две зьвя́гі.* Стральцы Гарадзенск.

**ЗЬВЯ́КАЦЬ** *незак.* Назойліва прыставаць, надакучваць. *От прычапі́ўся*: *зьвя́кае ды зьвя́кае.* Лаўрыкавічы Ваўк.

**ЗЬЦЯ́ЖАВАНЬНЕ** *н.*

**ЗЬЦЯ́ЖАВАЦЬ** *незак.*

**ЗЬЦЯ́ЖЫЦЬ** *зак.* Абкласці падаткамі.

**ЗЭ́ДЛІК** *м.* Лаўка ў пакоі. *Зэ́длік стаі́ць каля стала́.* Рымкі Паст.

## І

**І́КАЎКА** *ж.* Адрыжка. *Калі́ балі́ць жыво́т, то быва́е ча́ста і́каўка.* Рымкі Паст.

## Й

**ЙМША́РА** *ж.* Мохавае балота.

**ЙРЖАВІНЫ** *мн.* Іржа; прымесь вокісаў жалеза ў балотнай вадзе, якая надае ёй буры колер і спецыфічны прысмак.

**ЙРЖАВІ́ШЧА** *н.* Балота, пакрытае жалезна-рудой іржой.

## К

**КАДУ́К** *м.* Добры чорт (няпакаслівы). *Каду́к – нячы́стая моц, але́ ле́пшы ад чарта́.* Рымкі Паст.

**КАЛО́ДА** *ж.* ○ КАЛАЎРО́ТНАЯ КАЛО́ДА. Прыстасаванне, на якое прымацоўваецца вяроўка для таго, каб нацягнуць апорную лінію праз раку для парома або каб цягнуць рыбалоўны невад па лёдзе ці каб узнімаць на млын мяшкі са збожжам.

**КА́МЕНЬ**, **КА́МЯНЬ** *м.* ○ ЗЯЛЕ́НЫ КА́МЕНЬ. Медны купарвас. ○ СІ́НІ КА́МЯНЬ. Жалезны купарвас. Рымкі Паст.

**КАМІЗЭ́ЛЬКА** *ж.* Камізэлька. *Камізэ́лька така́я, як і уве́сь гарні́тар.* Рымкі Паст.

**КАМЫ́** *мн.* Бульбяная каша; пюрэ. *З бу́льбы таўку́ць камы́, куды́ улíва́юць малако́, я́йкі, ма́сла ці клу́стасьць.* Рымкі Паст.

**КАМЫЗЭ́ЛЬКА** *ж.* Камізэлька. Лаўрыкавічы Ваўк.

**КАМЭДЫЯ́НТ** *м.* Камедыянт, штукар. *Камэдыя́нт заўжэ́ жарту́ець.* Рымкі Паст.

**КАНЮ́Х** *м.* Парода буйных ваўкоў.

**КАПТА́Н** *м.* Паліто для падлеткаў. *Да 18 гадо́ў но́сюць капта́ны.* Рымкі Паст.

**КАПТУ́Р** *м.* Каптур; чапец, галаўны ўбор жанчыны. *Старая ба́ба апрану́лася ў старасьве́цкі капту́р.* Рымкі Паст.

**КАПТУ́Р** *м.* Верхняя частка рускай печы. *Ко́шка лю́біць ляжа́ць на каптуры́.* Рымкі Паст.

**КАРБО́НКА** *ж.* Чума. Стральцы Гарадзенск. *Каб цібе́ ўзяла́ карбо́нка* (праклён).

**КАРБУ́НЯЦ** *м.* Сібірская язва. *Ме́йсцамі сібі́рскую я́зву старыя лю́дзі называ́юць «азія́ткай» і «карбу́нцам».* Рымкі Паст.

**КАРШУ́Н** *м.* Каршун. *Каршуны́ хапа́юць пяскля́т.* Рымкі Паст.

**КАРЭ́ЛЫ** *прым.* Карэлы, брудны. *Бялі́зна ўжэ карэ́лая.* Рымкі Паст.

**КАСА́** *ж.* Падстраўнікавая залоза. *Каля хрыбта́ ляжы́ць каса́.* Рымкі Паст.

**КАСМЫЛІ́** *мн.* 1. Скудлачаныя валасы. *Касмылі ця́жка часа́ць.* 2. Шматок зблытанай поўсці. Рымкі Паст.

**КАТУ́Х** *м.* Засек у хляве, дзе хаваецца на зіму бульба. *У кату́х ссыпа́юць бу́льбу.* Рымкі Паст.

**КАЎДО́БІНА** *ж.* Калдобіна; выбоіна на дарозе. *На даро́зе ча́ста сустрэка́юцца каўдо́біны.* Рымкі Паст.

**КАЦІ́ЦЦА** *незак.* Нараджаць ягнят або кацянят. *Не́шта на́шыя аве́чачкі ня ко́цюцца.*

**КАЧАРГА́** *ж.* Вілкі для вымання і ўстаўлення гаршка ў печ. *Качарго́й устаўля́юць кацёл у печ.* Рымкі Паст.

**КАЧЭ́НЬНЕ** *н.* Роды авечкі. Рымкі Паст.

**КА́ША** *ж.* ○ АНЕ́ЛЬСКАЯ КА́ША. Амлет (?).

**КВА́РТА** *ж.* Мера вадкіх рэчываў, роўная прыблізна літру. *Каро́ва дае́ 2 ква́рты малака́. Ква́рта гарэ́лкі кашту́е 4 зл. 60 гр.* Рымкі Паст.

**КВА́ШАНІНА** *ж.* Квашаніна; халадзец, студзень. *Да гарэ́лкі до́бра заку́ска – ква́шаніна.* Стральцы Гарадзенск. *З ро́жак, ко́жак і галавы́ жыво́тных ро́бюць ква́шаніну.* Рымкі Паст.

**КЕЛ** *м.* Ікол. *У жарабцо́ў і казло́ў* (*самцо́ў – парсюко́ў*), *быва́е, бальшы́я ке́лы.* Рымкі Паст.

**КІЛА́** *ж.* Грыжа.

**КЛЕВАЦЬ** *незак.* Ледзьве жыць. *Ці ж яго́ зусі́м забі́лі? Не, яшчэ́ клевая.* Лаўрыкавічы Ваўк.

**КЛЁПКА** *ж.* ◊ НЯМА́ КЛЁПКІ. Пра дурнаватага чалавека. ◊ БЕЗ АДНЭ́Й КЛЁПКІ. Тое ж. *Гэ́ны чалаве́к без аднэ́й клёпкі.* Рымкі Паст.

**КО́НАЎКА** *ж.* 1. Пасудзіна з бярозавай кары. 2. Бляшаная пасудзіна.

**КРАВА́ЎКА** *ж.* Крывавы панос. *Пры крава́ўцы лячэ́ньне кары́сна то́лькі у пача́тку хваро́бы.* Рымкі Паст.

**КРАПІ́ЎНІК** *м.* Пазашлюбнае дзіця; сын, бацька якога невядомы.

**КРАСА́** *ж.* Цвіценне злакавых раслін. Рымкі Паст.

**КРАСАВА́ЦЬ** *незак.* Цвісці (пра злакавыя расліны). *Жы́та красу́ець у канцы́ вясны́ альбо́ пача́тку ле́та.* Рымкі Паст.

**КРАСНАБА́Й** *м.* Пустаслоў.

**КРАСЫ́** *мн.* Цечка ў ваўчыц. *Красы́ пачына́юцца з Міко́лы* (*6/XII па 20/XII*). Рымкі Паст.

**КРАХШАВІ́НЬНЕ** *н.* Жабурынне. *З крахшаві́ньня выхо́дзюць галава́сьцікі, а патым́ мале́нькія жа́бкі.* Рымкі Паст.

**КРАША́К** *м.* Суглінак. *Краша́к ляпе́й абрабля́ць за глі́ну.* Рымкі Паст.

**КРАЮ́ХА** *ж.* Акраец; кавалак хлеба, булкі.

**КРО́ХЛЫ** *мн.* Кроквы. Рымкі Паст.

**КРУЦЕ́ЛЬ** *м.* Ашуканец.

**КРЭ́ПНУЦЬ** *незак.* Мерзнуць, качанець.

**КУ́БЕЛ** *м.* Дзежка, у якой захоўваюцца прадукты на зіму. *Ку́бел стаі́ць з капу́стай.* Рымкі Паст.

**КУЗЛА** *м.* Знахарскі сродак (?). Рымкі Паст.

**КУЗЛА** *м.* Чалавек, які пастаянна ўсім перашкаджае. Рымкі Паст.

Слова «Кузла» ўжываецца у сэнсе чалавека, пастаянна усяму мешаюшчаму, пярэчашчаму.

**КУЛЁК** *м.* Пінжак. *Кулёк з камізэ́лькай і штана́мі састаўля́юць гарні́тар.* Рымкі Паст.

**КУМЕЛЬГА́НА** *прысл.* Кулём. *Ён так і палеце́ў кумельга́на.* Стральцы Гарадзенск.

**КУПА́** *ж.* Торф. *Купа́, перапрэ́ўшая до́бра, ма́ла ро́зніцуе ад чарназёму.* Рымкі Паст.

**КУРА́КУЛЬКА** *ж.* Аўчына са скуры ягняці-сасунка.

**КУ́РТКА** *ж.* Пінжак. Лаўрыкавічы Ваўк.

**КУ́ТНІК** *м.* Бядняк; чалавек без уласнай хаты і гаспадаркі.

## Л

**ЛАГЧАВІ́НА** *ж.* Нізіна. *На лагчаві́не рэ́дка дзе ўба́чыш ральлю́.* Рымкі Паст.

**ЛАДО́НЬ** *ж.* Далонь. *Чалаве́к ма́е дзьве ладо́ні.* Рымкі Паст.

**ЛАЗА́ТЫ** *прым.* Балотны.

**ЛА́ЗЬНЯ** *ж.* Лазня.

**ЛА́ПАЦЬ** *м.* Від абутку.

**ЛА́СЫ** *прым.* Які любіць смачнае, ласункі. *Ла́сы чалаве́к лю́біць то́лькі смашно́е.* Рымкі Паст.

**ЛАСЬНЕ** *часц. пытальн.* Няўжо, хіба. *Ласьне ты ня быў на кірмашы́?* Лаўрыкавічы Ваўк.

**ЛАХМА́Н** *м.* Ануча. Лаўрыкавічы Ваўк.

**ЛІ́ШКА** *ж.* Няцотны лік. Рымкі Паст.

**ЛОСК** *м.* Лоск, знешняя бліскучасць.

**ЛУНЕ́ЦЬ** *незак.* Страчваць жвавасць і бадзёрасць духу.

**ЛУНЬ** *м.* Чалавек, які страціў жвавасць і бадзёрасць духу. *З бядо́й чалаве́к як лунь.*

**ЛЮ́ШКА** *ж.* Юшка, пячная засаўка. *Лю́шка зачы́нена без пары́ – бу́дзе чад* (*уга́р*). Рымкі Паст.

**ЛЯГЧО́НЫ** *дзеепрым.* Лягчаны, кастрыраваны. *Жарабца́ ле́гчуць, бо лягчо́ны, ці ад лягчэ́ньня, ён не зваро́чваець ува́гі на кабы́л.* Рымкі Паст.

**ЛЯГЧЫ́ЦЬ** *незак.* Лягчаць, кастрыраваць. *Жарабца́ ле́гчуць, бо лягчо́ны, ці ад лягчэ́ньня, ён не зваро́чваець ува́гі на кабы́л.* Рымкі Паст.

**ЛЯГЧЭ́НЬНЕ** *н.* Лягчанне, кастрацыя. *Жарабца́ ле́гчуць, бо лягчо́ны, ці ад лягчэ́ньня, ён не зваро́чваець ува́гі на кабы́л.* Рымкі Паст.

**ЛЯ́ДЫ** *мн.* Кавалак пустой зямлі, пакінуты пад пасеў або сенажаць. *Кава́лак зямлі́ аста́ўлян пад ля́ды.* Рымкі Паст.

**ЛЯ́ЛЬКА** *ж.* Зрэнка вока. *Ля́льку папсуеш – во́ка ня ві́дзіць.* Рымкі Паст.

**ЛЯ́ЛЬКА** *ж.* Цацка. *Дзе́ці гуля́юць з ля́лькамі.* Рымкі Паст.

## М

**МАГАРЫ́Ч** *м.* Узнагарода за працу, пачастунак; ганарар. *Памажы́ купі́ць каня́ – атрыма́еш ад мяне́ магары́ч.* Рымкі Паст.

**МАКУЛІ́НКА** *ж.* ◊ (няма) АНІ МАКУЛІ́НКІ. Абсалютна (няма). *Жы́та у ару́дах няма́ ані макулі́нкі.* Рымкі Паст.

**МАЛАВЕ́НЯ**, **МАЛОВЕНЯ** *прысл.* Трошкі; невялікая колькасць чаго-н. – *Ці ж я у цябе́ мно́га прашу́? Дай хоць маловеня што?* Лаўрыкавічы Ваўк.

**МАЛАНЬНЯ́** *ж.* Маланка.

**МАЛІЦ** *м. перан.* Баравік.

**МАЛО́ЧНІЦА** *ж.* Малочніца; гарачка ў толькі што народжаных свойскіх жывёл. *Пры мало́чніцы у свіне́й быва́е тра́сца.* Рымкі Паст.

**МАЛЯВІ́ДЛА** *н.* Фарба. *Памалява́ць падло́гу не хапі́ла малявідла.* Рымкі Паст.

**МАНЮ́КА** *м.* Ілгун.

**МАРМАТА́ЦЬ** *незак.* Мармытаць.

**МАРО́ЧЫЦЬ** *незак.* Хітраваць, казаць няпраўду. *Хі́трыя лю́дзі ча́ста маро́чуць прастако́ў.* Рымкі Паст.

**МАСЬЛЯ́НКА** *ж.* Маслёнка. *Ад ма́сла астае́цца масьля́нка.* Рымкі Паст.

**МАТЫЛІХА** *ж.* Захворванне жывёлы, пераважна авечак і коз, выкліканае лічынкамі стужачных глістоў. Рымкі Паст.

**МАХЛЯВА́ЦЬ** *незак.* Ашукваць. *Махля́р заўжды́ махлю́е.* Рымкі Паст.

**МАХЛЯ́Р** *м.* Ашуканец. *Махля́р заўжды́ махлю́е.* Рымкі Паст.

**МА́ЦІЦЫ** *мн.* Бэлькі, на якія кладзецца столь. *У ха́ці столь пало́жана на чатыро́х ма́ціцах.* Рымкі Паст.

**МАШЫНЭ́РЫЯ** *ж.* Механізм. *У часа́х машынэ́рыя ве́льмі сло́жная.* Рымкі Паст.

**МЕ́ШАНЬ** *ж.* Другое ўзворванне глебы. Рымкі Паст.

**МІТУСІ́ЦЦА** *незак.* Дваіцца ў вачах. *Ча́ста у хво́рага чалаве́ка мітусі́цца ў вача́х.* Рымкі Паст.

**МО́СЯНДЗЬ** *ж.* Бронза. *Рэ́чы з мо́сяндзу пе́кныя і мо́цныя.* Рымкі Паст.

**МУЛЯК** *м.* Мазоль. Лаўрыкавічы Ваўк.

**МЫ́ШКІ** *мн.* Колікі; рэзкі, востры боль, рэзь у жываце або ў баку (хвароба жывёл). *У каня́ зьяві́ліся мы́шкі.* Рымкі Паст.

**МЫТ** *м.* Інфекцыйная хвароба ў коней, якая суправаджаецца запаленнем слізістай абалонкі насаглоткі і падсківічных залоз. *На мыт хварэ́юць бале́й усяго́ маладыя́ ко́ні.* Рымкі Паст.

**М'Я** *ж.* Шыя. Лаўрыкавічы Ваўк.

**МЯНТРЭ́ГА** *ж.* Трывога, неспакой; перашкоды. Рымкі Паст.

**МЯРГАВА́ЦЦА** *незак.* Меркавацца, раіцца. *До́брыя лю́дзі ко́жны раз і ў ко́жным вы́падку мяргу́юцца паміж сабо́й.* Рымкі Паст.

**МЯЦЕ́ЛІЦА** *ж.* Мяцеліца. *Мяце́ліца мяце́ сьнег у гурбу.* Рымкі Паст.

## Н

**НАБРА́КНУЦЬ** *зак.* Набракнуць, набухнуць; павялічыцца ў аб'ёме ад вільгаці, набухнуць. *Гаро́х вадо́й набра́к, пабуйне́ў.*

**НАБРА́КШЫ** *дзеепрым.* Набраклы, набухлы.

**НАВАЛЬНІ́ЦА** *ж.* Нашэсце, нападзенне. *Бада́й, была́ зро́бляна навальні́ца на па́на.* Рымкі Паст.

**НАВО́КАЛА** *прысл.* Паўсюль, навокал.

**НАВЫ́ПЯРАДКІ** *прысл.* Навыперадкі. *Хло́пцы пашлі́ навы́пярадкі.* Рымкі Паст.

**НАДО́ІЧЫ**, **НАДО́ВІЧЫ** *прысл.* Зусім нядаўна; днямі.

**НАДУ́ЦЬКА** *м.* Фанабэрысты чалавек. *З наду́цькамі «піва не сварыш».* Рымкі Паст.

**НАЕ́ДЗЕ** *н.* Аскома. *Ад я́блыкаў набі́ў нае́дзе.* Рымкі Паст.

**НАЙНІЦА** *ж.* Спод, левы бок. Рымкі Паст.

**НАЙНІЦУ** *прысл.* Навыварат. *Старыя вапра́ткі ча́ста перашыва́юцца найніцу.* Рымкі Паст.

**НАПА́РСТАК** *м.* Напарстак. *Напа́рстак надзева́юць, калі́ шыюць іго́лкай.* Рымкі Паст.

**НАПАДАРО́ЖЖЕ** *прысл.* Напагатове. Лаўрыкавічы Ваўк.

**НАПАРО́ЦЬ** *зак.* Знайсці.

**НАПЫ́ТАВАЦЬ** *незак.* Шукаць што-н. праз распытванне.

**НАРАКА́ЦЬ** *незак.*

**НАРО́Г** *м.* Нарог; частка сахі (плуга), якая падразае зямлю знізу. *Саха́ мае́ два наро́гі.* Рымкі Паст., Стральцы Гарадзенск.

**НАРО́СТ** *м.* Нераст; адкладанне самкамі рыб ікры і апладненне яе самцамі. *Ры́ба лю́біць рабі́ць наро́ст на мялі́.* Рымкі Паст.

**НАРУГА́ЙЛА** *м.* Перасмешнік, вышчарка.

**НАСА́ЦІНА** *ж.* Сап; заразная хвароба коней. *Конь захварэ́ў на наса́ціну.* Рымкі Паст.

**НАСЬМЕ́ШНІК** *м.* Перасмешнік, вышчарка.

**НА́ТТО** *прысл.* Вельмі, надзвычай. *На не́бі на́тто шмат зо́ркаў.* Стральцы Гарадзенск.

**НАТУТКА** *ж.* Блузка. *Ба́ба апрану́лася у но́вую натутку, а дзяў́чы́на – у блю́зку.* Рымкі Паст.

**НАЎЛЯ́К** *м.* Навалачка.

**НАЧО́ЎКА** *ж.* Пасудзіна для мыцця бялізны. Рымкі Паст.

**НАЧЭ́НЬНЕ** *н. зб.* Начынне; набор інструментаў. Лаўрыкавічы Ваўк.

**НЕ́КАЛІ** *прысл.* Некалі; калісьці, даўно. *Не́калі на́ша Белару́сь была́ пад Лі́твою.* Стральцы Гарадзенск.

**НЕ́ХАТ** *м.* Няцотны лік. Рымкі Паст.

**НІБЫЛІ́ЦА** *ж.* Байка; выдумка.

**НІБЫЛЬНІ́ЦА** *ж.* Тое ж.

**НІГДА́** *прысл.* Ніколі. *Нігды́ ён міне́ не слу́хае.* Стральцы Гарадзенск.

**НІГДА́-ПРАНІГДЫ́** *прысл.* Ніколі-ніколі. *Нігды́-пранігды́ на вербе не вы́расьце гру́ша.* Стральцы Гарадзенск.

**НІЎСТУПА́КА** *агульн.*

**НОЖ** *м.* Нарог плуга. *Нож тр* [трэба] *ча́ста іс-тры́ць.* Рымкі Паст.

**НО́ШКА** *ж.* Груз, які можна перанесці за плячыма. Лаўрыкавічы Ваўк.

**НЮ́НЯ** *агульн*. Плакса. *Ню́ня ад глу́пства пла́ча*. Рымкі Паст.

**НЯЎЖО́** *часц*. Ужываецца ў пытальных сказах у значэнні: хіба, ці магчыма, выказваючы акрамя пытання сумненне, недавер, здзіўленне. *А няўжо́ ж мы ні дачакаі́м чаго́ ле́пшага*.

## О

**О́ЗЬДЗЕКА** *часц*. Вось тут; ужываецца для ўдакладнення месцазнаходжання каго-, чаго-н. *О́зьдзека не́калі былі́ но́ры*. Стральцы Гарадзенск.

**О-ЛЯ** *выкл*. Ой; выражае здзіўленне, спалох (?). *О-ля, мае́ лю́дцэ, ляці́ць ерапла́н*. Стральцы Гарадзенск.

**О́ПСАС** *прысл*. Настойліва. *Змея́ так і ле́зе о́псас, кап уку́сіць чалаве́ка*. Стральцы Гарадзенск.

## П

**ПАБАВЕШКА** *ж*. Ваенная палка.

**ПАБАДЗЯНЫ** *дзеепрым*. ◊ ЗА ПАБАДЗЯНУЮ ПАЛКУ. Зняважаны.

**ПАВАЛАЧЫ́** *зак*. Абцягнуць сукном футра на кажуху.

**ПАГРАНІ́ЦЦА** *зак*. Закусціцца. *Жы́та пад снег паграні́лася*. Рымкі Паст.

**ПАГУ́РАК** *м*. Пагорак, узгорак, высокае месца, горка. *На пагу́рку ніко́лі не затры́мліваецца вада́*. Рымкі Паст.

**ПАДВЕ́Й** *м*. Эпілепсія. *Падве́ям хварэ́юць і лю́дзі, і скаці́на*. Рымкі Паст.

**ПАДГА́Р'Е** *н*. Ніжняя частка шыі ад галавы да пярэдніх ног (пра кароў). *У завадскі́х каро́ў ча́ста ві́сіць падга́р'е*. Рымкі Паст.

**ПАДДУБАЛЬТАВА́ЦЬ** *зак*. Абцягнуць сукном футра на кажуху.

**ПАДЖЫ́ЦЬЦЕ** *н*. Жытняе поле.

**ПАДНЯБЕ́ННЕ** *н*. Верх унутранай часткі печы. *Паднябе́нне ро́біцца з агнявупо́рнае цэ́глы*. Рымкі Паст.

**ПАДПІРА́ЗКА** *ж*. Тое, чым можна падперазацца.

**ПАДФУТРО́ЎКА** *ж*. Абцягванне футра сукном на кажуху.

**ПА́КАСЬЦЬ** *ж*. Шкода. *Чаго́ ты да мяне́ прычапі́ўся? Ці ж я табе́ зробі́ў яку́ю па́касьць?* Лаўрыкавічы Ваўк.

**ПА́КЛЯ** *ж*. Пакулле. Рымкі Паст.

**ПАКЛЯВА́ЦЬ** *незак*. Паклявацъ; абтыкаць дзіркі пакуллем. *Ха́ту паклю́юць па́кляй*. Рымкі Паст.

**ПАЛАВЫ́** *прым*. Светла-чырвоны (пра масць каровы). *Каро́ва палава́я, а конь була́ны, сьвятле́й крыху, ры́жыя*. Рымкі Паст.

**ПАЛО́ЦЬ** *незак*. Ачышчаць ад пустазелля гародніну. *Пара́ гаро́ды пало́ць, гаро́днінку спа́лаваць*.

**ПАЛЫСКАВА́ЦЦА** *незак*. Адсвечваць яркім святлом (?). *Блішчы́ць, палыску́іцца*.

**ПА́ЛЬКАНЬНЕ** *н*. Пошукі. *На прапа́ўшую у ле́се каро́ву вёска зрабі́ла па́льканьне*. Рымкі Паст.

**ПА́РА** *ж*. Пара.

**ПА́РЫЦЬ** *незак*. Апрацоўваць парай або кіпнем.

**ПА́ЦЯРКІ** *мн*. 1. Каралі. 2. Пацеркі. *Дзяўча́ты но́сюць каля шы́і па́цяркі*. Рымкі Паст.

**ПАМА́К** *м*. Абрубак бервяна, якое выкарыстоўваюць пры замочванні лёну. *Пама́камі паціска́юць лен у са́жалцы*. Рымкі Паст.

**ПАМЯНТРЭ́ЖЫЦЬ** *незак*. Патрывожыць, перашкодзіць, спужаць. *Хаце́ў украсьць у ле́се бэ́льку, але́ памянтрэ́жыў лясьні́к*. Рымкі Паст.

**ПАНАВА́ЦЬ** *незак*. Акружаць з усіх бакоў, нападаць.

**ПАНАРА́Д** *м*. Калёсы, драбіны. *У панара́дзе во́зюць се́на, е́дуць на кірма́ш, а у таранта́се то́лькі се́на*. Рымкі Паст.

**ПАНІ́КАІЦА** *ж*. Блізарукасць. *З пані́каіцай без акуля́раў дале́ка ня ўві́дзіш*. Рымкі Паст.

**ПАПРУ́ДЗІЦЬ** *зак*. Прадэзынфікаваць бялізну пры дапамозе высокай тэмпературы (пары або вады).

**ПАПЯРАДЗЕ́НЬ, ПАПЯРА́ДЗЕНЬ** *м*. Вяроўка, якой прыціскаюць спераду сена на возе. *Папяра́дзень му́сіць быць мо́цным*. Рымкі Паст.

**ПАРО́СНАЯ** *прым*. Паросная (пра свінню). *Сьвіня́ паро́сная, апарасі́лася, сямёра парася́т прывіла́*.

**ПАСІВЕ́ЛАСЬЦЬ** *ж*. Пасівенне.

**ПАСТАДА** *ж*. Шкілет, косці. *Але́ ж ты зблё́жаў*: *адна́ пастада*. Лаўрыкавічы Ваўк.

**ПАСТЫ́ЛЫ** *прым*. Апастылы; які вельмі надакучыў, апрыкраў.

□ *Усё мі́лае пайшло́ за пасты́лае*.

**ПАСЬКІПА́ЦЬ** *зак*. Пасячы. *Паськіпа́ў до́шку на аськялёпкі*.

**ПАТРАЧКА** *ж*. Круглая ручка на кіі.

**ПАТРУ́ХА, ПАТРУХА́** *ж*. Атрускі; рэшткі чаго-н.

**ПАТЭ́ЛІНА** *ж*. Патэльня. *На патэ́ліне пяку́ць бліны́*. Рымкі Паст.

**ПАЎПА́ЛЬЦІК** *м*. Кароткае жаночае паліто. *Паўпа́льцік – во́пратка жанчы́н*. Рымкі Паст.

**ПАШНЯ** *ж*. Закладанне насення. Рымкі Паст.

**ПЕРАБАРСА́ЦЬ** *зак*. 1. Прымацаваць аборы да лапцей. 2. Завязаць лапці на нагах пры дапамозе абор.

**ПЕРАМЫ́ЧКА** *ж*. Дыяфрагма; мышачная перагародка, якая аддзяляе грудную поласць ад брушной. *Перамы́чка аддзеля́е грудзь ад бру́ха*. Рымкі Паст.

**ПЕРАПЯЛЁСТЫ** *прым*. Які мае белую паласу на тулаве (пра жывёл). *Перапялёстая сьвіньня́ здалёку віда́ць*. Рымкі Паст.

**ПЕРЭ́СТЫ** *прым*. Пярэсты (пра масць жывёл). *У дваре́ ёсці ве́лькі перэ́сты бык*. Стральцы Гарадзенск.

**ПІЛЬСЬЦЬ** *ж*. Адходы на сукнавальнай вытворчасці. *Пры сукнова́льцы застае́цца шмат пі́льсьці, з яко́й выраблі́юць дрэ́ннае сукно́*. Рымкі Паст.

**ПІСКЛЯ́ТЫ** *мн*. Кураняты.

**ПЛІНТА** *агульн*. Валацуга; чалавек, які цягаецца без справы (?). *Чаго́ ты цёгаяшся, як плінта?* Лаўрыкавічы Ваўк.

**ПЛО́ЙМА** *ж*. Вялікая колькасць людзей. Лаўрыкавічы Ваўк.

**ПЛЯСЬНІ́ВЫ** *прым.* Шэры (пра масць кароў). *Каро́ва плясьні́вая, а конь сівы.* Рымкі Паст.

**ПОД** *м.* Под (печы); ніжняя паверхня ў печы. *Под папсава́ўся – катлы́ варо́чаюцца.* Рымкі Паст.

**ПО́ДБІЎКА** *ж.* Падкладка; матэрыял, прышыты да ўнутранага боку адзення. *По́дбіўку у карні́тары* (*костюме*) *палажы́лі но́вую.* Рымкі Паст.

**ПО́ЛЫСК** *м.* Лоск, знешняя бліскучасць.

**ПО́РЦЯ** *н.* Бялізна. *Трэ́ба злажы́ць чы́ста по́рця.* Стральцы Гарадзенск.

**ПО́ЎНАЧ** *ж.* Поўнач; сярэдзіна ночы. *Прасядзе́лі, засе́дзіліся аж да по́ўначы…*

**ПО́ЦАТ** *м.* Парода (пра свіней). *У мяне́ парася́ты ўсе аднаго́ по́цату.* Лаўрыкавічы Ваўк.

**ПО́ШАСЬЦЬ** *ж.* Тыф. *Гэ́ты чалаве́к хво́ры на по́шасьць.* Стральцы Гарадзенск.

**ПОЎСЬЦЬ** *ж.* Поўсць жывёл, што не выкарыстоўваецца чалавекам для вырабу адзення. *По́ўсьцыю жыво́тных чалаве́к не карыста́ецца.* Рымкі Паст.

**ПОЎХАБО́Й** *м.* Пра няўступчывага, буяністага чалавека.

**ПРАКУДА́** *ж.* Здарэнне. *Ве́даеш, яка́я зрабі́лася пракуда́? Ішо́ў я на кірма́ш і згубі́ў гро́шы.* Рымкі Паст.

**ПРА́НЦЫ** *мн.* Заразная венерычная хвароба. *На пра́нцы хварэ́юць бале́й за усяго́ прые́хаўшыя з го́раду.* Рымкі Паст.

**ПРАПО́ЙЦА** *м.* П’яніца.

**ПРАСЛА́ВІЦЦА** *зак.* Стаць вядомым.

**ПРАСТАРЭ́КА** *м.* Пустаслоў.

**ПРАЧХНУ́ЦЦА** *зак.* Прачнуцца, абудзіцца.

**ПРУ́ДЗІЦЬ** *незак.* Дэзынфікаваць бялізну пры дапамозе высокай тэмпературы (пары або вады).

**ПРУ́ДЖАНЬНЕ** *н.* Дэзынфекцыя бялізны пры дапамозе высокай тэмпературы (пары або вады).

**ПРЫБАЛАЦЬ** *ж.*

**ПРЫБІ́ЎКА** *ж.* Баранаванне перад пасевам. Рымкі Паст.

**ПРЫ́КДА** *агульн.* Гультай, нядбайнік.

**ПРЫКІ́СШЫ** *дзеепрым.* Закіслы, скіслы.

**ПРЫ́КРАСЬЦЬ** *ж.* Прыкрасць.

**ПРЫПА́РЫЦЬ** *зак.* Апрацаваць парай або кіпнем.

**ПРЫПІ́РАШЧА** *н.* Апора.

**ПРЫПО́ХШЫ** *прым.* Прыпухлы. *Прыпо́хшае.*

**ПРЫПО́МНІЦЦА** *зак.* Апрытомнець.

**ПРЫПЫ́НАК** *м.* Месца, дзе можна аказацца, куды можна трапіць.

**ПРЫПЫНУ́ЦЦА** *зак.* Аказацца дзе-н.

**ПРЫ́САК** *м.* Гарачы попел. *У я́мку* (*ме́йсца, куды́ выграба́юць гара́чы пры́сак*) *вы́граблі пры́сак з вуга́льлям.* Рымкі Паст.

**ПРЫМЯСЬЦЕ́РЫЦЦА** *зак.* Знайсці прыстанак, асесці.

**ПРЫЧАРСТВЕ́ЎШЫ** *дзеепрым.* Які стаў чэрствым.

**ПУЗГА́Н** *м.* Пра чалавека з вялікім пузам.

**ПУНІШЧА** *н.* Месца, дзе раней была пуня.

**ПУР** *м.* 1. Мера, роўная прыблізна тром пудам жыта. *Сёлета намалаці́ў 15 пур жы́та.* Рымкі Паст. 2. Старая мера (?). Дзісеншчына.

**ПУСТАБРО́Х** *н. пагардж.* Ілгун, хлус, манюка.

**ПУ́ШКА** *ж.* 1. Пасудзіна з бярозавай кары. 2. Бляшаная пасудзіна.

**ПЬРЫКЕДАЦЬ** *незак.* Гультаяваць. *Чаго́ ты пьрыкедаеш? Ішо́ў бы што-ко́леч рабі́ць.* Лаўрыкавічы Ваўк.

**ПЯКО́ЛАК** *м.* Выступ на печы, куды лазяць грэцца. *З пе́чы на пяко́лак злез дзядо́к паглядзе́ць.* Рымкі Паст.

**ПЯРЭ́КЛЯЦЬ** *ж.* Ганак перад свіранам (клеццю). *У пярэ́кляці ча́ста хова́ецца мякі́на.* Рымкі Паст.

**ПЯРЭ́ПЛАТЫ** *мн.* Азярод; прыстасаванне са слупоў і жэрдак для дасушвання збажыны. Рымкі Паст.

**ПЯЧУ́РКІ** *мн.* Невялікія нішы ў сцяне печы, у якіх можна нешта змяшчаць. *У пячу́рках стая́ць стаўбуны́ з малако́м.* Рымкі Паст.

## Р

**РА́ГУЛЯ** *ж.* Кропля поту. *Гаспада́рь у зы́ркую паго́ду abліва́ецца ра́гулямі.* Рымкі Паст.

**РА́МА** *ж.* Рама (плуга); нясучая частка плуга. *На ра́ме прымацава́ны рабо́таюшчыя часьці́ны плу́га.* Рымкі Паст.

**РАЗА́К** *м.* Лямеш (?); частка плуга, якая падразае пласт зямлі знізу. *Раза́к памага́е нажу́ ара́ць.* Рымкі Паст.

**РАЗБАГНЕ́ЦЬ** *зак.* Стаць вязкім і топкім (пра грунт). *Ніўё разбагне́ла. Лугі́ разбагне́лі.*

**РАЗБАЛБАТА́ЦЦА** *зак.* Такаваць (пра цецерука). *Разбалбата́ўся ціцяру́к у ле́сі.*

**РАЗБІЯ́ЦЦА** *зак.* Разбляяцца (пра авечак). *Аве́чкі разбія́ліся, бляю́ць. Чува́ць і́хны блеў.*

**РАЗБРА́КНУЦЬ** *зак.* Набракнуць, набухнуць. *Дзьве́ры ад ві́льгаці разбра́клі – ня счыня́юцца.*

**РАЗБУРЧЭ́ЦЦА** *зак.* Сярдзіта і незадаволена замармытаць. *Разбурчэ́ўся як капры́зьлівая ба́ба.*

**РАЗУ́ХА** *ж.* Асака.

**РАНДЭ́ЛІК** *м.* Збанок. *У рандэ́ліку стаі́ць малако́ для дзіця́ці.* Рымкі Паст.

**РАСШЫ́Б** *м.* Інерцыя. *Чо́вен з расшы́бу до́ўга мо́жа плы́сьці сам.* Рымкі Паст.

**РУБА́НІК** *м.* Рубанак.

**РУКА́ТАСЬЦЬ** *ж.* Працаздольнасць. *Рука́тасьць дае́цца тым, хто шану́е пра́цу.* Рымкі Паст.

**РУСАБАРО́ДЫ** *прым.* Чалавек з русай барадой.

**РЫЖАБАРО́ДЫ** *прым.* Чалавек з рыжай барадой.

**РЫ́МАР** *м.* Майстар, які займаецца вырабам раменнай вупражы. *Ры́мар шы́ецъ хамуты́, падсядзе́лкі і інш.* Рымкі Паст.

## С

**СА́ЖАЛКА** *ж.* Сажалка, ставок. *Па са́жалцы плыву́ць гу́сі.* Стральцы Гарадзенск. *У са́жалках мо́чуць лён.* Рымкі Паст.

**САКРАНТАВА́ЦЬ** *зак.* Уцяміць, скеміць. *Сакрантава́ў, што дарма́ гро́шы ніхто́ не пла́ціць.* Рымкі Паст.

**САЛАДЖА́ЦЬ** *незак.* Саладзець; станавіцца салодкім. *Бу́льба ад маро́зу, як прасты́ніць, саладжа́іць. Саладу́ха, на раўге́ню, у пе́чы саладжа́іць. Ячме́нь на со́лад расьці́цца, саладжа́іць.*

**САРАКВА́ША** *ж.* Сыракваша. *З сараква́шы ро́бюць тво́раг.* Рымкі Паст.

**САРО́ЧКА** *ж.* Кашуля. Стральцы Гарадзенск. □ *З міру па ні́тцы – го́ламу саро́чка.*

**САЧЫ́ЦЬ** *незак.* Сачыць.

**СЕРМЯ́ГА** *ж.* Сярмяга. СЕРМЯ́ЖКА, СЕРМЯЖО́НКА *памянш.-ласк.*

**СЁМКА** *ж.* Тройца. Рымкі Паст.

**СІВАБАРО́ДЫ** *прым.* Чалавек з сівой барадой.

**СІЛА́Ч** *м.* Чалавек надзвычайнай фізічнай сілы.

**СІ́ПКА** *ж.* Асіпласць.

**СІ́ПНУЦЬ** *незак.* Сіпнуць; рабіцца сіплым.

**СІТАВА́ТЫ** *прым.* Порысты. *Сітава́тыя рэ́чы ўбіра́юць у сябе́ шмат вады́.* Рымкі Паст.

**СКАБЛІ́ЦЬ** *незак.* Габляваць. *Скаблёй ско́блюць бэ́лькі.* Рымкі Паст.

**СКАБЛЯ́** *ж.* Паўкруглы інструмент для габлявання бярвення. *Скаблёй ско́блюць бэ́лькі.* Рымкі Паст.

**СКАЛЕ́ЧЫЦЦА** *зак.* Пашкодзіць які-н. орган, зрабіўшы траўму.

**СКАРАДА́** *ж.* Небаранаваная паша (ворыва). *Ча́ста авёс се́юць на скарадзе́.* Рымкі Паст.

**СКАЦІ́НА** *ж.* Свойская жывёла. СКАЦІ́НКА *памянш.-ласк.*

**СКІ́ДАШ** *м.* Выкідыш (хваробы жывёл). *Скі́даш – зара́зная хваро́ба.* Рымкі Паст.

**СКОТ** *ж.* Скаціна, свойская жывёла.

**СКРЫЛО́** *н.* Паліца, адвал; частка плуга, якая аддзяляе і пераварочвае падрэзаны лемяшом пласт зямлі. *Скрыло́ ўжэ знасі́лася у плу́зе.* Рымкі Паст.

**СКУЛА́** *ж.* Скула; гнойны нарыў. *На сьпіне́ се́ла бальша́я скула́.* Рымкі Паст.

**СКУ́ЛКА** *ж.* Гнойны нарыў на скуры.

**СКУЛЯ́НКА** *ж.* Тое ж.

**СЛАТА́** *н.* Чорт, нячысты дух. ◊ (прычапі́цца) ЯК СЛАТА́. Перашкаджаць, надакучваць. *Адвяжы́ся! Прычапі́ўся як слата́.* Лаўрыкавічы Ваўк.

**СЛО́НЦА** *н.* Сонца.

**СНАВА́ЦЬ** *незак. перан.* Хадзіць без мэты. *Гульта́й лю́біць снава́ць з кутка́ ў куто́к праз цэ́лы дзень.* Рымкі Паст.

**СПА́ЛАВАЦЬ** *незак.* Ачышчаць ад пустазелля гародніну. *Пара́ гаро́ды пало́ць, гаро́днінку спа́лаваць.*

**СПАРЖА́** *ж.* Прачыстая і Раство Божай Маці. Рымкі Паст.

**СПАС** *м.* Спас. Рымкі Паст.

**СПО́ЛЬГА** *ж.* Вольны час. *І на міну́ту ня ма́е спо́льгі.* Лаўрыкавічы Ваўк.

**СПРЫ́СКІ** *мн.* Пачастунак з выпіўкай. *Як спра́віш но́вы гарні́тар, то трэ зрабі́ць спры́скі.* Рымкі Паст.

**СПУСК** *м.* Вялікі рубанак. *Спу́скам спуска́юць до́шкі.* Рымкі Паст.

**СПУСКА́ЦЬ** *незак.* Габляваць. *Спу́скам спуска́юць до́шкі.* Рымкі Паст.

**СРЭ́БРА** *н.* ○ ЖЫВО́Е СРЭ́БРА. Ртуць. Рымкі Паст.

**СТАЎБУ́Н** *м.* Гаршчок для малака. *У стаўбуна́х ква́сіцца малако́.* Рымкі Паст. 2. Гліняны гаршчок. Дзісеншчына.

**СТРЫГУ́ЧКА** *ж.* Стрыгучы лішай; інфекцыйная грыбковая хвароба скуры (пра жывёл). *Пры стрыгу́чцы вылеза́е поу́сьць.* Рымкі Паст.

**СТЭПА́** *ж.* Стэп. *Дзе ёсь стэпа́, там ле́су няма́.* Рымкі Паст.

**СУЛО́ТНІК** *м.* Паскуднік. *Ад суло́тніка не спадзева́йся чаго́ до́брага.* Рымкі Паст.

**СУРЕПІЦА** *ж.* Свірэпіца (?). Стральцы Гарадзенск.

**СУРЭ́ПКА** *ж.* Свірэпа (?). Стральцы Гарадзенск.

**СХО́ВІНА**, **СХОВІ́НА** *ж.* Футарал. *Дарага́я рэч ча́ста знахо́дзіцца ў сховіне.* Рымкі Паст.

**СЫРАБУ́ХА** *ж.* Адгон; малако, з якога знялі смятанку. *Пасьля зе́му смата́ны на цэнтрафу́зе астае́цца сырабу́ха.* Рымкі Паст.

**СЬЛЕПАТА́** *ж.* ○ КУРЫ́НАЯ СЬЛЕПАТА́. Запаленне вачэй у коней. *Пры курыной сьлепаце́ ко́ні хваро́юць ча́ста вясно́й.* Рымкі Паст.

**СЬМЕКА́ЛКА** *ж.* Кемлівасць. *Без сьмека́лкі ця́жка жыць на сьве́це.* Рымкі Паст.

**СЬЦІГІ** *мн.* Пільнаванне.

**СЯСТРЫ́ЦА** *ж.* Ласкавы зварот да жанчыны, дзяўчыны.

**СЯЎБА́** *ж.* Пасеў. Рымкі Паст.

**СЯЎНЯ́** *ж.* 1. Посуд, з якога сеюць. 2. Мера зерня, роўная аб'ёму гэтай пасудзіны. *На гэ́тым кава́лку ляглá сяўня́ жы́та.* Рымкі Паст.

## Т

**ТАКАВІ́ШЧА** *н.* Месца, дзе раней быў ток.

**ТАЛАКА́** *ж.* Калектыўная праца. *На вёсцы ча́ста працу́юць талако́й: перш вы́везуць гной, жнуць і г. д. аднаму́ гаспад.[ару], паты́м другому́, тре́цьцяму.* Рымкі Паст.

**ТАЛАКНО́** *н.* Страва з мукі з ачышчанага пражанага аўса. *На талакно́ авёс па́руць, пата́м су́шуць, таўку́ць і ме́люць. Вада́ і мука́ – талакно́.* Рымкі Паст.

**ТАЛЯТО́Й** *м.* Чалавек з фізічнымі і духоўнымі заганамі. *Талято́й, калі́ ён бе́дны, то і жабру́ець.* Рымкі Паст.

**ТАРАНТА́С** *м.* Воз, на якім перавозяць сена. *У панара́дзе во́зюць се́на, е́дуць на кірма́ш, а у таранта́се то́лькі се́на.* Рымкі Паст.

**ТАРЧЫЦА** *ж.* Дошка. *З бэ́лькі быва́е 5–10 тарчыц і два апо́лкі.* Рымкі Паст.

**ТАЎЧО́НКА** *ж.* Бульбяная каша.

**ТРАЕ́НЬНЕ** *н.* Трэцяе ўзворванне глебы. Рымкі Паст.

**ТРАЙНІК** *м.* Рыбалоўная снасць у выглядзе чарпака для лоўлі рыбы ўтраіх. Рымкі Паст.

**ТРЫ́БРАТДЗЕЦІ** *мн.* Траюрадныя браты або сёстры.

**ТРЭ** *прысл.* Трэба; неабходна, абавязкова патрэбна. *Старэ́йшых трэ слу́хацца.* Стральцы Гарадзенск.

**ТРЭЛЬ** *ж.* 1. Перавозка бярвення з нязручнага месца на адкрытае, чыстае, адкуль яго лёгка будзе далей звозіць непасрэдна на месца прызначэння. 2. Адкрытае чыстае месца, адкуль лёгка можна звозіць дрэва на месца прызначэння. *Дрэва вы́траліваў: вы́вез на трэль.* ◊ ВЫ́ВЕСЦІ НА ТРЭЛЬ. Выкрыць. *Абма́ншчыка вы́вёў на трэль.* Рымкі Паст.

**ТУПРАШ** *прысл.* Зараз, у дадзены момант, неадкладна. *Я тупраш не ма́ю ча́су.* Лаўрыкавічы Ваўк.

**ТУРЭ́МШЧЫК** *м.* Арыштант.

## У

**УБО́ЦЬКАЦЬ** *зак.* Запэцкаць. *Убо́цькаў бо́ты ў глі́ну.*

**УБЫРЭ́ЦЬ** *зак.* Застацца пры сваіх звычках, заўпарціцца. *Ня́к яго́ ні пераро́біць – убырэ́ў.*

**УВАКРУ́ЖКІ** *прысл.* Паўсюль, навокал. *Увакру́жкі тако́га малайца́ пашука́ць – ні зна́йдзіцца.* ◊ КРУГО́М-УВАКРУ́ЖКІ. Паўсюль. *Ве́дуюць усе́, круго́м-увакру́жкі.*

**УЗДУ́ШЫНЫ** *мн.* Уздуцце; пухліна (у жвачных). *Пры узду́шыне ча́ста прака́ліваюць трэбу́х.* Рымкі Паст.

**УКЛЕПА́ЦЦА** *незак.* Памыліцца. *У паце́мках ле́гка уклепа́цца і палічы́ць незнае́мага чалаве́ка за знае́мага.* Рымкі Паст.

**УЛЕ́ВЕНЬ** *м.* Лівень; праліўны дождж. *Пасьля жары́ ча́ста быва́е уле́вень.* Рымкі Паст.

**УЛО́ГА** *ж.* Цяглічны рэўматызм у коней. *Пры уло́зе ко́ні кульга́юць з пача́тку бе́гу.* Рымкі Паст.

**УРАЧЫ́** *зак.*

**УРО́ДАЙ** *м.* Ураджай.

**УРО́К** *м.*

**УРО́ЦЫ** *мн.* Урокі; хвароба, выкліканая благім вокам. *Прыго́жыя лю́дзі ча́ста хварэ́юць на уро́цы.* Рымкі Паст.

**УРО́ЧЛІВАСЬЦЬ** *ж.*

**УСЛО́Н** *м.* Лаўка ў пакоі. Рымкі Паст.

**УСПО́МНІЦЬ** *зак.* Апрытомнець.

**УХО́ДЗІНЫ** *мн.* Уваходзіны, наваселле. *У но́вым до́ме ро́бюць ухо́дзіны.* Рымкі Паст.

**УХУ́ТАЦЦА** *зак.* Захутацца.

**УЧА́ДЗЕЦЬ** *зак.* Учадзець; атруціцца чадам.

**УШЧУ́НІЦЬ** *незак.* Ушчуваць; супакойваць, суцішваць. *Я цябе́, дуро́ніка, ху́тка ушчуню́.* Рымкі Паст.

## Х

**ХАЦІШЧА** *н.* Месца, дзе раней была хата.

**ХВА́НДА** *ж.* Фалда, складка (на адзенні). *Ну і хва́ндаў у цябе́, брат, у сярмя́зе!* Лаўрыкавічы Ваўк.

**ХЛУСА́** *м.* Чалавек, які шмат гаворыць не думаючы. *Хлуса́ хлу́сіць. Хлуса́ пераня́ў ад бацько́ў хваро́бу ча́ста і мно́га гавары́ць, дзе́ля ча́га няма́ ніяко́гы сэ́нсу у яго́най гу́тарцы.* Рымкі Паст.

**ХЛУСІ́ЦЬ** *незак.* Шмат гаварыць не думаючы. *Хлуса́ хлу́сіць.* Рымкі Паст.

**ХЛЮСТ** *м.* Фарсун. *Апрану́ўся ты сяго́ньня хлюсто́м.* Рымкі Паст.

**ХМА́РКІ** *мн.* ○ ПЕРАГО́ННЫЯ ХМА́РКІ. Кучавыя воблакі. *Перагóнныя хма́ркі на дождж не варо́жуць.* Рымкі Паст.

**ХМЫЗА́** *н.* Дробны дождж ык. *Хмыза́ ся́ньня на дворэ́ ад са́мага ра́ньня.* Рымкі Паст.

**ХМЫ́ЗЬНІК** *м. зб.* Хмызняк, густое кустоўе. *Пад хмы́зьнікам з зямлі́ чалаве́к не атры́млівае кары́сьці.* Рымкі Паст.

**ХРУ́ПКІ** *прым.* Ломкі, крохкі. *Сухо́е дрэ́ва хру́пкае.* Рымкі Паст.

## Ц

**ЦЁЛНАЯ**, **ЦЕ́ЛЬНАЯ** *прым.* Цельная (пра карову). *Каро́ва цёлная* (*це́льная*) *ацялі́лася, бычка́ прывела́.*

**ЦІЛЯНЦЕ́Й** *м.* Гультай. *Гульта́й, цілянце́й, аціля́ка.*

**ЦО́ТКА** *ж.* Цотны лік. Рымкі Паст.

**ЦУРО́К** *м.* Бесперапынны струменьчык. *Цуро́к атры́мліваецца з ка́пяль.* Рымкі Паст.

**ЦУРЧЭ́ЦЬ** *незак.* Ліцца цурком, бесперапынна. *Вада́ з вядра́ цурчы́ць.* Рымкі Паст.

**ЦУРЫ́ЦЬ** *незак.* Цургаць, ліцца цурком, бесперапынна. Рымкі Паст.

**ЦЫНО́ЎКА** *ж.* Цынга (хвароба жывёл). *Пры цыно́ўцы ў сьвіньні́ выпада́е шэрсьць.* Рымкі Паст.

**ЦЫРУ́БАЛКА** *ж.*, **ЦЫРУ́БАЛКІ** *мн. уст.* Драўляныя ці скураныя зашпількі, якія выкарыстоўваліся замест гузіка.

**ЦЭ́БАР**, **ЦЭ́БЭР** *м.* Цэбар. *Цэ́бэр з вадо́й стаі́ць у сянёх.* Рымкі Паст.

**ЦЯ́ПАЦЬ** *незак.* Абараняць свае інтарэсы.

**ЦЯЖО́К** *м.* Цяжарнасць. ◊ (быць) У ЦЯЖКУ́. Быць цяжарнай. *Кабе́та быва́е ў цяжку́ 9 ме́сяцаў.* Рымкі Паст.

**ЦЯПЛІ́ЦА** *ж.* Лазня.

**ЦЯРЭ́ШКА** *ж.* Старадаўняя беларуская гульня (падобна на вяселле). *На Каля́ды жэ́нюць цярэ́шку.* Рымкі Паст.

**ЦЯЦЯРУ́К** *м.* Цецярук. *Цяцяру́кі ад жа́ру хава́юць галаву́ ў сьнег.* Рымкі Паст.

## Ч

**ЧАД** *м.* Чад. *Ад без пары́ заю́шанай лю́шкі зьяўля́ецца ў ха́ці чад.* Рымкі Паст.

**ЧАЛЕ́СЬНІК** *м.* Чалеснік; пярэдняя частка печы, праз якую выходзіць дым. *Чале́сьнік у са́жы – небяспе́ка ад пажа́ру.* Рымкі Паст.

**ЧАПКАВА́ЦЬ** *незак.* Кланяцца. *Не варт перад па́нам чапкава́ць нікды́. Што ты перад пана́мі заўсёды чапку́еш?* Стральцы Гарадзенск.

**ЧАПЯЛА́** *ж.* Чапяла (для падымання і пераносу скаварады). *Чапяло́й устаўля́юць патэ́ліну ў печ.* Рымкі Паст.

**ЧАРАПЛО́** *н.* Рыбалоўная снасць у выглядзе чарпака для лоўлі рыбы ў адзіночку. Рымкі Паст.

**ЧАРНАБАРО́ДЫ** *прым.* Чалавек з чорнай барадой.

**ЧАРНАБРО́ВЫ** *прым.* Чарнабровы. *Чарнабро́вы.*

**ЧАРНІ́ЦЬ** *незак.* Узводзіць паклёп, знеслаўляць (чалавека).

**ЧМЫ́ХАЦЬ** *незак.* Чмыхаць; з шумам выпускаць паветра праз ноздры. *Заню́хаўшы таба́кі, чмы́хаюць.* Рымкі Паст.

**ЧО́РСТВАСЬЦЬ** *ж.* Чэрствасць.

**ЧО́РСТВЫ** *прым.* Чэрствы.

**ЧУГУНО́К** *м.* Чыгунок. *У чугунку́ ва́руць дзе́цям е́жу.* Рымкі Паст.

**ЧУРА́ЦЦА** *незак.* Адракацца. *Не чура́йся, ба́ця, ад свайга сына.* Рымкі Паст.

## Ш

**ШАЛБА́Н** *м.* Балван. Рымкі Паст.

**ШАЛЕВА́НЬНЕ** *н.* Шаляванне; абшыванне шалёўкай драўляных пабудоў.

**ШАЛЁЎКА** *ж.* Вонкавая абшыўка з тонкіх дошак драўляных пабудоў. Дзісеншчына.

**ШАЛЁЎКА**, **ШАЛЕЎКА** *ж.* Шаляванне; вонкавая і ўнутраная абіўка сцен, акон і дзвярэй тонкімі дошкамі. *Шалеўка прыдае́ ха́ці пе́кны від.* Рымкі Паст.

**ШАЛУ́ПКА** *ж.* Шкарлупіна (яйка).

**ШАЛУ́ПНІНА** *ж.* Скурка (на пладах). *Шалу́пніна ахраня́е зярня́тка, бу́льбіну і і́ншая ад гніе́ньня.* Рымкі Паст.

**ШАПЯТЛІ́ВІЦЬ** *незак.* Шапялявіць; вымаўляць шыпячыя гукі са свісцячым адценнем ці наадварот. Рымкі Паст.

**ШАПЯТЛІ́ВЫ** *прым.* Які вымаўляе шыпячыя гукі са свісцячым адценнем ці наадварот. *Шапятлі́вы чалаве́к не ска́жа «чалаве́к», а «цалаве́к».* Рымкі Паст.

**ШАРКІ́** *мн.* Шамкі, бомкі.

**ШАТА́Н** *м.* Сатана. *З благі́м чалаве́кам жыве́ ў зго́дзе шата́н.* Рымкі Паст.

**ШАЦІ́ЦЬ** *незак.* Трызніць. *У гару́чцы чалаве́к шаці́ць.* Рымкі Паст.

**ШВАРКА** *ж.* Паўпаліто з цёплай падкладкай. *Шварка караце́й пальта́.* Рымкі Паст.

**ШЛЮГАВІ́НЫ** *мн.* Бэлькі, на якія кладзецца падлога; памост. *Чым бале́й шлюгаві́н, тым мацне́й мост.* Рымкі Паст.

**ШЛЮ́ХА** *ж.* Жанчына, якая вядзе распуснае жыццё. *«Цяга́ешся, як шлю́ха, па нача́м», – ка́жа ба́цька на распу́тную дачку́.* Рымкі Паст.

**ШМАТ** *прысл.* Шмат. *Ты́ща шмат больш як сто.* Стральцы Гарадзенск.

**ШНІПА́Р** *м.* Абчасаная шпала. *З штэпсялёў ро́біюць шніпа́ры.* Рымкі Паст.

**ШО́СЬНІК** *м.* Ушэсце; свята народна-царкоўнага календара. Рымкі Паст.

**ШПІК** *м.* Мозг (спінны). *У касьцёх ёсць шпік.* Стральцы Гарадзенск.

**ШТЫЎЦЬ** *м.* Сапожны цвік. *Шаве́ц спры́тна заганя́е штыўці.* Рымкі Паст.

**ШТЭ́ПСЕЛЬ** *м.* Шпала. *Штэ́пселі кладу́ць на паласе́ ж.[алезнай] даро́гі.* Рымкі Паст.

**ШУГА́ЦЬ** *незак.* Гарэць яркім полымем. *Дро́вы ў пе́чы шуга́юць.* Рымкі Паст.

**ШУМЁЛКІ** *мн.* Бразготкі. Рымкі Паст.

**ШУПЛЯ́ДА** *ж.* Скрынка ў стале. *У шупля́дзе ляжа́ць ло́жкі, відэ́льцы і нажы́.* Рымкі Паст.

**ШЧУМЕ́ЛЬ** *м.* Чмель. *Шчуме́ль бо́льшы за пчалу́.* Рымкі Паст.

**ШЧУ́ПЛІК** *м.*, **ШЧУ́ПЛІКІ** *мн.* Падушачкі пальцаў на руцэ.

**ШЧЫ́ПЦЫ** *мн.* Абцугі, якія выкарыстоўваюцца ў шавецкай справе.

**ШЫ́ВОРАТ-НАВЫ́ВОРАТ**, **ШЫ́ВАРАТ-НАВЫ́ВАРАТ** *прысл.* Наадварот; не так, як трэба. *Вы́каналі мой зага́д шыварат-навы́варат.* Рымкі Паст.

## Я

**Я́МКА** *ж.* Прыпечак, пячурка; месца ў печы, куды выграбаюць прысак. Рымкі Паст.

**ЯРЫЦА** *ж.* Летняе жыта.

**Я́САЎКА** *ж.* ◊ Я́САЎКА ГРО́МУ. Маланка.

**ЯТРО́ЎКА** *ж.* Жонка аднаго брата ў адносінах да жонкі другога брата. *У ха́ці два жана́тых бра́та і дзьве ятро́ўкі.* Рымкі Паст.

*М. В. Абабурка*

## ЭМАЦЫЯНАЛЬНА-ЭКСПРЭСІЎНА-АЦЭНАЧНЫЯ НАМІНАЦЫІ АСОБ І ЖЫВЫХ ІСТОТ У ГАВОРЦЫ ВЁСКІ МОРАЧ КЛЕЦКАГА РАЁНА

Яшчэ ў далёкім 1977 г. у зборніку «Народная лексіка» (Мінск, рэд. А. А. Крывіцкі, Ю. Ф. Мацкевіч) была распачата публікацыя прадметнай лексікі маёй роднай гаворкі, там жа былі ахарактарызаваны яе асноўныя спецыфічныя асаблівасці (гл. с. 199–212). Там жа пераважная большасць слоў пададзена ў алфавітным парадку, зрэдку – у варыянтна-сінанімічных радах.

У прапанаваным артыкуле падаюцца ўсе зафіксаваныя намінацыі як варыянтныя ці сінанімічныя рады, уключаючы і некаторыя кампаненты з апублікаваных раней дзеля іх семантыкастылістычнай кампактнасці і суцэльнасці (непарушнасці) мікрасістэмы ці лексічнага гнязда. Цікава, што літаратурнамоўныя абразлівыя словы ў нас вельмі часта ўжываюцца як жартаўлівыя, з лёгкім гумарам, нібы з нулявой стылістычнай афарбоўкай, пераважна ў прыпеўках («браньдзюшках») такога кшталту:

*Ты – паненка, я – паніч,*
*Ў цябе – храпа, ў мяне – лыч…*

Такая прыпеўка («браньдзюшка») прыгожых тварам не крыўдзіць, а непрыгожых асабліва не кранае, бо кожны чалавек лічыць сябе па-свойму прыгожым. Вельмі пашыранае ў нашай гаворцы ўжыванне з адмоўным значэннем слоў-дэталей ці саміх прадметаў, што адыходзяць у нябыт: побач з «аглобляй» пра тупаватага чалавека могуць выказацца такімі ацэначнымі словамі і словаспалучэннямі, як *ато́са*, *заты́ка*, *гніло́е бі́ло ці бі́ло гніло́е*, *лёстка палама́ная*, *ко́ла крыво́е*, *ко́ла без кало́дкі*, *шво́ран драўля́ны*, *падге́рац вісе́чы*, *вось перацёртая*, *агло́бля альхо́вая*, *агло́бля з але́шыны*, *агло́бля трухля́вая і г. д.*, *маты́ка*, *за́сланка дзераўля́ная*, *гумно́ незачы́ненае*, *клець ненакры́тая*, *стоўп незапо́ўнены*, *правары́на пуста́я* і інш. Літаратурнамоўныя сінанімічныя і варыянтныя рады тыпу *гультай*, *гультаіна*, *гультайства – абібок*, *абібоцтва – лайдак*, *лайдачына*, *лайдацтва* значна пашыраны за кошт іншых кампанентаў накшталт *гультаюга*, *гультаюк*, *гультайства*, *гультайнічанне – абібочына*, *абібошына*, *абівошына – лайдуля*, *лотра*, *латружына* і да т. п.

Такога роду і віду намінацыі падаюцца ніжэй у адсутнасці літаратурнамоўных, бо імі яны абазначаюцца і тлумачацца. У ілюстрацыйным матэрыяле мясцовая арфаэпія адлюстроўваецца не ў транскрыпічнай, а ў транслітараванай форме.

**АБІ́ДЗІК** *м.*, **АБІ́ДЗЬКО** *агульн.* Крыўдлівы; пакрыўджаная асоба. *Ні*(*я*) *хныч*, *абідзік*, *час усе-ўсе́нечка зале́чыць. Вот табе́ й абіцько – хоць мо́рда ў крыві́, а крычы́ць*: *ні падару́ю… Ай, абіцько-абіцько… Ніўжэ́ш ты абі́дзіўсе?.. Калі́ абідзіўсе, то ець у Маскву́ – там увí́дзімсе!*

**АБЛАВУ́ШНІК** *м.*, **СВІНТУ́Х** *м.*, **СВІНЧО́** *н.*, **СВІНО́Е РЫ́ЛО**. Нягоднік; нізкі ў маральных адносінах чалавек, нядобразычлівец; падманшчык. *На яго́ ма́ло сказа́ць аблаву́шнік – гэ́то са́ма*(*я*) *настая́шча*(*я*) *сьвіня́. А што зь сьвінтуха́ во́зьмеш – свіньту́х е сьвінту́х і больш нічо́го. Ні дзе́ўка, а сьвіньчо́ не́кае – і ніакура́тна*(*я*), *і гы́ркаецца*, *і пля́мкае* [есці гучна]… *У яго́ ўхва́тка, як* (*ак*) *у сьвіні́ – ну, про́сто ры́ло(а) сьвіно́е.*

**АБЛЕ́ЗЛІК** *м.*, **АБЛЕ́ЗЛІНА** *агульн.*, **КАРО́СЛІВЕЦ** *м.*, **КАРО́СЛІЎКА** *ж.* Асоба з аблезлай скурай, з каростай, са слядамі струпоў. *Ні перажыва́йце*: *мо ваш абле́зьлік як вы́расьце, то ўсе абле́злае прападзе́*: *у даро́слых людзе́й усе́-ўсе́нечкае мяня́ецца*, *і самі лю́дзі саўсі́м мяня́юцца*, *ой бо́жухно-ба́цюхно*, *ні даво́дзь да грахо́ў нас ніцярпя́чых… Ах ты, абле́зьліна, ах ты каро́сьліўка, табе́ свайго́ ма́ло дык да майго́ падла́зіш – ашчэ́ раз угле́джу, то й вы́смалю зікрачы́ тvaé бяссо́весные*(*я*)… *Каро́ста ў каго́ была́, таго́ й называ́ем каро́сьліўкамі, а як жэ ш на́чай мо́жно йіх называ́ць?!*

**АБЛУ́ПАК** *м.*, **ЗАГАРЭ́ЛІНА** *агульн.* Асоба з загарэлым целам. *От, бра́це, у гарадо́х цяпе́рака й зімо́ю загара́юць, у не́кіх там саля́рах і аблу́пкамі хо́дзяць, ак* (*як*) *на́шы дая́ркі ле́там, а прыгажэ́ннымі, ні раўну́ючы, як* (*ак*) *іспа́нкі. Ну што, загарэ́ліна, мо хва́ціць ужо́ загара́ць, мо лепш по́йдзем на сенажа́ці пазагара́ем – та́мака й авадо́ў, і сьляпнёў заадно́ пако́рмім…*

**АБМО́Л** *м.*, **АБГАВО́РШЧЫК** *м.*, **АБГАВО́РШЧЫЦА** *ж.*, **ПЛЯТНЯ́** *агульн.* Пляткар; асоба, якая любіць абгаворваць іншых, пляткарыць. *Абмо́лу нічо́го больш ні дава́й, абы́ то́лько абмо́лваць усі́х папара́дку, ні гле́дзячы ні во́ка ні бо́ка, ні баючы́се ніко́го*:

*ні чо́рта ні Бо́га… Абгаво́ршчыкам і абгаво́ршчыцам пападае́ ў пе́ршу(ю) (в)о́чараць… Ой, плятня́, плятня́, ну, ні пляці́ тут абы-чаго́ пра до́брых людзе́й, аж ну́дно слу́хаць твае́ абгаво́ры…*

**АБНО́САК** *м.*, **АБО́РВАНЬ** *м.*, **РВАНЬ** *ж.*, **ЛА́ХТА** *агульн.*, **ЛАХТАДРЫ́НА** *агульн.* Абарваны, абшарпаны чалавек; непрыемная, непажаданая, падазроная асоба (любога полу). *Абнасі́ўсе наш абно́сак, гро́шы ві́дно што зьбіра́е, але́ ж для каго́ ці для чаго́: жо́нкі німа́шака, дзяце́й то́жэ німа́, ро́дных даўно́ ацура́ўсе – ніўжо́ на той сьвет з сабо́ю ўсе пацягне? Адыдзі́, або́рвань, ні смуро́дзь тут – гэ́то табе́ ні забяга́лаўка ту́тако… Усяля́ка(я) швань, рвань, пьянь ту́тако по́ўзае, жыць спако́йно ні дае́, трэ́бо сераўно́ мі́ліцу* [міліцыю] *вызыва́ць – ні́чого ні крыка́м, ні ўгаво́рамі ні даб'ёмсе(я). А гэ́та ла́хта, гэ́та лахтадры́на, ра́зам з усе́нькай рва́ньню зна́ецца – п'юць, гуля́юць, а прылі́чно адзе́цца ні мо́гуць – от сьвет наста́ў, ні стыда́ ні сарамы́ їім німа́шака.*

**АБРЫ́НДА** *агульн.*, **АБО́СРАНЬ** *ж.*, **АБЭ́СРАНЬ** *ж.*, **СМЯРДЗЮХА́** *агульн.* Неахайны чалавек; абшарпанец. *Чаго́ гэ́то сюды́ гэ́та абры́нда пана́дзілась(ся)?! А мо й яна́, гэ́та або́срань, каму́ спанара́віцца, цяпе́рака пазо́ру німа́шака… Адыдзі́, абэ́срань, ад мяне́, смуро́т ад цябе́, аж бляваць хо́чэццо… От жэ ж сьмярдзюха́ дак сьмярдзюха́! Засмуро́дзіў усе́нькі сьвет сваімі кара́ўцамі… Вон адсю́лека, сьмярдзюха́!*

**АБЭ́ЛДУС** *м.*, **АБЭ́ЛТУС** *м.*, **ВАЛАСА́ЦІК** *м.*, **ЦЫ́МБАЛ** *м.* Гультай; нядбайнік; моднік. *І трэ́бо ж такі́ абэ́лтус: вы́рас пад не́бо, а нядба́йнік (ду́рань, гульта́й, абібо́к) як (ак, к) трэ́бо. То быў валаса́цік, хадзі́ў абро́слы ак (як) чорт, а цяпе́рэчы наго́ло стрыжэ́цца, ні всо́ў, ні барады́ ні но́сіць – от дзі́во дак дзі́во, з усі́х дзіва́ў дзі́во! Вы́рас такі́ цы́мбал, а ў рабо́ту аніяк ні заго́ніш, ні ўпро́сіш, ні ўло́міш.*

**АГАРО́ДНІК** *м.*, **ЛА́ЗІК** *м.* Агульная назва для тых, хто любіць лазіць у чужы агарод і ласавацца агуркамі (*агуро́чнік*), памідорамі (*паміда́рнік*), цыбуляй (*цыбу́льнік*), морквай (*мо́ркаўнік, маркоўнік*), турнепсам (*турне́пснік*) і г. д. *Цяпе́рака п'я́ніцы, што ране́й агаро́днікі – хто за чым ганя́ецца, той так і называ́ецца: за агурка́мі – агуро́чнікі, за капу́стай – капу́снікі, за моркаўю – мо́ркаўнікі. А ла́зіка ні́чым ні ўдзе́ржыш – гэ́то ўжэ хваро́ба: ле́зьці ў агаро́д ці про́сто па што-не́будзь, абы чужо́е. Гэ́то хі́тры зло́дзей, за руку́ ні зло́віш ла́зіка ніко́лі, хто б ты ні быў, от спец, спец дак спец.*

**АГРЫ́ЗАК** *м.*, **АДБРЭ́ХІЧ** *м.*, **АББРЭ́ХІЧ** *м.* Чалавек, што любіць агрызацца, адбрэхвацца. *Грыза́ грызе́, а агры́зак агрыза́ецца – вот табе́ й сва́рка ў сямі́і. Адбрэ́хваўсе(я), адбрэ́хваўсе(я) адбрэ́хіч, дый язык прысо́х, бо пасадзі́лі на 15 су́так. Ні аббрэ́хвайсе(я), аббрэ́хіч, бо заяўлю́.*

**АПАТУ́РКО** *агульн.*, **АПУСКЛІ́НА** *агульн.* Апушчэнец; неахайны, недагледжаны, апушчаны чалавек. *Апату́рыўсе(я) чалаве́к і ле́жма ляжы́ць: у чым хо́дзіць, у тым і сьпіць, ні мы́ецца і ні бры́ецца, адны́м сло́вам, апату́рко. Злазь зь пе́чы, апусклі́на, ідзі́ памы́йсе, зьмяні́ адзе́жу, а то во́шы за́рэ па табе́ хадзі́цьмуць.*

**АТО́РВА** *агульн.*, **ВЫ́ТЛУК** *м.*, **ПРАЙДА́К** *м.* Прайдоха, прайдзісвет. *Прайдзі́ уве́сь бе́лы сьвет, паляці́ ў сам ко́смас, але́ ж тако́й ато́рвы, бра́це ты мой, нідзе́ ні сустрэ́неш – од гэ́то й ствара́нне! А прайда́к, а прайдо́шычэ! А вы́тлук які́! І атку́ль жэ ш на на́шу го́лаў вы́тлук гэ́ты, гэ́то лі́хо ўзяло́се(ё), і чым гэ́то мы пе́рад Бо́гам правіні́ліся(я), і да чаго́ ж гэ́то мы дажы́ліся, і дажывемо́сё(е) дале́й з тако́ю дачко́ю, з тако́ю ўро́даю… Ой, бо́жачко, бо́жачко!..*

**БАБЗДЫ́Р** *м.*, **БАБАЛІ́З** *м.*, **БАБАЛЮ́Б** *м.*, **БА́БСКІ ХАЛУ́Й**, **БА́БСКІ СЛУГА́**, **БА́БСКІ ЎГО́ДНІК**. Аматар жанчын; бабнік. *Бабзды́р то́лько кру́ціцца каля (ля) баб, больш яму́ ні́чого і ні трэ́бо. От лі́заўсе п і лі́заўсе то́лько ге́сты бабалі́з, дзе ўго́дно, ко́лько(і) ўго́дно, з кім уго́дно. Культу́рно – бабалю́п, некульту́рно – ба́бскі халу́й. Ашчэ́ гаво́рым – ба́бскі ўго́днік, бо е́сьціка сьвя́то Міко́лы ўго́дніка.*

**БЕЛЬМА́Ч** *м.*, **ЗІКРА́Ч** *м.*, **ЛУПА́Ч** *м.*, **БЕЛЬМА́ТЫ ЧОРТ**. Чалавек з вялікімі ці выпучанымі вачамі. *Чаго́ бе(я)льма́ч, вы́лупіў свае́ бе́льмы, спанара́ўна(я) ве́льмі ці што?! Ай, зікра́ч, зікра́ч, ні сты́дно ўсю́ды зікрачы́ свае́ ўса́джваць – глядзі́, глядзі́, то мо хто і па́льцам вы́парэ їіх. Што й ге́сты лупа́ч прыхо́дзіў з сва́там к табе́?! Ох, і панара́ўная ж ты ўсім! От, бе(я)льма́ты чорт, каб яго́ хале́ра, усю́ды вы́глядзіць, усе́-ўсе́нькае ўба́чыць, каб яму́ яго́ бе́льмы павыла́зілі на са́менькі лоб.*

**БЛЮ́МА** *агульн.*, **ПЯКНО́ТА** *агульн.*, **ПЯКНО́ЦЦЕ** *агульн.* Прыгажуня; прыгожы тварам чалавек. *Хоць і блю́ма, але́ се́мкі прадае́. Мо́лада была́, пякно́та была́, а цяпе́рака к (ак, як) ма́лпа ста́ла – от што го́ды ро́бяць, мае́ вы дзе́ткі. Тако́е пякно́цце ў го́радзе было́ б нарасхва́т, а тут то́лько – на весаву́ю і дадо́му, на весаву́ю і дадо́му. Так і жысьць прахо́дзіць…*

**БО́ЛБАЦЕНЬ** *м.*, **БО́МКАЛО** *агульн.*, **ШАЛАБО́Н** *м.*, **ШАВЯРДА́** *агульн.*, **ШАБАЛДА́** *агульн.* Пустазвон, пустабрэх, балабон. *Пераста́нь, бо́лбацень, балбата́ць, ну, про́сто, цецяру́к, надае́ў ужэ́, аж у галаве́ зьвініць ад твае́ балбатні́. От, бо́мкало, бо́мкало, ні бо́мкай над ву́хам – і так мо́ташно на душы́, а ты ту́тако шчэ з свайі́м бо́мканьнем. Ідзі́ ле́пей, шалабо́н, у драмгурто́к, там і шалабо́нь, хай лепш лю́дзі пасьмяю́цца, а то мне ўсе́ньку го́лаву адуры́ў. Ні шавярдзі́, шавярда́, абы-чаго́: мне і так ні па сабе́, а ты шчэ надаяда́еш з сваёю шавярдо́ю. Шабалда́ ты і больш ні́чого: каму́, скажы́, твае́ шабалдзе́ньне патрэ́бно, нашто́ яно́ мне, мне ад дзяце́й хапае́ па са́му(ю) завя́зку, а тут ты шчэ – от надая́да, от брыдо́та, от плятня́.*

**БРА́ЖНІК** *м.*, **БЭ́ЛЬБУХ** *м.*, **БЭ́ЛЯ** *агульн.* П'яніца, алкаголік. *Ідзі́, бра́жнік, адсю́дава, а то мілі́цыя (мілі́ца) прые́дзе ско́ро па гро́шы, заадно́ й цябе́ забярэ́. Марш! Марш!!! Ну, ко́лько табе́, бэ́льбух,*

*на дзень трэ́бо?! Ужэ́ ж браў паўтара́чку. Не пі, сыно́к, так ча́сто, а то бэ́ляю бу́дзеш, і ўсе сьмяя́цьмуцца зь цябе́ й зь мяне́, бо ты ш у мяне́ адзі́н, як ме́ся(е)ц на не́бі, як язы́к у ро́ці, як ве́цер у по́лі.*

**БУХІ́КАЛО** *агульн.*, **КАШЛЮ́Н** *м.*, **КАШЛЮ́НЧЫК** *м.*, **КАШЛЮНЕ́Ц** *м.*, **КАШЛЮ́НІК** *м.* Чалавек з частым кашлем. *Ну, што сьне́гу зь ве́трам нахапа́ўсе*(*я*), *цяпе́рака ўсе́ньку*(*ю*) *ноч бухі́каць бу́дзеш, ні дай бо́жэ, шчэ бухі́калам, ак* (*як*) *той біркулёзнік, ста́неш. Во кашлю́н дык кашлю́н, не прахо́дзіць твой ка́шаль. На цуке́рачку, кашлю́нчык, мо твой ка́шлік скарэ́й сьці́хне. Ідзі́ сюды́, мой кашлюне́цік, я табе́ цёпленькаго малачка́ дам папі́ць. Вот і ка́шлічак твой на сухі́ лес паляці́ць, ідзі́ сюды́, ко́цік.*

**БЭНСЬ** *м.*, **КАПУ́СНІК** *м.*, **ПА́ЛЬЦАМ РО́БЛЕНЫ**. Байструк; пазашлюбнае дзіця. *Ране́й на бэ́нься па́льцам пака́звалі, а цяпе́рака – гэ́то го́нар ма́ціадзіно́чкі* (*аднано́чкі*). *У цябе́, сыно́к, та́ткі німа́шака, цябе́ ў капу́сьці знайшлі́, ра́зам з кураня́ткамі ку́рка вы́седзела, таму́ й капу́сьнічкам называ́юць. От так, мой ты капу́сьнічак. Ідзі́ ў дзедо́м, у цябе́ ба́цькі німа́, ты па́льцам ро́блены. Мы з табо́ю ні гуля́цьмем. Ідзі́ ў дзедо́м. Твой та́тко саба́кам се́но ко́сіць.*

**ВІ́СКЛЯ** *агульн.*, **ВІ́СКЛА** *агульн.*, **ВІСКУ́ХА** *ж.*, **ПІ́СКЛЯ** *агульн.*, **ПІ́СКЛА** *агульн.*, **ПІСКУ́ХА** *ж.* Вісклівая (пісклівая) дзяўчына ці жанчына; малое кураня ці парася. *А ні чапа́йце вы гэ́тай ві́склі* (*віску́хі*), *хай лепш яе́ лі́хо ўчэ́піць, то мо так вішча́ць ні бу́дзе. Ні дзіця́, а пі́скля* (*пі́скла*) *не́йка ўрадзі́ласё*(*-ся*) *– от уда́ча дак уда́ча, і ўсё ш на на́шу го́лаву, каб было́ больш бале́ць ад чаго́. Пэ́ўно, як* (*ак*) *вы́расьце, то настая́шчай піску́хаю бу́дзе* (*ста́не, зро́біцца*).

**ВЫ́ДРА** *ж.*, **ВЫ́ТЛУК** *м.* Прайдоха. *Згінь, вы́дра!!!*

**ВЫ́ТАРАПАК** *м.*, **НЕДАНО́САК** *м.*, **ПАРШЫ́ВЕЦ** *м.*, **ПАРШЫ́ЎКА** *ж.*, **ПРО́ЦІВЕНЬ** *м.* Непаслухмяны, упарты чалавек; нялюднік. *Ох, гэ́тые вы́тарапкі ўсе́нькі сьвет баламу́цяць, е хлеп і да хле́ба, дак чаго́ йім шчэ хо́чэцца – вайны́ ці што?!. А, хале́ра ж ты лазяна́я, а недано́сак ты нішча́сны, а куды́ ж ты ле́зеш, каб на цябе́ саро́чка ні зьле́зла. І паршы́вец, і паршы́ўка схо́дзяцца, бо йіх ні Бох, а чорт зво́дзіць у адзі́н кату́х; бяда́ што й дзяце́й такі́х ро́дзяць, а быва́е, што шчэ го́ршых за сябе́. А куды́ ж ты ле́зеш, про́цівень ты ніпаслу́шны, усе́ ма́церы ро́біш назнаро́к; глядзі́, а то назнаро́к табе́ ску́ла ся́дзе на за́дзі. І паршы́вец, і про́цівень – ніб́ыто ро́дные*(*я*) *бра́цікі* (*брато́чкі*).

**ВЫ́ЦІРАК** *ж.*, **МАРЦЭ́ЛЯ** *ж.*, **УСІ́ХНАЯ** *ж.* Жанчына (дзяўчына) лёгкіх паводзін. *Яна́ ж з дзяво́цтва – вы́цірак, нахале́ру яна́ табе́, што гэ́то за жо́нка? Каб ты дадо́му ні дайшла́, марцэ́ля ты аблаву́ха, калі́ ту́тако ты хо́дзіш, вынюхваеш, вывіжо́ўваеш. Бра́тко ты мой, п'я́ная жэ́ншчына – гэ́то ўсі́хная, забыва́е і пра дзе́так, і пра му́жа, і пра Бо́га. Я табе́ пра́ўду кажу́, бо на сваём вяку́ мно́го чаго́ ба́чыў.*

**ВЫ́ШЧАРКО** *агульн.*, **ВЫ́СКАЛЬКО** *агульн.*, **СКАЛАЗУ́Б** *м.* Чалавек, што любіць выскаляцца (вышчарацца); выскаляка; зубаскал. *Ні вышчара́йся, вы́шчарко, сераўно́ ты ніко́му ні патрэ́бны, і зу́бы твае́ ні́чышчаны́* (*е, я*). *Ой, вы́скалько, вы́скалько, як табе́ ні бры́дко скаліць свае́ зу́бы, дзе трэ́бо і дзе саўсі́м ні трэ́бо. Нам ушы́стко е́дно: ці скалазу́б, ці зубаска́л – сераўно́ ў яго́ зу́бы заўсю́ды наве́рсі й наве́рсі, рот ні закрыва́ецца.*

**ГАЛАМО́ЎЗА** *агульн.*, **ГАЛАМО́ЎЗІНА** *агульн.*, **ГЛАМАЗДА́** *агульн.*, **АГЛАМА́ЗДАК** *м.* Асталоп, дурань. *І, здае́цца, галава́ вялі́зная і фігу́ра хва́цкая* (*фа́цкая*), *а насамдзе́ле – галамо́ўза, анічагу́сенько ні пе́трыць, не ва́рыць яго́ гаршчо́к. Куды́ ж ты, галамо́ўзіна, прэ́сьсе* (*я*), *што ты тут забы́ў, га?! І гламазда́, і аглама́здак – як* (*ак*) *ска́жэш. Аглама́здак, аглама́здак, а сельгасакадэ́мію зако́нчыў, яна́ ў Го́рках, на Магілёўшчыне.*

**ГАРБА́Ч** *м.*, **ГАРБЕ́ЛЬ** *м.*, **ГО́РБЕЛЬ** *м.*, **ГАРБЕ́ЛЯ** *ж.* Гарбаты чалавек; гарбун. *Хоць гарба́ч, а ко́сіць лепш за ўсіх, аж пыл курыць. Гарбе́ля з са́менькага* (*на*)*раджэ́ньйа, але́ ба́цько даў до́бры паса́х – і сёнячы – багатыры́ на ўсе́нькае сяло́. «Гарбе́ль* (*го́рбель*)*» гаво́рым, калі́ дра́жнімсе* (*ся*) *ці сва́рымсе* (*ся*).

**ГАРБУЗЯНЕ́** *н.*, **ГАРБУЗЯНЯ́** *н.*, **ГАРБУЗЯНЯ́ТКО** *н.* Паўнаватае дзіця. *Ці хоць жэ ж здаро́венькае тваё гарбузяне́*(*я́*)*? Ну, ідзі́ ж ка мне, маё ты гарбузяня́тко, ну, скажы́ што-ніб́у́ць, ну, хоць засьме́йсе*(*я*), *ну, кры́кні хоць.*

**ГАРДАБЭ́РДА** *агульн.*, **СТАЛЬВА́ГА** *ж.*, **СТАЛЮ́ГА** *ж.*, **СТРЫ́НГЕЛЬ** *м.* Тонкі, высокі чалавек (пераважна пра жанчын і дзяўчат). *І за́муш вы́шла, а як* (*ак*) *гардабэ́рдаю была́, так гардабэ́рдаю й астала́ся. Гля́неш на гэ́ту стальва́гу, ну, про́сто тры ме́тры стая́ць. Ак* (*як*) *сагне́цца, дак, братко́ ты мой, здэ́цца, сталю́гу пастаа́вілі, дальбо́г, справядло́вая сталю́га, хоць кладзі́ дзе́рава й расьпіло́ўвай.*

**ГАРЛА́Ч** *м.*, **ГО́РЛА Ў ТРЫ ПО́ЛКІ (СТО́ЛКІ)**, **КРЫКЛІ́ВЕЦ** *м.*, **КРЫ́КСА** *агульн.* Гарласты, крыклівы чалавек; крыкун, гарлапан. *Чаго́, гарла́ч, го́рло дзярэ́ш, хібо́ ні ба́чыш, што дзіця́ сьпіць, засьляпі́ло сп'я́на?! Го́рло ў тры по́лкі* (*сто́лкі*), *дак крычы́ць як* (*ак*) *бы яго́ рэ́жуць ту́тако. Ні глядзі́, дзе́тачка, што крыклі́вец, але́ душа́ ў яго́ харо́шая, ідзі́, ні бо́йсе*(*ся*). *Кры́кса з ро́ду – ёй е́сьці ко́лько ні дава́й, сераўно́ крыча́цьме, бо зма́лку прывы́кла ўсе кры́кам браць.*

**ГО́ЛДА** *ж.*, **ЗНА́ЙДА** *ж.*, **ШЭ́ЙНА** *ж.* Нервовая, сварлівая і несправядлівая жанчына. *Хібо́ ты ў го́лды вучы́лася сварыцца з свае́ю ма́цераю? А гэ́та*(*я*) *ж зна́йда вынюхвае ды выслу́хвае, каб пато́м разьне́сьці на ўвесь бе́лы сьвет. Ну, про́сто ак* (*як*) *бы скруці́лася гэ́та*(*я*) *шэ́йна – раве́, кры́чма крычы́ць як* (*ак*) *парэ́зана*(*я*).

**ГРУДЗЯВЕ́КА** *м.*, **ЗДАРАЎЧЫ́НА** *агульн.*, **МАЦА́К** *м.*, **СІЛА́К** *м.* Здаровы, моцны, з вялікімі грудзьмі і мышцамі чалавек (звычайна пра мужчыну). *Хоць*

*і грудзяве́ка, але́ то́лько паўчалаве́ка. Такі́ ж здараўчына быў, а к (ак, як) захварэў, дак ад пе́ршай жэ ж хваро́бы і памёр – от як, братко́, быва́е! Ого́! Наш пе́ршанькі, дзя́каваць Бо́гу, такі́ мацачо́к, як (ак) жарэ́бчык, справядло́вы маца́к, ак (як) то́е яе́чко з ка́меня. Жыў до́ўго ў сусе́днём сяле́ «Барэц» – гэ́дак яго́ ўсе зва́лі й цяпе́рака так усі́х яго́ насьле́днікаў заву́ць – вот гэ́то быў сіла́к дак сіла́к: падко́вы разгіна́ў, а цьвікі́ ў па́льцах круці́ў як (ак) сало́му. Які́ ж з цябе́ сіла́к, калі́ твае́ му́скулы прысо́хлі да саме́ нькіх касьце́й??!*

**ГРУ́НЯ** *ж.*, **ГУТЫ́РА** *ж.*, **ВЕРУЯ́** *ж.* Тоўстая, непаваротлівая жанчына. *Была́ ж така́я спраўна́ (я), ак (як, ак) нарадзі́ла дзвюх дзе́вак, ста́ла тако́ю гру́няю, што ні аб'е́хаць ні абысьці́. Сама́ ж гуто́ра, а шчэ вымышля́е – пайдзі́ туды́, прынясі́ то(е) ды сё(е). Ах, веруя́ ты веруя́, дзіця́ ганя́еш, а сама́ се́дзьма сядзі́ш, таўсьце́еш ды таўсьце́еш.*

**ГРЫЗА́** *агульн.*, **КРЫВАПІ́ЎКА** *ж.*, **КРЫВАПІ́ЎНІЦА** *ж.*, **ТРУПАЕ́ДЗІНА** *агульн.* Сварлівая жанчына; заяда. *Ка́жды бо́жы дзень грызе́ бра́та бе́днаго та́я грыза́, трэ́бо, му́сіць, умяша́цца, бо заесьць пакаці́ўшы. Ні грызі́, ні пі ты маёй крыві́, крывапі́ўка! Крывапі́ўніца ні гядзі́ць ні во́ка ні бо́ка, а грызе́ й грызе́ прымака́ свайго́ і но́чку, і днём. Ох, трупае́дзіна, ты што сабе́ ўду́мала – зьвядзе́ш свайго́ ду́рня з гэ́таго сьве́ту, то й сама́ туды́ по́йдзеш або́ ў дурдо́м здаду́ць ці паса́дзяць у цюрму́.*

**ДРАБЯЗА́** *агульн.*, **МАЛЬЗО́ТА** *агульн.*, **ЗЯЛЕ́ПУХА** *агульн.* Малыя дзеці; вялікая колькасць дзяцей. *Ну й, бра́це, драбязы́ ў вас, няўжэ́ гэ́то ўсе ва́шы, му́сіць, мо́днічаеце – прыёмных зь дзеддо́му набра́лі? Адна́ мальзо́та – і ўсе чо́рненькіе(я), як (ак) цыганчукі́ ці шпачкі́ на све́жай ральлі́. Сабра́лася адна́ зяле́пуха, паста́вілі магнітафо́н пасярэ́дзіне і танцу́юць сабе́ ўкруга́.*

**ДРАПЯТУ́Н** *м.*, **ДРАПЯТУ́ХА** *ж.*, **ДРАПЧА́К** *м.*, **ДРЫСЛЯ́** *агульн.* Той, хто спяшаецца ў любой справе; паспешнік; паспешніца. *Ні драпячы́ так, драпяту́н (драпяту́ха, драпча́к), анто́бус біз цябе́ ні по́йдзе, свае́ ш лю́дзі: астано́вяць, накрыча́ць, напро́сяць. Ну, перaста́нь, дрысьля́, бе́гаць сюды-туды́, ашчэ́ два часы́ да адйе́зду, а ты ўжэ тут то́пчасьсе бездайла́ду!*

**ДУБ** *м.*, **ДУБІЗНА́** *агульн.*, **ДУРБІ́ЛА** *агульн.*, **ДУРБО́СЯ** *агульн.*, **ПУЦ** *м.*, **ТРА́КТАР** *м.* Тугадум; тупы на розум і роздум. *Я зна́ю, што я дуп, але́ зато́ ш я мо́цны, здаро́вы, а вы здыхлякі́. Ну й дубізна́ дак дубізна́, каб ні вывучыць таблі́чкі мно́жання, гэ́то ш на ўсе́ньку(ю) жысь(ць). Жылі́-былі́ дурбі́ла, дурбо́ся і і́ншые(я). Узялі́ дурбі́ла з дурбо́сяю ды пажанілісе (сь, ся). І нарадзі́лісе(ся) у дурбі́лы й дурбо́сі дурбасяня́ты ды дурбасяня́ткі. А тапо́р жа ты, а пуц нісусве́тны, а до́ўбня ж ты абабі́та(я), а чаго́ ж ты ка мне чэ́пісьсе(ся), што ж табе́ трэ́бо ад мяне́, чаго́ ты сьляпі́цаю ле́зеш? Тра́ктар ты тра́ктар, ніўжо́ ж да цябе́ ні дахо́дзіць, што ні ўсім дано́ лётаць, каму́ ж то й по́ўзаць трэ́бо – вот і по́ўзай, раз галава́ (макатыра) ні ва́рыць.*

**ДУ́НДА** *агульн.*, **ДУ́НДЗІК** *м.*, **НЕНАЕ́ДНІК** *м.*, **НЕНАЕ́ЖНІК** *м.*, **СМО́КТА** *агульн.* Вельмі прагны да яды чалавек ці жывая істота (звычайна пра дзяцей). *Прачне́цца ду́нда, паду́ндзіць цы́цку й зноў сьпіць як (ак) пшані́цу прада́ўшы, так, браце́ ты мой, цэ́лымі су́ткамі – во жысьць чалаве́ку! Эй, ду́ндзік, хва́ціць ду́ндзіць, а то на другі́ раз малачка́ ні хо́піць. Такі́ ш ненае́днічак (нінае́жнічак), што хоць рабі́ яму́, як (ак) даўне́й рабі́лі, су́слу з хле́ба й цу́кру, ды ў падко́рмку дава́й. Даво́льно, смо́кта, табе́ цы́цкі смакта́ць, трэ́бо ўжэ за стол з ло́жкаю садзі́цца – бе́гаць ужэ́ ш навучы́ўсе(ся), дак і за стол пара́ з ло́жкаю.*

**ДЫБА́К** *м.*, **КРЫВЯНДА́** *агульн.*, **КРЫВУ́ЛЯ** *агульн.*, **ЛАГО́Ш** *м.*, **САХА́ ТУРЭ́ЦКАЯ**. Даўганогі, танканогі і крываногі чалавек (і мужчына, і жанчына, і дзіця). *Ні́быто сам дыба́к, а жо́нку спра́ўну(ю) ўзяў. Крыве(я)нда́ крыве(я)ндо́ю, а ў та́нцы раз за ра́зам су́нецца. Глядзі́, крыву́ля, а то выпраўлю табе́ твае́ лыгі* [ногі] *не́дзе ў цёмным кутку́ калі-не́будзь. Ідзі́, лаго́ш, атсю́лека, а то пало́мім табе́ твае́ крывы́е(я) лыгі. Ах, ты, саха́ турэ́цкая, ах, ты, крывянда́ нісусьве́тная, яко́й (яко́е) хале́ры табе́ ту́тако ні хапа́е, чаго́ ты, шэ́йна, раскрыча́лася, як (ак) та́я варо́на перад сьне́гам?!*

**Е́НТА** *агульн.*, **ПРО́СЯ** *агульн.*, **ПАПРАШУ́ХА** *агульн.* Папрашайка. *Хоць бы ўжэ ту́тако ні е́нчыла гэ́та е́нта, зарэ́ й сэ́рцо разарве́цца з такі́мі дзе́цьмі – от бо ўда́ча, от бо шча́сьце, у людзе́й і плот у кве́тках, а тут чортве́даме што. Адста́нь, про́ся, усераўно́ нічо́го ні дам! Папрашу́ха, папрашуха! Дошч ідзе – даро́га су́ха!*

**ЖА́ДЗІНА** *агульн.*, **ЖАДЗЮ́ГА** *агульн.*, **ШКАДАВЕ́КА** *агульн.*, **ШКАДО́БА** *агульн.* Скупянда; скнара. *Жа́дзіна – ні чалаве́к, а гаўня́дзіна, жадзюга – ні чалаве́к, а гаўню́га. Жа́дзіна ні на́ша, а дзя́дзіна. Шкадаве́ка, шкадаве́ка – ні чалаве́к, а паўчалаве́ка. Шкадо́ба – чалаве́к, хво́ры на скупе́чу, зайздро́сьць, зажы́мку.*

**ЖАРАЛО́** *агульн.*, **ПРЭ́ПХАЛО** *агульн.*, **ТРУБА́** *агульн.* Абжора. *Мой жарало́, здэ́цца, усе́нькі по́граб зара́з з'еў бы – такі́ апеці́т у чалаве́ка, пэ́ўно, гэ́то таксамо хваро́ба – е́сьці ні ў ме́ру. От, прэ́пхало! Нашто́ ж сто́лько пе́рці ў сябе́, гэ́то ш ні на по́льзу, а на ўрэд свайму́ здаро́ўю. Што ты ўсе тру́біш і тру́біш з ра́нку да ве́чара, разьнясе́ ак бо́чку, у дзьве́ры ні ўла́зіцьмеш, труба́ ты нінае́дна(я) (нінае́жна(я)!*

**ЗАПАСНЯ́К** *м.*, **НАЦЯ́ГІЧ** *м.* Палюбоўнік. *Брат ты мой, яна́ ні то́лько аднаго́ запасьняка́ ма́е – от сьвет пашоў! О, гэ́то нацяі́ч дак нацяі́ч: с адно́й днём, з друго́й ве́чарам, а но́чую з жо́нкаю – здаро́вы жарабе́ц, хале́ра лазя́ная.*

**ЗАЯ́ДА** *агульн.*, **ЗЛЮ́ЧКА** *агульн.*, **З'ЯД** *м.* Злоснік, злосны чалавек. *Ах сьці́снуў зу́бы, зая́да свае́, дак ажні́ заскрыпе́лі яны́. Хоць малы́, а злю́чка такі́: лу́піць усі́х чым папа́ло. Ні чалаве́к, здэ́цца, ак (як) зазлуе́ – уве́сь чырво́ны ро́біцца, ні́быто кроў зь яго́ пы́рскае. З'яд уве́сь сьвет з'е́сьці рад.*

**ЗІКРА́Ч** *м.*, **ЛУПА́Ч** *м.*, **БЯЛЬМА́Ч** *м.* Лупаты, зіркаты, з вялікімі вачамі чалавек. *Зікра́ч вылупіў сваé бéльмы да як* (*ак*) *закрычы́ць нéмым гóласам – мы ду́малі вар'я́т які́ аб'явíўсе*(*ся*). *Каб ні той лупа́ч, усé б прайшлó вéльмо гла́дко. Бельмача́мі завéм лупа́тых, лепш сказа́ць, лупавóкіх людзéй – і лупа́ценькіх, і бельма́ценькіх хлóпчыкаў.*

**ЗЛЁПАК** *м.*, **КУРДУ́ПЕЛЬ** *м.*, **ПУЗДЭ́РАК** *м.*, **ТАЎСТУ́САК** *м.* Малы, тоўсты, непаваротлівы чалавек; таўстун; таўстуха. *Ат, навырóджвала нéкіх злёпкаў, дак ніхтó ні то, штóбы за́муш узяў, алé й глядзéць у гэ́ты бок ні хóчэ. Куды́ ж ты, курду́пель, ці́сьнессе* (*ся*), *тут і тóнкаму ні пралéзьці, а ты сьляпíцаю лéзеш. А, пуздэ́рачак, ты мой, а, бóчачка ты мая́, круглéнькая. Куды́ ж ты наду́маласё* (*ся*) *пакаці́цца? Ба́цько – таўсту́сак і сын жэ ж крóпелькі пабра́ў: што ў шырыню́, што ў даўжыню́.*

**ЗУБА́Ч** *м.*, **ЗУБЕ́ЛЯ** *агульн.*, **ШЧАРБА́Ч** *м.*, **ШЧАРБЕ́ЛЯ** *агульн.* Чалавек з вялікімі ці шчарбатымі зубамі. *Бач, што цяпéрака зубадзёры* [стаматологі] *рóбяць: два-тры вялі́кіе*(*я*) *зубы́ рвуць, а на йіх мéсто рóўненькіе*(*я*) *тры-чатыры ста́вяць – і зуба́ч перастаé быць зубачóм. А ты, зубéля, закрый за́сланкаю свой рот, а то й ку́ры зь цябé сьмяя́цьмуцца, зьвяры́ бая́цьмуцца, лю́дзі па́льцамі пака́звацьмуць. Мужы́к – шчарба́ч, жóнка з дзéцьмі – шчарбé*(*я*)*лі, бо зу́бы ў йіх зь дзíркамі й шчарбíнамі.*

**КАЛМА́Ч** *м.*, **КО́ЛМЫК** *м.*, **КУДРА́ВЕЦ** *м.*, **КУ́ЧАР** *м.* Мужчына ці хлопец з кучаравымі валасамі. *Ідзі́, калма́ч, лепш падстрыжы́се*(*я*) *нагóло, а то ў тваé кучара́вые кóсы* [валасы] *скóро пылу стóлько наб'éцца, што й расчóска ці жанóчы грэ́бень ні вóзьмуць, кап рашчаса́цца табé. Мо пóсьле а́рміі ні бу́дзеш кóлмык, бо вóлас мо перастáне ві́цца* [кучаравіцца]. *Такí наш кудра́вец красаўчыкам бу́дзе, ак* (*як*) *вырасьце, што прóсто ўсе завíдавацьмуць. Падыдзі́-ка сюды́, ку́чар, дай паглядзéць: тваé гэ́то кóсы* [валасы] *ці куплёные*(*я*).

**КАПУ́ХА** *ж.*, **КУЛЁБА** *ж.*, **КУХМА́РКА** *ж.* Марудлівая жанчына; няздара. *Ну, кóлько ты бу́дзеш капа́цца, капу́ха ты нішча́сна*(*я*)*? Хадзéм, кулёба, хоць з табóю сéно зграбéм, бо вун з-за лéсу хма́ра су́нецца. А скажы́-ка нам, кухма́рка, кóлько ча́су ты бу́дзеш тут кухма́рыцца, калí ш нам éсьці падасí – ужэ́, пэ́ўне, і абéт кóнчыцца.*

**КАРА́ВЕЦ** *м.*, **КАРА́ВАЧНІК** *м.*, **МУРЗЭ́ЛЯ** *агульн.*, **НЕАХА́ЙНІК** *м.*, **СМЕРДЗЮХА́** *агульн.* Неахайны чалавек; мурза. *Ці кара́вец, ці кара́вачнік – сераўнó гразну́ля, нямы́цько. Ка́жэм шчэ й му́рза, і мурзэ́ля, і смурóт, і сьме*(*я*)*рдзюха́ – вапшчэ́ гэ́то чóрные*(*я*), *ніакура́тные*(*я*) *лю́дзі. Хібó ж сíлаю загна́ць гэ́тага ніахáйніка ў ба́ню – от вы́радак, от гультаíна, от лама́чына, от абібóчына! Сьмердзюха́ – гэ́то й грыб такí е, расьцé ў лéсі, лячэ́бны, прыéжджые*(*я*) *ягó называ́юць вясёлка ці йна́чай.*

**КАРА́КУЛЬ** *м.*, **НЕ́ЎДАЛЬ** *м.*, **НЯЗГРЭ́ДА** *агульн.*, **ПЫ́ПНА** *агульн.* Няўдаліца; затармажаны чалавек. *Кара́куль ак* (*як*) *та́я жа́ба, што лéзе на ку́піну: стараéцца ўверх, а па́дае ўнíс, усé ў ягó ва́ліцца з рук. Як нéўдаль дак ва ўсём нéўдаль: і ў рабóці, і ў вучóбі, і ў хадзé, і ў ядзé. А нязгрэ́да ж ты, а няўда́лое стварэ́ньне, а якóй жа ж халéры цябé туды́ ж панясло?! Ну, ні пыпнíсе*(*я*), *пыпна, так дóўго з гэ́таю картóпляю, усю́ ра́ніцу абíраé, абíраé і ніяк жэ ш ні наабíраé.*

**КАШЛА́Ч** *м.*, **КРАСЛА́Ч** *м.*, **КАЛАШМА́НЕЦ** *м.* Калашман; чалавек у доўгіх, шырокіх штанах. *Наштó табé кашла́ч, такíе*(*я*) *ганавíцы, ты ш у йіх ні пабяжы́ш, ні ўцячэ́ш, ак* (*як*) *трэ́бо бу́дзе ўцяка́ць. Красла́ч – гэ́то той, у кагó крэ́сло* [шырынка] *і калóшы* [калашыны] *вялíкіе*(*я*) *у ганавíцах. Ду́малі, што такí калашма́нец ні таньцава́цьме, а ён тóлько выбрыквае, ак* (*як*) *малады́ жарэ́бчык – от дзí во дак дзíво!*

**КРАСА́ЎКА** *ж.*, **КРАСО́ТКА** *ж.*, **КРАСУ́ЛЯ** *ж.*, **КРАСНАПЁРКА** *ж.* Прыгожая, моцная духам і целам, чырванашчокая дзяўчына ці жанчына. *Што краса́ўка, што краса́віца – нам сераўнó, абы йіх былó б пабóльш усю́ды, усíм на заглядзéньне. Красóтка й краса́віца – гэ́то больш па-ру́скі, мы скарэ́й ска́жэм красу́ня, красу́ля, краса́ўка, кра́сна дзéўка. Краснапёркай завём і ры́бу, і маладу́*(*ю*) *руха́ву*(*ю*) *і чырванамóрду*(*ю*) *дзéўку, так мóжэм назва́ць і сарамя́жную жэ́нчыну, бо яна́ пóсьле кóждаго ска́занаго слóва чырванéе й чырванéе, у яé быва́е на́вет лоб чырвóны, а пра мóрды* [шчокі] *і гавары́ць німа́ чагó.*

**ЛЕ́ЙБА** *агульн.*, **СМАРКЕ́ЛЯ** *агульн.*, **САПЛІ́ВЕЦ** *м.*, **САПЛІ́ЎКА** *ж.*, **САПЛЮ́К** *м.*, **САПЛЮ́ЧКА** *ж.* 1. Звычайна пра непаўналетніх (саплівых) дзяцей. 2. Чалавек невялікага росту і ўзросту. *Чаму́ твой, лéйба, нос мóкры і мóкры? Ці лéйба, ці смаркéля – адзíн чорт, адна́ халéра, смарка́ты й усé! Зімóю і я – саплíвец, і жóнка – саплíўка, а пра дзяцéй ужэ́ й німа́ чагó гавары́ць, бо ад йіх набíраемсе*(*я*) *гэ́тых сóпляў. Ашчэ́ саплю́к, а ўжэ фóрсы пака́звае. Ак была́ шчэ саплю́чкаю, дак чарадóю за мнóю хлóпцы хадзíлі – выбірáй кагó хоч, алé ж за выбíра́чку даé Бог гара́чку – от і вы́брала крывянду́ гэ́ту, каб яму́ лíха бóльшаго ні былó.*

**ЛЁПАЛО** *агульн.*, **ЛЁПАНКА** *агульн.*, **ЛЯ́ПАЛО** *агульн.*, **ПЛЯВУ́ЗГАЛО** *агульн.*, **ПЛЯ́СКАЛО** *агульн.* Балбатун, балбатуха; абгаворшчык, абгаворшчыца; пляткар, пляткарка. *Ніўжэ́ ж табé, лёпало, ні надаéло тут лёпаць сваíм языкóм абы-штó. Перастáнь, ля́пало, ля́паць усяля́кае пра дóбрых людзéй, ты ш мо й пяты́ йіх ні ва́рты, а абгавóрваеш на чым сьвет стаíць. Ну, ні плявý згай абы-чагó, плявý згало, ніўжó ж табé язы́к ні забалíць, каб ён нéчаго ўзяў ды адсóх, калí ты такí халéрны абгавóршчык. Ай, пля́скало, пля́скало, ні стыда́ ні сарама́ ні ма́еш, пля́скаеш і пля́скаеш сваíм дóўгім языкóм, каб ён табé ды аблéз.*

**ЛЫ́СМАН** *м.*, **ЛЫСУ́ХА** *ж.*, **ЛЫ́СІК** *м.* Чалавек з лысінай на галаве або зусім безвалосы (пераважна пра малых дзяцей). *Малады́, ста́тны, алé ўжэ ш лы́сман – абó вéльмо разу́мны, абó радыя́цыя валасы́*

*з’ела. І мала́я была́ лысу́ха, і вот стара́я ста́ла – дак зноў лысу́ха, хале́ра лазяна́я, ле́зуць не́чага валасы́, хоць і ма́жу ўся(е)ля́кімі мазі́дламі. Лысі́к – гэ́то ці мале́нькі безвало́сы хло́пчык, ці мале́нькі бычо́к або́ саба́чка з невялі́каю пралы́сінкаю.*

**МАЦЫЯ́** *агульн.*, **НАДУ́ЦЬКО** *агульн.*, **ФАНА-БЭ́РКО** *агульн.*, **ШТО-ТО-Я́** *агульн.* Задавака. *Така́*(я) *ш мацыя́, така́*(я) *ж персо́на – про́сто без фі́гі ні да но́са – от што тако́е быць нача́льнікам, ды й шчэ ні малы́м. Ого́, ужэ́ наду́ўсе, наду́цько, змоўк і на́вет у наш бок глядзе́ць ні хо́чэ – нача́льнік, па́не мой, у-ха-ха! Ідзі́ ад мяне́, фанабэ́рко, куды́ во́чы глядзя́ць, мне ўжэ даўно́ надае́лі ўсе твае́ вы́брыкі і фанабэ́рыі, каб за́ўтра ш я цябе́ ні ба́чыла ля сябе́. Што ж ты, мі́лы, задае́сь-се* (ся) *– што-то-я́ ды што-то-я́* (з прыпеўкі). *Гэ́то ж трэ́бо так задава́цца, што-то-я́ да што-то-я́ – так высо́ко нос задзіра́е і жэ́рдкаю ні даста́неш.*

**МУЦЕ́ЛЬ-КРУЦЕ́ЛЬ** *м.*, **ХЛУСЛІ́ВЕЦ** *м.*, **ХЛУСЛІ́ЎКА** *ж.* Падманшчык, манюка. *Ото́ ш му-це́ль-круце́ль, адне́куль ён узя́ўсе*(ся) *на на́шу го́лаў, мо яго́ ле́пей адпра́віць туды́, адку́ль ён з’яві́ўсе*(ся)*?! Хлуслі́ўцы лю́бяць пры́казку: хто хлу́сіць, той вып’е й заку́сіць, а хто пра́ўду ска́жэ, той так* (гало́дны) *спаць ля́жэ. А хлуслі́ўка, а падма́ншчыца: кру́ціць сваі́м ухажо́рам так, як* (ак) *ёй узду́маецца, шкада́ хло́пца, але́ ш ні пале́зеш разьбіва́ць па́ру, што чорт сто лапце́й стапта́ў, паку́ль ра́зам сабра́ў.*

**МЫ́МРА** *агульн.*, **МЫ́РМА** *агульн.*, **МУРМО́ЛЬ** *м.*, **МЫРМО́ЛЬ** *м.* Нелюдзь, маўчун. *Ну, што ты стаі́ш, як* (ак) *стату́й, скажы́ што-ні́бу́ць, мо ж ты ні мы́рма яка́я, а мо ты мы́мра, а ні мырма, ну, скажы́ ж, чаго́ ты сюды́ заяві́лася*(се)*? Хоць і мурмо́ль стары́, а на дзе́вак вача́мі стрыжэ́! Ідзі́-ка к нам у кампа́ню, мы й цябе́ разьвясе́лімо, хоць ты і мырмо́ль спрадве́ку.*

**МЯРЗЛЯ́К** *м.* **МЕРЗЛЯЧО́К** *м.*, **МЕРЗЛЯ-ЧО́ЧАК** *м.*, **МЯРЗЛЯ́ЧКА** *ж.*, **МЕРЗЛЯ́ЧЭЧКА** *ж.*, **МЕРЗЛЯЧЫ́НАЧКА** *ж.* Той, хто баіцца холаду (звычайна пра дзяцей). *А чаго́ ж гэ́то, наш мерзлячо́к, пасіне́ў – мо́цно хо́ладно ці так сабе́, ну, скажы́, ням-ко́, што-ні́будзь! Ах, ты ш мая́ мерзлячо́начка, ах, ты ш мая́ малюпа́сенечкая, замаро́зілі цябе́ ў гэ́той ха́це, сла́бо па́ле*(я)*чы, ну, за́рас ля́жэм ра́зам, я ж цябе́ й сагрэ́ю. Я ж сама́ мярзля́чка з усяго́ майго́ мале́нства.*

**НАДАЕ́ДНІК** *м.*, **НАДАЯ́ДА** *агульн.*, **СЛАТА́** *агульн.* Назола. *Вон адсю́лека, надае́днік, ні будзь та-ко́ю про́сяй* [папрашайкай], *а то ўсю́ды гна́цьмуць, як* (ак) *саба́ку лі́хого. Каб ні гэ́та надая́да, то мно́го б чаго́ за ве́чар зрабі́ла б. Адыдзі́, слата́, ні прыстава́й, бо пасаджу́ на 15 су́дак. Слато́ю быў малы́, слато́ю й заста́ўсе*(ся), *хоць і вы́рас.*

**НАЛІ́ВІЧ** *м.*, **НАЛІВА́ХА** *ж.*, **НАЧВА́Ч** *м.*, **ЦЫСТЭ́РНА** *агульн.* Празмерна тлусты чалавек (мужчына ці жанчына). *Здэ́цца, гэ́ты налі́віч налі́ты ве́ль-мо сьве́тлаю вадо́ю, бо ве́чарам ні́быто наэлектры-зава́ны, уве́сь, ак* (як) *ме́сяц, сьве́ціцца. А Ма́р’я така́*(я) *наліва́ха ста́ла, што, здэ́цца, палье́цца ско́ро зь яе́ ру-ча́ём і вада́, і яда́. От бо начва́ч надае́ў з гэ́тым ухажо́рствам: выхо́дзь да выхо́дзь, а куды́ ш мне ісці́, калі́ ш я яго́ палаві́на, а ні палаві́нка. О, бо́жухно-ба́цюхно, ніўжэ́ ты таку́ю ж цыстэ́рну чым напіха́ў – гэ́то ш вот-вот і ло́пне, залье́ усе́-ўсе́нькае.*

**НІСТРО́ПЦЯ** *агульн.*, **НЕ́ЗДАР** *м.*, **ХЛЮ́НДРА** *ж.*, **ФЛЮ́НДРА** *ж.* Няўмека. *Ко́лько ні жыве́, а ўсе ні́як ні наву́чыцца па-чалаве́чы е́сьці навары́ць – от ні-стро́пця дак нястро́пця. Быва́юць не́здары ні да чо́га – гаво́раць і то абы-я́к ці абы-што́. На́ша кварціра́нтка – справядло́ва*(я) *хлю́ндра – ні зва́рыць сабе́ пае́сьці і ні то, кап ашчэ́ нас паклі́кала, а бяжы́ць у кафэ́шку і сядзі́ць там усе́нькі ве́чар – ёй там усе́-ўсе́нькае гато́венькае падаю́ць.*

**НЯХЛЮ́ДА** *агульн.*, **ПРЫПРА́ТУХА** *ж.*, **ГУЛЬ-ТАЮ́ГА** *агульн.* Гультаяватая жанчына; гультайка. *І нашто́ ты браў таку́ю няхлю́ду нялю́дзкую. Ні сябе́, ні цябе́ ні глядзі́ць – абы́ дзень да ве́чара, абы́ то́лько спаць і спаць. А ад людзе́й усе́ чо́рнае прыпра́туха прыкры́е чым-ні́бу́дзь чысьце́йшым – і пара́дак, на яе́ ро́зум. А гультаю́га ж твая́ жо́нка, ну, як* (ак) *ты зь ёю жыве́ш, ці хоць раз сма́чно табе́ зварыла?*

**ПАНУ́РКО** *агульн.*, **УНУ́РКО** *агульн.*, **НЕЛЮ-ДЗІ́МЕЦ** *м.*, **НЕЛЮДЗІ́МКА** *ж.* Пануры, нелюдзімы чалавек, нелюдзь. *Пану́рко, пану́рко, а ве́ршаў і ка́зак мно́го ве́дае. Уну́рко – той, хто ў адно́ ме́сто заўсю́ды глядзі́ць. Сам нелюдзі́мец, дак і жо́нка ста́ла ніл́ю-дзі́мкаю, і дзе́ці навучы́лісе*(ся) *ад йіх быць нелюдзі́-мымі, на́вет, мо́жно сказа́ць, і ніл́ю́дзкімі.*

**ПАПО́НЯ** *агульн.*, **ШАРАМЭ́ТА** *агульн.*, **ШПЫ́-РА** *агульн.* Жанчына ці дзяўчына, апранутая абы-як. *Убярэ́цца папо́ня ўва ўсе чо́рнае, дак як* (ак) *мана́шка яка́я йдзе ў клуб. А шарамэ́та і шантрапа́ – адно́ й тое ж са́мае, бо адзяю́цца абы-я́к і адзёжа на йіх вісі́ць, як* (ак) *на пу́дзіле ў* (а)*гаро́дзе. Шпы́ра – то ба́ба, што адзёжа ў яе́ па зямлі́ ця́гнецца.*

**ПАРШЫ́ЎКА** *ж.*, **ПАХА́ТНІЦА** *ж.*, **ПАХА́ТУ-ХА** *ж.* Пахатуха; жанчына, што любіць бегаць па хатах, бавіць там час, абгаворваць іншых. *Паршы́ўка і няго́дніца – адно́ і то́е ж: адна́ – абгаво́ршчыца і бе́гае па ха́тах, друга́я – такса́мо. Ка́жэм: хто паха́-туха, а хто й паха́тніца пра лю́бячых ба́віць час у суседзя́ў. Паха́туха на́ват і ў пе́чы не пасьпе́е вы́-паліць, а бяжы́ць па сусе́дзях у абгаво́ры.*

**ПЛЯ́МКАЛО** *агульн.*, **АБГАВО́РШЧЫК** *м.*, **АБГАВО́РШЧЫЦА** *ж.*, **АБМО́Л** *м.*, **ПЛЯТНЯ́** *агульн.* Аматар (аматарка) абгаварыць; пляткар; пляткарка. *Ні пля́мкай абы-чаго́, пля́мкало, гэ́то ж табе́ ні за-бяга́лаўка, тут жэ ж сільсаве́т, тут жэ ш мілі́ца (-ыя) караву́ліць. Абгаво́ршчыкі й абмо́лы – ро́дные*(я) *браты́ й сёстры – йім пае́сьці ні дай, а дай папера-мыва́ць ко́стачкі. Ідзі́, абмо́л, адсю́лека, каб на́шы во́-чы цябе́ больш ні ба́чылі і ву́шы ні чу́лі тваі́х абмо́лаў. Ні пляці́, плятня́, нам плётак, як стары́ Халімо́н ла́пці пляце́.*

**ПРО́ЦІВЕНЬ** *м.*, **УПІ́РА** *агульн.*, **УЯ́ДА** *агульн.* Неслух; упірысты чалавек. *Куды́ ж ты, про́цівень,*

*пойдзеш, хто ж табе паможэ, ак (як) ні бацько ці маці, у чужым сьвеці цябе раз-два й пасадзяць. Ну, што, упіра, даўпіраўсе(ся), мо цяперака разумнейшы будзеш, як (ак) адседзеў 15 судак. А ўяда ш, а абармот, а непаслушнае дзіця расьце – што зь яго будзе, калі шчэ 10 год прыбудзе?*

**ПРЫЦЕЛЕПАК** *м.*, **ПАДЦІЛЁПАК** *м.*, **УСЛУЖЛІВЕЦ** *м.* Падлізнік; невялікі (часцей бясплатны) памочнік. *Каб то ж сам начальнік бэсьціў, а то ш яго бясплатны прыцелепак, рот разьзяўляе. Стаў некім падцілёпкам і ўжэ нос задраў, ужэ ходзіць, ні з кім ні здароўкаючысе(ся). Наш сусет у упраўленьні, дак там такі падхалім, такі ўслужлівец, а дома – справядловы барын, князь ці памешчык даўнейшы.*

**ПУЗАЧ** *м.*, **ПУЗЭЛЯ** *агульн.*, **КНЮХАЧ** *м.*, **КНЮХМАЧ** *м.*, **ТРЫБУХАЧ** *м.*, **ЧАРАВАЧ** *м.* Чалавек з празмерна вялікім жыватом («пузам», «кнюхам», «трыбухом», «чэравам»). *Ак становіцца начальнікам, дак робіцца пузачом – п'е і есьць ні ў меру, сядзіць седзьма ў сваім крэсьле, дрыжучы, каб ніхто ні адабраў, вот і пузее. А пузэля худзець пачала, мо і пузо зьлезе. Кнюхачы – часьцей за ўсе п'янтосы і абдзірантусы, йім абы кнюхо* [жывот] *чым-нібудзь пана-піхаць. І Якуб Колас называў начальнікаў-прыгняталь-нікаў трыбухачамі, бо і ў йіх былі вялізарныя жываты. Чаравач – родзіч чаравіку, бо яны без сьвіного чэрава жыць ні могуць, нідарэмно й сало пачароўкам завуць.*

**ПЯТНАЦЦАТКА** *ж.*, **ШАСНАЦЦАТКА** *ж.*, **СЯМНАЦЦАТКА** *ж.* 1. Дзяўчына ў 15-, 16-, 17-гадовым узросце. 2. Жанчына, якая любіць падмалоджвацца. *Ого, Мар'ё, ты сёнечы ўвабралася, к (ак, як) сямнаццатка (пятнаццатка, шаснаццатка). Ці ж прыстало табе, Аніліно, так убірацца: сераўно ж сямнаццаткаю (пятнаццаткаю, шаснаццаткаю) ужэ ні будзеш (ні станеш, ні зробісьсе, -ся)! Паглядзеце-ка, людзцы добрые(я), на яе: ну, просто пятнаццатка (шаснаццатка, сямнаццатка) к нам падышла. Ні рабі, Прусько, зь сябе сямнаццаткі – у цябе ж трое дзетак, яны ж самі ўсе бачаць і разумеюць, што ж ты йім скажэш, ак (як) яны вырастуць?!*

**РАБЭЙЗА** *агульн.*, **РАБАЦІННІК** *м.*, **ВЯСНУШАЧНІК** *м.*, **КАЦА РАБАЯ**. Чалавек з рабаціннем на твары. *Нека(я) рабэйза аднекуль з усяго сьвету прыехала і тутако намі камандуваць пачала. У цябе, суседачко, вялікі рабаціньнік, а ў мяне – маленькі, а ці ні думаеш ты, даражэнька(я), што гэто сыночак і яго бацечка?! Наш вяснушачнік вельмо выдзяляецца заўсюды посьле прыходу вясны. А гэта ж каца рабая ва ўсём вінавата(я), бо яна ж перша(я) падлезла пад яго, твайго мужанька, ха-ха-ха!*

**РАСКІДАЧКА** *ж.*, **РАСКІДОХА** *ж.*, **РАСКІДУХА** *ж.* Раскідлівая, неэканомная жонка. *Мая раскідачка раз-два раскідае і сваю, і маю зарплату на ўсякую дрысьцяліну* [танную матэрыю], *а потом у пазычку лезем да новай зарплаты – ніхай бы згарэло яно гарам такое жыцьцё, дальбох надаело, зьбег бы, здэцца, ды німашака куды. Раскідоха дак раскідоха, ну, дзе ты, братко, бачыў, каб сваю зарплату только на сябе траціла, а дзяцей жа ж трое, дзе ж гэта я адзін на чатырох выстарчу? Раскідуху б'юць па бруху.*

**РОЗДУР** *м.*, **РОСПУСТ** *м.*, **РЭСПУСТ** *м.* Раздураны, распушчаны чалавек. *Роздуру гэстаму што хоч у голаву стукне. Што ты, браце, такі роспуст, што скоро голые хадзіцьмуць, як (ак) тые папуасы. Рэспуст да рэспуста клоніцца – от так і шайкі ствараюцца, так і пагромы на могілках робяць.*

**РЫЛАЧ** *м.*, **РЫЛО СВІНОЕ**. Чалавек з непрыгожым тварам і непрыгожымі паводзінамі. *Сядзеў бы дзе ў кутку, рылач, а ты на людзі вылазіш да й камандаваць йімі рвесьсе(ся). Ну, рыло сьвіное, пачакай – прыдзе і на цябе ліхо, будзеш і ты канаць, але табе ніхто ні паможэ, бо ты нікому нічого людзкаго ні сказаў, нікому ні ў чым ні памог.*

**САЛЬНІК** *м.*, **САЛЬНІЧАК** *м.*, **САЛАЛЮБ** *м.* Чалавек, што любіць свіное сала, выгадаваўся на ім. *Было б сало, а сальнікі заўсюды будуць. Я хоць і сальнік, але й садавінаю ні брыдкую (ад садавіны ні адказваюсе). Мой бяззубы сальнічак так смокча сало, што соску й ні паказвай навет. Я й сам салалюп, і сям'я ўся сырое сало любіць: і з хлебам, і з картопляю, і з буракамі ўпрымешку ямо.*

**САПЛЁ** *агульн.*, **СМАРКЕЛЯ** *агульн.*, **ЛЕЙБА** *агульн.* Смаркач; сапліваe дзіця. *Куды ж ты, саплё, лезеш, ты ж паб'еш свой лобік, посьле плакацьмеш, бо будзе боля, ні лесь, мой коцік, не лесь, любачка мая. Чаго табе трэбо, смаркеля, ідзі адсюлека, тутако ўзрослые(я) сваё дзялы рашаюць. Ах, лейба, лейба, нашто табе было заводзіцца, далі ў нос, а цяперака й кроў булбаціць, і соплі цякуць, нівядомо што пярвей выціраць ці спыняць.*

**СЛЯПЕЦ** *м.*, **СЛЯПУНДРА** *ж.*, **КРОТ СЛЯПЫ**. Сляпы; чалавек са слабым зрокам. *Ці ш ні бачыш, сляпец, куды едзеш – тут жэ ж флянцы, а ты з сваёю таратайкай прэсьсе. От сляпундра, сляпундра, а такога хлопца выглядзела і прыбрала к свайім рукам. А ты, крот сляпы, куды глядзеў – няўжэ ш і цябе, сталаго й бывалаго, як (ак) маладзёнка абвялі кругом пальца?*

**СМЯРДЗЮХ** *м.*, **СМЯРДЗЮХА** *ж.*, **СМУРОДЗЬЕ** *агульн.* Неахайны чалавек; неахайны гурт; неахайная сям'я. *Сьмярдзюх і сьмярдзюха – вот табе й сьмярдзюча(я) пара. Смуродзье (смуроддзе) ўсялякае бывае: бывае й наеджжае, бывае й сваё. Адыдзі, смурод (сьмярдзюха).*

**СТРАХАТА** *агульн.*, **СТРАХАПУД** *м.*, **СТРАХАПУДЗІНА** *агульн.* Чалавек, што наводзіць страх адным сваім выглядам; чартаўшчына. *Ідзе, пане-браце, размалёваная такая, усенька(я) ў чорным, сама рыжа(я), пасмы матыляюцца, адзёжа расхлістана(я), таксамо матыляецца, рот ыгыгыкае, нібыто коні ржуць – вот табе ні чалавек, а страхата. Страхапудам называем чалавека, што абы-як адзяваецца, аброслы, не прычэсаны, адным словам, чартапалох.*

*Не прыту́львайсе*(*ся*), *страхапу́дзіна, ты й здалёк, ак* (*як*) *чартапало́х. Ні йдзі на гу́ліцу, страхапу́дзіна, цябе́ ш лю́дзі бая́цьмуцца, на дзяце́й перапу́т нападзе́, сядзі́ ле́пей до́ма й зале́чвай сваю́ мажджы́ру* (*макаты́ру*).

**СТРЫ́НҐЕЛЬ** *м*., **ДЖЫНДЖУГА́** *агульн*., **СКЛЮТ** *м*., **ХУДЭ́РБА** *агульн*., **ДАЎГА́ЙЛО** *агульн*. Тонкі, худы, даўганогі чалавек (часцей за ўсё жанчына). *Прые́хала но́ва*(*я*) *наста́ўніца, на такі́х высо́кіх абса́цах, ну, про́сто стры́нгель у мі́ні-суке́нцы. Што́-то твой мужанёк на склют ста́ў падо́бны, ці ні біркулёз у яго́ ўваліўсе*(*ся*). *Худэ́рба – гэ́то ве́льмо худы́ чалаве́к ці худа́я скаці́на. На дзе́ўку высо́кую і худу́ю ка́жам джындж уга́, а на тако́го ж хло́пца – даўга́йло.*

**СЦЯГА́Ч** *м*., **НА́БРЫДЗЬ** *м*., **НА́ЕДЗЬ** *м*., **ВАЛАЧА́ШЧАЕ АДРО́ДЗЬЕ**. Прыезджы, нетутэйшы чалавек. *Сьцягачы́ панае́халі, зе́млю ўсе́ньку*(*ю*) *засялі́лі, а на́шы пляцы́* [дадаткі да прысядзібных участкаў, звычайна ў полі] *чорт ве́дае* (*ве́дамо*) *куды́ перане́сьлі – вот і дапні́ цяпе́рака туды́ з балю́чымі нага́мі. А ўсяля́ка*(*я*) *на́едзь да на́брыдзь тут напрыяжджа́ла і кама́ндуе на́мі, як* (*ак*) *ёй узду́мецца – як дба́ем, так і ма́ем! Але́ ж гэ́тыя сьцягачы́, на́брыдзь, валацу́гі, братко́ ты мой, і вялі́кіе*(*я*) *зладзе́йкі і зладзе́і, ні раўну́ючы, як* (*ак*) *тыя*(*е*) *цыганы́ – усе́ яны́ ра́зам у нас называ́юцца валача́шчае адро́дзье.*

**СЯДУ́ХА** *агульн*., **СЕ́ДЗЕНЬ** *м*., **СЕ́ДНЕКША** *агульн*. Сядун; гультай; абібок; дармаед; лайдак. *Сяду́ха – гэ́то той, хто лю́біць то́лько сядзе́ць і ляжа́ць, адны́м сло́вам, гультаі́на. Сяду́ха – гэ́то й жо́нка седуна́. Се́дзень се́дзьма сядзі́ць і ніч о́го ні хо́чэ рабі́ць. Се́днекша – жо́нка се́дзяня, што се́дзьма сядзі́ць і ду́мы ду́мае.*

**СЯ́КЕЛЬ** *м*., **СМЯЛЕ́Ц** *м*., **СМЯЛЯ́К** *м*. Смяльчак; спрытнюга. *Ся́кель ле́зе напрало́м, але́ ж даўсю́ды свайго́ даб'е́цца. Каб ні быў сьмяле́ц, ні быў бы ўдале́ц. Хоць і сапля́к, але́ аччайны і сьмяля́к. Сякта́к, абы-я́к, а ён, глядзе́це, які́ ж сьмяля́к. Сьме́ласьць гарады́ бярэ́, а сьме*(*я*)*лякі́ пе́ршые*(*я*) *гі́нуць.*

**ТАРАПА́Ч** *м*., **ТАРАПЕ́ЛЬ** *м*., **ТАРАПУ́Н** *м*. 1. Палахлівец. 2. Баязлівы ці няўрымслівы чалавек. *Ну, чаго́ ты, тарапа́ч, рве́сьсе*(*ся*), *куды́ ты сьпяшы́ш, хібо́ ні ве́даеш пры́казку*: *«Хто сьпяшы́ць, той людзе́й сьмяшы́ць». Тарапе́ль паляце́ў ужэ́, ве́чно ў яго́ вача́х ці галаўні́ тарапачы́ ме́чуцца. Тарапу́н, тарапу́н схапі́ў ба́бу за каўту́н і панёс і панёс аж да са́менькіх калёс.*

**ТАЎКА́Ч** *м*., **ШАРАМЕ́ТА** *агульн*., **ШМО́ЙЛО** *агульн*. Чалавек, які снoўдаецца без справы і замінае іншым у рознай рабоце. *Ну, ні таўчы́ся тут, таўка́ч, а то за́рэ вадо́ю абалью́ ці мо́краю ану́чаю пля́сну. Шараме́та, ідзі́ сюды́, дам табе́ рабо́ту – бу́дзеш за мно́ю памы́і забіра́ць і выно́сіцьмеш вон, пад ту́ю лі́пку, мо лепш расьці́ме. Чаго́ то́пчасьсе, шмо́йло, безь дзе́ла – ах ты, бяссо́весны бязьдзе́льнік, ашчэ́ кры́вісьсе(я), што пра́ўду сказа́ла. Ідзі́ лепш ад мяне́ да свае́ шмо́йліхі, а то паду́мае, што ў нас – любо́ў.*

**ТАЎСЦЕ́ЛЬ** *м*., **ТАЎСЦЮ́ЛЯ** *ж*., **ТАЎСЦЕ́ЛЯ** *ж*., **ТАЎСТУ́САК** *м*. Таўстун; празмерна тоўсты чалавек (мужчына, жанчына, дзіця). *Таўсьце́ль, таўсьце́ль, а ця́гне ў пасьце́ль. Была́ «Насьцю́ля», а по́сьле ста́ла «Таўсьцю́ля». Зьлёпак ні зьлёпак, а не́кі таўсту́сак – от вы́радзілі*: *які́е*(*я*) *са́мі, такі́е*(*я*) *й са́ні.*

**ХАМЛО́** *агульн*., **ХАМУ́ЦІНА** *агульн*., **ХА́МЧЫШЧЭ** *агульн*. Хам, хамула (пераважна пра грубага мужчыну). *От хамло́ дак хамло́! Гэ́то ж трэ́бо на жэ́ншчыну руку́ падня́ць, ажні́ да сіняко́ў зьбіў, а шчэ што сло́вамі вычвара́ў да вычаўпля́ў – і́сьцінны хам, на́вет ха́мчышчэ ў са́май высо́кай ступе́ні. Скажы́, хаму́ціна, што я табе́ ні дагадзіла, чаго́ ты мяне́ бэ́сьціш пе́рад усе́нькім наро́дам, чаго́ табе́ недаляга́е, грубія́н ты гэ́дакі-ўсяля́кі!*

**ХТО́КАЛО** *агульн*., **ШТО́КАЛО** *агульн*., **ХТО́ЦКІ** *м*. Чалавек, які любіць перапытваць ці паўтараць пытанні «хто?», «што?» – *«Хто-хто́ там хво́ю ўкраў?» – «Маўчы, хто́кало!» – «Учо́ра не́хто сту́каўсе ў дзьве́ры» – «Хто? хто?» – «Мо ты, хто́кало?» – «Вот узялі́ мо́ду хадзі́ць на магі́лкі дапіва́ць і даяда́ць, што пакіда́юць нябо́жчыкам!» – «Хто? хто?» – «Мо́жэ ж ты, хто́цкі!» – «Што? што?» – «Маўчы́, што́кало!»*

**ХУДЭ́РБА** *агульн*., **ХУДЗІ́ЗНА** *агульн*., **ХУДО́БА** *агульн*. Вельмі худы чалавек. *Есьць жэ ш ні ў ме́ру, а худэ́рба – от бо го́рэ*: *ён есьць і яго́ не́што есьць, хібо́ мо які́ салітэ́р завёўсе*(*я*) *ці яка́я шчэ хале́ра ўвалі́лася*(*сь, се*) *на на́шу го́лаву* [галаву сям'і]. *Герст, худзі́зна, і ты вы́білася ў лю́дзі – ну, цяпе́ рака зажывём*: *сваё ш нача́льства! Худо́баю жывёлу ні завём, а то́лько худы́х людзе́й, асо́бенно маладых. А худа́я жывёла, скаці́на – гэ́то шкіле́ты, шка́фы, шку́ра ды ко́сьці.*

**ЦЕЛЯПА́ЙЛО** *агульн*., **ЦЕЛЯПЕ́Й** *м*., **ЦЯЛЕ́ПУХА** *ж*. Целяпень; цямця-лямця. *Гаво́рым і целяпа́йло, і патулёпак пра тых, хто ні мо́жэ самасто́йна жыць і трудзі́цца, часьце́й пра дзяце́й, што дзяржа́цца за ма́церыну спані́цу. Хоць целяпе́й, але́ ш у па́ры ляпе́й. Целяпе́й – няўда́лы му́жык, а цяле́пуха – яго жо́нка, така́*(*я*) *ш, ак* (*як*) *і ён – не́ўдаль.*

**ЦЫЦО́ХА** *ж*., **БУ́ФЕРНАЯ БА́БА**. Жанчына з вялікім бюстам. *Ах, цыцо́ха дак цыцо́ха – по́ўны па́зухі цыцо́к* (з мясцовай частушкі). *Ране́й цыцо́хі хава́лі свае́ буфера́, а цяпе́рака выстаўля́юць напака́з, ганару́юцца і́ймі. Бу́ферная ба́ба ўсіх мужыко́ў зво́дзіць з то́лку, ро́біць пачці што́ сумашэ́чымі, хто п ля яе́ ні пакруці́ўсе*(*ся*), *на́вет абы загавары́ў, то й папа́ўсе.*

**ЧМО** *агульн*., **П'ЯНЬ** *ж*., **П'ЯНТО́С** *м*., **СУСТРУ́ПС** *м*. Чмут; ашуканец; п'яніца; прайдзісвет. *Ой, бо́жачко, за што ж ты мяне́ пакара́ў гэ́тым чмом, за што ж ты мяне́ наказа́ў, што п'е, по́куль не засьне́, а к* (*як, ак*) *прачне́цца, дак зноў дава́й, дзе хоч вазьмі́, хоць рассы́пce драбне́й ма́ку, але́ дава́й. Наз'яжджа́лася п'янь с усяго́ сьве́ту, ні дзе́ла ні рабо́ты, то́лько ля мага́зіна й таўку́цца. П'янто́с пакра́сіў свой нос. Суструпс заўсю́ды даста́не вы́піць, яку́ю ён сі́лу над людзьмі́ ма́е – то́лькі Бо́гу знаць.*

**ЧЫСЦЮ́ХА** *агульн*., **ЧЫСЦЮ́ЛЯ** *агульн*., **СВЯТО́ЧНІЦА** *ж*., **ЧЫСТАПЛО́ТНАЯ ДА́МА**, **СПРАВЯДЛІ́ВАЯ ДАМА́ХА**. Чысцёха; жанчына, што

вельмі любіць чысціню і парадак ва ўсім; сапраўдная гаспадыня. *Часьце́й гаво́рым чысьцёха, але́ ска́жэм і чысьцю́ля, і чысьцю́ха, су́месь белару́скаго з ру́скім. У сьвято́чніц заўсю́ды чыстата́ й пара́дак, як (ак) у сьвя́та ў некато́рых. Пра такі́х сьпява́ем прыпе́ўкі ўродзі гэ́тай*:

*Чы́сты сам, чы́сту ўзяў,*
*Чы́сты поп павяньча́ў…*
*Чы́ста му́зыка йігра́ла,*
*Чы́ста й ба́ба танцава́ла.*

*Чыстапло́тнымі да́мамі называем усі́х чысьцёх, асо́бенно калі́ хва́лім ці падхва́льваем йіх. Справядло́вая дама́ха – гэ́то та́я ж чыстапло́тная да́ма, але́ то́лько яна́ до́ма сядзі́ць і глядзі́ць за чыстато́ю і пара́дкам, а на рабо́ту ні хо́дзіць. Ашчэ́ мы такі́х называ́ем справядло́вымі гаспады́нямі, бо ў йіх і ў ха́ці пара́дак, і на дварэ́, і ў агаро́дах, і ў хлява́х, адны́м сло́вам, усю́ды-ўсю́ды.*

**ШКРЭ́БА** *агульн.*, **ШКРЭ́БАЛО** *агульн.*, **ШЛЭ́ПА** *агульн.*, **ШЛЭ́ПАЛО** *агульн.* Той, хто ходзіць, шкрабаючы (шлэпаючы) абцасамі ці падэшвамі. *Зьмяні́ў бы ты, шкрэ́ба, сваé бо́ты на ме́ншы разме́р – і ні шкрэ́баў бы ту́тако. Адыдзі́, шкрэ́бало, ні заміна́й, бо мне спе́шно трэ́бо на рабо́ту ісці́. Шлэ́па ці шлэ́пало – адзі́н чорт, шлэ́паюць абува́ньнем – і больш ні́чого ні ве́даюць, ніўжэ́ ж ця́жко вышэ́й нагу́ падня́ць?*

**ШЛЁМА** *агульн.*, **СО́ВАЛО** *агульн.*, **СО́ВАНКА** *агульн.*, **СО́ЎГАЛО** *агульн.* Той, хто сноўдаецца без справы; латруга. *Прэч адсю́ль, шлёма, ні надаяда́й, ні прыстава́й, бо пасаджу́. Ой, со́вала, ду́мала, што сёнечы ты ні прысу́несьсе(ся), а ты тут як тут, такі́ лёгкі на ўспамі́н. Ідзі́, со́ванка, лепш на любу́ю рабо́ту, хоць не́што ды заро́біш, а то гро́шы пацяку́ць на крадзе́ж. Ах, со́ўгало, со́ўгало, стыт і со́рам – жо́нка на рабо́це, а ён хо́дзіць паўз платы́, ак (як) той саба́ка, вынюхвае, каб дзе чым бяспла́тным пажыві́цца.*

**ШЧАРБА́Ч** *м.*, **ШЧАРБЕ́ЛЬ** *м.*, **ШЧЭ́РБА** *агульн.* Чалавек са шчарбінамі ў зубах або зусім без зубоў. *Малады́м быў дак і зу́бы нарма́льные(я) былі́, а як пастарэ́ў, дак і шчарбачо́м стаў. Шчарбе́ль шчарбялём, а мя́со й каўбасу́ прэ аж пыл куры́ць, то́лько падава́й. Шчэ́рба я з ро́ду, зу́бы крышы́лісе, крышы́лісе, по́куль ні павыкры́швалісе.*

**ЫГЫ́КАЛО** *агульн.*, **ПАДДА́КВАЛО** *агульн.* 1. Падбрэхіч. 2. Той, хто часта гаворыць «ыгы», «да». *Ні ыгы́кай, ыгы́кало, а скажы́ так, як усе́ лю́дзі гаво́рацьь: ты «за» ці «супроць»? Ах, падлі́знік, ах, падда́квало, ніўжэ́ ж ты ду́маеш, што твае́ падда́кваньйе ўжэ ні абры́дло ўсім? – Ыгы́! Вот іду́ сабе́ і ўсяля́кае ду́маецца – ыгы! – А што калі́ ашчэ́ рас рызыкну́ць: узя́ць да зноў ажані́цца, мо б паспакайне́ў. – Ыгы́! – Ой, маўчы́, ыгы́кало! Калі́ зь пе́ршаю ні ўжыўсе, то друга́я ў пятлю́ заго́ніць, паба́чыш, што пра́ўду каза́ла, як (ак) во́зьмесьсе(ся) за вяро́ўку. Падда́квай, падда́квало, падда́квай, але́ сераўно́ на яго́ нача́льніцкае ме́сто ні ся́дзеш, ніхто́ цябе́ туды́ ні пу́сьціць.*

**ЯЗУ́САК** *м.*, **ХРЫСТО́САВЕЦ** *м.*, **БАГАЛЮ́БЕЦ** *м.* Вернік; чалавек, які па-сапраўднаму верыць у Бога (Хрыста). *А язу́сак – справядлі́вы чалаве́к, ні падма́ньшчык, ні грахаво́днік, ні скупяньдзя́. Хрысто́савец на́ват і ні ў цэ́ркві, але́ хрысьці́цца: і перад ядо́ю, і перад даро́гаю, і перад рабо́таю, і перад сном. Цяпе́рака ўсе багалю́бцамі ста́лі, а ў Саве́цкім Саю́зі за гэ́то перасьле́давалі.*

**ЯРЧА́К** *м.*, **СПАДНІ́ЧНІК** *м.*, **СПАНІ́ЧНІК** *м.*, **ДЗЕВАЧУ́Р** *м.* Аматар жаночага полу. *Ярчакі́ без баб жыць ні мо́гуць. Спані́чнік – гэ́то той жэ ж са́мы ба́бнік. Дзевачу́р часьце́й за дзе́ўкамі ганя́ецца. У нас і браньдзю́шку сьпява́юць*:

*Дзевачу́р, дзевачу́р,*
*Ты зь дзяўка́мі ні начу́й:*
*Цябе́ дзе́ўкі абману́ць,*
*Да й і ў суд шчэ пададу́ць.*

*Т. А. Кісель*

## ДЫЯЛЕКТНЫЯ НАЗВЫ ЛЕКАВЫХ РАСЛІН НА ПІНШЧЫНЕ

Са старажытных часоў чалавек вывучаў і вывучае багаты і разнастайны свет раслін. Шматгадовыя назіранні за флорай дазволілі яму выявіць карысныя якасці шматлікіх раслін і прымяняць іх пры лячэнні розных захворванняў. Звесткі аб выкарыстанні гаючых уласцівасцей раслін можна знайсці ў помніках старажытных культур – егіпецкай, грэчаскай, кітайскай і інш.

Сёння фітатэрапія (лячэнне раслінамі і прэпаратамі з іх) пашырана не толькі ў народнай, але і ў афіцыйнай медыцыне. Лекавыя травы і расліны паспяхова прымяняюцца ў якасці натуральных крыніц каштоўных фармакалагічных рэчываў. Збор і аналіз дыялектных назваў лекавых раслін у розных мясцовасцях Беларусі можа быць карысны не толькі для філолагаў, але і батанікаў, медыкаў, фармацэўтаў, паколькі часта самі фітанімічныя найменні ўказваюць на выкарыстанне расліны пры лячэнні тых ці іншых захворванняў.

У артыкуле даюцца дыялектныя назвы лекавых травяністых раслін, зафіксаваныя ў розных вёсках Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Прадстаўлены матэрыял часткова сабраны асабіста

аўтарам у час спецыяльных абследаванняў населеных пунктаў Піншчыны, а таксама выбраны з раней апублікаваных лексікаграфічных і дыялекталагічных прац.

Зафіксаваныя найменні пададзены ў выглядзе невялікага ідэаграфічнага слоўнічка.

Лекавых раслін налічваецца не адна сотня, таму прыводзяцца адпаведнікі далёка не да ўсіх раслін, што распаўсюджаны сёння ў межах Пінскага раёна. Аднак і прадстаўлены матэрыял паказвае, наколькі арыгінальная і разнастайная народная батанічная наменклатурная лексіка аднаго з невялікіх рэгіёнаў Брэсцка-Пінскага Палесся.

**Адуванчык лекавы**

МОЛОЧА́Й *м.* (АЛА, Азарычы; ЛП, Лапацін). МОЛОЧЭ́Й *м.* (ЛАБНГ, Ласіцк). ОДУВА́НЧЫКІ *мн.* *Одува́нчыкі вжэ отцвылы́, пух літа́е* (Мат. апыт., Хлябы).

**Аер звычайны**

АІ́Р *м.* *Аі́р ра́ншэ апте́ка бра́ла* (Мат. апыт., Хлябы). ЯІ́Р *м.* *Яі́р на ліка́рство хоро́шы* (Мат. апыт., Лапацін). ЯРЭ́Й *м.* *Бач, які́ ярэ́й вы́рос. Трэ́ба на свя́то яр'ю нарва́ты* (ЖНС, Каўняцін). РАБРЭ́Й *м.* *Пуд Тру́йцу усю́ ха́ту посыпа́ють рабрэём* (ДСБ, Пінкавічы). ЛЕ́ПЭХ *м.* *Ні́колі ха́ту вы́шкрэбэш дэркачо́м, постэ́леш хо́днікі, а пото́м шчэ й ле́пэхом посы́плеш, коб бло́хей нэ було́* (Прыгодзіч, Лышча). ЛЭ́ПІХ *м.* (ЛП, Лапацін). ЛЭ́ПЭХ *м.* (ЛАБНГ, Ласіцк). ПЛАШНЫ́К *м.* (Аркушын, Камень). ПЛЕШНІ́К *м.* (ЛП, Лапацін).

**Арляк звычайны**

ПА́ПОРОТЬ *ж.* *Па́пороттю заро́с весь ліс* (Мат. апыт., Лагішын).

**Бабок трохлісты, бабоўнік**

БОБІ́ВНЫК *м.* (ЛАБНГ, Сушыцк, Ласіцк). БОБІ́ЎНІК *м.* (ЛП, Лапацін).

**Багун балотны**

БАГУ́Н *м.* (ЛАБНГ, Ласіцк; Мат. апыт., Лапацін). БАГУ́ННЫК *м.* (ЛАБНГ, Сушыцк).

**Буквіца лекавая**

ЗЛО́ТНЫК *м.* *Зло́тнык – ле́кова рослы́на* (Мат. апыт., Лагішын).

**Валяр'ян лекавы**

ВАРВЯ́НКА *ж.* (ЛП, Лапацін). ВЫРЫВ'Я́НКА *ж.* *Вырыв'я́нку су́шать і от сэ́рца п'ють* (Мат. апыт., Лапацін).

**Васілёк сіні**

ВАСЫЛЁК *м.* (АЛА, Месяцічы). ВОЛО́ЖКА *ж.* *У жы́те мнэ́го воло́жкі ростэ́* (ШАТАЛАВА, Азарычы). ВОЛО́ШКА *ж.* *Воло́шка по жы́ті ростэ́. Воло́шка ростэ́ на по́лю, у пшэны́цы* (ЛАБНГ, Сушыцк, Ласіцк; Мат. апыт., Ганчары, Лагішын, Лапацін). ВОЛО́ШКІ *мн.* *Воло́шок нарва́ла* (Мат. апыт., Хлябы).

**Ваўчкі трохраздзельныя**

ВОЎЧКІ́ *мн.* *Воўчкі́ ко́люцца* (Мат. апыт., Хлябы). ВОВЧКЫ́ *мн.* (ЛАБНГ, Сушыцк). ВОЎЧКЫ́ *мн.* *Воўчкы́ росту́ть у лі́су* (Мат. апыт., Лагішын). ВОВЧУНЫ́ *мн.* (ЛАБНГ, Ласіцк).

**Гарлачык жоўты**

БА́НЬКА *ж.* (ЛП, Лапацін).

**Дзіванна звычайная**

ДІВІНА́ *ж.* (ЛП, Лапацін). ДЫВЫНА́ *ж.* *Дывына́ высо́ка, жоў́тым цвітэ́* (Мат. апыт., Лапацін).

**Драсён перцавы**

ДРОСЁН *м.* (ЛАБНГ, Ласіцк). ГОРЧА́К *м.* (ЛАБНГ, Сушыцк).

**Дуброўка прамастаячая**

ДЫРЫВ'Я́НКА *ж.* (Мат. апыт., Лапацін).

**Журавіны балотныя**

ЖУРАВІ́НЫ *мн.* (ЛП, Лапацін). ЖУРАФЫ́НЫ *мн.* *Журафы́н у нас ныма́* (Мат. апыт., Лапацін). *Лі́том ча́сто ходы́ла у ліс по я́годы, во́сэнню по журафы́ны* (ДСБ, Парэчча; Мат. апыт., Ганчары). ЖУРАХВЫ́НЫ *мн.* *Ма́ты пошла́ збыра́ты журахвы́ны* (ДСБ, Лісяцічы; ЛАБНГ, Сушыцк, Ласіцк).

**Жывакост лекавы**

ЖЫВОКІ́СТ *м.* (Мат. апыт., Лапацін). ЖЭВОКЮ́СТ *м.* (ЛП, Лапацін).

**Казялец едкі**

ЗОЗУ́ЛІН ЛЁН (ЛАБНГ, Ласіцк). ЛА́СТОЎЧІН ЛЕНО́К (ЛП, Лапацін). СЛЭПОТА́ *ж.* (ЛАБНГ, Сушыцк, Ласіцк).

**Календула лекавая, наготкі**

СЭ́РПЫКЫ *мн.* *Сэ́рпыкы шчэ у мынэ́ ны зво́дяцца* (Мат. апыт., Лапацін).

**Канюшына лугавая**

КОНЮШЫ́НА *ж.* (ЛАБНГ, Сушыцк, Ласіцк). РО́ЗОВА КОНЮШЫ́НА (Мат. апыт., Лапацін). СМОКТУ́ШКІ *мн.* (ЛП, Лапацін).

**Кмен звычайны**

ДЫ́КЫЙ КРОПЭ́Ц (ЛАБНГ, Ласіцк).

**Крываўнік звычайны**

КРЫВА́ВНЫК *м.* (ЛАБНГ, Сушыцк, Ласіцк). КРЫВАВНЫ́К *м.* *Крывавны́к у нас тут ростэ́* (Мат. апыт., Лапацін; ЛАБНГ, Ласіцк).

**Ландыш майскі**

ЛА́НДЫШ *м.* *Ла́ндыш пуд ха́тою ростэ́* (Мат. апыт., Ганчары, Лапацін).

**Малачай кіпарысавы**

МОЛОЧА́Й *м.* (Мат. апыт., Ганчары, Хлябы).

**Мацярдушка звычайная**

ТЫРЫ́НКА *ж.* (АЛА, Азарычы).

**Мята**

МЯ́ТА *ж.* *Мя́та ростэ́ у нас* (Мат. апыт., Лапацін).

**Падбел звычайны**

БЕСМЕ́РТНІК *м.* (ЛП, Лапацін).

**Падтыннік вялікі**

ЧЫСТОТІ́Л *м.* (Мат. апыт., Лапацін).

**Палын горкі**

ПОЛЫ́НЬ *м. Полы́нь світле́йшы* (Мат. апыт., Лапацін; ЛАБНГ, Сушыцк). ПОЛЫ́НЬ *ж.* (ЛАБНГ, Ласіцк; АЛА, Азарычы, Месяцічы).

**Першацвет вясенні**

БУСЬКО́ВЫ ЛЭ́ПІХ (Мат. апыт., Лапацін). КЛЮ́ЧЫКІ *мн. Ве́льмо красі́вые клю́чыкі* (Мат. апыт., Лагішын).

**Піжма звычайная**

ПІ́ЖМА *ж. Пі́жма от глісты́ў помага́е* (Мат. апыт., Лапацін). ГЛІ́СНЫК *м. Кві́ткі глі́сныка ма́юць жо́вты цвіт* (Мат. апыт., Лагішын). ЦЫТВА́Р *м.* (ЛАБНГ, Ласіцк). ЦЭТВА́РНЫК *м.* (ЛАБНГ, Ласіцк).

**Пырнік паўзучы**

ПЫ́РЭЙ *м.* (Мат. апыт., Лагішын). ПЫРЭ́Й *м.* (ЛАБНГ, Ласіцк). СУ́ВОЛОКА *ж.* (Мат. апыт., Ганчары Пін.; ЛАБНГ, Сушыцк, Ласіцк). СУ́ВУЛУКА *ж. Су́вулука ця́гнецца у землі́* (Мат. апыт., Лапацін).

**Рамонак лекавы**

РОМА́ШКА *ж.*, РОМА́ШКІ *мн.* (Мат. апыт., Ганчары, Лапацін, Хлябы). РУМЯ́НОК *м.* (ЛП, Лапацін).

**Рамонак пахучы**

РУМЯ́НОК *м.* (ЛП, Лапацін).

**Святаяннік прадзіраўлены**

ЗВЕРОБО́Й *м. Зверобо́й по отко́сах ростэ́* (Мат. апыт., Лапацін). *Зверобо́й на по́лі ростэ́* (Мат. апыт., Ганчары, Хлябы). ЗВЭРОБО́Й *м.* (ЛАБНГ, Ласіцк). ПОДГРУ́ДНЫК *м.* (ЛАБНГ, Ласіцк). ВЫШНЁВЭ ЗІ́ЛЛЕ (ЛАБНГ, Ласіцк). ІВА́НОВА ГОЛОВА́ (ЛАБНГ, Сушыцк).

**Спарыш звычайны**

ГРУДО́К *м.* (Мат. апыт., Лапацін). ГУСЯ́ТНЫК *м. У дворы́ вы́рос гуся́тнык* (Мат. апыт., Лагішын). СПОРЭ́Ц *м.* (ЛАБНГ, Ласіцк).

**Стрэлкі звычайныя**

ПАСТУХО́ВА СУ́МКА. *Всэ по́ле заросло́ пастухо́вою су́мкою* (Мат. апыт., Лагішын). ПАСТУ́ШЬЯ СУ́МКА. *Пасту́шья су́мка бы кліно́чком ростэ́* (Мат. апыт., Лапацін).

**Суніцы лясныя**

СУНІ́ЦЫ *мн.* (АЛА, Азарычы, Месяцічы; ЛП, Лапацін). СУНЫ́ЦЫ *мн.* (ЛАБНГ, Ласіцк, Сушыцк). СЫНЫ́ЦЫ *мн.* (ЛАБНГ, Ласіцк).

**Трыпутнік ланцэталісты**

ПОДОРО́ЖНІК *м.* (ЛП, Лапацін). РА́ННІК *м. Ра́ннік – шчо ра́ны го́іть* (Мат. апыт., Лапацін; ЛП, Лапацін).

**Фіялка трохколерная**, **браткі**

БРА́ТКІ *толькі мн. Бра́ткі на ліка́рство до́брэ* (Мат. апыт., Лапацін).

**Хвошч палявы**

ХВОШЧЭЯ́НКА *ж.* (ЛАБНГ, Сушыцк). ХВОШШЯ́ЙКА *ж.* (ЛП, Лапацін). ХВОШЧА́ЙКА ПОЛЯНА́Я. *Хвошча́йка на по́лі поляна́я* (Мат. апыт., Лапацін; ЛАБНГ, Ласіцк). РОСО́ХА *ж. (*ЛАБНГ, Сушыцк).

**Хрэн звычайны**

ХРЭН *м.* (Мат. апыт., Ганчары, Лапацін).

**Цмен пясчаны**

БЕССМЕ́РТНІК *м. Бессме́ртнік на зыму́ не вміра́е* (Мат. апыт., Хлябы).

**Чабор звычайны**

ШЧЫБРЭ́Ц *м.* (ЛАБНГ, Сушыцк). ШЧЭБРЭ́Ц *м.* (ЛАБНГ, Сушыцк). ШШЭБРЭ́Ц *м.* (ЛП, Лапацін). ШЧЭБРУ́ШКА *ж.* (ЛАБНГ, Ласіцк).

**Шчамяліца**, **медуніца лекавая**

СМОКТУ́ШКІ *мн. Смокту́шкі ке́дысь прыма́лы на ліка́рство* (Мат. апыт., Лапацін).

**Шчаўе конскае**

КО́НЬСКІ ШЧАВЭ́Й. *Ко́ньскі шчавэ́й збіра́ем от поно́са* (Мат. апыт., Лапацін).

**Асобныя скарачэнні крыніц фактычнага матэрыялу**

Прыгодзіч – Прыгодзіч, М. Р. «Дзе хвалі ціхаплыннай Вісліцы...»: з лексікі гаворкі вёскі Лышча / М. Р. Прыгодзіч // Роднае слова. – 2003. – № 1. – С. 35–39.

Аркушын – Аркушин, Г. Л. Словник західнополіських говірок: у 2 т. / Г. Л. Аркушин. – Луцьк: Волинський ун-т, 2000. – Т. 1.– 354 с.; Т. 2.– 458 с.

*М. Н. Крыўко*

## З ДЗІСЕНСКАЙ ГАВОРКІ

**АБАЗВО́ЛІЦЦА** *зак.* Вызваліцца ад лішняга грузу, разгрузіцца. *На́да тро́ху абазво́ліцца, скі́наць з плеч гэтыйі хатулі́.*

**АБАКРЫ́ЦЬ** *зак.* Абапнуць, накрыць. *Абакры́й мало́га, дож жа брызга́йіць.*

**АБАКУ́ЛІЦЬ** *зак.* 1. Абгаварыць, зняславіць. *Абаку́лілі мяне́, абнісла́вілі, адурні́лі, во як гэ́та ёсь.* 2. Абмануць; абакрасці. *Абаку́лілі вот чалаве́ка, круго́м па́льца абвялі́. Ён ба́бу абаку́люў, абабра́ў і ўмёўся.*

**АБДЗЁРКА** *ж.* Шатраваная мука. *Зро́біюў у ме́льніцы абдзёркі на бліны́.*

**АБДО́ХНУЦЦА** (абдо́хнацца) *зак.* Вельмі стаміцца, змучыцца (звычайна ад бегу). *Абдо́хнацца мо́жна і мо́жна ні дагна́ць, так літучы́.*

**АБДУ́ЦЬ** *зак.* Уздуць, раздзьмуць. *Каро́ву абдуло́ ад расяна́га кле́віру.*

**АБЛАЧО́К** *м.* Невялікая хмарка, воблака. *З тако́га аблачка́ і такі́й дождж засы́пуў.*

**АБО́Д** *м.* Вобад. *Адзі́н або́т ужо́ ско́ра зляці́ць.*

**АБСУ́ДЛІВЫ[Й]** *прым.* Які абгаворвае, нядобразычліва выказваецца пра каго-н. *Ён – такі́ абсу́длівы чалаве́к, ка́ждага абсу́дзіць век.*

**АБУБНІ́ЦЬ** *зак. неадабр.* Надакучыць каму-н. доўгім бурчаннем. *Ай, стара́я гэ́на як пры́дзіць, дык мне тут усе́ ву́шы абубні́ць.*

**АБХАХУ́ЛІВАЦЬ** *незак.* Прыводзіць у парадак. *Адзе́жу бу́ду абхаху́ліваць.*

**АБХАХУ́ЛІЦЬ** *зак.* Прывесці ў парадак. *На́да спірва́ тро́ху ха́ту абхахулі́ць.*

**АГА́ЛЬНЫ[Й]** *прым.* 1. Чысты, сапраўдны, абсалютны. *Ня се́на прывёс, а ага́льный асакі́. Гэ́та ш ага́льная гніллё, а ня дро́вы.* 2. Адпеты, апошні. *Ага́льная гульта́йка, каб калі́ дзе паварухну́лася.*

**АГЛАВУ́ШЫЦЬ** *зак. экспр.* Моцна ўдарыць, ударам аглушыць. *Во каб хто аглаву́шуў чым гэ́нага раско́ла.*

**АДБІЦЦЁ** *н.* ◊ АДБІЦЦЯ́ НЯМА́ (нет). Адбою няма, рады няма. *Ат рабіцця́ адбіцця́ німа́, ле́зуць у слі́вы. Ат мух адбіцця́ нет: ле́зуць а ле́зуць у мі́скі.*

**АДВА́ЖЛІВЫ[Й]** (атва́жлівы) *прым.* Адважны. *Такі́й атва́жлівый ма́льчык, аж да са́мага саба́кі падыйшо́ў.*

**АДДЫ́Х** *м.* Кароткі перапынак, адпачынак. *Біз адды́ху сяго́ння ро́білі, стара́лісі ж скарэ́й ко́нчыць.*

**АДЛЯ́ЖКА** (атля́жка) *ж.* Пераход у нармальны стан пасля насмарку (пра нос). *Нет ні́якый атля́жкі, нос залёгшы і ўсё.*

**АДПРА́Т** *м.* Ратунак, рада. *Сёліта ат я́блыкуў і йгруш адпра́ту німа́, і што із йі́мі ро́біць? Ат віраб'ёў адпра́ту нет, кура́м пасы́піш, паку́ль ты́йі ку́ры, дык яны́ пе́рвыйі.*

**АДПРА́ТАЦЦА** *зак.* Адкараскацца, пазбавіцца. *Ад гэ́тый гразі́ адпра́тацца нямо́жна. Ты ш ня тпра́тайісся ад гэ́тый рабо́ты, яе́ ж бу́дзіць і бу́дзіць.*

**АДСЛО́ЎНЫ[Й]** *прым.* Які згаджаецца на што-н. з першага слова, паслухмяны. *Тако́га адсло́ўнага чалаве́ка, як ты, я люблю́.*

**АДЦО́Б** *м.* Наганяй, прачуханка. *Я свайму́ ўчо́ра то́жа дала́ адцо́б за гэ́ту гарэ́лку.*

**АДЧУ́ХАЦЦА** *зак.* Ачухацца. *Во да́лі прыкуры́ць чалаве́ку, што чуць адчу́хуўся.*

**АКО́РАК** *м.* Кавалак хлеба. *Дай мне ако́рак хле́ба.*

**АКРАВУ́ХА** *ж.* Ласкут матэрыі, сукна. *Нашто́ ты парэ́зуў сукно́ на такі́йі акраву́хі?*

**АКРАВУ́ШАК** *м.* Тое ж. *Пада́й мне вун гэ́нан сі́нінькій акраву́шак.*

**АКРАВУ́ШКА** *ж.* Тое ж. *Ці ёсь гэ́ткая хоць акраву́шка йішчэ́, на́да було́ п мне ло́кацть зала́піць.*

**АКРАМУ́ШАК** *м.* Маленькі кавалачак (звычайна пра хлеб). *Кінь акраму́шак хле́ба кату́, хай ні звя́гайіць.*

**АКРАМУ́ШКА** *ж.* Тое ж. *Акраму́шка хле́ба астала́ся, ужо́ йіна́ табе́ ня ўле́зла.*

**АКРАЮ́ХА** *ж.* Кавалак (звычайна хлеба). *Атвалі́ў акраю́ху хле́ба і з'еў.*

**АНДЗЕ́І** *мн. неадабр.* Пустыя, непрыемныя размовы. *Сідзя́ць та́мака ды то́лькі андзе́йі разво́дзюць.*

**АПРЫЧО́НКІ** *мн.* Ласункі або асаблівая яда. *Ад цябе́ ж тут ніхто́ апрычо́нкуў ня есць, што ты ясі́, то́я і ўсе.*

**АПУ́ХТАРЫЦЬ** *зак. экспр.* Набіць кулакамі, надаваць кухталёў. *Мяне́ ш яны́ то́жа не́калі апу́хтарылі.*

**АПУ́ЦЫВАЦЬ** *незак.* Біць рукой па твары. *За што вы Лёньку, я ві́дзіла, апу́цывалі?*

**АРБА́** *ж.* Ворыва, аранне. *Я ўжо ві́джу, чыя́ гэ́та арба́.*

**АТА́ДАРАМ** *прысл.* Не аблягаючы (вісець, стаяць – пра адзенне на чалавеку). *Адзе́жа на йім ата́дарам стай́іць.*

**АЎША́К** *м.* Вушак. *Ужо́ тут ні аднаго́ здаро́вага аўшука́ нет.*

**АЦЕ́ЧАСТВА** *н.* Імя па бацьку. *Скажы́ ж дзя́дзю, як твае́ іме́ння і аце́частва.*

**АШУ́Т** *выкл.* Выгук, якім адганяюць парасят. *Ашу́т у хлеў!*

**АШЫБА́ЦЬ** *незак.* Называць, абзываць. *Йіна́ мяне́ дурны́м ашыба́йіць. У пры́пар мяне́ ашыба́йіць, уся́к вядзе́ць.*

**БАВО́Л** *м. груб.* Пра дурнаватага, бесталковага чалавека. *Во баво́л дык баво́л, што ён ро́біць!*

**БА́ГРЫЦЬ** *незак. асудж.* Скідаць, валіць (у кучу); абы-куды кідаць, класці. *Ну куды́ ты ба́грыш гэ́ту муку́?! Ні ба́гры гэ́дак усё ў адну́ ку́чу.*

**БАЖУРЫ́ЦЦА** *незак.* Збірацца ў складкі. *Суке́нка бажуры́цца фа́лдамі.*

**БА́ЛЫ** *мн.* ◊ ХАДЗІ́ЦЬ ПА ПУСТЫ́Х БА́ЛАХ. Хадзіць дарэмна, сланяцца, сноўдацца. *Чаго́ ты хо́дзіш, ма́ліц, па пусты́х ба́лах? Ня йдзі ты туды́, то́лькі бу́дзіш хадзі́ць па пусты́х ба́лах.*

**БАНДЗІ́ЦЬ** *незак.* Капіць (грошы). *Ну што, што йіна́ бандзі́ць гэ́тыйі гро́шы, каб куды́ пусці́ла ў дзе́ла.*

**БАРАБО́ЛЛЕ** (барабо́лля) *н. зб.* Вельмі сухія, цвёрдыя кавалкі зямлі ці гною, звычайна прысохлыя да чаго-н. *Аве́чкам цяпе́р по́дсцілі тако́й ду́жа нет, стая́ць у гнай́і, у ю́шцы, дык вун паабраста́лі які́м барабо́ллім.*

**БА́РМА** *ж.* Кажух, пакрыты сукном. *Як ты ціга́йіш на сабе́ гэ́ту барму?*

**БАСЛЭ́ТЫ** *мн. неадабр.* Пустыя, беззмястоўныя размовы. *Сідзя́ць ды то́лькі баслэ́ты разво́дзюць.*

**БАЦЮ́К** *м.* Айчым, нянародны бацька. *А дзе ж цяпе́р ро́біць Шу́рчын бацю́к?*

**БЕЛІВО́** (бліво́) *н.* Бяленне. *Яко́я гэ́та ў цябе́ бу́дзіць біліво́ тра́пкый, квач вагэ́тат бя́ры ды ў ва́пну.*

**БЛАГО́ЦЦЕ** (благо́цця) *н. асудж.* Пра благога чалавека. *Ай, гэ́та тако́я благо́цця, а ні чалаве́к.*

**БЛА́ЖЫЦЬ** *незак.* Адчуваць пазыў на рвоту, моташнасць. *Яго́ бла́жыла, чуць ня вы́рвала.*

**БЛЕКАТА́ЦЬ** (блікота́ць) *незак. неадабр.* Бляяць. *Стай́іць ды блякочыць аве́чка, усё ро́ўна як ей сяго́ння е́сці ні дава́лі.*

**БЛУТ** *м.* Знішчэнне, псаванне. *Вы мно́га блу́ту наро́білі тут. Усё ў блут пашло́.*

**БЛЭТ** *м.* Тое ж. *Ня сто́лькі там дахо́ду бу́дзіць, ско́лькі блэ́ту.*

**БОД** *м.* Баданне, біццё лбом, рагамі (пра жывёл). *Я так бо́ду гэ́тага век баюся.*

**БРУКО́ЎНІК** *м.* Брукаваная дарога, шаша. *Упе́рад жа ж тут быў бруко́ўнік, а ні асфа́льт.*

**БУДАРА́ЖЫЦЬ** (будура́жыць) *незак. асудж.* Змешваць, зліваць, ссыпаць, скідаць у адно месца, разам. *Хто цябе́ прасіў усё ра́зам будура́жыць – і буракі́, і бу́льбу? Ні будура́ж жа гэ́та жы́та з ту́хлым.*

**БУНТАВА́ЦЬ** (бунтува́ць) *незак.* Блытаць, збіваць. *Ні бунту́й мяне́, я ш лічу́.*

**БУРБУЛЁЎКА** *ж. неадабр.* Пра вадкую недабраякасную страву. *Бурбулёўкі не́йкый паста́віла на стол.*

**ВА́ДКА** *ж.* Спрэчка, калатня. *Што вы завялі́ ва́дку тут?*

**ВАЛЁХАЦЬ** *незак. экспр.* 1. Валіць, звальваць, скідаць. *Куды́ ты ўсё валёхайіш у ку́чу, акура́тна скла́дывый.* 2. Ісці перавальваючыся. *Тумашы́ха дайі́ць валёхайіць.*

**ВАНДРО́ЎКА** *ж.* Прагулка на свежым паветры. *Хадзі на вандро́ўку, На́дзя, до́сыць у ха́ці сядзе́ць, вы́дзі і пады́хый із на́мі хоць тро́ху.*

**ВАНТРАБЛЯ́НКА** *ж.* Вантрабянка. *Вантрабля́нку зварыла у капу́сці.*

**ВАНТРАБЛЯ́НЫ[Й]** *прым.* З унутранасцей (пра каўбасу). *Йішчэ́ не́скукі вантрабля́ных кілба́с вісі́ць на шастку́.*

**ВАРАЦА́КІ** *толькі мн.* Ваніты. *А чые́ гэ́на варацакі на панадво́рку?*

**ВА́ТАРГА** *ж.* Гурт, натоўп. *Чаго́ ты прывіла́ у ха́ту цэ́лую ва́таргу?*

**ВЕРТАВЫ́** (віртавы́) *м.* Памагаты. *Я сам тады́ йішчэ́ ня крыў стрэх, а то́лькі быў у дзе́да за віртаво́га.*

**ВЕ́СЛІЦА** *ж.* Лесвіца. *Паста́вюў ве́сліцу, палезу на гару́.*

**ВІР** *м.* Верхавіна тонкага дрэва. *На вір ні ўзбярэ́сся, бы дзе́раўца ня вы́дзіржыць, хра́пніць.*

**ВІ́РЫ** *мн.* Дзіркі, шчыліны. *Дзе ж тут ня бу́дзіць халодна, такі́йі віры кругом.*

**ВІХТ** *м.* Рухавасць. *Ужо́ ў мяне́ ві́хту тако́га нет, што ўпе́рад быў: ні магу́ ўжо так кру́та ро́біць і ня ўсю́дых дайду́.* ◊ ДАЦЬ ВІ́ХТУ[1]. Вельмі хутка што-н. зрабіць, выканаць. *Даў ві́хту – робюў кру́та, уме́ла. Во ты, Ні́нка, дала́ сяго́ння ві́хту ў рабо́ці.*

**ВО́РҐІШ** *м.* Полба, дзікі ячмень. *Цяпе́рака во́рґіш ужо́ звёўшы, а не́калі во́рґіш се́йілі і хлеб із яго́ е́лі.*

**ВУЖЫНЯ́** *ж.* Вузкасць; шырыня. *У маей по́стаці мала́я вужыня́.*

**ВЫДУМЛЁНСТВА** *н.* Выдумлянне, выдумкі. *Што за выдумлёнства – е́сці, што даю́ць.*

**ВЫДУ́МСТВА** *н.* Тое ж. *Што гэ́та за выду́мства: ён туды́ пае́дзіць, сядзі́ вот, стары́, на пе́чы.*

**ВЫЛІНҐА́ЦЦА** *незак. неадабр.* Выкручвацца, весці сябе неспакойна, непрыстойна. *Ні вылінґа́йся ты, аж глядзе́ць на цябе́ нікрасі́ва.*

**ВЫ́ПРАТАЦЬ** *зак. экспр.* Набіць (палкай). *Дасту́кайісся, што я цябе́ вы́пратаю.*

**ВЫ́ТАРГАЦЬ** *зак. неадабр.* Выбраць, выцягаць, вынасіць. *Суш гэ́ткая стайі́ць, а яны́ усю́ ваду́ із маей́ кало́дзісі вы́таргалі, во до́брыйі суседзі.*

**ВЯ́РКАЦЬ** *незак.* Падаваць слабы голас, плакаць (пра грудных дзяцей). *Хто там вя́ркайіць у склепі? Малы́ вя́ркуў у калы́сцы і ніхто́ к яму́ ні падхадзіў.*

**ГАБЛЮ́Г** *м.* Гэбель. *Па́ру габлюго́ў зро́бюў мне стары́ не́калі.*

**ГАБЛЮШО́К** *м.* Гэблік. *Дзе мой габлюшо́к дзе́ўся?*

**ҐАБЭ́РА** *ж. зневаж.* Пра старую худую жывёліну (часцей пра карову). *Така́я ґабэ́ра ста́ла, гэ́та ш на́дабі так схудзе́ць.*

**ҐАБЭ́РЫНА** *н. зневаж.* Тое ж. *На чо́рта яны́ дзіржа́ць таку́ю стару́ю ґабэ́рыну, мо́жна ж паміня́ць.*

**ҐАВЕ́ҐАЦЬ** *незак. экспр.* Многа зачэрпваць, ускалупліваць. *Ні ґаве́ґый сра́зу мно́га ка́шы, бяры́ нарма́льна.*

**ҐАВЕ́НІЦЬ** *незак. экспр.* Тое ж. *Во ґаве́ніць ма́ліц на відэ́льцы ско́лька ква́шаніны.*

**ҐАЛ, ГАЛ** *м.* Крык, гармідар. *Ґал спра́вілі ў ха́ці, сусе́дзі паду́маюць, што тут ду́шуць каго́.*

**ГАЛУ́ТЛІВЫ[Й]** *прым.* Марозны, але яшчэ без снегу (пра надвор'е). *Галу́тлівая паго́да стайі́ць, цяпе́рака са́мый раз за драўмі́ е́хаць.*

**ГАЛЯ́, ГАЛЯ́-ГАЛЯ́** *выкл.* Вельмі хутка і з падскокам. *А воўк галя́ калі мяне́, я ўвесь і абмёр. Куды́ ён паляце́ў – галя́-галя́.*

**ҐАНДЗЮ́РЫ** *мн. зневаж.* Пустая надакучлівая гаворка. *Ні хачу́ я слу́хаць е́йныйі ґандзю́ры.*

**ГАРЛЯ́К** *м.* Вельмі горкі плод. *Ня е́сці вы гэ́тыі гарлякі́, я йі́мі свінне́й кармлю́.*

**ҐВА́ЖЫЦЬ** *незак.* 1. Перацягваць, пераважваць. *Ґваш на гэ́тат бок бо́лі даску́.* 2. Намервацца, выбіраць. *Ґва́жыла, ґва́жыла калі нас Ма́нька по́стаці і до́браю вы́брала.* 3. Стаяць, трымацца. *Паго́да ґва́жыла, ґва́жыла, алі́ ня ўсто́йіла до́ўга.*

**ҐДЫ́РЫЦЬ** *незак. экспр.* Адчытваць, дапякаць, павучаючы і прыкрыкваючы. *Цябе́ то́лькі ўсё ґды́рыць і ґды́рыць на́да, сам нічо́га ні дагада́йісся самастая́цільна зро́біць.*

**ГЛА́ДКА** *прысл.* Зусім, абсалютна. *Там гла́дка травы́ нет, куды́ яны́ пагна́лі каро́ў.*

**ГРА́БІЦЬ** *незак.* Грэбці (сена). *Спуўдня́ по́йдзім ата́ўку гра́біць, ужо́ сухусі́нькая.*

**ГРО́МСТАЦЬ** *незак. асудж.* Звальваць, згортваць абы-як, у адно месца, у адну кучу (пра адзенне). *Гро́мстуў рахапе́цця ў ку́чу, а по́слі на двор выкі́дывуў.*

**ГРУДЛІ́ВЫ[Й]** *прым.* Цвёрды, умерзлы (пра глебу). *Зімля́ ўжо тады́, по́мню, была́ грудлі́вая, алі́ сне́гу йішчэ́ ні було́.*

---

[1] Такія сінтаксічныя канструкцыі, на думку рэдактараў, нельга адназначна лічыць фразеалагічнымі.

**ГРЫ́ВА** *ж.* Касмык або радок няскошанай травы на скошанай сенажаці. *Во грыў ско́кі накіда́лі, і хто гэ́та гэ́дак касі́ў?*

**ГУ́ДЗІЦЬ** *незак. экспр.* З прагнасцю есці. *Во мальцы клёцкі гу́дзюць.*

**ГУЖЫ́ШЧА** *н.* Тоўстая вяроўка, вужышча. *Тут, кап уці́снаць сало́му, на́да до́брая гужы́шча.*

**ҐУРУНЦУВА́ЦЦА** *незак.* Хвалявацца, непакоіцца. *Што тут ду́жа ґурунцува́цца, не́йік зро́бім, дадзём ра́ды.*

**ГУСЦЕ́ЛЬ** *м.* 1. Густая частка стравы, гушча. *Наліла ў мі́ску аднаго́ гусцялю́.* 2. Гушчар, густы ўчастак лесу, хмызняку, кустоў. *На́да бра́цца высіка́ць гэ́тат малі́ннік, такі́ ўжо гусце́ль стаў.*

**ДАБІТНЫ́[Й]** *прым.* Які можа дабіцца, дамагчыся чаго-н., нягледзячы на цяжкасці; прабіўны. *Ві́цька дабітны́й чалаве́к.*

**ДАБІЎНЫ́[Й]** *прым.* Тое ж. *Ма́нька – дабіўна́я ба́ба.*

**ДАБРО́СЦЬ** *ж.* Добрыя адносіны. *На́да з людзьмі́ быць у дабро́сці.*

**ДАПА́ДЛІВЫ[Й]** *прым.* Пранырлівы, усюдыісны. *Ві́цька чалаве́к дапа́длівый, нідзе́ нічо́га ні праваро́ніць.*

**ДАПА́ШКІ** *толькі мн.* Заканчэнне веснавой сяўбы. *Усё засе́йілі, пасадзі́лі, запаха́лі, вот вам і дапа́шкі.*

**ДАРАЖБА́** *ж.* Жаль, шкадаванне, спагада. *У цябе́ вот да чалаве́ка даражбы́ нет, вот і ўсё.*

**ДАСА́ДНЫ[Й]** *прым.* Надакучлівы, назойлівы. *Ай, які́й ма́ліц даса́дный.*

**ДАТАРМАСІ́ЦЦА** *зак.* Дабудзіцца, тармосячы каго-н. *Як успі́цца п'я́ны, яго́ тады́ ні датармо́сісся.*

**ДАТУ́МАРНЫ[Й]** *прым.* Дасужы, які ўсюды раней за іншых паспявае. *О, йіна́ ба́ба дату́марная.*

**ДАШЧА́НКА** *ж.* Будыніна з дошак. *У дашча́нцы мо́жыць быць і се́на, і дро́вы і йішчэ́ што яко́я.*

**ДЗЕРАВЕ́НЕЦ** (дзіраве́ніц) *м.* Вясковец, вясковы жыхар. *Дзірavéнцы у дро́вы здрыгну́лі.*

**ДЗЮЗНА́** *ж. зневаж.* Амаль дарослая дзяўчына, учынкі і заняткі якой не заслугоўваюць адабрэння. *Така́я дзюзна́ і ахра́п'я кап ні сабра́ла, гэ́та ш на́да.*

**ДЗЯДУ́ЛЬНІК** *м.* Дом для састарэлых. *Мне аднэ́й то́лькі у дзяду́льнік ісці́.*

**ДЗЯ́ЛКА** *ж.* Участак зямлі, пасеваў, пасадкі, сенажаці і інш. *Я ўжо сваю́ дзя́лку буракоў выпалала. Іду ж касі́ць сваю́ дзя́лку.*

**ДРА́ГАЦЬ** *незак.* Стукаць, ударaць па чым-н. *Хто та́мака дра́гайіць у дзве́ры? На́да дра́гаць чым цяжкі́м па гэ́тым калку́.*

**ДРАГБІ́ЦЬ** *незак.* Раскалочваць, рабіць дрыгвяністым, багністым. *Каро́вы драгбя́ць, капыця́ць маю́ по́жыньку, на́да згало́вачкі чым загара́джываць.*

**ДРАХЛЁ** *н. зб.* Стар'ё, гніллё. *Гэ́та драхлё, а ня лес.*

**ЕЗДАНІ́НА** (йіздані́на) *ж.* Язда. *Йіка́я йіздані́на па тако́й даро́зі – ні дай бог.*

**Е́МЕНКА** (е́мінка) *ж.* Бульба, адабраная для харчавання чалавека. *Е́мінку асо́бінна ссыпа́йім, а се́мінку асо́бінна.*

**Е́НКАТ** *м.* Енк. *Што тут за е́нкат быў у ха́ці?*

**ЖЫВАДА́ЛАМ** *прысл.* Жывасілам. *Жывада́лам дра́лі до́скі, ду́малі, паддаду́цца вам атра́зу.*

**ЖЫВАДА́ЛЛЮ** *прысл.* Тое ж. *Во мя́са, адны́ жы́лы ды пле́нкі, на́да жывада́ллю рваць, кап адкусі́ць.*

**ЖЫВАСІ́Л** *м.* Дзівасіл. *На́ша бабу́ля усё жывасі́лам ат не́чага ле́чылася.*

**ЗАБЛЕ́ДАШ** *м. асудж.* Пра бледнага худога чалавека. *Со́ня мая́ нічо́га ня хо́чыць е́сці, такі́ забле́даш, уся́ бе́лая, худа́я.*

**ЗАВАДО́ВЫ[Й]** *прым.* Удалы, спрактыкаваны. *Праз цябе́ й гу́таркі ня мо́жыць быць, ты ш у нас заваддо́вая хазяйка.*

**ЗА́ВАЛКА** *ж.* Скрутак. *Скруці́ў ве́цір се́на за́валкамі, нямо́жна растармасі́ць.*

**ЗАВІРЫ́ЦЬ** *зак. неадабр.* Падзець, запраторыць. *Куды́ йіна́ завіры́ла рэ́згіні, нідзе́ ня ві́джу.*

**ЗАҐІЗАВА́ЦЬ** *зак.* Загізаваць; хутка пабегчы, падняўшы хвост, ад гарачыні, аваднёў і інш. (пра кароў). *Некато́рыйі каро́вы заґізава́лі ды ў кусты́.*

**ЗАГНЕ́ВАЦЦА** *зак.* Пакрыўдзіцца. *Што ты загне́валася, ці ш я ніпра́ўду сказа́ла?*

**ЗАЛАЧКО́М** *прысл.* На золку. *Прышо́ў дамо́ў кавале́р залачко́м.*

**ЗАЛАЧО́К** *м.* Золак. *Чуць залачо́к, а йіна́ ўжо каро́ву вядзе́ць на па́сту.*

**ЗАМАНУ́ЦЦА** *зак.* Захацецца. *Вот заману́лася мне з'е́здзіць туды́ і ўсё.*

**ЗАНУ́ШКАЦЬ** *зак.* Стаміць, заганяць, замучыць (пра каня ў час работы, чалавека). *Зану́шкалі гэту кабылёнку саўсі́м, па траве́ за дзень ні пусці́лі пахадзі́ць.*

**ЗАСТО́ЙКА** *ж.* Перагародка з дошак у хаце. *На засто́йку паве́шый, калі́ ме́ста друго́га нет.*

**ЗАТАМІ́ЦЬ** *зак.* Стаміць. *Затамі́лі вы, ўну́чкі, стару́ю сусём.*

**ЗАТО́ХНУЦЦА** (зато́хнацца) *зак.* Задыхнуцца. *Там жа мо́жна зато́хнацца, во́здуху пасьці́ нет.*

**ЗАЎМЕ́СНЫ[Й]** *прым.* Сумесны, супольны. *Ро́білі заўме́сную рабо́ту. У нас ба́ня заўме́сная.*

**ЗАЎЧЭ́СНЯ** *прысл.* Дачасна. *Памрэ́ш заўчэ́сня, так ро́бючы.*

**ЗА́ХАДНІ[Й]** *прым.* Заходні. *Сяго́ння ве́цір за́хадні.*

**ЗАХО́ДАЦЦА** *зак.* Стаміцца, шмат ходзячы. *Захо́далася я сяго́ння за дзень саўсём.*

**ЗВА́ГА** *ж.* Павага. *Ні́якый зва́гі у цябе́ да чужо́га чалаве́ка нет.*

**ЗВЁНКА** *ж.* Столка. *У тры звёнкі пу́гу ўю.*

**ЗГАРАВА́ЦЦА** *зак.* Гаруючы, змучыцца, змагчыся. *Згарава́ўся чалаве́к.*

**ЗРАБЯ́ЦІЦЦА** *зак.* Здзяцінець. *Гэ́на стара́я ужо́ зрабя́цілася, ні дай бог.*

**ЗРАДЗІ́ЦЬ** *зак.* Урадзіць, вырасці (пра гародніну, пасевы). *Сёліта гаро́дніна, дзя́каваць бо́гу, до́бра зрадзі́ла.*

**ЗРАДКА́** *прысл.* Зрэдку, час ад часу. *Зрадка́ і сын прыйі́жджа́іць, алі́ бо́лі до́чкі, яны́ бліжэ́й жыву́ць.*

**ЗРА́НІЦЬ** *зак.* Страціць цяжарнасць. *Быў ба йішчэ́ ўну́чак адзі́н, алі́ няве́стка зра́ніла.*

**ЗРЫ́ВІСТЫ[Й]** *прым.* Рухавы, дбалы. *Уго́, ён табе́ рване́ць гэ́ткій зры́вістый* [у іранічным сэнсе], *і ні надзе́йся.*

**ЗЫ́БЛІЦЬ** *зак. асудж.* Зацята курыць. *Пётра зы́бліць а зы́бліць памі́нуці.*

**ІКО́ТКА** (йіко́тка) *ж.*Ікаўка. *Не́шта йіко́тка на мяне́ напа́ла.*

**КАЖАНЕ́ЦЬ** *незак.* Марнець, чахнуць. *Не́шта твае́ парася́ты, гляджу́, ні расту́ць, а натваро́т кажане́юць.*

**КАЛАВУ́РЫЦЬ** *зак.* Вартаваць, сцерагчы, пільнаваць. *Стары́ тады́ сві́ран калаву́руў. Калаву́р тут усё, а я пайду́.*

**КАЛІ́ТАШНІ[Й]** *прым.* Даўні, даўномінулы, некалішні. *Ой, гэ́та ш у мяне́ йішчэ́ калі́ташнія суке́нка, йішчэ́ як дзе́ўкый была́, была́ пашыўшы, ду́жа но́ская.*

**КАРТЫ́ЖНІК** *м.* Карцёжнік. *Уся́ засто́ліца карты́жнікуў там сядзе́ла.*

**КАТЛЯ́НКА** *ж.* Чарапок, кавалак пабітай пасудзіны. *Адкі́нь гэ́ну катля́нку, но́гі праб'е́ш.*

**КАШТАЎНО́** *прысл.* Дарагавата, накладна, затратна. *Мне каштаўно́ бу́дзіць ісці́ ў такі́йі хрэ́сьбіны.*

**КІ́ЛЯ** *ж.* Кілаграм. *Купі́ла дзве кі́лі са́хару. Тут бу́дзіць кі́ля мёду, ня бо́лі.*

**КІСЛЯ́К** *м.* Кіслы плод (звычайна яблык). *Ай, які́йі гэ́та я́блыкі – кісляі́.*

**КЛАДНІ́ЦА** *ж.* Застаронак у пуні, запоўнены сенам. *До́бра табе́ каза́ць, калі́ ў цябе́ ўжо цэ́лая кладні́ца се́на напіхто́ліная.*

**КЛАДНІ́ЧЫНА** *ж.* Тое ж. *Гэ́ткая хазя́йка умі́г табе́ кладні́чыну се́на ско́рміць.*

**КЛЫ́ЧЫЦЬ** *незак.* Забаўляць (малое дзіця). *Ну, клыч тут мало́га паку́ль, а я падыйду́ да Наста́сі.*

**КРОМ** *м.* Самы лепшы гатунак чаго-н. *О, гэ́та мука́ – кром! Твой крахма́л – кром.*

**КУБЕ́ЛЬНІК** *м.* Чалавек, які ў час вяселля адвозіў пасажны кубел і іншыя прадметы маладой у хату маладога. *А хто ш у Лі́лькі на вясе́ллі кубе́льнікам быў?*

**КУЗУЯ́ТКА** *ж.* Безрукаўка, камізэлька. *Уздзе́нь гэ́ту кузуя́тку ды йдзі.*

**КУКЯРЭ́ЧКІ** *толькі мн.* Кукішкі. *А чаго́ ты на кукярэ́чках стаі́йіш?*

**КУ́МЕЛЛЮ** (ку́міллю) *прысл.* Кулём, імгненна, мігам (бегчы). *Як паказа́ла гасці́нцы, дык уну́кі ку́міллю да мяне́ ляце́лі.*

**КУНА́** *ж.* Куніца. *Куна́ – як выдра́. Ры́бу жарэ́ць, ву́тку, на вадзе́ жыву́ць. Куна́ у Язні́цы жыве́ць.*

**КУРМА́К** *м.* Збіты камяк, касмык ваты, кудзелі. *Ко́ўдра збі́лася ўсярэ́дзіні, адны́ курмакі́.*

**КУРМА́ЧЫЦЬ** *незак.* Камячыць, мяць, збіваць камякамі, касмыкамі. *Ні курма́ч рагі́ ў хусці́нцы. Курма́чыш то́лька гэ́ту ко́ўдру.*

**КУСУ́ШЧЫ[Й]** *прым.* Кусліві (звычайна пра сабаку). *Ня ле́зці, гэ́нан саба́ка кусу́шчый.*

**ЛАҐАДНЕ́ЦЦА** *незак.* Паляпшацца (пра стан надвор'я). *Тро́ху лаґадне́йіцца к паўдню́, мо́жа й апаго́дзіцца.*

**ЛАКО́МАСЦЬ** *ж.* Ласунак. *Цуке́ркі – гэ́та ні нае́дак, а лако́масць.*

**ЛАПШЫ́ВЫ[Й]** *прым.* Ласы, прагны (да яды). *Ай, які́й ён лапшы́вый, то́лькі б жара́ў і жара́ў сма́шнінькая ды ла́сінькая.*

**ЛАТАТУ́ХАЦЬ** *незак.* Бегчы; ехаць рыссю. *Ні латату́хый, а йдзі, хто цябе́ куды́ го́ніць. Чаго́ лалату́хаць, пае́дзім трушко́м.*

**ЛА́ХАРДЫ** *мн.* Лахманы. *Што за ба́ба, хо́дзіць, ла́хардамі трасе́ць.*

**ЛЕ́НЬКІ** *мн.* Лянота. *Вам усё ле́нькі зро́біць што-ніб́уць, усё, кап не́хта ро́быў.*

**ЛІСЦІ́ЦЬ** *незак.* Гартаць. *Нашто́ ты так ніакура́тна лі́сціш кні́жку?*

**ЛО́КАЦЬ** *незак.* Прагна піць. *Што ты ло́кайіш па мі́нуці гэ́ту хало́дную ваду́.*

**ЛЯ́ДЫ** *мн.* Беспарадак (у хаце). *У ха́ці сяго́ння ў мяне́ ля́ды.*

**МАРДА́ЦЬ** *незак.* Надзяваць наморднік. *Ні брыта́й каро́ву, а марда́й, тады́ йі́на ў цябе́ ня ду́жа вы́рвіцца.*

**МАСІЯ́Ш** *м. асудж.* Гарэзнік, свавольнік. *Масія́ш, піраста́нь насі́цца па ха́ці!*

**МЫЛІ́ЦЦА** *незак.* Памыляцца, блытацца. *Ні мылі́ся, до́бра раска́зывый ве́ршык.*

**НАДА́ШНІ[Й]** *прым.* Які быў, адбыўся, быў прынесены і г. д. на днях, надоечы. *Гэ́та йішчэ́ нада́шні хлеб.*

**НЯ́МНУЦЬ** (ня́мнаць) *зак.* Моцна ўдарыць, трэснуць. *Кап ня́мнуў па плі́чах ко́лам, дык ба б бо́лі ні пале́с у чужы́ гаро́д.*

**ПАВІРЫ́ЦЦА** *зак. асудж.* Пайсці, сысці невядома куды. *Све́ту ў ха́ці нет, мо́жа, дзе спіць Мі́шка, а мо́жа куды́ павірыўся.*

**ПАДВО́РКА** *ж.* Надвор'е. *Падво́рка нікуды́шнія сяго́ння.*

**ПАДГРЭ́Б'Е** (падгрэ́б'я) *н.* Рэшткі сена, саломы і пад., што застаюцца пасля іх зграбання. *На́да ш і гэ́та падгрэ́б'я на вос ускі́нуць.*

**ПАЖНЯ́НЫ[Й]** *прым.* Які расце на сенажаці, сухадольны. *Адкасі́ пажня́ный травы́, парсюку́ ўкінь. Адкасі́ў пажняно́га сінца́ з во́зік ло́ўкага.*

**ПАЗВО́Л** *м.* Дазвол. *Хто даў такі́й пазво́л йім, скажы́.*

**ПАЛАСУ́НАК** *м.* Ласунак, прысмакі. *Прыні́сла́ рабя́там не́йкіх паласу́нкуў.*

**ПРЫГАЖЛЯ́ВЫ[Й]** *прым.* Прыгожы. *А Зі́нка – прыгажля́вая дзяў́чына.*

**ПРЫЗЫ́ЎКА** *ж.* Мянушка. *Гэ́та прызы́ўка у яго́ была́ така́я.*

**РА́ЗКА** *ж.* Столка. *У дзве ра́зкі складзі́ вяро́ўку, дык сме́ла ўдзе́ржыць усе́ твае́ дро́вы.*

**РАСТАБАЛІ́ЦЬ** *зак. неадабр.* Расказаць, разнесці, распаўсюдзіць тое, чаго не варта было расказваць. *Гэ́та ўсё, му́сіць, Наста́ся растабалі́ла.*

**СЕ́МЕНКА** (се́мінка) *ж.* Бульба для пасадкі. *Се́мінку ў яму́ схава́лі да вя́сны, а сабе́ пад пол насы́палі, пад крава́ці, за печ.*

**СІВАТА́** *ж.* Сівізна. *Хале́ра, ужо́ сівата́ ў галаву́ ста́ла ле́зці.*

**СІВІ́ЦЦА** *незак.* Перажываць, убівацца. *Не́чага ужо́ гэ́дак сіві́цца, усё ўла́дзіцца.*

**СІНЯ́ЧЫНА** *ж.* Сіняк, сіняе месца на целе. *Дзе йіка́я сіня́чына на це́лі пая́віцца, дык ба́ба гэ́тый траво́й прыклада́ла.*

**СКАЛЮ́К** *м.* Моцны мароз. *Сяго́ння скалю́к ах'е́й які́, аш на во́кны вы́ліз.*

**СХЛІ́ПАЦЦА** *зак.* Знясілецьад плачу. *Схлі́палася мала́я тут ліжа́.*

**ТО́РНУЦЬ** (то́рнаць) *зак.* Моцна ўдарыць, адагнаць рагамі другую карову. *Шы́манішына каро́ва як то́рнала на́шу, я ду́мала, што й бок ей прабадзе́ць.*

**ТРУ́ХАЛЬ** *ж.* Труха, пацяруха. *На́да йсці абгра́біць гэ́ну тру́халь лі стага́.*

**ТУРКІ́** *мн.* Вялікі шлях. *Мы сяго́ння з Кла́ўдзій у гэ́ных я́гадах туркі́ абыйшлі́.*

**УГЛА́БІЦЬ** *зак. асудж.* Прысвоіць, захапіць, узяць і не ўступаць другім. *Во які́ кусо́к лёну угла́біла адна́ і рвець сабе́.*

**УМЛЭ́Т** *прысл.* Ушчэнт, зусім, вельмі. *Забі́лася я сяго́ння на гэ́ный рабо́ці умлэ́т.*

**УНАРА́ВІЦЬ** *зак.* Упадабаць. *Ну, ма́льчык, унара́віюў у нас быць?*

**УСПРЫТНІ́ЦЦА** *зак.* Прызвычаіцца, прыстасавацца. *Як мне тут успрытні́цца до́бра стаць і каб было́ усё з рукі́ ро́біць.*

**ХАЦЬ** *ж.* Ахвота. *З хаці́ мно́га з'еў, вот табе́ зато́я бру́ха й балі́ць.*

**ЦЫРЫ́НКІ** *мн.* Абрыўкі паперы. *Ня рві бума́гу на цыры́нкі.*

**ЧЫ́КАМ** *прысл.* Хутка ў руху, стройна і важна. *Хо́дзіць Зі́нка чы́кам.*

**ША́ННАСЦЬ** *ж.* Беражлівыя адносіны да каго-, чаго-н. *Нет у чалаве́ка вот ша́ннасці да сваеі́ адзе́жы, да ўсяго́.*

**ЯДЗЁБНЫ[Й]** *прым.* Ядомы, прыгодны для скарыстання ў ежу. *Гэ́тат жа грыб то́жа ядзёбны.*

*П. І. Кулік*

## НЕ ЗАБЫВАЙЦЕ МОВУ ПРОДКАЎ

Гэта падборка з'яўляецца працягам артыкулаў: Матчына слова // Жывое наша слова. Мінск, 2001. С. 78–91; Мова майго дзяцінства // Скарбы народнай мовы. Мінск, 2005. С. 88–95; З гаворкі вёскі Галоўчыцы // Народныя скарбы. Мінск, 2008. С. 64–70; Лексіка вёскі Галоўчыцы // Беларуская дыялекталогія. Мінск, 2010. Вып. 1. С. 30–33.

**АГА́** *часц.* Так. *Уна́дывся ходы́ты до мынэ́ Майно́ Іван за опцэ́нькамы. Колы́ він знов прышо́в, я ёму сказа́ла: Ага, за́ры, пудожды́. А сама́ хучі́й втыкла́ до Лі́ды Тарасюко́выї.*

**АЛЫ́** *злучн.* Але. *Позы́чыла у мынэ́ Дра́їха Во́лька тры рублі́ і ны оддае́. Алы́ ж якра́з пырыд Па́скію вона́ ейця у Ганто́полі продала́ і, сла́ва Бо́гу, оддала́.*

**БЛАЗНО́ТА** *м.* Распуснік, гарэзнік. *У Кырдí́я дыте́ча блазно́та вы́была вокно́, а шыбы ны було́, кыб вста́выты. Два дні по́душка тырче́ла, ек більмо́ в ваче́х.*

**БЫ́ЛЛЕ** *н. зб.* Бацвінне. *То до́брэ, шо бы́лле од гарбузі́в вроды́ло, бу́дэ чым скоты́ну пудстыла́ты, по́кы вышару́ны накошу́.*

**ВДО́ЛАТЫ** *зак.* Адолець. *І́ва́н Мэ́ндыль хоті́в забы́ты поросе́, гро́хнувшы його́ обу́хом по голові́. Гро́хнув, а поросе́ стої́ть і ны па́дае. До́вго Мэ́ндыль з мужыка́мы возы́вся, покы́ ны вдо́лалы оглу́шанэ поросе́.*

**ВЗДРОКЫ́** *прысл.* Наўскач. *Трэ́ба хучі́й гна́ты корі́в до кана́лу, а то воны́ ек побыгу́ть вздрокы́, то бу́дэ ны догна́ты.*

**ВО́ХКІЙ** *прым.* Сыраваты. *Шо робы́ты, ны ві́даю. Трэ́ба сі́но грыбсты́, алы́ ж воно́ шчэ во́хкэ.*

**ВЫ́ЦЁХАТЫ** *зак. груб.* З'есці. *Прышо́в до мынэ́ Грі́шка Чырыпо́к голо́дный, ек вовк. Я ёму́ поста́вила мы́ску жу́ру, то ны вспі́ла повырну́тыся, ек він ці́лу мы́ску выцёхав.*

**ҐА́ПА** *агульн.* Расцяпа. *Залыва́е Голо́вчычы водо́ю с кана́ла, люды пырыста́лы сі́яты в горо́дах, бо всё вымока́е, а гэ́тыї ґа́пы в Голо́вчычах нычо́го ны ро́блеть, кыб е́кось спасты́сь од воды́.*

**ҐА́РЧЫК** *м.* Саламяная ёмістасць у форме каструлі. *Купы́ла собі́ ґа́рчыка у Ва́сі Ю́рка. Він муцні́шый, чым гладышка чы макі́тра.*

**ГАТЫЛЫ́ТЫ** *незак.* Лупцаваць, моцна біць. *Яко́го сму́тку мій ба́тько ста́вив мынэ́ ко́ліньмы на горо́х, ны ві́даю, ліпш гатылы́в бы, чым так позо́рыты.*

**ГАЧО́К** *м.* Рыбалоўны кручок. *Хо́чыця рыбы наловы́ты, а гачка́ нымá. Мо́жэ у Пе́ті Гантонюка́ е?*

**ГЛАДЫ́ШКА** *ж.* Гладыш. *Пі́йду́ куплю́ гладышку у украї́нців. Воны́ про́сеть заплаты́ты ті́лько по́вну гладышку жы́та.*

**ГНЫ́ДНЫК** *м.* Галава з гнідамі. *У войну́ у мынэ́ була́ ны голова́, а гны́днык. Кыб хоч ґа́за була́, кыб голову́ помы́ты?*

**ГРУДО́К** *м.* Узгорак. *Яко́го ты сму́тку ко́сыш сі́но в боло́ты, косы́ на грудку́, бо на грудку́ сі́но́ лі́пшэ.*

**ЖО́РНА** *мн.* Жорны. *Трэ́ба зробы́ты жо́рна, а то ныма́ чым змоло́ты о́сыпку поросе́товы. Стыпа́н*

*Грыць сказа́в, шо ку́піть міні́ за буты́лку самого́нкы камі́нне у Дорогы́чыны.*

**ЖЫЛІ́ЗКЫ** *мн.* Закуток у рускай печцы з двума жалезнымі пруткамі, дзе можна было паставіць адзін чугун ці каструлю і зварыць ежу. *Пе́тя, назбыра́й хучі́й каля дрова́льніка трі́сок. Трэ́ба на жылі́зках зварыты чыгу́нчык карто́плюв.*

**ЖЫРДЭ́ЛЯ** *ж.* Абрыкос. *У Воло́ді Макаро́вого росла́ вылызна жырдэ́ля, алы́ ж чого́сь засо́хла. Мо́жэ, Сцёпа Шна́йдырув га́зы пуд корі́нне пудлы́в.*

**ЗАГРА́ТЫ** *зак.* Апладніць курынае яйка. *Був оды́н пі́вінь і того́ трэ́ба прода́ты, кыб купы́ты кухва́йку. Загра́ты е́йця ны бу́дэ кому́.*

**ЗАЇ́ДЫ** *мн.* Захворванне слізістай абалонкі і скуры ў кутках рота. *Шо ты, Са́ня, хо́дыш мара́тый, ек Ры́кля. І́ды і помы́йся, а пото́м посы́ды на со́нычку і заї́ды са́мы пройду́ть.*

**ЗАКВА́СКА** *ж.* Закваска. *Шось моя́ заква́ска гыдка́я. Трэ́ба купы́ты дро́жжій, а за шо? Прыдэ́цця зда́ты в магазі́н тро́хы ї́єць.*

**ЗАПІ́КАТЫСЯ** *незак.* Загараць. *Са́ня Шыльмэ́н так запі́кався, шо пото́м ці́лый вэ́чор стогна́в і ма́зався кы́слым молоко́м.*

**ЗАПЫНЕ́ТЫ** *зак.* Накіроўваць статак кароў у патрэбны бок. – *Са́ня, а чого́ я бі́гаю і запыне́ю скоты́ну, а ты – не? – Мы ж с тобо́ю договоры́лысь, шо я пасу́ скоты́ну, а ты її́ запыне́їш.*

**ЗА́СЛОНКА** *ж.* Засланка, заслонка. *Ну і шыя́ у тыбэ́, Потра́кач, чо́рна, ек за́слонка. Тыбэ́ шо, ба́тюшка послі́дный раз купа́в?*

**ЗВО́НХАТЫ** *зак.* Высачыць. *Гнав я самого́нку в корче́х, а поплавны́чый Се́ня Бэ́цьман зво́нхав, шо я там. Шо ты зро́быш? Прышло́сь налы́ты ква́рту горі́лкы да шэй да́ты хлі́ба і цыбу́лы, кыб закусы́в.*

**ЗДЗІР** *м.* Здор. *Я знайшла́, куды́ дыва́ты здзір. Пырытопы́ла і заправле́ю ї́м томачі́. Ді́ты за малы́ныну з’і́де́ть.*

**ЗНЫ́ВЫЧЫТЫ** *зак.* Сапсаваць, выпэцкаць. *Дала́ я тро́шкы поносы́ты ї́сёнку свое́ї Га́лі. Ны успі́ла я оглядí́тысь, ек ї́сёнку гэ́та Га́лочка зны́вычыла так, хоч здава́й її́ ону́чныку.*

**ЗЮ́ЗЯ** *м. дзіц.* Холад. *Ко́ля! Ты ж на нога́х стое́ты ны мо́жыш. Іды́ до ха́ты, а то за́рыз вылы́ка зю́зя, мо́жна замэ́рзнуты.*

**ЇЦЭ́** *н.* Яйка. *Ек з їце́, так і до конце́.*

**КАМПО́РА** *ж.* Лякарства для знішчэння гнід на галаве. *Шука́ла я трэ́почку ці́лый дэнь, а її́ ек кампо́ра здзі́ла.*

**КАНА́ТЫ** *незак.* Моцна крычаць. *У Ко́лі Та́ця ба́тько вэ́льмэ злый. Він до́вго ны ду́мае, бы́ты чы ны бы́ты. Ек Ко́ля вэ́чуром кана́е, то ба́тько вдо́ма.*

**КАРТОПЛЫ́ННЕ** *н. зб.* Бульбоўнік. *Т’рэ́ба карто́плы копа́ты, алы́ ж картоплы́нне вылы́знэ, а косы́ ныма́, кыб скосы́ты. Піду́ возьму́ у Грі́шы Це́да.*

**КВА́ПЫТЫСЬ** *незак.* Квапіцца. *Ны трэ́ба ква́пытысь на чужо́е поросе́, а трэ́ба свое́ са́ло ї́сты, колы́сь каза́в сусі́д Бэ́рко Пе́тя Пітю́к.*

**КВЭ́ЦЯТЫ** *незак.* У беспарадку перамешваць ежу. *Во́вік шось ны їв томачі́, а ті́лько поквэ́цяў і ны захоті́в ї́сты.*

**КІТ** *м.* Замазка для акон. *Ны трэ́ба бу́ты, ек Ры́кля, яка́я зымо́ю кі́том зама́зуе во́кна.*

**КІ́ХА** *ж.* Камера веласіпеднага каляса. *До́бры булы́ за По́льшчы опо́ны до ро́вырa і кі́ха була́ то́вста. Во муцёта́!*

**КЛЫ́НДЫ** *мн.* Частка дрэнна пашытых штаноў, якія звісаюць ля таза. *І хто шыв нагавы́цы для Грі́шы Цёда? Клы́нды звыса́ють до колі́н.*

**КНЇТ** *м.* Кнот. *Ра́ньчій був кнїт з полотна́, і він ху́тко згора́в в ле́мпы. Гэ́то вжэ пото́м ста́лы робы́ты лі́пшы, з асбе́стом.*

**КО́ВЗАТЫСЬ** *незак.* Коўзацца, слізгаць. *Каля Яро́шчыка була́ гора́, то всі ді́ты з Сынывы́ч ко́взалыся на ї́й.*

**КОМО́РА** *ж.* Камора. *Моя́ до́лынька! Ны зачыны́ла двэ́ры в комо́ру, ну то кіт На́ді Сандэ́лёвыї залі́з і над’ї́в кусо́к мне́са з ді́жкы.*

**КОРО́СТА** *ж.* Кароста. *Пырыночова́лы у нас ді́ты Хвылы́ны з Галыка́ с коро́стыю. Ну то й до́вго ж мы ма́залысь гаре́чыю сі́ркою, кыб гэ́ту зара́зу вы́высты.*

**КОСТЯМА́ХА** *ж.* Вялікая костка. *Кыб купы́ты собі́ тітра́ді до шко́лы, трэ́ба було́ до́вго збыра́ты ко́сты. То до́брэ, ек зна́йдэш вылызну костяма́ху.*

**КОШЛА́ТЫЙ** *прым.* Валасаты. *Шэ по́сля войны́ робы́лы сукно́ домотка́нэ. Муцёта́, алы́ ж сукно́ було́ вэ́льмэ кошла́тэ.*

**КРО́КВА** *ж.* Апора, аснова для страхі – два брусы, злучаныя верхнімі канцамі пад вуглом, а ніжнімі прымацаваныя да бэлек або да верхняга вянца падоўжаных сцен. – *Ма́мо, а ек повісы́ты свыне́чэ стыгно́? – Прыв’яжы́ мотузо́к з стыгно́м за кро́кву: і со́хнуты бу́дэ до́брэ, і кіт ны добырэ́цця.*

**КРУТІ́ЛЬ** *м.* Скручаны жгут з саломы ці з толькі што скошанай травы для замацавання капы. *Са́ня Пэ́рыць полыны́ўся крутыле́мы змуцёва́ты копы́цю, ну то ві́тёр її́ пырывырну́в, а коровы́ пырыбро́їлы всэ сі́но.*

**КРЭ́ЗЬБЫНЫ** *мн.* Хрэсьбіны. *Хава́лы старо́го Хвэ́дура і я там був, алы́ ж колы́ я пронію́хав, шо на крэ́зьбынах у Лі́ды Цю́рыхы е осылэ́нцы, то я ху́чій побі́г до її́, кыб здзі́сты хоч малэ́нького кусо́чка.*

**КУЛЬГА́ТЫ** *незак.* Кульгаць. *Шо ты, Мыха́лко, кульга́їш, ек той Бовшу́к? Жі́нка кы́чкамы опараза́ла?*

**КУ́ТНЫЦЯ** *ж.* Частка спіны ніжэй паясніцы; дупа. *В конто́ры Рачко́ – во пу́зо од’ї́в! А ку́тныця – в двэ́ры ны пролáзэ.*

**КЫ́ЦЯ** *м. дзіц.* Кот. *На́дінька, хо́чыш кы́цю подыржэ́ты? Ті́лько за ла́пы ны дыржы́, а то подрэ́пае.*

**ЛЁЛЯ** *ж.* Дзіцячая начная кашуля. *Ра́ньчій був оды́н фасо́н на одэ́жу ді́тюм. Лёля і хло́пчыкам, і дывче́ткам була́ одна́, помыта́ю, аж до п’ет. Носы́лы то́е, шо ма́ты дасць, і ныхто́ ны кре́вкав, а одны́ ґумо́выї чо́буты булы́ одны́ на всіх.*

**ЛІ́ЦЫ** *мн.* Лейцы. *У колко́зы на коню́шні булы́ ті́лько хамуты́, а лі́цы доста́в у Іва́на Козэ́льця. У ёго́ всё е, на́віть о́рчык чы соха́.*

**ЛУСКО́ВАНЫЙ** *прым.* Умацаваны парафінам (пра велікоднае яйка). *Бач якы́й ты хы́трый, хо́чыш бы́тыся ку́раччымы е́йцямы! А у тыбэ́, Браші́вка, їцэ́ луско́ванэ.*

Парафін залівалі праз дзірачку з боку яйка, якую праколвалі іголкай.

**ЛЭ́ШЧАТКЫ** *мн.* Маленькія драўляныя дошчачкі. *Злама́в Пе́тя Кышукі́в па́льця, то до́брэ, шчо Ганто́ній Козэ́льць взев па́льця в лэ́шчаткы, кыб тро́хы вы́правыты.*

**ЛЯ́ШКЫ** *мн.* Драўляныя пласцінкі для дзіцячай гульні. *Ко́ля Промо́тор до́брэ загостры́в міні́ ноже́, і я лёгко вы́рызав за́йця, ля́шкы і бары́ло, кыб гра́тыся, покы́ коровы́ лыже́ть на пыску́ на кана́лы.*

**МАКІ́ТРА** *ж.* Макацёр; вялікая (літраў на пяць) гліняная ёмістасць для гаспадарчых патрэб. *За свою́ посу́ду украї́нцы бра́лы зусі́м ма́лую пла́ту. Мы за макі́тру заплатылы по́вну макі́тру жы́та.*

**МАНА́ТКЫ** *мн. разм.* Дробныя рэчы, пажыткі. *Ек збыра́лась Козубыха Га́нна до Ко́рсынь выходы́ты за́муж, то всі її́ мана́ткы умысты́лыся в радю́шку. А іко́нку вона́ в рука́х поныслá.*

**МАНЫ́ТЫ** *незак.* Пахнуць. *Зайшла́ я до Грыцю́ковыї Ве́ркы, а у її́ у ха́ты маны́ть сві́жыю кубасо́ю.*

**МАСЛЕ́НКА** *ж.* Маслёнка. *Ны вылыва́й, Ма́ня, масле́нку поросе́ты: бу́дым пы́ты замі́сць воды́.*

**МАЦЫКЛЕ́Т** *м.* Матацыкл. *На горо́дніны Іва́н Кы́шуків вырвав кача́н капу́сты, то Марко́вскій гання́вся за ї́м на мацыкле́ты. Пото́м прыї́хав до Яры́ны і за гэ́то вы́рызав у її́ на гре́дках усю́ капу́сту.*

**МІ́СТО** *н.* Мястэчка, невялікі гарадок. *Ма́ты бу́дэ на ры́нку, ку́піть скоры́нку, ку́пляну на мі́сты, кыб ді́тюм поі́сты.*

**МЛЇ́СЦЬ** *ж.* Пот. *Гуты́ль так надра́їв Іва́на Баландюка́ за гыдку́ю робо́ту, шо у Іва́на аж млі́сць була́ на лбу, колы́ він вы́йшов в калідо́р.*

**МОРЕ́ЧКА** *ж.* Мор, пошасць. *Зло́дый гэ́той з До́вгого! Кыб на ёго́ море́чка найшла́! У нас, у бі́дных дытэ́й, с хлыва́ вночі́ овэ́чку укра́в. І зна́ю, хто укра́в, а шо то́лку?*

**МУЦЁТА́** *ж.* Мацунак, трываласць. *Колы́сь булы́ у мынэ́, шэ за По́льшчы, опо́ны до ро́выра, то́всты, ек куба́сы. Во муцёта́!*

**МЫНТЭ́ШКА** *ж.* Мянташка. *Слу́хай, Сунду́к, у тыбэ́ ны язы́к, а мынтэ́шка. Ек у Бырэ́злянкы – рот ны закрыва́їця.*

**НА́ВОЛОЧ** *м.* Свавольнік, пракуда. *Во на́волоч дыте́ча! Шы́бу у вокні́ розбы́лы і тыпэ́р сыде́ть собі́ шышко́м-нышко́м пуд радно́м, кыб лозы́на ны доста́ла.*

**НА́ЙМЫЧКА** *ж.* Наймічка. *Тарара́й, тарара́й, тарарайно́чкы, прышо́в кум ны до кумы́, а до на́ймычкы.*

**НАПУ́ДЫТЫ** *зак.* Абліцца мачой. *Даны́ло Шна́йдыр так крутану́в мынэ́ за вухо́, шо ёго́ злама́в, а я з ле́ку у нагавы́цы напу́дыв.*

**НОСО́К** *м.* Востры канец яйка. *Пудставле́й носо́к свого́ їце́, бу́дым бы́тыся ї́йцямы, ті́лько шчоб твое́ їцэ́ ны було́ луско́ваным.*

**НУ́РТА** *прысл.* Дагары, уніз тварам (паляцець). *Ны хо́чу я шэ раз жыны́тыся, сказа́в міні́ Сіро́жа Мынтузі́в, бо ба́бы, кому́ за со́рок, всі пьють, ткнэш в її́ па́льцём, дай вона́ полы́тыть ну́рта.*

**НЫ́ГА** *агульн.* Ныцік. *Выглёнда Ко́ля – гэ́то була́ така́я ны́га, шо з ї́м ныхто́ ны хоті́в звэ́зуватысь. Чуть шо і вжэ бы́жыть до ба́тька сказа́ты, шо ёго́ б'ють.*

**НЫ́ЦЬМА** *прысл.* Ніцма. *Мыко́лка Галу́шка ны́цьма лыже́в у ха́ты на пудло́зы. Він був мэ́ртвый.*

**НЫ́ШКОМ-ШЫ́ШКОМ** *прысл.* Цішком. *Я з Га́лію гра́вся, і мы розбы́лы шкло в ле́мпы. Ху́чій залі́злы пуд радно́ і сыді́лы ны́шком-шы́шком, кыб ны полу́чыты лозы́ную по голові́.*

**ОБІ́РУЧ** *прысл.* Аберуч. *Прышла́ до мынэ́ Хвылы́на Пэ́хта і ду́рыть голову́. Взев я її́ обі́руч і вы́нис у сі́ны, кыб ны мыше́ла.*

**ОВ'ЯЗЫ́ТЫСЬ** *зак.* Прычапіцца, прывязацца. *Напы́вся Ко́ля Пэ́лько горі́лкы, пото́м ов'язы́вся до мынэ́. Трэ́ба було́ од ёго́ утыка́ты.*

**ОГЛУ́ШНЯВА** *н.* Аглушэнне. *І ек гэ́то молоды́ї слу́хають му́зыку? Гэ́то ж оглу́шнява, здурі́ты мо́жна.*

**ОПЦА́С** *м.* Абцас. *У до́брыї жі́нкы мужы́к ны бу́дэ пуд опца́сом.*

**О́СЬТЫ** *мн.* Восці; рыбалоўная прылада: металічны трызубец з ручкай у выглядзе кап'я. *Шэ о́сьтамы по́сля войны́ ловы́лы ры́бу, мо́жэ, тому́, шо ры́бы було́ бі́льш, а мо́жэ, тому́, шо са́чка ны хоті́лось в'яза́ты.*

**ОЧО́МАТЫСЬ** *зак.* Ачухацца, ачуняць. *Ста́рая я ста́ла, захворі́ла і злягла́. Ну, то до́брэ, шо ху́тко очо́малась.*

**ПА́КОСЦЬ** *ж.* Паскудства, гадасць. *Пала́шка Бры́жова вночі́ кра́ла у нас полі́ннє. Во па́косць бызмо́згла.*

**ПАЛАСОВА́ТЫ** *незак.* Абшукваць. *Іду́ я вэ́чуром доха́ты і ба́чу, шо у нас в дрова́льніку По́па Шна́йдыр паласу́е. Чуть ны укра́в у нас молотка́ і опцэ́нькы.*

**ПАЛАХТІ́ТЫ** *незак.* Шугаць. *Мі́й кірога́з так розбухтова́вся і палахті́в, хоч ты ёго́ водо́ю залыва́й.*

**ПАРСУ́НА** *агульн.* Важны чалавек. *Чолове́чко хоч і був ма́лый і ныкуды́шный, алы́ ж з сыбэ́ робы́в таку́ю парсу́ну, шо на́віть стра́шно було́ до ёго́ пудхо́дыты.*

**ПЛЁХНУТЫ** *зак.* Пляснуць. *Шо ты плёхнув міні́ в ква́рту молока́ і розлы́в ёго́ на пудло́зы? Нысы́ кота́, хай злыжэ. Ны пропада́ты ж добру́.*

**ПЛЫ́СНЯК** *м.* Дэкаратыўная трава з шырокімі лістамі. *На дворі́ хорошэ́, алы́ ж ныма́ ны однэ́ї кві́ткы. Трэ́ба хоч плы́сняк посады́ты, хай ростэ́ каля доро́гы.*

**ПОВРО́ЧЫТЫ** *зак.* Сурочыць. *Шось мое́ поросе́ гы́дко ї́сць. Мо́же, хтось повро́чыв?*

**ПОГОРІ́ЛЫЦЬ** *м.* Падгарэлая бульба, звараная ў чугуне ў печцы. *Ма́ма! Дай міні́ погорі́льця з чыгуна́. Гаре́чій карто́піль з маку́хію смачні́шій, чым нычы́мный.*

**ПОКОТЫ́ТЫ** *зак.* Паваліць. *На пычі́ тома́чі, на прыпы́чку грэ́чка. Дід ба́бу покоты́в, ду́мав, шо овэ́чка.*

**ПОМЫ́ЙНЫЦЯ** *ж.* Вельмі бруднае месца ў хаце каля печы. *У Пытра́ Му́хы шэ до́вго по́сля войны́ була́ пудло́га з глы́ны. Стра́шно собі́ в'явы́ты, яка́я там була́ ка́ля пэ́чы помы́йныця.*

**ПОМЫЛО́** *н.* Памяло. *Сцё́па Ляві́нчык вна́дывся ка́ждый дэнь ходы́ты до мынэ́ на вычорко́, хоч ты ёго́ помыло́м с ха́ты вымыта́й.*

**ПОПЛАВНЫ́ЧІЙ** *м.* Вартаўнік калгаснага поля. *Са́ня! Хучі́й выганэ́й корі́в з колхо́зного жы́та, а то поплавны́чій То́жык Ва́ся надырэ́ тыбэ́ за ву́ха, ек уба́чыть.*

**ПОРО́Н** *м.* Паром. *Ны ста́ло чого́ возы́ты з-за кана́лу, то і поро́н на Пырэ́їздцы став ныко́му ны потрі́бный. А ек вэ́льмэ трэ́ба поі́хаты у Е́мнык чы в Галы́к, то е поро́н у Новосі́лках.*

**ПОСМА́ЧАНЫЙ** *прым.* Прыпраўлены смажаным салам са спецыямі. *До́брэ і́сты томачі́, посма́чаныї жа́раным са́лом с цыбу́лыю, а шэ ліпш і́сты томачі́ з маку́хію.*

**ПРАС** *м.* Прас. *Шось мій прас гы́дко грі́е. Мо́же, ёму́ вугі́лля пудкы́нуты?*

**ПРЫВЫСТЫ́** *зак.* Нарадзіць. *Во жыту́ха за́ры пу́йшла! А колы́сь шо було́? Стра́шно на́віть поду́маты. Прывыла́ я свого́ Іва́нка на по́лы, а на дру́гій дэнь пушла́ жыто жэ́ты.*

**ПРЫПЭ́РТЫ** *зак. груб.* Прыперці. *Во, прыпэ́р мі́ні Пе́тя Ду́дарів выдро́ га́зы, а я просы́ла прынысты́ до кірога́за ны бі́льш, ек оды́н лі́тыр.*

**ПРЫТУЛЫ́ТЫСЬ** *зак.* Прытуліцца. *Йдэ мі́цный дощ, колы́ ба́чу, сыды́ть пуд бырэзы́ныю коты́не, взев я ёго́ в ру́кы, а воно́ до мынэ́ прытулы́лось, ек ста́рый чолові́к зымо́ю до пэ́чы.*

**ПУДСАКАНДА́ЧАНЫЙ** *дзеепрым.* Каротка абрэзаны. *І шо гэ́то за мо́да пушла́? Хо́дыть Алё́ша Лахма́тка пудсаканда́чаный в нагавы́цях ду́дочка.*

**ПУ́ПЧЫК** *м.* Лямпачка для кішэннага ліхтарыка. *У кіта́йскых фона́рыкув був до́брый пу́пчык на 2,5 вольт.*

**ПУ́ТЯ-ПУ́ТЯ** , *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць курэй. *Кыб курэ́й пома́цяты, трэ́ба їх до сыбэ́ е́кось поклы́каты чы прынысты́ пшаны́цы*: *пу́тя-пу́тя!*

**ПЫРЭ́НДЖЫНА** *ж.* Парэнча. *Стіл був таки́й ста́рый, шо за мны́го літ пырэ́нджыны нога́мы пырытэ́рлысь.*

**ПЫ́СА** *ж.* Пыса. *Взяла́ я кота́ у Га́нны Мынтузо́выї, кыб мышэ́й тро́хы половы́в, а він навалы́в мі́ні грома́ду в карто́плы пуд кроватьмы́. Я кота́ зловы́ла і пы́сыю в ёго́ котяхы́ натовкла́, кыб просы́вся вы́йты на двір.*

**ПЭ́ЙСЫ** *мн.* Доўгія валасы. *Яко́го сму́тку Пе́тя Яро́шчык одгодова́в вылы́зны пэ́йсы? Мо́гуть во́шы чы бло́хы завысты́сь. Мі́ні він сказа́в, шо мо́да за́ры така́я.*

**ПЭ́ЛЯХЫ** *мн.* Кучары, кучаравыя валасы. *Гандрі́й, ты про́сыш, кыб я тыбэ́ пудстры́г. У мынэ́ е ті́лько но́жныцы овэ́чы, і́мы я за́ры пудстрыгу́ твої́ пэ́ляхы.*

**РО́СПУРКА** *ж.* Разрэз (для гузіка). *Га́нна Че́рка пошы́ла мі́ні спудны́цю, а ро́спурку забу́ла зробы́ты, а я її́ шэ й ґу́зыка прыно́сыла.*

**РО́ХЛЯ** *агульн.* Неахайны, брудны чалавек. *Козубы́шка – ро́хля, пуд пры́пычком здо́хла.*

**РОШЧЫ́НА** *ж.* Рошчына. *Трэ́ба пычы́ хліб, а до рошчы́ны ныма́ заква́скы. Трэ́ба сходы́ты до Вле́ны Галу́шчыныї, мо́жэ, вона́ дасць.*

**РУСТЫ́** *незак.* Раўці. *Пушла́ я до прыццада́тіля на́шого сільсове́та Не́вдаха, кыб він вы́пысав мі́ні то́рпу, а він вы́пысав аж на пі́зну во́сынь. А чым жэ мі́ні до гэ́того топы́ты? Рула́ я і слё́зы й ны вытыра́ла.*

**САЧІ́ВКА** *ж.* Сачавіца, сачыўка. *Зва́рана са́чівка з са́лом і цыбу́лыю сма́чна, алы ж шось її́ ныхто́ ны са́дыть.*

**СВЫРБІ́ТЫ** *незак.* Свярбець. *– А чого́ колы́сь в Голо́вчычах закры́лы ба́ню? – Бо по́сля ба́ні у всіх голова́ пырыстава́ла свырбі́ты.*

**СЕРГОВА́ТЫ** *незак.* Рабіць першую падачу (у валейболе). *Ны бу́дэ у нас сергова́ты Іва́н Кырычо́к, він ліпш за всіх гра́е каля се́ткы.*

**СЕ́ЯТЫ** *незак.* Ззяць. *Над Тата́рновычамы се́е, мо́же й до нас дощ дойдэ́. Ек дощ, то тычэ́ моя́ стрі́ха, ек рышыто́.*

**СЁРБАТЫ** *незак.* Сёрбаць. *Прывы́к я у сылі́, схылы́вшы го́лову, сё́рбаты з мы́скы, а поі́хав в го́род до бра́та і здывова́вся, шо там всі ї́дэть ты́хо.*

**СІ́РКА** *ж.* Сера, серка (выкарыстоўвалася пасля вайны для лячэння каросты). *І яко́го сму́тку я пусты́ла пырыночова́ты свого́ шва́гра з Галыка́? Пото́м прышло́сь усі́х дытэ́й лі́чыты од коро́сты росто́пляныю сі́ркію.*

**СПЁКЫ** *мн.* Загуслая кроў (кабана). *Трэ́ба зобра́ты спё́кы і зробы́ты мучаны́цю. Че́рка Га́нна робы́ла, то мучаны́ця була́ вэ́льмэ сма́чна.*

**СУ́ДЫС** *м.* Сустрэча. *Учі́тілька Еле́на Иасо́новна Ле́днік всі жы́лы у мынэ́ достава́ла! Хоті́в бы я за́ры пры су́дысу подывы́тысь її́ у во́чы і спыта́ты, за шо вона́ мі́ні ста́выла дво́йкы?*

**СЦЫ́КЫ** *мн.* Мача. *Кыб загої́лось потрі́сканая од со́нця шку́ра на нога́х, трэ́ба помочы́ты ра́нкы сцы́камы, – вучы́в мынэ́ моло́го Пе́тя Трымбу́к.*

**ТОРП** *м.* Торф. *В Рокы́ты колы́сь копа́лы торп. На́віть заготовле́лы, кыб їм топы́ты у Ганто́полі.*

**ТРУ́БНЫЦЯ** *ж.* Частка спіны ніжэй паясніцы; дупа. *Ка́жыця ныма́ чого́ ї́сты, а во На́сця яку́ю тру́бныцю одгодова́ла.*

**ТУМА́К** *м.* Удар кулаком. *В Голо́вчычах ныхто́ ны быжы́ть в мілі́цыю. Ек зло́влеть зло́дыя, то зло́дыю надаю́ть тумакі́в, і бу́дэ він ходы́ты зло́дыём до са́мэї смэ́рты.*

**ТХІР** *м.* Тхор, шашок. *Тхір уна́дывся у мынэ́ курэ́й кра́сты. То до́брэ, шо ёго́ е́кось забы́в Сё́ма Ла́зур.*

**ТЫ́ЖДЫНЬ** *м.* Тыдзень. *Вырба́ б'е, ны я б'ю, за ты́ждынь Вылыкдынь.*

**ХВА́ЙНЫЙ** *прым.* Прыгожы, сімпатычны. *Ва́ся Ко́тык хва́йный хло́пыць, на ёго́ дывкы́ са́мы ві́шаюця.*

**ХЛЫПТА́ТЫ** *незак.* Сёрбаць, хлёбаць. *Ма́нька Новосі́льска хлыпта́ла горі́лку, ек воду́, покы́ ны замэ́рзла на мо́глыцях каля Осы́повыч.*

**ХОЛОДО́К** *м.* Цянёк, халадок. *Так я уталова́лася, покы́ грыбла́ сі́но в Вы́жарах, шо в обі́д захоті́лось хоч тро́хы полыже́ты пуд корчэ́м в холодку́.*

**ХРАЗДО́К** *м.* Храсток, расток. *Мы сады́лы карто́плы. Воло́дя Макарі́в гора́в, сусі́дкы помога́лы. До горі́лкы ж ны дасы́ часнычка́ чы цыбу́лькы. Зварыла пі́вня. Він був такы́й молодэ́нькій, храздкы́, а ны ко́сты.*

**ХРУ́МСТАТЫ** *незак.* Хрумстаць. *Ек мі́ні захоті́лось ї́сты поба́чывшы, ек Яро́шчык Пе́тя хру́мстае су́шкы.*

**ЦЬКОВА́ТЫ** *незак.* Нацкоўваць. – *А шо було́ б, кыб на поплавны́чого нацькова́ты соба́ку? – Нычо́го ны було́ б, бо свій сво́го ны кусае.*

**ЦЭ́БРЫК** *м.* Дзяжа вышынёй прыкладна 60 см для прыгатавання і захавання ежы для свіней. *Ухваты́лысь ку́ры у сі́ны і здзі́лы з цэ́брыка мны́го свыне́чыї ї́жы.*

**ЦЯПУ́-ЛАПУ́** *прысл.* Трошкі, ледзь-ледзь. *Шо ты мі́ні налы́в ю́шкы, ек кото́вы? Трэ́ба лы́ты ны цяпу́-лапу́, а кыб шэ й мне́са з дна доста́ты.*

**ЧАВЫ́ТЫ** *незак.* Ціснуць. *Кыб дывче́т чавы́ты, трэ́ба шы́ю мы́ты.*

**ЧЕ́ЙКА** *ж.* Івалга. *Покы́ по́сля войны́ боло́та ны осушы́лы, на Га́лі, в Вы́жарах альбо́ в Пырыві́сному було́ мны́го че́ёк, на́віть грыці і ды́кы ка́чкы булы́, алы́ мэнч.*

**ЧІ́ТА** *агульн.* Неахайна апрануты чалавек (па аналогіі з імем малпы Чыты з кінафільма «Тарзан»). *Лю́ды каза́лы, шо колы́сь Мыкы́та Кага́н до высі́лля був похо́жій на Чі́ту.*

**ЧЫПЫ́ТЫ** *незак.* Чапаць. *На́шо мі́ні́ чыпы́ты Фе́ню Мынтузо́ву? У ї́ї́ е Ва́ся Ю́рко.*

**ЧЫРІ́Т** *м.* Чарот. *Чым покры́ты хлыва́? Соло́мы ныма́, бо вжэ ныхто́ ны сі́е жы́то. Чыріт то́жэ до́брэ бу́дэ.*

**ШВА́ЙКА** *ж.* Швайка. *Моя́ до́лынька! Трэ́ба коло́ты поросе́, а мій сусі́д Ва́ся Бурачо́к шва́йку ны оддае́, ка́жэ, шо дэсь згубы́в.*

**ШВО́РЫТЫ** *незак.* Неахайна насіць адзенне. *Купы́в Ся́ндо нагавы́цы солда́цькы з до́брого сукна́. На́віть ходы́в на та́нцы, а пото́м шво́рыв їх так, шо то́е галифе́ хоч выкыда́й.*

**ШЕ́ХВОРОСТ** *м.* Шалахвост, неўтаймаваны чалавек. *Яро́шчык Кале́нік – во був ше́хворост. Він на́віть в ныді́лю дро́ва руба́в і каза́в, шо Бо́га ны боі́цця. За гэ́то ёго́ рога́тый ху́тко забра́в до сыбэ́.*

**ШІ́ХЛЯ** *ж.* Малярыя. *Настрада́лысь мы в бе́жанцях: то коро́ста, то ші́хля, то во́шы! То до́брэ, шо мынэ́ хво́ру ссады́лы з ба́ржы в Кы́ёвы.*

**ШУЛЕ́К** *м.* Ястраб. *Ва́нька Бала́буха накы́нувся на Звоняре́, ек той шуле́к.*

**ШУМ** *ж.* Пена. *У мынэ́ була́ така́я мара́та одэ́жа, шо пры мытті́ порошко́м на́віть шу́му ны було́.*

**ШЧУР** *м.* Крот. *Ма́ня! Шо ты копа́їся в горо́ды, ек шчур чы ек Бырдуны́ха Ду́ня. Трэ́ба колы-нэ́будь і на со́нычко подывы́тыся.*

**ШЧЭ́ДРЫК** *м.* Божая кароўка. *Шчэ́дрык – гэ́то тобі́ ны коро́ва, вона́ ны до́їця.*

*В. М. Курцова, С. П. Кусянкова*

## З ТЭРМІНАЛОГІІ ЛУЧЫНСКІХ ПЛЫТАГОНАЎ

Пададзены ў артыкуле матэрыял адносіцца да асаблівай сферы вытворчай дзейнасці сельскіх жыхароў, займацца якім можна было, калі побач цякла рака. Займаліся плытніцтвам асобы, вольныя ад тэрміновай працы па гаспадарцы, або тыя, для каго гэта быў традыцыйны сродак зараблення грошай на жыццё. Сёння гэта рамясло ўжо не існуе. Людзей, якія даўней працавалі плытнікамі, займаліся сплавам лесу, у цяперашні час сустрэць у Беларусі цяжка. Наш суразмоўца, Нязнаеў Леанід Сцяпанавіч, нарадзіўся ў 1924 г., удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, ураджэнец і жыхар вёскі Лучын, некалі сам шмат гадоў запар ганяў плыты, бо працаваў *у сплаўной*. Тое, што змог успомніць і расказаць, прапануем чытачам. На жаль, гэта колькасна абмежаваная лексічная падборка. Удалося зафіксаваць толькі некаторыя са спецыяльных абазначальных сродкаў, якімі актыўна карысталіся плытагоны ў сваёй працы. Але і ў такім аб'ёме гэты словазбор надзвычай патрэбны для складання ў перспектыве спецыяльнага тэматычнага даведніка па плытагонстве.

**АБШЫВА́НКА** *ж.* Лодка-пласкадонка.

**АПАЧЫ́НА** *ж.* Вялікае вясло, якое ўстанаўліваецца ў пачатку плыта і служыць рулём. *Апачы́на сьпе́раду як плыт.*

**АРА́ЛА** *н.* Крэпкі кол, якім карысталіся для надзейнага замацавання плыта каля берага. *Ара́ла ўстарча́лася ў бераг,* і канат трымаў плыт на крутых паваротах, калі трэба было спыніцца ля берага. *Ара́ла – прыва́ліваць к бе́рагу астана́ўліваць плыт. Плыт плыве́, яго́ ця́гня. Ара́ла зарыва́іш да тых пор, паку́ль ні астано́віш плыт. Ара́ла закрапля́іш і мо́жыш хадзі́ць. На́да плысьці – апя́ць ара́ла падыма́іш, на плыт – і паплы́ў.*

Арала выкарыстоўвалі таксама для стрымлівання пры сплаве ў небяспечных месцах на рацэ.

**АТВАЛІ́ЦЬ** *зак.* Адплысці, адчаліць ад берага. *Брыга́дай ганялі лес. Плыты́ зьдзе́лаў, бу́дку паста́віў, атваліў, а сам у бу́дку.*

**АТМА́ШКА** *ж.* Падача сігналу сустрэчным водным транспартным сродкам. *Як к бе́рагу прываліў* [паказваеш]: *прыва́лівай ты, яму́ дзе́лаіш атма́шку ара́лам.*

Сігналізавалі ліхтарамі рознага колеру ці стукам у спадручныя сродкі.

**БА́КЕН** *м.* Перасоўны ліхтар на рацэ для вызначэння мелі. *Ба́кен – хвана́р.*

**БОН** *м.* Ланцуг звязаных паміж сабой бярвёнаў, якімі перагароджвалі ці адгароджвалі раку для затрымкі лесу пры *мо́левым* лесасплаве. *Бон вя́жыш тро́сам і адны́м са дным у стык і тро́сам шлыгу́іш. Бо́нам загара́жуіш рэ́чку. Бон – пірагаро́дка. Бон дзе́ржыць моль.*

**БУ́ДКА** *ж.* Будан на плыце або шалаш на беразе для адпачынку. *Бу́дка была́. Із хване́ры дзе́лалася. Плыве́ш, а дождж – хава́цца ж на́да. На начо́ўку ста́лі – у бу́дку спаць лажы́ліся. Бу́дка бальша́я – ме́тры два с палаві́най, тры длінно́й. Карава́н го́нім, е́сьлі адзі́н го́ніш, нібальшэ́нькаю будку дзе́лаіш, адзі́н ля́жыш. Карава́н па хаду́ ідзе́, па ці́чэ́нію.*

**БЫСТРА́** *ж.* Імклівае цячэнне ракі.

**ВЫПЛАЎНЫ́** *прым.* ○ ВЫПЛАЎНА́Я РАКА́. Рака, на берагах якой раслі вялікія лясы, дзе праводзіліся лесанарыхтоўкі. Па гэтай рацэ лес невялікімі часткамі, ці *кле́йнямі*, сплаўляўся да месца, дзе рабіліся *карава́ны.*

**ВЯЗА́ЦЬ** *незак.* Звязваць лес у плыты. *З мале́нства ба́чыў е́та ўсё дзе́ла, прышо́ў з а́рміі – віза́ць наўчы́лі старыкі́. Адзі́н с аднаго́ бо́ку вя́жа, другі́ з друго́га, палуча́іцца грабёнка.*

**ВЯ́ЗКА** *ж.* ○ ЗІ́МНЯЯ ВЯ́ЗКА. Нарыхтоўка лесу (*кле́йняў*) зімой для сплаву на беразе *сплаўно́й* ракі. Вясной, калі вада падымалася, *кле́йні* аказваліся ў рацэ і іх сплаўлялі да месца фарміравання *карава́на.*

**ГАРНО́** *н.* Месца на плыце, абсталяванае для прыгатавання ежы. Яно выкладвалася дзёранам на пале́ны травой, на дзёран насыпалі пясок. *Зьдзе́лалі карава́н, вары́ць жа нам на́да: э́та ж ідзе́ш два, тры дні, як шчэ пападзе́. Лажы́лі таке́я па́лкі, пато́м дзёрны насі́лі зь бе́рагу, цяпло́ кла́лі, вары́лі е́сьці.*

**ГАНЯ́ЦЬ** *незак.* Сплаўляць (лес, плыты і інш.). *Габя́ць лес, кле́йні, грабёнкі – на́да сьпіцыя́ліст. Го́ніш лес – глядзі́ш, штоп ні выхо́дзіў на мель. Брыга́дай га-ня́лі лес.*

**ГРАБЁНКА** *ж.* Звяно плыта. *Грабёнкі уме́ста зьвя́зуеш, но іх жа ні зьвя́зуеш, а про́ста на́шлыгам накі́ніш. Іх жа ні зьвя́жыш.*

**ГУЖБА́** *ж.* Гнуткія лазовыя ці бярозавыя галіны, якімі вязалі *кле́йні* на месцы нарыхтоўкі лесу. *Гужбо́й лес візáлі. Лаза́ круці́лася. У вадзе́ лес веза́лі. Гужбу́ зь бяро́зы дзе́лалі, з лазы́. Лаза́ то́лькі йна… на цьвет кара́ ўжо ні така́я, жыткасьці бо́льшы у яе́.*

**ГУЖБІНА́** *ж.* Тое ж. *Ка́ждая гужбі́на на адзі́н край пале́на. Другі́ ж край на́да прывя́заць.*

**ДРАЙНУ́ЦЬ** *зак.* Кінуць якар у ваду. *Драйну́ць – кі́нуць я́кар із ду́ба у во́ду. Я́кар кіда́іш і смо́трыш, як пашло́.*

**ДРУК** *м.* Друк, моцны кол, якім карысталіся для вываду плыта на глыбокае месца.

**ДРУ́ЧЧА** *н. зб.* Друкі, моцныя калы, якімі карысталіся для вываду плыта на глыбокае месца. *Дру́ччам сьпі́халі зь ме́лі на глыбо́кая ме́ста, выта́лківалі.*

**ДУБ** *м.* Вялікая, памерам ад 8 м у даўжыню і да 2,5 м у шырыню, лодка, якая выкарыстоўвалася пры сплаве лесу. Лодка замацоўвалася на канцы плыта. У лодцы знаходзіліся вялікія якары на выпадак тармажэння. Звычайна тут быў і *дубо́вік*, адказны за караван. *Дуп – бальша́я ло́дка, ў ём садзі́лісь чыты́ры* (?), *шэсьць чалаве́к. Дуп пасяро́д засла́ны даска́мі. Дуп – ло́тка, то́лькі са́мі дзе́лалі. Пі́ліш лес, па́лка* [дошка] *санці́метраў пітна́ццаць-шасна́ццаць.*

**ДУБО́ВІК** *м.* Галоўны на плыце, адказны за плытагонаў і стан плытоў. *Дубо́вік* павінен быў ведаць лоцыю і правілы суднаходства.

**ЖЭ́РДКА** *ж.* Жэрдка, бервяно, пры дапамозе якога ўмацоўваецца плыт. *Ло́жыш жэ́ртку і к жэ́рткі вя́жаш. Вот пале́на, сюда́ ло́жыш жэ́ртку і пашо́ў вяза́ць. Вя́жыш, пака́ ні ко́нчыцца э́та жэ́ртка.*

**ЗА́БЕРАЖНІЦА** *ж.* Палоска вады ад берага, якая першай замярзала пры надыходзе маразоў і першая адтавала пры надыходзе цяпла.

**ЗАГНА́ЦЬ** *зак.* Сплавіць, даставіць да месца прызначэння. *Грабёнка то́жа на́да сьпіцыялі́ст, іна́чы ні заго́ніш.*

**ЗАПУСКА́ЦЬ** *незак.* ◊ ЗАПУСКА́ЦЬ ГУЖБУ́. Звязваць лес у *кле́йню.*

**КАВЫ́ЛКА** *ж.* Папярочны цурбачок (калодачка) зверху дзяржання ў прыладах (у вясле, вілках, лапаце і да т. п.).

**КАРАВА́Н** *м.* Некалькі звязаных плытоў для вялікага сплаву, якія цягне кацер. *Грабёнак бага́та ста́віш у карава́н, ты́сячы дзьве ста́віш. Карава́н зашлыгава́ў, прышо́ў параxо́д, зачапі́ў буксі́рам і пацёг, а ззаду ты із дуба́м. Карава́н ціплахо́д жа ця́гня.*

Даўжыня такога плыта складала да 1 км; складаўся караван са 100 грабёнак.

**КАЧАТЫ́** *мн.* Уключыны; жалезнае прыстасаванне, замацаванае на бартах лодкі, куды прасоўваліся вёслы для грэблі. *З адно́й стараны́ ду́ба і з друго́й стараны́ ду́ба два чалаве́кі зь вёсламі, па два чалаве́кі на кача́ты.*

**КЛЕ́ЙНЯ**, **КЛЯЙНЯ́** *ж.* Плыт або звяно плыта. Шырыня клейні, г. зн. колькасці бярвёнаў у ёй, залежала ад шырыні ракі. *На Дняпрэ́ кляйні́ зьвяза́іш уме́ста і ў карава́н ста́віш. Кле́йня шчыта́й бярве́н дзе́сяць у кле́йні. Вот кле́йні вя́жыш, пе́рва пале́на пакладзе́ш, ўтаро́я, а ўсьлед тапляка́. Пато́м апя́ць ло́жыш е́лку і́лі сасну́. Ёлку і сасну́ кладзе́, каб дзіржа́ла тапляка́, ён жа* [тапляк] *пато́ня.*

**КУ́ГА** *ж.* Прыстасаванне з замацаваным на канцы грузам, якое служыла для ўказання на мель. *Ку́га – пале́на, і к пале́ну прывя́заіш бальшы́ ка́мінь, кіда́іш*

*у рэ́чку. Вот ціплахо́д, ідзёт паўс ку́гу, за ку́гу ні лезь, там ме́лка.*

**ЛЕ́НЦА** *ж.* Спосаб укладкі *мо́лі і русто́йкі. Ле́нцы ме́траў со́рак, а то й пійся́т былі́ длінно́й.*

**МЕ́СТА** *н.* Звязка плытоў, якая складаецца з чатырох *грабёнак.*

**МОЛЬ** *ж.* Лес-самаплаў, які сплаўляўся без плытагона. Плытагон для нагляду за самасплавам звычайна ішоў берагам. *Па Друці́ пуска́лі моль, а на вы́хадзі загара́джалі. Моль скі́нулі у рэ́чку, і іна́ паплыла́.*

**МО́ЛЕВЫ** *прым.* ○ МО́ЛЕВЫ СПЛАЎ. Спосаб злучэння бярвёнаў, пры якім *грабёнка* звязвалася, або *шлыгава́лася*, толькі па краях. Бярвёны, ці *палкі*, змешчаныя ў сярэдзіне грабёнкі, не звязваліся. З-за гэтага плытагон не мог знаходзіцца на плыце. Молевым сплавам з месцаў нарыхтоўкі сплаўлялася драўніна, якую выкарыстоўвалі на дровы ці на *русто́йку.*

**ПА́ЛКА** *ж.* Палена, бервяно. *Пале́на абня́ў, у пятлю́ па́лку заста́віў, за другі́ кане́ц, апкруці́ў, і ўсё. Па́лку палажы́ў, усьле́д, штоп па́лку прыжыма́ў, вя́жыш усьле́д.*

**ПЛА́ВАЦЬ** *незак.* Сплаўляць лес. *Пла́ваць – гаўня́ць лес, кле́йні э́тые.*

**ПЛАВУ́ЧЫ** *прым.* ○ ПЛАВУ́ЧЫ ЛЕС. Лес, прыдатны для сплаву. *Ста́вілі плаву́чы лес і тапля́кі́ сьле́дам за плаву́чым ле́сам.*

**ПЛЫТ** *м.* Плыт; звязаныя паміж сабой бярвёны для лесасплаву. *Плыт – када́ кле́йні зьвя́зваіш бага́та. Кле́йні да кле́йні станаві́лі і віза́лі. Кле́йны віза́лі адна́ са дной. Кле́йны звіза́лі вяршы́на к вяршы́ні.*

**ПРЫВА́ЛІВАЦЬ** *незак.* Прыставаць, прычальваць да берага. *Но́ччу, е́сьлі карава́н цяну́лі, ціплахо́д жа ця́гня карава́н, у аснаўно́м на́ нач прыва́лівалі.*

**РАСПУСЦІ́ЦЬ** *зак.* Распілаваць дрэва на дошкі.

**РУСТО́ЙКА** *ж.* Драўніна хвойных парод, якая выкарыстоўвалася для падпорак (умацавання праходаў у шахтах). *Русто́йка у ша́хты. Русто́йкай абстаўля́еш па прахо́ду. Жале́зная* [апора] *– э́та ху́жы, чым русто́йка. Русто́йка прадупражда́я: мо́жа быць абва́л, тады́ іна́ трашчы́ць. Русто́йка ме́тры два, дзе была́ ме́тры тры, больш ні была́.*

**САМАПЛА́Ў** *м.* Сплаў (лесу) сілай ракі, без буксіроўкі параходам.

Пазней самаплавам сплаўлялі лес па *выплаўно́й* рацэ з месцаў нарыхтоўкі да месцаў фарміравання *карава́наў.*

**САСКАРУ́Б** *м.* Прылада (сякера?) для ачысткі дрэва ад галля, сучча. *Саскару́бы – су́чча абру́бляіш.*

**СПАКЛЕ́ЦІЦЬ** *незак.* Звязваць, злучаць, замацоўваць (*кле́йні*, *грабёнкі*, *ме́сты*).

**СПЛАЎ** *м.* Лесасплаў, транспарціроўка лесу па вадзе. *Сплаў пачына́ўся сра́зу, штоп чуць-чуць вада́ спа́ла: бірагоў жа ні ві́дна. Пасьле́дні сплаў, када́ заме́рза́я* [рака].

**СПЛАЎНА́Я** *ж.* Вытворчае падраздзяленне ў галіне лесапрамысловасці. *Раз прысла́лі за́балаццаў, штоб рабо́талі у сплаўно́й. Яны́ прышлі́, паглядзе́лі і ка́жа: да э́та ні на́ша рабо́та.*

**СПЛАЎНЫ́** *прым.* ○ СПЛАЎНА́Я РЭ́ЧКА. Рака, прыдатная для лесасплаву. *Е́зьдзілі па ўсіх сплаўны́х рэ́чках, дык е́та е́зьдзілі ужо́ у за́рабаткі на Біразіну́, на Дне́пар. Выганя́лі ві́лкі – па тры-чаты́ры пале́ны.*

**СПЛА́ЎШЧЫК** *м.* Рабочы на плытах, плытагон. *На Сажы́ другі́е спла́ўшчыкі.*

**СТАКА́ДА** *м.* Эстакада; месца нарыхтоўкі і распрацоўкі лесу для сплаву. *Стака́да – куда́ зацяга́ваць лес. Гальлё абру́бяць, я заца́ёг на стака́ду, а на стака́дзе разрабатаюць пі́ламі. Скі́ніш на стака́ду. Ка́ждая пале́на ло́жыш па асарці́менту.*

**ТАПЛЯ́К** *м.* Дрэва, якое ляжала ў вадзе. *Тапля́кі́ дастава́лі шаста́мі, на шасту́ ра́чыкі таке́я былі́. Шасто́м забіва́іш уручну́ю і падыма́еш із вады́, пато́м тапля́кі́ вя́жыш, ста́віш і́лі е́лкі, і́лі сасну́, а пато́м тапля́кі́ вя́жыш усьле́д, што́бы дзіржа́ла, што́бы дзіржа́лі і сасну́, і е́лку.*

**ТРАЛЯВА́ЦЬ** *незак.* Выцягваць бярвенне на больш прасторнае месца ў лесе. *Тралява́лі лес. Любы́ лес мо́жна тралява́ць.*

**ТРОС** *м.* Трос; сродак для замацавання звёнаў плыта. *Трасо́м ні вя́жыш, а про́ста дзе́лаіш так, штоб кане́ц, па́лка за па́лкай штоб ішла́.*

**УСТАРЧЫ́ЦЬ** *зак.* Замацаваць у бераг, а таксама ў дно ракі на небяспечных месцах *ара́ла* ці *чыгіню́.*

**ХВАНА́Р** *м.* Бакен. *Хвана́р як ку́га. Па Дняпру́ хванары́ стая́лі. Хвана́р з аднаго́ бо́ку, з друго́га. Хванары́ пака́зуюць дзе ход, а дзе німа́ хо́ду ціплахо́ду. Рэ́чку зна́іш.*

**ХЛЫСТ** *м.* Абцярэбленае дрэва з верхавінай. *Тралю́еш хлысты́.*

**ЧЫГІ́НЬ** *м.* Прылада (завостраны шост), якая ўбіваецца ў зямлю для надзейнай затрымкі плыта. *Вот на́да прывалі́ць, выска́кваіш ш чыгінём, дзержы́ш, і – у зе́млю, ён цягня́ і выра́ўнівая. Падыма́іш пато́м і да́льшы плыве́ш.*

**ЧЫГІНЯ́** *ж.* Тое ж. *Чыгіня́ ізь дзе́рава.*

*Чыгіня́* выкарыстоўвалася і пры разліве ракі. На яе намотвалася вяроўка, каб трымаць *кле́йню.*

**ЦУ́РКА** *ж.* Цурбак, маленькі кавалак дрэва.

**ШЛЫГ** *м.* Металічны трос з пятлёй, якім звязваюцца звенні плыта (?); месца замацавання бярвення тросам або гужбой. *Шлыг дзе́лаіш на е́там пале́ні і на е́там пале́ні. І так пашо́л адзі́н за адны́м.*

**ШЛЫГАВА́ЦЬ** *незак.* Замацоўваць плыт тросам. *Ста́віш у карава́н лес, грабёнку, а пато́м трасо́м шлыгу́іш за канцы́.*

Невялікія плыты, ці *кле́йні*, шлыгаваліся гужбой і збіраліся ў грабёнку. Кожная *грабёнка,* у сваю чаргу, шлыгавалася тросам для злучэння ў *ме́ста.*

**Я́КАР** *м.* Якар; прыстасаванне для ўтрымання на месцы судна, каравана. *Карава́н астанаві́ць на́да, скіда́еш усе́ якара́, штоп задзе́ржыць карава́н. І каб зь бе́рагу* [трымаць], *забіва́іш колья і прывя́заіш, штоб на якара́х яны́ ні балта́ліся, каб к бе́рагу было́ платне́й. Так вот і дзе́лаіш. Я́кар падыма́іш. Я́кар дзяржы́ш да тых пор, пака́ вы́раўнаіш.*

**ЯКО́РЫЯ**, **ІКО́РЫЯ** *зб.* Якары. *Дуб і яко́рыя* [за караванам], *с адно́й стараны́ яка́р, з друго́й яка́р і на ду́бі яка́р. Іко́рыя – е́та якара́.*

*Л. В. Леванцэвіч*

## З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ ЗДЗІТАВА БЯРОЗАЎСКАГА РАЁНА

**БЛЮ́МАТЫ** *незак.* Часта маргаць. *Оно́ очы́ма блю́мае.*

**БЛЮ́НТАТЫСЬ** *незак.* Аціраццa, хадзіць, перашкаджаючы іншым; хадзіць без мэты. *Иды́, ны блю́нтайся пуд нога́мы.*

**БРО́ХАТЫСЬ** *незак.* Плёскацца ў вадзе. *Шо ты бро́хаешся в гэ́тым та́зіку?*

**ВОМПЫ́ТЫ** *незак.* Напружана думаць. *Убы́ла собі́ ў голову́ дурнэ́е, усю́ нуч вомпы́ла.*

**ВЫ́ЛЮДНЯТЫ** *зак.* Дабівацца становішча ў жыцці. *Зра́зу була́ ныя́ка, а пото́м дэ шо й взяло́ся – вы́людняла.*

**ВЫ́ХЛЫПТАТЫ** *зак.* Выхлебтаць, хутка выпіць. *Ны вспі́ла я ў поломы́сок солома́хі влы́ты, як вона́ вжэ всэ вы́хлыптала.*

**ГАЛАСОВА́ТЫ** *незак.* Моцна крычаць. *Мар'я́на до́бра ці́тра, як шо ны по юй, то галасу́е на всю ву́лыцу.*

**ГА́РКАТЫСЬ** *незак.* Сварыцца. *Шо вы́тэ всэ га́ркайітэся з са́мого ра́нку, шо вжэ знов ны подылы́лы.*

**ГО́ЙСАТЫ** *незак.* Бадзяцца, хадзіць без мэты. *Як пошла́ зра́нку, той го́йсае ні́дэ і за́рэ.*

**ГУПІ́РЫТЫ** *незак.* Моцна біць па чым- ці кім-н., стукаць у што-н. *Я е́йі оно́ шо лозы́нкою вы́тнула, а вона́ як ста́ла мынэ́ у плэ́чы гупі́рыты.*

**ГЭ́ПНУТЫ** *зак.* Гопнуцца, упасці, моцна ўдарыўшыся. *Як гэ́пнулася на порозі́, ду́мала, шо ны вста́ну.*

**ДОВБСТЫ́** *незак.* Паўтараць шмат разоў адно і тое ж. *От дэ довбэ́шка, ку́лькі ны довбы́, ныц ны доходы́ть.*

**ДОЗОЛЯ́ТЫ** *незак.* Назаляць, пастаянна надакучваць. *Отчыпы́сь, ны дозоля́й.*

**ДОМЫНА́ТЫ** *незак.* Даймаць, перашкаджаць. *Иды́, ны домына́й мні.*

**ДРЫ́ХНУТЫ** *незак.* Спаць. *Дры́хнэ собі́ і ныц ны чу́е.*

**ЗАБА́ВЫТЫСЯ** *зак.* Забавіцца, затрымацца. *Пошо́в зра́нку карто́плі подывы́тысь, дай заба́вывся, бо далёко, а но́гі болят́ь.*

**ЗАВІХРЫ́ТЫ** *зак.* Завіхрыць. *На дворы́ так на́нуч завіхры́ло.*

**ЗАВІХРЫ́ТЫСЯ** *зак.* Задумаць. *Матру́на нішо́ вжэ знов собі́ завіхры́ла, му́сыть.*

**ЗАКАРАБУ́НЫТЫСЬ** *зак.* Залезці. *Пудня́ўся га́лас, ля́монт, а вона́ закарабу́нылась на піч, да оно́ посміха́ецца.*

**ЗАКОРТІ́ТЫ** *зак.* Закарцець, моцна захацець. *Свя́то було́ вылы́ке, а мні гэ́так закорті́ло вышыва́ты.*

**ЗАЛОПОТІ́ТЫ** *зак.* Пачаць хутка збірацца. *Ну, чого́ залопоті́ла, сыды́ собі́ на пырэ́ндджы.*

**ЗАЛЯГА́ТЫСЬ** *незак.* Моцна смяяцца. *Аж заляга́ецца од смі́ху.*

**ЗАЛЯ́ДЫТЫ** *зак.* Страціць апетыт, не есці і дрэнна выглядаць. *Йі́сты ны ва́рать, ны прыбыра́ють у ха́ті, ді́ты заля́ділы.*

**ЗАЛЯКОТІ́ТЫ** *зак.* Задрыжаць. *Аж залякоті́ла од хо́лоду, пока́ стоя́ла.*

**ЗАМАНУ́ТЫ** *зак.* Страціць апетыт. *Аж йі́сты вжэ заману́ло з гэ́тою вучо́бою.*

**ЗАПАДА́ТЫ** *незак.* Часта хварэць. *В про́шлым го́ді ужэ́ всэ западáла.*

**ЗАРУ́ПЫТЫ** *зак.* Захваляваццa. *Бач які́й, сыді́в, сыді́в, а тут зару́пыло.*

**ЗАТЯ́ТЫСЯ** *зак.* Зарачыся, даць зарок. *Затяла́ся, шо ныц ны зна́е.*

**ЗАХІ́РЫТЫ** *зак.* Захварэць. *Нішо́ муй чолові́к зусі́м захі́рыв.*

**ЗАЧВЭ́НДЫТЫ** *зак.* Напоўніць дымам. *Ко́мына ны одкры́в, то зачвэ́ндыв усю́ ха́ту.*

**ЗАЮ́ШЫТЫСЯ** *зак.* Затаіць злосць, раззлавацца. *Ох, лю́дкі мо́і хоро́шы, як заю́шылась, мы до е́йі, а вона́ ны пры́ступу.*

**ЗБАЁДАТЫ** *зак.* Схаваць сапсаваўшы. *Дэ вжэ збаёдала ручныка́?*

**ЗБЫТКУВА́ТЫ** *незак.* Здзекавацца. *Лыхы́й у е́йі чолові́к, гэ́так збытку́е над е́ю.*

**ЗГО́МТАТЫ** *зак.* Згарнуць абы-як. *Абы-я́к зго́мтала, помня́ла всю ху́стку.*

**ЗНАТУ́РЫТЫСЯ** *зак.* Заўпарціцца. *Мы усі́ Насту́сі свое́ трулю́ем, а вона́ знату́рылась і усэ́ тут.*

**ЗОМГНУ́ТЫ** *зак.* Заснуць на кароткі час. *Здае́цца, оно́ о́чы замгну́ла, а вжэ со́нцэ вста́ло.*

**ЗУМІ́ТЫСЬ** *зак.* Зніякавець, засаромецца. *Зра́зу зумы́сна нэ прызнава́лась, а вжэ як вы́крылы е́йі, то зумі́лась му́цно.*

**З'ЯГА́ТЫ** *незак.* Надаядаць, просячы аб чым-н., звягаць. *Я дозво́лу ны даю́, а вун усэ́ з'яга́е.*

**КЛЭ́ГАТЫ** *незак.* Ісці кульгаючы. *Е́ле клэ́гае, му́сыть, ногу́ обозві́чыв.*

**КОЛЫВА́ТЫСЬ** *незак.* Перавальвацца з нагі на нагу. *Идэ́, як ка́чка колыва́ецца.*

**КО́ШКАТЫСЯ** *незак.* Павольна збірацца. *Ужэ́ всі лю́дкі давно́ повправля́ліся, одна́ ты ко́шкаешся.*

**КУБЛЯ́ТЫСЬ** *незак.* Збірацца ў групы. *Як то́ко вэ́чор, то вжэ кубля́юцца всі ра́зом.*

**ЛЫМЫНТОВА́ТЫ** *незак.* Лямантаваць, моцна крычаць. *Як зачну́ть свары́тыся, лымынту́ють на вэсь двур.*

**ЛЯ́ПАТЫ** *незак.* Гаварыць абы-што. *Хва́тыть тобі́ тым языко́м пога́ным ля́паты.*

**ЛЯ́СКАТЫ** *незак.* Пустасловіць, гаварыць абы-што. *Ля́скае, абы́ ны мовча́ты.*

**МАДЫГОВА́ТЫ** *незак.* Прымяраць. *Ба́ло шы́ю сподны́цу, мадыгу́ю, коб блышча́чы празу́кі поўшыва́ты.*

**МОРГОТІ́ТЫ** *незак.* Пералівацца. *Вода́ на со́нцы морготы́ть.*

**МУТЫ́ТЫ** *незак.* Хлусіць. *Ой, хоть мні вжэ ны муты́.*

**МЫ́МЛЯТЫ** *незак.* Мямліць, невыразна гаварыць. *Шо ты тут мы́мляеш?*

**НАКАВГА́ТЫСЬ** *зак.* Хутка паесці, не пераджоўваючы ежы, хутка праглынуць. *Накавга́лась, як ка́чка.*

**НАЛОЖЫ́ТЫ** *зак.* Адзець, надзець. *Наложы́ла пла́тте.*

**НАМЫ́КАТЫСЯ** *зак.* Натаміцца. *Намы́калася за дэнь на робо́ті, шо е́ле но́гі доха́ты прыволокла́.*

**НАСАДЫ́ТЫСЬ** *зак.* Наесціся моцна. *До стола́ як долі́зла, то вжэ ж і насады́лась.*

**НАСТРОПОЛЫ́ТЫ** *зак.* Настроіць супраць каго-н. *Шо ты ска́жэш, як вона́ його́ настрополы́ла, то тыбэ́ вжэ не послу́хае.*

**НАЧАВЫ́ТЫ** *зак.* Надавіць нечым. *Му́цно начавы́ла ногу́ ў чобо́ті.*

**НАЧВЭ́РЫТЫ** *зак.* Учыніць. *Ну, і шо ты тут ужэ́ начвэ́рыла?*

**НАЧЫПУ́РЫТЫСЬ** *зак.* Начапурыцца, прыгожа ўбрацца. *Начыпурылась, як молодуха.*

**НАШЫХОВА́ТЫ** *зак.* Напакаваць, падрыхтаваць што-н. *Нашыхова́ла ў доро́гу су́мку.*

**НЫЗУ́ЗРЫТЫСЯ** *зак.* Не апамятацца. *Нызу́зрылась, як нуч пройшла́.*

**НЫОБО́ЛЫТЫ** *незак.* Зайздросціць. *Вона́ всім ныобо́лыть.*

**ОБЛЯ́СКАТЫ** *зак.* Абгаварыць. *На́дя всіх обля́скае за вэ́чор.*

**ОБОЗВІ́ЧЫТЫСЬ** *зак.* Знявечыцца, упасці і атрымаць траўму. *З драбы́ны упа́ла, му́цно обозві́чылась.*

**ОБРЭ́СКНУТЫ** *зак.* Падпухнуць, ацячы. *Так о́чы за нуч обрэ́склы.*

**ОГРЫПЭ́ЧЫТЫСЬ** *зак.* Упасці і моцна ўдарыцца. *Учо́ра так огрыпэ́чылась об люд.*

**ОДЗЫЛЯ́ПЫТЫ** *зак.* Адчыніць дзверы. *Хо́лодно, а ты двэ́ры одзыля́пыла.*

**ОДШМАРОВА́ТЫ** *зак.* Адцерці. *Так завозы́в нагавы́цы, шо е́ле одшмарова́ла.*

**ОКЫ́НУТЫ** *зак.* Не наведваць, не даглядаць, забыць. *Окы́нулы старэ́ньку ді́ты, ныко́му ны трэ́бна.*

**ПАЛАША́ТЫ** *незак.* Рваць усё падрад. *У горо́ді палаша́ла всэ пудра́д.*

**ПАРАДОВА́ТЫ** *незак.* Есці з апетытам. *Ты каза́ла, шо вона́ ныду́жа, а бач, як пара́дуе.*

**РОССА́ПАТЫСЬ** *зак.* Ісці расшпіліўшыся. *Прыбі́гла росса́павшыся.*

**РЫМЗА́ТЫ** *незак.* Быць незадаволеным чым-н. *Як уста́ла, той рэ́мжэ з са́мого ра́нку.*

**СМЫ́КАТЫСЬ** *незак.* Бадзяцца, хадзіць без мэты. *Смы́чыцца ні́дэ ці́лы дэнь.*

**СПАРАЗА́ТЫ** *зак.* Моцна ўдарыць. *Як спараза́ла по спыні́ лозы́ною.*

**СТЫПЫНУ́ТЫ** *зак.* Вытрасці. *Ты б чы стыпыну́ла радю́гу.*

**СУДО́СЫТЫ** *зак.* Сустрэць. *Учо́ра судо́сыла в магазі́ні Олэ́нку.*

**ТОРО́ЧЫТЫ** *незак.* Расказваць, даказваючы што-н. *Учо́ра гэ́то Ні́на мні торо́чыла.*

**УМОЛО́ТЫ** *зак.* Многа з'есці. *Усі́ карто́плі умоло́ла.*

**ЧВЭ́РЫТЫ** *незак.* Хутка бегчы. *Коро́ва чвэ́рыла чырыз горо́д.*

**ЧОВПСТЫ́** *незак.* Чаўпці, гаварыць абы-што. *Човпэ́ абы-шо́, ліпш помовча́в кро́хі.*

**ШАБО́ВСНУТЫ** *зак.* Моцна плюхнуць у вадзе. *Як шабо́вснуло нішо́ пуд корчо́м.*

**ШВЫРГНУ́ТЫ** *зак.* Шпурнуць, рэзка кінуць. *Як швыргну́ла ло́жку, то пуд стул залыті́ла.*

**ШВЭ́НДАТЫСЬ** *незак.* Швэндацца, бадзяцца, хадзіць без мэты. *Швэ́ндаецца ці́лы дэнь, бы робо́ты до́ма ныма́.*

**ШМА́ЛЬНУТЫ** *зак.* Моцна стукнуць. *За́рэ як шма́льну, то ху́тко одчэ́пышся.*

**ШЫМЭНУ́ТЫ** *зак.* Адштурхнуць, піхнуць. *Як шымэну́в, то лэдь на нога́х устоя́ла.*

*М. І. Пашкевіч*

## З ЛЕКСІКІ РУБЕЛЬСКАЙ ГАВОРКІ

Рубе́ль – адна з самых вялікіх вёсак не толькі ў Столінскім раёне, але і ўвогуле на Брэстчыне. Прыкладна за 4 кіламетры ад вёскі знаходзіцца рака Гарынь, якая «лічыцца ўмоўнай мяжой паміж заходнепалескімі (берасцейска-пінскімі) і ўсходнепалескімі (тураўска-мазырскімі) гаворкамі» [1, с. 35]. Гаворка рубельцаў вызначаецца своеасаблівасцю гучання, адметнасцю слоўнікавага складу, багатай сінанімікай, выразнай эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай, што дапамагае перадаць у розных жыццёвых сітуацыях найтанчэйшыя нюансы пачуццяў вяскоўцаў, дакладна ахарактарызаваць з'явы рэчаіснасці, паводзіны, учынкі, знешні выгляд чалавека. У слове выявіліся мараль, культура, лад жыцця рубельцаў, іх памкненні, жаданні і ўменне засцерагчы таго, каму было наканавана спазнаваць свет, ад неабдуманых крокаў, няўхвальных учынкаў, спакусаў зямнога быцця. Слова вучыць, падказвае, перасцерагае: *Дзеры лыка, ек дзеруцца; Спас – бэры рукавіцы пры запас; Не говоры абы-лешчо проціў ночы; Не чэпай ластоўчынэ кубло, бо будзеш рабы…*

У 2008 г. быў выдадзены «Рубельскі лексіка-фразеалагічны слоўнік» [2], у які ўключаны 940 лексічных адзінак і 195 фразеалагізмаў. Праца па зборы, сістэматызацыі, вывучэнні моўных адзінак гаворкі вёскі Рубель працягваецца. Ніжэй прапануюцца словы, якія не ўвайшлі ў названую лексікаграфічную працу.

**БАЛЬКОВЭ́** *н.* Пачастунак, які паводле вясковага звычаю прапануецца цеслярам пасля ўкладкі бэлек на зруб хаты. *Ну, Мітро, з цебэ бальковэ: успелі зробіць роботу до вэчора.*

**БА́НО** *прысл.* Бачыш. *Бано, шчо робіцца кэле клуба: людзей – бы на вэселлі.*

**БА́НЬКА** *ж.* Высокі гліняны збан з вузкім горлам. *У баньку налівалі молоко.*

**БАСАРУ́НКІ** *мн. неадабр.* Гулянка. *Скоро ноч, а вы тут басару́нкі ўстроілі: розыходзьцеса по своіх хатах.*

**БЕ́ГМА** *прысл.* Хутка. *Ек дочуласа, шчо нешчо горыць на Сельцах, то бегма бегла: гэто ж і моя дочка там жывэ.*

**БІ́ЛО** *н.* Спінка металічнага ложка. *На біло чэплялі вышыту фіранку, коб хорошч было.*

**БОРОНОВА́ЦЬ** *незак. перан.* Ісці, ледзь пераставляючы ногі (звычайна пра п'янага чалавека). *Гэто ж бачу, Грышка ледзь бороню́е ногамі.*

**БРА** *часц.* Вось. *Гэто бра такі чоловек: ек скажэ, то половіна людзей зо смэху ляжэ.*

**БУ́КАЦЦА** *незак. жарт.* Чокацца. *Бу́кацца не будом: у Хотомлі ўжэ даўно не бу́каюцца.*

**ВЕК** *прысл.* 1. Ніколі. *Век вон нікому не помог.* 2. Заўсёды. *Вон век там сено косіць.*

**ВОЙ** *м.* Рад. *Ек колісь крылі хату ці хлева, то клалі одного воя соломы або чэрэту і прыцiскалі его прыніцамі.*

**ВОРАБЭ́Й** *м.* Верабей. *О, ворабэ́й пыд застрэшок полецеў.*

**ВОРО́ЎЧЫНА** *ж.* Вяроўка. *Тонковата вороўчына, можэ порвацца.*

**ВЫ́ЦІ** *зак.* 1. Выйсці. *Заблудзіўса ў лесі і не могу выці на дорогу.* 2. Скончыцца (пра лекі). *Лекарство вышло – трэба зноў іці ў апцеку.*

**ВЭ́РШЫК** *м.* Верш. *Учора ўвэсь вэчор вэ́ршыка вучыў, а цепэр добру оцэнку получыў.*

**ВЯ́ЗЫ** *мн.* Сухажылле, якое злучае галаву з тулавам. *А чого цебэ занесло на дзерэво: упадзеш, то скруціш вя́зы.*

**ГА́НІЦЬ** *незак.* Абзываць; называць каго-н. мянушкай. *А як его ганяць? Мо вон Пурычовой Насці сын?*

**ГАРБУЗА́** *ж.* Гарбуз. *Солодка гарбуза́ попаласа – трэба запэкці ў пэчэ, мо і дзеці будуць есці.*

**ГЛАДКІ́** *прым.* Поўны, мажны. *Не познаць Павіну дочку – така гладка́ стала.*

**ГОЛОВЭ́ШКА** *ж. неадабр.* Галава. *Головэ́шка твоя дурная! Одыдзі од хлева! Ці ты хочэш, коб цебэ корова на рогі пыдняла…*

**ГОЛУБЭ́Ц** *м.* Голуб. *Голубэ́ц у двор прылецеў – тожэ, бедненькі, хочэ есці.*

**ГУ́КАЦЦА** *незак.* Быць у стане цечкі (пра свіней). *Свіння гу́каецца, трэба до кнура гнаць.*

**ГУ́СКА** *ж.* Гарлачык белы (кветка). *От хорошые гускі ростуць на озеры: бы іх хто намалёваў.*

**ДЗЕСЯ́ТОК** *м.* Капа з дзесяці снапоў. *Жонкі жалі жыто, вязалі ў снопы і сладвалі іх у дзеся́ткі.*

**ДЗЕ́ЦЯТКО** *н.* Ласкавы зварот да дзіцяці. *Ох, дзе́цятко мое, дзякуй тобе, шчо ўважыла мою старосць.*

**ДЗЁЎКІ́** *мн.* Дзяўчаты. *Дзёўкі́, о дзёўкі́! Дзе вы там похаваліса? Нехай бы котора пошла да зелля нарвала свінням.*

**ДОБЫ́ЦЬ** *зак.* Нарадзіць да шлюбу ці пазашлюбнае дзіця. *Добы́ла дзіця і покінула его мацеры, а сама недзі на Украіну замуж вышла.*

**ДОКА́ЗВАЦЬ** *незак.* Гаварыць. *Людзі дока́звалі, шчо Ганна глуміласа з свого пасынка.*

**ДОХО́ДЗІЦЬ** *незак.* Прасіць. *А што ты ў мэне дохо́дзіш грошы? Одкуль я тобе іх возьму...*

**ДОХО́ДЗІЦЬ** *незак.* Паміраць. *Бачу, шчо баба ледзь дыхае: дохо́дзіць ужэ.*

**ДРОТО́ВАЦЬ** *незак.* Замацоўваць драцяное колца на лычы свінні. *Трэба дрото́ваць свінню, коб не рыла землю да не пэрэворочвала больш корыто.*

**ДУБІ́ЦЬ** *незак. экспр.* Напружваючыся, несці або цягнуць што-н. *Куды ты дубі́ш гэту жэрдзіну чэрэз градку? Ці тобе другой дорогі нема...*

**ЖОЎЦЯ́НКА** *ж.* Жаўтуха, гепатыт. *Попохворэў Фэдор на жоўця́нку – высох, ледзь ходзіць.*

**ЖЫ́ЛКА** *ж.* Рызінка. *Лопнула жы́лка ў сподніх штанах.*

**ЗАБЛУДЗЯ́ШЧЫ** *м. экспр.* Валацуга; той, хто марнуе час. *І дзе ты, заблудзя́шчы, увэсь дзень ходзіш? Ні чытаць, ні пісаць тобе не трэба.*

**ЗА́БОЛОЦЬ** *ж.* Арнаментная палоска на канцах наміткі. *Як хорошэ маці выткала за́болоць.*

**ЗАВА́ДЗІЦЬ** *зак.* Зашкодзіць. *Не еш багато грыбоў, коб не зава́дзіло.*

**ЗАДЗІРЭ́ЙКОВАТЫ** *прым.* 1. Загнуты ўверх. *Возьміно другую ліштву, а то гэта нека задзірэ́йковата.* 2. Задзірысты. *Пеця задзірэ́йковаты хлопэц, дзе бойка, там і вон.*

**ЗАЕ́ННЫ** *прым.* Сумесны, агульны. *Колісь давалі ў калхозі зае́нные ўчасткі травы: на чоловек тры ці чотэры.*

**ЗАЖО́РЫСТЫ** *прым. экспр.* Сквапны, ненаедны. *Мой сусед – зажо́рысты чоловек, нема ему спокою ні ў дзень, ні ў ночэ.*

**ЗАЗВА́ЦЬ** *зак.* Запрасіць. *Я і Мітра зазва́ў на вэселле.*

**ЗАПНУ́ЦЬ** *зак.* Запяць. *Запну́ла цюлем дзвэры, а то вэльмі мухі лецяць у хату.*

**ЗАПЫ́КВАЦЦА** *незак.* Запінацца. *Чого запы́кваешса, ек чытаеш? Мабыць, цепэр зусем не одкрываў кніжку.*

**ЗАРОДЗІ́ЦЦА** *зак. экспр.* Нарадзіцца (пра непаслухмянага чалавека, з упартым характарам). *Гэто такі зародзі́ўса: век нікого не послухае.*

**ЗАТО́Н** *м.* Затока. *У затоні поймалі цэлэ вэдро рыбы.*

**ЗВОЛОКЦІ́СА** *зак. экспр.* Устаць. *Ледзь зволокла́са з ложка: гэто так учора натоміласа.*

**ЗЕЛЕНЕ́Ц** *м.* Малады (малы) шчупак. *Не вэльмі ўдачна рыбалка: толькі пару зеленцо́ў споймалі.*

**ЗЕ́РНЯТА** *мн.* Насенне гарбуза. *Насушылі мэшок зе́рнят, трэба будзе трохі продаць.*

**ЗЗА́ВІДНА** *прысл.* Завідна, повідну. *Зза́відна прышлі дохаты.*

**ЗЛІ́ЎНІК** *м.* Малы гаршчок. *Злі́ўнік кашы наварыла, а воны ба – носамі круцяць.*

**ЗМА́ЛЕЧКУ** *прысл.* Змалку. *Зма́лечку ў мэне гэты сын такі: усе нешчо ў его боліць.*

**ЗМЕ́СТА** *прысл.* Адразу. *Але такая ўжэ ядовіта гэта жоночына: зме́ста накінуласа на мэне, зганіла, спаскудзіла...*

**ЗМЭ́РЗНУЦЬ** *зак.* Замерзнуць. *Змэ́рзнуць яблонькі ў саду, трэба было обвязаць іх чым-небудзь.*

**ЗО** *прыназ.* Са. *Ек неколі я выдаваў дочку замуж, то зо мной Міша ездзіў у Вільнюс: там мы купілі і коўбасу, і подаркі, і нарады.*

**ЗО́ЗЛА** *прысл.* Са злосцю. *Зо́зла кінуў граблі на землю: ему ўжэ трэба недзі бегці.*

**ЗРАДНЕ́ЦЬ** *зак.* Узрадавацца. *Бачу, е дорожка, я зрадне́ў: цепэр, думаю, неяк выбэруса з лесу.*

**ЗЫ́РНУЦЬ** *зак. жарт.* Украсці. *І дзе гэто ты зы́рнуў такую хвайную сокерку?*

**ЗЫЦЬ** *незак.* Гарэць. *Ох, божэнько! Бачым, нечыя зые́ хата – страшно стало.*

**КАПЛАВУ́ХІ** *прым.* Аблавухі. *А шчо гэто ў цебэ за собака такі: некі каплаву́хі, бы свіння.*

**КАПЭЛЮ́Ш** *м. перан.* Ліст гарбуза. *Раненько, покуль лісце не пообвісало, назрэзвала капэлюшо́ў – будзе чым удзень свінней покорміць.*

**КАЧА́ЛКО** *н.* Драўляная ручка, якой перацягваюць паром. *Ек быў на рэццэ пором, то чэплялі за ліну кача́лко і цягнулі порома.*

**КА́ШКА** *ж.* Кветка канюшыны. *Помню, ек дзецьмі ка́шку рвалі і смокталі ее цвэточкі: воны ж солодкіе былі.*

**КЛЯ́МРА** *ж.* Клямар. *Счэпіў сцену кля́мрамі, цепэр нікуды вона не будзе выворочвацца.*

**КНУР** *м.* Кныр. *Мой кнур ужэ знае, куды ідзе: і пыдганяць его не трэба.*

**КОБ** *злучн.* Каб. *Мар'е, коб ты здороўе збірала да дзеток у госці стрэчала.*

**КО́ЛЕЧКІ** *мн.* Каленкі. *Так ногі боляць, шчо мусіла ўвэсь дзень на ко́лечках бульбу выбіраць.*

**КОЛО́ШВА** *ж.* Калоша, калошына. *Як гэто ты прасуеш? Ты ж на коло́шві ўжэ мне плісіроўку зробіла.*

**КОЛЫ́ХАНКА** *ж.* Арэлі. *Бало на Пэтра дзецям колы́ханку робілі: такая завэдзёнка была.*

**КОПІ́ЦА** *ж.* Капа. *До обеда ўспелі поскладваць сено ў копі́цы.*

**КРАНДАШЫ́Н** *м.* Крэпдэшын. *Я тожэ дзеўчыною з крандашы́ну плацце носіла – гэто ж мода така была.*

**КРУ́ЧА** *ж.* Завіруха, мяцеліца. *Куды ты поедзеш по гэ́той кру́чы ў лес, седзі ў хаці.*

**КРУЧО́К** *м.* 1. Самаробны драўляны пруток для вязання з грубых шарсцяных нітак. *Мой дзед умеў вязаць цеплые рукавіцы кручко́м.* 2. Адмыслова выструганая прылада для пляцення рыбалоўнай сеткі. *Я тожэ шчэ помню, як бацько плёў сетку кручко́м для бродніка.*

**ЛЁЛЯ** *ж. дзіц.* Кашуля. *Сейчас тобе, моя дочушэчка, лё́лю чысценькую оправу.*

**ЛІ́НА** *ж.* Трос для перацягвання парома цераз раку. *Лі́на провісла – важко порома цягнуць.*

**ЛЮ́ДЗЕЧКІ** *мн.* Людзі, людцы. *Ох, лю́дзечкі мое, што ж гэто робіцца: нечые коровы ўсе нашые соткі стопталі.*

**ЛЮ́ШКА** *ж.* Юшка, пячная засаўка. *Стары, не забудзь лю́шку зачыніць, бо ўчадзяем.*

**МАЛОВУ́МЭННЫ** *прым. груб.* Дурны. *Ты, бы некі малову́мэнны: стоіш, роззявіўшы рота, а свіння по градках ходзіць.*

**МАТУЗО́К** *м.* Матуз. *Подай мне матузка́, я мэшка завяжу.*

**МАХ** *прым.* Вялікі. *Мах стожка сена наложылі.*

**МЛОСЦЯ́ЧКА** *ж.* Млосць. *А чого цебэ млосця́чка бэрэ, села б да поседзела б трохі.*

**МО́РКВІНА** *ж.* Морква. *Погледзі, якая мо́рквіна вэліка выросла.*

**МЫ́РСІНА** *ж.* Мыса. *Не чэпай собаку за мы́рсіну, а то ўкусіць.*

**МЭД** *м.* Мёд. *Трэба ў Борового Олеся купіць мэ́ду.*

**НА́ВЭ** *часц.* Нават. *Я на́вэ шчэ і не думала про замужэство, але куды дзенешса, ек бэднота, голота ў сем'е.*

**НАПРОЛЁТ** *прысл.* Наскрозь, навылёт. *Да я ўжэ знаю ее напролё́т: цепэр вона плачэ, а заўтра скачэ.*

**НАПЭРЭМЕ́НКУ** *прысл.* Папераменна. *Напэрэме́нку копалі яму пыд фундамэнт.*

**НАСПОВА́ЦІСА** *зак.* Наспявацца. *І нагуляліса, і наспова́ліса на вэселлі.*

**НЕГО́ДНЫ** *прым.* Хворы. *Нікуды него́дны Іван: высох за зіму, шчо неможна познаць.*

**НЕЗУГЛЕ́ДЗІЦЬ** *зак.* Не заўважыць. *І незугле́дзіш, ек молодые годы пройдуць. Я, здаецца, недаўно прала, ткала, а цепэр от якой стала.*

**НЕ́МІР** *м.* Разлад, сварка. *А чого я пойду жыць до сына, ек у его не́мір у хаці.*

**НЕПЭРЭХО́ДНІК** *м.* Другагоднік. *Сцелё – непэрэхо́днік, вон жэ ніколі за кніжку не браўса.*

**НЕРАДО́СНЫ** *прым. экспр.* Абыякавы да ўсяго (звычайна пра п'янага чалавека). *Ужэ, бачу, цягнуць*

*нерадо́сного Андрэя пыд рукі, а вон ледзь ногамі пэрэступае – гэто так набраўса.*

**НЕТЛЕ́ННЫ** *прым. экспр.* П’яны, непрытомны. *Ох божэ мой, нетле́нны лежыць Віктор кэле ложка – гарэлка его побэдзіла.*

**НЕЎЖЭ́** *часц.* Няўжо. *Неўжэ́ ж і цепэр не будзе дошчу?*

**НЕЦЕРПЯ́ЧКА** *ж. экспр.* Нецярпенне. *А чого цебэ нецерпя́чка бэрэ? Побыў бы трохі ў нас.*

**НЕЦЯМУ́ШЧЫ** *прым. экспр.* 1. Някемлівы. *Ты бы нека нецяму́шчая: моцней завязвай вороўчынку, коб мэшок з ровэра не ўпаў.* 2. Непісьменны. *Толё нецяму́шчы быў: вон не то шчо пісаць – ручку не ўмеў добрэ ў руках дзержаць.* 3. Няпамятлівы; той, хто забывае. *Зусем нецяму́стала: покуль ішла до шкафа, то забыла, шчо мне трэба было.*

**НО́ЖНЫ** *мн.* Нажніцы для стрыжкі авечак. *Даўно ўжэ не дзержымо мы вэчок, а но́жны шчэ е: часом добрэ і одрэзаць шчо-небудзь імі.*

**ОБЫХО́ДЗІЦЬ** *незак.* Зайздросціць, закранаць (гонар). *У мэне порадок у огородзі, а Ганну гэтэ обыхо́дзіць: вона ж языком любіць роботаць, а я – рукамі.*

**ОДВЫ́ЧЫЦЬ** *зак.* Адвучыць. *Пора целя одвы́чаць од коровы. Колькі ўжэ можна ему цыцкі ссаць...*

**ОДЗЕ́ЖА** *ж.* 1. Адзенне. *Повесіла одзе́жу ў шкаф.* 2. Бялізна. *Пэрэд Вэліконнем попрала одзе́жу – поскладвала чыстую ў шкаф.*

**ОДЛЕ́ЗЦІ** *зак.* Адчапіцца, адысці. *Одле́зь од мэне, і бэз цебэ клопоту хватае.*

**ОКЭ́НЦЭ** *н.* Акенца. *Зробіў окэ́нцэ ў хлеўчыку, а то ж нічого не бачыно.*

**ОНО́НЬДЗЕ** *прысл.* Тут. *Оно́ньдзе буракі посадзіла.*

**ОПІРА́ЦЬ** *незак.* Абмываць. *Хто цебэ, такую лахудру, будзе опіра́ць на старосці? Ты хоць бы споніцу колі-небудзь помэняла, а то ходзіш, бы залёпа.*

**ОПЭКЦІ́СА** *зак.* Апячыся. *Опэкла́ руку – не могу нічого робіць. Прыдзецца іці до дохтора.*

**ОПЭ́НЬКА** *ж.* Апенька. *Кошэль опэ́нёк назбіраў, то работу ма́ю – трэба ж чысціць іх.*

**ОТ** *часц.* Не. *Мане, мо ты до сына поедзеш? – От, колі мне ехаць: роботы – не знаеш, за шчо хватацца.*

**ПАВУХА́** *ж.* Петунія (кветка). *Павуха́ росце кэле хаты і на віранду поўзе.*

**ПАЛІТО́Н** *м.* Паліто. *Чужы паліто́н душу не грэе.*

**ПЕ́ЎЧА** *ж.* Царкоўны хор. *От хорошэ пе́ўча сповала.*

**ПЛЯ́СКАЦЬ** *незак. экспр.* Гаварыць. *Не пля́скай тэ, чого не трэба, подзержы трохі язык за зубамі.*

**ПОДО́К** *м.* Адонак. *Укопвалі 4 стоўбы, звысока од землі робілі подо́к і складвалі на его снопы жыта.*

**ПОМЭСІ́ЦЬ** *зак. экспр.* Пабіць. *Ох, божэнько мой... А хто так помэсі́ў Вікторового сына? Гэто ж і вочэй у его не бачыно, бы іх пчолы покусалі.*

**ПОНОЖЭ́** *мн.* Панажы. *Поножэ́ ў кроснах рубэльцы робілі з пруткоў.*

**ПОПРЫ́ЦА** *ж.* Паўпрыца. *Конечно, цепэр молодые людзі не знаюць, шчо такэ попры́ца: а гэто жэлезная пласцінка, на якой дзержаўса вэрхні камэнь у жорнах.*

**ПОПЫТА́ЦЦА** *зак.* Спытаць, спытацца. *Попыта́юса ў Юзя, мо вон поедзе фурманкой у Горэйшэ.*

**ПОРУ́ЧКАЦЦА** *зак.* Павітацца за руку. *Пыдышоў я до Романа, пору́чкаліса мы з ім: чого нам трэба ўсе крыўдоваць, да старэ ўспомінаць...*

**ПОСПРАЎНЕ́ЦЬ** *зак.* Стаць прывабным, папрыгажэць. *Родзіла невестка дзіця, да покруглела, поспраўне́ла.*

**ПОСТОЎПЭНЕ́ЦЬ** *зак.* Натрудзіць (пра ногі). *Наробіласа за дзень, аж ногі постоўпэне́лі.*

**ПОЦЯГНУ́ЦЬ** *зак.* Падтрымаць, пацвердзіць. *А Міхалко за мною поцягну́ў: мы ж з ім трохі дружылі.*

**ПОЧУЖА́ЦЦА** *зак.* Стаць чужымі, страціць блізкасць ва ўзаемаадносінах. *Почужа́ліса браты, не прыезджаюць одзін до другого.*

**ПОЧУ́ХНУЦЬ** *зак.* Патухнуць. *Стары, погледзі, мо ў грубі почу́хло, то трэба загнету пыдкласці.*

**ПОЧУ́ЦЦА** *зак.* Адчуць. *Я почу́ўса, шчо ў мэне ўжэ почаў болець жолудок.*

**ПРАВІ́ЛО** *н.* Жардзіна, якая злучае перадок і задок воза. *Устаўляй у праві́ло загвоздку.*

**ПРА́ЧКА** *ж.* Пральная дошка. *Хоцела одзежу выпраць, але не знаю, дзе пра́чка подзеласа.*

**ПРО́ВОДЫ** *мн.* Радуніца. *Чэрэз тыжджэнь после Вэліконня, у понедзельнік, рубэльцы ідуць на могліца, коб помянуць своіх родных. Это Про́воды.*

**ПРО́ДУХ** *м.* Прадушына. *Поодкрываў про́духі, хай вецёр просушвае землю пыд пыдлогой.*

**ПРОТОПІ́ЦЬ** *зак.* Прапаліць (у печы, грубе). *Раненько протопі́ла печ, шчо б зернята на чэрэне сушыліса.*

**ПРЫКОЦІ́ЦЬ** *зак. экспр.* Прыйсці, прыехаць. *Выгнала жонка з хаты гэтого п’янюгу, бы собаку, то зноў прыкоці́ў до мацеры.*

**ПРЫ́КРО** *прысл.* Небяспечна (пра дно вадаёма, дзе мелкаводдзе рэзка змяняецца на глыбокае месца). *Я тут боюса плаваць, бо вэльмі прыкро.*

**ПРЫНЯ́ЦЦА** *зак.* Пайсці ў прымы. *Прыня́ўса Іванко до Ганніной дочкі: вон жэ сірота быў.*

**ПРЫПЭРЫ́ЦЦА** *зак.* Прытуліцца. *Горовалі, дзецей годовалі, а на старосці лет нема кэле кого і прыпэры́цца.*

**ПРЫСЕ́СЦІ** *зак. перан.* Асесці; зменшыцца ў аб’ёме. *Сонцэ прыгрэло, то снег добрэ прысе́ў за дзень.*

**ПРЫСМЕ́ХАЦЦА** *незак.* Насміхацца. *Антось ужэ почаў прысме́хаца з мэне, але не на того напаў: я его одразу поставіў на свое место.*

**ПРЫЧЫ́НА** *ж.* Вяселле, радзіны, святкаванне юбілею і інш. *Вон у прычы́ні вэсёлы чоловек: і пожартоваць, і погуляць умее.*

**ПРЫЧЭРКНУ́ЦЦА** *зак.* Дакрануцца. *Я толькі прычэркну́ўса до голіны – слівы посыпаліса на землю.*

**ПТА́ШКА** *ж.* Птушка. *Пта́шкі ў двор злецеліса.*

**ПУШЫ́ЛО** *н.* Суквецце рагозу. *Неколі наламім пушы́ла, высушым его да роспушваем на дворэ, а маці сварыцца.*

**ПЫДБІ́ЦЦА** *зак.* Стаміцца, натрудзіўшы ногі. *Пыдбіла ногі, покуль прышла з Борок.*

**ПЫДГОЛІ́ЦЦА** *зак.* Прыўзняць падол спадніцы. *Воды было вышэй колен – я і пыдголі́ласа. О, бачу некіе мужчыны ідуць.*

**ПЫДМУРО́ЎКА** *ж.* Цагляны падмурак, які рабілі пад збудаванай хатай. *Ек трохі обжыліса рубэльцы, то робілі пыдмуро́ўку под хатамі, якіе построілі одразу после войны.*

**ПЫДСА́НКІ** *мн.* Невялікія сані. *Пыдса́нкамі навозілі зімою гною на огород.*

**ПЭДА́Л** *м.* Педаль. *Погледзіно, сынок, нешчо ў ровэры пэда́л не хочэ круціцца.*

**ПЭРЭБРО́Д** *м.* Брод. *Чэрэз порэбро́д пэрэехалі возом рэку.*

**ПЭРЭ́ДНЯЯ ХА́ТА** *ж.* Зала. *У моей бабы шчэ і зарэ ў пэрэ́днёй хаці жэлезны ложок стоіць.*

**ПЭРЭ́КІДОМ** *прысл.* Неахайна, абы-як (пра беспарадак). *Ох, а шчо гэто чоўпэцца! Усе пэрэ́кідом у хаці.*

**ПЭРЭМО́ЎЧАЦЬ** *зак.* Змаўчаць. *Я пэрэмо́ўчала. Думаю, жывіце, як хочэце.*

**ПЭРЭМЕ́Л** *м.* Брод.

**ПЭРЭПО́Й** *м.* Падарункі, якія даюць маладым на вяселлі. *Занесла ўнучцы пэрэпо́й, бо хворэла і на вэселле не ходзіла.*

**ПЭ́ЎНЕ** *прысл.* Сапраўды, безумоўна. *Пэўне, шчо Павін зяць больш сюды не поедзе: у ее ж язык, бы помэло.*

**РАДО́К** *м.* Скошаная паласа травы; пракос. *Ужэ радкі́ пыдсохлі, можна іх ворочаць.*

**РАЛО́** *н.* Рала, галіна, сук. *Одрэзаў на яблоні рало́, а то вэльмі густо голіны ростуць.*

**РУ́ШЫЦЬ** *незак.* (выкарыст. толькі ў форме заг. ладу). Чапаць. *Не руш, тобе сказала, яблоньку: вэрха зламіш!*

**РЭЗУХА́** *ж.* Асака. *Порэзаў пальца рэзухо́й.*

**РЭМЗА́ЦЬ** *незак.* Гыркаць. *А на кого там собака рэмжэ́?*

**СВІНЯ́ЧЫ** *прым.* Свіны. *Зробіў свіня́чэ корыто.*

**СЕДУ́Н** *м.* Нізкарослая фасоля. *Посадзіла градку седу́ну, а то тычок багато трэба.*

**СІЛОМО́ЦЬ** *прысл.* Гвалтоўна, прымусам. *Сіломо́ць выпровадзілі мэне з хаты.*

**СІ́ЛЯГА** *ж.* Перапляценне, пры дапамозе якога мацуецца каркас каша. *Тоненькіе лозовые дубцэ розрэзваюць ножом уздоўж і робяць з іх сі́лягу ў кошэле.*

**СКУПОВА́ЦЬ** *незак.* Скупіцца. *Жывэш удвох і скупу́еш – усе грошы збіраеш.*

**СЛОН** *м.* Услон. *Постаў сло́на бліжэй до стола.*

**СНОВА́ЧКА** *ж.* Прылада, з дапамогай якой рыхтуюць аснову для ткання. *У двух вуглах хаты прыбівалі дошку з колочкамі, ходзілі туды-сюды і накладвалі на іх снова́чкой ніткі.*

**СО́НДА** *м.* Соня, санлівец. *Годзі спаў, со́нда, уставай да ідзі ўжэ снедай.*

**СПАСКУ́ДЗІЦЬ** *зак. экспр.* Зганьбіць, абганіць. *Не чэпай ты гэту віротную: вона ж цебэ зганіць, спаску́дзіць і шчэ будзе говорыць про цебэ абылешчо людзям.*

**СТАРЫ́К** *м.* Старыца; старое, запоўненае вадой рэчышча. *Мы ў старыку́ рыбу ловілі.*

**СТОРОЖОВА́ЦЬ** *незак.* Вартаваць. *Помяні, божэ, его душэньку, колісь Правіло сторожова́ў калхозны сад.*

**СТОЎБУНОВА́ТЫ** *прым.* Слупападобны. *Онь якіе на градцы стоўбунова́тые цыбукі торчаць.*

**СТРАПКАЧЭ́** *мн.* Зношанае адзенне. *Ганно, а шчо гэто ты нацягнула на себэ страпкачэ́? Ці тобе нема чого опрануць...*

**СТРА́ЦІЦЬ** *зак.* Зрабіць няправільны ход (звычайна падчас гульні ў шашкі або даміно). *Ты стра́ціў, цепэр моя очэрэдзь робіць ход.*

**СТРЭЦЕННЕ́** *н.* Стрэчанне (свята народна-царкоўнага календара). *Заўтра стрэценне́: стрэчаецца зіма з вэсною.*

**СТРЭ́ЦІЦЬ** *зак.* Выказаць. *Я ее добрэ стрэ́ціла: кажу, шчо гэто ты выдумваеш про мою дочку. Гледзі за своімі дзецьмі.*

**СУ́ВЭРЧ** *м.* 1. Жгут. *Зробімо якого су́вэрча з соломы, мо неяк звяжом гэтые палкі.* 2. *перан.* Сукаваты пень. *Некіх сувэрчоў прывэзлі – у грубі згорaць.*

**СУКНЯ́НКА** *ж.* Саматканая шарсцяная ануча для абгортвання ног. *Намотвай на ногі сукня́нкі, бо чоботы холодные.*

**СУЧО́К** *м. перан.* Адростак, на якім трымаецца плод гарбуза. *Ек сучо́к одламіцца ў гарбузе, то вона можэ згніць.*

**СХАВА́ЦЬ** *зак.* Пахаваць. *Цепэр схава́лі небожчыка.*

**СХОПІ́ЦЦА** *зак.* Збегчыся, сысціся (пра адзенне). *Схопі́ласа бранка – у плечах стала вузкая.*

**СЦЕ́КАЦЦА** *незак.* Сыходзіцца. *Коротковаты пасок – не сце́каецца.*

**СЦЯГНУ́ЦЦА** *зак.* Устаць. *Дзецятко мое, подайно мне воды, бо не могу сцягнуцца з ложка.*

**СЫ́НОНЬКО** *м. памянш.* Сыночак. *Сы́нонько, я цебэ прошу: толькі не звязвайса з гэтой вэрціхвосткой.*

**СЫСО́ЛКА** *ж.* Соска. *Помый сысо́лку, бо целя не захочэ смоктаць ее.*

**ТОНКОНО́ЖКА** *ж.* Дзяўчына з худымі нагамі. *Да не бэры замуж тонконо́жку: трэба, шчо б дзеўчына моцно стояла на земле.*

**ТО́ЎШЧЫК** *м.* Камель. *Бэрыцеса ўдвох за то́ўшчык, бо дзерэво ва́жкэ.*

**ТРУСІ́ЦЬ** *незак.* Чысціць (коміна). *Трэба коміна трусі́ць, а то з грубы дым выходзіць у хату.*

**ТРЭПА́ЦЬ** *незак. экспр.* Ісці. *До лесу ўнь колькі трэпа́ць – поедом ровэром.*

**ТРЭЦЦЯ́К** *м.* Трэцяя частка (участка). *Колісь давалі ўчасткі на трэцця́к: тры часткі сена здавалі ў калхоз, а чэцьворту дзелілі на некольKі чоловек.*

**ТЫНІ́НА** *ж.* Тын. *Тыні́на згніла, дошкі не дзержацца на плоту.*

**УГРЭ́БАЦЬ** *незак.* Грэбці (пра гной). *А хто ў цебэ на сотках будзе ўгрэ́баць гной у гранкі?*

**УЖЫВА́ЦЬ** *незак.* Добра сябе адчуваць, бесклапотна жыць. *Цепэр Паўлінка ўжыва́е кэле дочкі, а то сама ў хаці осталаса – і одозвацца нема кому.*

**УКО́ЎЗАЦЦА** *зак.* Забрудзіцца, запэцкацца. *Пэрэбірала чэрніцы, да онь як уко́ўзаласа.*

**УЛА́ДЗІЦЦА** *зак.* Моцна стаміцца. *Ула́дзіўса за дзень: столькі косой трэба было попомахаць.*

**УНЬ** *часц.* Вось. *Унь там будом складваць гарбузы.*

**УПЛЕ́НІЦЦА** *зак.* Увязацца. *Упле́ніўса некі собака за мною ўвэчэры, то я была ні жыва ні мэртва.*

**УПРАЎЛЯ́ЦЬ** *незак.* Павучаць. *Нема чого мэне ўпраўля́ць, сам розбэруса, шчо мне робіць.*

**УРОБІ́ЦЦА** *зак.* Забрудзіцца, запэцкацца. *Дзе ты так уробі́ўса, вэсь рукаў у побелі.*

**УСЫНАБО́ЖЫЦЦА** *зак.* Задаволіцца, заспакоіцца. *Ну, Мішка, ужэ ты ўсынабо́жыўса: маеш тэ, шчо хоцеў.*

**УСЫ́ПАЦЬ** *зак.* Набіць. *Ох, хлопчэ, і ўсы́плю, ек не будзеш слухацца.*

**ХЛЕ́ЎЧЫК** *м.* Адгароджанае ў хляве месца для жывёлы. *Загнала свінню ў хле́ўчык.*

**ХРОСТО́К** *м. перан.* Адростак, на якім трымаецца плод. *Пообрывала хросткі́ ў вішнях: буду варыць варэнне.*

**ЧО́ХАЦЦА** *незак.* Церціся. *Коло чо́хаецца ў возі об драбы.*

**ЧЫКІЛЬГІ́КАЦЬ** *незак.* Ісці пакульгваючы. *Не седзіцца старому ў хаці, то некуды чыкільгі́кае.*

**ЧЫМЭРГЭ́С** *м. экспр.* Моцная самагонка; алкаголь. *Ужэ зноў п'еце гэты чымэргэ́с.*

**ЧЫРЫ́ЦА** *ж.* Чырок (птушка). *Чыры́цы на лесном озеры плаваюць.*

**ЧЭМЭРЫ́ЦА** *ж. перан.* Самагон, гарэлка. *От сорому не маеш: набраўса гэтой чэмэры́цы да абылешчо говорыш.*

**ЧЭ́РЭЗ** *прыназ.* Цераз. *Чэрэз рубэльску рэку построілі моста.*

**ША́МНУЦЬ** *зак. экспр.* Хутка пабегчы, уцячы, паехаць. *На дворэ цемнота, і здаецца, шчо нехто крадзецца ззадзі, – мы ек ша́мнулі хто куды...*

**ШАМРЭ́ЦЬ** *незак.* Шамацець. *А з чого гэто ў цебэ пошыты плашч, Гале? Ек ідзеш, то ўся шамры́ш.*

**ШВО́ГНУЦЬ** *зак. экспр.* Ударыць (пугай, рэменем, дубцом і інш.). *Не круціса мне тут пыд ногамі, бо зарэ шво́гну дубцом.*

**ШВЭ́ЙНА** *ж.* Швейная майстэрня. *Раней у швэ́йной шылі і мужчынску, і жоноцку одзежу.*

**ШКЛО** *н.* Дзіцячая гульня класікі. *Колісь дзёўчатка гралі ў шкло.*

**ШЛЁГНУЦЬ** *зак. экспр.* Ударыць. *Шлёгні коня трохі, а то цягнецца, бы его век не кормілі.*

**ШЛЫ́НДАЦЬ** *незак. неадабр.* Сноўдацца, бадзяцца. *А хто его знае, дзе вон шлы́ндае ўвэсь дзень.*

**ШОЛО́ЦІЦЬ** *незак. экспр.* Гаварыць. *Чого ты там шоло́ціш своім языком: не говоры про тэ, шчо не бачыў.*

**ШПА́РЫ** *мн.* ◊ ШПА́РЫ <у рукі> ПОЗАХО́ДЗІЛІ. Боль, паколванне ў пальцах ад пераахаладжвання. *Шпа́ры ў рукі позаходзілі, аж пальцы не згінаюцца.*

**ШЧАВЫ́** *прым.* Пракіслы (звычайна пра малако). *Ужэ шчавэ́ молоко, трэба его одтопіць да сыра зробіць.*

**ШЧО** *займ.* Што. *Не знаю, шчо робіць і як жыць: маю дзеці, да нема куды головы подзеці.*

**ШЧОБ** *злучн.* Каб. *Накололі багато дроў, шчоб зімой было цепло ў хаці.*

**ШЧО-КО́ЛЬВЭ** *прысл.* Крыху. *Коб хоць шчо-ко́львэ прывэзці дроў, бо гэтых на зіму не хваціць.*

**ШЧЫ́ЛКО** *прысл.* Шчыльна. *Былі шчы́лко поклалі пыдлогу, а цепэр дошкі россохліса – онь які дзіркі поробіліса.*

**Літаратура**

1. Клімчук, Ф. Д. Дыялектнае ўзмежжа ў Ніжнім Пагарынні / Ф. Д. Клімчук // Актуальныя праблемы мовазнаўства і лінгвадыдактыкі: матэрыялы Рэсп. навук. канф. (да 70-годдзя з дня нарадж. праф. Галіны Мікалаеўны Малажай), Брэст, 20–21 сак. 2008 г. – Брэст: Выд-ва БрДУ, 2008. – С. 35–37.

2. Пашкевіч, М. І. Рубельскі лексіка-фразеалагічны слоўнік: для студэнтаў-філолагаў / М. І. Пашкевіч; Брэсцкі дзярж. ун-т імя А. С. Пушкіна, філ. фак., каф. беларус. мовазнаўства. – Брэст: Выд-ва БрДУ, 2008. – 66 с.

*Т. М. Трухан*

## З ГАВОРКІ ВЁСКІ ЗАМОШША ЛЮБАНСКАГА РАЁНА

**АБЛО́ЖЫНКІ** *мн.* Бакавыя сценкі кардоннай скрынкі. *Я́шчычэк не́йкі цу́пкі, абло́жынкі до́брые што-не́будзь лажы́ць.*

**АБСТО́ІЦЦА** *зак.* Некаторы час пастаяць. *Я паўз пе́чку, паўз пе́чку, да паку́ль абсто́юса.*

**АГАРО́ДЧЫК** *м.* Агародчык каля хаты для кветак і гародніны. *Цяпе́р трэ́ба пасадзі́ць часно́к у агаро́ччыку, а вясно́ю агуркі́.*

**АДВЯРНУ́ЦЬ** *зак.* Завярнуць ад шкоды (пра кароў). *Бяжы́, сыно́к, адвярні́ каро́вы, хай ні ляця́ць у куку́рузу.*

**АКРЫВА́ЦЦА** *незак.* Накрывацца. *Ні ляжы́ го́лы на пе́чы, адзія́лам акрыва́йса.*

**АКРЫЯ́ЦЬ** *зак.* Паздаравець. *Я тро́хі акрыя́ла, по́ўзаю, сла́ва Бо́гу, і зіма́ прайшла́.*

**АПЕ́ЛЬКА** *ж.* Прарэшак для гузіка. *Апе́лька ў камзэ́льцэ атарва́та, то́лькі тро́шкі вісі́ць.*

**АПЦУРКО́ЎВАЦЬ** *незак.* Абгрызаць да цурак. *Трэ́ба ме́тла ўапара́дкаваць, а то апцурко́ўваюць хвасты́ мы́шы ў ме́тлах.*

**АПЧАХА́ЦЬ** *незак.* Падсыхаць. *Я́блыкі тро́хі апчаха́юць на ву́ліцы, а ігру́шы ты ж ні вы́сушыш.*

**АТЛЯГА́ЦЬ** *незак.* Рабіцца вільготным, сырым. *Памы́тэ вы́нясі на двор, хай атля́жэ, тады́ до́брэ гла́дзіць.*

**АТСКА́ЛЬВАЦЦА** *незак.* Адбівацца, ярка свяціць перад захадам. *Тро́хі со́нцэ атска́льваецца, мо на паго́ду.*

**АХУТРАВА́ЦЬ** *зак.* Уцяпліць. *Каб ха́ту тро́ху ахутрава́ць на зі́му, то до́брэ было́ б.*

**БАКАВЫ́** *прым.* Чужы. *Ба́чаць, што бакава́я жанчы́на ў до́ктара, а гро́шы даю́ць і ні бая́цца.*

**БА́ЛЬКА** *ж.* Бэлька. *У нас чарнасто́ль на ба́льках, а по́тым ба́цько патшы́ў яе́ до́скамі, і до́скі пакра́сілі бе́лай кра́скай.*

**БА́ПКА** *ж.* Прылада для кляпання касы. *Убі́ ба́пку ў кало́тку і пакляпа́й ко́су.*

**БЕ́ЛАЯ** *ж.* Гарэлка. *У мага́зін віно́ ні прыво́зяць, то́лькі адну́ бе́лу, і п'я́ніцы купля́юць.*

**БІ́ЛО** *н.* Спінка ў ложку. *Ні выціра́й мо́край ану́чай бі́лы, а то ўсе паржаве́юць.*

**БО́ПКА** *ж.* Круглая крапінка на тканіне. *Мо гэ́тые занаве́скі ў бо́пкі і ві́селі.*

**БРА́СКАЦЬ** *незак.* Бразгаць. *Ні бра́скай кры́шкай у вядрэ́, засну́ць німо́жно.*

**БРАСКО́ТЛІВО** *прысл.* Пра халаднаватае надвор'е з дажджом і ветрам. *Вазьмі́ яку́ касы́нку на галаву́, браско́тліво на дварэ́, во́сень.*

**БРА́ТАВА** *ж.* Жонка брата. *Мы з бра́таваю до́брэ жылі́, нікі́лі яе́ ні абі́дзелі.*

**БУ́ТКА** *ж.* Дашчатая невялікая пабудова для гаспадарчых патрэб. *Бу́тку до́бру ба́цько зрабі́ў, там пе́чка, ва́ды мо́жно нагрэ́ць і памы́цца мо́жно там.*

**ВАЗО́НЫ** *мн.* Пакаёвыя кветкі. *От люблю́ як вазо́ны на во́кнах стая́ць: ігру́шка, павярго́н – аж во́кна сьве́цяцца.*

**ВІ́ЛКА** *ж.* Відэлец. *Я ўсе ві́лкі занясла́ ў бе́лу бу́тку, там бу́дам е́сьці.*

**ВО́БМАРАК** *м.* Галавакружэнне. *Ужэ́ стары́ чаляве́к, во́бмарак у галаве́.*

**ВО́БУЎ** *м.* Абутак. *Мне з вы́бітымі па́льцамі ця́шко падабра́ць во́буў.*

**ВЫ́КАЎЗАЦЦА** *зак.* Забрудзіцца. *Адзе́нь хала́т наве́рх, а то ўвесь вы́каўзаўса ў хляве́.*

**ВЫ́СМАГНУЦЬ** *зак.* Выкіпець. *Як го́рачэ натаплю́ печ, паста́ўлю чага́нчыкі на дзень, палаві́ну высмагнуць.*

**ВЫ́ТНУЦЦА** *зак.* Ударыцца, выцяцца. *Дзе ты ўжэ вы́тнуласа, што адны́е сінякі́ на нага́х*?

**ВЫ́ЧЫНІЦЬ** *зак.* Выразаць. *Во зь я́блыка то́лькі вы́чыніла мя́кае, астально́е парэ́зала.*

**ВЫ́ШКІ** *толькі мн.* Верхняя частка хлява пад дахам. *На вы́шкі ўскінь цыбу́лю, і хай со́хне цэ́лы ме́сяц.*

**ГАЛАВЕ́ШКА** *ж.* Недагарэлае палена дроў. *Дроў то́ўстых накла́ла ў печ, галаве́шкі яшчэ́ ні пагарэ́лі.*

**ГАМАНКІ́** *прым.* Гаварлівы. *Така́я ўжэ гаманка́я Ка́ця Гара́ськавых, што бу́дзе дзень гамані́ць і ні ўто́міцца.*

**ГАМО́НКА** *ж.* Гутарка, размова. *Ма́біць Па́шкавых дзяў́кі прые́халі, бо чутно́ гамо́нка ў дварэ́.*

**ГАРБУ́ЗНІК** *м.* Гарбузовае націнне. *Гарбу́знік пасьцяга́ў і хай ляжы́ць на заго́не, со́хне, а ўво́сень спа́ліцца.*

**ГАРЦА́ЦЬ** *незак.* Бегаць. *Дзень гарца́е па сялу́, з адно́й ха́ту ў другу́ю.*

**ГАСПАДА́Р** *м.* Гаспадар.

□ *За харо́шым гаспадаро́м і сьві́нка гаспады́нька, а за плахі́м і княгі́ня загі́не.*

**ГРЫ́ВА** *ж.* Пропуск пры касьбе. *Пайшо́ў касі́ць траву́, то то́лькі грыў нарабі́ў.*

**ГУКА́ЦЬ** *незак.* Клікаць. *Абе́д на стале́, гука́й ба́цька е́сьці.*

**ГУ́ПАЦЬ** *незак.* Стукацца аб зямлю пры падзенні. *Гэ́тые я́блыкі до́брэ гу́паюць аб зе́млю.*

**ДАНО́СКІ** *мн.* Абноскі. *Дано́скаў цяпе́р цэ́ла скры́ня і шкаф забі́ты, то́лькі няма́ каму́ насі́ць.*

**ДЗЯВУ́ЛЯ** *ж.* Пра дарослую дзяўчыну. *Гэ́тай дзяву́лі ўжэ за два́ццаць гадо́ў.*

**ДОЛ** *м.* Падлога. *На до́ле паста́ў мі́ску і налі́й ваду́, я но́гі папа́ру.*

**ЗАГНІ́ВАСТЫ** *прым.* Гнілаваты. *Каб узя́ў да я́блык прывары́ў, а то есь загні́вастые ўжэ ў вядрэ́. Загні́васта мо́рква зьве́рху есь.*

**ЗАДО́К** *м.* Задняя частка будынка. *Там і вакза́л разру́шылі і ты́е прыбудо́ўкі, стаі́ць то́лькі задо́к.*

**ЗАМЯДЛІ́ЦЬ** *зак.* Затрымацца. *Не́што німа́ до́ўго з Мі́нска, замядлілі.*

**ЗА́ЦЯПЛО** *прысл.* Зацепла, цёплым надвор'ем. *Ні на сьве́це, як за́цяпло ўсё рабі́ць.*

**ЗАЧАРПНУ́ЦЬ** *зак.* Зачарпнуць. *Зачарпні́ вядро́ вады́ і хай грэ́яцца.*

**ЗАЯДА́ЦЦА** *незак.* Скручвацца. *А ні́ткі заяда́юцца, скру́чваюцца, ні мо́жно шыць.*

**ЗМАХНУ́ЦЦА** *зак.* З'явіцца (пра сон). *Калі́ які́ і змахне́цца сон, то ўсе абы-што. Адно́ чу́до, адно́ ўдзіўле́нне.*

**ЗМЫ́ЛАК** *м.* Змылены кавалак мыла. *Назьбіра́ла змы́лкаў цэ́лы чага́нчык, намачу́ і хай саро́чка мо́кне.*

**КАЛЯ́НДРА** *ж.* Каляндра. *У нас каля́ндра каля бу́дкі расьце́, я ве́льмі люблю́ за́пах яе́.*

**КАПАТЛІ́ВЫ** *прым.* Які выдзяляе сажу. *Але́шнік – са́мые ле́пшыя дро́ва, яны́ ні капатлі́выя.*

**КАЎТУ́Н** *м.* Зблытаныя валасы. *Трэ́ба рашчаса́ць вала́сы, а то цэ́лы каўту́н на галаве́.*

**КАШЭ́ЛЬ** *м.* Кошык. *Ты ні замяча́ла наш пле́цяны ко́шык с чо́рнымі ні́ткамі, мо́жа хто атмяні́ў?*

**КЛЯКАТА́ЦЬ** *незак.* Кіпець, утвараючы бурбалкі. *Вада́ ў кастру́лі до́брэ кляката́ла, аж кры́шку падыма́ло.*

**КО́ЛЯНЦЫ** *мн.* Калені. *Се́ла на ко́лянцах і ўсю́ смуро́дзіну пераграбла́.*

**КРАСІ́ВЫ** *прым.* Прыгожы. *Я быў малы́, стая́ў на ву́ліцы, а Зі́на Бо́брышына ідзе́ і ка́жэ на мяне́:* «*А які́ красі́вы хло́пчык*»!

**КРУГЛАЛІ́ЦЫ** *прым.* Круглатвары. *Га́ніна дзе́ўка высо́ка, валасы́ до́ўгіе, круглалі́ца – красі́ва.*

**КУХА́ЙКА** *ж.* Фуфайка. *Дзьве куха́йкі палажы́ла на печ, закры́ла, то і наза́ўтрэ печ цёпла.*

**ЛАБА́ЦІНА** *ж.* Вялікі лоб. *Лаба́ціну до́бру адгадава́ў на ба́цькавых харча́х.*

**ЛАБО́К** *м.* Франтон. *Ле́там ха́ту пакра́сілі, лабо́к, трэ́ба яшчэ́ закры́ліны памяня́ць, а то пагнілі́.*

**ЛА́ПІЦЬ** *незак.* Латаць. *Усю́ жысь гэ́тыя тра́нты ла́піла, а цяпе́р старые́ мяшкі́ трэ́ба ла́піць.*

**ЛІСАХВЕ́Т** *м.* Веласіпед. *Сма́жык пля́снуў у лу́жу, на лісахве́це е́хаў, упа́ў нідо́брэ.*

**ЛІ́ТРА** *ж.* Літр. *За адзі́н дзень ба́цько лі́тру сьмята́ны выпіва́ў і дзяся́так яе́ц мог вы́піць на каню́шні.*

**ЛІ́ФІК** *м.* Ліфчык. *Зашпілі мне лі́фік, а то ру́кі баля́ць, ні даста́ну.*

**ЛУ́СТАЧКА** *ж. памянш.* Долька. *Як лу́стачкі вялі́кіе я́блык, то я павярну́ іх на со́нцы.*

**ЛО́СТАМ** *прысл.* Вельмі шмат, адна каля адной, суцэльна (пра ігрушы). *Што ігру́ш было́, то ло́стам, шко́да, што то́пчуцца лю́дзі ў паліклі́ніке.*

**ЛУШПА́ЙКІ** *мн.* Лупіны. *Лушпа́йкі я ні выкіда́ю, зьбіра́ю ў мяшо́к, тады́ званю́ Во́ве, ён прыхо́дзіць і забіра́е ко́зам, Во́лька іх па́рыць.*

**ЛЮ́СТРО** *н.* Люстэрка. *Паблі́сквае і грымі́ць, хма́ру цягне́ і сюды́, трэ́ба лю́стру закры́ць.*

**МАЛАДНЯ́К** *м. зб.* Маладыя людзі. *Цяпе́р і място́ў німа́ ў Лю́бані, маладняку́ ге́тага ляжы́ць.*

**МЕ́ДЗЯНЫ** *прым.* Пяты, самы малы палец на руцэ. *Кі́пцям про́бавала і ме́дзяным калупа́ць пуп, а по́тым шпі́льку ўзяла́ і грязь вы́цягла.*

**НАБУХТО́РЫЦЬ** *зак.* Наліць звыш меры. *Нашто́ ты вады́ набухто́рыла цэ́лэ вядро́; калі́ трэ́ба – я сама́ прынясу́.*

**НАВО́ТКІ** *мн.* Наготкі. *Я люблю́ наво́ткі, яны́ жо́ўтые і до́ўго цьвіту́ць.*

**НАГАМАНІ́ЦЬ** *зак.* Уціхамірыць, прыструніць. *Нагамані́ ты на свайго́ хло́пца: гарэлку п'е і до́ма бушу́е.*

**НА́ДГАЛАДЗЕНЬ** *прысл.* Не поўнасцю наядаючыся, надгаладзь. *Ён век на́дгаладзь ні быў, ко́лькі і жыў.*

**НАНАВО́ЗАМ** *прысл.* Дарогай за вёскай. *Ідзі́ нанаво́зам на або́ру, быстрэ́й бу́дзе.*

**НАПЕРАГО́НКІ** *прысл.* Навыперадкі. *Дзе́ці папрыяжджа́юць у дзярэ́ўню і ўсе наперaго́нкі лята́юць па ву́ліцы.*

**НАСТЫРА́ЦЦА** *незак.* Злавацца. *Пайду́ зраблю́, хай ні настыра́яцца.*

**НА́ТСЫР** *прысл.* Сыравата. *Ка́ша до́бра, але́ есь на́тсыр зярня́тка.*

**НАШЧЫПА́ЦЬ** *зак.* Нарваць (пра цыбулю). *Ідзі́ нашчыпа́й маладо́е цыбу́лі, патры́ с со́лю і сьмята́ны ўкінь.*

**НЕЗАМЫ́КАНЫ** *прым.* Незамкнёны. *Уво́сень пайшла́ ў ла́пкі ў Про́се і віра́нду пакі́нулі незамы́кану.*

**НЕ́РВІЦЦА** *незак.* Нервавацца. *Ні не́рвіцца Ко́лька, дак дбаць ні дба́е, кампа́ній э́тых ні зна́е.*

**НЯБО́ГА** *ж.* Пляменніца. *У мяне́ то́лькі адна́ нябо́га, На́дзіна дачка́, я даўно́ яе́ ні ба́чыла.*

**ПАГО́Н** *м.* Дарога, па якой гоняць жывёлу на папас; пагон. *Каро́вы як хадзі́лі на паго́н, паўбіва́лі карэ́ньне нага́мі, сьце́жачкі былі́, а я ў я́гады лята́ла бяго́м у по́тбешкі, дак я дала́ па́льцам, ён крыве́нькі і есь, вы́біла, дак мя́шае, музылі́ наму́льваю.*

**ПАДАШВА́** *ж.* Падэшва, ніжняя частка ступні. *Усе́ пазьдзіра́ю, дак падашва́ бу́дзе чысьце́йша* (мыючы ногі).

**ПАЗВАЛАКА́ЦЬ** *зак.* Пасцягваць, звалачы. *Усе́ пазьбіра́ў жале́зо, пазвалака́ў.*

**ПАЗУБІ́ЦЦА** *зак.* Прарасці. *Учо́рэ намачы́ла гарбу́зікі, а сёня к ве́чару ўжэ пазубі́ліса.*

**ПАЛАКА́ЦЬ** *незак.* Паласкаць. *Е́ту по́сьцілку ні ве́шай, я ні палака́ла яшчэ́.*

**ПАЛО́К** *м.* Палок, нары з дошак каля печы. *На палку́ до́брэ ляжа́ць і цёпло, і сьпі́на ні балі́ць.*

**ПАЛЯ́МЧЫЦЦА** *зак.* Збіцца ў лямец, злямчыцца. *Бач, паля́мчыліса валасы́ на адны́м баку́, як сплю.*

**ПАМА́ЗАЦЬ** *зак.* Пабяліць. *Трэ́ба пама́заць печ і гру́пку перад Вялі́каднем.*

**ПАНАВО́ЗІЦЬ** *зак.* Навезці, прывезці. *Усяго́ панаво́зілі ў мага́зін: і рыбы, і м'я́са, і са́ла, і каўба́с, і канхве́т – і ўсяго́.*

**ПАПЫТА́ЦЬ** *зак.* Запытаць, спытаць. *Ма́ма, папыта́й у цёткі Га́ны, мо́жэ яна́ вяргі́ні дась пасадзі́ць.*

**ПАРУШКІ́** *мн.* Парушынкі. *Зьліва́й зве́рху во́ду, калі́ дзе парушкі́ які́е, што б ні было́ наве́рсе.*

**ПАТКАЛО́ЧВАЦЬ** *незак.* Падтрэсваць. *Паткало́чвае аўто́бус, дак ні слы́шно до́брэ.*

**ПАТШАРХА́ЦЬ** *незак.* Падсыхаць крыху ад марозу. *Пашо́ў дош, а но́чу мо́жа патшарха́ць такі́м надво́р'ем.*

**ПА́ЦАПНІК** *м.* Драбналессе. *Па́цапніку назьбіра́ў, прыўёз на во́зе, і до́брэ ў гру́пку зімо́ю.*

**ПАЦЯКЦІ́** *зак.* Пацячы. *Ве́дра ліхія́ ў бу́ццэ, усе́ пацяклі́, і́мі до́брэ памідо́ры накрыва́ць.*

**ПЕРАЧАРАДАВА́ЦЦА** *зак.* Хадзіць па чарзе адзін за адным. *Усе́ ў хаце перачарадава́ліса, с са́маго канца́ сяла́ і ўсе прыхо́дзілі.*

**ПІ́ЧКАЦЬ** *незак.* Даваць праз меру, напіхаць. *Ні пі́чкай ба́цька ўжэ, дава́й па часо́х.*

**ПЛАШЭ́ЙШЫ** *прым.* Горшы. *У іх плашэ́йшы апара́т даўле́не ме́раць.*

**ПЛЯЦ** *м.* Участак зямлі. *Ты то́лькі паду́май, цэ́лы пляц карто́пель се́ялі, і ўсе трэ́ба было́ вы́капаць рыдлёўкаю.*

**ПО́КЛАД** *м.* Месца, дзе нясуцца куры. *Курэ́й было́ шмат, па во́сім-дзе́сяць яе́ц бра́ла на по́кладзе.*

**ПО́МАЧ** *ж.* Дапамога. *До́бра по́мач дзе́цям, калі́ бацькі́ жыву́ць.*

**ПО́ЎНІК** *м.* Поўня, поўны месяц. *Уста́ла, а ме́сяц на Ко́лю сьве́ціць, са́мы по́ўнік, дак я зап'я́ла акно́.*

**ПРАЛЫ́СІЦЬ** *зак.* Дрэнна памыць (пра падлогу). *Падло́гу до́брэ ні памы́ла, а пралысіла, паглядзі́ ко́лькі пы́лу пат крава́цю.*

**ПРАСЦЯ́ЦКІ** *прым.* Прасцецкі. *Вало́дзя Баро́ўчык хоць і пісьме́нік, але́ такі́ прасьця́цкі.*

**ПРАЦЯ́ЖНО** *прысл.* Доўга. *Я хацела сарва́ць мо́ркаў, да ні паду́мала, што так працяжно дож бу́дзе.*

**ПРО́БКА** *ж.* Корак, закупорка для бутэлек. *Про́бак насабіра́ў цэ́лы я́шчык, нашто́ яны́ табе́ сто́лькі*!

**ПРЫАП'Я́ТЫ** *прым.* Не да канца завешаны (пра акно). *Е́сьлі машы́на па ву́ліцы ідзе́, а акно́ тро́хі прыап'я́тэ, то бляск у во́кны відзён.*

**ПРЫДО́ЛЕЦЬ** *зак.* Змагчы. *Напіла́са, дадо́му ні прыдо́лела е́хаць, да там і затхла́са.*

**ПРЫПУСКА́ЦЬ** *незак.* Аддаваць малако пры даенні. *Чужо́му чалаве́ку каро́ва мо́жэ і ні прыпусьці́ць малако́.*

**ПРЫСТА́ВІЦЬ** *зак.* Паставіць. *Печ вы́тапіла, малы́ чага́нчык ка́шы прыста́віла.*

**ПУК** *м.* Некалькі жмень цыбулі. *Нашчыпа́ла до́бры пук цыбу́лі сабе́ і Ко́лі.*

**ПУ́СТКА** *ж.* Пустое, незаселенае месца. *Тут пу́стка во даку́ль, ля нас німа́ ніко́го.*

**ПУСТЫ́** *прым.* Нішчымны. *Навары́ла ма́ці не́йкаго су́пу пусто́го, ці зьеў яго́ ці не.*

**ПЯЧА́ЛЬ** *ж.* Смутак. *Як до́брэ? То́лькі адна́ пяча́ль за́раз да жаль.*

**РАЗАМЛЕ́ЦЬ** *зак.* Распарыцца. *Рыс разамле́ў у пе́чы, што зацірка.*

**РАЗМЫСКАВА́ЦЬ** *зак.* Расцерці ў місцы. *Размыскава́ла катле́ту на вальцо́ўку.*

**РАЗ'Я́СНІВАЦЦА** *незак.* Станавіцца ясным. *Со́нцэ выхо́дзіць, разья́сьніваецца – е́то на маро́з.*

**РАСПУ́ШЧАНЫ** *прым.* Раздураны. *Цяпе́р распу́шчаныя дзе́ці, ні слу́хаюць сваі́х бацько́ў.*

**РОД** *м.* Род. □ *Што назна́чана на раду́, ні прап'е́ш і на мяду́.*

**САРАКО́ЎКА** *ж.* Дошка таўшчынёй 40 міліметраў. *У ха́це ша́шаль зьеў до́ску, то ледзь нашлі́ ў хляве́ саракоўку.*

**САСМА́ГНУЦЬ** *зак.* Змучыцца ад смагі, гарачыні; сасмагнуць. *Уле́тку паганю́ каро́вы, сасма́гну, дзень на со́нцы.*

**САЎСІ́М** *прысл.* Зусім. *Заўсі́м забы́ла зье́сьці ту́ю яе́чню, а ты чаму́ ні зье́ла?*

**СЕ́ЎКІ** *прым.* Сітаваты. *Ге́ты не́йкі се́ўкі, вы́нашаны, як то́е рэ́шато, а ге́тые ча́стые мяшкі́, якра́з як свае́ рабо́ты.*

**СКАЎТУ́НЯНЫ** *прым.* Збіты ў каўтун (пра валасы). *Валасы́ мо ні скаўту́няны.*

**СКУЧА́ЦЬ** *зак.* Сумаваць. *Скуча́е ба́цько, калі́ дзе́ці до́ўго ні праяжджа́юць.*

**СО́ТКІ** *мн.* Поле, выдзеленае калгасам вяскоўцам. *Было́ со́рак со́так зямлі́ і ўсе засява́лі карто́плямі, худо́бы ж было́ шмат.*

**СТАПШЧЫ́К** *м.* Апальшчык. *Дай стапшчыка́ ў мага́зін, а то патрашчы́ць усе́ ў сярэ́дзіне.*

**СТАРЭ́НЫ** *прым.* Старанны. *Яны́ лю́дзі старэ́ныя, жыві́, ні наруша́й жы́зьні.*

**СТАСАВА́ЦЬ** *зак.* Змяшаць. *Усю́ зе́млю стасава́лі ку́ры пад вінагра́дам.*

**СТРО́КА** *ж.* Строчка; суцэльнае шво на тканіне. *А тут шчэ больш стро́каў бу́дзе ў мяшку́.*

**СТРЭ́ЦЦА** *зак.* Сустрэцца. *Стрэ́ліса с Во́лькаю ля А́ньціка, яна́ была́ ў На́дзі.*

**СТУПА́К** *м.* Ніжняя частка ступні, падэшва. *Накуса́лі камары́ но́гі, дак са́дзяюць но́гі і ступакі́.*

**СУНЯ́ЦЦА** *зак.* Спыніцца. *Зра́нку такі́ ліў дож, ручаі́ цяклі́ ў дварэ́, то́лькі ў вабе́д суня́ўса.*

**СЦЕРАЖО́НЫ** *прым.* □ *Сьцеражо́нага і Бох сьцеражэ́.*

**СЦІША́ЦЬ** *зак.* Пацішэць (пра з'явы прыроды). *Во на дварэ́ сьціша́ло, нічого ні зварухне́цца.*

**СЫ́РНІК** *м.* Блінчык з тварагом. *Як ма́ма жыла́ ў На́дзі, то нараблю́ сы́рнікаў цэ́лу жо́ўту мі́ску і завязу́ ёй.*

**ТА́МАКА** *прысл.* Там. *То́ма, пашу́кай до́брэ, та́мака ляжы́ць ключ, я ж кла́ла туды́.*

**ТКАНУ́ЦЬ** *зак.* Ткнуць. *Па́льцам ткане́ ў зе́млю і атра́ву кладзе́.*

**ТРУХЛІ́ВЫ** *прым.* Мяккі (пра яблык). *Есь чы́стае я́блыко, дак трухлі́вэ.*

**ТУДО́Ю** *прысл.* Тым шляхам, той дарогай. *Ты ні йдзі ў агаро́чык па двару́, а тудо́ю, каля бу́дкі.*

**ТЫ́ЧКА** *ж.* Невялікая палка, увагнатая ў зямлю; тычка. *Паста́ў ты́чкі і падвяжы́ карто́плі, каб ні нахіля́ліса на гра́ды.*

**УВЕ́ЧАРЭ** *прысл.* Вечарам. *Уве́чарэ прыбярэ́ш у ха́це, а за́раз пашлі́ на агаро́т.*

**УВЯРАДЗІ́ЦЦА** *зак.* Стаміцца. *Зра́нку пайшла́ перагрэ́баць клубні́ку, увярадзі́ласа, ледзь паро́г пераступі́ла ў віра́ндзе.*

**УГАВАРА́ЦЬ** *незак.* Угаворваць, прасіць. *Угавара́й Ко́лю, хай ні е́дзе ў Мінск, хай аддыхне́.*

**УЗБРЫСЦІ́** *зак.* Прыйсці ў галаву. *Што ты гаво́рыш, што табе́ ўзбрыло́ ў го́лаў.*

**УЗГАВО́Р** *м.* Узгадванне пры размове. *Э́то с узгаво́ру, я ні зна́ю і знаць ні хачу́.*

**УПРЫЛІ́ПКУ** *прысл.* Цесна, шчыльна. *Табе́ ўжэ пла́це це́снэ, сядзі́ць упрылі́пку.*

**УПУ́ДЗІЦЦА** *зак.* Спудзіцца (пра коней). *Конь як упу́дзіцца, да яшчэ́ ў калёсах, то мо́жэ і пакале́чыць чалаве́ка.*

**УСКЛА́Д** *прысл.* Спосаб арання зямлі ад сярэдзіны загона да краёў. *Бу́дам ара́ць усткла́д і садзі́ць карто́плі, каб разо́ры ні было́ пасярэ́дзіне пля́ца.*

**УШУ́ШКВАЦЦА** *незак.* Цёпла адзявацца, ухутвацца. *Ну й ушу́шкваецца наш ба́цько, баі́цца, каб ні прасты́ць.*

**ХМУ́РНО** *прысл.* Хмурна, пахмурна. *Сяго́ня на дварэ́ хму́рно, мо́жэ к абе́ду дош сабярэ́цца.*

**ХО́ДАРАМ** *прысл.* ◊ ХО́ДАРАМ ХО́ДЗІЦЬ. Быць у руху, моцна хістацца. *Ні пасядзі́ць міню́ту спако́йно, уве́сь хо́дарам хо́дзіць.*

**ХУДЫ́** *прым.*

□ *Ні той, хто худ, але́ каму́ суд.*

**ЦІШКО́М** *прысл.* Ціха. *Раніца́й уста́ну і пашла́ цішко́м у бу́дку пе́чку патпа́льваць.*

**ЧАРНАСТО́ЛЬ** *ж.* Столь, зробленая з негабляваных дошак. Чарнастоль з’яўляецца асновай для падшывання столі якасным матэрыялам. *Ба́цько лажы́ў чарнасто́ль, а по́сьле патшыва́ў до́скамі.*

**ЧАСЦЯКО́М** *прысл.* Часта. *Я часьцяко́м к Ка́ці Гара́ськавых хаджу́. Яна́ про́сіць: прыхо́дзь-прыхо́дзь.*

**ШВІ́ВО** *н.* Шыццё. *Як ні шчыта́й, то і шві́во дарагое і мацяр’я́л патхадзя́шчы ў пададзія́льніках, ён пло́тны.*

**ШТАБЯЛЯВА́ЦЬ** *незак.* Складваць у штабель, штабеляваць. *Я штабялява́ла зі́му гной у цёплых штана́х.*

**ШУПЛЯ́ТКА** *ж.* Шуфляда. *У шупля́тку палажы́ лепш, штоб на сту́ліку ні валя́ліса табле́ткі.*

**ШЧАЗА́ЦЬ** *незак.* Знікаць. *Ні чага́нчыкаў ні было́, нічо́го, у магазі́нах шчаза́ло.*

**ШЧУ́РАЧКІ** *мн.* Ледзь прыкметныя бурбалкі. *Я ка́шу вару́ так: паста́ўлю ваду́, як шчу́рачкі по́йдуць, і зра́зу засыпа́ю хло́п’я.*

**ШЧЭ́ЗНУЦЬ** *зак.* Знікнуць. *Каза́ла ба́цьку: хадзе́м на сабра́не, ляжы́ць, прыду́ – ужэ́ шчэ́зьне, пабе́г к Во́льцэ.*

*Л. П. Кунцэвіч*

## МЯНУШКІ ВЁСКІ РУХАВА СТАРАДАРОЖСКАГА РАЁНА

Вёска Рухава Старадарожскага раёна Мінскай вобласці сёння зусім не тая, што была, напрыклад, у 80-я гады ХХ ст. У вёсцы няма болей школы-васьмігодкі, таму што няма каму ў ёй вучыцца, няма клуба і (самае галоўнае) няма такой колькасці жыхароў, як у той час. На некаторых вуліцах засталіся па 1–2 чалавекі. Але ў памяці тых нешматлікіх жыхароў, што жывуць зараз у вёсцы, захаваліся неафіцыйныя найменні (мянушкі) і тых, каго даўно ўжо няма, і тых, хто жыве недзе далёка па-за межамі вёскі. Гэтыя найменні характарызуюць чалавека паводле нейкіх пэўных прыкмет. Большасць мянушак, зафіксаваных у вёсцы Рухава, можна падзяліць на некалькі груп: 1) мянушкі, утвораныя па прафесіі ці пасадзе мужа (*Кавалі́ха*, *Брыгадзі́рыха*), 2) па месцы нараджэння (*Сінягоўка*, *Крывано́саўка*, *Мігіле́ўка*, *Зялёнка*, *Камчада́л*), 3) мянушкі, утвораныя ад прозвішча (*Шу́хаўка*, *Турчы́ха*, *Каўгарэ́ніха*), 4) мянушкі, утвораныя ад імя чалавека (*Мо́кся*, *Мо́ксік* (ад Максім), *Ма́ўра* (ад Марыя), *Е́ўся* (ад Ева), *А́нься* (ад Аня), 5) мянушкі, утвораныя ад пэўных рысаў твару ці целаскладу чалавека (*Дзю́ба*, *Ры́жы*, *Рабе́йза*, *Гарбу́з*, *Лапі́та*, *Кало́ша*), 6) мянушкі, утвораныя ад структуры або колеру валасоў (*Стры́кля*, *Кудзёла*, *Камо́ла*, *Бяля́н*, *Бе́ленькі*, *Цыга́н*), 7) мянушкі жанчын, утвораныя ад імя мужа (*Сцяпа́ніха*, *Пятры́ха*, *Бары́сіха*, *Мікала́ішка*), 8) мянушкі, звязаныя з паводзінамі чалавека (*Воўк*, *Ко́шка*, *Ліса́*, *Хлус*). Да мянушак намі аднесены і памяншальна-ласкальныя імёны, якія непасрэдна звязаны з ростам чалавека (*Варва́рка*, *Аўду́лька*, *Аксе́нька*, *Аню́тка*, *Ада́рка*, *Мі́шка*, *Васілёк* і пад.) – усе носьбіты вельмі малога росту, (*Кацю́ша*, *Хвядула́н*) – людзі даволі высокага росту. У вёсцы іх называюць (ці называлі) толькі так. Зафіксаваны таксама мянушкі, семантыку якіх сёння вызначыць не ўяўляецца магчымым.

**АБЗЯ́Р** *м.* Мянушка хлопца з дэфектам маўлення, бацьку якога звалі Назар.

**АДА́РКА** *ж.* Жанчына вельмі малога росту па імені Дар'я.

**АКСЕ́НЬКА** *ж.* Жанчына малога росту па імені Ксенія.

**АНА́НІХА** *ж.* Жанчына, мужа якой звалі Ананій.

**АНЮ́ТКА** *ж.* Жанчына малога росту па імені Анюта.

**А́НЬСЯ** *ж.* Жанчына па імені Аня.

**АЎДУ́ЛЯ** *ж.* Жанчына па імені Аўдоцця.

**БАБЕ́Ц** *м.*

**БАРЫ́СІХА** *ж.* Жонка Барыса.

**БЕ́ЛЯНЬКІ** *м.* Хлопец са светлымі валасамі.

**БЕ́ЧЫХА** *ж.* Мянушка жанчыны, прозвішча мужа якой было Беч.

**БІРУЧО́К** *м.*

**БІРУЧЫ́ХА** *ж.* Жонка Біручка.

**БРО́МБА** *м.* Мянушка мужчыны сярэдняга росту каржакаватага целаскладу.

**БРО́МБІХА** *ж.* Жонка Бромбы.

**БУСЬЛІ́ХА** *ж.* Мянушка высокарослай дзяўчыны.

**БУ́ТЛІХА** *ж.* Жонка Бутлі.

**БУ́ТЛЯ** *м.* Мянушка заўсёды п'янага чырванатварага мужчыны.

**БУЯ́К**, **БУЯЧО́К** *м.*

**БУЯЧЫ́ХА** *ж.* Сястра Буячка.

**БЭ́КАС** *м.* Мянушка хлопца, які жыў каля рэчкі, на краі вёскі.

**БЯГУ́Н** *м.*

**БЯГУНІ́ХА** *ж.* Жонка Бягуна.

**БЯЛЬМА́Ч** *м.* Чалавек з дрэнным зрокам.

**ВАРВА́РКА** *ж.* Жанчына малога росту па імені Варвара.

**ВАСІЛЁК** *м.* Нізкарослы мужчына па імені Васіль.

**ВАЎЧЫ́ХА** *ж.* Жонка чалавека па мянушцы Воўк.

**ВІ́ХРЫК** *м.* Мянушка чалавека, які ў дзяцінстве быў вельмі непаседлівым.

**ВО́ЛЬКА** *ж.* Жанчына малога росту па імені Вольга.

**ВО́ЎК** *м.* Мянушка негаваркога мужчыны.

**ГАЛУ́ЗІХА** *ж.* Жанчына, прозвішча мужа якой было Галуза.

**ГАРБУ́З** *м.* Мянушка круглатварага хлопца з вялікай галавой.

**ГЛУ́ШМАН** *м.* Мянушка глухаватага чалавека.

**ГРАК** *м.* Цёмнавалосы мужчына.

**ГРЫ́НЯ** *м.* Мужчына па імені Рыгор.

**ГРЫЦУ́К** *м.* Мужчына па імені Рыгор.

**ГРЫЦУЧЫ́ХА** *ж.* Жонка Грыцука.

**ДАВУ́ДЗІХА** *ж.* Жанчына, мужа якой звалі Давыд.

**ДАВУ́ДЗІШКА** *ж.* Жанчына, бацьку якой звалі Давыд.

**ДАХТУ́РКА** *ж.* Жанчына, якая некалі працавала фельчарам.

**ДЗЮ́БА** *ж.* Жанчына з доўгім носам.

**ДРАЗДЗІ́ХА** *ж.* Жонка Дроздзіка.

**ДРО́ЗДЗІК** *м.* Мянушка невысокага худога чалавека.

**ДРЫ́ТА** *м.* Мянушка хлопца з дэфектамі вымаўлення.

**ДУДУ́ЛЯ** *ж.* Мянушка жанчыны, якая ўвесь час гаворыць: ду-ду-ду.

**Е́ЛІХА** *ж.*

**Е́ЛЬКА** *м.*

**Е́ЎСЯ** *ж.* Жанчына па імені Ева.

**ЖО́РЖЫХА** *ж.* Жанчына, мужа якой звалі Жорж.

**ЗА́ГРА** *м.*

**ЗЫ́МЕЛЬ** *м.*

**ЗЯЛЁНКА** *ж.* Жанчына, якая родам з суседняй вёскі Зялёнкі.

**ІВА́НЧЫК** *м.* Мянушка мужчыны невысокага росту, бацьку якога звалі Іван.

**ІГНА́СЬКО** *м.* Мужчына па імені Ігнат.

**КАВАЛІ́ХА** *ж.* Жонка каваля.

**КАЗЯ́РМА** *м.* Мянушка хлопца.

**КАЛО́ША** *м.* Мянушка нязграбнага, заўсёды неахайна апранутага хлопца.

**КАМО́ЛА** *ж.* Мянушка жанчыны, у якой кучаравыя валасы.

**КАМЧАДА́Л** *м.* Мянушка чалавека, які быў родам з Камчаткі.

**КАМЧАДА́ЛІХА** *ж.* Жонка Камчадала.

**КАПЕ́СЬКА** *ж.* Прозвішча мужчыны, які ў дзяцінстве так вымаўляў слова капейка.

**КАРКАДЗЕ́Д** *м.* Мянушка нізкарослага каранастага старога халасцяка.

**КАРШАЧЫ́ХА** *ж.* Жонка Каршака.

**КАРЭСПАНДЗЕ́НТ** *м.* Мянушка мужчыны, які закончыў журфак (але не працуе па спецыяльнасці).

**КАСАВО́КІ** *м.* Мянушка мужчыны з дэфектам зроку.

**КАСАЎРЭ́Й** *м.* Тое ж.

**КАСТАТЫ́НІХА** *ж.* Мянушка жанчыны, мужа якой звалі Канстанцін.

**КАСЫ́** *м.* Мянушка мужчыны з дэфектам зроку.

**КАЎГАРЭ́НІХА** *ж.* Мянушка жанчыны з прозвішчам Каўгарэня.

**КАЦЮ́ША** *ж.* Жанчына высокага росту па імені Кацярына.

**КЕ́ЛЯ** *ж.* Мянушка жанчыны, якая любіла выпіць і хадзіла па хатах у пошуках выпіўкі.

**КЛЮ́ЧЫК** *м.* Мянушка хлопца, які можа адкрыць любы замок.

**КО́РШАК** *м.* Нізкарослы вёрткі мужчына, які часта ўвязваўся ў бойкі.

**КО́ШКА** *ж.* Мянушка жанчыны, якая працавала электрыкам (лазіла па слупах).

**КОТ** *м.* Мянушка чалавека, які любіў злізваць смятанку з малака.

**КРО́ЦІХА** *ж.* Мянушка жанчыны па прозвішчы Кротава.

**КРЫВАНО́САЎКА** *ж.* Жанчына, якая была родам з вёскі Крываносы.

**КУДЗЁЛА** *ж.* Мянушка жанчыны з неахайна прыбранымі валасамі.

**КУДЗЯ́Й** *м.*

**КУ́КЛА** *ж.* Мянушка прыгожай дзяўчыны, якая любіла прыбірацца.

**КУ́ЛІК** *м.* Мянушка невысокага худога хлопца.

**КУМО́К** *м.* Мянушка мужчыны, якога ў маладым узросце ўзялі за кума.

**КУПЕ́Ц** *м.* Мянушка чалавека, які ўвесь час нешта то купляў, то перапрадаваў.

**КУПЧЫ́ХА** *ж.* Жонка Купца.

**ЛА́ТАШ** *м.* Мянушка мужчыны і ўсіх яго сыноў.

**ЛА́ТАШЫХА** *ж.* Жонка і сястра Латаша.

**ЛАПІ́ТА** *м.* Мянушка мужчыны з тоўстымі губамі.

**ЛІКСУНІ́ХА** *ж.* Мянушка жанчыны з прозвішчам Ліксун.

**ЛІСА́** *ж.* Мянушка хітрай жанчыны.

**ЛІСЮ́К** *м.* Мянушка хітрага з пэўнымі павадкамі чалавека.

**ЛІСЮЧЫ́ХА** *ж.* Маці і жонка Лісюка.

**ЛЯВО́НІШКА** *ж.* Мянушка невысокай жанчыны, бацьку якой звалі Лявон.

**МАГАЗІ́НШЧЫЦА** *ж.* Мянушка жанчыны, якая некалі працавала прадаўцом.

**МА́ЎРА** *ж.* Мянушка жанчыны па імені Марыя.

**МАМУ́ЛЯ** *ж.* Мянушка жанчыны, якая называла сваю маці мамуля.

**МАРКЕ́С** *м.* Мянушка мужчыны, бацьку якога звалі Марк.

**МАХО́РКА** *ж.* Мянушка мужчыны, які ўвесь час курыў махорку.

**МАЦЬВЕ́ІХА** *ж.* Жанчына, мужа якой звалі Мацвей.

**МІ́СТЭР** *м.* Мянушка мужчыны, які хадзіў у шляпе.

**МІГІЛЕ́ЎКА** *ж.* Жанчына родам з Магілёва.

**МІКАЛА́ІШКА** *ж.* Жанчына, бацьку якой звалі Мікалай.

**МІКАРА́ІХА** *ж.* Жанчына, мужа якой звалі Мікалай (па мянушцы Мікарай).

**МІЛІЦЫНЕ́РЫХА** *ж.* Жанчына, муж якой нейкі час працаваў міліцыянерам.

**МІРО́НІХА** *ж.* Жанчына, мужа якой звалі Мірон.

**МІХНІ́ХА** *ж.* Мянушка жанчыны, дзявочае прозвішча якой было Міхнова.

**МО́КСЯ**, **МО́КСІК** *м.* Мянушка мужчыны, дзеда якога звалі Максім.

**МЫШ** *ж.* Мянушка невысокага худога вяртлявага хлопца.

**НАЗА́РЫХА** *ж.* Жанчына па прозвішчы Назарава.

**ПАЛІТРУ́К** *м.* Мянушка мужчыны, які любіў хлусіць.

**ПАЛІЦА́Й** *м.* Мянушка сыноў, бацька якіх служыў у паліцыі.

**ПАЛІЦА́ЙКА** *ж.* Мянушка жанчыны, муж якой служыў у паліцыі.

**ПАЎЛІ́ХА** *ж.* Мянушка жанчыны, мужа якой звалі Павел.

**ПАЎЛО́** *м.* Мужчына па імені Павел.

**ПАЎЛУ́ША** *м.* Мянушка высакарослага здаровага мужчыны па імені Павел.

**ПАШТЫЛЬЁН** *м.* Мужчына, які некалі разносіў пошту.

**ПАШТЫЛЬЁНІХА** *ж.* Жонка Паштыльёна.

**ПІ́ГА** *м.* Мянушка задзірыстага зладзеяватага хлопца.

**ПІЛЮЧО́К** *м.* Мужчына, прозвішча якога было Пілюк.

**ПІНЯРЫ́ХА** *ж.*

**ПОП** *м.* Мянушка мужчыны, які быў заўсёды нястрыжаны і нябрыты.

**ПРАКО́ПЧЫХА** *ж.* Жанчына, мужа якой звалі Пракоп.

**ПРУША́НКА** *ж.* Жанчына, якая родам з суседняй вёскі Прусы.

**ПУ́ЦЬКА** *ж.* Мянушка невысокай чарнявай моцнага целаскладу жанчыны.

**ПЯТРЫ́ХА** *ж.* Жанчына, мужа якой звалі Пятро.

**РАБЫ́** *м.* Мянушка мужчыны з вяснушкамі на твары.

**РАБЕ́ЙЗА** *агульн.* Тое ж.

**РАМА́НІХА** *ж.* Жанчына, мужа якой звалі Раман.

**РАМА́НЧЫК** *м.* Мянушка нізкарослага мужчыны, бацьку якога звалі Раман.

**РЫ́ЖЫ** *м.* Мянушка мужчыны з рыжымі валасамі.

**РЭКЛА́МА** *ж.* Мянушка жанчыны, якая любіла адзяваць вельмі яркае адзенне.

**РЭ́МЕЗ** *м.* Мянушка высокага мужчыны, бацьку якога звалі Раман.

**САЛЕ́Й** *м.* Мянушка здаровага поўнага мужчыны.

**СА́ЛЬНІК** *м.* Мянушка высокага тоўстага здаровага мужчыны.

**СЕ́МАЧКО** *м.* Мужчына па імені Сямён.

**СІНЯГО́ЎКА** *ж.* Жанчына родам з вёскі Сінягова.

**СО́БЕЛЬ** *м.* Мянушка мужчыны, які з усімі задзіраўся, краў чужое.

**СРА́ЙКА** *ж.* Мянушка жанчыны, якая хапалася адразу за некалькі спраў, рабіла ўсё хутка, але не вельмі якасна.

**СТА́ЛІН** *м.* Мянушка высокага мужчыны, які ўвесь час хадзіў у ваенным фрэнчы.

**СТРЫ́КЛЯ** *ж.* Мянушка жанчыны з кучаравымі валасамі.

**СЦЁПЧЫХА** *ж.* Жанчына, мужа якой з-за невысокага росту звалі Сцёпка.

**СЦЯПА́НІХА** *ж.* Жанчына, мужа якой звалі Сцяпан.

**СЬЛЯПУ́ХА** *ж.* Мянушка жанчыны з дрэнным зрокам.

**СЯРБІЯ́Н** *м.* Мянушка мужчыны, які ў маладосці любіў танцаваць сербіянку (з прыпеўкамі).

**СЯРБІЯ́НІХА** *ж.* Жонка Сярбіяна.

**СЯРЖА́НТ** *м.* Мянушка мужчыны, які ў арміі даслужыўся да звання сяржант.

**СЯРЖА́НЦІХА** *ж.* Жонка Сяржанта.

**ТАЛАЛА́Й** *м.* Мянушка мужчыны па імені Мікалай.

**ТРЫГУ́БЫ** *м.* Мянушка мужчыны, які нарадзіўся з заечай губой.

**ТУРЧЫ́ХА** *ж.* Жанчына з прозвішчам Турэц.

**УЛА́СЯНЧЫХА** *ж.* Жонка мужчыны па прозвішчы Ула́сянка.

**ХАХО́Л** *м.* Мянушка мужчыны і ўсіх яго сыноў, жонка і маці якіх была родам з Украіны.

**ХВЯДУЛА́Н** *м.* Мянушка высокага мужчыны, якога звалі Хведар.

**ХВЯДУЛА́НІХА** *м.* Жонка Хвядулана.

**ХЛУС** *м.* Мянушка чалавека, які ўвесь час гаварыў няпраўду.

**ЦЕЦЯРУ́К** *м.* Мянушка глухаватагага чалавека.

**ЦУ́РЫХА** *ж.* Мянушка жанчыны.

**ЦЫ́ЛЯ** *ж.* Мянушка высокай худой жанчыны.

**ЦЫГА́Н** *м.* Мянушка чарнявага хлопца.

**ЦЫГА́НКА** *ж.* Мянушка чорнавалосай смуглявай жанчыны.

**ЦЮЛЮЛЕ́Й** *м.* Мянушка невысокага непаваротлівага чалавека.

**ЦЯЦЕ́РКА** *ж.* Мянушка жанчыны, бацька якой быў глухаваты.

**ШАЎРАШЫ́ХА** *ж.*

**ШАШУ́ЛІХА** *ж.* Мянушка жанчыны па прозвішчы Шэшка.

**ШПІ́ЛЬКА** *ж.* Мянушка худога высокага мужчыны.

**ШПІ́ЛЬЧЫХА** *ж.* Жонка Шпількі.

**ШУ́ХАЎКА** *ж.* Жанчына, дзявочае прозвішча якой было Шухава.

**ЯПО́НСКІ** *м.* Мянушка мужчыны, які пры размове ўвесь час устаўляў выраз «японскі бог».

*Ж. С. Сіпліненя, І. І. Бубновіч*

## СЯМЕЙНЫЯ МЯНУШКІ НА ГРОДЗЕНШЧЫНЕ

Сямейныя мянушкі – адметная культурная і лінгвістычная з’ява на Гродзеншчыне. Як прамежкавая моўная характарыстыка паміж уласным іменем і прозвішчам такія мянушкі шырока ўжываліся ў беларусаў яшчэ са старажытных часоў. А ў вясковай побытавай камунікацыі падобныя імёны адыгрываюць важную сацыяльную функцыю і на сучасным этапе.

У сямейных мянушках адлюстраваны многія элементы нацыянальнай культуры: рэлігія, побыт, вытворчая дзейнасць нашых продкаў, а таксама індывідуальныя асаблівасці носьбітаў мянушак.

Семантычная структура ўтваральных асноў мянушак вызначаецца рознымі сацыяльнымі, псіхалагічнымі і культуралагічнымі фактарамі. Так, асабліва шырока на Гродзеншчыне выкарыстоўваюцца сямейныя мянушкі, што матывуюцца прозвішчамі або гутарковымі формамі імёнаў старэйшых членаў сям’і. Найчасцей сустракаюцца вулічныя імёны, што ўзніклі ад мянушак бацькі ці дзеда (*Бакуновыя*, *Бонкавы*, *Бурлаковы*, *Баркасовы*, *Гамулкі*, *Гудусы*, *Дубрыкі*, *Зэскі*, *Кароценькія*, *Князевы*, *Ліцвяковы*, *Ліштвановы*, *Мічманы*, *Мухавы*, *Мядзведзевы*, *Піндулі*, *Сакрэтчыкі*, *Салапякі*, *Шамберы*, *Шамрукі*, *Фіравы*, *Фургоны*), назвы прафесіі, пасады продкаў па мужчынскай лініі (*Бондаравы*, *Краўцовы*, *Аграномавы*, *Брыгадзіравы*, *Машталеравы*, *Дахтаровы*, *Садоўнікавы*, *Музыканцікавы*, *Фурманавы*). Радзей асновай для ўтварэння сямейных мянушак становяцца імёны і мянушкі маці ці бабулі (*Парашчыны*, *Любчыны*, *Рахвалісіны*, *Перакулісіны*), назвы прафесіі ці роду заняткаў маці (*Знахаравы*, *Зубніхіны*, *Пчолкавы*, *Таблеткавы).*

Мянушкі Гродзеншчыны адлюстроўваюць многія формы імёнаў, якія цяпер не ўжываюцца, назвы прафесій і промыслаў, якія паступова забываюцца, цікавую дыялектную лексіку, таму ўзнікае пільная патрэба ў фіксацыі і апрацоўцы падобнага матэрыялу, без даследавання якога нельга ўявіць вывучэнне нацыянальнай мовы і гісторыі роднага краю.

Ніжэй змешчаны сямейныя мянушкі, зафіксаваныя на Гродзеншчыне. Антрапанімічны матэрыял падаецца ў выглядзе слоўніка ў алфавітным парадку з выкарыстаннем спрошчанай транскрыпцыі. У дужках пасля загаловачнаага слова часам змяшчаюцца варыянты таго ці іншага імя, якія абумоўлены рознымі асаблівасцямі гродзенскай гаворкі.

**АБО́ВІЧЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *У Або́вічаў каро́ва ле́тась прапа́ла.* Алішкаўцы Шчуч.

**АБРА́МЧЫКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Калі́ хо́чаш купі́ць шку́ру, ідзі́ да Абра́мчыкаў.* Дудкі Шчуч.

**АГРАНО́МАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле пасады бацькі. *Аграно́мавы ўсе з го́нарам, на сваі́х машы́нах раз'ягджа́юць.* Верцялішкі Гродз.

**АДА́МАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Ада́мавы ўчо́ра яшчэ́ прые́халі.* Верцялішкі, Капцёўка Гродз.

**АДА́МКАВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя гаспадара. *Каля шко́лы Ада́мкавыя жы́вуць.* Вугальнікі Шчуч.

**АДА́МЧЫКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *А ў той ха́ці Ада́мчыкі ціпе́р ні жыву́ць. Каля во́зера но́ву паста́вілі.* Азёры Гродз.

**АЛЕ́СЬКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя бабулі. *Але́ськавы на бало́ці се́на варо́чаюць, сыро́я на́тта.* Верцялішкі Гродз., Шынкаўцы Шчуч.

**АЛЬБІ́НАВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя бабулі. *Альбі́навых саўсі́м у вёсцы ні віда́ць.* Андрэевічы, Хацькоўцы Ваўк.

**АНДРЭ́ЯВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя гаспадара. *А ско́лькі ў Андрэ́явых дзіце́й, дво́я чы тро́я?* Станявічы Бераст.

**АНТАНЕ́ВІЧЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імёнаў гаспадароў – Антона і Антаніны. *Пайду́ да Антане́вічаў у го́сьці схажу́, ні пражану́ць жа.* Макараўцы Бераст.

**АРКА́ДЗЕВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Ні́на Арка́дзева ло́нскі гот гаро́т ні садзі́ла, а ў гэ́тым го́дзі і карто́плю пасадзі́ла, і бурако́ў з мо́рквай.* Даўбянкі Бераст.

**АРМЯ́НЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, што родам з Арменіі. *Армя́не то́лькі ніда́ўна прые́халі, а ўжо так растро́іліса.* Андрэевічы, Хацькоўцы Ваўк.

**АСТА́ПКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Стара́я Аста́пкава каля́ дзевяно́ста гадо́ў ма́я.* Даўбянкі Бераст.

**АЎДЗЕ́ЯВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Аўдзе́явы ўжо бу́льбу вы́капалі.* Капцёўка Гродз.

**БА́БІЧЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, гаспадар якой любіў жартаваць з жанчын. *Ну й сьме́ху было́ з Ба́бічаў. Стары́ іх да Ні́ны на́шай чапля́ўсо.* Алішкаўцы Шчуч.

**БАЖАНЫ́** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *З Бажана́мі мая́ ма́ці не́калі ў сябро́ўках была́.* Алішкаўцы Шчуч.

**БАКАСЫ́ (БАКАСЭ́)** *мн.* Мянушка членаў сям'і, звязаная з месцам іх пражывання ў вёсцы (хата пабудавана збоку ад іншых). *Бакасы́ за́рас у по́лі, падыдзе́ця пагаварэ́ця.* Асташына Навагр.

**БАКУНО́ВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі дзеда. *Да Бакуно́вых маладыя ка́жну нідзе́льку е́дуць, глядзя́ць стары́х.* Верцялішкі Гродз.

**БАПЦІ́СТЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі бацькі. *Ні́гды нічо́га не бярыця ў Бапці́ставых, бо шанцава́ць ні бу́дзя.* Верцялішкі Гродз.

**БАРКАСО́ВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі дзеда. *Калі́ што трэ́ба, то ідзі́ да Баркасо́вых, янэ́ усяку ламату́ ма́юць.* Верцялішкі Гродз.

**БАРЫСО́ВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Усе́ Барысо́вы на́тто скупы́я лю́дзі, зімо́й сьне́гу ні дапро́сісса.* Верцялішкі Гродз.

**БАСАКЕ́** *мн.* Мянушка членаў сям'і, што не мае ўласнай хаты. *Басаке́ ўсё жы́ця па лю́дзях скіта́юцца.* Азёры Гродз.

**БО́НДАРАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле занятку дзеда. *Бо́ндаравы ў тым ро́ку ба́цьку пахава́лі.* Верцялішкі Гродз., Даўбянкі Бераст.

**БО́НКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі дзеда. *Да Бо́нкавых не́шта апцякар́ша пабе́гла.* Капцёўка Гродз.

**БО́НДЗІНЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча. *Бо́ндзіны на во́зі прымастако́ліліса, у Гэ́йсманты пае́халі.* Рымуцеўцы Бераст.

**БРЫГАДЗІ́РАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле пасады бацькі. *Брыгадзі́равы заўсёды былі́ ў пачо́ці.* Верцялішкі, Капцёўка Гродз.

**БРЫЦАКІ́ (БРЫЦАКЕ́)** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Брыцако́ў у на́шай вёсцы ні на́тта любі́лі.* Алішкаўцы Шчуч.

**БУБНО́ВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча. *У Бубно́вых до́бра гаспада́рка была́.* Рыбакі Шчуч.

**БУ́БНЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча гаспадара. *Бальша́я ха́та была́ ў Бу́бнаў.* Андрэевічы, Хацькоўцы Ваўк.

**БУРЛАКО́ВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі бацькі. *Мо з год ужо Бурлако́вы да зя́ця і вачэ́й ні пака́зваюць.* Верцялішкі, Капцёўка Гродз.

**БУ́РЧЫКІ** *мн.* Мянушка сям'і, дадзеная паводле прозвішча. *Бу́рчыкі ўжо з ра́нку пачалі́ сва́рку.* Ляшчанка Шчуч.

**ВАЛО́ДЗЕВЫ** *мн.* Мянушка сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Вало́дзевы бульбаве́ня па́ляць на гаро́дзі.* Верцялішкі, Капцёўка Гродз.

**ВАСІЛЁВЫ** *мн.* Мянушка сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Сёмік Васілёў ха́ту ба́цькаву ні даглядая́, так, пэ́ўна, і разваліцца.* Даўбянкі Бераст.

**ВАСІ́ЛЬКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Не́хта з Васі́лькавых на дзяды́ прыягджа́ў, бо на мо́гілках прыбра́но.* Рымуцеўцы Бераст.

**ВАЎКІ́** *мн.* Мянушка членаў сям'і, якая жыла далёка ад вёскі і мела кепскія адносіны з іншымі людзьмі ў вёсцы. *У Ваўко́ў усе́ дзе́ці на́тто рабо́чыя.* Асташына Навагр. *Хо́чацца табе́ ісьці́ да гэ́тых Ваўко́ў.* Струбніца Маст.

**ВА́НЬКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Ва́нькавы лю́бяць свайго́ дзе́да і паважа́юць яго́.* Капцёўка Гродз.

**ВА́ЦЬКАВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя бацькі. *Ле́пяй каня́ ў Ва́цькавых бяры́, ён спакайне́йшы.* Станявічы Бераст.

**ВЕ́РЧЫНЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя бабулі. *Ве́рчыны зяці́ глядзя́ць цёшчу. Брыке́ту прывязлі́, дроў нацяга́лі. Жыві́ сабе́ ба́ба і ў вус ні дуй.* Верцялішкі Гродз.

**ВЕ́НІКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *А яшчэ́ каля нас Ве́нікі жыву́ць.* Алішкаўцы Шчуч.

**ВІ́ЛЬЧЫКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча. *Ві́льчыкі, як ты́я лі́сы, хі́трыя былі́.* Канюхі Гродз.

**ВЛА́ДАЧКАВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя гаспадара. *Тры сястрэ́ было́ ў Вла́дачкавых.* Вугальнікі Шчуч.

**ВЫ́ГАНСКІЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, якая жыла каля выгану. *За вёскай ля вы́гану сям'я́ жыла́, Вы́ганскімі зва́лі.* Алішкаўцы Шчуч.

**ВЫ́ГАНЦЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, што пабудавала некалі хату каля выгану. *Вы́ганцы но́ву ха́ту пабудава́лі каля во́зера, а стару́ю прадалі́.* Верцялішкі, Капцёўка Гродз.

**ГАЛДАСІ́** *мн.* Мянушка членаў сям'і, якія звычайна гучна гаворыць. *А галасэ́ Галдасёў такія, што ў канцы́ вёскі чува́ць.* Асташына Навагр.

**ГАЛО́ДНЫЯ (ГАЛО́ННЫЯ)** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі гаспадара. *Гало́нныя бу́дуць узо́ўтра садзі́ць бу́льбу, стары́ ужэ і с канём дамо́віўсо.* Верцялішкі Гродз.

**ГАМУ́ЛКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі дзеда. *Стары́ да Гаму́лкаў па́шоў, то да ве́чара ўжэ і не чака́йця, за ка́ртамі сядзе́ць бу́дуць.* Верцялішкі Гродз.

**ГАНЧАРЭ́ВІЧЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, у якой дзед працаваў некалі ганчаром. *Ганчарэ́вічы наду́маліса пабудава́ць но́ву ха́ту.* Азёры Гродз.

**ГАРНУ́ШКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, якія вылучаюцца малым ростам. *Усе дзе́ўкі высо́кія, а Гарну́шкавы хло́пцы малы́я. Ой цяжка ж бу́дзя хло́пцам вы́браць жо́нку памі́ж іх.* Асташына Навагр.

**ГАРЭ́ШКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча. *А ў Гарэ́шкаў до́брая была́ каро́ва. Мала́ка́ і са́бе хапа́ла, і здава́лі яшчэ́.* Асташына Навагр.

**ГАЎРЫЛЁВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя прадзеда. *Да Гаўрылёвых ране́й на цілеві́зар глядá́цца хадзі́лі. А ціпе́рака ў ка́ждага свой.* Навасёлкі Гродз.

**ГЕНЮ́ШКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя бацькі. *Геню́шкі до́бро жыву́ць, машы́ну ма́юць, каня́.* Струбніца Маст.

**ГО́ЛДЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *І што гэ́тыя Го́лды, калі́ ме́лі мо? Анно́ сло́ва, гало́та-бядо́та.* Заполле Маст.

**ГО́ЎСЕВЫ** *мн.* Мянушка сям'і, дадзеная паводле прозвішча. *Го́ўсевы нам сваяка́мі прыхо́дзіліся, але́ ніко́га не засталó́ся. Зо́ся засталá́ся ў стары́х дзе́ўках, брат ні жані́ўся.* Даўбянкі Бераст.

**ГУ́ДУСЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі бацькі. *Упяро́т нідзе́лькай Гу́дусы ні́гды бу́льбы ні капа́лі. А за́рас старо́га німа́, німа́ каму́ і пакама́ндаваць.* Верцялішкі Гродз.

**ГУ́ЗАВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле адметнасці знешняга выгляду гаспадара (на лбе вялікі гуз). *Сьме́шныя гэтыя Гу́завыя, хі́бо пашлі́ па ба́цьку.* Жытомля Гродз.

**ГУЛАНО́ВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Па той гу́ліцы жыву́ць на́шыя сваякі́ Гулано́выя.* Масты Правыя Маст.

**ГУЛЯ́КАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі бацькі. *Гуля́кавы мо з учара́шняга дня сьвятку́юць.* Верцялішкі, Кашэўнікі Гродз.

**ГУЦУ́ЛЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, што пераехала з Украіны. *Гуцу́лы, як пераé́гджыя сва́хі, з аннаго́ ме́сца на друго́я.* Верцялішкі Гродз.

**ДАБРАВО́ЛЬСКІЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Узаўтра да Дабраво́льскіх прыягджа́юць дзе́ці.* Алішкаўцы Шчуч.

**ДАВЫДЫ́** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Даўно́ ўжо з Давыдо́ў ніко́га ні ба́чыла.* Алішкаўцы Шчуч.

**ДАНІЛО́ВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Дзет ў іх быў Дані́ла, таму́ і Даніло́выя.* Азёры Гродз.

**ДАХТАРО́ВЫ (ДО́ХТАРАВЫ)** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прафесіі бацькі. *Дахтаро́вы заўсягда́ глядзя́ць за сваі́м здаро́ўям.* Верцялішкі Гродз., Шынкаўцы Шчуч.

**ДЗІ́НДЗІКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *У Дзі́ндзікаў пяцёра дзіце́й, і ўсе так ху́тко гаво́раць.* Жытомля Гродз.

**ДЗІНІСЫ́** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя бацькі. *У Дзінісо́ў шэсць дачо́к, анна́ па́ру гадо́ў наза́т памярла́.* Алішкашцы Шчуч., Заполле Маст.

**ДЗЯНІСО́ВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Дзяніcо́вы паé́халі на Гро́нна, да сы́на ў го́сьці.* Верцялішкі Гродз.

**ДРО́ЗДЗІКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча. *У вёсцы засталі́са анны́ Дро́здзікі, малады́я ўсе паé́халі, а стары́я паўмі́ра́лі.* Ігнатава Навагр.

**ДУ́БРЫКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі дзеда. *У Ду́брыкаў ба́цька яшчэ́ маладым но́гі зламо́ў, дык старэ́йшыя сынэ́ ха́ту анны́я дарабля́лі.* Верцялішкі Гродз.

**КАЗЬМЕ́РАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Казьме́равы каля Ставо́ў сваé́ каро́вы навяза́лі.* Рымуцеўцы Бераст.

**КАНЦАВЫ́Я** *мн.* Мянушка членаў сям'і, хата якіх знаходзіцца на канцы вуліцы. *Усю́ жы́знію Канцавы́я на каго́сьці ро́бяць, свайго́ ні́чо́га ні ма́юць.* Дакурнішкі Ашм., Верцялішкі Гродз.

**КАПЕ́ЙКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Ма́буць Капе́йкі назьбі́ра́лі гро́шай. Паля́нь во і мо́цік купі́лі.* Ярошычы Навагр.

**КАРО́ЦЕНЬКІЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі дзеда. *Каро́ценькія бураке́ по́люць усі́м сямействам.* Верцялішкі, Капцёўка Гродз.

**КАРПАЧО́ВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча бацькі. *Карпачо́выя наду́малі́са зямлю́ выкупля́ць.* Пыра Гродз.

**КАЧУРО́ВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі дзеда. *Стары́ Качуро́вых ка́жа: «Паку́ль сы́ты пахудзе́я, дык худы́ ўжо здо́хня».* Рымуцеўцы Бераст.

**КА́СЬКАВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя гаспадара. *На́ша Га́ля бе́гая да Ка́ськавых па малако́.* Станявічы Бераст.

**КА́ШКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Сядзя́ць Ка́шкі на ла́ўцы цэ́лы дзень, бу́тто рабі́ць німа́ чаго́ больш.* Няцечы Гродз.

**КІЛІ́ШКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дзед якіх любіў выпіць з кілішка. *Што дзет, што ўну́кі, анна́ на́зва – Кілі́шкі.* Вялікае Дзямідкава Гродз.

**КІТА́І** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *А ў Кітаёў усё як ні ў людзе́й.* Азёры Гродз.

**КІТА́ЙЦЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле асаблівасцей знешняга выгляду (маюць вузкія вочы). *У Кіта́йцаў на́ват ніве́ста да іх падо́бна, во́чы мале́нькія.* Асташына Навагр.

**КЛО́ДЗІНЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя бабулі. *Кло́дзіны ізноў прые́халі. Ля, во паля́нь, шальбабо́н хібо выбіра́юць.* Заполле Маст.

**КНЯ́ЗЯВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі дзеда. *У Кня́зявых дзісь вясе́ля. Уну́чку за́муж андаю́ць.* Верцялішкі Гродз.

**КО́СТУСІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя гаспадара. *Ба́цька іх не́калі казо́ў: «Я Ко́стусь, а ні Ко́сцік». Так усі́х іх Ко́стусямі і прazва́лі.* Жытомля Гродз.

**КРАЎЦО́ВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прафесіі дзеда. *У Краўцо́вых ве́лька сям'я́, як пазьбіра́юцца, цэ́ла вясе́ля.* Верцялішкі Гродз.

**КРАЦЫ́** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча гаспадара. *Крацы́ ра́зам ро́бяць, ра́зам гуля́юць.* Андрэевічы, Хацькоўцы Ваўк.

**КУЗЬМО́ВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя прадзеда. *У Кузьмо́вых уве́сь рот п'е. Рабі́ць саўсі́м ні хо́чуць.* Верцялішкі Гродз.

**КУПЦО́ВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дзед якіх быў купцом. *О, гэ́тыя Купцо́выя за капе́йку го́рла пераграызу́ць.* Канюхі Гродз.

**ЛІШТВАНО́ВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі дзеда. *Ліштвано́вы зау́тра паеду́ць на го́рат. Сёньня гуркоў мно́га вы́бралі, то трэ́ба ш прада́ць.* Шынкаўцы Шчуч.

**ЛЮ́БЧЫНЫ (ЛЮ́ПЧЫНЫ)** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя бабулі. *Лю́пчыны каза́лі, што прые́дуць на вясе́ля, а зноў ні было́ чаму́сьці. Хі́ба што зда́рыласо?* Верцялішкі Гродз.

**ЛЯ́МПЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Хто́ ве́дае, чаму́ так празва́лі, мо́жа таму́, што белагало́выя.* Пагараны Гродз.

**МА́ЗАЛЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, у якой дзеці ўвесь час ходзяць брудныя. *Глянь, у Ма́залаў які́я дзе́ці зама́заныя хо́дзяць.* Балотны Навагр.

**МАКАРО́ВЫ (МАКА́РАВЫ)** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя прадзеда. *Макаро́вы на выханны́я прые́дуць да ма́ці.* Верцялішкі, Капцёўка Гродз.

**МАКАРО́ВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя старэйшага прадстаўніка. *Макаро́вая падло́гу ні мы́ла, а то́лькі гразь расквэ́цала.* Андрэевічы, Хацькоўцы Ваўк.

**МАКАРО́НІКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, якія прыехалі з Італіі. *Макаро́нікі гэ́тыя ўжо гадо́ў як пяць тут жыву́ць.* Пыра Гродз.

**МАЛАЛЕ́ТКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, якія ўзялі пад апеку малых дзяцей. *У Малале́так тых сваі́х дзе́так було́ мо пяць.* Зінякі Шчуч.

**МА́НІНЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя бабулі. *Ма́ніны ўсе да рабо́ты спра́ўныя.* Верцялішкі Гродз., Шынкаўцы Шчуч.

**МА́НЧЫКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча Манкевіч. *У Ма́нчыкаў было́ тро́я дзяце́й, два хло́пцы і анна́ дзяў́чынка.* Азёры Гродз.

**МАРЛА́ТКІ** *мн.* Мянушка цэлага роду, дадзеная паводле мянушкі дзеда, які замест слова малаток гаварыў марлаток. *Ме́ншы Марла́тка ў Гро́нна быў пае́хаўшы.* Погіры Ашм.

**МАРО́ЗАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, у хаце якіх заўсёды было холадна. *Маро́завы то́рпу капа́ць ленава́ліся. Хварасту́ назьбіра́юць, а яко́е зь яго́ цяпло́?* Эймінаўцы Бераст.

**МАРЫ́ЙЧЫНЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя бабулі. *Усе́ Марыйчыны акура́тныя, а ме́ншы такі́ раско́л, ра́ды даць ні мо́гуць.* Капцёўка, Верцялішкі Гродз.

**МАТРО́НІНЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя бабулі. *Учо́ра ў ве́чары прые́халі і Матро́ніны.* Путрышкі Гродз.

**МАТЫЛЬКО́ВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Ізно́ў Матылько́выя е́дуць у го́рад.* Князева Зэльв.

**МАХНА́ЦКІЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле назвы поля (Махнач), паблізу якога яны жывуць. *Махна́цкія жылі́ каля по́ля, што Махна́ч заве́цца.* Алішкаўцы Шчуч.

**МАЦЕ́ЕВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Маце́еў ха́ту но́ву паставі́ў. А ў старо́й глі́ня́най дзя́цька заста́ўся.* Даўбянкі Бераст.

**МАЦЮ́ЧКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча дзеда Мацюк. *Гэ́та стары́ дзед быў, Мацю́к зва́ўся, таму́ ўсіх Мацючка́мі празва́лі.* Петрашышкі Шчуч.

**МАШТАЛЁРАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і паводле пасады дзеда. *Машталёравы на ле́та з Гро́нна зноў прые́халі.* Капцёўка Гродз.

**МЕ́ТКАВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя бацькі Мечыслаў. *А ў Ме́ткавых свя́та, нарадзі́лася яшчэ́ анна́ ўну́чка.* Станявічы Бераст.

**МЕ́ЦЬКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя бацькі Мечыслаў. *Ме́цькаў такі́ прыго́жы і пахо́жы на ба́цьку.* Дудкі Шчуч.

**МІКАДЭ́СЬКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і маленькага росту. *Сёння кароў пасу́ць Мікадэ́ські.* Асташына Навагр.

**МІКО́ДАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда Нікадзім. *Міко́давы пайшлі́на сьвіна́рнік рабі́ць.* Даўбянкі Бераст.

**МІРАНО́ВЫ (МІРО́НАВЫ)** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Мірано́вы былі́ бага́тыя ды сла́ўныя.* Даўбянкі Бераст. *Міро́навы сёньня з ра́нку прые́халі да дзе́да.* Лозы Ваўк.

**МІТРУКО́ВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Іх дзед Міру́к быў, таму́ іх Мітруко́вымі зва́лі.* Стрыеўка Гродз.

**МІХА́ЛАВЫ (МІ́ХАЛАВЫ)** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Сяргей Мі́халаў памёр, я і ні ве́даў, што ў яго́ інфа́ркт быў.* Шынкаўцы Шчуч., Верцялішкі Гродз.

**МІХАЛКО́ВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *На вайне́ шмат Міхалко́вых патра́цілася.* Пыра Гродз.

**МІХАЛЮКЕ́** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда Міхал. *Міхалюке́ ха́ту раманту́юць.* Азёры Гродз.

**МІ́ШКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *У Мі́шкавых, ка́жуць, вясе́ля бу́дзя, а хто жэ́ніцца, ні ве́даю.* Верцялішкі, Кашэўнікі Гродз.

**МУЗЫКА́НЦІКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прафесіі дзеда. *Дзед Музыка́нцікавых па сва́дзьбах хадзі́ў, граў. Тады́ ма́ла такі́х было́.* Шынкаўцы Шчуч., Верцялішкі Гродз.

**МУЗЫ́КІ** *мн.* Мянушка сям'і. *У сям'і́ Музы́каў быў дзед, які́ на скры́пцы ўмеў граць.* Алішкаўцы Шчуч.

**МУ́СЬКАВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя гаспадара Эдмунд (Муська). *А чыя́ гэ́та, хі́ба Му́ськава.* Станявічы Бераст.

**МУ́ХАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі дзеда. *Адзі́н Му́хаў у мілі́цыі рабі́ў.* Кашэўнікі Гродз.

**МЭ́ЦЯВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя старэйшага яе прадстаўніка Мечыслаў (Мэцё). *Мэ́цява за не́йкага до́хтара выйшла, у Гро́ньні жыве́.* Індура Гродз.

**МЯДЗВЕ́ДЗЕВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі дзеда. *Мядзве́дзевы ў Вёсцы жылі́.* Шынкаўцы Шчуч.

**НАСТУ́СЬЧЫНЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя бабулі. *Насту́сьчыны по́палам капу́сту пасы́палі, кап капу́сьніца ні напада́ла.* Верцялішкі Гродз.

**НАЧАСО́ВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дзед якой першы ў вёсцы купіў гадзіннік. *Начасо́выя заўсёды ме́лі шмат гро́шай.* Стрыеўка Гродз.

**НЕ́МЦЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, што пераехалі з Германіі. *Не́мцы гэ́тыя на́тто акура́тныя, усё ў іх да пара́тку даве́дзяна.* Верцялішкі Гродз.

**НІКІ́ТАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Нікі́тавы называ́юць, бо дзед быў Нікі́та.* Азёры Гродз.

**ПАВЭ́ЛКАВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда Павел (Павэлак). *Жыву́ць Павэ́лкавыя тут даўно́.* Галавачы Гродз.

**ПАВЭ́ЎГУСЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі дзеда Павел (Павэўгус). *Павэ́ўгусы заву́ць, бо дзед быў Па́вел.* Азёры Гродз.

**ПАГАРЭ́ЛЬЦЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, у якіх згарэла хата. *Пагарэ́льцы сёньня ў го́радзі былі́.* Алішкаўцы Шчуч.

**ПАДБЕРАЗІ́НСКІЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, што жылі на хутары каля лесу. *Пад Бярэ́зінай жылі́ Падберазі́нскія.* Шынкаўцы Шчуч.

**ПАЛІКА́РПАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *У Паліка́рпавых на гаро́дзі бу́льба саўсі́м ні ўрадзіла, бо вада́ стая́ла мо з які́ ме́сяц.* Верцялішкі Гродз.

**ПАНІЧО́ВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі бацькі Паніч. *Панічо́выя каля даро́гі жылі́ за мо́гілкамі.* Шынкаўцы Шчуч.

**ПАРА́ШЧЫНЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя бабулі. *Пара́шчыны гакта́раў шэсць зямлі́ ме́лі.* Верцялішкі Гродз., Даўбянкі Бераст.

**ПАРФІЁНАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Каля Парфіёнавых крук лята́ў, кап кураня́ ні ўхапі́ў.* Шынкаўцы Шчуч.

**ПАШТАВІКО́ВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прафесіі бацькі. *У час вайны́ Паштавіко́вых пагна́лі ў Герма́нію.* Лакно Гродз.

**ПЕРАКУЛІ́СІНЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі бабулі Перакуліха. *Перку́лісіны каравэ́ па́сьвілі, пало́ву ў Дзе́даўцы згубі́лі.* Шынкаўцы Шчуч.

**ПЕРАСЕ́ЛЬЦЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, што перасяляліся ў вёску Стрыеўка з іншай мясцовасці. *Гавары́лі, бу́тта Перасе́льцы прые́халі да нас з Го́мельшчыны.* Стрыеўка Гродз.

**ПЕРУНІ́ХІ** *мн.* Мянушка жанчын Фені і Мар'і. *Пяруні́хамі зва́ліся, бо ве́льмі сварлі́выя былі́.* Жытомля Гродз.

**ПЕТРУЛЁВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда Пётр. *Да Петрулёвых не́хта прые́хаў. Лехкаву́шка пат ха́тай стаі́ць.* Верцялішкі Гродз., Даўбянкі Бераст.

**ПІВАВА́РЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча Піваварчык. *Пімава́ры ўжо ціпе́р ве́даюць, куды́ яны́ пае́дуць на атпачы́нак.* Навагрудак.

**ПІЛІ́ПАВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя старэйшага яе прадстаўніка. *Ні ідзі́ да Пілі́павых, ты́я кладавя́цца ра́на.* Андрэевічы, Хацькоўцы Ваўк.

**ПІЯНЕ́РЧЫНЫ** *мн.* Мянушка членаў сям’і, дадзеная паводле мянушкі бабулі Піянерка. *Піяне́рчыны за́ўтра ў го́рат пае́дзуць на база́р.* Геранёны Іўеў.

**ПІ́ПЧЫНЫ** *мн.* Мянушка членаў сям’і паводле мянушкі дзеда Піпка. *Пі́пчыны пайшлі́ ў лес.* Рымуцеўцы Бераст.

**ПІ́САРЫ** *мн.* Мянушка членаў сям’і, дадзеная паводле роду заняткаў дзеда. *Пісары ве́далі, чаму́ іх так называ́лі.* Бандары Гродз.

**ПІ́ЦЯРСКІЯ** *мн.* Мянушка членаў сям’і, якая прыехала з Піцера. *О ля, Пі́цярскія машы́ну но́вую купі́лі.* Эймінаўцы Бераст.

**ПРО́РАКІ** *мн.* Мянушка членаў сям’і. *С Про́ракаў ўсе насьміха́ліся.* Канюхі Гродз.

**ПРО́ХАРАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям’і, дадзеная паводле імя дзеда. *Каля Про́харавых гло́тка расьце́, нарва́ла, але́ нісма́шна, не́ка прэ́сна.* Верцялішкі, Капцёўка Гродз.

**ПРУСАЧКО́ВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям’і, дадзеная паводле мянушкі дзеда Прусак. *Прусачко́выя на́тто працаві́тыя лю́дзі.* Пыра Гродз.

**ПРЫМАКО́ВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям’і. *Калі́сьці мы це́сна сябрава́лі с Прымачко́вымі.* Масты Правыя Маст.

**ПРЫМАЧКО́ВЫЯ** мн. Мянушка членаў сям’і, дадзеная паводле мянушкі дзеда Прымак. *Бацькі́ памярлі́, то Прымачко́выя рэ́тка ў вёску прыяжджа́юць.* Шынкаўцы Шчуч.

**ПРЫШЧЭ́ПАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям’і, дадзеная паводле мянушкі дзеда, які прыйшоў у прымакі на чужую зямлю. *Прышчэ́павы ні хаце́лі ў калга́с уступа́ць.* Канюхі Гродз.

**ПУ́ХАВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям’і, якія бясшумна ходзяць (як пух). *Пу́хавыя жыву́ць на фу́тары.* Галавачы Гродз.

**ПЫ́ЖЫКІ** *мн.* Мянушка членаў сям’і. *Усе́ Пы́жыкі на́тто задзі́рыстыя.* Асташына Навагр.

**ПЯЧНІКО́ВЫ** *мн.* Мянушкі членаў сям’і, дзед якіх рабіў печы. *Пячніко́вы ўсе до́брыя майстры́ рабі́ць пе́чы.* Дакурнішкі Ашм.

**РАБЫ́Я** *мн.* Мянушка членаў сям’і, якія маюць рыжыя валасы і рабаценне на твары. *У Рабы́х усе́ схо́жыя, усе́ ры́жыя.* Поразава Свісл.

**РАМАНЦО́ВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям’і, дадзеная паводле імя дзеда Раман. *Унь Раманцо́ў пайшо́ў.* Канюхі, Галавачы Гродз.

**РАМА́НЧЫКІ** *мн.* Мянушка членаў сям’і, дадзеная паводле імя бацькі Раман. *Залатыя лю́дзі гэ́тыя Рама́нчыкі.* Алішкаўцы Шчуч.

**РАФА́ЛАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям’і, дадзеная паводле імя дзеда. *На дварэ́ мо́крадзь, с ха́ты ні хо́чацца выла́зіць, а Рафа́лавы ў грыбы́ пайшлі́.* Грынёўка Гродз.

**РАХВА́ЛІСІНЫ** *мн.* Мянушка членаў сям’і, дадзеная паводле мянушкі бабулі Рахваліха. *Рахва́лісіных на мо́гілках ба́чыла.* Шынкаўцы Шчуч.

**РО́МКАВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям’і, дадзеная паводле імя гаспадара Рамуальд. *Ро́мкавыя ўжо сваё се́на забра́лі.* Станявічы Бераст.

**РЫГАРЫ́** *мн.* Мянушка членаў сям’і, бацька якіх быў вельмі высокага росту. *У Рыгаро́ў са́мыя высо́кія ха́ты былі́.* Дудкі Шчуч.

**РЫ́ЖЫЯ** *мн.* Мянушка ўсёй сям’і, звязаная з колерам валасоў. *Сёньня Ры́жыя пасу́ць каро́ў.* Асташына Навагр.

**РЫ́МАРАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям’і. *Ла́ўка ля Ры́маравых стаі́ць.* Даўбянкі Бераст.

**САДО́ЎНІКАВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям’і, дадзеная паводле роду дзейнасці дзеда. *Ка́жуць, што дзет Садо́ўнікавых у па́на працава́ў.* Верцялішкі Гродз., Шынкаўцы Шчуч.

**САКРЭ́ЧЧЫКІ** *мн.* Мянушка членаў сям’і, дадзеная паводле мянушкі дзеда. *Сакрэ́ччыкі ніко́му нічо́га ні ка́жуць, хі́бо ба́яцца, кап хто ні ўрок.* Верцялішкі Гродз.

**САЛАПЯКІ́** *мн.* Мянушка членаў сям’і, дадзеная паводле мянушкі дзеда. *Дзе́да Салапякам зва́лі, так за і́мі і застало́са.* Верцялішкі Гродз., Шынкаўцы Шчуч.

**САРДАКІ́** *мн.* Мянушка членаў сям’і, дадзеная паводле прозвішча Сардакоўскі. *Сардакі́ ко́жны дзень працу́юць з ра́нку да ве́чара.* Струбніца Маст.

**СЁМІКАВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям’і, дадзеная паводле імя бацькі Сямён (Сёмік). *Га́ля Сёмікава за грані́цу пае́хала. Ці ў Іта́лію, ці ў Іспа́нію.* Даўбянкі Бераст.

**СІБІРАКІ́** *мн.* Мянушка членаў сям’і, якія родам з Сібіры. *У Сібірако́ў усе́ высо́кія, здаро́выя.* Хацькоўцы Ваўк.

**СІДАРЭ́** *мн.* Агульная мянушка сям’і Сідарэвіч. *Сідарэ́ былі ве́льмі ўда́лыя.* Алішкаўцы Шчуч.

**СКО́РБІСІНЫ** *мн.* Мянушка членаў сям’і, якія перажылі шмат гора. *Ско́рбісіны купі́лі ха́ту ў го́радзе.* Эймінаўцы Бераст.

**СЛЯПО́ГАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям’і з нізкім зрокам. *У яе́ тако́е рабаце́ньне на тва́ры, хі́ба то́лькі Сьляпо́гавы ні ўба́чаць.* Эймінаўцы Гродз.

**СО́НЬЧЫНЫ** *мн.* Мянушка членаў сям’і, дадзеная паводле імя маці. *Со́ньчыны далёка ні пае́халі. Ната́ша ў Ража́нцы ро́біць.* Шынкаўцы Шчуч.

**СПІ́ЧКІ** *мн.* Мянушка членаў сям’і. *Іх дзед не́калі ха́ту спалі́ў, таму́ Сьпі́чкамі і празва́лі.* Азёры Гродз.

**СРО́ЛЕВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям’і, дадзеная паводле мянушкі бацькі. *Сро́левых яшчэ́ Падберазі́нскімі зва́лі.* Шынкаўцы Шчуч.

**СТАРШЫНО́ВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям’і, бацька якой быў старшынёй калгаса. *Старшыно́вы перае́халі і заганары́ліся.* Эймінаўцы Бераст.

**СТА́СЬКАВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям’і паводле імя гаспадара Станіслава. *А ко́лькі ў Ста́ськавых курэ́й?* Станявічы Бераст.

**СТЭ́ФЧЫНЫ** *мн.* Мянушка членаў сям’і, дадзеная паводле імя бабулі Стэфанія. *А Стэ́фчыны дзісь завялі́са бі́цца, ні убаро́ніш.* Верцялішкі, Капцёўка Гродз.

**СЦЕ́ШКАВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям’і, хата якіх знаходзіцца на сцежках. *Ба́чыш ха́ту на сьце́шцы, там і жыву́ць Сце́шкавыя.* Дакурнішкі Ашм.

**СЦЁПЧЫНЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Урачыха да Сьцёпчыных пайшла, хтосьці захварэў.* Верцялішкі, Капцёўка Гродз.

**СЫМАНЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Сыманоў у вёсцы ні натто любілі.* Вугальнікі Шчуч., Лозкі Дзятл.

**СЫМОНАВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Сымонавыя ўсе ў горат падаліся.* Шынкаўцы Шчуч.

**СЦЯПАНАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя бацькі. *Абодвы Сьцяпанавы пажаніліса.* Шынкаўцы Шчуч.

**СЭРВУСАВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Сэрвусавыя жылі весела і вельмі дружна.* Масты Правыя Маст.

**СЯКРЭТЧЫКІ** *мн.* Мянушка сям'і, якая вядома сваімі таямніцамі. *І што гэтыя Сякрэтчыкі там усё скрываюць?* Поразава Свісл.

**СЯМЁНЧЫКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя бацькі. *Сямёнчыкі лепшыя ў класе вучні.* Лозкі Дзятл.

**СЯРОЖКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Сярожкавы на выханныя прыехалі, парася калоць будуць.* Эймінаўцы Бераст., Кашэўнікі Гродз.

**ТАБЛЕТКАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле роду заняткаў маці. *Таблеткавы ніякай гаспадаркі ні маюць, як толькі і жывуць.* Верцялішкі Гродз.

**ТАДЭВУШОВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Пасьля сьмерці дзеда Тадэўша, яго сям'ю Чабоцька пачалі зваць Тадэвушовы.* Галавачы Гродз.

**ТАРАСОВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя прадзеда. *Тарасовы ўсё грыбы па лесе зьбіраюць, нават кабылак бяруць.* Шынкаўцы Шчуч.

**ТАЎКАЧЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Маці патстрыгала дзяцей, кажучы: «Харошая прычоска, галава, як таўкачык».* Янканцы Ашм.

**ТОСЬКАВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя гаспадара Антоній. *А куды паехалі Тоськавыяі?* Станявічы Бераст.

**ТРЭКАВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, якая прыехала ў вёску. *Трэкавыя хату знімалі ў Пашковых.* Каўшова Маст.

**УНУКАВЫЯ (УНУКАВЫ)** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі бацькі. *Маню Унукаву ў Шынкаўцах пахавалі.* Шынкаўцы Шчуч.

**УНЦІКАВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і паводле мянушкі бацькі, які вельмі часта ўжываў слова 'унта'. *Раней мы вельмі часто збіраліса ў Унцікавых.* Пыра Гродз.

**УСТЫНІНЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя прабабкі Усцінні. *Устыніныя жывуць каля возера.* Жытомля Гродз.

**ФІЛАРЭТЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя гаспадара сям'і. *Нешто Філарэтаў сёньня няма ля магазіна.* Асташына Навагр.

**ФІРАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі дзеда. *Фіравы некалі ў вёсцы сама багата жылі.* Пілюкі Гродз.

**ФРАНКАВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя гаспадара Франак. *Ты ні ведаеш, Франкавыя бульбу папалолі?* Станявічы Бераст.

**ФУРГОНЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі бацькі. *Фургоны заўсягдапа гасьцях хадзілі.* Верцялішкі Гродз., Шынкаўцы Шчуч.

**ФУРМАНАВЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прафесіі дзеда. *Фурманавы часта вечарам выходзяць на вуліцу.* Капцёўка Гродз.

**ФЭЛІНЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя бабулі. *А мы ў Фэліных малако бралі.* Верцялішкі, Капцёўка Гродз.

**ФЯДУКОВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя старэйшага яе прадстаўніка Фядук. *Дзед быў Фядук, таму і яны Фядуковыя.* Андрэевічы, Хацькоўцы Ваўк.

**ХАЛАДЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і. *Халады на самым канцы вёскі жылі каля выгану.* Вугальнікі Шчуч.

**ХАХЛЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, якія родам з Украіны. *Не паважаюць у нас Хахлоў.* Андрэевічы, Хацькоўцы Ваўк.

**ХАЧАПУРЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, якія прыехалі з Азербайджана. *Хачапуры гэтыя ўжо пяць гадоў тут жывуць.* Азёры Гродз.

**ХІХЛЯНКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, якая раней жыла на Украіне. *Хіхлянкі кожны год ездзяць на Украіну.* Капачы Маст.

**ЦЕЎЦІКАВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі дзеда Цеўцік. *Такі інцярэсны голас быў у нашага Цеўціка, я то ні помню, а мне маці расказвала. А ўсіх дзяцей яго Цеўцікавымі называюць.* Азёры Гродз.

**ЦЫГАНЕ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дзед якіх меў пэўныя стасункі з людзьмі гэтай нацыянальнасці. *Калі што, дык ідзі да гэтых Цыганоў.* Андрэевічы, Хацькоўцы Ваўк.

**ЧОРЦІКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, у якіх у хаце заўсёды брудна. *У Чорцікаў так гразно было ў хаці, як у балоці ў чортаў.* Стрыеўка Гродз.

**ШАМБЕРЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі дзеда. *Юра Шамбер прыяжджае рэтка. Матаецца з Масквы ў Польшу. Усё часу німа.* Кашэўнікі Гродз.

**ШАМРУКІ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле мянушкі дзеда. *У Шамрукоў сёньня карова ацялілася, яны дні два ад яе ні атходзілі.* Верцялішкі Гродз.

**ШАПЯЛЯВЫЯ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча Шапялі. *Яшчэ анна парожна хата, Шапялявыя выехалі у Астрыну.* Орля Шчуч.

**ШЛЯХЦІЦЫ** *мн.* Мянушка членаў сям'і, якія адносіліся раней да шляхты. *Шляхціцы прыежжыя, гадоў мо с трыццаць жывуць.* Эймінаўцы Бераст.

**ШУ́ЦІ** *мн*. Мянушка членаў сям'і, якія шмат жартавалі. *Шу́ці пастая́нно жартава́лі, але́ ўме́лі трыма́ць дзісцыпплі́ну*. Орля Шчуч.

**Э́ДЗЯВЫ** *мн*. Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя бацькі Эдуард (Эдзя). *Не́шта Э́дзявых не віда́ць*. Эймінаўцы Бераст.

**Ю́ЗІКІ** *мн*. Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда Юзік (Юзэф). *Ю́зікі ве́льмі дру́жныя*. Геранёны Іўеў.

**ЮЛО́ВЫЯ** *мн*. Мянушкі членаў сям'і. *Ажані́ўся ніда́ўна адзі́н з Юло́вых*. Канюхі Гродз.

**Ю́ЛЬКАВЫ** *мн*. Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда Юліян (Юляк). *Паля́нь, куды́ пайшлі́ Ю́лькавы*. Вялікае Дзямідкава Гродз., Даўбянкі Бераст.

**Ю́РКАВЫ (ЮРКО́ВЫ, Ю́РКАВЫЯ)** *мн*. Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Ад Юрко́вых даро́шка да Шко́лкі ішла́*. Верцялішкі Гродз., Шынкаўцы Шчуч.

**ЮРКІ́** *мн*. Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле прозвішча бацькі Юркоў. *Юркі́ перае́халі да нас у вёску*. Андрэевічы, Хоцькаўцы Ваўк.

**Ю́СЦІНЫ** *мн*. Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя маці Юсця. *А там жылі́ Ю́сціны*. Шынкаўцы Шчуч.

**ЯКУ́БАВЫ** *мн*. Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Яку́бавы бу́льбу по́люць*. Рыдзелі, Капцёўка Гродз.

**ЯКУ́БЫ** *мн*. Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзядулі. *Пра Якубо́ў я пачці́ нічо́го ні знаў, яны́ жылі́ дал́ко ад вёскі, на ху́тары*. Стрыеўка Гродз.

**Я́НКАВЫЯ** *мн*. Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя бацькі Ян (Янка). *Я́нкавыя, хо́піць вам ужо крыча́ць*. Станявічы Бераст., Вугальнікі Шчуч.

**Я́НКІ** *мн*. Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя дзеда. *Я́нкі – ле́пшыя танцо́ры на ўсёй акру́зе*. Дудкі Шчуч.

**Я́НЧЫНЫ** *мн*. Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя бабулі Яніна (Янка). *А ці ба́чыў каго́ зь Я́нчыных?* Кашэўнікі Гродз.

**ЯРЫ́НЧЫНЫ** *мн*. Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя бабулі Ярына (Ярынка). *Ярынчыны ў Шчу́чын пае́халі*. Верцялішкі, Кашэўнікі Гродз., Шынкаўцы Шчуч.

**ЯСЮКО́ВЫ** *мн*. Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя бацькі. *Іх ба́цьку Ясюко́м зва́лі, а сям'ю́ Ясюко́вымі заву́ць*. Бондары Гродз., Даўбянкі Бераст.

**Я́СЯКАВЫЯ** *мн*. Мянушка сям'і, дадзеная паводле імя бацькі Ясь. *Ні бяду́й, Я́сякавыя дзі́ся прые́дуць*. Эймінаўцы Бераст.

**ЯЎРЭ́І** *мн*. Мянушка членаў сям'і паводле веравызнання. *І туды́ Яўрэ́і ўжэ дабе́глі*. Андрэевічы, Хацькоўцы Ваўк.

**ЯХІ́МІНЫЯ** *мн*. Мянушка членаў сям'і, дадзеная паводле імя старэйшага яе прадстаўніка. *Яхі́мінім усю́ды до́бра*. Андрэевічы, Хацькоўцы Ваўк.

**ЯХІ́МЧЫКАВЫ** *мн*. Мянушка членаў сям'і. *У ха́це Яхі́мчыкавых не́йкая сва́рка*. Шынкаўцы Шчуч.

# АНАМАСТЫКА

*І. І. Бубновіч*

## ГІДРОНІМЫ КАПЦЁЎСКАГА СЕЛЬСАВЕТА ГРОДЗЕНСКАГА РАЁНА

Адным з відаў тапонімаў з’яўляюцца гідронімы – назвы водных аб’ектаў. Цікавасць да такіх найменняў абумоўлена, на наш погляд, тым, што гідронімы Гродзеншчыны выконваюць не толькі намінацыйную, камунікатыўную, але і кумулятыўную функцыі. Нельга пераацаніць важнасць водных аб’ектаў у культурным і гаспадарчым жыцці славян: з старажытных часоў па рэках ішлі найбольш важныя гандлёвыя шляхі, каля рэк і азёраў узнікалі паселішчы, бо вадаёмы былі натуральнай абаронай ад ворага, давалі ваду і харч.

Вывучэнне гідронімаў Гродзеншчыны, заканамернасцей іх утварэння і функцыянавання дае звесткі аб гісторыі засялення і асваення рэгіёна, яго культурнага, сацыяльнага, эканамічнага мінулага. Каштоўную гісторыка-культурную і лінгвістычную інфармацыю ўтрымліваюць у сабе мікрагідронімы – назвы невялікіх водных аб’ектаў, пашыраных на абмежаванай тэрыторыі. Пытанне аб вылучэнні мікрагідронімаў да канца не вырашана, аднак, мяркуем, у дачыненні да невялікіх вадаёмаў, частак рэчак, азёр і пад., якія ў пераважнай большасці не фіксуюцца картамі, вядомыя жыхарам абмежаванай тэрыторыі, такі тэрмін добра стасуецца.

Сярод занатаваных намі найменняў водных геаграфічных аб’ектаў Гродзеншчыны ёсць розныя па велічыні, вядомасці сярод насельніцтва адзінкі, якія можна класіфікаваць па-рознаму ў залежнасці ад паходжання, структуры, іншых асаблівасцей. Пры класіфікацыі гідронімаў (як і тапонімаў) па семантычным прынцыпе назвы могуць падзяляцца на групы па сэнсавым значэнні ўтваральных асноў, па прыкметах, зафіксаваных у апелятывах, што паслужылі асновай для ўтварэння гідронімаў [1, с. 89].

Паводле паходжання гідронімы Гродзенскага рэгіёна можна падзяліць на адапелятыўныя, адантрапанімічныя, адтапанімічныя (адайканімічныя і адгідранімічныя). Часцей, чым іншыя патамонімы, на Гродзеншчыне выкарыстоўваюцца адапелятыўныя назвы, у аснову намінацыі якіх пакладзена адлюстраванне прыродна-геаграфічных асаблівасцей, сувязь з чалавекам і яго дзейнасцю. У Капцёўскім сельсавеце, як і на ўсёй тэрыторыі Гродзеншчыны, часта ў якасці гідронімаў замацоўваюцца агульныя назвы водных аб’ектаў (*Крыніца*, *Ручай*, *Возера*, *Зрой*), найменні створаных чалавекам ці жывёламі пабудоў (*Запруд*, *Дамба*), назвы, што адлюстроўваюць расліннасць па берагах рэчкі, ручая (*Альшанка*, *Асоўка*, *Зараснік*) і інш. Шмат адантрапанімічных назваў, сярод якіх пераважаюць састаўныя, у склад якіх уваходзяць прыналежныя прыметнікі і апелятывы (*Бугжалёва возера*, *Булакова сажалка*, *Кохнава сажалка*). Ужываюцца адайканімічныя гідронімы (*Капцяўчанка*, *Гарнічанка*). Часта выкарыстоўваюцца ў нашай мясцовасці мікрагідронімы-арыенціры, якія ўзніклі параўнальна нядаўна: *Каля Жданавых*, *Каля чанаў.*

Сярод занатаваных намі гідронімаў і мікрагідронімаў Капцёўскага сельсавета ёсць найменні, што адлюстроўваюць дыялектную лексіку (*Зрой*, *Большы Зрой*), мясцовыя граматычныя формы (*Равэ*), пазычанні (*Бросты*), прозвішчы і формы імёнаў жыхароў гэтай мясцовасці. Артыкул прадстаўлены ў выглядзе невялікага слоўніка, дзе падаюцца назвы водных аб’ектаў, іх афіцыйныя і мясцовыя варыянты, ілюстрацыйны матэрыял у спрошчанай транскрыпцыі.

**АЛЬША́НКА**, **ГАЛЬША́НКА** *ж.* Рака ў в. Альшанка. *Дзе́ці, як цёпла, у Альша́нцы сядзя́ць*. Альшанка.

**АСО́ЎКА** *ж.* Рэчка ў в. Пагараны. *Абмяле́ла на́ша Асо́ўка*. Пагараны.

**БО́ЛЬШЫ ЗРОЙ** Крыніца ў Смузе, якая ніколі не замярзае. *Хоць ты ў газе́ту пішы, каб ні засьме́чвалі Бо́льшы Зрой, бо вада́ там цале́бная, лю́дзі здаўна́ гэ́та ве́даюць*. Караневічы.

**БРО́СТЫ** *мн*. Возера за в. Палаткова. *С Капцёўкі на Бро́сты мы або́ на равара́х е́зьдзілі, або́ праз Раве́ хадзілі напраскі*. Капцёўка.

**БУГЖАЛЁВА ВО́ЗЕРА** Сажалка, якую выкапаў каля сваёй хаты чалавек па прозвішчы Букжэль. *Я ду́мала, што на даро́гу мо́жна выйсьці каля Бугжалёвага во́зера*. Бычкі.

**БУЛАКО́ВА СА́ЖАЛКА** Сажалка, якую выкапаў насупраць сваёй хаты чалавек па прозвішчы Булак. *Булако́ва са́жалка ніглыбо́кая, таму́ бацькі́ ні баяліся нас туды́ пуска́ць*. Капцёўка.

**ВАДАПА́Д** *м*. Частка ракі каля маста ў заходняй частцы в. Жукевічы. *Калі́ былі́ малы́я, хадзілі на Вадапа́д лаві́ць келбо́ў. Ве́даяця, такі́я з вуса́мі*. Жукевічы.

**ВАЛЫНЦО́ВА СА́ЖАЛКА** Сажалка, якую выкапаў насупраць сваёй хаты чалавек па прозвішчы Валынец. *Каля Валынцо́вай са́жалкі хто́сьці з ву́дай сядзі́ць. Мо́жа там рыба во́дзіцца?* Капцёўка.

**ВО́ЗЕРА** *н*. Месца разліву р. Горніца. Знаходзіцца ў заходняй частцы в. Жукевічы. *Дзе́ці цэ́лымі днямі ні вылазяць з Во́зера*. Жукевічы.

**ГЛЫБО́КІ РОЎ** Роў з вадой у Доўгай хваіне. *Як е́дзеш на Гро́нна, то зь ле́вага бо́ку До́ўгая хваіна́, а блі́жай да даро́гі Глыбо́кі роў*. Капцёўка.

**ГО́ГА** *м. і ж*. Парогі на р. Нёман. *Каля Го́гі разьбіва́ліся плыты́ плытаго́наў*. Кашэўнікі.

**ГО́РНІЦА**, **ГУ́РНІЦА**, **ГАРНІЧА́НКА** *ж*. Рака. Левы прыток р. Нёман. Пачынаецца каля в. Бычкі. *У ву́сьці Го́рніцы право́дзіліся раско́пкі*. Караневічы. *Гарнічанка нідалёка ад дач працякая*. Горніца, Кавальцы.

**ГО́РНІЦА** *ж*. Крыніца, якая знаходзіцца на ўсход ад в. Жукевічы, на адлегласці 1 км. *Каля́ да́чаў крыні́ца Го́рніца*.

**ГЭ́ЙШЫШКІ** *мн*. Рэчка і лес. *Гэ́йшышкамі ў нас называ́юць і лес, і рэ́чку*. Каробчыцы.

**ДА́МБА** *ж*. Штучнае возера на выездзе з в. Каробчыцы. *Хто хо́дзіць на Ласася́нку, а хто на Да́мбу купа́цца*. Каробчыцы.

**ЖЫ́ЛІЦКІ ПЛЯЖ** Бераг р. Нёман каля в. Жылічы. *На Жы́ліцкім пля́жы ле́там шу́мна, бо ўвесь го́рад зьбіра́ецца*. Жукевічы.

**ЗА БА́НЯЙ**. Сажалка за калгаснай лазняй. *Дзе былі? За ба́няй купа́ліся*. Капцёўка.

**ЗА́ЙКАЎ АТВО́Й** *м*. Завадзь на р. Нёман насупраць хаты чалавека па прозвішчы Зайка. *За́йкаў атво́й ніглыбо́кі каля бе́рага*. Кашэўнікі.

**ЗАПРУ́Д** *м*. Месца на рацэ, дзе была запруда, зробленая бабрамі. *Як пачы́сьцілі ка́ля ба́ні, то і Запру́д больш віда́ць, бо зусі́м там ме́лка ста́ла*. Капцёўка.

**ЗА́РАСНІК** *м*. Месца для купання на беразе р. Нёман, раней парослае кустамі. *У За́расьніку мы ране́й і купа́ліся, і пераадзява́ліся*. Кашэўнікі.

**ЗРОЙ** *м*. Крыніца і ручай ў Марозаўшчыне. *Каб мне, здэ́цца, вады́ са Зро́ю, то мо папра́вілася п*. Капцёўка.

**КАЛЯ ЖДА́НАВЫХ**. Частка рэчкі насупраць хаты сям'і па прозвішчы Жданавыя. *Каля Жда́навых Капцяўча́нку пашы́рылі*. Капцёўка.

**КАЛЯ КАЛПА́ЦКАЙ**. Месца на рэчцы каля кладкі Калпацкай у цэнтры в. Жукевічы. *Калі́сьці каля Калпа́цкай бабры́ вадзіліся*. Жукевічы.

**КАЛЯ КАНЮ́ШНІ**. Возера ў в. Жукевічы, у цэнтральнай частцы. *Ле́там каля Каню́шні зьбіра́ецца мно́га дзяце́й папла́ваць, бо берагі́ там плы́ткія*. Жукевічы.

**КАЛЯ ЛО́ДАК**. Месца на беразе р. Нёман, дзе ставілі лодкі жыхары в. Кашэўнікі. *Каля Ло́дак не́калі пры́стань была́*. Кашэўнікі.

**КАЛЯ МАСТКА́**. Частка р. Капцяўчанка каля мастка. *Мы, малы́я, каля Мастка́ калю́чак лаві́лі пат каме́ньнямі*. Капцёўка.

**КАЛЯ МЕ́ЛЬНІЦЫ**. Месца ўпадзення р. Косцеўкі ў р. Нёман. *Кіламе́тры за два на ўсход ад Жуке́вічаў каля Ме́льніцы рэ́чка ўпада́я ў Нёман*. Жукевічы.

**КАЛЯ ПРЫМАЧКО́ВАЙ**. Месца на рэчцы каля кладкі, якую называюць Прымачкова. *Каля Прымачко́вай пасьля дажджо́ў рака́ прыбыла́*. Жукевічы.

**КАЛЯ СТАЛО́ВАЙ** (**СА́ЖАЛКА**, **СА́ЖАЎКА**). Сажалка, выкапаная па загаду пані, знаходзіцца ў цэнтры в. Капцёўка, на яе беразе ў савецкі час была сталовая. *Каля Стало́вай, як асуша́лі, ры́бу рука́мі лаві́лі. Сустрака́ліся ка́рпы больш за паўме́тра даўжынёй*. Капцёўка.

**КАЛЯ ЧА́НАЎ**. Крыніцы каля р. Нёман (з бетоннымі кругамі). *Каля Ча́наў вада́ чы́стая, мо́жна піць*. Кашэўнікі.

**КА́МЕНКА** (**КА́МЕНАЧКА**, **КАМЯ́НКА**) *ж*. Рака. Правы прыток Ласосны (бас. Нёмана). Пачынаецца на захад ад в. Капцёўка, упадае ў Ласосну за 1 км на поўдзень ад в. Каробчыцы. *Ко́лькі гадо́ў пражыла́ тут, а ні ве́дала, што Ка́менка ў нас пачына́ецца*. Капцёўка. *Камя́нкай называ́юць рэ́чку, яка́я ўпада́е ў Ласася́нку*. Каробчыцы.

**КАПУ́СНІК** *м*. Нізкае балоцістае месца з сажалкай пасярэдзіне каля перакрыжавання ў в. Капцёўка (раней гэта быў канец вёскі). *Не́калі тут капу́сту садзі́лі, больш ніч́ога ні расло́, вымака́ла*. Капцёўка.

**КАПЦЯЎЧА́НКА** *ж*. Частка р. Каменка, што працякае ў в. Капцёўка. *На́ша Капцяўча́нка ў Нёман упада́е*. Капцёўка.

**КО́СЦЕЎКА** *ж*. Рэчка, якая працякае праз в. Жукевічы. *Ка́жуць, у Ко́сцеўцы ране́й стро́нгі былі́ па ло́каць, а ціпе́р і кара́сь рэ́ткасьць*. Жукевічы.

**КО́ХНАВА СА́ЖАЛКА** Сажалка, якую выкапаў насупраць сваёй хаты чалавек па прозвішчы Кохна. Капцёўка.

**КРЫНІ́ЦА** *ж*. Крыніца ў цэнтральнай частцы в. Жукевічы. *Крыні́ца выцякая́ з Ло́пуха, а вада́ там лячэ́бная*. Жукевічы.

**МАЗУРО́ВА** *ж*. Крыніца каля в. Жукевічы на ўсход. *Каля Мазуро́вай, збо́ку, ёсць кла́тка*. Жукевічы.

**МЕ́ЛЬНІКАВА РА́ПА** Парогі (камяні) на р. Нёман насупраць в. Кашэўнікі каля хаты чалавека па мя-

нушцы Мельнік. *Да Ме́льнікавай Ра́пы на́ват даро́слыя хло́пцы ні патплыва́лі*. Кашэўнікі.

**НА КРУ́ЖАНАЙ ВАДЗЕ́**. Месца на р. Нёман, а таксама на беразе, дзе вада падмывала бераг. *На Кру́жанай вадзе́ ніхто́ ры́бу ні ло́віць*. Кашэўнікі.

**НЁМАН** *м.* Рака ў Беларусі і Літве. Пачынаецца пад назвай Нёманец на Стаўбцоўскай раўніне каля в. Верхні Нёман Уздзенскага раёна, упадае ў Курскі заліў Балтыйскага мора. *Ра́ней у ко́жнага па не́калькі ло́дак было́, з аннаго́ бе́рага Нёмана на другі́ мо́жна было́ ху́тка перапра́віцца, а ціпе́р ні анно́й ло́ткі на ўсю вёску*. Кашэўнікі.

**РА́ПА ЖЫ́ЛІЦКАЯ** Парог на р. Нёман каля в. Жылічы. *Ад нас да Ра́пы Жы́ліцкай далёка бу́дзе*. Кашэўнікі.

**РА́ПА КАШО́ЎНІЦКАЯ** (**РА́ПА КАШЭ́ЎНІЦКАЯ**) Парог на р. Нёман каля в. Кашэўнікі. *Каля Кашо́ўніцкай Ра́пы ло́ткі ні рас перававаро́чваліся*. Кашэўнікі.

**РУЧА́Й** (**РУЧАЁК**) *м.* Вузкая частка р. Капцяўчанкі каля Таляўшчыны. *Малы́я на Ручаёк пайшлі́*. Капцёўка.

**СМУГА́** *ж.* Рэчка, якая знаходзіцца на ўсход ад вёскі Жукевічы, упадае ў р. Гарнічанку. *Смуга́ невялі́кая рэ́чка, яка́я працяка́я каля Карча́*. Жукевічы.

**СТА́ВЫ** *мн.* Частка р. Капцяўчанка і зарослае месца каля аптэкі, дзе працякае рэчка. *Ста́вы зарасьлі́, а пры пана́х там былі́ ста́вы і разво́дзілі ўся́кую ры́бу*. Капцёўка.

**СТРО́КАВА КРЫНІ́ЧКА** Крыніца, што знаходзіцца каля Строкавых гор і аднайменнага хутара. *Мы на прагу́лцы бе́галі да Стро́кавай крыні́чкі ваду́ піць. Там даро́шка была́, усё дагле́жана*. Капцёўка.

**СТРУ́ГА** *ж.* Рэчка, якая працякае на поўнач ад в. Жукевічы, на адлегласці каля 0,5 км. *Стру́га рэ́чачка нівялі́кая, упада́е ў Гарні́ча́нку*. Жукевічы.

**ТАТА́РКА** *ж.* Рака, якая працякае каля воз. Юбілейнае. *На Тата́рку купа́цца ні хо́дзяць*. Каробчыцы.

**ТРАНШЭ́І** *мн.* Канавы на поўдзень ад в. Жукевічы на адлегласці каля 1 км. *Траншэ́і то́лькі зь вясны́ по́ўныя вады́, а ле́там ча́ста перасыха́юць, то́лькі чаро́т расьце́*. Жукевічы.

**ФУ́РМАНАВА СА́ЖАЛКА** Сажалка каля хаты чалавека па мянушцы Фурман. *На Фу́рманавай са́жалцы гу́сі пла́ваюць*. Капцёўка.

**ХМЯЛЬНІ́ЦКАГА СА́ЖАЛКА**. Сажалка каля дома чалавека па прозвішчы Хмяльніцкі. *Хмяльні́цкага са́жалку ад даро́гі ні вінно́, яна́ бліжэ́й да Та́ляўшчыны*. Капцёўка.

**ЮБІЛЕ́ЙНАЕ** *н.* Возера ў в. Каробчыцы. *На Юбіле́йным на выханны́я шмат людзе́й было́, а каза́лі, што купа́цца забаро́нена*. Каробчыцы.

**ЯРЫ́НЧЫНА РА́ПА** Парогі (камяні) на р. Нёман насупраць в. Кашэўнікі каля хаты жанчыны па імені Ярынка (Ярына). *Мо́жна вёскай ісьці́, а мо́жна бе́рагам да Ярынчынай Ра́пы*. Кашэўнікі.

**Літаратура**

1. Жучкевич, В. А. Общая топонимика: учеб. пособие / В. А. Жучкевич. – 3-е изд., перераб. – Минск: Вышэйш. шк., 1980. – 288 с.

*М. А. Даніловіч*

## ТАПАНІМІЧНАЕ МІКРАПОЛЕ ВЁСКІ ДЗЕРТНІЦА ГРОДЗЕНСКАГА РАЁНА

Кожны тапонім цесна звязаны не толькі з пазамоўнай рэчаіснасцю, але і з іншымі тапанімічнымі назвамі пэўнай тэрыторыі. Як слушна адзначае В. М. Генкін, «тапанімію любога рэгіёна варта разглядаць не як механічную сукупнасць, нейкі «набор» тапонімаў, а як складаную арганічную сістэму. Рэгіянальная тапанімія складаецца менавіта як сістэма ва ўсёй разнастайнасці ўнутрысістэмных адносін» [1, с. 47]. Гэту цэласную сістэму можна кваліфікаваць як тапанімічнае поле.

Пад тапанімічным полем разумеем сукупнасць усіх тапанімічных адзінак пэўнага рэгіёна, якія характарызуюцца сістэмнымі сувязямі і адносінамі паміж сабой. Тапанімічнае поле складаецца з цэнтральнай (асноўнай) і перыферыйнай частак. Ядром цэнтральнай часткі выступае айконім, вакол якога на лінгвістычнай карце разгрупаваны іншыя онімы (айконімы, аграонімы, гідронімы, гелонімы, аронімы і г. д.). Перыферыя – гэта крайняя частка поля, якая судакранаецца, перасякаецца з перыферыяй іншага, суседняга тапанімічнага поля. У мінулым мясцовыя жыхары выразна ўсведамлялі, дзе заканчваецца тэрыторыя іх актыўнага бытавання і пачынаецца тэрыторыя іншай супольнасці. Гэта знаходзіла ўвасабленне ў тапаніміі і антрапаніміі, засна-




ванай на прынцыпе «свой – чужы». Напрыклад, жыхары вёскі Бабіна Гродзенскага раёна тое сельскагаспадарчае поле, якое апрацоўваюць, называюць *Нашо поля*, а поле суседняй вёскі Новая Руда – *Рудніцко поля*. А насельнікі Новай Руды, наадварот, бліжэйшае да іх поле называюць ужо не *Рудніцкім*, а *Нашым*, а поле каля Бабіна – *Бабінскім*.

Развіццё і пашырэнне тапанімічнага поля зыходзіць ад яго ядра. Навакольная мікратапанімія як сістэма стваралася звычайна жыхарамі вёскі, пачынаючы ад першапасяленца, і адлюстроўвала быт, заняткі, адносіны да рэчаіснасці ў радыусе іх жыццядзейнасці. Многія мікратапонімы абавязаны сваім утварэннем імёнам, прозвішчам, мянушкам канкрэтных жыхароў вёскі (*Антонава Жыўніца*, *Ігнатаў Ез*, *Тамарына Дарога*).

Цэнтральны онім выступае дамінантай анамастычнай парадыгмы, напрыклад, вёска *Маркішы – Маркішово азярко*, *Маркішовы лес*, *Маркішоўска дарога*, *Маркішоў раскоп*, *Маркішовыя лужкі*, *Маркішовыя сенажаці*.

Тэрытарыяльнае акрэсленне тапанімічнага поля ўмоўнае і адноснае. Гэта можа быць прастора толькі вакол аднаго населенага пункта, толькі аднаго сельсавета, цэлага адміністрацыйна-

тэрытарыяльнага раёна і г. д. Яно, такім чынам, можа мець ускладненую структуру, уключаць у сябе некалькі ці нават дзясяткі тапанімічных сістэмных аб’яднанняў.

Ідэальным з пункту гледжання сістэмнасці, дыяхранічнай паслядоўнасці і цэласнасці з’яўляецца тапанімічнае мікраполе, якое развівалася толькі вакол аднаго ядзернага айконіма, мела радыяльнае пашырэнне на ўсім гістарычным шляху свайго развіцця, не звужалася і не дэфармавалася пад уздзеяннем суседніх мікрапалёў. Яно мае дастаткова акрэсленыя тэрытарыяльныя межы, абумоўленыя такімі вызначальнымі фактарамі яго гістарычнага развіцця, як прыроднагеаграфічныя асаблівасці краю, спецыфіка працоўнай, вытворчай дзейнасці, этнічная прыналежнасць, культурныя, рэлігійныя традыцыі насельніцтва.

У гэтым артыкуле аб’ектам увагі з’яўляецца тапанімічнае мікраполе вёскі Дзертніца Гродзенскага раёна. Гэтае мікраполе можна лічыць узорным, паколькі яно мае выразныя паказчыкі свайго вызначэння. Паселішча ўзнікла прыкладна 150 гадоў таму і развівалася за кошт уласных людскіх рэсурсаў (да нядаўняга часу амаль усе жыхары вёскі мелі прозвішча Кісялеўскі (-ая)). У мінулым асноўным заняткам вяскоўкаў было рыбалоўства, паляванне, лесанарыхтоўка. Усе яны каталіцкага веравызнання, паводле нацыянальнай прыналежнасці ідэнтыфікуюць сябе палякамі. Тэрытарыяльная прастора мікраполя вельмі кампактная і акрэсленая – абмяжоўваецца воднымі аб’ектамі, знаходзіцца як бы на паўвостраве.

Тапанімічны матэрыял збіраўся ў 2006 г. метадам апытання жыхароў вёскі Дзертніца. Асаблівая ўдзячнасць майму былому аднакласніку і сябру, нараджэнцу вёскі Дзертніца, падпалкоўніку медыцынскай службы Кісялеўскаму Чаславу Казіміравічу за тое, што ён аказаў значную дапамогу пры ўдакладненні і картаграфаванні сабранага матэрыялу.

Тапонімы ў артыкуле падаюцца блокамі: айконімы, гідронімы, мікратапонімы. Усе назвы пранумараваны ў парадку іх паслядоўнай падачы. Прыкладаецца карта тапанімічнага мікраполя вёскі Дзертніца, на якой даюцца нумары тапааб’ектаў, адпаведныя нумарам тапанімічных назваў. Лічба на карце ўказвае, як правіла, на цэнтральную частку тапааб’екта, крайнія межы яго не абазначаны.

*Айконімы*

1. **ДЗЕ́РТНІЦА** *ж.* Вёска.
2. **БЕ́ЛО** *н.* Вёска.
3. **ПАДБЕ́ЛО** *н.* Вёска.
4. **САЛАМЯ́НКА** *ж.* Вёска.
5. **САХА́РКА** *м.* Хутар (былы).
6. **ШАЎЛЮ́ГА** *м.* Хутар (былы).

*Гідронімы*

7. **АНТО́ЗЯРО** *н.* Возера.
8. **БЕ́ЛО** *н.* Возера.
9. **ГНІЛО́Ё** *н.* Возера.
10. **ЗА́ЦКАВО** *н.* Возера.
11. **ІГНА́ТАЎ ЕЗ** Прыбярэжны ўчастак возера Белае.
12. **КАМАРЭ́Ц** *м.* Возера.
13. **ПАДБЯРО́ЗКА** *ж.* Прыбярэжны ўчастак, бераг і бухта возера Белае.
14. **ПАДПАЛО́НІШЧА** *н.* Прыбярэжны ўчастак, бераг і бухта возера Белае.
15. **ПАДЧА́ПЛІ** *мн.* Бераг возера Белае.
16. **ПАДШАЎЛЮ́ГА** *н.* Прыбярэжны ўчастак возера Белае.
17. **ПРЫ́СТАНЬКА** *ж.* Прыбярэжны ўчастак і бераг возера Белае.
18. **САЛАМЯ́НКА** *ж.* Рэчка.
19. **ХАМУТО́ЎКА** *ж.* Рэчка.
20. **ЧО́РНО ВО́ЗЯРО** Возера.
21. **ЯЗАВІ́ЦА** *ж.* Рэчка.

*Іншыя мікратапонімы*

22. **АБУХО́ЎСКА ПАЛЯ́НКА** *ж.* Лес.
23. **АСТРАВО́К** *м.* Урочышча.
24. **БАРСУКО́ВІНА** *ж.* Лес.
25. **ВЕ́ЛЬКО ПО́ЛЯ** *н.* Поле.
26. **ГЛЫБО́КА ДАЛІ́НА** Балоцістая нізіна.
27. **ГРА́ДКА** *ж.* Прадаўгаватае ўзвышша на балоце.
28. **ГРУДО́К** *м.* Сенажаць.
29. **ДЗЕСЯНЦІ́НА** *ж.* Лес.
30. **ЖВЫР** *м.* Поле.
31. **ЖО́ЎТА ГАРА́** *ж.* Пагорак.
32. **ЖЫМА́ЙЛАВА ДАРО́ГА** Дарога.
33. **ЗАДУ́Б’Е** *н.* Урочышча.
34. **КАБЫ́ЛЯ БАЛО́ТО** Балота.
35. **КАБЫЛЯ́ЧЫНА** *ж.* Лес.
36. **КАПУ́СНІК** *м.* Сенажаць.
37. **КУ́ПА** *ж.* Сенажаць.
38. **ЛЯСНІЧО́ЎКА** *ж.* Дарога.
39. **НАВАРУ́ЦКА ДАРО́ГА** Дарога да вёскі Новая Руда.

40. **ПАЖАРЫ́ШЧА** *н.* Лес.
41. **ПАЛЯВА́Я** *ж.* Вуліца ў вёсцы Дзертніца.
42. **ПАСА́ДКА** *ж.* Лес.
43. **ПЛА́ВЫ** *мн.* Сенажаць.
44. **ПРАТО́КА** *ж.* Рэчка.
45. **РАВО́К** *м.* Роў.
46. **САХА́РКАВА ДАРО́ГА** Дарога да хутара Сахарка.
47. **СУСЕ́ДНІ** *м.* Частка вёскі Дзертніца.
48. **ХАМУТО́ЎСКА ДАРО́ГА** Дарога да вёскі Хамуты.
49. **ЧО́РНЫ ДУБ** Дуб каля хутара Сахарка.
50. **Ю́РКАЎКА** *ж.* Сенажаць.

**Літаратура**

1. Генкин, В. М. Лексикографирование периферийного топонимического материала / В. М. Генкин // Актуальные вопросы славянской ономастики: материалы III Междунар. науч. конф. «Славянская ономастика в ареальном, этимологическом и хронологиченском аспектах», Гомель, 6–7 окт. 2006 г.; отв. ред. Р. Козлова. – Гомель: ГГУ им. Ф. Скорины, 2006. – С. 47–51.

*С. П. Кусянкова*

## МЯСЦОВЫЯ НАЗВЫ ВЁСКІ ЛУЧЫН РАГАЧОЎСКАГА РАЁНА

Невялічкая колькасць назваў мясцовых аб’ектаў вёскі Лучын з’яўляецца дадаткам да падборкі, якая друкавалася ў выданні «Беларуская дыялекталогія. Вып. 2».

**ГАЛО́ЎКА** *ж.* Месца ў лесе, якое сваёй формай нагадвае *галоўку.*

**ГУМНІ́ЧЧА** *н.* Месца ў Лучыне, дзе калісь стаялі гумны створанай арцелі.

**ВАЛО́ЧКІ** *мн.* Невялікае возера на левым беразе Дняпра. Размяшчалася на мяжы пэўнай *валокі.*

**ДНЯПЕ́РШЧЫНА** *ж.* Тэрыторыя, прылеглая да Дняпра.

**ЗАКО́ТКА** *ж.* Затока на Дняпры. Вада ў затоку заходзіць нібы *закочваецца.*

**КРЫВА́Я** *ж.* Месца, дзе дарога Рагачоў – Жлобін робіць паварот, *закрыўляецца.*

**ПАДГО́Р’Е** *н.* Тэрыторыя ніжэй Лучына, якая знаходзіцца на ўзвышшы.

**ПА́НІКАВА БУ́ДКА**. Мясціна на левым беразе Дняпра, дзе некалі стаяла пабудова, у якую мясцовы бакеншчык па імені *Панік* хаваў свае прылады.

**ПАПО́ЎШЧЫНА** *ж.* Мясціна, землі якой належала мясцоваму святару.

**ХАМІ́Н** *м.* Поле (валока), уладальнікам якой быў гаспадар па імені Хама.

**ШЫ́ЙКА** *ж.* Месца ў лесе, якое сваёй формай нагадвае *шыю.*

*Л. В. Леванцэвіч*

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АДМЕТНАСЦЬ АНАМАСТЫКОНУ ВЁСКІ ЗДЗІТАВА БЯРОЗАЎСКАГА РАЁНА

Анамастычная лексіка (антрапонімы, тапонімы, гідронімы) павінна валодаць толькі намінатыўнай функцыяй і не мець функцыі кумулятыўнай. Тым не менш нацыянальна-культурны кампанент уласцівы ўласным імёнам. Яны маюць лексічны фон. Перш чым усвядоміць слова «я» як асабістую прыналежнасць, двухгадовае дзіця разумее, што яно мае сваё імя і часта замяняе ім асабовы займеннік. Дзіця скажа аб сабе не «я», а «Каця хоча спаць».

*Антрапонімы.* У імёнах і прозвішчах, што ўзніклі з былых агульных назоўнікаў, «закансервавалася» значная частка слоў нашай мовы, якая актыўна ўжывалася ў мінулым. З погляду гісторыі антрапанімія дае матэрыял для больш глыбокага вывучэння гістарычнага слоўніка, моўных сувязей, з’яўляецца захавальніцай культурнай спадчыны пэўнага рэгіёна.

Адна з прычын узнікнення прозвішчаў – недастатковая колькасць імёнаў. Акадэмік Мікалай Бірыла прасачыў, як складвалася сучасная сістэма беларускіх прозвішчаў, як выяўляліся яе спецыфіка і тыповыя адметныя асаблівасці. Лічыцца, што шматлікія прозвішчы ўтварыліся шляхам пераасэнсавання былых назваў-характарыстык асоб па тых ці іншых адзнаках ці мянушак, якія

пазней страцілі сваю матывацыю: *Капля*, *Квач*, *Лаза*, *Шуба*, *Горб*, *Зубец*, *Заяц*, *Голуб*, *Сарока*; 40% прозвішчаў утвораны ў выніку пераходу агульных назоўнікаў ва ўласныя: *грыб*, *баран*, *крук*, *ясень*.

У вёсцы Здзітава Бярозаўскага раёна амаль да канца ХХ ст. існавала 40 прозвішчаў, сярод якіх самымі пашыранымі былі Васілеўскі, Жуковіч, Казека, Мартысевіч, Сычык і Чайчыц. Так як вяскоўцаў з адным і тым жа прозвішчам было шмат, то яно не зводзілася, нават калі ў сям'і былі адны дзяўчаты. Спаконвеку здзітаўцы заключалі шлюбы ў асноўным з аднавяскоўцамі, калі ж нявесты былі не здзітаўчанкі, то яны бралі прозвішча мужа. Дзяўчаты, выходзячы замуж за хлопца з іншай вёскі, пераходзілі жыць да мужа, у прымы ніхто не ішоў. У 60–80-я гады моладзь выязджала з вёскі ў горад. Там жаніліся, выходзілі замуж і заставаліся жыць. Таму антрапанімікон вёскі Здзітава практычна быў нязменным на працягу доўгага часу. Напрыканцы ХХ ст. у цэнтры вёскі распачынаецца будаўніцтва жылля для моладзі. У Здзітаве паяўляецца многа маладых сем'яў, а значыць, і новых прозвішчаў. На сённяшні дзень налічваецца 56 новых прозвішчаў, што амаль на палову больш за традыцыйныя мясцовыя. Сёння іменаслоў складаецца з 96 прозвішчаў.

Большасць прозвішчаў карэнных жыхароў вёскі Здзітава ўзнікала ад кананічнага (праваслаўнага) імені[1]:

Васілеўскі – Васіль '*царскі*, *царственны*, *каралеўскі*', магчыма, *Вашкевіч* таксама паходзіць ад варыянта імені *Васіль – Васко*, *Васько* (з чаргаваннем с/ш). Данілковіч – Даніла '*Божы*', '*мой суддзя – Бог*'. Кузьміч – Кузьма '*космас*, *парадак*, *светабудова*', '*упрыгожанне*', '*добранамераны*, *сціплы*, *сумленны*'. Мартысевіч – Мартын '*ад Марса*, *бога вайны*'. Міхайлоўскі, Міхнюк – Міхайла '*хто*, *як Бог*', '*роўны Богу*'. Піліпчук – Піліп '*які любіць коней і конную язду*'. Сымонка – Сымон '*Бог чуе*, *Бог выслухаў*'. Юрскі – Юрый '*земляроб*'. Дзямідаў – Дзямід '*каму апякае Бог*', '*Божы*', '*слаўны*', '*вялікі*' *і* '*клапаціцца*', '*апякую*'. Дзянісік – Дзяніс '*ад Дзіяніса*, *Бога вінаробства*, *паэзіі*, *натхнення*, *гульняў*', '*які належыць Дзіянісу*'. Ігнатчык, Ігнацюк – Ігнат '*вогненны*, *агняны*, *агністы*', '*невядомы*, *незнаёмы*'. Левончук – Лявон '*ад Лео – леў*'. Амельяновіч – Амяллян '*хітры*', '*лісліві*', '*хлуслівы*', '*прывабліві*'. Сцяпанаў – Сцяпан '*вянец*, *карона*'. Фралоў – Хрол '*квітнеючы*'. Калінкевіч – Каліна '*вельмі прыгожы*, *цудоўны*, *пераможца*'. Кулінка – Куліна '*арліна*', *ад арол*. Курыловіч – Курыла (Кірыла) '*той, хто загадвае загадку; уладар*'. Луцэвіч – Луцэся, Лукір'я '*салодкая*', '*прыемная*', '*любая*', '*добрая*'. Малышчыц – Малах, Малаш '*пасланец мой*', '*пасланец Божы*'. Мялешка – Мялецій, Мялешка '*смутак*', '*турбота*', '*старанне*', '*журботны*, *турботны*, *дбайны*', верагодна, ад гэтага ж імені паходзіць і прозвішча Мелех. Антаноўская – Антон '*супор*', '*супроць змагаецца*', '*які пераўзыходзіць*'. Міхнюк – Міхей (Міхно, Міхук) '*хто*, *як Бог*'. Русаковіч – Русік (Рустым, Русак) '*селянін*', '*сельскі*'. Саўчук, Савіцкі – Саўка (Сава) '*віно*', '*праца*, *няволя*, *змена*'.

Невялікая колькасць прозвішчаў – гэта тыя, што з'явіліся ў вёсцы напрыканцы ХХ ст. – утварылася ад каталіцкага імені: Яровіч – Яром '*Бог падымае*, *узвышае*'; Шымчук – Шымон (Szymek, Szymus) '*Бог выслухаў*'; Мацяш – Матэвуш (Мацьяш) '*дар Ягве* (*Бога*)'; Касевіч, Касілка, Касмін – Касьян '*чалавек*, *які належыць да Касюса або да роду рымскага Касія*, *або ад этр. 'бедны*'; Гавенчык – Гаваіль '*прышэлец*, *чужы*', '*чалавек*, *які паходзіць з Галіі*, *галіец*'.

Пэўная частка прозвішчаў утварылася ад дахрысціянскіх імён-мянушак. Большасць такіх прозвішчаў-мянушак звязана з вонкавымі прыкметамі, з характарыстыкай звычак, схільнасцей, агульнага стану чалавека: Бруйла, Буранка, Бура, Вераціла, Вярышка, Гладкоўскі, Глазоўскі, Зубрыцкі, Круковіч, Куцак, Лютыч, Малаева, Сіняк, Хлябец, Чапайла, Чарняўскі, Талкацэвіч. За мянушку былі ўзяты назвы свойскіх і дзікіх жывёл, птушак, рыб, раслін і іх частак: Жуковіч, Кабылкін, Казека, Лосіч, Ментуз, Сініца, Чайчыц, Чарвякоўскі, Шчурко, Катышкоў.

Адзінкава адзначаюцца прозвішчы, утвораныя ад назваў людзей па прафесіі: Кавалевіч, Кузняцоў, Каштэльян. Адно прозвішча паходзіць ад найменне паселішча, дзе нарадзіўся чалавек: Кабрынец. Магчыма, назва этнічнай групы легла ў аснову прозвішча Крывіцкі (ад крывічы), хоць не выключаны і іншыя варыянты яго паходжання. Прозвішча Глінскі суадносіцца з агульным назоўнікам 'гліна'.

[1] Яшкін, І. Я. Слоўнік беларускіх імёнаў / І. Я. Яшкін. Мінск: Адукацыя і выхаванне, 2009. 136 с.

Да прозвішчаў з невыразнай матывацыяй адносяцца: Ажажа, Дайнеко, Ізбіцкі, Ківатыцкі, Лызо, Мішчанка, Машчук, Пліс, Прыбытка, Пракурат, Пукала, Раік, Ротар, Цямчык, Хакімава, Чалей, Чаховіч, Шытаў, Шындыч, Шустаў, Шукіс. У асноўным гэта прозвішчы, якія паявіліся ў вёсцы ў канцы XX ст.

*Тапонімы.* У спадчыну ад мінулых пакаленняў нам дасталася велізарная колькасць назваў населеных пунктаў, рэк, азёраў, балот, палёў і сенажацяў, урочышчаў і іншых геаграфічных аб'ектаў. Самая старажытная вёска Бярозаўшчыны – Здзітава. У Іпацьеўскім летапісе ўпамінанне аб Здзітаве датуецца 1252 годам (аднак, першы раз засведчаны запіс пад 1005 годам ва «Устаўной грамаце аб заснаванні Тураўскай епіскапіі»). Паводле археалагічных дадзеных, горад Здзітаў існаваў у XI–XIII стст. Ён уваходзіў у спіс 35 гарадоў рускіх зямель, што існавалі на тэрыторыі сучаснай Беларусі да 1300 года.

Старажытны горад Здзітаў знаходзіўся на поўначы сучаснага Драгічынскага раёна, на беразе Ясельды, бліз сучаснай вёскі Старамлыны. Прыкладна ў пачатку XIV ст. Здзітаў увайшоў у склад Вялікага Княства Літоўскага. Недзе ў гэты перыяд горад спыніў сваё існаванне, але ўзніклі два новыя населеныя пункты з назвай Здзітаў. Першы з іх – за 7 кіламетраў ад старажытнага горада на рацэ Дарагабуж. Другі – вёска Здзітава Углянскага сельсавета, якая знаходзіцца за 22 кіламетры ад горада Здзітаў. Відаць, у выніку ваенных дзеянняў кіеўскіх князёў супраць яцвягаў горад быў разбураны, а жыхары перасяліліся ў іншыя мясцовасці.

На думку Ф. Д. Клімчука, назва горада паходзіць, хутчэй за ўсё, ад слова «зодчы» (будаўнік), у мове ванаў «задзі» – будаваць. Адсюль Здзітаў – «будоўля». У мове ванаў «зьд» значыць «каменная сцяна». Можа, горад быў абнесены каменнай сцяной. Цікавы факт, што падобная назва была тады ў сучаснага горада Дзятлава (Гродзенская вобласць) – Здзяцел. Прасочваецца сувязь і з назвамі возера Джыдзінне, што за 17 кіламетраў ад Здзітава, і рэчкі Дзітва, што ў Лідскім раёне (Гродзенская вобласць). Па згаданых аб'ектах праходзілі старажытныя шляхі з Днепроўскага басейна ў Балтыйскі: Днепр – Прыпяць – Ясельда – Нараў – Вісла і Днепр – Прыпяць – Ясельда – Драгабуж – возера Чорнае – Жыгулянка – Бужанка – Зельвянка – Нёман (выкарыстоўваліся ў час неаліту ў 4–3 тыс. да н. э.). А яшчэ тут праходзіў старадаўні гасцінец «дорога великая Березинская и Здитовская, которая идетъ зъ Волони до Вильна» (такая назва дадзена ў кнізе «Ревизия пущъ и переходовъ звериныхъ»). Гасцінец праходзіў праз Здзітава – Пескі – Дзяды – Косава – Слонім і далей на Вільню.

С. Амяльчук выказаў меркаванне, што назва вёскі Здзітава паходзіць ад р. Дзітва. Калі жыхароў вёскі пыталіся, адкуль яны, тыя адказвалі – з Дзітвы, адсюль і назва – Здзітава.

На даразе ў ваколіцах Здзітава было многа гацяў і масткоў. Назвы большасці з іх захоўваюцца ў людской памяці да нашых дзён. Хаця самі масткі даўно ўжо зніклі, ды і дарога страціла сваё дзяржаўнае значэнне ў 70-я гады XX ст., калі была пабудавана новая асфальтаваная дарога. Не ўсюды яна супадае са старой: дарогу спрамілі, зрабілі больш кароткай.

Адна вёска, а колькі найменняў-мікратапонімаў дзеліць ці, наадварот, «аб'ядноўвае» яе. Якая багатая і гаваркая карта атрымліваецца.

Урочышчы, хутары: *Чыры́мушнэ, І́сорокі, Углы́, Я́мы, Кошы́ль, Дубкі́, Го́рбув, Ка́вич, Чырыды́н, Дво́рышча, Пы́жын, Козлы́вка, Рычы́ца, Де́довэ, Місы́доровышчы, Плашч, О́струв, Она́нім, Княжна́я, Хвуйка, Остэ́ныца Ні́жув, Гора́ва, Бырыстовэ́ц, Ю́шув, Сварычув, Грэ́цкэ, Га́ткі, Крыва́нь, Мо́шчын, Борсукі́.*

Груды, палі: *Чо́рны Луг, Кала́шкув, Ботвы́нка, Чо́ртув Круг, Жу́ків, Она́ткув, Людымув, Борсукы́, Дя́ковэ, Гра́дка, Острывкі, Язвы́нкы, Козлыу́ка, Заро́сля, Ма́кув, Шэ́шнюв, Коло́дэзь, Мыня́жын, Пло́шча, Гладышы́шын Груд, Мыня́тын, Мы́нка, Кулы́шын Грудо́к, Садо́к, Гора́вске, Капу́сныца, Марты́новка, Глы́нышча, Зо́сінэ, Гу́мнышча, Шы́шов О́стров.*

Балоты, лугі: *Шчо́луб, Ту́рковэ, Зылё́нэ, Бырэ́ське, Зако́зын, Клын, Зашэ́шнюв, Шы́шув О́струв, Ло́зы, Парк, Дубовэ́ц, Про́стыца, Ку́бзы, Ча́лі, Бура́тын, Чо́рны Луг, Свынэ́ц, Де́довэ, Плашч, Кала́шкув, Дя́ковэ, Мо́шчын, Пу́гавкув, Пу́зныкув.*

Гаці, брады: *Чо́ртова Грэ́бля*, *Заволо́кы*, *Вжар*, *Ма́ркув Груд*, *Кала́чыкуў*, *Бубро́выны*, *Ма́ков*, *Гры́шын Луг*, *Марцукі́в Бруд*.

Лясы і яго часткі, груды: *Ны́вышчы, Сокі́рнэ, Лысы́чанка, До́вге По́лэ, Рычны́і, Пэ́ршы З'езд, За Цімінто́вым Мо́стом, Пру́сова Гора́, Бырыстовэ́ц, Крывы́ Груд, Кічна́я, Лысы́чанка, Ру́лёва Гора́, Ботвы́нка, Ча́лі, Старэ́ц, Балычо́ва Гора́.*

Масткі па старому гасцінцу ад вёскі Старамлыны да Здзітава мелі назвы: *Дру́гі Старомлы́нскі, На Я́сольды, Ша́почкін, Пу́нькув, Цімінто́вы, Во́вчы, Плашч, Я́звынскі, Я́мскі, Гумны́шчынскі, Вале́тув, Чылі́ів, Стіпа́нічув, На Га́ті.* Большасць назваў масткоў аданамастычнага паходжання: ад назвы вёскі (*Старомлы́нскі*), рэчкі (*на Я́сольды*), хутара (*Плашч, Я́мскі*), броду (*Во́вчы*), поля (*Я́звынскі*), мянушкі (*Ша́почкін, Пу́нькув, Вале́тув, Чылі́ів, Стіпа́нічув*). Назва *Цімінто́вы* паходзіць ад матэрыялу (цэменту), з якога зроблены масток. *Гумны́шчынскі* масток знаходзіўся за гумнамі. Там, дзе дарогу часта перамывала і яе даводзілася гаціць, масток назвалі *Гать.* Другаснымі па паходжанні з'яўляюцца назвы, якія суадносяцца з мянушкамі гаспадароў, якія жывуць насупраць масткоў: здзітаўцамі забыліся старыя назвы масткоў, якія ўжываліся тады, калі дарога мела гаспадарчае значэнне, і яны далі больш сучасныя і зразумелыя ім арыенціры-назвы.

Многае маглі б расказаць аб колішнім насельніцтве гэтыя народныя назвы, бо ўсе яны ўзніклі невыпадкова. Сам народ ніколі не даваў найменняў, якія ў чымсьці не адпавядалі б ісціне.

*Гідронімы.* Асабліва старажытныя сярод тапонімаў гідронімы – назвы рэк, азёраў. У ваколіцах Здзітава гэта рэкі Ясельда, Жыгулянка, Дарагабуж; азёры Белае, Чорнае і Спораўскае.

Спораўскае возера, Спораўскія балоты, вёска Спорава... На картах XVI–XVII стст. возера Спораўскае называлі Салман (1540 г.), Салмацiя, Салмацiка (1606 г.). У паведамленнях вядомага візантыйскага гісторыка VI ст. Пракопія Кесарыйскага ёсць сцвярджэнне, нібыта некалі плямёны склавенаў і антаў (славян) называлі «спорамі» (рассеянымі), відаць, з-за таго, што жылі «спорадзен» – рассеяна, асобнымі пасёлкамі. На поўначы Заходняга Палесся гэта былі крайнія славянскія аб'екты, а далей знаходзіліся балты. (Па Ясельдзе археолагі і лінгвісты Ю. У. Кухарэнка, М. І. Талстой, В. У. Мартынаў, Ф. Д. Клімчук і іншыя праводзяць старажытную этнічную мяжу паміж славянамі і балтамі.) Аднак на Беларусі (пераважна на Віцебшчыне) ёсць шэраг гідронімаў з асновай *спор-*: азёры Споры, Спорkі, рэкі Спорыца, Спорня. Ва ўсіх выпадках назіраецца сутыкненне дзвюх водных плыняў: рачной і азёрнай. Э. М. Мурзаеў тлумачыць спалучэнне *спорная* (*спорая*) *вада* як 'запруджаная вада, сутыкненне двух патокаў' [2, с. 518]. Тады Спорава азначае запруджаную ваду, сутыкненне дзвюх водаў. В. А. Жучкевіч этымалогію назвы звязвае са 'спорная зямля', 'зямля няяснай прыналежнасці', ад старажытнарускай асновы *споръ* 'спрэчка' [1, с. 358].

Рака Ясельда (варыянты Ясольда, Ясолка, Яцельда, Ясіолда). Хутчэй за ўсё, гэта кантамінаваная, «гібрыдная» славяна-яцвяжская назва: бо тут славянскі корань **jasl* і яцвяжскі фармант **da*. На Піншчыне існуе мясцовая назва ракі – Ясэлька «рака асаў», багоў, якім пакланяліся індаеўрапейцы яшчэ ў часы свайго першага пранікнення да Балтыі. Параўнаем, у індаеўрапейцаў рака – «альда», а ў балтаў човен – «алдзія». Культ асаў захоўвалі готы і ірландцы, таму, разглядаючы фармант «да», нельга прыпісваць назву толькі да яцвяжскай. У аснове назвы можа быць і славянскае слова *яслі* – кармушка для свойскай жывёлы, у якую, як у драбінкі, закладваюць сена.

У назве ракі Дарагабуж (прыток Ясельды) таксама знаходзяць як славянскую, так і балтыйскую аснову. У. М. Тапароў і А. М. Трубачоў мяркуюць, што гэта назва з'яўляецца вытворнай на **ja* ад славянскай формы Дорогобудь, Dorogobud. У кельтаў слова *драгон* – кола, адсюль колавая павозка – «дрогі», а шлях для яе – дарога, або дрога. Г. М. Пыж'янава звязвае назву са словамі *дарога* і *буса* 'выдзеўбаная лодка, човен'. Семантыка назвы – дарога для бусы 'дарога для чоўна' [3, с. 10].

Рака Жыгулянка – прыток Дарагабужы. Ф. Д. Клімчук параўноўвае з беларускім дыялектным словам *жыгала* – металічны прут для прапякання дзірак; старарускае *жигало*, *жегало* – кадильница. Назва, відаць, праславянскае ўтварэнне ад **zigati*, **zegati*, зыходнае значэнне якога 'апальваць, апякаць'. З другога боку, літоўскае *zigis* – лугавы ручай. В. А. Жучкевіч супастаў-

ляе назву *Жыгулянка* з літоўскімі словамі *zygis* 'паход', *zygiuti* 'ісці, рухацца'. Гідронімы з кампанентамі *zag*, *zaug*, *ziog* распаўсюджаны ў Літве. Існуюць беларускія рэгіянальныя словы *жыга*, *жыгун* 'вёрткі, спрытны'; *жыгун* 'той, які рухавы, спрытны, шпаркі, хуткі'; 'той, хто сваволіць; гарэзуе, упарціцца, неслух'. У гаворках Бярозаўскага раёна лексема *жыгун* мае значэнне 'непаседа', 'той, хто непаседлівы' [4, с. 205, 334, 345, 353]. Магчыма, у выніку метафарызацыі характар цячэння вады ў рацэ, а потым і сама рака атрымалі назву Жыгулянка.

**Літаратура**

1. Жучкевич, В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии / В. А. Жучкевич. – Минск: Изд-во БГУ В. И. Ленина, 1974. – 448 с.

2. Мурзаева, Э. М. Словарь народных географических терминов / Э. М. Мурзаева. – Минск: Мысль, 1984. – 653 с.

3. Пад небам бацькаўшчыны: слоўнік тапонімаў Бярозаўшчыны / пад рэд. Г. М. Пыж'янава. – Брэст: Брэсцкі АВМЦ ПА, 2007. – 24 с.

4. Чалавек: тэмат. слоўн. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; склад. В. Д. Астрэйка [і інш.]; навук. рэд. Л. П. Кунцэвіч, А. А. Крывіцкі. – Мінск: Беларус. навука, 2006. – 573 с.

*Ж. С. Сіпліveня*

## САСТАЎНЫЯ НАЗВЫ Ў МІКРАТАПАНІМІЧНАЙ СІСТЭМЕ ГРОДЗЕНСКАГА РАЁНА

У мікратапанімічнай сістэме Гродзеншчыны прадукцыйны тып утвараюць састаўныя назвы, якія складаюцца з атрыбутыўнага і субстантыўнага кампанентаў. Пераважная большасць такіх адзінак служыць для называння поля або яго часткі, сенажаці, хутара, саду, лясной мясціны і г. д. Усе яны выразна адлюстроўваюць асаблівасці матэрыяльнай і духоўнай культуры гарадзенцаў, выяўляючы пры гэтым цесную сувязь з умовамі мясцовага ўкладу жыцця насельніцтва. Інакш кажучы, састаўныя найменні невыпадковыя, яны скалаліся гістарычна і звязаны з грамадскім жыццём народа. Апроч таго, з'яўленне састаўных назваў прадыктавана і пэўнымі інтралінгвістычнымі фактарамі. Такія мікратапонімы «ўяўляюць сабой апісальныя характарыстыкі, узнікненне якіх абумоўлена неабходнасцю пазбегнуць мікратапанімічнай аманіміі» [1, с. 99].

Варта падкрэсліць, што ў лінгвістычнай літаратуры падобныя найменні кваліфікуюцца рознымі даследчыкамі неаднастайна. Як мікратапонімы-словазлучэнні вызначаюць назвы накшталт *Старыя Дарогі*, *Цёмны Лес*, *Вялікі Роў*, *Новы Сад* і г. д. А. Суперанская, У. А. Ніканаў, як састаўныя мікратапонімы разглядаюць іх С. Распонд, В. Д. Бандалетаў. Іншыя лінгвісты (напрыклад, В. Тагунова) называюць згаданыя адзінкі мікратапонімамі – намінатыўнымі словазлучэннямі або бінарнымі двухкампанентнымі намінацыямі (І. Жыленкава) [2]. Апроч таго, у тапаніміцы сёння выразна акрэсліваецца падыход, прыхільнікі якога прапаноўваюць не лічыць састаўнымі паводле структуры назвы тыпу *Казлоў Хутар*, *Малады Сад*, *Гнілое Балота* і пад., паколькі адным з іх кампанентаў з'яўляецца наменклатурны тэрмін [3, 4]. На наш погляд, падобнае меркаванне дастаткова спрэчнае, бо звычайна ў складзе названых мікратапонімаў наменклатурны тэрмін ужыты не ў яго тэрміналагічным значэнні, а ў тапанімічным. Між тым, як сведчаць назіранні, у побытавай камунікацыі часцей функцыянуюць менавіта двухкампанентныя назвы тыпу *Стары Лес*, *Велькае Поле*, *Чорна Даліна* і г. д. У такім выпадку выключэнне са структуры мікратапоніма геаграфічнага тэрміна можа прывесці да недакладнага выкарыстання адзінкі.

На нашу думку, разгледжаныя назвы трэба лічыць лексікалізаванымі словазлучэннямі, два (радзей – тры) кампаненты якога звязаны падпарадкавальнай сувяззю. Ад «звычайных» словазлучэнняў, якім не ўласціва лексічная непадзельнасць слоў-кампанентаў, падобныя мікратапонімы

адрозніваюцца сэнсавым і структурна-граматычным адзінствам. Заўважана, што ў такіх назвах, як правіла, аб'ектывуюцца паняцці, істотныя прыкметы якіх не могуць быць выражаны з дапамогай аднаго слова. Як падкрэслівае І. С. Прасвірніна, «семантычны комплекс састаўнога тапоніма ў шэрагу выпадкаў уяўляе сабой адзінае цэлае, паэтапна сфармаванае пры ўзнікненні фармальна-семантычных адносін паміж кампанентамі тапоніма» [5, с. 36]. У параўнанні з аднаслоўнымі адзінкамі састаўныя мікратапонімы больш дакладна характарызуюць той ці іншы аб'ект, што тлумачыцца наяўнасцю ў структуры назвы прыметніка аднаго з трох разрадаў: якаснага, адноснага ці прыналежнага. Безумоўна, галоўную граматычную ролю ў складзе такіх мікратапонімаў выконвае субстантыў, але асноўная тапанімічная нагрузка прыпадае якраз на прыметнік.

Аналіз мадэлей састаўных мікратапонімаў паказвае, што найбольшае пашырэнне сярод іх займаюць адзінкі з якасным прыметнікам у структуры. Такі кампанент, а знаходзіцца ён у прэпазіцыі адносна назоўніка, звычайна абазначае асаблівасці прыродна-геаграфічнага аб'екта (адметнасці формы, памеру, часу ўзнікнення, колеру): *Доўгія Нівы*, *Стары Лог*, *Высока Гара*, *Сіні Крыж*, *Цёмна Балота* і інш. З названай групы вылучаюцца састаўныя мікратапонімы з бінарнымі апазіцыямі вызначальных кампанентаў. У ролі такіх дыферэнцыйных кампанентаў выступаюць прыметнікі *вялікі* (*велькі*) *– малы*, *стары – новы*, *верхні – ніжні*, *шырокі – вузкі*, *доўгі – кароткі*, *цёмны – светлы* (*Стары Сад – Новы Сад*, *Велькі Лес – Малы Лес*, *Вялікі Палетак – Малы Палетак*, *Высока Гара – Нізка Гара*, *Цёмна Возера – Светла Возера*, *Доўгія Нівы – Кароткія Нівы*).

Зафіксаваны на Гродзеншчыне і састаўныя мікратапонімы з першым кампанентам – адносным прыметнікам, які паказвае на месцазнаходжанне аб'екта, від расліннага ці жывёльнага свету, характар глебы і г. д. (*Тарфяное Балота*, *Бярозавы Гай*, *Дубова Даліна*, *Лісіна Гара* і пад.).

Прадукцыйнасцю вызначаюцца састаўныя мікратапонімы з прыналежным прыметнікам, які паказвае на ўладальніка пэўнага аб'екта. Такія прыналежныя прыметнікі, як правіла, з'яўляюцца ўтварэннямі ад асновы прозвішча, мянушкі ці імя ўладальніка хутара, поля, саду і інш. (*Каскевічаў Хутар*, *Васілёў Сад*, *Агапавы Нівы*, *Дзямянаў Млын*). Нярэдка са значэннем 'назва хутара або поля' ўжываюцца генітыўныя канструкцыі накшталт *Хутар Карульскіх*, *Таскевіча Зямля*.

Часам сустракаюцца мікратапонімы, што маюць у структуры апрача атрыбутыўнага і субстантыўнага кампанентаў яшчэ і прыназоўнік з прасторавым значэннем (*Каля Грабавай Даліны*, *У Велькім Лесе і г. д.).*

Радзей у гродзенскіх гаворках функцыянуюць мікратапонімы, у фармальнай будове якіх бачым два назоўнікі. Першы з такіх кампанентаў мае форму роднага склону назоўніка, а другі ўжыты ў форме назоўнага склону (*Бабы Гара*, *Сухоцкіх Сад*).

Адзінкавымі з'яўляюцца састаўныя назвы, што маюць у структуры субстантыў у форме назоўнага склону і прыназоўнік з назоўнікам у форме аднаго з ускосных склонаў.

Ніжэй змешчаны састаўныя мікратапонімы, зафіксаваныя на тэрыторыі Гродзенскага раёна.

**АБУХО́ЎСКАЕ БАЛО́ТА**. Сенажаць, размешчаная паблізу хутара Абуховіча. Жытомля.

**АБУХО́ВІЦКІ ЛЕС**. Частка лесу, які раней належаў заможнаму гаспадару Абухоўскаму. Табала.

**АДАМКЕ́ВІЧАЎ ГАРО́Д**. Частка поля, размешчанага на месцы былой сядзібы Адамкевіча. Тапалёва.

**АЗЕ́РСКА ШАША́**. Дарога, што ідзе з Гродна да вёскі Азёры. Казіміраўка.

**АЛЬШЫ́НА КРЫНІ́ЧНАЯ**. Крыніца каля вёскі Забагоннікі. Пілюкі.

**АНТО́НАВА ДЗЯ́ЛКА**. Частка поля паблізу вёскі Завадзічы (належала гаспадару па імені Антон). Завадзічы.

**АНТО́НАВА ПО́ЛЕ**. Поле, якое знаходзіцца на месцы былога хутара гаспадара па імені Антон. Рыдзялі.

**АНТУКО́ВА ДЗЯ́ЛКА**. Поле на поўначы ад вёскі Тужаўляны (належала Антуку). Казіміраўка.

**АПАБО́ЛЕЎ САД**. Сад, пасаджаны на месцы ранейшага хутара Апаболя. Казіміраўка.

**АСО́ВЫ ГРУД**. Сенажаць на поўначы ад вёскі Грынёўка. Верцялішкі.

**БА́БЫ ГАРА́**. Узвышша каля вёскі Казіміраўка.

**БАЛО́ТНАЯ ДАРО́ГА**. Палявая дарога, што ідзе з вёскі Завадзічы на станцыю Жыдомля.

**БАЛО́ТНЯ Я́МА**. Луг каля вёскі Баяры.

**БАНЭ́ДЫКАЎ ГАРО́Д**. Луг за вёскай Казіміраўка (раней гэта быў агарод селяніна Банэдыка). Тужаўляны.

**БАРА́НІН ЛУЖО́К**. Пагорак. Казіміраўка.

**БАРАНО́ЎСКІХ ХУ́ТАР**. Хутар на паўночным захадзе ад вёскі Тапалёва.

**БЕЛЯКО́ЎСКІ ЛЕС**. Лес. Казіміраўка.

**БРУ́САВА ГАРА́**. Пагорак. Казіміраўка.

**БУ́СЛАВА ПО́ЛЕ**. Поле ў вёсцы Тапалёва.

**БУШНЁЎСКІ БАГО́Н**. Частка лесу на ўсходзе ад вёскі Табольская Будка. Верцялішкі.

**ВАДАТЫ́НСКА ПО́ЛЕ**. Поле. Казіміраўка.

**ВАЛЫ́НЦАВЫЯ ДУБКЕ́**. Дубовая пасадка. Грынёўка.

**ВАСІЛЁЎ САД**. Сад, які належаў Васілю. Завадзічы.

**ВЕ́ЛЬКІ ЛЕС**. Лес на паўднёвым захадзе ад вёскі Верцялішкі.

**ВЕРПАЛЯ́НСКАЯ СЕНАЖА́ЦЬ**. Сенажаць. Казіміраўка.

**ВЕ́ТРАЎ ГАРО́Д**. Поле. Казіміраўка.

**ВІНЦУКО́ВЫ ВЕ́РБЫ**. Кустоўе. Тапалёва.

**ВО́СТРАВА ПО́ЛЕ**. Падобная па форме на востраў частка поля паміж вёскамі Завадзічы і Талочкі. Жытомля.

**ВО́ЎЧА ПАЛЯ́НА**. Лясная мясціна. Жытомля.

**ВО́ЎЧЫ ЛЕС**. Лес каля вёскі Казіміраўка.

**ВО́ЎЧЫ ЛОГ**. Поле, якое знаходзіцца на ўсходзе ад вёскі Жытомля.

**ВЫ́ГАНАВА БАЛО́ТА**. Частка сенажаці. Эйсманты.

**ВЫСО́КА ГАРА́**. Узгорак каля вёскі Казіміраўка.

**ВЯЛІ́КІ САД**. Стары сад у вёсцы Жытомля.

**ВЯЛІ́КІ ЛУГ**. Луг на поўначы ад вёскі Табала.

**ГАЙКО́ЎСКІ ЛЕС**. Частка лесу паблізу хутара Гайкоў. Казіміраўка.

**ГАЛАЎНІ́ЦКА ДАРО́ГА**. Дарога паміж вёскамі Верцялішкі і Галаўнічы.

**ГА́НЦАВА ГРАНІ́ЦА**. Дарога. Казіміраўка.

**ГАРАБІ́НСКАЯ ДАРО́ГА**. Дарога, абапал якой растуць рабіны. Казіміраўка.

**ГАРО́ННІЦКА БАЛО́ТА**. Балота на поўначы ад вёскі Тапалёва.

**ГНІЛО́Е БАЛО́ТА**. Балота на захадзе ад вёскі Верцялішкі.

**ГО́МЕСКАЎ КА́МЕНЬ**. Поле на поўначы ад вёскі Казіміраўка.

**ГРА́БАВА ДАЛІ́НА**. Даліна ў Хвайне (растуць грабы). Верцялішкі.

**ГРЫНЁЎСКА ДАРО́ГА**. Дарога, што праходзіць праз вёску Грынёўка.

**ДЗЯМЯ́НАВА ПО́ЛЕ**. Поле, якое раней апрацоўваў Дзямян. Тапалёва.

**ДО́ЛЬСКІ РОЎ**. Поле, што належала Дольскім. Казіміраўка.

**ДО́ЎГІ ГРУДО́К**. Выган за вёскай Казіміраўка.

**ДО́ЎГІЯ НІ́ЎКІ**. Частка лесу паблізу вёскі Сіўкава.

**ДО́ЎГІЯ ПАЛІ́**. Поле за два кіламетры ад вёскі Эйсманты.

**ДУБО́ВА ГАРА́**. Узгорак. Талочкі.

**Е́ЖКІН ЛЕС**. Невялікі лясок на ўзгорку за вёскай Казіміраўка.

**ЖА́БЯЧА ВУ́ЛІЦА**. Дарога паміж дзвюма сажалкамі паблізу хутара Санкоўшчына.

**ЖУ́КАВА ГАРА́**. Пагорак на захадзе ад вёскі Баяры.

**ЖЫДО́ЎСКА ДАРО́ГА**. Палявая дарога ўздоўж вёскі Казіміраўка.

**ЗАВА́ДЗІЦКІ ВЫ́ГАН**. Выган. Завадзічы.

**ЗАВА́ЦКА БАЛО́ТА**. Балота ў канцы вёскі Завадзічы.

**ЗАСЕ́ЛЬСКА АСТРАВО́**. Балота паблізу вёскі Сіўкава.

**ЗО́НЬКАЎ ХУ́ТАР**. Хутар. Тапалёва.

**ЗЮНГАЧО́Ў ЛЕС**. Частка лесу паміж вёскамі Путрышкі і Верцялішкі.

**КА́ДЫШАВА ДАРО́ГА**. Палявая дарога, што ідзе з вёскі Казіміраўка да калгаснай фермы. Тужаўляны.

**КАЗЛО́ВІЦКІ КАР’Е́Р**. Кар’ер паблізу вёскі Казловічы.

**КАЗЛО́Ў ГАРО́Д**. Поле, што апрацоўваў некалі гаспадар па прозвішчы Казёл. Талочкі.

**КАЛЯ ЖАЛЕ́ЗНАЙ ДАРО́ГІ**. Поле каля чыгункі. Жытомля.

**КАНСТАНЦІНО́ВІЧА МЛЫН**. Поле, на якім раней стаяў млын Канстанціновіча. Талочкі.

**КАРО́ТКІЯ НІ́ЎКІ**. Частка поля. Сіўкава.

**КАРПАЧО́ВА СТУ́ДНЯ**. Частка лугу на месцы былога калодзежа, што належаў гаспадару па прозвішчы Карпач. Завадзічы.

**КАРУ́ЛЬСКАЯ ЗЯМЛЯ́**. Паша, былая зямля пана Карульскага. Жытомля.

**КАРУ́ЛЬСКІ САД**. Поле, на месцы якога некалі рос сад, што належаў пану Карульскаму. Жытомля.

**КАТО́ВА БАЛО́ТЦА**. Балота. Табольская Будка.

**КАЎШО́ЎСКА БАЛО́ТА**. Сенажаць. Рыдзялі.

**КАЦЯРЫ́НІН ТРАКТ**. Цэнтральная дарога ў вёсцы Жытомля.

**КАШКЕ́ВІЧАЎ ГАРО́Д**. Поле, што належала Кашкевічу. Завадзічы.

**КІЗЕ́ВІЧАЎ ХУ́ТАР**. Хутар. Жытомля.

**КО́ЛЬЧЫН ГАРО́Д**. Палетак паблізу могілак. Жытомля.

**КО́РЧЫНСКАЕ ВО́ЗЕРА**. Возера за хутарам Корчыкаў. Рыдзялі.

**КРУ́ЛЬСКІ АСА́ДНІК**. Месца, дзе раней жылі польскія асаднікі. Жытомля.

**КРЫВА́ВЫ БОР**. Лес, дзе ў час Вялікай Айчыннай вайны загінула шмат людзей. Завадзічы.

**КРЫЖАВЫ́Я ДАРО́ГІ**. Скрыжаванне паміж вёскамі Эйсманты і Табала.

**ЛІ́ПАВА ДАРО́ГА**. Пясчаная дарога, што праходзіць ад калгаснага саду да вёскі Тапалёва.

**ЛІ́СІ ГРУД**. Узгорак, размешчаны сярод балота. Эйсманты.

**ЛІСІ́НА ГАРА́**. 1. Гара, размешчаная за лесам у вёсцы Забагоннікі. 2. Частка лесу за вёскай Табольская Будка (тут вядзецца шмат лісаў).

**ЛУГ ЛЯ СА́ЖАЛКІ**. Сенажаць на поўначы ад вёскі Жытомля.

**МАЁРАЎ САД**. Сад, які пасадзіў былы вайсковец. Жытомля.

**МАЁРЧЫКАВА СЯДЗІ́БА**. Хутар былога вайскоўца, размешчаны каля вёскі Казіміраўка.

**МАЛА́ХАВА ГАРА́**. Узгорак, размешчаны каля вёскі Рыдзялі.

**МАЛЕ́НЬКІ ЛУГ**. Луг, што знаходзіцца за магазінам у вёсцы Табала.

**МАЛЫ́ ПАЛЕ́ТАК**. Невялікае поле, размешчанае на поўдні ад вёскі Жытомля.

**МАНА́ХАЎ ПРЫГО́РАК**. Невялікае ўзвышша за вёскай Рыдзялі.

**МАШТАЛЕ́РСКІ БРЫЎ**. Яма на рэчцы Пыранка. Жытомля.

**МЫ́ШКАВА ДЗЯ́ЛКА**. Частка поля, якую раней апрацоўваў гаспадар па мянушцы Мышка. Завадзічы.

**НА САБА́ЧАЙ ГО́РАЧЦЫ.** Канец вуліцы Цэнтральнай у вёсцы Жытомля.

**НО́ВАЯ ЖЫТО́МЛЯ**. Частка вёскі Жытомля, забудаваная ў два апошнія дзесяцігоддзі.

**НО́ВЫЯ ВЕРЦЯЛІ́ШКІ**. Частка вёскі Верцялішкі, забудаваная ў 70–90 гады XX ст.

**ПЯШЧА́НЫ КАР’Е́Р**. Кар’ер, што знаходзіцца за вёскай Жытомля.

**РУ́СКІЯ МО́ГЛІЦЫ**. Могілкі каля чыгункі. Жытомля.

**РЫДЗЕ́ЛЬКАЯ ГО́РКА**. Узгорак. Тапалёва.

**РЫДЗЕ́ЛЬСКІЯ КУСТЭ́**. Малады лес каля вёскі Рыдзялі.

**САБА́ЧА ГО́РКА**. Узгорак на захадзе ад вёскі Жытомля.

**САВЭ́РЫНАВА ДЗЯ́ЛКА**. Поле, якое належала селяніну Савэрыну. Тужаўляны.

**САДО́ЎСКІ ДУБ**. Адзіны дуб, што застаўся ад былой пасадкі каля хаты Садоўскага. Тапалёва.

**САДО́ЎСКІХ ХУ́ТАР**. Хутар на паўднёвым захадзе ад вёскі Жытомля. Тапалёва.

**САД СУХО́ЦКІХ**. Сад, што знаходзіцца на месцы былога маёнтка Сухоцкіх. Жытомля.

**СА́ЖАЛКА КУРУ́ЛЬСКІХ**. Сажалка, што раней належала пану Карульскаму. Жытомля.

**СВЯТО́Е БАЛО́ТА**. Балота на поўначы ад вёскі Жытомля.

**СІ́НІ КРЫЖ**. Урочышча (тут стаяў крыж сіняга колеру). Тапалёва.

**СІТКЕ́ВІЧАЎ ГАРО́Д**. Частка поля, што належала Сіткевічу. Жытомля.

**СІ́ЎКАЎСКА БАЛО́ТА (СІ́ЎКАЎСКАЕ БАЛО́ТА)**. 1. Частка поля на месцы асушанага балота. Тапалёва. 2. Сенажаць паблізу вёскі Сіўкава.

**СО́ТНІКАВА ГРАНІ́ЦА**. Мяжа паміж палямі (у пачатку XX ст. тут стаяла хата сотніка). Верцялішкі.

**СТАРА́Я ЖЫТО́МЛЯ**. Частка вёскі Жытомля.

**СТАРЫ́ САД**. Поле на поўначы ад вёскі Жытомля, дзе быў некалі сад. Жытомля.

**СТАРЫ́Я АЧЫСНЫ́Я**. Поле на ўсходзе ад вёскі Жытомля.

**СЯМА́ШКІ ЗЕ́МЛІ**. Поле паблізу вёскі Тапалёва.

**СЯМА́ШЧЫНА ПО́ЛЕ**. Поле, на месцы хутара Сямашкі. Тапалёва.

**ТАБО́ЛЬСКІ МО́ГІЛЬНІК**. Могілкі паблізу вёскі Табала.

**ТАЛО́ЧКАЎ ЗАГО́Н**. Поле, што належала селяніну Талочку. Казіміраўка.

**ТАПАЛЁЎСКА ДАРО́ГА**. Дарога ад вёскі Тапалёва да зернясховішча ў Жытомлі. Тапалёва.

**ТАПАЛЁЎСКА ПО́ЛЕ**. Поле, што знаходзіцца за вёскай Тапалёва.

**ТАПАЛЁЎСКІ ВЫ́ГАН**. Выган. Тапалёва.

**ТАРА́НКАВА ДАРО́ГА**. Частка палявой дарогі паміж вёскамі Тужаўляны і Баяры (пачынаецца каля хаты Таранкі). Тужаўляны.

**ТАРАНКО́Ў МЛЫН**. Месца каля млына, што належаў Таранку. Завадзічы.

**ТАСКЕ́ВІЧАВА ПО́ЛЕ (ТАСКЕ́ВІЧА ПО́ЛЕ)** . Палетак, што раней апрацоўваў Таскевіч. Казіміраўка.

**ТРУ́СЯВА ПА́СЯКА**. Лясная мясціна, на якой раней стаяла пасека Труся. Тапалёва.

**ТРУ́СЯЎ САД**. Сад, пасаджаны гаспадаром па прозвішчы Трусь. Тапалёва.

**УЗГО́РАК ШЫПКЕ́**. Узгорак, што знаходзіцца каля хутара Шыпкі. Завадзічы.

**ФАЛЬВА́РАК ЗАЛЕ́ЎСКАГА**. Хутар заможнага селяніна. Тапалёва.

**ХАНЮ́ТАЎ ЛЕС**. Невялікі лес паблізу хаты Ханюты. Казіміраўка.

**ХАХЛО́ВА СЦЕ́ЖКА**. Лясная дарога. Казіміраўка.

**ХАЦЯНО́ВА ГАРА́**. Пагорак, на якім размяшчалася хата селяніна па прозвішчы Хацян. Казіміраўка.

**ХІТРУ́ШКАВА БАЛО́ТА**. Поле на месцы асушанага балота (калісьці на ім загінуў стары чалавек па прозвішчы Хітрушка). Казіміраўка.

**ХУ́ТАР АБУХО́ВІЧАЎ**. Хутар у вёсцы Табала.

**ХУ́ТАР БУЛАЯ́**. Хутар на захадзе ад вёскі Табала.

**ХУ́ТАР КАРШАКА́**. Хутар паблізу вёскі Эйсманты.

**ЦЁМНЫ ЛЕС**. Лясная мясціна, дзе растуць пераважна дубы. Эйсманты.

**ЧО́РНАЯ ГАЦЬ (ЧО́РНА ГАЦЬ)**. Сенажаць паблізу былой рэчкі Лазоўкі. Казіміраўка.

**ЧО́РНАЯ РЭ́ЧКА (ЧО́РНА РЭ́ЧКА)**. Частка былой рэчкі Лазоўкі. Верцялішкі.

**ЧО́РТАВА ВО́ЗЕРА**. Лясное возера. Казіміраўка.

**ЧО́РТАВЫ ВО́ЧЫ**. Узвышаныя мясціны, зарослыя кустоўем, на балоце каля вёскі Жытомля.

**ШАШКО́ЎСКІ ХВО́ЙНІК**. Лес каля вёскі Дворцы (мясцовая назва вёскі – Шашкі). Верцялішкі.

**ШАШУ́РНЫЯ Я́МЫ**. Балота (тут утапіўся чалавек з прозвішчам Шашурын). Казіміраўка.

**ШВЭ́ЦКІЯ МО́ГІЛКІ**. Могілкі, на якіх калісьці хавалі шведаў. Жытомля.

**ШУЛЕ́ЎСКІ САД (ШУЛЕ́ЎСКІХ САД)**. Сад, што належыць заможнаму гаспадару па прозвішчы Шулеўскі. Талочкі.

**ШЧАСЛІ́ВЫ КЛІНО́К**. Частка лесу ў Хвайне (штогод тут збіраюць шмат грыбоў). Верцялішкі.

**ШЧЫ́РЧА ВО́СТРАВО**. Балота паблізу вёскі Сіўкава.

**ШЫРО́КІ ПАЛЕ́ТАК**. Поле. Завадзічы.

**ШЫ́ШКАЎ ХУ́ТАР**. Хутар. Тапалёва.

**ШЫ́ШКІН ЛУГ**. Луг на захадзе ад вёскі Эйсманты.

**Э́ЙСМАНТАЎСКА ПО́ЛЕ (ГЭ́ЙСМАНТАЎСКА ПО́ЛЕ)**. Поле, што размешчана каля зернясховішча. Эйсманты.

**Я́ЛАЎШЧЫНСКІЯ ПРЫГО́РКІ**. Поле. Тужаўляны.

**Літаратура**

1. Іванова, Г. А. Састаўныя назвы як адзінка намінацыі ў мікратапаніміі Мазырскага Палесся / Г. А. Іванова // Беларуская анамастыка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – С. 95–99.

2. Жиленкова, И. И. Топонимы Белгородской области (системный лингвоанализ населенных пунктов): учеб. пособие по лингвокраеведению / И. И. Жиленкова. – Белгород: ИД «Белгород», 2012. – 124 с.

3. Ященко, А. И. Лингвистический анализ микротопонимов определенного региона: курс лекций для студентов филол. фак. пед. ин-тов / А. И. Ященко. – Вологда, 1977. – 60 с.

4. Шахоўская, С. У. Беларуская анамастычная лексікаграфія: фарміраванне, сучасны стан, вектары развіцця / С. У. Шахоўская. – Мінск: Красная Звезда, 2012. – 258 с.

5. Просвирнина, И. С. Особенности семантики русских составных топонимов / И. С. Просвирнина // Изв. Уральского гос. ун-та. – 2001. – № 20. – С. 35–48.

*Н. Р. Якубук*

## АДАПЕЛЯТЫЎНЫЯ АЙКОНІМЫ ПАБУЖЖА

(матэрыялы да слоўніка)

У артыкуле даецца характарыстыка ўтваральных асноў тых лексічных рэсурсаў, якія паслужылі базай для фарміравання айконімаў Пабужжа апелятыўнага паходжання. Па магчымасці высвятляецца семантыка матывавальных лексем, вызначаюцца семемы, якія выкарыстаны ў айканіміі.

Для нагляднасці матэрыял падаецца ў выглядзе слоўніка. Слоўнікавы артыкул утрымлівае інфармацыю аб зыходным апелятыве. У загаловак артыкула выносіцца апелятыў, які прызнаецца айконімаўтваральным. У адных выпадках гэта апелятывы, якія структурна супадаюць з айконімамі (Багна ‘нізкае топкае месца, грузкае балота; дрыгва’: *Багны* Жаб.), у другіх – апелятывы, якія склалі структурны касцяк айконіма (Луг: *Залуззе* Жаб., *Падлужжа* Брэсц.). Ёсць артыкулы, дзе пад адным апелятывам аб’яднаны айконімы лексіка-семантычнага і марфалагічнага ўтварэння (Лес: *Вялікі Лес* Кам., *Верхалессе* Кобр., *Залессе* Брэсц., Кам., Кобр. (2), *Навалессе* Малар., *Падлессе* Жаб., Кам., *Падлессе Радваніцкае* Брэсц., *Падлессе Камянецкае* Брэсц., *Пералессе* Кобр.). У выпадках, калі не ўдаецца адназначна прызнаць зыходным той ці іншы апелятыў – паміж апелятывамі і рознымі класамі анамастычнай лексікі існуюць цесныя сувязі, – прапануецца некалькі магчымых матывацый.

Пры старабеларускіх і рэгіянальных апелятывах ёсць паметы (*ст.-бел.*, *рэг.* і інш.), скарочана ўказваюцца іх крыніцы. Пры літаратурнай лексіцы паметы адсутнічаюць.

Айконімы пашпартызуюцца: у скарочаным выглядзе ўказваецца раён, дзе яны лакалізаваны (Брэсц., Кам.).

На даследуемай тэрыторыі зафіксавана 306 назваў 359 аб’ектаў, матываваных апелятывамі, што складае 38% ад агульнай колькасці айконімаў Пабужжа. Утваральнымі асновамі для іх паслужылі 176 апелятываў і іх вытворных, якія падаюцца ніжэй у якасці загалоўных слоў артыкулаў.

**Агароднік** *ст.-бел.* ‘селянін, які не меў ворнай зямлі, а карыстаўся трыма моргамі агароду, за якія ён павінен быў несці службу адзін раз у тыдзень, а жонка яго летам павінна была шэсць дзён адпрацаваць на жніве’ (Лемцюгова): АГАРО́ДНІКІ Жаб., Кобр., Кам., АГАРО́ДНІКІ ПАДБЕ́ЛЬСКІЯ Кам. (магчыма, і ад антрапоніма Агароднік).

**Адрынка** *памянш.* ад адрына ‘халодная будыніна для захоўвання кармоў’: АДРЫ́НКА Кобр.

**Акцябр** *рус.* октябрь. Айконім паслякастрычніцкага перыяду: АКЦЯ́БР Кобр.

**Алёс** *рэг.* ‘забалочанае месца’ (ДСБ): ПАДАЛЕ́ССЕ Кобр.

**Альха** / альховы: АЛЬХО́ЎКА Кобр.

**Асінка** *памянш.* ад асіна: АСІ́НКІ Кам.

**Асіннік** ‘асінавы лес, хмызняк’: АСІ́ННІКІ Кам.

**АСТРАЎЛЯНЫ** магчыма, ‘людзі, што выселіліся з в. Вострава’: АСТРАЎЛЯ́НЫ Кобр.

**Багна** ‘нізкае топкае месца, грузкае балота; дрыгва’: БА́ГНЫ Жаб.

**Балота**: БАЛО́ТЫ Кобр., ПАСТУХО́ВА БАЛО́ТА Кам., ЗА́БАЛАЦЦЕ Брэсц., Кам., Кобр., Малар., НО́ВАЕ ЗА́БАЛАЦЦЕ Малар., ПАДБАЛО́ЦЦЕ Брэсц.

**Баравы** *прым.* ад бор (*гл.* БОР): БАРАВА́Я Кам.

**Барок** *памянш.* ад бор (*гл.* БОР): ГО́ЛЫ БАРО́К Кам., БО́РКІ Кобр., Малар., НО́ВЫЯ БО́РКІ Малар.

**Баярын** *ст.-бел.* ‘феадал, незалежны землеўладальнік; вяльможа, знатны і багаты саноўнік’: БАЯ́РЫ Брэсц., Жаб., Кам. (магчыма, і ад антрапонімаў Баяр, Баярын).

**Бераст** ‘дрэвавая або кустовая расліна сямейства вязавых’: БРЭСТ Брэсц. (параўн. *старaж.* формы назвы Берасце, Берасць).

**Бер’е** *рэг.* бэрва ‘кладка’ (ДСБ): ЗАБЕ́Р’Е Малар., ПАДБЕ́Р’Е Кобр.

**Бор** ‘сасновы лес’: Е́ЛІНСКІ БОР Кам., ЗБУ́РАЖ Малар., ПАДБУ́Р’Е Кам., ПРЫ́БАРАВА Брэсц.

**Буда** ‘шалаш’, *ст.-бел.* ‘лясное прадпрыемства для перапрацоўкі драўніны, смалакурня’: БУ́ДА ПАШУ́ЦКАЯ Кам., БУ́ДЫ Кобр.

**Бэз** ‘дэкаратыўная кустовая расліна’: БЭ́ЗАК Малар.

**Бяроза** / бярозавы, бярозны: БЯРО́ЗАЎКА Брэсц., Кам., БЯРО́ЗНА Кобр.

**Валока** *ст.-бел.* ‘зямельная мера’, *рэг.* ‘нізкае забалочанае месца, парослае вольхай’(ДСБ): ВАЛО́КІ Кам.

**Вежка** *памянш.* ад вежа ‘башня’: ВЕ́ЖКІ Жаб. (магчыма, і ад антрапоніма Вежка).

**Верх** ‘верхні край чаго-н.; верхавіна, вяршыня’: ВЯРХІ́ Жаб., Кам., Кобр., ЗАВЕ́РШЫ Кобр.

**Вілы** ‘развілка’: ВІ́ЛЫ Кобр.

**Віць** ‘топкае месца’ (Жучкевіч): ПАВІ́ЦЦЕ Кобр.

**Возера** / азёрны: ЗААЗЁРНАЯ Малар.

**Волька** (**Вулька**) *памянш.* ад воля (*гл.* ВОЛЯ): ВУ́ЛЬКА Брэсц., Жаб., Кам., Кобр., ВУ́ЛЬКА ЗАСТА́ЎСКАЯ Брэсц., ВУ́ЛЬКА ПАДГАРО́ДСКАЯ Брэсц.

**Воля** *ст.-бел.* ‘паселішча, жыхары якога вызваляліся на пэўны час ад подацей і службаў, мелі льготы (‘волі’)’ (Леантовіч): ВО́ЛЯ Кам.

**Воса** / асовы са *старaж.* оса ‘асіна’ (Лемцюгова): ВО́СА Кобр., ЗАВО́СЦЕ Брэсц., АСАВА́Я Малар.

**Восавец** магчыма, ‘асовы лес’ ці ‘высяленец з в. Воса, Восава’: ВО́САЎЦЫ Брэсц., Кобр.

**Востраў** ‘сухое месца сярод вады’: ВО́СТРАВА Кобр., ПАДВО́СТРАВА Малар., АСТРО́ЎЕ Кам.

**Вотчына** *ст.-бел.* ‘зямельнае ўладанне, якое пераходзіла дзецям у спадчыну ад бацькоў’: ВО́ТЧЫНА Малар., ВО́ТЧЫН Малар.

**Вугал** *ст.-бел.* ‘зямельны ўчастак’ (Леантовіч): ГЛЫБО́КІ ВУ́ГАЛ Кам.

**Вугляны** магчыма, ‘высяленцы з в. Вугал, Вуглы: ВУГЛЯ́НЫ Кам.

**Вужаўе** ‘месца, дзе водзяцца вужы’: ЗАВУЖА́ЎЕ Кобр.

**Выгода** ‘выгаднае для жыцця месца’: ВЫГО́ДА Кобр.

**Выдма** *польск.* vydma ‘пясчаная дзюна, пясок’ (Жучкевіч*)*: ВІ́ДАМЛЯ Кам.

**Высокі**: ВЫСО́КАЕ Кам., Малар.

**Вялікі**: ВЯЛІ́КА ВЯЛІ́КАЯ Кам., ВЯЛІ́КА МАЛА́Я Кам.

**Гай** ‘невялікі лес, звычайна лісцевы; дуброва’: ГАЙКО́ЎКА Кобр.

**Гара**: ЛЫ́САЯ ГАРА́ Брэсц., ГО́РЫ Кам., Малар., ГОРСК Кобр., ЗАГАРА́ Малар., МІЖГО́Р’Е Малар.

**Гарадзец** *памянш.* ад горад: ГАРАДЗЕ́Ц Кобр.

**Гарадзішча** ‘месца, дзе быў горад, умацаванае паселішча’: ГАРАДЗІ́ШЧА Кам.

**Гарохавішча** ‘поле, з якога сабралі гарох або на якім папярэдняй культурай быў гарох’: ГАРО́ХАВІШЧА Малар.

**Гарэлы:** ГАРЭ́ЛКІ Жаб.

**Гвоздзь** *рус.* гвоздь; *рэг.* гвозд ‘лес’: ГВОЗДЗЬ 1, 2 Кам.

**Глінішча** ‘месца здабычы гліны’: ГЛІ́НІШЧЫ Кам.

**Гліняны** *прым.* ад гліна: ГЛІНЯ́НКА Кобр.

**Глыбокі**: ГЛЫБО́КАЕ Жаб.

**Голя** *рэг.* галь ‘бязлесная прастора’ (ДСБ): НО́ВАЯ ГО́ЛЯ Кам., СТАРА́Я ГО́ЛЯ Кам., ГАЛЁЎКА Малар.

**Горка** *памянш.* ад гара: ГО́РКІ Жаб.

**Груд** ‘невялікая горка, узгорак; сухадол’: ЯЛО́ВЫ ГРУД Кам.

**Груша** / грушавы: ГРУ́ШАВА Кобр., ГРУ́ШАЎКА Кам.

**Грушка** *памянш.* ад груша.: ГРУ́ШКА Малар.

**Гута** ‘шклозавод’: ГУ́ТА Брэсц.

**Дварэц** *памянш.* ад двор (*гл.* ДВОР): ДВАРЭ́Ц Кам., ДВАРЦЫ́ Кам.

**Двор** *ст.-бел.* ‘асобная сялянская гаспадарка; панскі, скарбовы, шляхецкі маёнтак’ (ГСБМ): НО́ВЫ ДВОР Малар., СТАРЫ́ ДВОР Малар., НО́ВЫЯ ДВАРЫ́ Жаб., ЗАДВО́Р’Е Кам.

**Дворышча** ‘месца, дзе раней быў двор’: ДВО́РЫШЧА Малар.

**Дзеравешніца** магчыма, ‘месца, дзе складваецца нарыхтаванае дрэва’: ДЗЕРАВЕ́ШНІЦА Малар. (магчыма, і ад гідроніма Дзеравешніца).

**Дзерць** *рэг.* ‘распрацаванае, вызваленае ад хмызу поле, навіна’ (Выгонная): ЗА́ДЗЕРЦЬ Жаб.

**Добры**: ДО́БРАЕ Кобр., Малар.

**Доўгі**: ДО́ЎГІ Малар.

**Дружба**: ДРУ́ЖБА Брэсц., Кобр. Айконім паслякастрычніцкага перыяду.

**Дуб** / дубавы, дубічны: ДУБАВО́Е Кам., Кобр., ДУ́БІЧНА Малар.

**Дубок** *памянш.* ад дуб: ДУБО́К Брэсц.

**Дубраўцы** магчыма, ‘высяленцы з в. Дубрава, Дубраўка’ ці *памянш.* ад дуброва: ДУБРА́ЎЦЫ Кам.

**Дуброва**: ДУБРО́ВА Брэсц., Кам., Малар.

**Дуброўка** *памянш.* ад дуброва: ДУБРО́ЎКА Брэсц.

**Забава**: ЗАБА́ВА Кобр.

**Заваршаны** магчыма, ‘высяленцы з в. ЗАВЕ́РША’: ЗАВЯРША́НЫ Кам.

**Загарадні**: ЗА́ГАРАДНЯЯ Кам.

**Задваранін**, **Задворац** параўн. *ст.-бел.* задворнік ‘беззямельны селянін, які атрымаў за вызначаны аброк ці чынш дзялянку зямлі ад землеўладальніка’ (ГСБМ) або ‘высяленец з в. Двор, Задвор’е: ЗАДВАРА́НЫ Кам., НО́ВЫЯ ЗАДВО́РЦЫ Брэсц., СТАРЫ́Я ЗАДВО́РЦЫ Брэсц.

**Заляшаны** магчыма, ‘людзі, што жывуць за лесам’: ЗАЛЯША́НЫ Кам.

**Замошаны**, **Замшаны** магчыма ‘высяленцы з в. ЗАМО́ШША’: ЗАМО́ШАНЫ Жаб., ЗАМША́НЫ Малар.

**Зарачаны** ‘перасяленцы з-за ракі’: ЗАРАЧА́НЫ Кам.

**Зімнік** ‘часовая зімовая дарога’ ці ‘зімовішча’: ЗІ́МНІКІ Брэсц.

**Знамя**: ЗНА́МЕНКА Брэсц. Айконім паслякастрычніцкага перыяду.

**Кабёл** ‘сухі ствол тоўстага дрэва; калода для выраўноўвання зямлі на таку і сам утрамбаваны ток’ (Жучкевіч): КАБЁЛКА Брэсц.

**Казішча** ‘месца, дзе вадзіліся дзікія козы’ КАЗІ́ШЧА Кобр.

**Кавалік** *памянш.* ад каваль: КАВА́ЛІКІ Кам. (магчыма і ад антрапоніма Кавалік).

**Калнечча** параўн. *рэг.* кал ‘бруд, гразь’ (ДСБ): ЗАКАЛНЕ́ЧЧА Кобр.

**Калоднае** ‘месца, дзе стаялі калоды – вуллі’: КАЛО́ДНА Брэсц., Кам.

**Калонія** ‘паселішча выхадцаў, перасяленцаў з другой краіны, вобласці’ (ТСБМ): КАЛО́НІЯ Кобр., Малар.

**Камень**: КА́МЕНЬ Кобр.

**Камянец** *памянш.* ад камень: КАМЯНЕ́Ц Кам.

**Камяніца** ‘каменнае збудаванне’: БІ́СКУПСКАЯ КАМЯНІ́ЦА Брэсц., КАМЯНІ́ЦА ЖЫРО́ВЕЦКАЯ Брэсц.

**Канатоп** ‘цяжкапраезджая дарога ці пераправа’ (Ніканаў): КАНАТО́ПЫ Жаб.

**Кляпач** ‘бондар’: КЛЕПАЧЫ́ Кам. (магчыма, і ад антрапоніма Кляпач).

**Кляцішча** ‘месца, дзе стаяла клець’: КЛЯЦІ́ШЧА Кобр.

**Кляштар** ‘каталіцкі манастыр’: КЛЯ́ШТАР Кам.

**Кругель** ‘дзялянка круглай формы’ (параўн. кругляк, круглец): КРУ́ГЕЛЬ Кам.

**Крушына** ‘невялікае лісцевае дрэва або куст сямейства крушынавых’: КРУШЫ́НА Брэсц.

**Крыўляны** магчыма, ‘высяленцы з в. Крывая’: КРЫЎЛЯ́НЫ Жаб., Кам.

**Куплены**: КУ́ПЛЕНА Брэсц.

**Курніца** *ст.-бел.* ‘курная хата’ (ТСБМ): ВЯЛІ́КАЯ КУРНІ́ЦА Брэсц., МАЛА́Я КУРНІ́ЦА Брэсц.

**Лава** *рэг.* ‘участак зямлі на асушаным балоце’ (ДСБ): ЛА́ВЫ Кобр.

**Лаз** *рэг.* ‘нізкі забалочаны луг’ (ДСБ): ЛАЗЫ́ Брэсц., ЛАЗКІ́ Малар.

**Лазіца** *памянш.* ад лаза: ЛАЗІ́ЦА Малар.

**Лес**: ВЯЛІ́КІ ЛЕ́С Кам., ВЕРХАЛЕ́ССЕ Кобр., ЗАЛЕ́ССЕ Брэсц., Кам., Кобр. (2), НАВАЛЕ́ССЕ Малар., ПАДЛЕ́ССЕ Жаб., Кам., ПАДЛЕ́ССЕ РАДВА́НІЦКАЕ Брэсц., ПАДЛЕ́ССЕ КАМЯНЕ́ЦКАЕ Брэсц., ПЕРАЛЕ́ССЕ Кобр.

**Ліпавы**, **Ліпны** *прым.* ад ліпа: ЛІ́ПАВА Кобр., ЛІ́ПНА Кам.

**Ліпінка** *памянш.* ад ліпа: ЛІ́ПІНКІ Брэсц.

**Ліпнік** ‘ліпавы лес’: ЛІ́ПНІКІ Кобр.

**Луг**: ЗАЛУ́ЗЗЕ Жаб., ПАДЛУ́ЖЖА Брэсц.

**Лука** ‘выгін, заварот ракі’: ЛУКА́ Кобр., ПРЫЛУ́КІ Брэсц., ВЯЛІ́КІЯ ПРЫЛУ́КІ Кобр., МАЛЫ́Я ПРЫЛУ́КІ Кобр.

**Лясок** *памянш.* ад лес: ЛЯСО́К Кам., ЛЕ́СКІ Кам., ЗАЛЕ́СКІ Кобр., НАВАЛЕ́СКІ Малар.

**Макавішча** ‘месца, дзе рос мак’: МА́КАВІШЧЫ Кам.

**Макраны** магчыма, ‘людзі, што жывуць на мокрым месцы’: МАКРА́НЫ Малар.

**Масток** *памянш.* ад мост: ЗАМАСТО́К Малар.

**Мачулішча** ‘месца, дзе замочвалі лён або каноплі’: МАЧУ́ЛІШЧА Кам.

**Мачульнікі** ‘тыя, хто адбельвае палотны: МАЧУ́ЛЬНІКІ Кобр.

**Машчонка** ‘мошчаная дарога’: МАШЧО́НКА Брэсц.

**Мельнік** ‘млынар’: МЕ́ЛЬНІКІ Брэсц., Кам., Кобр., Малар. (магчыма, і ад антрапоніма Мельнік).

**Млын**: МЛЫНЫ́ Кам., МЛЫНО́ВА Малар.

**Мост**: ЗАМАСТЫ́ Кам., ЗАМО́СЦЕ Кобр.

**Мох**: ЗАММО́ШША Малар., ПАДО́МША Кам.

**Навасадкі** *памянш.* ад навасады (*гл.* НАВАСАДЫ): НАВАСА́ДКІ Кобр.

**Навасады** ‘новае паселішча’: НАВАСА́ДЫ Брэсц., Жаб.

**Навасёлкі** ‘новае паселішча’: НАВАСЁЛКІ Кам., Кобр.

**Навіна** 'ўпершыню ці наноў распрацаваная зямля': ЗАНАВІ́НЫ Кам.

**Нагараны** магчыма, 'людзі, што жывуць на высокім месцы': НАГАРА́НЫ Жаб.

**Пагранічны** 'размешчаны ўздоўж граніцы, на мяжы': ПАГРАНІ́ЧНАЯ Кам.

**Падбрадзяны** 'людзі, якія жывуць каля броду': ПАДБРАДЗЯ́НЫ Кам.

**Панскі**: ПА́НСКАЕ Малар.

**Паўднёвы**: ПАЎДНЁВЫ Брэсц.

**Перавессе** 'сеці, якія развешвалі для лоўлі птушак': ПЕРАВЕ́ССЕ Кобр.

**Перавысь** 'месца адносна ўзвышанага водападзелу паміж паніжэннямі': ПЕРАВЫ́СЬ Малар.

**Перасек** 'высечанае ў лесе месца': ПЕРАСЕ́К Кам.

**Перамога**: ПЕРАМО́ГА Кам. Айконім савецкага часу.

**Печ**: ЗАПЕ́ЧЧА Малар.

**Печка** *памянш.* ад печ: ПЕ́ЧКІ Малар.

**Плашчына** 'плоскае месца, раўніна: ПЛАШЧЫ́НЫ Кобр.

**Плоскі**: ПЛО́СКАЕ Кобр., ПЛО́СКА Брэсц.

**Плянта** *польск.* plan 'сядзіба, участак', *plantować* 'выраўноўваць паверхню грунту' (ЭСБМ): ПЛЯ́НТА Кобр., Кам., ВЯЛІ́ЧКАВА ПЛЯ́НТА Брэсц.

**Поле**: ЗАПО́ЛЛЕ Брэсц.

**Праход**: ПРАХО́ДЫ Кам.

**Пруд** : ЗАПРУ́ДЫ Кобр.

**Пясок**: ПЯСКІ́ Кам., ПЯ́СКІ Брэсц., ПЕ́СКІ Кобр., ПЯСЧА́НКА Кобр., ПЯСЧА́ТКА Кам. (магчыма, два апошнія і ад гідронімаў Пясчанка, Пясчатка).

**Рагознае** 'месца, дзе расце рагоз': РАГО́ЗНА Жаб.

**Радасць**: РА́ДАСЦЬ Кам. Айконім савецкага часу.

**Рака**: ЗАРЭ́ЧЧА Кам., Малар., ПАДРЭ́ЧЧА Жаб., Кобр.

**Ракіта**: РАКІ́ТНІЦА Жаб.

**Рачыца**, **Рэчыца** *памянш.* ад рака: РАЧЫ́ЦА ПАЛЯВА́Я Жаб., РЭ́ЧЫЦА Брэсц., Кам., Кобр.

**Рудня** 'руднік, месца здабычы руды': РУ́ДНЯ Брэсц.

**Рыбны**: РЫ́БНАЯ Кобр.

**Рэпішча** 'месца, дзе раней сеялі рэпу': РЭ́ПІШЧА Кам.

**Садзішча** 'месца, дзе быў сад': САДЗІ́ШЧА Малар.

**Сасна**: СО́СНЫ Кам., СЯМІСО́СНЫ Брэсц.

**Селішча** *ст.-бел.* 'паселішча' (ТСБМ): СЕ́ЛІШЧА Жаб., Кам., ВЯЛІ́КАЕ СЕ́ЛІШЧА Кам., МАЛО́Е СЕ́ЛІШЧА Кам., СЕ́ЛІШЧЫ Жаб.

**Скверык** *памянш.* ад сквер: СКВЕ́РЫКІ Брэсц.

**Смалярня** 'спецыяльная печ для гонкі смалы': СМАЛЯ́РНЯ Кобр.

**Смуга** 'вузкая забалочаная нізіна': СМУ́ГА Брэсц.

**Ставішча** 'месца, дзе быў стаў' (*гл.* СТАЎ): СТА́ВІШЧА Брэсц.

**Стаў** 'сажалка': АЛІЗА́РАЎ СТАЎ Жаб., СТА́ВЫ Кам.

**Стоўп** 'вежа': СТАЎПЫ́ Жаб.

**Струга** *рэг.* 'мокрае месца, парослае хмызняком; балоцістая мясціна' (ДСБ): СТРУГА́ Малар.

**Сухадол** 'бязводная лагчына, схіл': СУХАДО́Л Кам.

**Сялец** *памянш.* ад сяло: СЯЛЕ́Ц Кобр.

**Сяло**: СТАРО́Е СЯЛО́ Жаб., Брэсц.

**Сярэдні**: СЯРЭ́ДНЕ Малар.

**Трава**: ТРА́ВЫ Кобр.

**Фруктовы** *прым.* ад фрукт: ФРУКТО́ВЫ Кобр.

**Хлеб**: ХЛЕ́БАЎКА Малар.

**Хлевішча** 'месца, дзе стаяў хлеў': ХЛЕ́ВІШЧА Кам.

**Хмелішча** 'месца, дзе рос хмель': ХМЕ́ЛІШЧА Малар.

**Холмічы** 'людзі, што жывуць на *халме* 'ўзвышшы'': ХО́ЛМІЧЫ Брэсц.

**Царкоўнік**: ЦАРКО́ЎНІКІ Кам.

**Церабунь** ад церабіць 'расчышчаць лес': ЦЕРАБУ́НЬ Брэсц.

**Чарнічнае** 'месца, дзе растуць чарніцы': ЧАРНІ́ЧНА Кобр.

**Чэмер** 'трава чамярыца': ЧЭ́МЕР Кобр., ЧАМЯРЫ́ 1,2 Кам. (магчыма, і ад антрапоніма Чэмер).

**Шпіталь**: ШПІТАЛІ́ Жаб.

**Яблычны** *прым.* ад яблык: Я́БЛЫЧНАЕ Малар.

**Язвіна** 'балотца'; акно ў балоце': Я́ЗВІН Малар., Я́ЗВІНКІ Малар.

**Яліна** / яловы: ЯЛО́ВЫ ГРУД Кам.

**Яма** / ямнае: Я́МНА Брэсц.

**Яменка** *памянш.* ад яма: Я́МЕНКА Кам.

**Яміца** *памянш.* ад яма: Я́МІЦА Мал.

**Ясень**: ЯСІ́НАЎКА Кам.

**Скарачэнні**


Выгонная – Выгонная, Л. Т. Полесская земледельческая лексика: типол. и ареальная дифференциация: дис. … канд. филол. наук: 10.661 / Л. Т. Выгонная. – Минск, 1969.

Жучкевіч – Жучкевич, В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии / В. А. Жучкевич. – Минск: Изд-во БГУ, 1974. – 448 с.

Леантовіч – Леонтович, Ф. И. Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве / Ф. И. Леонтович. – Варшава; СПб, 1897. – Вып. 1.

Лемцюгова – Лемцюгова, В. П. Беларуская айканімія: лінгвістычны аналіз назваў населеных пунктаў Мінскай вобл. / В. П. Лемцюгова. – Мінск: Навука і тэхніка, 1970. – 156 с.

Ніканаў – Никонов, В. А. Краткий топонимический словарь / В. А. Никонов. – М.: Мысль, 1996 – 509 с.

## *З АРХІЎНАЙ МОЎНАЙ СПАДЧЫНЫ*

*Вітаўт Тумаш*

# НАЗВЫ ЛЮДСКІХ СЯЛІБ ВІЛЕЙСКАЙ, ВІШНЯЎСКАЙ, ВОЙСТАМСКАЙ, ЖОЙДЗІШНАЙ ВОЛАСЦІ ВІЛЕЙСКАГА ПАВЕТА І СМУРГОНСКАЙ ВОЛАСЦІ АШМЯНСКАГА ПАВЕТА[1]

Падрыхтавала *Т. Аліферчык*

Гэта падборка мае цікавую гісторыю. Яе знайшоў у архіўных сховах Юрый Іосіфавіч Внуковіч, кандыдат гістарычных навук, загадчык сектара захавання фальклорнай спадчыны аддзела фальклору і культуры славянскіх народаў Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры.

Матэрыял з'яўляўся часткай збораў Віленскага беларускага музея імя Івана Луцкевіча, які існаваў у міжваенныя часы. На сённяшні дзень захоўваецца ў Інстытуце літоўскай літаратуры і фальклору.

Вітаўт Тумаш (1910–1998) нарадзіўся на Віленшчыне ў в. Спягліца. У пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, пасля вучобу працягнуў у Медыцынскім універсітэце, які закончыў перад Другой сусветнай вайной з кваліфікацыяй «доктар медыцыны». Большую частку свайго жыцця правёў на чужыне, жыў у Нью-Ёрку, дзе быў адным з заснавальнікаў і дырэктарам Беларускага Інстытута Мастацтва і Навукі[2]. Доктар па адукацыі, ён шмат зрабіў у галіне беларусазнаўства, асабліва Скарыніяны. Пра шырыню яго поглядаў сведчыць бібліяграфічны спіс, змешчаны ў выданні «Вітаўт Тумаш. Выбраныя працы» (Мінск, 2002). Адметна, што ў спісе публікацый В. Тумаша адсутнічае прапанаваная чытачам лексічная падборка зафіксаваных ім айконімаў і вытворных ад іх іншых абазначальных сродкаў.

Сёння для нас знаходка важная не толькі як новая інфармацыйная крыніца, гэта яшчэ адно сведчанне, як вялася праца на заходніх абшарах Беларусі па стварэнні слоўніка жывой беларускай мовы, распачатага ў 20-х гадах XX ст. у Інстытуце беларускай культуры.

Запісы Вітаўта Тумаша былі зроблены беларускай лацінкай. У прапанаваным для зборніка варыянце яны падаюцца ў транслітараванай форме і форме арыгінала. Невялічкае ўступнае слова, якое напісаў збіральнік да сваіх матэрыялаў, перадаецца сродкамі сучаснай беларускай арфаграфіі, транслітараваны спіс найменняў захоўвае цалкам аўтэнтычны характар.

***

*Запісаныя тут пераважна ўсе назвы людскіх сяліб Вішняўскай, Войстамскай, Жойдзішнай і паўночнай часткі Вілейскай воласці Вілейскага павета, і паўночна-ўсходняй часткі Смаргонскай воласці Ашмянскага павета.*

*Побач з аўтэнтычнымі назвамі, якія ўжываюцца мясцовым насельніцтвам, падаюцца тут таксама назвы, уведзеныя польскай адміністрацыяй.*

*Мэтай гэтага запісу з'яўлялася:*

*1) падаць да ведама і захаваць аўтэнтычныя назвы людскіх сялібаў данага абшару;*

*2) паказаць, наколькі і як іх стараюцца змяніць і спольшчыць польскія адміністрацыйныя ўлады;*

*3) рубрыкі, дзе падаюцца вытворныя ад назваў сяліб прыметнікі, а таксама назвы для жыхароў данай сялібы, маюць характар даведачнага філалагічнага матэрыялу.*

[1] Пералічаныя дзяржаўна-тэрытарыяльныя адзінкі падаюцца ў аўтарскім запісе, яны адпавядаюць прынятаму на той час падзелу. Зараз гэтыя населеныя пункты ўваходзяць у склад розных тэрытарыяльна-адміністрацыйных аб'яднанняў.

[2] Напісанне ўласнай назвы адпавядае прынятай на Захадзе традыцыі.

*Беларускія назвы запісаны непасрэдна ад мясцовых людзей; польскія – тыя, якія ўжывае адміністрацыйная ўлада, і часткова з назваў, пададзеных на вайсковай карце (Wojskowy Instytut geograficzny – Warszawa 1932 r. Pas 30, Słup 43, Żodziški. Skala 1:100.000).*

*Калі прыметы ці назвы людзей данай сялібы не існуюць ці не ўдалося іх зафіксаваць, то яны не падаюцца.*

*Характар сялібы абазначаны наступнымі скарачэннямі:*

*м. – мястэчка, в. – вёска, з. – засценак, д. – двор, ф. – фальварак, х. – хутар, л. – лесьнічанка.*

*Лічбы пры скарачэннях азначаюць колькасць існуючых пад той самай назвай, калі іх ёсць болей як адна таго самага характару.*

*Спягліца, 25 красавіка 1935 года.*
*Запісаў Вітаўт Тумаш,*
*студэнт медыцыны U.S.B. (універсітэта Стэфана Баторыя)*

## Тэкст арыгінала

*Вітаўт Тумаш*

Nazovy ludzkich sialib

Vialejskaj, Višniaŭskaj, Vojstamskaj, Žojdzišnaj volaści Vialejskaga pavietu
i Smurhonskaj volaści Ašmianskaga pavietu

*Zapisaŭ Vitaŭt Tumaš*
*student medycyny U. S. B.*

Zapisanyja tutka mienš-bolš usie nazovy ludzkich sialib Višniaŭskaj, Vojstamskaj, Žojdzišnaj i paŭnočnaj častki Vialejskaj volaści, Vialejskaga pavietu, i paŭnočna-ŭschodniaj čaści Smurhonskaj volaści Ašmianskaga pavietu.

Pobač z aŭtentyčnymi nazovami, užyvanymi miascovym nasielnictvam, padadzienyja tut taksama ŭviedzenyja polskaj administracyjaj nazovy polskija.

Metaj hataha zapisu jość:

1. padać da viedama i zachavać aŭtentyčnyja nazovy ludzkich sialibaŭ danaha prastoru
2. pakazać naskolki i jak ich starajucca źmianić i spolščyć polskija administracyjnyja ŭlady
3. rubryki, dzie padajucca prymiety ad nazovaŭ sialib i nazovy dla žycharoŭ danaj sialiby, majuć charaktar filolohičnaha matarjału.

Biełaruskija nazovy ŭzityja biespasredna ad miascovych ludziej; polskija – tyja, jakich užyvaje administracyjnaja ŭlada i častkova z nazovaŭ padadzienych na vajskovaj karcie (Wojskowy Instytut geograficzny – Warszawa 1932 r. Pas 30, Słup 43, Żodziški. Skala 1:100.000).

Kali prymiety, ci nazovy ludziej danaj sialiby nia isnujuć, ci nia ŭdałosia ich pačuć, – to jany nie padadzienyja.

Charaktar sialiby abaznačany hetkimi skarotami:

m – miastečka; v – vioska; z – zaścienak; d – dvor; f – falvarak; ch – chutar; l – liaśničanka.

Ličby pry skarotach aznačajuć kolkaść isnujučych pad toj samaj nazovaj, kali ich jość bolej jak adna taho samaha charaktaru.

*Śpiahlica 25 krasavika 1935 hodu*

Uvaha. Žycharoŭ danaj sialiby, apriača padanych vyšej nazovaŭ, kličuć i formaj prymietnaj, np.: pobač z śpiahlàni, śvinčàni, skažuć: pajšli ludzi śpiahlànskija, śvinčànskija, naratòŭskija, ròdzieŭskija, vierabjòŭskija i h. d.

| Назва сялібы | Як назвалі палякі | Характар сялібы | Прымета ад назвы | Жыхары гэтай сялібы завуцца |
|---|---|---|---|---|
| Абра́маўшчына, -ы<br>Abràmaŭščyna, -y | Abramowszczyzna | в.-д. | абра́маўскі<br>abràmaŭski | абра́маўцы<br>abràmaŭcy |
| Аве́чкі, -ак<br>Avièčki, -ak | Owieczki | в. | аве́чаўскі<br>avièčaŭski | |
| Айцьві́лы, -л<br>Ajćvìły, -ł | Ejćwiły | з. | айцьві́лскі<br>ajćvìlski | айцьві́лы<br>ajćvìły |
| Аку́шкава, -а<br>Akùškava, -a | Okuszkowo | з. | аку́шкаўскі<br>akùškaŭski | аку́шкаўцы<br>akùškaŭcy |

*Працяг табліцы*

| Назва сялібы | Як назвалі палякі | Характар сялібы | Прымета ад назвы | Жыхары гэтай сялібы завуцца |
|---|---|---|---|---|
| Антасі́на, -ы<br>Antasìna, -y | Antosino | з. | антасі́нскі<br>antasìnski | антасі́нцы<br>antasìncy |
| Анто́нішкі, -ак<br>Antòniški, -ak | Antoniszki | з. | анто́нішны<br>antònišny | анто́нішкі<br>antòniški |
| Асі́наўка, -і | Osinówka | з. | асі́наўскі asinaŭski | асі́наўцы asinaŭcy |
| Асі́наўка, -і<br>Asìnaŭka, -i | Osinowszczyzna | з. | | |
| Астраўля́ні, -нь<br>Astraŭlàni, -ń | Ostrowlany | в. | астраўля́нскі<br>astraŭlànski | астраўля́ні<br>astraŭlàni |
| Ашмяне́ц, -ца́<br>Aśmianièc, -cà | Oszmianiec | з. | | |
| Ба́раўцы, -аў<br>Bàraŭcy, -aŭ | Borowce | в. | ба́раўскі<br>bàraŭski | баругі́<br>barukì |
| Баравы́я, -ы́х<br>Baravỳja, -ỳch | Borowe | в.-з. | | |
| Бярэ́зьніха, -і<br>Biarèźnicha, -i | Brzozówka | з. | | |
| Бі́бкі, -ак<br>Bìbki, -ak | Bibki | в. | бі́бскі<br>bìbski | бібча́ні<br>bìbčani |
| Бе́лявічы, -ч<br>Bièlavičy, -č | Bielewicze | в. | | |
| Беражны́я, -ы́х<br>Bieražnỳja, -ỳch | Bereżna | з. | | |
| Бло́тнікі, -аў<br>Błòtniki, -aŭ | Błotniki | з. | | |
| Бо́нда, -ы<br>Bònda, -y | Bonda | л. | | |
| Будзі́лкі, -ак<br>Budzìłki, -ak | Budziłki | в. | будзі́лскі<br>budzìłski | будзі́лкі<br>budzìłki |
| Буянцы́, -о́ў<br>Bujancỳ, -òŭ | Bujańce | в. | | буянцы́<br>bujancỳ |
| Вайні́дзіняты, -т<br>Vajnìdziniaty, -t | Wojnidzinięta | в. | вайні́дзіняцкі<br>vajnìdziniacki | вайні́дзіняты<br>vajnìdziniaty |
| Вайні́лкава,-а<br>Vajnìłkava,-a | Wojniałgowo | в. | | |
| Васіле́ўшчына, -ы<br>Vasilèŭščyna, -y | Wasilewszczyzna | х. | | |
| Велькапо́льле, -я<br>Vielkapòlle, -a | Wielkopole | в. | | |
| Вераб’е́, -о́ў<br>Vierabjè, -oŭ | Wierabje | з. | вераб’ёўскі<br>vierabjòŭski | |
| Ві́шнява, -а<br>Vìšniava, -a | Wiszniew, Wiśniew | м.-д. | ві́шняўскі<br>vìšniaŭski | ві́шняўцы<br>vìšniaŭcy |
| Во́йстама, -а<br>Vòjstama, -a | Wojstom | м.-ф. | во́йстамскі<br>vòjstamski | во́йстамцы<br>vòjstamcy |
| Во́страва, -а<br>Vòstrava, -a | Ostrów | в. | | |
| Ву́ткі, -ак<br>Vùtki, -ak | Utki | в. | ву́таўскі<br>vùtaŭski | ву́ткі<br>vùtki |
| Вы́галяняты, -т<br>Vỳhalaniaty, -t | Wyholenięta | в. | вы́галяняцкі<br>vỳhalaniacki | вы́галяняты<br>vỳhalaniaty |

Абедзве канструкцыі адзначаюцца і ў СПЗБ: *Ён* ***забалеў адром*** [16, т. 1, с. 58]; ***на грыпу хварэла*** [16, т. 1, с. 491]; *Восім дзяцей* ***шкарлатом балелі***. ***На шкарлатыну*** *сын* ***хварэў*** [16, т. 4, с. 478]; ***На сухоты хварэла*** [16, т. 5, с. 27]; *Каровы* ***яшчурам балелі*** [16, т. 5, с. 563].

Такія ж сінанімічныя адносіны ўласцівы і словазлучэнням, дзе галоўны кампанент – прыметнік (або субстантываваны прыметнік) *хворы*. Параўн.: *У Лоеве ... будзе асобны доктар для лечэння* ***хворых халерай*** [1907, № 32, с. 6]; ***Chworych tyfusam*** *što raz bolej i bolej prybywaje* [1910, № 7, с. 119]; *У Волчанскай валасьці Рэчыцкага пав... на сотку дзяцей 92 ёсць* ***хворых на шкарлятыну*** [1910, № 21, с. 331]; *Тымчасам аткрылася, што студэнтка – гэта* ***хворая на розум*** *дзяўчына* [1912, № 18, с. 4]; *Piered atpraйkaj doktar ahledaй ŭsich emihrantoй i pryznaй ich* ***chworyti na wočy*** [1911, № 12, с. 175].

У некаторых дыялектаграфічных крыніцах падаецца толькі адзін тып спалучэнняў – з прыназоўнікам *на*. У слоўніку М. Шатэрніка адзначаюцца наступныя прыклады: ***Хварэя на сухоты*** [20, с. 269]; *Дзеці* ***хварэюць на праступу*** [20, с. 294]. Такая ж канструкцыя фіксуецца ў слоўніку І. Насовіча: *Не так давно* ***захворев на горючку*** [15, с. 677]. М. Байкоў і С. Некрашэвіч у якасці нарматыўнага таксама адзначаюць толькі словазлучэнне з прыназоўнікам *на*: *хварэць (на што)* [2, с. 334].

Пры аглядзе матэрыялаў газеты «Наша Ніва» была выяўлена выразная сінтаксічная асаблівасць: калі словазлучэнні маюць пераноснае, метафарычнае значэнне, то звычайна выкарыстоўваецца канструкцыя *хварэць + Т. скл.*: *Я* ***ні хварэю*** *ўсесьветнай* ***журбой – жудою***, *не, не, – я* ***хварэю нечым другім***, *але* ***чым****?* [1913, № 20, с. 2. М. Беларус. Стогны душы]; *У нас на Беларусі сельска-гаспадарскіх хаўрусоў не шмат ды і тые зазвычай* ***хварэюць тэй самай хваробай*** [1913, № 13, с. 1]; *Ты шчасьліва, дзіця дарагое, / Тваё сэрца* ***нічым не баліць*** [1914, № 4, с. 2. М. Арол. Дзіцяці]; *Можэ кароўку прыйшлося купляці / Можэ і з гора прадаць хто хацеў. / Той не раз можэ ішоў агледаці / Не раз на кірмашы ён* ***сэрцэм балеў*** [1912, № 7, с. 3. А. Гурло. Кірмаш капыльскі]. Факт выкарыстання падобных словазлучэнняў аўтарамі, якія па месцы нараджэння рэпрэзентуюць асаблівасці розных дыялектаў[1], ускосна сведчыць аб паралельным ужыванні прыназоўнікавых і беспрыназоўнікавых канструкцый на тэрыторыі генетычна адрозных груп гаворак беларускай мовы.

У сучасным мовазнаўстве канструкцыі дзеяслова *хварэць* і яго семантычных адпаведнікаў з вінавальным і творным склонам разглядаюцца як сінанімічныя [4, с. 11; 6, с. 177], але ў апошнія гады адзначаецца перавага прыназоўнікавай канструкцыі з вінавальным склонам, а формы з творным без прыназоўніка адзначаюцца радзей [21, с. 14].

Такім чынам, праведзены аналіз паказаў, што дзеяслоўным словазлучэнням з творным склонам у «Нашай Ніве» ўласцівы сінанімічныя адносіны: дзеясловы *зваць / звацца*, *хварэць / балець*, *ехаць*, вытворныя ад іх і семантычныя адпаведнікі кіруюць некалькімі залежнымі формамі пры выражэнні тоеснага зместу. Такія сінанімічныя словазлучэнні суадносяцца з канструкцыямі ў сучасных гаворках беларускай мовы, таксама яны знаходзяць адлюстраванне ў літаратурнай мове, аднак ацэнка такіх моўных фактаў разыходзіцца ў розныя перыяды ў розных навукова-інтэрпрэтацыйных крыніцах. У «Нашай Ніве» зафіксаваны і некаторыя адзінкавыя спалучэнні, якія на дадзеным этапе адзначаюцца толькі ў дыялектах.

**Літаратура**

1. Арашонкава, Г. У. Кіраванне ў беларускай і рускай мовах: слоўн.-давед. / Г. У. Арашонкава, В. П. Лемцюгова. – Мінск: Вышэйш. шк., 1991. – 303 с.

2. Байкоў, М. Беларуска-расійскі слоўнік / М. Байкоў, С. Некрашэвіч. – Менск: Дзярж. выд-ва Беларусі, 1925. – Факс. выд. – Мінск: Нар. асвета, 1993. – 360 с.

[1] М. Беларус (псеўданім М. Гарэцкага) – родам са Мсціслаўшчыны; М. Арол (псеўданім С. Пяцельскага) – з Беласточчыны, А. Гурло нарадзіўся на Капыльшчыне.

3. Бандарэнка, Т. П. Сінтаксічныя варыянты і літаратурная норма / Т. П. Бандарэнка // Пытанні культуры пісьмовай мовы / пад рэд. А. І. Падлужнага. – Мінск: Нар. асвета, 1991. – С. 160–170.

4. Беларуская граматыка: у 2 ч. / рэд. М. В. Бірыла, П. П. Шуба. – Мінск, 1986. – Ч. 2: Сінтаксіс. – 327 с.

5. Блінава, Э. Беларуская дыялекталогія: вучэб. дап. для філал. фак. ВНУ / Э. Блінава, Е. Мяцельская. – 2-е выд., дапрац. і дап. – Мінск: Вышэйш. шк., 1980. – 304 с.

6. Граматыка беларускай мовы: у 2 т. / рэд. К. К. Атраховіч (Крапіва), М. Г. Булахаў, П. П. Шуба. – Мінск, 1966. – Т. 2: Сінтаксіс. – 756 с.

7. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Карты / пад рэд. Р. І. Аванесава, К. К. Крапівы, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск, 1963.

8. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы: уступ. арт. Давед. матэрыялы і камент. да карт / пад рэд. Р. І. Аванесава, К. К. Крапівы, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск, 1963. – 970 с.

9. Карский, Е. Ф. Белорусы: в 3 т. / Е. Ф. Карский; коммент. В. Н. Курцовой. – Минск: БелЭн, 2006. – Т. 2, кн. 2: Язык белорусского народа. – 512 с.

10. Каспяровіч, М. Віцебскі краёвы слоўнік: (матар'ялы) / М. Каспяровіч. – Віцебск, 1927. – Факс. выд. – Менск, 2011. – 371 с.

11. Корбут, В. З крыўскіх (беларускіх) балтызмаў / В. Корбут // Мовазнаўства [Электронны рэсурс]. – 2012. – Рэжым доступу: http://mowaznaustwa.ru/2009/03/19/v-korbut-z-kry%D1%9Eskix-belaruskix-baltyzma%D1%9E/. – Дата доступу: 19.06.2013.

12. Лёсік, Я. Граматычныя нататкі / Я. Лёсік // Узвышша. – 1927. – № 5. – С. 195–197.

13. Мова «Нашай Нівы» (1906–1915). Варыянтнасць. Сінанімія / В. П. Лемцюгова [і інш.]. – Мінск: Беларус. навука, 2005. – 303 с.

14. Мустейкис, К. Сопоставительная морфология русского и литовского языков / К. Мустейкис. – Вильнюс: Mintis, 1972. – 288 с.

15. Носович, И. И. Словарь белорусского наречия / И. И. Носович. – СПб., 1870. – 795 с.

16. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / уклад. Ю. Ф. Мацкевіч [і інш.]; рэд. Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск, 1979–1986. – 5 т.

17. Сцяцко, П. У. Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў / П. У. Сцяцко, М. Ф. Гуліцкі, Л. А. Антанюк; пад рэд. М. В. Бірылы. – Мінск: Вышэйш. шк., 1990. – 220 с.

18. Тураўскі слоўнік: у 5 т. / склад.: А. А. Крывіцкі [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982–1987. – 5 т.

19. Чудовіч, В. Формальны сынтакс / В. Чудовіч, С. Дружылоўская. – Менск: Бел. дзярж. выд-ва, 1930. – 152 с.

20. Шатэрнік, М. Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны / М. Шатэрнік. – Менск, 1929. – Факс. выд. – Менск, 2011. – 317 с.

21. Яўневіч, М. С. Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы: падруч. для студэнтаў філал. спецыяльнасцей / М. С. Яўневіч, П. У. Сцяцко. – Мінск: Аверсэв, 2006. – 286 с.

*Т. М. Маракуліна*

## НЕКАТОРЫЯ ТЫПЫ БЕЗАСАБОВЫХ СКАЗАЎ У ТЭКСТАХ ГАЗЕТЫ «НАША НІВА» І ІХ ДЫЯЛЕКТНЫЯ АДПАВЕДНІКІ

Нацыянальная адметнасць вербальнага мыслення выяўляецца не толькі ў лексіцы, фанетычным ладзе, марфеміцы, словаўтварэнні і марфалогіі мовы, але (і, магчыма, найперш) у пабудове фраз – сінтаксісе. Ва ўмовах моцнага ўплыву суседніх моў, якія на працягу стагоддзяў адчувала беларуская мова, менавіта сінтаксіс з'яўляецца найважнейшым сродкам і паказальнікам захавання адметнасці мовы беларускай нацыі: у сінтаксічных мадэлях словазлучэнняў і сказаў праяўляюцца асаблівасці спосабаў і сродкаў перадачы думкі, волевыяўлення і пачуццяў прадстаўнікоў беларускага этнасу.

Сінтаксічны лад новай беларускай літаратурнай мовы стаў «заканамерным працягам і вынікам развіцця сродкаў гутарковай мовы (дыялектнага сінтаксісу) і старабеларускай мовы (мовы выданняў Францыска Скарыны, В. Цяпінскага, Статутаў ВКЛ)» [4, с. 206]. Цесным узаемадзеяннем пісьмова-кніжных і гутарковых адзінак, а таксама імкненнем аўтараў праявіць сваю індывідуальную моўную манеру характарызуецца сінтаксіс газеты «Наша Ніва». Паказальнымі ў гэтым плане з'яўляюцца разнастайныя па сваіх асаблівасцях безасабовыя сказы. З пункту гледжання граматычнай арганізацыі, лексічнага напаўнення сінтаксічных мадэлей, інфарматыўнага

зместу безасабовыя сказы, якія актыўна функцыянуюць у мове газеты, уяўляюць самую шматлікую групу сярод усіх відаў аднасастаўных сказаў. У тэкстах «Нашай Нівы» яны выступаюць як самастойныя простыя сказы, але часцей з'яўляюцца прэдыкатыўнымі часткамі складаных сказаў.

Шырокая структурна-граматычная і семантычная разнастайнасць безасабовых сказаў у параўнанні з іншымі аднасастаўнымі сказамі, ужытымі ў тэкстах газеты «Наша Ніва», абумоўлена тым, што гэты від аднасастаўных сказаў асабліва характэрны для жывога вуснага маўлення, якое паслужыла асновай для ўсіх моўных стыляў, актыўнае фарміраванне якіх адбывалася менавіта ў нашаніўскі перыяд. З'яўляючыся неад'емнай часткай гутарковага сінтаксісу, безасабовыя сказы таксама шырока прадстаўлены ў якасці ілюстрацыйнага матэрыялу ў дыялектных слоўніках, напрыклад, у «Слоўніку беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча», у «Тураўскім слоўніку» і інш., у якія ўключана дыялектная лексіка з дастаткова вялікай тэрыторыі Беларусі. Гэта дае магчымасць для параўнання семантычных разнавіднасцей безасабовых канструкцый, найбольш ужывальных у тэкстах газеты «Наша Ніва» і адлюстраваных у беларускіх гаворках. Таму што менавіта ў цесным узаемадзеянні тэрытарыяльных дыялектаў і пісьмовай мовы, індывідуальнай моватворчасці пісьменнікаў і публіцыстаў на пачатку XX ст. адбывалася станаўленне і нармалізацыя сінтаксічнага ладу новай беларускай літаратурнай мовы.

Вызначальнай асаблівасцю ўсіх семантычных разнавіднасцей безасабовых сказаў з'яўляецца тое, што ў іх няма і быць не можа вытворцы дзеяння ці актыўнага дзеяча. Таму «асноўнае функцыянальнае прызначэнне безасабовых сказаў – адлюстроўваць і перадаваць такія рэферэнтныя сітуацыі, калі вытворцу дзеяння нельга або немагчыма, не трэба або не пажадана называць, яго ўвогуле няма ці ён невядомы, а самі дзеянні, працэсы або стан узнікаюць і доўжацца як па-за суб'ектам, так і непасрэдна ў ім, незалежна ад яго інтэнцыі» [3, с. 18]. Гэта спецыфіка знаходзіць сваё адлюстраванне як у структурнай арганізацыі безасабовых канструкцый «Нашай Нівы», так і ў іх разнастайных семантычных магчымасцях.

Традыцыйна ў навуковай літаратуры вызначаюць чатыры семантычныя сферы, уласцівыя безасабовым сказам: прыродныя і навакольныя з'явы; стан чалавека (яго ўнутраны свет і псіхіка, стыхійныя з'явы арганізма); сфера мадальнасці; сфера экзістэнцыяльнасці [6, с. 272]. Асаблівасці праяўлення катэгорыі безасабовасці падрабязна прааналізаваны на прыкладзе безасабовых сказаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы [3, с. 17–50]. Аднак сістэматызацыя семантыкі шматлікіх структурных тыпаў безасабовых канструкцый, засведчаных у мове газеты «Наша Ніва», выяўленне спецыфікі іх фукцыянавання і ўдакладненне найбольш уласцівых значэнняў вышэйназваных семантычных сфер застаюцца надзвычай актуальнымі для даследавання сінтаксічнага ладу беларускай мовы.

Класіфікацыя безасабовых сказаў паводле значэння праводзілася на матэрыяле створанай намі электроннай базы безасабовых сказаў, ужытых у публіцыстычных, мастацкіх і навукова-папулярных тэкстах газеты «Наша Ніва» (нумары за 1906 – 1915 гг., 1920 г.), у якую ўвайшло больш за 350 рэестравых слоў, выкарыстаных у якасці галоўнага члена ці аднаго з кампанентаў прэдыкатыўнага цэнтра, і каля 900 безасабовых сказаў.

Безасабовыя сказы, ужытыя ў тэкстах «Нашай Нівы», характарызуюцца вялікай мастацкай выразнасцю: з іх дапамогай перадаецца ўнутраны стан чалавека, фізічныя і псіхічныя працэсы ў яго арганізме, непазбежнасць дзеянняў, якія датычаць пэўнай асобы. «Класічным» праяўленнем безасабовасці з'яўляюцца сказы, у якіх паведамляецца пра розныя прыродныя з'явы і працэсы ў навакольным асяроддзі, што ўзнікаюць самі па сабе. Звычайна семантычны суб'ект у такіх сказах не вычляняецца: *Czuć-czuć* ***stała dnieć*** [1908, № 26, с. 3]; *У леси тым часам* ***развиднелася*** [1908, № 24, с. 4. Дзядзька Пранук. Не мужыцки розум]; *Змрокам* ***стала хмарыцца*** *і пашоў дождж* [1913, № 13, с. 3]; *А пакуль* ***змеркне****, яго* [*галоднага гаспадара*] *шынкары абчышчюць, як тую ліпку і выпіхнуць на вуліцу на мароз і на гразь* [1914, № 11–12, с. 3].

З пункту гледжання семантычнай дыферэнцыяцыі безасабовыя сказы з агульнай семантыкай ‘стан прыроды і навакольнага асяроддзя’ можна класіфікаваць і вылучыць безасабовыя канструкцыі, у якіх адлюстроўваюцца: а) заканамерныя сутачныя змены; б) атмасферна-метэаралагічныя з’явы прыроды і змены надвор’я; в) праявы стыхійных прыродных сіл.

У мове «Нашай Нівы» адзначаюцца безасабовыя сказы, што перадаюць *змену часу сутак*. Семантычны прэдыкат такіх сказаў прадстаўлены колькасна абмежаванай у беларускай мове групай уласна безасабовых дзеясловаў, якія маюць значэнне ‘займацца на дзень; світаць’, ‘брацца на дзень, развідняцца’, ‘разднець’; ‘блізіцца, набліжацца к вечару’, ‘пачынаць цямнець’, ‘сцямнець’: *Ужо* ***днее*** [1908, № 23, с. 1]; *Аж и* ***сьвитае*** *ўжо незначна* [1908, № 26, с. 6. Ясеў сын. Начлежник и злодзяй]; *А тымчасам* ***развіднялась***... [1910, № 1, с. 10. Якуб Колас. Вылечыу!..]; *Калі ўстане Максім паглядзець ці* ***вывіднела****, адчыніў дзьверы, а дошч, як с цэўкі ліе* [1912, № 11, с. 3. І. Сліжэвіч. Ня цешыць мяне]; ***Віднець*** *ужо* ***пачынало****, калі ешчэ агонь, мігочучы, перэлетаў то з сьвінарніка ў пекарню, то спекарні у сьвінарнік* [1912, № 12–13, с. 2. Ядвігін Ш. Рабы]; *Ješče i* ***widnieć nie pačynało****, kali ja... puściŭsia sa stancii Alechnowičy dalej u darohu* [1910, № 40, с. 619. Jadwihin Š. Listy z darohi]; *Ужо* ***вечарэло*** *калі я убачыў, каля самаго тракту белы дом маіх старых знаёмых* [1913, № 29, с. 2]; *Jak* ***zmierknie****, jak noč dzień zwajuje I zoraŭ pajawicca znak, Pa niwach, pa siołach šnuruje Tudy i siudy Woŭkałak* [1911, № 1, с. 10. Januk Kupała. Woŭkołak]; *Ужо* ***пачынала змеркацца****, як паслаў яго лясьничы з письмом да суседняго двара* [1907, № 35, с. 5. Лесавик. Василь Чурыла]; *...ўжо* ***зьмеркалася****, ведама калядны дзень: с кута у кут – і вечэр тут* [1914, № 46, с. 3. Л. Р. Падданы]; *Ужо добра* ***вечарэла*** *– Сонца ани знаку...* [1908, № 23, с. 12. Альбэрт Пав-ич. На начлезе]. Аналагічныя па значэнні безасабовыя канструкцыі з уласна безасабовымі дзеясловамі ў якасці семантычнага прэдыката зафіксаваны і ў дыялектных крыніцах: ***Вывідняла*** *ўжо* [5, т. 1, с. 345]; *Ужо* ***днее*** [5, т. 2, с. 76]; ***Змяркаяцца*** *ўжо* [5, т. 2, с. 318]; *Прочнувсе, то шче нэ* ***розвіднювало*** [5, т. 4, с. 250]; *Як толькі прыехалі, то* ***развідняла*** [5, т. 4, с. 250]; *І ўжо* ***світая*** [5, т. 4, с. 398]; ***Світае*** *– і пташкі ўжэ шчэбечуць у саду* [7, т. 5, с. 22]; *Сонцэ зайшло, ужэ* ***вечорэ́*** [7, т. 1, с. 123].

Значэнне змены часу сутак маюць сказы, семантычны прэдыкат якіх прадстаўлены асабовымі дзеясловамі са значэннем святла / цемры *святлець, цямнець, шарэць* і ўтворанымі ад іх формамі: *Ледзь* ***сьцямнее****, то спакойнаму чэлавеку і носа ня выткнуць; бо злыдні... пачастуюць цябе ўміг – калком або камянём* [1910, № 9, с. 148]; *Ўжо* ***цямнее***... [1910, № 30, с. 459]; *Чуць тольки* ***сьцямнела****, пачали зьбирацца палешуки* [1908, № 5, с. 4]; *Ў лесе* ***пачынае цямнець*** [1907, № 3, с. 4]; *Як толькі захавалося сонейка і* ***начало шарэць****, я... пайшла на высокі берэг рэкі Вулянкі* [1914, № 26, с. 4]. У дыялектным слоўніку зафіксавана наступная ілюстрацыя: *Ужо вечар,* ***цямняя****,* ***шарэя****,* ***змяркая*** [5, т. 5, с. 389].

У «Нашай Ніве» значэнне ‘розныя моманты сутак’ таксама маюць безасабовыя сказы, галоўны член якіх прадстаўлены прэдыкатывамі *сьветла, цёмна, відна (відней), позна* і інш.: *Ну, годзе ўжо спаці! Глянь:* ***сьветла*** *ўжо ў хаци...* [1908, № 9, с. 3. Янук Купала. Аратаму]; ***Цёмна*** *ў хаці, ноч глухая, ноч вясенняя ляжыць* [1910, № 1, с. 10]; *Маладзік выскачыў з-за аблокоў, і* ***зрабілося відна*** [1914, № 21–22, с. 2. Добранец. Жэртва]; *Šaść, i na ścianie zazijaŭ jasny miesiac, i* ***stało*** *u chacie* ***widna****, jak u dzień, – widać najmienšyje rečy* [1910, № 23–24, с. 358]; *...****позна*** *ўжо – пара мне чайную закрываць* [1908, № 4, с. 5. Вацюк Тройца. Цукер]. Дыялектныя слоўнікі таксама фіксуюць безасабовыя сказы з прэдыкатывамі *светла* (*светло*), *відна* (*відно, выдно*), *цёмна* (*цёмно, цемна*): ***Светла****, ужо відаць* [5, т. 4, с. 389]; *Ужэ* ***відно*** *– дзень* [7, т. 1, с. 125]; *Устала я, то ўжо было* ***відно*** [5, т. 1, с. 308]; *Сонцэ ны зыйшло, але вжэ* ***выдно*** [5, т. 1, с. 308]; ***Цёмна****, нічога ня відацца* [5, т. 5, с. 356].

У залежнасці ад інфармацыйнай зададзенасці ў структуру такіх сказаў вельмі часта ўключаюцца лакальныя, тэмпаральныя, а таксама квантатыўныя і квалітатыўныя канкрэтызатары: ***У леси*** *тым часам развиднелася* [1908, № 24, с. 4]; ***Na dware daŭno*** *ściamnieła; Ludzi ŭ wioskach lehli spać...* [1911, № 51, с. 669. Kołas. Paulukowa bieda]; *Цёмна,* ***хоць пальцам у вока пары*** [1908,

№ 10, с. 5. Сымонка. На вясельле!]; *Як **добра** змерклося, чорт нас торкнуў зайці да Гітлі у трахтыр* [1914, № 16, с. 2. К. Лейко. Пан Трудоўскі].

Значэнне ‘наступіць, надысці (пра час сутак)’ маюць засведчаныя ў «Нашай Ніве» спецыфічныя беларускія канструкцыі, якія ўключаюць ў сябе дзеясловы тыпу *звесціся*, *брацца* і інш. і прыназоўнікава-склонавае спалучэнне *да ночы*, *пад дзень (паддзень)*, *на зару* і пад: *Пратрымаў* [*лоўчы*] *нас* [*лесникоў*] *да вечара*, *а пад вечар загадаў дроў нарубаць*, *так **да ночы звялося*** [1907, № 10, с. 6. Мацей Бурачок. (Ф. Богушэвич). Палясоўшчык]; *Ноч. Ня сьпіцца. **Бярэцца паддзень*** [1912, № 11, с. 2. З. Бядуля. Шалёны]. Гэтыя ж канструкцыі распаўсюджаны ў паўночна-заходніх беларускіх гаворках, фіксуюцца яны і «Тураўскім слоўнікам», пра што сведчаць наступныя тэкставыя ілюстрацыі: ***Днее** чуць-чуць **на зару*** [5, т. 2, с. 75–76]; *Ужо **на зорачку займаецца**, будзя відняць, неба розавата* [5, т. 3, с. 114]; *Днее*, ***занімаецца на дзень*** [7, т. 2, с. 21]. Паралельна з безасабовымі канструкцыямі *брацца на... хіліцца на... збірацца на...* і інш. у «Нашай Ніве» і ў дыялектных крыніцах ужываюцца двухсастаўныя сказы тыпу *Бярэцца паўдзень* [1912, № 11, с. 2]; *Ужо слонца паўдня бярэцца* [5, т. 1, с. 215].

Асноўную колькасць безасабовых сказаў са значэннем *атмасферна-метэаралагічных з’яў прыроды* як у тэкстах «Нашай Нівы», так і ў мове дыялектаў складаюць сказы, у якіх галоўны член – гэта ўласна безасабовы або асабовы дзеяслоў, які набыў якасці безасабовага: *Выступала цёмная хмара, / Неба **аблажыла**; / Стоўбам віхры закруцілі. / І бура забыла* [1914, № 7, с. 2]; ***Ліло**, як з рэшата, дажджом, раўняло нізкі дол узгорам...* [1912, № 37, с. 2. Янка Купала. Паляунічы і пара галубкоу]; *З вечара у сераду **захмурэло*** [1913, № 11, с. 3. І. Сліжэвіч. Ня цешыць мяне...]; *Змрокам **стала хмарыцца** і пашоў дождж* [1913, № 13, с. 3]; *Padyjmałasia chmara*, ***hrymieło*** [1911, № 27, с. 344. T. Hušča. Dzialićba]; *Niet wiedama jakije buduć sioletnije uradžai u nas* [*hor. Dzisna*, *Wilensk. hub.*]. *Wiasnoj **zasušyło**, byli prymarazki...* [1911, № 23, с. 300]; *Сьнегу крыху **выпала**, и марозы ужо стали, циснуць – на то их пара!* [1908, № 23, с. 10]; *Śniehat darohu **zasłało**, Nudna u poli s kaniot...* [1911, № 2, с. 27]; *Гурбы сьнегу **навярнуло** на дзядзінцу і німа на’т як дабрацца да яго* [*Міхайлы*] [1915, № 16, с. 2. Змітрок Бядуля. Туга старога Міхайлы]; *Цяпер **падсыпала** крыху сьнегу, дык лягчэй будзе прывезьці дроў з лесу, дый сена з балоціны* [1910, № 6, с. 98]; *...**Засьнежыла** вяликими гурбами мужыцкую Расею, тольки чуць тырчаць аскубаныя стрэхи* [1907, № 10, с. 4]; *Шмат вады **прыбыло** ад навальніц, шмат прынесьлі яе рэкі Стыр і Горынь, цекучы с пад Карпацкіх гор* [1913, № 34, с. 4]; *Wady **nadało** stolki, što u Michiejeucy zniasło pa rečsy most* [1911, № 33, с. 190]; *Siahonnia duža **pachaładzieła**, ranicaj nawat byŭ maroz* [1910, № 25, с. 380]; *Першая трэцьця часць мая будзе дужа цёплай, з 10–12 мая **пахаладзее*** [1913, № 13, с. 2]; ***Zachaładało**, śnieh, jak paściłkaj, zasłaŭ usio...* [1911, № 40, с. 501. Hałubok. Bor]; *Сьнег **сагнало**, пагразнеўшая дарога падсохла* [1914, № 14, с. 3]; *Цираз нядзелю па грамніцах у суботу, вецяр завеяў з Мігава – с цёплага боку – і троху **зліжало*** [1913, № 11, с. 2. І. Сліжэвіч. Ня цешыць мяне твой жаурук]; *Жарыць сонцэ без літосьці, / Варам **пышэ** ад палёў...* [1913, № 32, с. 3. Якуб Колас. Песьня жніва]; ***Задажджылася** на дзён тры* [5, т. 2, с. 204]; *Цэлы дзень **хмурыла*** [5, т. 5, с. 314]; *Як **захаладала**, я думала – **пацепляя*** [5, т. 2, с. 263]; ***Навеяла** гурбы роўна с плотам* [5, т. 1, с. 505]; *Гурбы снегу **панадувала*** [5, т. 1, с. 505]; ***Накруціла** гурбы, не відаць хаты* [5, т. 1, с. 505].

Да безасабовых сказаў, што абазначаюць змены ў навакольным асяроддзі, адносяцца і сінтаксічна непадзельныя спалучэнні дзеясловаў *брацца*, *збірацца* і інш. з лексемамі *мароз*, *дождж*, *цяпло* і пад. з прыназоўнікам *на*: *Збіраецца на дош* [5, т. 2, с. 276]; *Зранку на цёплы дзень паказвала* [5, т. 3, с. 336]; *Зранку паказвала на дожч* [5, т. 3, с. 337]; *Паказвае нібы заўтра на пагоду* [5, т. 3, с. 337]; *Як станя на пагодзі, буду касіць* [5, т. 3, с. 114]. Аднак, як паказаў аналіз фактычнага матэрыялу, шырока ўжывальнымі ў гэтым значэнні з’яўляюцца і двухсастаўныя сказы: *Што дзень мароз браўся ўсё шчырэй ды шчырэй* [1913, т. 11, с. 2]; *Цяпло берыцца* [5, т. 1, с. 215]; *Марос будзіць брацца* [5, т. 1, с. 215]; *Можа, дошч сабярэцца* [5, т. 4, с. 340].

У асобную групу можна вылучыць безасабовыя сказы са значэннем стану прыроднага асяроддзя, семантычны прэдыкат якіх складаюць прэдыкатывы (са звязкай) са значэннем якаснай

ацэнкі тэмпературы навакольнага асяроддзя, руху паветра, ападкаў і г. д.: ***Сіверна*** *й* ***ціха****... Птушэк, што ўсьпевалі летам, даўно ўжо німа...* [1912, № 10, с. 2]; *Nie zaprahaj nia kutaho kania, kali* ***koйzka*** [1911, № 42, с. 538]; *Бывала зімой мятуць сьнег, скрабуць лёд с тротуароў і пасыпаюць пясочкам – каб* ***сьлізка не было*** [1914, № 3, с. 2]; *Касьбой утомлены, спачынеш. І думкі клопату пакінеш, заснуўшы крэпка і салодка. Тут так* ***цяніста і прывольна****!* [1912, № 28–29, с. 1. Якуб Колас. Лесьнікова пасада]; *...і думалі, што ужо* ***будзе цёпла*** [1912, № 12–13, с. 4]; *С палавіны студня* ***стала цёпла*** [1914, № 14, с. 3]; *Prajšoй wietach, Maładzik, Powien miesiac zaświacій.* ***Jasna****,* ***ciopła****; Wieciarok Ŭ poli pyłam zakuryй* [1911, № 27, с. 340. K. Kahaniec. Ściaty kamień]; ***Цуха было*** *ў густом бары* [1906, № 3, с. 6]; *Usiudy tak* ***cichusieńka****, Spakoj taki ukruh! U niebi chmarki świetłyje Pływuć, pływuć jak puch* [1910, № 20, с. 317. Jakub Kołas. Dumki]; *Pranizywaje wiecier adzieži tak krepka, što* ***ściudziona*** *nia u mienšaj miery, čym pry 20 hradusach* [1911, № 2, с. 30]; *Неба пачало цямнець.* ***Стала*** *крыху* ***сцюдзёна*** [1914, № 19, с. 2. Міхалка Галка. Любоў Агаткі]; *Скора ўжо вечар,* ***хораша*** *так,* ***цёпла****, у гары шчабечуць жаваранкі* [1915, № 9, с. 3. С. Бірыло. Стражнік]; *Usiudy* ***cicha-choraša****, Jak* ***choraša*** *wiasnoj!* [1910, № 20, с. 317. Jakub Kołas. Dumki]; ***Парно****, ек у мешку*! [7, т. 4, с. 13]; *Так* ***чадно*** *на полі од жары!* [7, т. 5, с. 286]; *Ужэ* ***цяпло*** [5, т. 5, с. 392].

У асобных выпадках наяўнасць пэўнага кантэксту дазваляе вызначыць ужыванне прэдыкатываў у пераносным значэнні: *Пуста і* ***нудна*** *ў полі: снапы ўжо даўно звезены ў гумны, дзе іх малоціць цэпамі маладая сіла мужыка беларуса* [1910, № 42, с. 646. Ф. Чэрнышэвіч. Восень]; ***Sumna****,* ***nudna niepryhoža****; Apuścieli les i haj. Usie ptuški palacieli U daloki, cioply kraj* [1911, № 45, с. 588. K. Bujło. Wosień]; *Лес далёка, ў поли ціха;* ***Прыкра****; глуш нямая..* [1908, № 23, с. 12. Альбэрт Пав-ич. На начлезе].

Прэдыкатывы вызначаюць не толькі атмасферна-метэаралагічны стан прыроды, але і стан навакольнага асяроддзя і абставін увогуле: *Кругом* ***глуха і ціха****; толькі калі-некалі с хмызнячку выскачыць зайчык і пусьціцца ў поле, ды ў ночы чутно, як выюць галодные воўкі...* [1915, № 9, с. 2. С. Бірыло. «Стражнік»]; *На дарози пад шырока раскинуўшымися вербами* ***было*** *заўсим* ***чорна*** [1907, № 16, с. 6]; *U našaj wioscy 56 chat. Šmat padzialilisia ŭžo, tak što z ziamloj* ***ciesna*** [1911, № 4, с. 59]; *На шырокай и простай дарози, што вядзець да места –* ***пуста*** [1907, № 3, с. 3]; *Пот чурком ліе безбрэжна; жар, што на'т сапсьці ня можна;* ***затха****, як у клеці* [1910, № 41, с. 632. Альбэрт Паўловіч. Скарб]; ***Тускла****,* ***глуха****, як у скрынцы, Толькі кусьцікі шумяць. Меж прысады па гасьцінцы Нікагутка не відаць* [1910, № 1, с. 11. Якуб Колас. Вылечыу!..]. Аналагічнае значэнне маюць сказы з семантычным прэдыкатам, выражаным дзеясловам: *...шыбы ў вокнах брудам* ***пазацягівала*** *і мала праз іх ідзе сьвета* [1910, № 8, с. 131]; *У Новагрудку Минск. губ. быў вялики пажар.* ***Палилося*** *два дни* [1907, № 31, с. 6].

У такіх сказах вельмі часта ўжываецца лакальны канкрэтызатар. У «Нашай Ніве» найбольш распаўсюджанымі з'яўляюцца назоўнікава-склонавыя спалучэнні *на дварэ* і *ў хаце*: *Ціха ў хаці; змоўклі дзеці Толькі сьмех ня сходзіць з губ* [1910, № 1, с. 12. Якуб Колас. Вылечыу!..]; *А ў хаце чадна, сцюжа, пасьля начы* [1913, № 2, с. 2]; *У хаці было, можна сказаць, чыста (дзьве дзеўкі былі, каторых замуж хоць у пятніцу выдавай)* [1912, № 15–16, с. 3]; *Ў зимку ў нашых хатах стала далёка цяплей и сушэй. Пякуць, смажаць, нават самавары ставяць – усё на торфе* [1908, № 7, с. 5]; *На момэнт ў хаци зрабилася циха* [1908, № 5, с. 5]; *Ў хаце сьветлай и прасторнай Холадна без конца; Праз вакно, хоць паглядае, Ды ня грэе сонца* [1908, № 7, с. 3]; *Душна ў хаці, печка грэе...* [1912, № 11, с. 4. А. Паўловіч. На сходцы]; *...на дварэ і у хаці была душна, як у лазні* [1913, № 9, с. 3].

У безасабовых сказах са значэннем *дзеянняў стыхійных прыродных сіл або дзеянняў ваеннага характару* прэдыкатыўным цэнтрам з'яўляецца асабовы дзеяслоў – яго безасабовасць абумоўлена самім значэннем мадэлі. У сказах акцэнт робіцца на самім дзеянні і характары яго праяўлення, а семантычны суб'ект – гэта невядомая сіла, якую нельга назваць ці дакладна вызначыць: *Першые два гады ураджаі зусім благіе, на сырых і халодных землях тайгі збожэ* ***выганяе*** *адно ў салому* [1910, № 35, с. 532].

У «Нашай Ніве» паводле семантыкі вылучаюцца дзеясловы, якія абазначаюць:

а) механічнае ўздзеянне: *У раскошных прасонках* ***скранула*** *лісткамі, і з аксамітнай іх зелені пасыпаліся шнуркі брылянтавай расы...* [1912, № 12–13, с. 1]; *22 мая а пятай гадзіне вечара праляцела над Вільняй навальніца. Некаторые вуліцы* ***паразмывало і затапіло***, ***пазалівало*** *і склепы* [1910, № 22, с. 345]; *U Čerkaskim pawiecie buraj I ulewaj* ***zništożyło*** *17 budynkoй* [1910, № 29, с. 446]; *...ад агня было некольki такіх моцных узбухаў аптэчных лекарств, што* ***вырвало*** *жалезные дзьверы, а ў суседніх вокнах павылеталі шыбы* [1910, № 22, с. 346]; *У сяле Остраве* ***абурыла*** *манапольку (мабыць вецер ведаў, што гэта згуба нашых селян)* [1914, № 3, с. 3]; *Nad horadam* [*Wołkowyskom*] *i akolicaj pralacieła 3-aho krasawika nawalnica z hradam*: ***paraztywało*** *hrebli;* ***paznosiło*** *masty i młyny...* [1910, № 16–17, с. 266]; *Праляцела страшэнная навальніца;* ***забіло*** *пярунамі 4-ох чалавек, 5 каней і карову...* [1910, № 21, с. 333]; ***Засыпала*** *[тынкам] больш 200 крэслоў дэпутацких, и шмат пакрышыла ў шчэпки* [1907, № 10, с. 2]; *Хаты [пасля віхору на моры]* ***пазмывало*** *саўсім...* [1914, № 10, с. 4];

б) самаадвольнае праяўленне гуку: *Стукнулися гэта дзьве маладые голавы и так моцна, што аж* ***разляглося*** *па хаци* [1907, № 12, с. 3. Элиза Ожэшкова. Гэдали]; *Руками размахваў шырока* [*хлопец*] *и крычаў так моцна, што аж па поли* ***расхадзилася*** *далёка* [1907, № 11, с. 4. Элиза Ожэшкова. Гэдали]; *...Гэй! Чуй!.. З села на грэблю* ***затарахтало***, *і едзе мужык* [1912, № 10, с. 2. Н. Бываеўскі. Перад раніцаю]; *Гах! драгаюць пяруны... О, зноў* ***заляскатала***! [1915, № 16, с. 3. Л. Р. Думкі мужыка].

У гэтых жа значэннях безасабовыя сказы фіксуюць дыялектныя слоўнікі: *Яе* ***забіла*** *пяруном* [5, 4, с. 218]; *Смугой ваду* ***зацягнула*** [5, 4, с. 506]; *Выспою* ***засыпало*** *рэчку* [7, 1, с. 177]; *Зара* ***заліло*** *ўсе, а потом падае вода да сухо зробіцца* [7, 4, с. 7]; ***Загнала*** *поле пяском пасля разліву* [5, 2, с. 200]; ***Ляскало*** *цэлу ноч* [5, 2, с. 722];

в) самаадвольнае праяўленне паху і яго распаўсюджання або нейкай з'явы, якая ўспрымаецца органамі пачуцця: ***Пахла*** *свечкамі і маладымі ёлачкамі* [1913, № 16–17, с. 2]; *На некольki дзесяткаў рублёў гарэлкі* ***вытахлася!*** [1914, № 49, с. 3]; *Нябось, кажэ, я добра прыгледзелася: и морда яго* [*мядзьведзя*], *и хвост кароценьки, и зароў, як трэба, аж* ***засьмярдзела*** [1907, № 10, с. 6]; ***Запахла*** *сьвежай, тлустай, чарноземью* [1913, № 2, с. 1. Зм. Бядуля]; *...ад рэкі* ***пацягнула*** *халодным, сырым ветрам* [1914, № 26, с. 4]; *Добра* ***пахнець*** *сенам* [5, т. 3, с. 465].

У такіх безасабовых сказах дзеясловы могуць ужывацца ў другасным, пераносным значэнні. У «Нашай Ніве» яны абазначаюць такія з'явы, якія не могуць успрымацца па паху ці веянні. Гэта можа быць адлюстраванне прыроднай сітуацыі: *Скора зноў вясною Цёплаю* ***павее***.. [1910, № 38, с. 591. Альбэрт Паўловіч. Небядуй, што восень...]; *Śnieh pazłaziй, – wiasnoj* ***zapachło*** *и pawietry* [1911, № 12, с. 172]; ***Павеяла*** *вясною, ажыў божы сьвет, и ажыли надзеи мужыка* [1907, № 14, с. 8]. У некаторых сказах выражаецца прыкмета, што вызначае маральны бок грамадскай сітуацыі, перадаецца асабістае адчуванне ці ўспрыманне нейкай з'явы ці падзеі: *Ci maroz zniačejku /Was prybiй wiasnoju / Jak na ścieżku żyćcia / S prostoju dušoju / Staй, ja pойnу wiery, / Radaści i siły / Što-ž na was* ***dychnuło*** */ Choładam mahiły?* [1910, № 11, с. 181. Jakub Kołas. Dumki]; *Ale što raz dalej – što raz mieniej* ***pachnie*** *haradzkoj kulturaj...* [1910, № 29, с. 438]; *Ci nia čuješ, jak radaściu nadziei, radaściu skoraho uwaskresieńnia* ***wieje*** *na ciabie ad hetych słoй: – Chrystos Uwaskros!* [1910, № 16, с. 249. S. Połujan]; *Чым-ся мілым, чым-ся родным / Ад вас* ***павевае***, */ Аж мне сэрцэ ў сьпеў лагодны / Ціха ахінае* [1913, № 34, с. 2. Якуб Колас. Дубы]; *С песень, танцоў і апратак* ***веяло*** *шырокім Палесьсем,* ***веяло*** *душой беларускаго народу* [1910, № 9, с. 144]; *Праўдай, верай у будучыну, бодрасьцю, але і нейкім жалем раз з глыбокім самопазнаньнем* ***вее*** *ад усіх твороў Янкі Купалы* [1910, № 38, с. 581].

Дзеясловы, якія паводле сваёй семантыкі абазначаюць самастойнае праяўленне гуку, а таксама паху, як правіла, непераходныя. Е. М. Галкіна-Федарук характарызуе семантыку такіх дзеясловаў як «дзеянне якойсьці невядомай сілы, што ўтварае дзеянні безадносна да аб'екта» [1, с. 139].

Такім чынам, аналіз фактычнага матэрыялу паказвае, што сярод безасабовых сказаў са значэннем *стану прыроды і навакольнага асяроддзя* найбольш ужывальнымі ў мове газеты «Наша

Ніва» з’яўляюцца сказы, якія адлюстроўваюць пэўныя фрагменты рэчаіснасці, звязаныя з заканамернымі *сутачнымі зменамі* і *атмасферна-метэаралагічнымі з’явамі*. Яны характарызуюцца як шырокай структурна-граматычнай разнастайнасцю галоўнага члена, так і яго адметным лексічным напаўненнем. Семантычны прэдыкат такіх сказаў прадстаўлены колькасна абмежаванай у беларускай мове групай уласна безасабовых дзеясловаў, асабовымі дзеясловамі, якія набылі якасці безасабовых тыпу *сьвитае*, *развіднялась*, *вывіднела*, *віднее*, *вечарэло*, *зьмеркалася*, *шарэла*, *цямнела*, *захаладала*, *захмурэла*, *засьнежыла*, *зліжало* і інш., а таксама прэдыкатывамі са значэннем якаснай ацэнкі тэмпературы навакольнага асяроддзя, руху паветра, ападкаў і г. д.: *сіверна*, *сцюдзёна*, *коўзка*, *холадна*, *цёпла*, *ціха* і інш. Адзначаны спецыфічныя беларускія канструкцыі, якія ўключаюць у сябе дзеясловы тыпу *звесціся*, *брацца* і інш. і прыназоўнікава-склонавае спалучэнне, у якое ўваходзяць лексемы *ноч*, *дзень*, *мароз*, *дождж*, *пагода* і пад. і прыназоўнікі *да*, *пад*, *на*. Усе асноўныя структурна-граматычныя і лексіка-семантычныя асаблівасці, характэрныя для безасабовых сказаў, адзначаных у нашаніўскіх тэкстах, уласцівы і безасабовым сінтаксічным канструкцыям, зафіксаваным у дыялектных крыніцах, што яшчэ раз пацвярджае думку, што ў пачатку ХХ ст. менавіта на старонках «Нашай Нівы» «імкліва нараджалася, набывала вагу і аўтарытэт новая беларуская пісьменнасць, фармавалася якасна новая беларуская літаратурная мова на базе і па законах жывой народнай мовы» [2, с. 10].

**Літаратура**


1. Галкина-Федорук, Е. М. Безличные предложения в современном русском языке / Е. М. Галкина-Федорук. – М.: Изд-во Моск. ун-та, 1958. – 332 с.
2. Мова «Нашай Нівы» (1906–1915). Варыянтнасць. Сінанімія / В. П. Лемцюгова [і інш.]. – Мінск: Беларус. навука, 2005. – 303 с.
3. Рамза, Т. Р. Безасабовыя сказы / Т. Р. Рамза. – Мінск: Тэхналогія, 1998. – 71 с.
4. Рамза, Т. Сінтаксіс / Т. Рамза // Беларуская мова / red. nauk. A. Lukašanec, M. Prigodzič, L. Sjameška. – Un-t Opolski – In-t Filologii Polskiej, Opole, 1998. – 293 с.
5. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / уклад. Ю. Ф. Мацкевіч [і інш.]; рэд. Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск, 1979–1986. – 5 т.
6. Степанов, Ю. С. Личности – безличности категория / Ю. С. Степанов // Лингвист. энцикл. слов. / под ред. В. Н. Ярцевой. – М., 1990. – С. 272–273.
7. Тураўскі слоўнік: у 5 т. / склад.: А. А. Крывіцкі [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982–1987. – 5 т.


*Ю. Л. Хвіланчук*

## ДЗЕЯСЛОЎНЫЯ СІНТАКСІЧНЫЯ КАНСТРУКЦЫІ ТЫПУ *ПАЙСЦІ ПА АЖЫНЫ, ІСЦІ ЗА ГРЫБАМІ, ХАДЗІЦЬ У ЯГАДЫ* Ў БЕЛАРУСКІХ НАРОДНЫХ ГОВОРКАХ

Сінтаксічныя канструкцыі з мэтавымі адносінамі шырока вядомы ў беларускіх народных гаворках. Такія словазлучэнні выражаюць цэлы спектр значэнняў і іх адценняў і ў народнай мове выкарыстоўваюцца для перадачы ўласна-мэтавага значэння: *будзіць да работы* [17, т. 2, с. 331; Кіралі Шчуч.], *паехаць на лячэнне* [17, т. 1, с. 185; Пасіене Лудз.]; для абазначэння мэты выкарыстання, прызначэння прадмета: *вылечыць ад хваробы* [15, ч. 1, с. 28; Сухавежа Мёр.], *накроіць на лапці* [20, т. 1, с. 187; Сямурадцы Жытк.]; для ўказання мэты дзеяння з адценнем матывіроўкі ці прычыны яго: *навязаць для скаціны* [17, т. 1, с. 303; Альхоўка Навагр.]; для выражэння значэння аб’екта, які з’яўляецца мэтай дзеяння *пайсці па агуркі* [17, т. 1, с. 50; Альхоўка Навагр.], *пайсці у маліны* [15, ч. 1, с. 78; Сар’я Верхнядзв.], *ісці за вадой* [15, ч. 1, с. 283; Сухавежа Мёр.] і інш. Асаблівасцямі ўжывання фінітыўных[1] канструкцый цікавіліся многія даследчыкі [2, с. 271–277;

[1] Фінітыўныя словазлучэнні (фінітывы) – кампаненты са значэннем мэты. Гл.: Синтаксический словарь: Репертуар элементарных единиц русского синтаксиса. М., 1988.

7, с. 17–22; 8; 12, с. 181–183]. Аднак пытанне выражэння з дапамогай прыназоўнікаў як мэтавых, так і іншых сэнсавых адносін у беларускім мовазнаўстве не атрымала дастатковага асвятлення. Вывучэнню значэнняў і функцый прыназоўнікаў у сучаснай беларускай мове прысвечана дысертацыя М. С. Яўневіча, невялікі раздзел у «Граматыцы беларускай мовы» [1966] і некаторыя артыкулы[1] [10, с. 27–38; 22, с. 57–65; 24, с. 65–67; 25, с. 212–241].

Спецыяльных прац па даследаванні фінітыўных прыназоўнікавых словазлучэнняў у беларускіх народных гаворках ўвогуле няма. Спосабы выражэння мэтавых адносін вывучаюцца галоўным чынам толькі на матэрыялах літаратурнай мовы. Хаця беларускія народныя гаворкі даюць нам багаты матэрыял для вывучэння дадзеных словазлучэнняў, бо менавіта фінітыўныя канструкцыі ў гаворках афармляюцца пры дапамозе шматлікіх прыназоўнікаў: *па*, *у*, *за*, *на*, *пад*, *для*, *дзеля*, *да* і інш. Але ў артыкуле мы прааналізуем фінітыўныя канструкцыі з прыназоўнікам *у*, *па*, *за*, у якіх аб’ект-мэта выражаецца зборным[2] (грыбы, ягады і пад.) ці канкрэтным (назвы ягад, грыбоў і інш.) назоўнікамі.

На сёння ў беларускай мове няма адзінага погляду наконт выкарыстання адпаведных прыназоўнікаў у такога тыпу канструкцыях. Некаторыя даследчыкі лічаць, што ў словазлучэннях, калі ўжываюцца назвы *ягад*, *грыбоў*, а таксама само слова *ягады*, *грыбы*, пры аб’екце ставіцца прыназоўнік *у* [3, с. 338]. Аўтары «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» прытрымліваюцца думкі, што ў такіх канструкцыях ужываецца прыназоўнік *па* [19].

Аднак нягледзячы на разыходжанні думак адносна нарматыўнага статусу дадзеных словазлучэнняў, канструкцыі тыпу *пайсці па ажыны*, *ісці за грыбамі*, *хадзіць у ягады* і пад. традыцыйныя і шырокаўжывальныя ў беларускіх народных гаворках. Яны выражаюць мэтавыя адносіны і з’яўляюцца сінанімічнымі[3], адрозніваюцца пэўным семантычным адценнем, будовай і тэрыторыяй распаўсюджвання. Аб гэтым сведчыць не толькі «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (1963), дзе адлюстравана тэрыторыя функцыянавання мэтавых канструкцый з прыназоўнікамі *у*, *па* і *за* [5, карты № 214–216], але і корпус сінтаксічных адзінак, сфарміраваны на аснове суцэльнай выбаркі матэрыялаў з лексікаграфічных выданняў: «Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе парагранічча» (СПЗБ; 1979–1986), «Тураўскі слоўнік» (ТС; 1982–1987), «Рэгіянальны слоўнік Віцебшчыны» (РСВ; Ч. 1, 2012), «Слоўнік Сенненшчыны» (СС; Т. 1, 2013), «Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі. Цэнтральная зона» (2009).

У выніку аналізу створанай электроннай базы сінтаксічных адзінак, зафіксаваных у слоўніках, было выяўлена, што дадзеныя фінітыўныя сінтаксічныя канструкцыі характэрны для гаворак усёй Беларусі. Але самую прадуктыўную групу складаюць словазлучэнні з прыназоўнікам *у і па* і залежным назоўнікам у форме вінавальнага склону. Для паўночна-заходняй і цэнтральнай зон гаворак беларускай мовы характэрна ўжыванне сінтаксічных канструкцый тыпу *пайсці па ажыны*. Словазлучэнні тыпу *пайсці ў ягады* былі зафіксаваны ва ўсіх лексікаграфічных выданнях, г. зн., што дадзеныя словазлучэнні распаўсюджаны на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Фінітывы тыпу *пайсці за грыбамі* лакалізуюцца ў асноўным у паўднёва-ўсходняй і заходняй зонах. Менавіта такое функцыянаванне фінітыўных словазлучэнняў відавочна невыпадковае.

У артыкуле мы паспрабавалі выявіць і ўстанавіць прычыну падобнай прадуктыўнасці і пашырэння прыназоўнікавых фінітыўных канструкцый у беларускіх народных гаворках, вызначыць прыватныя значэнні мэтавых словазлучэнняў, статус дадзеных адзінак у мове.

Рэалізаваць гэта магчыма, прасачыўшы гісторыю развіцця і пашырэння такіх канструкцый у іншых славянскіх мовах.

---

[1] Гл. асобныя артыкулы і некаторыя манаграфічныя даследаванні моваведаў М. С. Яўневіча, А. Н. Навумовіч, П. П. Шубы, Т. Бандарэнка, Н. Шэўчыка, У. Ц. Піскуна, В. І. Рагаўцова, С. Станкевіча, А. Каўруса, Н. І. Ратнікавай, В. Г. Зялёнка і інш.

[2] У дадзеным артыкуле паняцце зборнасці вызначаецца семантыкай назоўнікаў. Назоўнікі *грыбы*, *ягады* абазначаюць сукупнасць пэўных відаў грыбоў, ягад.

[3] Сінанімічныя канструкцыі – сінтаксічныя канструкцыі (словазлучэнні), аднолькавыя ці блізкія па значэнні, тоесныя па функцыі, але розныя сінтаксічнай будовай, стылістычнымі асаблівасцямі (сінанімічныя сінонімы). Гл.: Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў. Мінск, 1990.

Сінтаксічныя канструкцыі тыпу *пайсці па ажыны*, *ісці за грыбамі*, *хадзіць у ягады* і пад. не з’яўляюцца інавацыйнымі сінтаксічнымі канструкцыямі. Дадзеныя словазлучэнні былі вядомы са старажытных часоў. Яны з’яўляліся тыповамі і для старабеларускай мовы. У старажытнарускай і рускай мовах XV–XVII стст. прыназоўнік *па* з вінавальным склонам быў даволі прадуктыўным і распаўсюджаным для выражэння мэтавых адносін. Гэту функцыю прыназоўнік *па* выконваў пры дзеясловах руху і перамяшчэння. Залежнае слова ў форме вінавальнага склону абазначала аб’ект мэты і магло быць выражана назоўнікамі, якія называюць асобу, адушаўлёныя і неадушаўлёныя прадметы, а таксама займеннікамі: *не хожаше зять по невѣсту*, *послаша по ню*, *шедь по водоу* [9, с. 394–402]. З XVIII ст. прыназоўнік *па* (*по*) страчвае сваю мэтавую функцыю і выцясняецца прыназоўнікам *за*. У рускай мове мэтавыя адносіны ў канструкцыях з прыназоўнікам *па* захаваліся толькі ў фальклоры, гутарковай мове і дыялектах [14, с. 179–187]. Канструкцыі тыпу *пойти в ягоды* распаўсюджваюцца ў некаторых групах рускіх гаворак. Яны характэрны для Заходняй, Верхне-Дняпроўскай, Пскоўскай і Гдоўскай груп рускіх гаворак [14, с. 183]. Арэал гэтай сінтаксічнай з’явы прымыкае да межаў Беларусі.

Найбольш поўна і паслядоўна мэтавая функцыя прыназоўніка *па* выявілася ў беларускай і ўкраінскай літаратурных мовах і іх дыялектах. Калі залежны назоўнік абазначае зборнае паняцце, у беларускай мове ў мэтавым значэнні побач з прыназоўнікам *па* ўжываецца прыназоўнік *у* з вінавальным склонам: *пайсці ў грыбы*, *у ягады* – значэнне ‘збіраць грыбы, ягады’. Ва ўкраінскай літаратурнай мове сінанімічным з *па* ў канструкцыях з фінітыўным значэннем з’яўляецца прыназоўнік *за*: *посилала за ягодою*, *прийшов по грибы*. Ва ўкраінскіх дыялектах – таксама *у*, *на*: *ходити на траву*. У польскай літаратурнай мове ў гэтым значэнні ўжываецца прыназоўнік *па*: *poszedł na jagody*. Адпаведна ён шырока вядомы і ў польскіх гаворках: *poszed na żywicę* [2, с. 271–277].

Такім чынам, улічваючы тэрыторыю пашырэння ў гаворках славянскіх моў адзначаных канструкцый і іх статус у адпаведных ім літаратурных мовах, можна адзначыць, што фарміраванне фінітыўных словазлучэнняў тыпу *пайсці па ажыны*, *ісці за грыбамі*, *хадзіць у ягады і* пад. адбывалася на працягу ўсёй гісторыі развіцця мовы. Як спадчына папярэдніх часоў фінітыўныя канструкцыі працягваюць ужывацца ў сучасных беларускай, рускай, украінскай, польскай і іншых славянскіх мовах. Але прыназоўнікі *па (по)*, *у* і *за* ў значэнні аб’екта як мэты па-рознаму адлюстраваны ў сучасных славянскіх мовах. У рускай літаратурнай мове канструкцыя *за + творны склон* стала нормай, а ў беларускай літаратурнай мове нарматыўнымі лічацца *у + вінавальны* і *па + вінавальны*. Словазлучэнні з прыназоўнікам *па* ўласцівы таксама ўкраінскай і польскай літаратурным мовам [12, с. 181–182].

Усе дадзеныя словазлучэнні, якія выражаюць мэтавыя адносіны, розняцца паміж сабой спектарам прыватных значэнняў. Адной з падстаў функцыянавання сэнсавай неаднастайнасці з’яўляецца тое, што яны сфарміраваліся на аснове прасторавых. Н. П. Някрасаў падкрэсліваў, што мэтай дзеяння з’яўляецца, па сутнасці, пункт канца дзеяння, г. зн. усё тое, да чаго імкнецца дзеянне. Даследчык Л. П. Падгайскі вылучае чатыры прыватныя мэтавыя значэнні (ён іх называе адценнямі): уласна мэтавае; указанне на прызначэнне прадмета (мэту яго выкарыстання); абазначэнне мэты дзеяння з адценнем матывіроўкі ці прычыны яго; абазначэнне аб’екта, які з’яўляецца мэтай дзеяння [23, с. 212].

Словазлучэнні тыпу *пайсці па ажыны*, *хадзіць у ягады*, *ісці за грыбамі* маюць значэнне аб’екта, які з’яўляецца мэтай руху або дзеяння. Прыназоўнік *па* з формай вінавальнага склону мае значэнне ‘ісці з мэтай паклікаць каго-небудзь; узяць, атрымаць, сабраць што-небудзь’: *пайсці па агуркі* [17, т. 1, с. 50; Альхоўка Навагр.], *прыехаць па горэхі* [18, т. 1, с. 44; Запруддзе Сен.], *ісці па ажыны* [17, т. 2, с. 68; Кіралі Шчуч.], *хадзіць па ягады* [15, ч. 1, с. 118; Заенкі Пол.]. У такім жа значэнні ўжываецца і прыназоўнік *за*: *ісці за вадой* [17, т. 2, с. 178; Ністанішкі Смарг.], *пайсці за зайцамі* [20, т. 2, с. 48; Дварэц Жытк.], *пайсці за брыгадзірам* [18, т. 1. с. 22; Заазер’е, Каралі Сен.].

Значэнне прыназоўніка *у* будзе супадаць са значэннем прыназоўніка *па*. Але розніца між канструкцыямі з *па* і *у* ў тым, што першы прыназоўнік указвае на вядомы аб’ект, які трэба

паклікаць або ўзяць, у той час як другі – на аб'ект, які трэба знайсці: *хадзіць у ягады* [17, т. 1, с. 51; Лісна Верхнядзв.], *гайдрануць у грыбы* [17, т. 2, с. 404; Азярыны Раг.], *ісці у грыбцы* [17, т. 1, с. 489; Новыя Мацалі Варэнскі (Вілен. р.)], *пайсці у маліны* [15, ч. 1, с. 76; в. Сар'я Верхнядзв.].

Аналіз значэння і будовы дадзеных фінітыўных канструкцый паказвае, што дзеяслоўныя словазлучэнні, якія выражаюць аб'ектна-мэтавыя адносіны, утвараюцца дзеясловамі руху тыпу *ісці*, *плыць*, *бегчы*, *ехаць*, *збірацца*, *гайдрануць* і пад. Залежны кампанент такіх словазлучэнняў – прыназоўнікава-склонавая форма *па + вінавальны*, *у + вінавальны*, *за + творны склон*. Найбольш прадуктыўныя сярод іх – словазлучэнні з прыназоўнікам *у* і *па*. Такія канструкцыі маюць значэнне 'ісці з мэтай паклікаць каго-небудзь, узяць, сабраць, атрымаць што-небудзь'. Залежнае слова абазначае прадмет, асобу і пад. як мэту дзеяння, руху. Сінанімічнымі дзеяслоўным словазлучэнням з прыназоўнікам *па* і залежным кампанентам *ягады*, *грыбы* з'яўляецца канструкцыя *дзеяслоў + у + вінавальны склон*. Гэта канструкцыя ўзнікла, відаць, пад уплывам словазлучэння *пайсці у лес* (з мэтай сабраць ягады, грыбы). Залежнае слова ў канструкцыі *у + вінавальны склон* звычайна абазначае пэўнае зборнае паняцце. Фінітыўныя словазлучэнні з прыназоўнікам *за* і залежным назоўнікам у форме творнага склону лічацца ў беларускай літаратурнай мове ненарматыўнымі. Аднак такія словазлучэнні шырока ўжываюцца ў беларускіх народных гаворках і з'яўляюцца традыцыйнымі і сінанімічнымі канструкцыям з прыназоўнікам *па* і *у*.

### Скарачэнні

**СС** – Слоўнік Сенненшчыны / Нац. акад. навук Беларусі, Цэнтр даслед. беларус. культ., мовы і літ-ры, філ. «Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы; уклад. Н. М. Бунько [і інш.]; навук. рэд. В. М. Курцова, Л. П. Кунцэвіч. – Мінск: Беларус. навука, 2013. – Т. 1; **ТС** – Тураўскі слоўнік: у 5 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; склад. А. А. Крывіцкі [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982–1987. – 5 т.; **РСВ** – Рэгіянальны слоўнік Віцебшчыны: у 2 ч. / Л. І. Злобін (рэд.) [і інш.]. – Віцебск: УА «ВДУ імя П. М. Машэрава», 2012. – Ч. 1. – 306 с.

### Літаратура

1. Бандарэнка, Т. П. Аднатыпныя словазлучэнні ў сучаснай беларускай літаратурнай мове / Т. П. Бандарэнка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1981. – 132 с.

2. Bagrowska, A. Białoruskie wyrażenia tupu «Pajsci u hryby» / A. Bagrowska. – Slavia Orientalis. – R. 12. – Warszawa, 1963. – № 2. – S. 271–277.

3. Бурак, Л. І. Сучасная беларуская мова. Сінтаксіс. Пунктуацыя: вучэб. дапам. / Л. І. Бурак. – Мінск: Універсітэцкае, 1987. – 559 с.

4. Граматыка беларускай мовы: у 2 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства; рэдкал.: К. К. Атраховіч (К. Крапіва) [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка. – 1996. – Т. 2: Сінтаксіс. – С. 147.

5. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы / Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР; пад рэд. Р. І. Аванесава, К. К. Крапівы, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Выд-ва АН БССР, 1963. – VIII + 338 карт.

6. Золотова, Г. А. Синтаксический словарь: репертуар элементарных единиц русского синтаксиса / Г. А. Золотова. – М.: Наука, 1988. – 440 с.

7. Зялёнка, В. Г. Прыназоўнікавыя словазлучэнні са значэннем мэты ў творах Якуба Коласа / В. Г. Зялёнка // Беларус. лінгвістыка. – 1983. – Вып. 23. – С. 17–22.

8. Ковалевская, Т. В. Предложные словосочетания с функцией обозначения цели и назначения в современных восточнославянских языках: автореф. дис. ... канд. филол. наук: 10.0201 / Моск. обл. пед. ин-т им. Н. К. Крупской / Т. В. Ковалевская. – М., 1974.

9. Ломтев, Т. П. Очерки по историческому синтаксису русского языка / Т. П. Ломтев. – М.: Изд-во Моск. ун-та, 1956. – 595 с.

10. Навумовіч, А. І. Сістэма словазлучэнняў у сучаснай беларускай мове (структурна-семантычнае апісанне) / А. І. Навумовіч // Народная асвета. – 1965. – № 11. – С. 27–38.

11. Нарысы па беларускай дыялекталогіі / пад рэд. Р. І. Аванесава. – Мінск: Выд-ва АН БССР, 1964. – С. 296–363.

12. Подгайский, Л. П. Предложные конструкции со значением цели в современном белорусском языке (в сравнении с украинским и русским) / Л. П. Подгайский // Міжвуз. наук. конф. з проблем синтаксису укр. мови (тез. допов.). – Чернівці, 1965. – С. 181–183.

13. Попова, З. Д. Древнерусская падежная и предложно-падежная система в восточнославянской диахронии: очерки по истории и диалектологии восточнославянских языков / З. Д. Попова. – М., 1980. – С. 68–78.

14. Русская диалектология / С. В. Бромлей [и др.]; под. ред. Л. Л. Касаткина. – М.: Издат. центр «Академия», 2005. – 288 с.

15. Рэгіянальны слоўнік Віцебшчыны: у 2 ч. / Л. І. Злобін (рэд.) [і інш.]. – Віцебск: УА «ВДУ імя П. М. Машэрава», 2012. – Ч. 1. – 306 с.

16. Сегень, Б. Прыназоўнік у сістэме адной усходнеславянскай гаворкі Беласточчыны / Б. Сегень. – Беласток: Wyd. Un-tu w Białymstoku, 2001. – 232 с.

17. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / уклад. Ю. Ф. Мацкевіч [і інш.]; рэд. Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979–1986 гг.

18. Слоўнік Сенненшчыны / Нац. акад. навук Беларусі, Цэнтр даслед. беларус. культ., мовы і літ., філ. «Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы»; уклад. Н. М. Бунько [і інш.]; рэд. В. М. Курцова, Л. П. Кунцэвіч. – Мінск: Беларус. навука, 2013. – Т. 1. – 519 с.

19. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; пад агул. рэд. К. К. Атраховіча (К. Крапівы). – Мінск: БелСЭ, 1977–1984. – 5 т.

20. Тураўскі слоўнік: у 5 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; склад.: А. А. Крывіцкі [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982–1987. – 5 т.

21. Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі. Цэнтральная зона / Нац. Акад. навук Беларусі. Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы; навук. рэд. В. М. Курцова, Л. П. Кунцэвіч. – Мінск: Беларус. навука, 2009. – 515 с.

22. Шуба, П. П. Граматычная характарыстыка прыназоўніка / П. П. Шуба // Весн. БДУ. – 1970. – № 1. – С. 57– 65.

23. Шуба, П. П. Прыназоўнік у беларускай мове / П. П. Шуба. – Мінск: Выд-ва БДУ, 1971. – 224 с.

24. Шэўчык, Н. Адказваем на пытанні [Які склон трэба ўжываць у беларускай мове пасля прыназоўніка «па»: давальны ці месны?] / Н. Шэўчык // Народная асвета. – 1966. – № 4. – С. 65–67.

25. Яўневіч, М. С. Ужыванне прыназоўніка «па» ў сучаснай беларускай літаратурнай мове / М. С. Яўневіч // Лінгвістычны зб.: арт., паведамл., матэрыялы. – Мінск, 1965. – С. 212–241.

*В. А. Шклярык*

## НАЗВЫ НЯВОРНЫХ ЗЯМЕЛЬНЫХ УЧАСТКАЎ ЯК УТВАРАЛЬНАЯ БАЗА МІКРАТАПОНІМАЎ УСХОДНЯГА ПАЛЕССЯ

Ва Усходнім Палессі, як і ў іншых мясцовасцях Беларусі, няворныя зямельныя ўчасткі, не парослыя лесам, маюць розны характар гаспадарчага выкарыстання. У прыватнасці, такія ўчасткі могуць выступаць у якасці пашы ці з’яўляцца месцам прагону жывёлы, яны могуць служыць месцам для касьбы сена або ўвогуле не выкарыстоўвацца ў гаспадарчых мэтах. У гаворках рэгіёна для называння падобных месцаў існуе шэраг апелятываў, якія знайшлі адлюстраванне і ў мясцовых мікратапонімах.

Акрамя агульнай для ўсходнепалескай тэрыторыі лексемы ***па́ша*** *(па́жа)*, што ўжываецца для абазначэння месца, дзе пасецца жывёла [8, т. 1, № 65], з такім жа значэннем у гаворках краю вядома таксама слова ***па́збішча*** [19, т. 3, с. 331], зафіксаванае ў друкаваных крыніцах у наступных, акрамя ўказанага, варыянтах: *па́дбішчэ*, *па́збішчэ*, *па́збішча*, *па́зьбішчэ*, *па́зьвішча*, *па́зьвішчэ*, *па́стбішча*, *па́стбішчэ*, *па́сьбішча*, *па́цьбішчэ* [8, т. 1, с. 50–51; 21, с. 217, 218], *па́звішчэ*, *па́свішчэ*, *па́сціишчэ* [24, т. 4, с. 7, 15, 17], *па́тбішчэ* [25, с. 178]. Разам з тым апелятыў *паша* ў аснове назваў дробных геаграфічных аб’ектаў рэгіёна выяўлены толькі ў адзінкавых найменнях [2, с. 241; 10, с. 203 ], у той час як лексема *пазбішча* ў складзе мясцовай мікратапаніміі адзначаецца шырэй: *Па́збішча* п. (Старыя Фалічы Старадарож.)[1], *Па́збішча* / *Па́звішча* п. (быў сенакос (інфарм.). Падарэссе Старадарож.), *Па́збішча* / *Па́стбішча* б., луг (Межылессе Старадарож.); *Па́збішча* ур.

[1] Мікратапонімы, прыведзеныя без спасылак, узяты або з асабістага архіва аўтара, або з дыялекталагічнага архіва кафедры беларускага мовазнаўства БДПУ імя Максіма Танка. Усе айконімы падаюцца ў адпаведнасці з нарматыўнымі даведнікамі з серыі «Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь» [15; 16; 17; 18] згодна з адлюстраваным у іх адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзелам краіны.

(Новыя Фалічы Старадарож.) [14, с. 180], *Па́стбішча* ур. (Клінск Калінк.) [14, с. 186], *Па́стбішчэ* б. (Раманаўка Маз.) [5, с. 152]. Параўнальна нешматлікая колькасць мікратапонімаў у абодвух гэтых выпадках мае свае прычыны, і раскрыць іх дазваляе разгляд яшчэ адной назвы няворных зямельных участкаў – *выган*, а таксама суадносных з ёй найменняў дробных геаграфічных аб’ектаў.

Так, апелятыў ***вы́ган*** (*ві́гон*, *ву́ган*, *ву́гон*) у гаворках Усходняга Палесся можа выступаць у якасці сіноніма да лексем *паша* і *пазбішча*, калі ўжываецца ў адным са значэнняў, якія слова *выган* мае і ў літаратурнай мове: ‘месца каля вёскі, дзе пасецца жывёла, птушка’ [22, т. 1, с. 527]. З такой семантыкай указаная лексема зафіксавана на Случчыне[1] [1, с. 87; 29, с. 54], Мазыршчыне[2] [21, с. 203; 25, с. 171]. На Тураўшчыне[3] *выган* – гэта яшчэ і ‘прагоны, праходы, зробленыя жывёлай’, ‘меравы след па траве праз сенакос’, ‘вузкая вуліца паміж дамамі для прагону жывёлы’ [24, т. 1, с. 155]. У адрозненне ад апелятываў *паша* і *пазбішча* слова *выган* знайшло шырокае адлюстраванне ў мясцовай мікратапаніміі: 56 назваў на Случчыне [1, с. 86–87], каля 10 найменняў у Мазырскім Палессі [5, с. 45; 10, с. 239; 14, с. 47–48], столькі ж на тэрыторыі Тураўскага Палесся [2, с. 231, 409; 24, т. 5, с. 368, 376, 382, 393]. Ёсць такія назвы і ў іншых усходнепалескіх мясцовасцях: *Ву́ган* ч. в. (месца, па якім гоняць на пашу кароў (інфарм.). Вуглы Акц.), *Ву́гон* луг (Мардзвін Петр.); *Ву́гон* лес (Сітніца Лун.) [14, с. 46], *Вы́ган* ур. (Жылічы Браг.) [13, с. 116], *Чо́ртов Вы́гон* ч. в. (Лунін Лун.) [2, с. 363] і інш.

Вялікая колькасць мікратапонімаў, суадносных з лексемай *выган*, сведчыць пра наяўнасць у гэтага апелятыва такіх семантычных адценняў, якія не толькі абумоўліваюць яго актыўную анімізацыю, але і адрозніваюць ад слоў *паша* і *пазбішча*. Гэта пацвярджаецца таксама дадзенымі, змешчанымі ў «Лексічным атласе беларускіх народных гаворак». Так, на карце № 65 «Паша» у 1-м томе атласа «паказана пашырэнне лексем са значэннем ‘месца, дзе пасецца жывёла’. Гэта назва не канкрэтнага ўгоддзя [да ліку якіх аднесена, у прыватнасці, лексема *выган*. – *В. Ш.*], а агульная назва месца, дзе жывёла можа пасвіцца, скубці траву» [8, т. 1, с. 50].

У гаворках Усходняга Палесся, як і ў літаратурнай мове [22, т. 3, с. 497], для называння месца ці дарогі, па якіх ганяюць статак (на пашу, вадапой), выкарыстоўваецца таксама апелятыў ***паго́н*** (і ў форме мн. л. – *паго́ны*) [7, с. 271; 28, с. 80; 29, с. 133; 30, с. 460]. Аднак на тэрыторыі краю вядомы і іншыя значэнні лексемы: ‘паша’ [12, с. 124], ‘палоска зямлі’ [27, с. 229], ‘след, сцежка на лузе, на полі’ [30, с. 460], якія тым не менш таксама могуць быць звязаны з прагонам жывёлы. Разам з тым у межах рэгіёна апелятыў *пагон* мае шэраг асаблівасцей. Па-першае, у арэале слуцкіх гаворак гэта слова ўжываецца пераважна ў форме адз. л.[4], у той час як для мазырскіх гаворак характэрна множналікавая форма, што знайшло адлюстраванне таксама на мікратапанімічным узроўні (прыклады гл. ніжэй). Па-другое, найбольшая колькасць суадносных з лексемай *пагон* назваў дробных геаграфічных аб’ектаў зафіксавана на Мазыршчыне [5, с. 142] і ў сумежных з ёю раёнах: *Паго́ны* ур. (Вуглы Акц.), п. (Багрымавічы Петр.), вул. (скот хадзіў (інфарм.). Хуснае Петр.); *Паго́ны* сж. (Капаткевічы Петр.) [14, с. 171], *Пагоннае* б. (Астрагляды Браг.) [13, с. 130], *Пагон* ур. (Аравічы Хойн.) [13, с. 152], *Пагон* ур. (Зацішша Акц.) [10, с. 201]. На Случчыне ж ужываюцца адзінкавыя найменні: *Паго́н* ч. в. (Макарычы Старадарож.); *Пагон* ур. (Мяцявічы Салiг., Крываносы Старадарож.) [1, с. 87], што тлумачыцца, відаць, сінанімічнасцю ў гэтым рэгіёне слоў *пагон* і *выган* і актыўным выкарыстаннем у якасці ўтваральнай базы для мікратапонімаў менавіта апошняга [1, с. 86–87].

[1] Пад Случчынай у дадзенай рабоце разумеецца тэрыторыя Любанскага, Салігорскага, Слуцкага і Старадарожскага раёнаў Мінскай вобласці і Глускага раёна Магілёўскай вобласці.

[2] Пад Мазыршчынай і Мазырскім Палессем маецца на ўвазе тэрыторыя, мікратапанімія якой даследавалася Г. А. Івановай [5].

[3] Пад Тураўшчынай і Тураўскім Палессем разумеецца тэрыторыя, лексічны склад гаворак якой знайшоў адлюстраванне ў «Тураўскім слоўніку» [24].

[4] Гл., напрыклад, заўвагу Ф. Янкоўскага да слова *пагон*[1] у 3-м выпуску «Дыялектнага слоўніка» – *«множн. няма»* [28, с. 80].

Для абазначэння сенакосных угоддзяў у гаворках Усходняга Палесся выкарыстоўваюцца апелятывы ***сенажа́ць** (сено́жать, сено́жа́ць, сынажа́ць, сэножа́ть, сэно́жаць)*[1] і ***сенако́с** (сено-ко́с)*, якія з’яўляюцца, як правіла, сінонімамі і вядомы па ўсім рэгіёне [8, т. 2, с. 101 + № 245]. Маючы семантыку ‘скошаны луг’, указаныя словы таксама выступаюць у якасці сінонімаў, аднак ужываюцца яны ў такім значэнні не паўсюдна: *сенажаць* – пераважна ў населеных пунктах на мяжы з Украінай, *сенакос* – у арэале слуцкіх гаворак і на сумежжы з мазырскімі [4, № 274]. Гэта адзіны ўстаноўлены намі выпадак дыферэнцыяцыі ўсходнепалескай тэрыторыі на падставе ўжывання апелятываў *сенажаць* і *сенакос*, іх значэнняў. Больш яўная неаднароднасць лексічнага ландшафту краю мае месца на анімічным узроўні – пры ўстанаўленні арэалаў мясцовых мікратапонімаў, што суадносяцца з указанымі словамі.

Так, ва Усходнім Палессі часцей адзначаюцца назвы дробных геаграфічных аб’ектаў, утвораныя ад апелятыва *сенажаць* (ці якія маюць яго ў сваім складзе). Гэта як простыя найменні: *Сыно́жаці* пш., п. (Грабаў Петр.), *Сыно́жаць* ур. (Будзенічы Старадарож.); *Сено́жаткі* (Пакрашава Слуцк.) [1, с. 69], *Снoжа́ць* ур. (Хатынічы Ганц.) [14, с. 225], *Снажа́тка* луг, пш. (Заспа Рэч.) [30, с. 606], *Под Сыно́жат$^{ць}$ю* ур. (Мікашэвічы Лун.) [2, с. 369] і інш., назвы на Тураўшчыне [2, с. 239, 285; 24, т. 5, с. 383], Мазыршчыне [5, с. 176, 182, 189; 10, с. 146, 171; 14, с. 219], так і састаўныя: *Іванцо́вых Сеножа́ць* сж. (належала Іванцовым (інфарм.). Лунін Лун.) [14, с. 102], *Круглыя Сыножаці* ск. (Гарохавішчы Акц.) [10, с. 195], *Во́льчыкава Сенажа́ць* сж. (раней на гэтым месцы жыў ляснік Вольчык; Слаўкавічы Гл.) [20, с. 39], *Велі́кіе Сеножа́ці* п. (Мачуль Стол.) [2, с. 229] і шэраг іншых, каля 20 адзінак у Мазырскім Палессі [10, с. 157, 172; 5, с. 24, 37, 54, 84, 101 і інш.]. Мікратапонімаў, у аснове якіх ляжыць лексема *сенакос*, параўнальна менш (гл. карту). Як правіла, гэта састаўныя найменні: *Міхаі́лкаў Сенако́с* ур. (Найда Жытк.); *Андрэ́еў Сеноко́с* п. (Аздамічы Стол.) [24, т. 5, с. 368], *Дохтараў Сенакос* б. (Савічы Браг.) [13, с. 120], *Хвашчоў Сенакос* б. (Забалацце Акц.) [10, с. 214], *Заліўны́я Сенако́сы / Пры́пяцкія Сенако́сы* луг (Бабры Маз.) [5, с. 79, 163] і некаторыя іншыя. Прычым найбольш падобных назваў зафіксавана на Случчыне: *Беліцкі Сенакос* (Ляхава Слуцк.) [1, с. 65], *Вясейскі Сенакос* (Таковішча Слуцк.) [1, с. 65], *Гольчыцкі Сенакос* (Таковішча Слуцк.) [1, с. 67], *Медзянскі Сенакос* (Шантароўшчына Слуцк.) [1, с. 94] і інш. Гэта вылучае дадзены рэгіён у межах Усходняга Палесся і падмацоўвае яго адасобленасць, адлюстраваную ў існаванні тут замкнёных дыялектных арэалаў [9, с. 177–178].

Падобная колькасная перавага ў межах усходнепалескай тэрыторыі мікратапонімаў, суадносных з апелятывам *сенажаць*, над найменнямі, у аснове якіх ляжыць слова *сенакос*, тлумачыцца перш за ўсё тым, што апошняя лексема з’яўляецца адносна новым утварэннем [26, т. 12, с. 56–57], яна новая[2] ў паняційнай сістэме Беларусі, нетрадыцыйная [30, с. 607]. Тым не менш факт фіксацыі абодвух гэтых апелятываў у «Гістарычным слоўніку беларускай мовы» [3, т. 31, с. 213–215] указвае на даўні пачатак працэсаў засваення беларускімі гаворкамі лексемы *сенакос* і развіцця яе сінанімічных адносін са словам *сенажаць*. Усё гэта дазваляе выказаць меркаванне, што ў тых рэгіёнах Усходняга Палесся, дзе назвы дробных геаграфічных аб’ектаў са словам *сенакос* у аснове адзначаюцца часцей (Случчына і шырэй – арэал слуцкіх гаворак), указаны апелятыў як сінонім да лексемы *сенажаць* стаў ужывацца раней, чым у іншых мясцовасцях краю (Тураўшчына).

Няворны зямельны ўчастак, не парослы лесам, – гэта яшчэ і ***га́ла*** (*галё*, *га́ло́*, *галь*, *га́ля*). Толькі ў адрозненне ад пашы, выгану, пагону, сенажаці і сенакосу месцы, што абазначаюцца гэтым словам, у гаспадарчым плане, як правіла, не выкарыстоўваюцца. На тэрыторыі Усходняга Палесся, дзе лексема *гала* вядома паўсюдна, яна мае наступныя значэнні: ‘незаросшае дрэвамі, кустамі месца сярод лесу’ [8, т. 1, с. 90–91], ‘непакрытая лесам прастора’ [8, т. 2, с. 41–42],

[1] У іншых крыніцах выяўлены і такія ўсходнепалескія варыянты апелятыва *сенажаць*, як *сыно́жаць* [29, с. 179], *санажа́ць* [19, т. 4, с. 363], *суно́жаць* [6, с. 69], *сыножэць* [5, с. 165], *сножаць, сножэнь* [5, с. 182], *снажаць* [5, с. 211].

[2] Пра тое ж сведчыць заўвага (*нов.*) пры слове *сенакос*, зафіксаваным у вёсцы Махнавічы Мазырскага раёна [8, т. 2, с. 101], а таксама ілюстрацыя з «Тураўскага слоўніка»: *«Сенокос – ето цепер обычный, а колісь того і того сеножаць була»* (Запясочча Жытк.) [24, т. 5, с. 29].


Арэалы мікратапонімаў, суадносных з апелятывамі *сенажаць* і *сенакос*, у межах Усходняга Палесся
○ — мікратапонімы *Сенажáць, Велікіе Сеножáці* і пад.
● — мікратапонімы *За Сенакóсам, Андрэеў Сенокóс* і пад.
МАГІЛЁЎ
ГОМЕЛЬ
МІНСК
БРЭСТ
Дняпро
Сож
Друць
Бярэзіна
Прыпяць
Пціч
Случ
Убарць
Лань
Ясельда
Зах. Буг

а таксама ‘шырокая балотная сенажаць між лясоў’ [29, с. 58], ‘балота’ [11, с. 227; 19, т. 1, с. 406], ‘пагорак сярод поля, агарода’ [19, т. 1, с. 406]. Хоць у спецыяльнай літаратуры ўсё ж можна знайсці выпадкі ўжывання апелятыва *гала* для абазначэння распрацаванага ўчастка – як сіноніма да слова *палянка*: *«Ко́лісь быў лес як іці на рэчку, а цепер там га́ло зробілі або, ка́ам, полянкі́»*, дзе *поля́нка* – ‘невялікае поле сярод лесу’ [24, т. 4, с. 149–150]. Падобныя прыклады, аднак, можна лічыць хутчэй выключэннямі для Усходняга Палесся, што пацвярджае і М. І. Талстой: «...калі ў Заходнім Палессі ў Збуражы прыкмета «апрацаванасць» або «неапрацаванасць» глебы не рэлевантная [у лексемы *гала*. – *В. Ш*.], то ва ўсходняй яго частцы ў Будзе і Канатопе супрацьпастаўленне «апрацаваным зямельным участкам» істотнае» [23, с. 105].

Такім чынам, як вынікае з адзначанага вышэй, апелятыў *гала*, што ляжыць у аснове шматлікіх усходнепалескіх мікратапонімаў, да пачатку анімізацыі пераважна абазначаў адкрытае бязлеснае месца, часам забалочанае, безадносна да магчымасці яго распрацоўкі. Прычым адпаведныя назвы дробных геаграфічных аб’ектаў, як і сама лексема, вядомы па ўсім рэгіёне: *Га́ла* ск. (Вуглы, Лаўстыкі Акц.), п., было балота (Дражна Старадарож.), б. (Мінкавічы Старадарож.), *Га́ло* б. (Баянічы Люб., Багрымавічы, Камаровічы, Хуснае Петр.), п. (Падлуг Люб.), ск. (Залессе Петр.), *Га́ля* бор (Пузічы Саліг.); *Га́ла* ур. (Вольніца Гл., Бывалькі Лоеў.) [14, с. 54], *Га́ля* б. (Сінкевічы Лун., Дзяніскавічы Ганц.) [14, с. 55], *Первага́ла* (*Пе́рвае Га́ла*) б. (Мікулічы Браг.) [13, с. 132], *До́ўге Га́ло* ур. (Грэбень Жытк.) [14, с. 75] і шматлікія іншыя, у тым ліку ў межах не ўказаных тут усходнепалескіх мясцовасцей.

Разгляд назваў няворных зямельных участкаў, не парослых лесам, у гаворках Усходняга Палесся і суадносных з гэтымі апелятывамі мясцовых мікратапонімаў паказаў наступнае. Па-першае, характар гаспадарчага выкарыстання такіх зямель сапраўды розны. Прычым ужыванне аднолькавых назваў няворных зямельных участкаў у розных мясцовасцях рэгіёна не заўсёды сведчыць пра ідэнтычнае прызначэнне дэнататаў (лексемы *выган*, *пагон*, *гала*). Па-другое, сярод разгледжаных у артыкуле апелятываў не ўсе знайшлі шырокае адлюстраванне ва ўсходнепалескіх мікратапонімах, што можа быць звязана з семантычнымі адценнямі слоў (*паша*, *пазбішча*). Па-трэцяе, арэалы некаторых мікратапонімаў, утвораных ад вядомых сёння на тэрыторыі ўсяго Усходняга Палесся сінанімічных апелятываў (*сенажаць*, *сенакос*), могуць не супадаць, што тлумачыцца рознай ступенню засвоенасці адпаведных лексем мясцовымі гаворкамі.

**Скарачэнні**

Аб’екты: б. – балота, вул. – вуліца, п. – поле, пш. – паша, сж. – сенажаць, ск. – сенакос, ур. – урочышча, ч. в. – частка вёскі.

Іншае: інфарм. – інфармант (каментарый ад яго).

**Літаратура**

1. Адамовіч, Я. М. Мікратапанімічныя назвы / Я. М. Адамовіч; пад рэд. Ф. Янкоўскага. – Мінск: Вышэйш. шк., 1971. – 112 с.

2. Вярэніч, В. Л. Палескі архіў / В. Л. Вярэніч; пад навук. рэд. Ф. Клімчука, Э. Смулковай і А. Энгелькінг. – Мінск: Выдавец ІП Вараксін, 2009. – 692 с.

3. Гістарычны слоўнік беларускай мовы / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэдкал.: А. І. Жураўскі [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982–2013. – 33 вып.

4. Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Карты / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; пад рэд. Р. І. Аванесава, К. К. Крапівы, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Выд-ва АН БССР, 1963.

5. Иванова, А. А. Микротопонимия Мозырского Полесья / А. А. Иванова. – 2-е изд. – Мозырь: УО МГПУ им. И. П. Шамякина, 2007. – 220 с.

6. Крывіцкі, А. А. Усходнепалеская гаворка наваколля Мазыра / А. А. Крывіцкі [і інш.] // Гавораць чарнобыльцы (з мясцовых гаворак чарнобыльскай зоны ў Беларусі) / склад. і навук. рэд. А. А. Крывіцкі. – Мінск, 1994. – С. 37–88.

7. Лексіка гаворак Беларускага Прыпяцкага Палесся: атлас. Слоўн. / Г. Ф. Вештарт [і інш.]; Ін-т мовы і літ. імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі. – Мінск: Права і эканоміка, 2008. – 353 с.

8. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. / Акад. навук Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэдкал.: М. В. Бірыла (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: Фонд фундам. even. даслед. Рэсп. Беларусь, Кам. геадэзіі пры Савеце Міністраў Рэсп. Беларусь, 1993–1998. – 5 т.
9. Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; пад рэд. Р. І. Аванесава [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1968. – 320 с.
10. Матэрыялы да слоўніка гідронімаў Гомельшчыны. Лельчыцкі, Мазырскі, Акцябрскі, Нараўлянскі раёны // Беларуская мова: міжвед. зб. / рэдкал.: У. В. Анічэнка (гал. рэд.) [і інш.]. – Гомель, 1996. – Вып. 22. – С. 124–253.
11. Матэрыялы для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны // Беларуская мова і мовазнаўства: міжвуз. зб. / рэдкал.: У. В. Анічэнка (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 1975. – Вып. 3. – С. 161–260.
12. Матэрыялы для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны // Беларуская мова / рэдкал.: У. В. Анічэнка (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 1978. – Вып. 6. – С. 120–236.
13. Матэрыялы для слоўніка гідронімаў Гомельшчыны. Брагінскі, Хойніцкі раёны // Беларуская мова: міжвед. зб. / рэдкал.: У. В. Анічэнка (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 1987. – Вып. 15. – С. 110–157.
14. Мікратапанімія Беларусі: матэрыялы / рэд. М. В. Бірыла, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1974. – 328 с.
15. Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Брэсцкая вобл.: нармат. давед. / І. А. Гапоненка [і інш.]; пад рэд. В. П. Лемцюговай. – Мінск: Тэхналогія, 2010. – 319 с.
16. Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Гомел. вобл.: нармат. давед. / Н. А. Багамольнікава [і інш.]; пад агул. рэд. В. П. Лемцюговай. – Мінск: Тэхналогія, 2006. – 382 с.
17. Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Магіл. вобл.: нармат. давед. / І. А. Гапоненка [і інш.]; пад рэд. В. П. Лемцюговай. – Мінск: Тэхналогія, 2007. – 407 с.
18. Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Мін. вобл.: нармат. давед. / І. А. Гапоненка [і інш.]; пад рэд. В. П. Лемцюговай. – Мінск: Тэхналогія, 2003. – 605 с.
19. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; уклад.: Ю. Ф. Мацкевіч [і інш.]; пад рэд. Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979–1986. – 5 т.
20. Слоўнік мікратапонімаў Магілёўшчыны / склад.: С. В. Клімуць [і інш.]. – Магілёў: МДУ імя А. А. Куляшова, 2004. – 208 с.
21. Станкевіч, А. А. Лексіка народнай гаспадаркі ў гаворках Мазырска-Прыпяцкага Палесся / А. А. Станкевіч, А. М. Воінава, Л. М. Мінакова; М-ва адукацыі Рэсп. Беларусь, Гомельскі дзярж. ун-т імя Ф. Скарыны. – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2008. – 312 с.
22. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; пад агул. рэд. К. К. Атраховіча (К. Крапівы). – Мінск: БелСЭ, 1977–1984. – 5 т.
23. Толстой, Н. И. Славянская географическая терминология: семасиологические этюды / Н. И. Толстой. – Изд. 2-е, существ. доп. – М.: КомКнига, 2006. – 360 с.
24. Тураўскі слоўнік: у 5 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; склад.: А. А. Крывіцкі [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982–1987. – 5 т.
25. Шур, В. В. Матэрыялы да слоўніка жывёлагадоўчай лексікі Мазыршчыны / В. В. Шур // З народнага слоўніка / рэд. А. А. Крывіцкі, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1975. – С. 167–183.
26. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск: Навука і тэхніка, 1978–2010. – 13 т.
27. Янкова, Т. С. Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны / Т. С. Янкова; рэд. М. В. Бірыла, А. А. Крывіцкі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982. – 432 с.
28. Янкоўскі, Ф. Дыялектны слоўнік / Ф. Янкоўскі; рэд. М. Р. Суднік. – Мінск: Навука і тэхніка, 1970. – Вып. 3. – 172 с.
29. Янкоўскі, Ф. Дыялектны слоўнік / Ф. Янкоўскі; рэд. М. Р. Суднік. – Мінск: Выд-ва АН БССР, 1959. – 232 с.
30. Яшкін, І. Я. Слоўнік беларускіх мясцовых геаграфічных тэрмінаў: тапаграфія. Гідралогія / І. Я. Яшкін. – Мінск: Беларус. навука, 2005. – 808 с.

# ТЭКСТЫ З БЕЛАРУСКІХ ГАВОРАК

## *ГАВОРКІ БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ*

*В. Д. Губарэвіч*

### ТЭКСТ З ВЁСКІ ВУЛЬКА СІМАНАЎСКАЯ ДРАГІЧЫНСКАГА РАЁНА

***Расказвае Н. К. Губарэвіч, 1908 г. н., ураджэнка і жыхарка в. Вулька Сіманаўская****; запіс зроблены ў 1950 г.*

#### Казка пра *бобы́ну* (‘фасоліну’)

Був колысь у мынэ ста́ток вылі́кый-вылі́кый, аж два волы́. Оды́нь вил був чо́рный-чо́рный, а дру́гый – як жук. І було́ у мынэ́ по́лэ вылі́кэ-вылі́кэ, аж од за́пычка до пыры́пічка. Пошо́в я то́е по́лэ гора́ты, і гора́в ёго́ до́вго-до́вго, аж од ра́нку до обі́да. Пото́м я то́е по́лэ засі́яв, і посі́яв я мно́го-мно́го, аж одну́ бобы́ну. Вы́росла та́я бобы́на высо́ка-высо́ка, аж до нэ́ба. А як вона́ поспі́ла, то полі́з я на нэ́бо, шчоб стручкы́ зобра́ты. Ліз я, ліз по туй бобы́ны, залі́з на са́мэ нэ́бо. Ба́чу, – алэ́ ж бо́бу вжэ ныма́, хтось забра́в. Ну то трэ́ба зла́зыты. Алэ́ ж ба́чу – бобы́ны вжэ ныма́, згныла́ і впа́ла. То шчо робы́ты? Походы́в я, походы́в по нэ́бу, ду́мав, мо́жэ яку-нэ́будь выро́вку знайду́. Алэ́ ж ныма́. Тут ба́чу – лыжы́ть ку́ча мнякы́ны. То звыв я з її выро́вку, та й став зла́зыты на зэ́мню. Зла́зыв-зла́зыв, алэ́ ж ско́нчылась моя́ выро́вка, а до зымні́ шчэ далёко. Шчо робы́ты? Взяв я, одры́зав кусо́к выро́вкы звэ́рху і прыв’яза́в зны́зю, та й полі́з да́лэй. Ліз-ліз, аж знов выро́вка ско́нчылась, а до зымні́ й шчэ далёкува́то. То я знов одры́зав кусо́к выро́вкы звэ́рху, та прыв’яза́в зны́зю і полі́з да́лэй. Тут знов выро́вка ско́нчылась. Хоті́в я шчэ одры́заты звэ́рху та прыточы́ты внызь, алэ́ ж ба́чу – звэ́рху вжэ то́жэ ныц ныма́, ско́нчылась выро́вка і звэ́рху. Ну і шчо мыні́ робы́ты? Ну, ду́маю, трэ́ба скака́ты. Ско́чыв я, та попа́в пра́мо в пэнь, і вбы́вся в ёго́ по са́мы плэ́чы. Став крыча́ты до людэ́й, алэ́ ж ныко́го ныгдэ́ ныма́. Ну й шчо робы́ты? Поду́мав я, поду́мав, пошо́в додо́му, взяв сокы́ру, вы́рубав сам сыбэ́, та й пошо́в. А як став про гэ́тэ всэ розска́зуваты, то мыні́ ны ві́рать.

*І. І. Лучыц-Федарэц*

### МАЕ АКРОПЛЯНЕ

У гэтым артыкуле падаецца фрагментарнае апісанне і склад жыхароў вёскі Акропна (мясц. *Окрі́пнэ*) у XX ст. Назва яе (магчыма, ужо вёскі) згадваецца ў пісьмовых крыніцах пад 1771 годам, калі Акропна ўваходзіла ў склад уладанняў Тарака́нскага манастыра (гл. «Памяць. Драгічынскі раён», Мінск, 1997, с. 505). Затым вядома, што ў 60-х гадах XIX ст. жыхары вёскі сталі дзяржаўнымі сялянамі; яны ўтваралі Імянінскую воласць (з 1921 г. – Імянінскую гміну). У 30-х гадах XX ст. у вёсцы было 90 двароў. Пасля вайны (1941–1945 гг.) засталося толькі 28 хат, астатнія – пагарэлі. Жыхары вёскі ў асноўным уцалелі: яны днём былі ў вёсцы і ў полі, як строга прыказвалі немцы, а ноччу амаль усе хаваліся ў лесе (на поўнач ад вёскі) – там былі зямлянкі, там знаходзілася скаціна, было прыхавана збожжа. А вось суседняя вёска Ўсходы (мясц. *Высхо́дэ*) была спалена немцамі разам з жыхарамі і знаходзіцца ў спісе 433 вёсак (у Хатыні), якія адрадзіліся дзякуючы тым, каму пашанцавала ўцячы ад немцаў.

Маімі інфарматаркамі былі старэйшыя жыхаркі вёскі: Лучыц Вольга Іванаўна (1925 г. н.) і Васілеўская Лідзія Дзяменцьеўна (1931 г. н.), а таксама Шаламіцкая Людміла Мікалаеўна (1951 г. н.) –

«рэдактар» тэксту. Тэкст, запісаны ў е́каючай гаворцы заходнепалескага моўнага масіву; мы імкнуліся як мага поўна адлюстроўваць былую рэальнасць – але ж столькі часу прайшло! Па прозвішчах у вёсцы называлі людзей рэдка, хутчэй карысталіся мянушкамі.

Пра фанетычныя асаблівасці гаворкі мы пісалі ў 1-м выпуску выдання «Беларуская дыялекталогія. Матэрыялы і даследаванні» (Мінск, 2010, с. 275). Гэта ў асноўным існаванне мяккіх шыпячых і зацвярдзелых, наяўнасць *и* [і] пасля цвёрдых зычных і *і* [і] пасля мяккіх, дыфтонг [іэ́] – перадаецца, як *Ĕ ĕ*, характэрны пераход [ы] ў [э] (напр., *мэ* ‘мы’) і інш.

Скарочана аповеды інфарматарак пазначаны: В. І. (В. І. Лучыц), Л. Д. (Л. Д. Васілеўская), Л. М. (Л. М. Шаламіцкая) і аўтара артыкула – І. І. (І. І. Лучыц-Федарэц).

У сучасны момант вёска Акропна разам з вёскай *Бурма́кі* ўваходзіць у склад вёскі Няме́ржа (мясц. *Німе́ржа*, *Мыржĕнэ*, *Мыржа́нэ*) – аб’яднанне адбылося ў 1976 г.

Зараз вёска складаецца з трох вуліц: вул. Леніна – гэта частка шашы з Драгічына ў Бярозу, дзесьці пасярэдзіне гэтага ўчастка дарогі перпендыкулярна да яе адходзіць вул. Перамогі і паралельна да яе – Савецкая, якая ад могілак ідзе да лесу (*на хэ́рму* ‘на ферму’).

Людміла Мікалаеўна зрабіла агульную рэдакцыю і прывяла тэкст у адпаведнасць з сучасным станам гаворкі.

Дзякуй інфарматаркам за тое, што яны былі цярплівымі і ахвочымі ўзнавіць падзеі мінулага стагоддзя праз мову, прадставіць жыццё такім, якім яно было.

***

**В. І.** Ек оно́ уйішчĕ́йіш з Лосэ́нцу ў Окрі́пнэ, то по пра́ву ру́ку ўвесь чĕс бу́дэ бір (‘бор’) – хвойіна́. Злі́ва на са́мому конці́ лосэ́ньскійі хвойінэ́ була́ ўса́дьба ва́шого родака́ Ĕкова Ча́пка, яке́й жэў там з жі́нкию Ната́лию і сэ́ном Ве́нюсём. Він буў бра́том ва́шыйі ба́бэ Олэ́ні (1873–1949). Ужэ́ мо́жэ літ з трэ́ццыть вонэ́ пырыбра́лысь у Лосэ́нцэ. За́рэ шэ ў Былині́ (с. Былэ́нь – пы́рид Лосэ́нцамэ, ĕк йі́диш з Дорогэ́чиня) жывэ́ рі́дна сыстра́ Я́шке – На́сця.

По лі́ву ру́ку жылэ́ Капытанэ́, алэ́ шэ пры По́льшчэ вонэ́ вэ́брались у Лагэ́чынь (‘Лагішын’).

**Л. М.** У йіх буў сэн Ко́ля – тро́шке прыду́рковати. Його́ одного́ ра́зу посла́лэ заныстэ́ йі́стэ косьцём, яке́йі косэ́лэ ў Ку́рыцкому, а він ішо́ў, ішо́ў і зайшо́ў аж на ста́нцию ў Нагі́р’е. Косьці́ так і ны дожда́лись ĕго́. А він, ĕк прышо́ў, то роска́зуваў, шо буў там, дэ хатке́ (‘вагоны’) по доро́зэ бижĕть.

**В. І.** Капыта́нча прыхі́дилась ті́ткию ля твэ́йі ма́тыра, і гэ́то Капыта́нча ўговорэ́ла твою́ ма́тыра пойтэ́ за́муж за ба́тька: він тоді́ ĕкраз стаў удоўцэ́м – умырла́ ĕго́ жі́нка Татĕна і оста́лася дочка́ Ве́ра. Бабэ́ і дыўке́ ны на́дто рва́лися ітэ́ за́муж за ўдоўцĕ.

**І. І.** Моя́ ма́тэ й сама́ поніма́ла, шо, му́сить, тра́га йтэ за ўдоўцĕ, шо вылі́кого поса́гу дід Чыхо́вич Тара́с Дынэ́совіч (1884–1951) йій ны дасць, – скіль ĕго́ ўзĕтэ: пэ́рша жі́нка ĕго́ Ўстэ́мня (моя́ ба́ба) ўмырла́ на холе́ру ў Росе́йі ў О́мскій губе́рні. Оста́лося шэ дві ді́ўчинке – Га́нна і На́дя (одни́й було́ трэ ро́ке, а друге́й шість літ), і ма́тэ моя́ була́ йім за ма́тыра. Ек прыйі́хаў дід з бе́жанцу, поба́чыў, шо ўсі постро́йке ні́мцэ спалэ́лэ, і він пріста́ў до Га́ннэ Саліво́нчик – ха́та ў йійі́ оста́лася, да й зымнĕ була́. У йіх шэ родэ́лося трэ ді́ўчынэ і одэ́нь хло́пыц Мі́ша. Пото́м і Га́нна ўмырла́, і дід Тара́с узĕў Барба́ру, од йійі́ ўжэ дытэ́й більш ны було́. А шэ ма́тырин кавале́р, з яке́м вона́ любэ́лася, ожынэ́ўся на бога́тий ді́ўцэ. От вона́ і пошла́ за ба́тька. А ба́тьковэ дід, то́жэ Тарс (1865–1957) даў оно́ вісімдысĕт со́ток. Ха́ту ба́тьковэ дід зробэ́тэ зробэ́ў, а покрэ́тэ – ны було́ чэм, то ба́тько з ма́тырию одра́зу после высі́льля пошлэ́ ў зарі́бке: молотэ́лэ жэ́то ў кого́сь там, а той господа́р заплатэ́ў йім кулĕмэ соло́мэ; з йіх нав’яза́лэ ку́лыку і пошэ́лэ стрі́ху ў ха́тэ.

Ек колэ́сь роска́зуваў мыні́ ба́тько, наш рід пôшо́ў од Хвыдосĕ. Хвыдо́сь служэ́ў у ца́рскому во́йску солда́том два́ццыть п’ĕть літ. І от ішо́ў він з во́йска додо́мэ (мэ ны ві́дайімо, дэ була́ ĕго́ до́ма), зайшо́ў у корчму́, там, му́сить, хтось, хто маў дочку́, почастува́ў ĕго́; посва́талэ ĕму́ ді́ўку, Хвыдо́сь ожынэ́ўся і оста́ўся тут, бо нэ́бысь-то ў ĕго́ ўжэ ны було́ ба́тькоўшчынэ (‘долі маёмасці’) – братэ́ ĕго́ ду́малэ, шо він ужэ́ з во́йска ны прэ́дэ, і подылэ́лэ між собою́ ўсю господарку ĕго́ ба́тька.

Пото́м оказа́лося, шо ў Хвыдосё два братэ́ ў Амэ́рыцэ. Алэ́ він жэў тут, у Окрі́пному; бу́ло ў ёго́ два сэ́нэ (Тара́с, мій дід по ба́тьковэ, і Йван, яке́й то́жэ пойі́хаў у Гамэ́рыку і оста́ўся там на за́ўшэ) і дьві дочке́: Сціпані́я (вэ́йшла за́муж у Олысі́ёўцэ (‘Аляксеевічы’) і родэ́ла сэ́на – Хвыдо́сь його́ зва́лэ) і Наста́ся – вона́ пошла́ за́муж за бра́та Ха́мового Данэ́ла – родэ́ла сэ́на Васылё, яке́й ожынэ́ўся з Со́нію Макаручэ́нкію, сыстро́ю Сцёпа́на Са́ўке. Йі́м злыпэ́лэ ха́тку ў Ли́сцэ – гэ́то тако́е нэ́зьке мі́сьце, дэ за́ўшэ стоёла вода́ і блышчёла, та́бэ лэ́сына на голові́. У Васылё і Со́ні родэ́ўся Ві́тя (на два ро́ке ста́рші за мынэ́) і Ма́ня, яка́я, по-мо́ёму, чы ны ў п’ятна́ццыть літ вэ́йшла за́муж за шо́хвёра Сіро́жу з Пырэ́спэ, родэ́ла, му́сыть, з пятёро сыниў; пра́ўда, дво́е з йіх ужэ́ ўмырло́: одэ́нь буў на опыра́цыі ў Брэ́сці, да одра́зу напэ́ўся мініра́льныйі водэ́ і ўмэр. А йі́ха ма́тэ Со́ня на ста́росць шэ то́жэ вэ́йшла за́муж за нёкого ді́да з Осулён і, ка́жуть, шо до́брэ з йім пожыла́.

Ба́бу Наста́сю прозыва́лэ Чырво́нынька, бо вона́ ма́ла рэ́жэ ко́сэ (‘рыжыя валасы’). До смэ́ртэ йійі́ доглядала моя́ двою́родна сыстра́ Лі́да – на́ша інформа́торка Лі́да Дымэ́нтыёва. Вона́ на́дто до́бра до ўсіх, у сылі́ на йійі́ ка́жуть «Ма́тэ Тырэ́за». Ба́тькова сыстра́ Ма́рдя (моя́ ті́тка) ўмырла́, колэ́ Лі́дэ пушо́ў чытво́рти рік, вона́ оста́лася сырото́ю, і йійі́ ба́тько Дымэ́нтий пріві́з Лі́ду до ба́бэ Олэ́ні, а ў ба́бэ Олэ́ні було́ шэ свойі́х п’ёть дытэ́й: штэ́рэ хло́пцэ (мій ба́тько Іва́н, дядьке́: Васэ́ль, Карпо́, Ко́ля) і дочка́ Зо́ся (з 1926 г. н.), моя́ ті́тка. Ті́тку ні́мцэ ма́лыся (‘павінны былі’) забра́тэ ў Гірма́нію на робо́ту, алэ́ дід Тара́с пошкодува́ў йійі́, пушо́ў до ста́ростэ сыла́ і попросэ́ў замынэ́тэ ті́тку на дёдька Ва́сю (з 1915 г. н.); сказа́ў, шо сэн там більш зро́быть, ек гэ́та мала́я, худа́я дочка́. Васэ́ль там робэ́ў у нёкого ба́ўэра, і ёк ко́нчылась война́, то прыйі́хаў додо́мэ на ро́выровэ – буў бога́ти кавале́р!

На́ша ба́ба Олэ́ня була́ ў ді́да дру́гію жі́нкію. Пэ́ршу йому́ засва́талэ, і він на́вить нэц ны ві́даў і поба́чыў йійі́, ёк стоёў пôд винцэ́м. После высі́лья він одра́зу пушо́ў тягну́тэ ба́лі (‘сплаўляць лес’), а ёк прыйі́хаў додо́мэ, то довіда́ўся, шо його́ жі́нка рапто́во ўмырла́. А ба́ба Олэ́ня була́ с поса́гом: у Окрі́пному поля́ке далэ́ йій зымні́.

**В. І.** У трэ́ццыть пэ́ршому году́ поля́ке ста́лэ пырысі́люватэ людэ́й на хуторі́ (а ў пыдысётих года́х хуторёнэ пырино́сылыся наза́д у сыло́). Мэ жылэ́ на Тэ́пцах – гэ́то ёк оно́ уйішчёйіш у сыло́, йі́дучэ з Дорогэ́чыня, то по пра́ву ру́ку. Кончёйіца бір сі́янкію – шэ твій ба́тько ў 1928 ро́ццэ сі́яў гэ́ту хвойину́. Було́ нам затишно́ од гостэ́нца, а за́рэ йійі́ вэ́ризалэ, ста́ло дэ́ке (‘дзікае’) мі́сьце, шо й ны позна́тэ. До нас выла́ дорі́жка. Пэ́рша ха́та с пра́вого бо́ку, ёк уйіжджэ́йіш у сыло́, була́ Бади́ўська. Бада́ буў у Окрі́пному ў прэ́ймах (прыймаком), сам він ро́дом з Сэ́монович, а Ма́рта (Бадэ́ха) і ма́тэ моя́ – сёстрэ з Бондарі́ў. Мій ба́тько Іва́н, його́ дражнэ́лэ Котёл, з Олысі́євич (там жэў його́ ба́тько і братэ́).

За на́мэ пôд лі́сом (він называ́йіца Круг) жылэ́: Га́нночка, Ёсыпко, Са́нік Тодо́рцуў, його́ ба́тько Оні́прій.

**І. І.** Алэ́ вырні́мося до лосэ́ньскійі доро́гэ.

Блэ́жі, каля доро́гэ жылэ́ Хамэ́: старэ́й Хам буў бра́том Дырхві́я, яке́й поста́выў ха́тку на гу́лыцэ Побе́дэ. Два сынэ́ Ха́ма: Іва́н (узёў Мару́сю Цыгано́ву) і Ва́ся (узёў Аню́ту Талата́еву) даўно́ поўмыра́лэ. Умэ́р і моло́дчі сэн Данэ́ло Ха́муў, яке́й буў жона́ти на Наста́сі, доцці́ Ма́рді Быгуни́ўскійі. А ўнук його́ за́рэ жывэ́ ў Вацэ́віч (‘у Івацэвічах’).

**Л. М**. З лі́вого бо́ку гостэ́нца була́ ха́та Іва́на Брату́хэ (жі́нка його́ Ната́ля, яку́ю прозыва́лэ Шчэ́ра чы Шчэ́ринька, – вона́ напра́ўду була́ шчэ́ра (‘шчырая’) – і йі́хе ді́тэ: Мі́ша, Ко́ля, Алёша, Стёпа, Га́нна, Ма́ня і На́дя – синэ́ умырлэ́ ўсі (тро́е тут, а одэ́нь у Казахста́нэ. Га́нна то́жэ ўмырла́. По́сля войнэ́ у Брату́хэ робэ́лэ му́зыку (‘танцы’) – ха́та вилі́ка, трэ сылі́ блэ́сько, то мо́лодіжэ прыхо́дыло мно́го. Пото́м усі́ хло́пцэ і Га́нна посылэ́лыся на тыпэ́рішній гу́лыцэ Ле́ніна, алэ́ у нас йійі́ зва́лэ і за́рэ зову́ть Брату́шына гу́лыца.

Улі́во од Брату́шыних у бік Высхо́ду мі́сьце называ́лось До́ўга. Там жылэ́ Мыке́тынэ (по фамі́лійі Ваку́лін) і йіх синэ́: Ко́ля, Йван, Дынэ́с, Пе́тя, Сэ́дор, Са́нік (він загэ́нуў на фро́нтэ). Ко́ля ўзёў Брату́шыну до́чку Га́нну, а Іва́н (Блызьню́к) узёў Котло́ву па́дчырыцу Го́льку. Пе́тя жэў у Ле-

нінгра́дэ, а Сэ́дор – у Марковэ́ч. На До́ўгій жэў Сарафі́м з Га́ннию. По́тым усі́ пырысылэ́лись на Брату́шыну гу́лыцу.

За Брату́хию на ху́торэ жэў Мыха́лко з Га́ннию; йі́хе сынэ́ Ва́ся і Іва́н ужэ́ даўно́ поўмыра́лэ, а одна́ з дочо́к вэ́йіхала ў Росе́ю. Тыпэ́ришне окро́плянэ ўжэ йіх і ны помыта́ють.

За Бада́мэ, ěк йі́хатэ ў сыло́, жыла́ Ўле́на Бара́ныца. Сэн йійі́ Йван робэ́ў вучі́тілём у шко́лэ ў Бурма́к, а дочка́ пырибра́лася ў Дорогэ́чинь.

Да́лі жылэ́ Цыганэ́ (ны настоёшче, а прозыва́лэ так) по хвамі́лійі Паўлю́чык і Соўгілі́. Ко́ля Цыга́н буў жона́ти на Хвыдо́сі; у йі́х булэ́: сэн Ко́ля, яке́й постро́йіў ха́ту каля йіх і ожынэ́ўся з На́дію Андри́йчыковию з Высхо́ду. Дочка́ Мару́ся вэ́йшла за́муж за Йва́на Ха́мового, а дочка́ Лю́да вэ́йшла за́муж у Лосэ́нцэ.

**Л. Д.** Упра́во од гу́лыцэ Ле́ніна одхо́дыть гу́лыца Побе́дэ. У гэ́тому куто́чковэ колэ́сь стоёла корчма́. Напро́ті на рожку́ ў мале́нькій ха́тцэ жылэ́ Кацапэ́. Вонэ́ даўно́ прыйі́халэ з Росе́йі. У войну́ ні́мцэ повыбыва́лэ усі́х жыди́в, і у гэ́тий корчмі́ жэў Ва́ся Касёнчык (ба́тько его́ з Былинě, а ма́тэ – Пытырэ́нчыкова сыстра́).

Соўгі́ль Іва́н (жона́ти на Татёнэ) буў бра́том Наста́сі Бадзыгі́нчыйі. За́рэ йі́ха ха́та з зылёнымэ го́кнамэ стойі́ть поро́жня – ныма́ кому́ жэ́тэ. За Я́шкію Цыгано́м за́мужом була́ Ўлёна, а йі́хі сэн Іва́н вучэ́ў дытэ́й у бурма́цкій шко́лэ; він каля Соўгілі́ў поста́выў ха́ту, а жі́нка его́ Мару́ся Па́ўлоўна була́ твоя́ пэ́рша учі́тільница.

Гнат Бо́ндар буў бра́том Ко́лі Бо́ндара, а Ко́ля (жона́ти на Хвыдо́сі) – гэ́то ба́тько Ва́сі, а Ва́ся – ба́тько Пе́ті Бо́ндара, яке́й узёў на́шыйі ті́тке Зо́сі дочку́ І́ру, твою́ двою́родну сыстру́, і за́рэ вонэ́ жыву́ть у Бырэ́зэ.

Одра́зу за Каца́пом стойі́ть крэж і дорі́жка ўліво – на гу́лыцу Саве́цку. Пыры́д крэ́жом була́ ха́та Ляшка́ і Онэ́сі.

**Л. М.** Налі́во од корчмэ́ на по́лі у Смуга́х жэў Хомэ́ч Мыха́лко з Га́ннию. Йі́хэ сынэ́ Ва́ся і Іва́н даўно́ ўжэ поўмыра́лэ; одна́ з дочо́к вэ́йіхала ў Росе́ю, а дру́га – за́мужом за Сьцёпа́ном Саўчуко́м. У Сму́гах шэ жэў Іва́н з Го́лькію – Саўчуке́ (Залі́снуке). У йіх було́ два сэ́нэ – Ко́ля і Хве́дя. Ко́ля буў жона́ти на На́ді Брату́шыний (він ужэ́ ўмэр), а Хве́дя таксамо ўмэр ужэ́ даўно́ у Пэ́ньску (‘Пінск’). А шэ ў Сму́гах жэў Ва́ся і Юхэ́мня Саўчуке́. Йі́хэ Га́нна і Алёша пойі́халэ ў Карэ́лію, а Ні́на була́ тут і ўжэ ўмырла́.

**І. І.** Да́лі по гу́лыцэ Побе́дэ жылэ́ Мару́ся і Сьцёпа Літві́нко. Дырхві́й Літві́нко колэ́сь прыві́з собі́ жі́нку з Росе́йі. Его́ дражнэ́лэ Колхо́зьніком. Сэн Мару́сі і Сьцёпэ Арка́дій ходэ́ў зо мно́ю ра́зом у пэ́рші клас. У Дырхві́я була́ сыстра́ Ма́рдя Дырхві́ёва і дьві дочке́ – На́дя і Лі́да, одну́ з йіх ні́мцэ ўзялэ́ на робо́тэ ў Гірма́нію. Помыта́ю, вона́ нэц ныко́му ны роска́зувала: чы то йій ўла́сці заборонэ́лэ, чы вона́ сама́ ны ма́ла охо́тэ роска́зуватэ, ěк йій там жыло́ся. Дырхві́й жэў напро́ті Мару́сі. До йійі́ счёста прыхо́дылэ бабэ́, коб вона́ напыса́ла пісьмо́ мужыка́м чы брата́м на фронт, бо вона́ ўмі́ла до́брэ пыса́тэ по-ру́скому.

**В. І.** До пырисіле́ньня ў Тэ́пцэ Котёл жэў там, дэ за́рэ сыдэ́ть Джыганэ́ха на сі́льскій гу́лыцэ за Ва́сію Бо́ндаром. У то́му конці́ жэў Торока́ныц (хвамі́лія – Саліво́нчык) – так прозыва́лэ, бо він буў з Торока́ня, а жі́нка – з Сэ́монович.

Каля нас у Тэ́пцах жыла́ Га́нночка Пэ́лёва – Барба́рына нывістка. Сынэ́ йійі́ жылэ́ у Калінінгра́дзкій о́бласьці, одэ́нь сэн погэ́нуў, а дочка́ була́ за́мужом за Ко́лію Сачко́м з Німе́ржэ, і ěк вона́ постарі́ла, то дочка́ забра́ла йійі́ ў Німе́ржу.

**Л. М**. Да́лі, за Га́нночкію пôд лі́сом жэў Ёсып; було́ ў его́ п’ёть хло́пцу (Мі́ша, Воло́дя, Іва́н, Сэ́мон, Ва́ся) і трэ ді́ўчынэ: Ле́на, Га́нна, На́дя. З йіх кого́ забэ́лэ на войні́, хто ўмэр од ті́фу; Га́нна жыла́ тут і була́ за́мужом за Пытэ́рыком Ва́сію, На́дя була́ на Попэ́нэ, а Ле́на ў Смоле́нску.

У Оні́прія і Ма́рді Тодорці́ўскіх булэ́ хло́пцэ Сэ́мон (сапо́жнік – на́дто до́брэ шэў), Санік, Па́вып, Тэ́хон, Іва́н, ну і до́чке: Палаге́я і На́сьця.

**В. І.** У гэ́тыйі Тодорці́ўскійі Наста́сі колэ́сь буў мужэ́к Хвыдо́сь Шку́ра, брат мэ́йі ма́чохэ, яке́й пойі́хаў у Амэ́рыку і ны вырну́ўся. Другэ́йі мужыке́ таксамо остава́лысь у Амэ́рыцэ – у Дуні

Ко́цовыйі, у Дымынэ́сі і ў дру́гэх. Наста́ся од пэ́ршого мужыка́ родэ́ла два хло́пцэ – Ко́лю і Во́лодю; хло́пцэ булэ́ на́дто красі́вэ. До войнэ́ вонэ́ па́слэ коровэ́, а пото́м воёва́лэ у Росто́вэ, там і оста́лися. Наста́ся йім пото́м прысла́ла по самохо́довэ (ліхкову́шке) ка́жному.

Ёк йі́хатэ з Бурма́к на Дубо́вике, то там, дэ за́рэ ро́блять хвістіва́лі (там росту́ть пі́хтэ і хвойіна́ з вылі́кімэ шпілька́мэ ‘веймутаўкі’), жэў ліснíчы Яво́рскі, На́сьця ў ёго́ служэ́ла. Пото́м од со́лтуса Сэ́мона Быгуни́ўського родэ́ла ді́ўчынку Жэ́ньку на ху́торэ коля Котли́ў і поке́нула йийі́ на Котла́. У войну́ На́сьця любэ́ла німе́цкого поліца́я ро́дом з Пузі́ў Биро́зоўского раёна і пырид прыхо́дом саве́цкійі а́рмійі ўтыкла́ з йім у Амэ́рыку. Там жыла́ йийі́ ті́тка. У сімдысётых года́х вона́ прійіжджёла тури́сткію у Мінск, і роднэ́йі ба́чылыся з е́ю. Каза́лэ, шо вона́, ёк похава́ла гэ́того поліца́я, то вэ́йшла за́муж за мільёнера. Усё мо́жэ бу́тэ!.. Бабэ́ колэ́сь на́дто завэ́дувалэ Наста́сі, шо вона́ могла́ пыриоде́тысь кі́лька раз на дэнь.

А йийі́ бра́товэ Са́ніковэ вэ́ймэ ны пошыхôва́ло. Дэсь прыме́рно ў пыдисётих года́х раз пушо́ў він до кого́сь там у сыло́ на вычурке́, а жі́нка мі́цно натопэ́ла гру́бку і на лыжака́ (‘ляжак у дымаходзе’) положэ́ла пе́рнача, коб вэ́сох. А пе́рнач (‘пярына’) занёўся горі́тэ; вона́ і два хло́пчыке, му́сить, учёдылэ і згорі́лэ, і ха́та заняла́ся горі́тэ. На дру́гі дэнь, роска́зувалэ, прышлэ́ дывэ́тыся – тіла́ обгорі́лэ, ста́лэ чо́рнэ, та́бэ ого́льле, і ра́птом ба́чать, шо ў жі́нке нога́ ў колі́нэ поднялá́ся і зогну́лася. Бабэ́ поляка́лися і поўтыка́лэ. А гэ́то сухожэ́льле вэ́простувалося... Пото́м Са́нік прывіз собі́ жі́нку з-за Я́сільдэ і пырибра́ўся жэ́тэ ў сыло́.

Улі́во од Са́ніка була́ ўса́дьба Васылё Кубасэ́ (так ёго́ дражнэ́лэ), бра́та Максэ́ма Шэ́шка. Васылёва жі́нка Го́лька, ёк він буў дэсь у Росе́йі на робо́тах чы на заво́дэ, то сама́ выла́ хазя́йство. Йийі́ дочка́ Лю́ба ходэ́ла зо мно́ю ў шко́лу, а два хло́пцэ пото́м ста́лэ міліцыоне́рамэ; за́рэ одэ́нь у Білозёрску, а дру́гі ў Мі́нсковэ. Колхо́зу у нас ны було́ до 1949 го́да; прызначёлэ поста́ўке і платэ́лэ пода́тке. Нача́льство чому́сь ду́мало, шо Го́лька прыхава́ла збіж і ны пла́тыть пода́ток. Одного́ дне зра́нку прыйі́хало, мо́жэ, з дэ́сыть машэ́н міліцыйі і нача́льства і ста́лэ вымага́тэ пода́ток. Вона́ сказа́ла, шо за ўсё заплатэ́ла, алэ́ вонэ́ ны ві́рылэ і ста́лэ йийі́ бэ́тэ. Бо́жымі, ёк вона́ крычёла! Мо́жэ ду́мала, шо хтось з окро́плян бу́дэ йийі́ ратува́тэ, алэ́ ж ўсі боёлыся на́вить вэ́йтэ с ха́тэ. На́ша ха́та була́ од Кубсо́выйі ўса́дьбэ мо́жэ мэ́тру з пяццо́т, і я прочну́ўся од йийі́ крэ́ку і плачу́. А вобшчэ́-то вона́ була́ до́бра молодэ́ца, проста́я сі́льска жэ́ншчына, яка́я ны вэ́ймэ (‘не вельмі’) дружэ́ла с куха́рством. На Ко́лядэ ў нас обіза́тільно варэ́лэ ю́шку і канпо́т, яке́й зва́лэ *грушка́мэ*. То вона́ наварэ́ла гэ́тых грушо́к і ка́жэ: «Нёке ны сма́шнэ, я йіх ужэ́ й посолэ́ла, а вонэ́ сёромно́ ны сма́шнэ». Вона́ ўмырла́ ра́ньші за мужыка́, а мужэ́к шэ ўзёў Лю́бу Каца́пову і жэў з е́ю, а за́рыса ха́та стойі́ть поро́жня.

**І. І.** Шэ ліві́ од Кубасэ́ на доро́зэ (за́рэ гу́лыца Побе́дэ) була́ уса́дьба Хвэ́дора, по-мо́ёму, замо́жного господарё. Усі́ ёго́ почыта́лэ, і, помыта́ю, ёк ёго́ хава́лэ, то мнэ́га наро́ду зобра́лося.

А шэ блэ́жі до сыла́ за вэ́гоном жэў Максэ́м Шэ́шко (‘Шышка’). За жі́нку ўзёў Ду́ню Столярэ́шыну, образо́вану; вон ўмі́ла і чыта́ла кніжке́. Ёк я помыта́ю, то после́ войнэ́ Ду́ня оста́лася одна́: Максэ́ма забэ́лэ на войні́, ёк і мого́ дёдька Карпа́ (1921 г. н.). З двох хло́пцу мэ́нчі вучэ́ўся ў ніс́цітутэ (му́сить, у шахтёрскому), алэ́ пото́м робэ́ў у Мі́нску на заво́дэ шчо́тних машынэ́й, а ста́рши на́дто хоті́ў бу́тэ космона́ўтом, на́вить пыса́ў кудэ́сь там пі́сьма – ны ўзялэ́ ёго́. Робэ́ў у Дорогэ́чыні міліцыоне́ром, пото́м у Білозёрску, алэ́ горі́лочка ёго́ згубэ́ла, засмокта́ла, быз йийі́ він сві́та ны ба́чыў і ўмэр у про́шлому году́. Уса́дьба Ду́ніна була́ напро́ті на́шого ді́да, а за́рэ там жывэ́ на́ша шано́ўна інформа́торка Го́лька Іва́ноўна, алэ́ йийі́ ха́та одно́сыца до гу́лыцэ Саве́цкійі.

**В. І.** Напро́тіў Хвэ́дора е́сьця кана́л, уздо́ўж ёго́ жэў Мыро́ч (по хвамі́лійі Дырка́ч), ро́дом з Лосэ́нцу; він буў у прэ́ймах у Га́ннэ. Мырочэ́ха прыхо́дилась сыстро́ю Оксэ́ні (яка́я за́мужом за Бо́ндаром). Йі́хі одына́к – сэн Воло́дя вучэ́ўся ў Пэ́ньску (‘Пінск’) на ба́нкоўского рабо́тніка, кро́хэ поробэ́ў у Дорогэ́чині, пото́м пырибра́ўся ў Бара́новічэ. Уну́кэ ёго́ на На́ўське (у чацвер пасля Вялікадня) прыйі́шчёють на мо́глыцэ, прыбыра́ють, упорёдкують могэ́лэ Мырочі́ў.

Од Хвэ́дора ўздо́ўж кана́ла доро́га йдэ у Сад (колэ́сь – па́ньска ўса́дьба). Там блэ́зько знахо́дыца Па́сіка – та́бэ пôд Німе́ржу помиж Плёшком і Зо́сію Джа́новию. У тому́ Лужко́вэ мэ колэ́сь былэ́лэ

поло́тна, ростыла́лэ йіх на росі́. До войнэ́ тут буў міст, алэ́ партіза́нэ спалэ́лэ. Жэў тут Гандрі́й Секі́рскі.

**І. І.** А чыриз кана́л жэў Сімінчу́к з жі́нкію Ўлёнию (ка́жуть, шо вона́ пыла́ ґа́зу). Він збыра́ў пода́тке. На́вить прыду́малэ часту́шку: самолё́т лытэ́ть уго́ру ла́пкамэ, а Сімінчу́к ідэ́ за пода́ткамэ. Буў на́дто ві́рни служа́ка. Мэ ўжэ жылэ́ з 1946 года ў Дорогэ́чині, а він з-за того́, шо мэ ны булэ́ ў колхо́зэ (бо ба́тько мій буў янвалі́дом пэ́ршыйі гру́пэ биз обі́дьвох ниг), прышо́ў с конэ́м і плу́гом і обгора́ў на́шу ха́ту й хлыва́, шо мэ ны ма́лэ пра́ва вэ́йтэ з уса́дьбэ, бо му́сылэ йтэ по госуда́рствінний зымні́. А зэ́мню гэ́ту у со́рок шо́стому ро́ццэ ба́тьковэ даў райсполко́м, колэ́ мэ пырибра́лись з Окрі́пного ў Дорогэ́чинь.

**Л. Д.** На Вэ́гоньскому шэ жэў Жанда́р (Васэ́ль Паўлю́чык). Сыстра́ його́ Ярэ́на оста́лася ў Росе́йі, а він узёў ма́тыра Па́ўла Ро́шкового. Пырибра́ўся ў сыло́ і поста́выў ха́ту напро́тіў Па́ўла, Котлэ́шыного сэ́на.

**Л. М.** Ра́дом з ха́тию Па́ўла Ро́жкового була́ ха́та Ко́лі і Сціпані́йі Паўлю́чык (по прі́звыску – Лісо́вьіч): гэ́ти Ко́ля ўдава́ў (‘даносіў’) лысника́м і об’ёшчыковэ лі́су, хто ў лі́сэ краў дэ́рво на стро́йку і на дро́ва.

**І. І.** У Ро́шкового Па́ўла і його́ жі́нке Са́ні свойі́х дытэ́й ны було́, і вонэ́ ўзялэ́ плымі́нницу. По сусі́дзтву жывэ́ моя́ сыстра́ Лі́да. Я прыйі́хаў до йійі́ пі́знию го́сыню, подывэ́ўся на Па́ўлову ха́ту, і ба́чу, шо ў його́ цвытэ́ нёкі корч. Мынэ́ заіньтерэсова́ло, шо гэ́то росцвыло́. Пушо́ў до його́ спыта́тысь: він сказа́ў, шо гэ́то брызґлэ́на (Euonymus L.). Мэ розговорэ́лыся, і він сказа́ў, шо Са́ня ўмырла́. Вона́, ёк умы́рла, чу́ствовала смэрть і ка́жэ: «Па́вылко, прынисэ́ мыні́ холо́дныйі водэ́цэ с коло́дяза. Алэ́ зра́зу подийдэ́ до мынэ́ і дава́й поцылу́йімось». Поцылува́лись. Він пушо́ў по воду, прыні́с, аж ба́чыть, шо Са́ня после́дні раз дыхну́ла і ўмырла́. По-моє́му, вона́ на́дто розу́мно прыду́мала, коб Па́выл ны ба́чыў йійі́ конву́льсій.

**В. І.** Па́выл з Са́нію поста́вылэ ха́ту свою́ там, дэ колэ́сь жэў Карпо́ Быгу́н. После́ тэ́йі самато́хэ ў трэ́цциь дывётому ро́ццэ його́ (він буў пры По́льшчэ со́лтусом) і дьві ді́ўчынэ Саве́тэ вэ́вызлэ ў Сібі́р.

Каля́ Жандарэ́ за лу́гом сырид по́ля постро́йіў ха́ту Пытру́шка з Выргу́ньскім. Пытру́шка буў ро́дом з Окрі́пного, а жі́нка – з Осулён. Йі́ха дочка́ Га́нна вэ́йшла за Мыха́лка і жылэ́ (на гу́лыцэ) Позагу́мыньню за на́мэ (за Го́лькію Іва́ноўнию). Пото́м до Пытру́шке пыста́ла Ма́рта з дочко́ю Ма́рдію – обі́дьвэ гарка́вэ. А ёк Пытру́шка ўмэр, то вонэ́ ста́лэ жэ́тэ каля Бадэ́ ў Тэ́пцах.

**І. І.** Пытру́шка буў зна́харом. Коб хто ўзёў Ма́рдію, він у сыбэ́ ўстра́юваў му́зыку (‘танцы’) коб збыра́лася молодёж. Зымо́ю музыка́нтэ гра́лэ до́ўго, а лі́том, ёк но́чэ булэ́ коро́тке, і Пытру́шка ны высыпа́ўся, то він – ёк роска́зуваў мыні́ мій ба́тько – він ішо́ў за хліў, шось шыпта́ў, і ра́птом ёк зро́быца шу́ра-бу́ра, лытэ́ть не́ке сьмі́тьте, лэст з дэ́рва, нёка соло́ма з гно́ём на тэх, хто гулёе (‘танцуе’). Танцо́рэ поляка́юцца і ўтыка́ють з му́зыке.

А одно́го ра́зу мужыке́ у сылі́ сыді́лэ дэсь на ні́чыёму нарі́заному дэ́рвовэ, говорэ́лэ про то́есе́е, і одэ́нь п’ёнова́ти мужэ́к стаў сумніва́тыся, шо Пытру́шка шось мо́жэ ўробэ́тэ; він, жарту́ючэ, ске́нуў с Пытру́шкіныйі головэ́ шёпку, яка́я ўпа́ла на доро́гу, на стэ́жку, дэ йшлэ коровэ́ і поке́далэ свойі́ «блінэ́». Пытру́шка обі́діўся, вэ́тыр шёпку і по̂шоў додо́мэ. Ста́ло вычорі́тэ. Мужыке́ поросхо́дылысь, і гэ́ти мужэ́к прышо́ў додо́мэ, стаў кормэ́тэ скотэ́ну – зані́с ля коро́вэ бырэ́мне сі́на і положэ́ў його́ ў ёсла, а колэ́ жі́нка ста́ла дойі́тэ коро́ву, то поба́чыла, шо ў выдро́вэ молоко́ з кро́ўю. Коро́ва рика́ла ўсю нич, а ўра́но, колэ́ він поні́с коро́вэ но́вэ сі́но, то поба́чыў, шо вона́ сі́на з ёсил ны йість, а вытёгуе соло́му з гно́ю і жуе́ йійі́. Так було́ ці́ли дэнь, а на дру́гі дэнь господа́р узёў плёшку горі́лке і пошо́ў пырипро́шуватэ Пытру́шку і просэ́тэ, коб одробэ́ў тэ́йі чёрэ.

Пытру́шка дружэ́ў з моі́м ді́дом Тара́сом (окро́пляньскім). І дід то́е-сёе ўмі́ў одроблётэ, навучэ́ўся од Пытру́шке. Я помыта́ю, шо ёк у кого́ дытэ́на пла́чэ ўсю нич (‘крыксы напалі на дзіця’), то прыхо́дылэ до ді́да на́вить і ўночі́, і він браў свою́ шёпку з бара́ныцэ (‘кучму’) і йшоў до гэ́тыйі дытэ́нэ: шось пошэ́пчэ, вэ́трэ дытэ́ну тэ́ю шёпкію, і дытэ́на засыпа́ла.

Я, ёк мэ пырибра́лысь жэ́тэ ў Дорогэ́чинь на Трі́йцу со́рок шо́стого го́да, любэ́ў йі́здытэ у сыло́ «на каніі́кулэ», чы, ек ба́тько каза́ў, «на у́рлёп», бо там я буў го́сцём у ді́да і дёдька Ко́лі – там робэ́тэ нэц мынэ́ ны застаўлёлэ, у дёдька було́ мнэ́го кніжо́к і буў чёс йіх чыта́тэ, там сма́шно кормэ́лэ, а шэ ў дёдька було́ ра́діво «Ро́діна» на батарэ́йках. І от раз хтось мынэ́ прывіі́з у Окрі́пнэ, я ў ха́тэ ныко́го ны заста́ў: усі́ булэ́ на по́лэ. Ба́ба, ті́тка Зо́ся і Лі́да поло́лэ *про́со* (‘звычайнае жоўтае проса’) і *бир* (‘цёмна-карычневае проса’). Ба́ба попросэ́ла, коб я подожда́ў йіх, по́ке вонэ́ ны допо́лють гэ́тэ хвіі́шчыке заго́ну, і посыді́ў на мыжі́ на зі́льлёвэ, а пото́м мынэ́ вонэ́ завылэ́ б до ха́тэ і покормэ́лэ б. Я сыдіі́ў, а пото́м засну́ў – со́нцэ розморэ́ло. Прочну́ўся і стаў чухрэ́тысь: по ўсёму́ ті́ловэ повыска́калэ боўтурі́ з водо́ю; ёк йіх кро́хэ почу́хріш, вонэ́ мі́цно свырбі́лэ, пото́м пынька́лэ, вода́ вытікала, а то́е мі́сьце болі́ло. Я пôшо́ў до ба́бэ, показа́ў йий свойі́ ру́ке, і вона́ сказа́ла ді́довэ: «Выдэ́ ёго́ ў ха́ту і зробэ́, шо трэ́ба». Дід прыні́с с комо́рэ «квітку» (‘букет з кветак, жыта, які свянцяць на Прачыстую 28 жніўня’) – у нас йийі́ сьвя́тять на Сплыне́ (‘тс’), набра́ў з ку́чке (на прэ́пычку) жёру (‘гарачае, чырвонае вуго́льле’) у мэ́сочку, ке́нуў тудэ́ то́е зі́льле, поста́выў на зымні́, а мынэ́ охыну́ў ці́хію (‘льняная прасціна’), пошыпта́ў шось, проке́нуў ого́льле чыриз мою́ соро́чку. Дід заві́ў мынэ́ ў кро́ватэ, положэ́ў, і я засну́ў, і колэ́ чыриз час прочну́ўся, то мое́ ті́ло було́ чэ́стэ, оно́ оста́лыся ра́нке с тэх боўтури́ў, шо попынька́лэ. С того́ чёсу я пырыста́ў ві́рытэ вучі́тільныцэ, яка́я каза́ла, шо ўсё гэ́то забабо́нэ ныгра́мотных людэ́й.

Лю́дэ каза́лэ, шо Пытру́шка буў до́бри чолові́к, зна́хор, яке́й нэц нычо́гого лю́дюм ны робэ́ў. Алэ́ моёму ба́тьковэ, му́сыть, шось уробэ́ў. Бо одно́го ра́зу Пытру́шка й ка́жэ моёму ді́довэ: «Хай твій Іва́н бырэ́ мою́ Ма́рдю» А Ма́рдя була́ гарка́ва (‘картавая’), і зу́бэ булэ́ ў йийі́ ны так перпендікуля́рно до ске́виц, ёк в усі́х людэ́й, а ко́со, под вугло́м у со́рок п’ёть гра́дусу, та́бэ вылазылэ з ро́та на двір (‘на вуліцу’). От ба́тько і сказа́ў ді́довэ, шо гэ́тыйі «кобэ́лэ зуба́тыйі» ныко́лэ бра́тэ ны бу́дэ. І ожынэ́ўся с Татёнию Джэ́мовыю, яка́я, ёк пото́м дові́далыся, була́ хво́ра на паду́шчу хворо́бу.

Бабэ́ йийі́ ўтіша́лэ, шо ёк ро́дыть дытэ́ну, то попра́выца, а вона́, ёк родэ́ла дочку́, то чыриз тэ́ждинь умырла́. Пырыд смэ́ртю йийі́ наш ба́тько шо ты́лько ны робэ́ў, кудэ́ ты́лько до яко́го зна́хора ны возэ́ў, нэц ны помогло́. І колэ́ він, нарэ́штэ пышко́м зайшо́ў у Блу́дынь і ек мога́ хутчі́ рва́ўся додо́му, той зна́хор сказа́ў, шо ба́тько жі́нку жывэ́ю ны заста́нэ і шо ў ба́тька у трэ́ццыть шість літ бу́дэ пырило́м костэ́й. Так і ста́лось: колэ́ ба́тько ў ро́тэ ішо́ў на фро́нтэ (под Ґрудзёндзом у По́льшчэ), коля йіх танк найі́хаў на мі́ну, мі́на розорва́лась, і хто буў у пэ́ршій коло́нэ, тра́хнуло по нога́х до колі́н, а ў дру́гій побэ́ло і голі́нку, і стыгно́, а ту́ю но́гу, яку́ю він поднёў, зусі́м одорва́ло і понысло́ кудэ́сь. Йийі́ одрі́залэ зусі́м, а побэ́ту дохторі́ ў Камы́шыні хоті́лэ вэ́ратуватэ, алэ́ ны ўдало́ся, самолётом одпра́вылэ ёго́ ў Москву́ ў го́спіталь. Стиль ёго́ прывіі́з дёдько Ко́ля ўжэ быз ниг – оно́ по дэ́сыть цынтимэ́тру ниг оста́лось.

**В. І.** Буў у Окрі́пному шэ одэ́н зна́хор – Коц. Каза́лэ, шо він буў вре́дни і міг дэ́кому шо-ныбу́дь ничо́гэ ўробэ́тэ. Алэ́ ны за́ўшэ. Раз мій ба́тько (Котёл) возэ́ў ёму́ дэ́рво. Прывіі́з і ка́жэ, шо повыдэ́ кобэ́лу на пасовэ́ско, коб попа́слася. А Коц ка́жэ: «Ны йдэ ныку́дэ; вона́ і тут бу́дэ па́стысь». Обийшо́ў круга́ по траві́, пустэ́ў тудэ́ кобэ́лу, і вона́ ходэ́ла по гэ́тому кру́говэ, кі́лька трэ́ба було́.

**Л. М**. У Коца́-зна́хора була́ дочка́ Ду́ня, і він йий, му́сить, пырида́ў зна́хорство, бо, ка́жуть, шо до йийі́ прыйі́жджёлэ лю́дэ, пыта́лыся, дэ йийі́ ха́та, а вона́ жыла́ чыриз ха́ту од нас. Одного́ ра́зу вона́ прыбі́гла до нас у ха́ту і хутчі́ лыгла́ на діва́н, то я йийі́ прогна́ла, бо у мынэ́ буў Ко́лька шэ малэ́й, і я злякáлась, шо вона́ нам уро́быть яку́юсь па́кость.

**В. І.** Напро́ті ді́да Тара́са була́ ха́та Тэ́хона Пэ́лёвого, а да́лі, пошчі́ по Саве́цкій гу́лыцэ – Барба́рына. Булэ́ ў йіх з Ю́рком шэ хло́пцэ Сэ́мон і Ва́ся і дочка́ Ярэ́на. Сэ́мон ожынэ́ўся ў войну́, а Ва́ся буў нычо́гі (‘кепскі’): любэ́ў Ве́ру Ґадэ́мову (вона́ з ба́тьком Ґадэ́мом жыла́ ў Бу́рынэ) па́ру літ, алэ́ за́муж ны ўзёў. Тому́, му́сыть, ёму́ було́ наказа́ньне: од жі́нке На́ді родэ́лося дво́е дытэ́й і ўмырло́.

**І. І.** Напро́ті Ва́сі Пэ́лёвого жывэ́ на́ша інформа́торка Лі́да Дымэнтыё́ва. Колэ́сь тут прохо́дыла доріжка ў Тэ́пцэ помі́ж Лі́дынию уса́дьбию і ді́довию, а на горо́дэ стоёла на́ша ха́та, а за́рэ й знаку́ ныёкого ныма́, шо тут шось стоёло.

Уса́дьба Лі́дэ колэ́сь налэ́жала солда́тцэ Ма́рді Рэ́дьчыний.

**В. І.** Чыриз гу́лыцу Побе́дэ вэ́йдымо на Саве́цку гу́лыцу. Тут жывэ́ На́дя Дыминэ́сіна – дочка́ Ро́шковийі Дыминэ́сі. За́мужом На́дя за Плёшком (з сыла́ Пырэ́спа). Дыминэ́ся – сыстра́ мэ́йі ма́чохэ Га́ннэ. Брат Дымынэ́сі – Серахи́м (Сирахві́м) зашчышча́ў Брэ́сцку крэ́посць. Міг бэ бу́тэ гіро́ём, алэ́ кому́сь там прызна́ўся, шо выхо́дыў с крэ́посці попросэ́тэ хлі́ба – дай нэц ны получэ́ў, ныёкого гіро́йства.

Каля мынэ́ по сусі́дзтву жывэ́ Га́нна, дочка́ Юзэ́па і Зі́ні. Було́ ў йіх, му́сыть, з дэ́сить дытэ́й: Со́ня, Го́лька, На́дька (умо́м тро́нулась), Сьцёпка (ныдалёкі), Іва́н (ужэ́ ўмэр)... Юзэ́пко ўмэр рапто́во: молотэ́ў-молотэ́ў у клу́ні, зробэ́лось млёўко, сіў на прэ́сторонок, дай умэ́р (долягa̋ло сэ́рцэ).

Гу́лыца Саве́цка кончэ́йіца ў Бу́рыний. Там жыла́ ма́тэ Го́льке, жі́нке Сёмэ Пэ́лёвого. Пото́м вона́ пырынысла́ся ў сыло́, Ґадэ́м з Ма́рдію, Бадзыгі́н, Ко́ля Артёмович з Ма́нію і Марцыён Ваку́лін з Зіно́віею, тэсць твого́ ба́тька.

**І. І.** Его́ дражнэ́лэ «Джэм», він буў у Амэ́рыцэ і каза́ў, шо ёго́ там так зва́лэ і шо ёму́ на́дто нара́выца, ёк так на ёго́ ка́жуть. [Я ду́маю, шо ёго́ зва́лэ там «Джім» – ну гэ́то ёк у нас: эй, Шу́рык!] Сэн ёго́ Ва́нька (Марцыёнуў) прышо́ў з войнэ́ быз лі́війі руке́, ожынэ́ўся з Аню́тию з Лосэ́нцу, пырибра́ўся ў Дорогэ́чинь і поста́выў ха́ту каля са́мого база́ра; дытэ́й у йіх ны було́, поўмыра́лэ і поке́нулэ свое́ хазя́йство і бога́цтво свойі́й рода́ццэ.

Гэ́той Марцыён буў смі́шни: усё робэ́ў сам, ла́дыў усё сам, во́за ны одда́сць, коб ковалі́ поладылэ, а ўсё нёке клыно́чке подбыва́е: оно́ вэ́йідэ за пэ́рші поворо́т, одэ́нь клыно́к вэ́паў, до доро́гэ дойі́дэ, трэ разэ́ спэ́ныца – усё клыно́чке подбыва́е і замі́нюе.

**В. І.** А да́лі ў Бу́рынэ – Хэ́рма под лі́сом. Там жэў Васэ́ль Хвыдосю́к. У гэ́той ліс мэ ўсё́ ўтыка́лэ на́нуч. Там і йі́жа була́, і скотэ́на.

Сюдэ́ блэ́жі до сила́ жэў Слюз (напро́тіў Хвэ́дора). Він і сусі́д Лі́йка ўтыклэ́ з ні́мцамэ, мо́жэ, і ў Амэ́рыку, дэ жыла́ Лі́йчына сыстра́. Пры По́льшчэ Лі́йка Рыгі́р буў лысникőм, йі́здиў у Парагва́й, а ёк сыстра́ Ўлёна і Пола́я схоті́лэ пойі́хатэ, то йіх ны пустэ́лэ.

Хоті́ла ўтычэ́ до ні́мцу і ба́ба Ма́рта с сэ́ном-со́лтусом, він таке́й буў здоро́ви і красі́ви… Пойі́халэ вонэ́ с ко́самэ нэ́бысь-то (‘быццам бы’) ў Ві́льку Попэ́ньску на сіноко́с, алэ́ партіза́нэ йіх зловэ́лэ і забэ́лэ.

Шчэ́лно доро́гэ спра́ва жэў Карпэ́на, брат Оні́прия. У ёго́ буў сэн Ко́ля, яке́й браў На́сцю Ляшо́ву (вона́ ўмырла́ од даўле́ньня), і ў йіх ны було́ пло́ду (‘не было дзяцей’). Гэ́того Ко́лю дражнэ́лэ «быспэ́цкі». [Корань гэтага слова ўзыходзіць да *пыцо́к* ‘membrum virile’ < ідыш *поц* ‘тс’, ‘дурак’ – *І. І.*]. До смэ́ртэ ёго́ доглэ́дуваў Га́міль Ко́ля, і ёму́ доста́лася Ко́ліна ха́та. Ма́тэ йі́ха Хве́ня (Хвыдо́ся) була́ хоро́ша жэ́ншчына; сэн Ко́ля ныда́ўно ўмэр, а ёго́ жі́нка Мару́ся шэ жыва́я. А сэн Ва́ся прыста́ў у Старосі́льлі (частка Драгічына) до Ма́ні Во́лянке і жыву́ть там.

У Га́милю було́ мно́го дытэ́й. Са́ми ста́рші – Лёня ў 1935 го́ду пышко́м дойшо́ў до Варша́вэ. А с Ко́лию і Ма́нию мэ робэ́лэ *одбия́нку* на сні́говэ: опре́няни (у пальто́вэ) па́дае на сніг, і там остае́цца слід ёго́ фігу́рэ – гэ́то і була́ одбия́нка.

Напро́тіў мынэ́ жывэ́ Панэ́ха, така́я гульта́йка, трыпло́, ны са́дить ны борознэ́ горо́да; ро́дом з Осулён, а мужэ́к – од Пылі́ў.

Блэ́жі до мо́глиц жэў Пытру́к Бэ́рдус, яке́й на́дто хорошэ́ граў у язэ́к. У ёго́ дочке́ По́льке була́ дочка́ На́дя, алэ́ ра́но ўмырла́. Ко́ля По́льке було́ кро́хэ мі́сьца, і ў ныді́лю чы ў свята́ молодёж гра́ла ў пі́лку (у валейбол), а нам – суплякa̋м – позво́ляно було́ подава́тэ мнячё, ёк він зако́тыца далёко.

Зайці́ і Балюке́ – окро́плянэ, алэ́ пырибра́лыся ў Бурма́ке.

## *ГАВОРКІ ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ*

*І. Я. Яшкін*

### ТЭКСТЫ З СЕННЕНСКАГА РАЁНА

Узоры мясцовых гаворак запісаны ў час дыялекталагічных экспедыцый па зборы матэрыялаў для рэгіянальнага слоўніка Сенненшчыны.

З назіранняў над гаворкай.

**Аканне.** Галосны гук, які рэалізуецца ў ненаціскным становішчы пасля цвёрдых зычных у пераднаціскных і паслянацісных складах, успрымаецца як гук сярэдне-ніжняга пад’ёму задняга рада. Па традыцыі графічна ён абазначаецца [ъ]. Але ў мясцовых гаворках Сенненшчыны гэта злёгку рэдукаваны галосны, ён нагадвае некалькі карацейшы гук *а* тыпу *па*$^{а}$*га*$^{а}$*да*$^{а}$*ва́ла, го́да*$^{а}$*м.* Чуецца тут і *ы*: *я́жджыр.* Пасля губных і *г, к, х* мае месца *у*: *мужукі́*, *пувярну́лі*, *пае́хуў.* Як падаецца, абазначаць якасць вымаўлення пачутага гука сімвалам ъ у беларускай гаворцы не выпадае, бо не вядома, як яго чытаць. У рускай мове з улікам асаблівасцей тэмпу маўлення, кансанантнасці як вызначальнай рысы гукавой сістэмы галосны ъ чытаецца каротка, невыразна, набліжаючыся да нуля гука, як: *мжукі*, *пгадавалъ*, *садм.* Пры павольным традыцыйным тэмпе маўлення ў чашніцка-сенненскай зоне ў ненацiскным становішчы таксама выступае гук, які атаясамліваецца з выразным гукам *а*: *агаро́д*, *зо́лата.* Паказальны такі факт: у в. Закур’е (Чашн. р-н) мясцовыя жыхары рашуча выказаліся пісаць *а* ў слове *махамо́ра.* Чашніцкія людзі як адметнасць майго вымаўлення [аўтар з’яўляецца прадстаўніком слаўгарадскіх гаворак] заўважылі частае гучанне *ы* ў гаворцы. Не менш цікавае і наступнае: жыхары Слаўгарадчыны з лікбезаўскай адукацыяй (1–2 класы) звычайна пісалі ў лістах побач з літарай *а* і літару *ы*: *ваыда́*, *баыза́р*, *ко́лыас.* Апошняе сведчыць аб магчымых варыянтных спосабах рэалізацыі галоснага ў фанетычна тоесных умовах. Пры павольным маўленні тут фіксуецца: *пагадава́ла*, *пугудува́ла*, *пыгыдыва́ла* і *пэгэдэва́ла*, *мужукі*, *дурука́.* Думаецца ў звязку са сказаным: замест *ъ і ь* трэба ў тэксце пісаць той гук, які набліжаецца акустычна да нейкага канкрэтнага гука. Параўн.: «*ȧ* – samogloska posrednia między *a* i *e,* blizsze *a*; *ė* – samogloska posrednia między *e* i *a,* blizsze *e*» [АУГБ, т. 1, 1980] ці «ə – гласный средний (более или менее высокий), как в рус. – *gəła'va*» [АЛА, т. 3, с. 17]. Апошняе набліжаецца да вымаўлення: *галава́*, *мужука́*, *паха́цъ.* У Драгічынскім раёне: «Гук [и] – сярэдні паміж [і] і [ы]. Націскное [э] – вузкае, пасля [к] яно набліжаецца да [е]» [І. І. Лучыц-Федарэц. Жывое наша слова. 2001. С. 110].

Магчымасць варыянтнага вымаўлення гукаў пры адных і тых жа ўмовах адзначаецца і ў ранейшых этнаграфічных працах. Так, у запісках М. Я. Нікіфароўскага, які быў родам з в. Вызна Віцебскага раёна, на тэрыторыі ад цэнтра Дрысенскага (цяпер Верхнядзвінскі раён) павета да ўскраіны Віцебскага павета зафіксавана; «*Ры(о)гами ъсь, ны лы(о)пытахъ ходиць*» (адгадка – гусь; с. 22); «*Черная корова трось пылымала*» (с. 29); «*ты(а)ломуй*» (от тала-тала; с. 30); «*Корова бура́я, вырысла*», «*сты(а)ра́я роги зылотым, во́чы шкляныи*» (адгадка – царковь; чорны баранъ; с. 7, 11) [гл.: Никифоровский Н. Я. Загадки. 1898].

Такое ж неаднастайнае вымаўленне гукаў у ненацiскным становішчы пасля цвёрдых зычных у адпаведнасці з галоснымі няверхняга пад’ёму мае месца і ў гаворках Сенненшчыны, тут замест літаратурнага *а* чуецца *ы* або гук – эквівалент нарматыўнага.

Маўленне мясцовых жыхароў Сенненшчыны стварае ўражанне гаворкі з павольным тэмпам, у сувязі з чым націскныя галосныя, найперш *а*, падаецца «двайным»: *саат*, *чаарка*, *шаар*, *хаата.*

Паводле структурных асаблівасцей гэта беларуская гаворка блізкая да літаратурнай мовы. У яе лексічным ладзе адзначаюцца русізмы з рознай ступенню адаптацыі да законаў мясцовай фанетыкі: *нада*, *бяллё*, *грусць.*

У гукавым ладзе тут мае месца сінгарманізм: *гудува́ла*, *кунюхо́м*, *мужука́м*, *шулупа́* (на рыбе), *пугу́рычык*, *гудува́ўся*, *рухункаво́т*, *будува́ў*, *адрутува́ць*, *шчыкатырыва́цца* (тынкаваць вадкай

глінай печ), *вы́скырыджыцца* (поле), *мыгыле́ўскі*, *кэшэмі́р*, *бакнаве́нна* (обыкновенно), *дамало́ткі*, *каласаві́к*, *калаўро́т*, *кала нас*, *абгаварылі*, *а бада́й яго́* (!).

Гаворку таксама характарызуюць наступныя асаблівасці:

рэдукцыя галосных да нуля гука побач з санорным *р: бырвічкі*, *нектрыя*, *стырда́ўнія пасці́лкі*, *ка́рлі* (бусы), *Бе́льская Вы́гра* (Выгара; балота), *чэрво́* (чэрава); перад іншымі зычнымі*: младэ́й*, *дмаві́на*, *га́звыя* (пліта), *не́ктрыя* (в. Вялікі Азярэцк);

устаўка галосных: *рама́шыка*;

адпадзенне пачатковых галосных галоўным чынам пры ўмове, што папярэдняе слова заканчваецца галосным: *мі́ска люмі́нівыя*, *ўнімá́нія брышча́я*, *букла́шка т сылда́т*, *бшува́ў ха́ту*, *сэ́руўцы былі́*, *ў гаро́дзі*, *ныгда́ е́дуць*;

мена некаторых націскных і ненаціскных галосных: *о* на *у: калду́біна*; *у* на *о: апо́хнуцъ*; *ы* на *а*: *драгва́*, *право́льна* (прывольна); *а* на *о*: *со́дзіш капу́сту* (в. Гарадок); *у* на *ы*: *валты́зіцца*, *цы́ркыль*; *е* на *а*: *на́раст* (нераст)*; а* на *е*: *глі́ня́нэ ме́ста*; *ы* на *э*: *рэ́жык*; *е* на *ё: ё́лкаё* (сала), *сма́шнаё*;

пачатковыя галосныя: *ізру́п*, *іржэ́ўнік*, *алля́нішча*, *аржану́ю сало́му*, *ілляны́е* і *алля́ны* (в. Каралі), *імяну́шка* (в. Вялікі Азярэц);

прыстаўныя зычныя і іх адсутнасць: *у Во́ршу*, але *уго́р*, *усяры́на*;

вымаўляецца *гэ́так*, *ге́дак*, часам без *г* як *е́дак*, *е́так*;

выбухное *г*: *ґанці́на*, *цэ́ґла* (в. Багданава), *матыґа*, *ві́ґа* (віка), *ґ баро́ным*, *ґ зіме́* (в. Рудніца Ульянаўскага с/с), *ґа́нак*;

аглушэнне зычных: *бе́рых*, *ланцу́х*, *во́шкі*, *я ш кажу*, *сурайе́шкі*, *жо́рткі*, *груст*, *бу́тка*, *грыпкі́*, *кылы даро́х*, *шухля́тка*;

гук *ф: фына́р*, *фуга́н*, *фарто́н*, *футары́*, *на фі́нскыю*;

мена *х* на *к: Кызыкста́н*;

адметнае падаўжэнне: *руччаёк* (в. Гарадок), *руччэ́й* (в. Слабада Докш.), *нічча́во́* (в. Каралі);

спалучэнні *шн* або *чн*: (*нідуўгаве́шны ма́льчык*)*, рушны́ кот* (в. Каралі), *я́чныя сало́ма*; *шл*: *нашле́х*;

мена спалучэння *пл* на *п*: *сыпюць*; *мл* на *м*: *кармо́та*;

наяўнасць формаў: *ё*, *ёсь*, *ёсьці*, *ёсьціка*;

наяўнасць канчатка *-ём*, *-ом*: *дзяцём* (в. Каралі);

часціца *-сі* ў складзе зваротных форм дзеясловаў: *называ́лісі*;

наяўнасць суфікса *-ськ-*: *Замо́ськыя во́зіра*;

замена ўскоснай формы займенніка *ён* (Д.) на адпаведную форму зваротнага займенніка: *Като́рый сабе́ й ка́жыць*, *Йван сабе́ й ка́жыць*.

Сустракаецца лексікалізаванае вымаўленне асобных слоў: *міро́жы* (в. Пожанькі), *ціпе́р* (в. Капланы), *рі́ба* (в. Пожанькі), *ныддáткі* ‘дадатковыя палоскі’ (в. Мар’янава), *прыда́ткі* (в. Гарадок).

Сенненцы называюць жыхароў вёсак Белаліпскага сельсавета Сенненскага раёна *гря́ўцы* або *гряўцы́* за вымаўленне *р’* (мяккага). Тэрыторыю ўсяго сельсавета – *Гря́ўшчына*.

***Расказвае А. С. Фяткевіч, 1929 г. н., ураджэнец в. Пожанькі;*** *запіс зроблены ў г. Сянно 1987 г.*

### Два камні – і сорак пудоў язёў[1]

Е́ду я. А там о́зіра Саро́, рачу́лка прыхадзі́ла. І та́ма за дзярэ́ўнюй йіна́ кынча́йіцца, як са́жылка. Гляджу́ сьцяно́й, пла́стым стайі́ць ры́ба. Зыйі́жджа́ю ґ бра́ту і кажу́: «Ёсь се́ткі?» Узя́лі се́ткі, зьдзе́лі штаны́ і гыня́йім бо́ўткый. Ясь у но́гі б’е́цца, а ў се́ткі не ле́зіць. Захо́дзім к стыраве́ру і ка́жым, што ры́ба ня ле́зіць у се́ткі. А ён ка́жыць; «Я йім-та паваражу́, то ўсе бу́дуць у се́ткі». Ло́жым аго́нь і каме́ньня кладзём. Ён кі́нуў два ка́мні [гарачых], і язі́ ў се́тку паўле́злі. І ня ме́ні сырыка́ пудо́ў ныласі́ў язе́й, а так бо́ўткый ні заго́ніш.

[1] У тэксце цалкам захоўваецца аўтарскае ўспрыняцце гаворкі. Нягледзячы на тое, што ва ўступным слове даследчыкам адзначаны неаднолькавы характар рэалізацыі галоснага *а* ў ненаціскных складах, разам з тым у запісах пераважае ўжыванне *ы*.

### Як прыжыліся *Стахвановы* восьці ў шчукі

Вясно́й пашо́ў дзет Стыхва́н з во́сьцімі на шчу́ку. Хо́дзіць быльша́я шчу́ка. Ён уда́рыў. А йіна́ вы́рвыла во́сьці і ушла́. Ле́там ры́бало́вы ву́дзілі, Стыхванувы о́сьці то там, то там у Тухі́нскім во́зіры [яны выторкваліся з вады]. А ўво́сінь уба́чылі, што ўмёрзлі е́тыя во́сьці. Ту́та сыбра́лісі, вы́рубілі лёт і вы́цігнулі е́ту шчу́ку. Во́стці угайі́лісі, прыжылі́сі та́ма то́жа. Кыла двух пудо́ў была́. Пу луське́ нылічы́лі 370 (тры́ста се́мдзісят) лет. Шчу́ка, як гот прыжыла́, так пу луске́ (чушуе́, шулухе́) пало́сычкі таке́я. Гэ́та было́ ў пяцідзеся́тых гыда́х, калі́ шчу́ка ў Стыхва́на во́сьці вырвыла.

### Тухінскае і Сенненскае азёры сыходзяцца

Між і́мі на глыбіне́ чытыро́х ме́труў ёсь падзе́мныя рыка́. Зы маёй па́міцьцюй даро́га чаты́ры разы́ прыва́лівылыся. Прывалі́лыся ло́шыць, мужы́к. Вазі́лі зямлю́ засыпа́лі, грузі́лі зямлю́ сь цёмныга да цёмныга!

### Чыстая вада

– Ці чы́стая вада́?– Не, не чы́стая?– Чаго́?

– Ві́дзіў, як саба́ка нёс?!

[Сітуацыя: прынёс у бутэльцы вады з калонкі, а яна сівога колеру, мутная. Бутэлька была нямытая].

### Добры злодзей

Быў у дзярэ́ўні харо́шы зло́дзій. Чылаве́к та́мыцька купіў мало́дыга кыня. Зло́дзій заду́муў укра́сьць. Чылаве́к не кі́даў кыня́, а нучува́ць браў у ха́ту. Зло́дзій падгле́дзіў, як чылаве́ка ні було́ до́ма, зале́с пат печ і сядзі́ць. Хазя́йін прывёў кыня́, засу́нуў за́сыўку і лёх спаць. Вы́мырыўся за дзень і захро́п. Зло́дзій атсу́нуў за́сыўку і вывіў кыня́.

### Дзед забіў чорта

Пастро́іў я пу́ню і ні пысьвяці́ў. Пупа́ ні пріглас́іў пысьвяці́ць. Пашо́ў і сплю на се́ні. Чу́ю: па бэ́лькі кыр-кыр. А я тады́ крэ́пык быў. Як хвац́іў яго́ за хвост і ап шу́лу дубо́вую. І забі́ў. «Ці зьняў ко́жу?» – «А каму́ на́да ко́жа ш чырта́?»

***Расказвае жыхар в. Рубеж;*** *запіс зроблены ў 1987 г.*

### Поп ласы быў на баб

У аднэ́й красі́вый ба́бы мужы́к пашо́ў у а́рмію. Жо́нка прашла́ к папу́ на спо́віць. Поп ёй і гаво́рыць: «У цябе́ рабёнычык бу́дзіць, алі́ ро́дзіцца кале́ка». – «А што ш дзе́лыць?» – «Прыхадзі́ лячы́цца». Пыча́ў «лячы́ць» поп ба́бу. Радзі́ла жо́нка ма́льца. Харо́шы рабёнычык. Прышо́ў мужы́к, узя́ў на ру́кі і гаво́рыць: «А харо́шы ты мой сыно́к!». А жо́нка ка́жыць: «А ты быў ба разу́мны, кап ні ба́цюшка?! Ён яго́ ля́чыў, кап ні быў кале́ка».

***Расказвае А. І. Васілёнак, мясцовы жыхар в. Запруддзе, 67 год;*** *запіс зроблены ў в. Запруддзе ў 1988 г.*

### Фарба

Вазьмі́ іржа́выга жале́за, альхо́вый кары́, і ўсё ра́зым кіпяці́, і пыкра́сь што-не́будзь [палатно]. І яно́ зьдзе́лыйіцца цёмна-кары́шлівага цве́ту.

**Са́жа**

Са́жу рызьмяша́юць на карасі́ні і рызьміча́юць сьце́ны до́ма, пастро́йку ны піраво́с ці як пірысыпа́юць.

***Расказвае Р. Г. Вундзілоўскі, 1900 г. н., жыхар в. Вялікае Сяло;*** *запіс зроблены ў 1988 г.*

**Дзет і парася**

Я так прывучы́ў пырасёнка, што ён спаў са мной. А калі́ захо́чыць, туўха́йіць мяне́ ў бок, ссаджу́, пасцы́ць, апра́віцца ў се́нях і зноў уссаджу́ у пасьце́ль. Так прівы́к, што сьлет у сьлет за мной хадзі́ў. Я пайду́ бу́льбу кыпа́ць, і ён са мной зямлю́ по́рыць. Па́сьціў каро́ў і прывучы́ў куды́ каро́вы, туды́ й ён.

**Як пастух зайца забіў**

Па́сьціў я каро́ў, а ба́бы лён падыма́лі. Пытхаджу́, а за́йіц сьпіць. Я яго́ па́лычкуй цёпнуў, дык ён і но́шкі вы́цігнуў. Я яго́ зы нагу́ вяро́вачкуў, на пле́чы – і пашо́ў, і пашо́ў. Шку́рку злупі́ў, здаў у Сянно́, а мя́са згато́віла хызя́йка.

**Выпадак за зайцамі**

Уво́сінь за́йцы хадзі́лі на рунь, а я пасу́ каро́ў і ба́чу. А браце́ннік быў палко́ўнікым і прые́хуў ґ ба́цьку ў го́сьці. У яго́ было́ ружжо́. Ча́ста на хо́ту хадзі́ў. Іва́н, кажу́, прыдзі́, тут два за́йцы на ру́ні хадзі́лі. Прыдзі́, яны́ на ральлі́ бу́дуць. Два шту́кі нае́ліся ру́ні і ў разо́ры ліжа́ць кыла ру́ні. Ён аднаго́ і друго́га забі́ў.

**Як конь статак сцярог**

Па́сьцілі ко́ні. Ваўкі́ вы́юць. Я кажу́: баю́ся, зьяду́ць ко́ні. А нашле́жнік мой ка́жыць: ня бо́йся, лажы́ся спаць. А ў нас быў конь, і мы яго́ ня пу́тылі. Як уба́чыць вуўка́, ён яго́ заб’е́ць. Мы яго́ нікыгда́ ня пу́тылі. Ко́ні сыбярэ́ць у ку́чу і вуўка́ ні патпу́сьціць. Ён як сві́сьніць у но́здры, то воўк сьві́сту спужа́йіцца. І пубяжы́ць. Ён і ныга́мі сячэ́ць. Ён і вуўка́ забі́ў.

**Выпадак з віхрам**

Вы́пыткі былі́-і-і. З ві́хрым быў слу́чый то́жа. Па́сьвіў каро́ў у Лі́пніку [урочышча]. І там быў па́нскі лясо́к. Йшчэ аста́ўшыся. Па́сціў каро́ў, а схвací́лыся бу́ра. І пашо́ў дош. І папёрла майі́х каро́ў. Іс то́ку скі́нула кры́шу і абярну́ла. А маі́х мульчуга́нуў нíма́. Пайду́ шука́ць, айдзе́ Мі́ша. А ён уве́сь у мя́лінні (мя́ллі). Яго́ пыдняло́ на кры́шу, а кры́шу ські́нула. І яго́ на кры́шу. І жыў. Я яго́ зы руку́. А Кіры́лкі німа́. Ідзе́ ш ён дзе́ўся? Ны гумне́ лі́піну вы́вірнула. І ён сядзі́ць пра́ма так лі кымля́. [Ці страшна было ім?]. Мы ш, ка́аць, ня по́мнім. Каро́ў німа́. Ба́чу згаро́да пувалі́лыся. І каро́ўськія сляды́. І каро́ў сыгна́ла ны кіло́метыр у лес. І пылыса́ ле́су ляжы́ць. Яны́ ў другі́ бок уда́рыліся. Пу пра́вуй стыране́ лес ля́жыць, а па ле́вуй – каро́вы стыя́лі. Пустухі́ прышлі́ і пагна́лі. Усе́ цэ́лы былі́.

***Расказвае К. П. Васілёнак, 1929 г. н., жыхарка в. Камiншчына Ульянаўскага сельсавета;*** *запіс зроблены ў 1987 г.*

**Лічылкі**

1. Раз, два, тры, чаты́ры,
Мяне́ гра́мыцці (гра́мці) ня ўчы́лі:

Ні чыта́ць, ні піса́ць,
То́лькі ў па́лычку гуля́ць.
А я ў па́лычку гуля́ла,
Сабе́ но́жычку злыма́ла.
[Хто застаецца, той ловіць. Усе разбягаюцца].

2. Сяку́, сяку́, сяку́ рас.
Сяку́, сяку́, сяку́ два.
Сяку́, сяку́, сяку́ тры.
Хто ня ве́рыць,
Хай праве́рыць,
Калі́ ні шысна́ццаць.

[На палцы ад ножыка павінна быць 16 «прасечак», ці «насечак». Цікава, што службовыя словы не лічацца як абазначэнне насечкі.]

**Прыгаворка**

Сядзі́ць ба́ба нъ палі́цы,
Шы́йіць бо́ты, рукаві́цы.
Што заро́біць, то прап’е́ць,
Пры́дзець дамо́ў, жо́нку б’ець:
Жо́нка пла́чыць і кляне́ць
І куда́ ж мужыка́ дзець?

***Расказваюць Я. І. Камандзіраў, 1904 г. н., Л. І. Камандзірава, 1925 г. н.;*** *запіс зроблены ў в. Вялікі Азярэцк у 1987 г.*

**«Велічальны» верш грыба́м**

Цар грыбны́ барві́к
Наду́мыў вуюва́ць
– І вот, сураве́жы, ідзі́ця вуюва́ць.
– А німа́ зі́мнія адзе́жы.
Атзыва́лісі вару́шкі:
– Мы ш то́жа стару́шкі.
Аткыза́ліся апёнкі:
– У нас но́гі то́нкі.
– Мы, лісі́чкі-м(ы)ладзі́чкі,
Ні пае́дзём на вайну́.
Ні ткыза́лісь гру́зьдзя:
– Мы рабя́та дру́жны,
Мы пайдзём на вайну́.
Усі́х урагу́ў паб’ём!
Цар грыбны́ барві́к
Ёсь над грыба́мі палкаўні́к
[важак, правадыр].

## *ГАВОРКІ ГОМЕЛЬСКАЙ ВОБЛАСЦІ*

*В. М. Курцова*

## ТЭКСТЫ З ВЁСКІ ЗАЛЕССЕ ЧАЧЭРСКАГА РАЁНА

***Расказвае М. Р. Крупенькіна, 1936 г. н., адукацыя базавая, ураджэнка і жыхарка в. Залессе;*** *запіс зроблены ў 2010 г.*

### ЖЫВЁЛЬНЫ СВЕТ

#### Вераб’і жыруюцца

На дварэ́ кура́м сы́плю, і віраб’і́ тут жыру́цца, а начу́юць пад кры́шай. Пасы́плю кура́м, а зярно́ нікрэ́пка чы́стая, дык яны́ траву́ ту́ю падбіра́юць. Вераб’і́ ні так ці́ўкаюць, як сіні́чка, яны́ па-сво́йму. Яны́, як блі́зка, кулю́юць адзі́н кала днаго́, тады́ шчабе́чуць па-сво́йму. Вераб’і́ бага́та пірарадзі́ліся. То ж яны́ тако́й ста́яй лётаюць, а так іх ма́ла саўсі́м.

На віраб’і́ у нас казалі́ жыды́. Про́са по́йдзім у по́ля жаць, а іх сто́лькі, лётаюць. Уво́сінь і ў віра́б’я піва́: вірабе́й і про́са паку́шая, і аўса́, і жы́та, і пшані́цы – усяго́ паку́шая, то́лькі аста́лася пі́вам запі́ць, ён ужо́ бага́ты, ёсьціка яму́ есьць што. Пры́дам жаць, дык ба́ба: «Во, жыдаўня́ е́та наляце́лі, паглядзі́-ка, ко́лькі про́са до́лі навыпуска́лі. Штоб вас пра́нцы е́лі, на́да ж сто́лькі уністо́жыць дабра́». Яно́ ж то і ве́цір вы́сыпя про́са, про́са ж кво́лая, но ўсё на віраб’ёў паклані́лі, што ўсё яны́. Як ве́цір, ве́тка аб ве́тку – і абсыпа́іцца про́са. Ста́ўлялі ат іх пужа́йлы: дзьве па́лкі на хрэст саб’е́ць і ве́шалі што, адзе́жына яка́я, асо́бінна штоб с рукава́мы былі́. Ве́цір баўта́я саро́чку, і іх пужа́я пужа́йла. Про́са, кано́плі яны́ выгрыза́юць – бо́жа мой!

Па кано́плях то́жа пужа́йла станаві́лі, заб’ю́ць, ні адно́ пужа́йла. Па́лкі на канцы́ заво́йстраць, адзе́жыну таку́ю навя́зають, штоб шуме́ла, ша́пку наве́рх павя́жуць. Ве́цір кача́ў саро́чку ці што, пужа́йлы шуме́лі. А яны́ ні дуракі́, во́зьмуць на пужа́йла ся́дуць і сідзя́ць.

Кано́плі і про́са – е́та йі́хная іда́. Яны́ пшані́цу бы́стра чу́юць, шчэ й як. Віраб’і́ гнёзды уле́тку бу́дуць віць. Паку́ль пе́вінь пры́дзя да пакы́рхая – курэ́й пазаве́, – яны́ тут. Як жыд разу́мны, так і віраб’і́, ні дзі́ва, што на йіх клі́чку таку́ю прыкла́лі – жыды́.

#### Куры купаюцца

Куры́ купа́юцца у пяску́. У драва́х сто́лькі пы́лу, сто́лькі сьме́цьця, но куры́ у дро́вы заляце́лі і там зьдзе́лалі сто́лькі пы́лу, як тума́н, ста́ла, ні́чо́га ні ві́дна. Пірарыва́юць там усё.

#### Пакінутыя сабакі

Ціпе́р саба́кі вы́рылі ў стагу́ сало́му і там начу́юць. Я іх ні чапа́ю. Яны́ ж ні віно́ўнікі, лю́дзі кі́нулі йіх, хо́дзюць здо́хлікі.

#### Стары конь

Конь наш старэ́нны, у яго́ зубо́ў ма́ла, стара́юся яму́ дава́ць авёс. І сьві́ньні што ні даідзя́ць у кары́ці, яму́ аддаю́. Сёдні парася́ты усё да грам пае́лі. А конь жджэ. Іржэ́ць, галаву́ упёр у варо́ты і ні пуска́я міне́.

Кажу́ яму́:

– Ну што ты? Німа́ ні́чо́га у кары́ці, усё пае́лі. Я ж цібе́ ні біжа́ю. Цэ́лаю во́сінь карм́іла цібе́ аўсо́м і ціпе́р.

Я яму́ во́сінь буракоў вары́ла, авёс па́рыла. Но авёс сёліта пусты́. Яго́ захваці́ла паго́да, і ён пусты́. Сьві́ньням што вару́, і яму́ то́я. Се́на ні есьць. Так паваля́я, паваля́я у ро́ці – зубо́ў жа німа́.

### Хітры конь

Конь хітру́я, дажыда́я, каб жа аўса́ прынясу́. Ціпе́р я яго́ выпуска́ю на двор пабе́гаць, но до́ма хлеў ба́льшы, е́та ж ні то, што ў станку́ конь стаі́ць. У калхо́зі ко́ні стая́лі у станка́х, а ў людзе́й жа бо́лі ме́ста было́, каб жа ён тро́хі хадзі́ў, шавялі́ўся.

### Сурочаны конь

У нас, як вы́скача конь наш, ні йдзець дамо́ў. Перапыта́ла я лю́дзей, к каму́ мне схадзі́ць: не́шта ж са скаці́най ні так. Пасаве́талі: «Схадзі́-ка к Ду́ні Ма́ркавай». Я пашла́:

– Дунь, каня́ ло́вім, ло́вім, гурт людзе́й ла́дны зьбярэ́цца, а ні пайма́ім. Памажы́ ты мне.

– А хто цібе́ пасла́ў?

– Сама́ прышла́. Ты ж і ма́цці маёй ко́лькі памага́ла, і Ляксе́ю на́шаму.

Іна́ узіла́ руку́ маю́, так паглядзе́ла, на міне́ паглядзе́ла і ка́жа:

– Мань, табе́ так зьдзе́лана, ты яго́ пайма́іш.

– А хто цібе́ пасла́ў?

– Я сама́ прыду́мала.

– Зна́іш, схадзі́-ка ты к куме́ сваёй, Ма́нька Яўгі́ньніна бага́та чаго́ зна́я, іна́ ска́жа, што с канём. Ідзі́ дамо́ў, сёдні ты прывядзе́ш каня́.

Прышлі́ на бало́ньня. Ко́ні табуно́м хо́дзюць. А мой конь здружы́ўся з кабы́лай Аўсе́йцавых. І вот глянь. Быў у міне́ брат мой Міко́ла. Зь йім пашлі́ на луг. Міко́ла забрыта́ў каня́, абро́ць на галаву́ надзе́ў. Надзе́ць абро́ць – е́та называ́іцца забрыта́ць каня́. Вот вер ці ні вер.

***

А тады́ шчэ уціка́ў конь. Пайду́ сама́, прашу́ мушчы́н: «Хло́пцы, памажы́ця, дава́йця яго́ усярэ́дзіну». Мы ра́зам ко́ні у ку́чачку, у кружо́чык яго́ заб’ём, і я забяру́ каня́.

Ле́ташнюю во́сінь конь на бало́ньні хадзі́ў. Хадзі́ў і атарва́ўся. Пабе́г. Да даро́гі дабе́г і стаі́ць. Я: «Го́луб, Го́луб! Ідзі́ дамо́ў, Го́луб, Го́луб!»

Паслу́хаў міне́. Я – плато́к з галавы́, на шы́ю яму́ і павіла́ к ха́ці.

### Вожык палюецца

Ку́рачкі хо́дзюць, ма́лые кураня́ткі, а ёжык палю́іцца. Дзе́ла было́ ве́чарам. Ёжык так бы́стра ні ўме́я бе́гаць, як кураня́ткі. Ён паццэ́ліўся к куро́начку – і каце́ль на яго́. Куранёнак спужа́ўся, пырхнуў і уцёк. А калі́ я блі́жай падышла́, ёжык міне́ спужа́ўся, скруці́ўся у клубо́к. Я яго́ задушы́ла. Быў саме́ц кілагра́мы на тры. Быў цяжо́лы, як ка́мінь. Са́мка абіза́цільна вы́йдзя. Вічарко́м яны́ выхо́дзюць. Саме́ц пакры́я са́мку і ат іе́ аддаля́іцца. Ён жыве́ сам сабе́.

Са́мка сама́ ко́рміцца і дзіце́й е́тых дагліда́я.

### Каршун

Ко́ршун, йдзе гусце́йшая дзе́рава, яны́ там. У нас іх на кла́даўі сто́лькі разьвяло́ся. Ко́ршун як уба́ча, йдзе ку́ры, ён да тых пор бу́дзя круці́цца, паку́ль ухо́пя. У яго́ сі́льна бальша́я дзю́бка, як у савы́, і но́гці, кі́пці е́тые, таке́я во́йстрые. Ён абы́ то́лькі нацэ́ліўся, схва́тая дзю́бкай за шы́ю і заду́шая. Ко́ршун мя́са на ку́рыцы усё аб’е́сьць да гра́ма, апшчы́пя – ніўдзе́ парушы́нкі ні бу́дзя мя́са, усё вы́глытая: ён жа бальшэ́нны. Ко́ршун ку́рачку, шэ́рынькая, як зязю́лька, была́, схапі́ў.

### Сава

Сава́ удзе́нь ні ба́ча, то́лькі ўно́ччы. Сава́ шука́я як ба йдзе мя́са укра́сьць і зьесьць. Шука́я ці мыш якую́ ці жа́бу. Іна́ і пту́шак ло́вя. Сава́ красі́вая на пе́р’я. Во́чы бальшэ́нные, лупа́тая така́я, а ўдзень ні ба́ча, і кіпцюры́ бальшу́шчые.

***

Дзе́рава то́чуць карае́ды, пат каро́й то́чуць дзе́рава, і яно́ ссыха́я.

***

У ха́ці заво́джаіцца грыбо́к, ён то́ча ха́ту. Асо́бінна грыбо́к на ні́зкіх міста́х заво́дзіцца.

### Няўседлівая гусь

Сыму́ гусь: ні бу́дзя то́га гуся́. Разаб'ю́ яе́чка – усе́ з гусяня́тамі. А йна [гусь] сядзе́ла-сядзе́ла – ста́ла мло́сна, іна́ пашла́ у другу́ю каро́бку. Я паглядзе́ла тэ́я я́йцы: гусяня́ткі у пе́р'і, у пушку́ былі́. Абсно́ўваіцца гусёначак – шчэ го́лінькі. Падраста́я, напрыме́р, тры нядзе́лі, ён сту́кая у яе́чку, і пушо́к е́ты на ём.

Пух гусе́й само́ сабо́й, а пе́р'я само́ сабо́й. На́ зіму гу́сі адзяю́цца цёпла, ў пух. Уво́сінь адны́ шпні, пе́р'я німа́ і пу́ху у гусе́й німа́.

На кура́х пу́ху німа́. Біда́ ў міне́. Ціпе́р е́ты пе́вінь мой храма́я, нага́ напу́хла. Пе́ўні у міне́ два, другі́ абы-які́. Мо́жа ку́рыца заквóкча, пасадзі́ў бы, но пе́вінь адзі́н.

## ТРАДЫЦЫЙНЫЯ І ІНШЫЯ ВЫТВОРЧЫЯ ЗАНЯТКІ

*ТКАЦТВА*

### Апрацоўка лёну

Гало́ўкі се́мя ільна́ пра́нікам абаб'ю́ць. Абаб'ю́ць, пасьце́люць на сьце́лішча. Уліжа́ўся, вя́жуць снапкі́. Снапкі́ пасу́шуць у ба́ні. Лён б'юць – ат яго́ бу́дзя атла́мацца кайстра́, аста́ніцца то́лькі па́кульля, сі́няя. Па́кульля сі́няе, ніўліжа́лая па́кульля жо́ўтая. Кайстру́ памну́ць мя́лкай. Мя́лка – два ста́ны, дзьве дашчэ́чкі, язы́к. Языко́м ці́сьнеш. Кайстра́ бальша́я абсы́піцца. Е́ты лён паляжы́ць, на пе́чы со́хня. Тады́ йдуць трапа́ць трапы́шкай. Трапы́шка – э́та дзірвя́нная то́нінькая до́шчачка. Іна́ во́йстрынькая. Ёй аббіва́юць кайстру́. Аббі́лі, абдзіра́юць. Як трэ́пюць, адбіва́іцца па́трап'я. Па́трап'я ні выкі́далі. Па́трап'я пра́лі, тка́лі кацы́. Лён, абадра́ны на грэ́бінь, называ́іцца вярхо́ўя. Што ў ру́ках астае́цца ад грэ́біня – сяро́дкі. Сяро́дкі пра́лі на ўсно́ву, а вярхо́ўя на ўток. Вярхо́ўя каро́цінькая, нікрэ́пкая. Пачалі́ снава́ць, пасную́ць. Пасную́ць, абальлю́ць кіпятко́м, памя́кня. Памя́кла, у сту́пі таўку́ць таўкача́мі. Тады́ паве́сюць, штоб вы́сахлі ні́ткі. Вы́сахлі, навіва́юць на наво́й. Сураджа́юць тканнё. Наўю́ць, у ні́ты накіда́юць, начэ́пюць на́білкі. Ста́ніш на по́наж – у цібе́ па́рачкі. У на́білкі бёрда апу́сьцюць, завя́заюць вузлы́ і начына́юць ткаць.

### Кравецтва

Шаве́ц – чалаве́к, што шыў і ша́пкі, і касьцю́мы. У нас быў, з ма́ткіны стараны́ радня́, краве́ц. Гавары́лі: к краўцу́ насі́ла шыць. Ён усігда́ хадзі́ў па ха́тах. Заво́дзя сваю́ машы́ну і шы́я і шу́бы, і сакі́. Сак – така́я адзе́жа, у яго́ падкла́дка, вярхо́ўя на паткла́дку, а наве́рх тка́ная сукно́, сваё. Краве́ц ме́рая, падміра́я. Пашы́та было́ красі́ва, як хво́рма арці́ста. Прарэ́зкі на бака́х, ён шчыгу́льнінькі, аб чалаве́чыка, нічо́га на йім ні бу́дзя вісе́ць, шы́лі так акура́тнінька. Сак тро́шкі ле́тні які́, то́лькі паткла́дка і верх, ён лёгінькі такі́. Ён такі́ тро́шкі ні́жы по́іса, шчыта́й уме́ста касьцю́ма. Зза́ду ро́ўнінька усё, на шпо́нках ён. А як такі́ – дліньне́йшы ўжо. Сак быў на вы́хад. Сак насі́лі і ўзі́мку.

Як ста́ла паяўля́цца ва́та, ужо́ на ва́ці шы́лі. І ва́ту навучы́лісь прасьць. Тады́ ста́лі пінжакі́ шыць. Быў у майго́ ба́цькі пінджа́к, што выдзіля́лась кле́тачка. Саро́чка у кле́тачку, сьце́жачкі зялёнінькіе і сі́нінькіе таке́я выда́валіся, крэ́пка красі́ва. Штаны́ галіхве́ былі́ – цёмна-кары́чнівые, красі́вые. Мой ба́цька ўсігда́ прыбіра́ўся ў йіх. Е́та было́ куплёная. Ста́рая дана́шалі, но ўжо нача́лась купля́цца.

### Нагруднік

Нагру́днік, шчэ ме́ншая така́я адзе́жына, надзіва́лі на саро́чкі. Саро́чка вышыва́ная, у іх длі́нны рука́ў такі́, а наве́рх надзяю́ць нагру́днік. Ён зашпы́ліваўся на пу́гавічкі. Рукавы́ абклада́лі тка́ньням красі́вым, мацір’я́лам які́м-не́будзь. Нагру́днік такі́ це́сьнінькі, акура́тнінькі. Харашо́ так адзіва́ліся лю́дзі. І дажэ́ ста́ла сукно́ куплёная, а ён у міне́ до́ўга шчэ ліжа́ў. На нагру́дніку сукно́ тако́я то́нінячкая, крэ́пка харашэ́нная.

### Намітка

Намётка – палатно́ піратыка́ная, тры ме́тры длінніна́ была́. Намётку бага́та хто піратыка́ў, асо́бінна кра́сным ма́лінькім піратыка́лі. Намётка – палатно́, а чаго́ іно́ так называ́іцца, ні зна́ю. Намётка – сі́льна то́нкая палатно́ і убе́леная, яно́ пірабіра́ная палатно́. Намётка тры ме́тры, а чаго́ на́да тры ме́тры натка́ць? Намётку у гроб кла́лі, а цётка мая́ пажале́ла намётку, засла́ла іна́ намётку на усло́н, дык ба́бы абіжа́лісь. У е́лачкі палатно́ дзе́ўкі тка́лі на намётку.

### Як валіць сукно

Сукно́ вы́ткуць. Яго́ тка́лі у шыро́кая бёрда. Са́мая ма́лая бёрда – васьму́ха, тады́ дзівя́тня. Дзівя́тня шы́рай за васьму́хі. Дзіся́тня – шчэ шы́ры за дзівя́тні. Са́мая бальшо́я бёрда – двайні́к. Васьму́ха – е́та во́сім па́сам. Шчыта́юць па тры ні́тачкі дзе́сіць раз – е́та называ́лася па́сма. Вот атшчыта́юць ско́лькі на́да па́рак, яко́я бёрда, – піраклад́уць. Дзівяту́ха – дзе́вя[і]ць па́сам, дзіся́тня – дзе́сіць па́сам, а двайні́к – дзьвіна́ццаць па́сам. Як ччэш у двайні́к, на́да то́нінячкая пра́жа. Вы́ткалі, но сукно́ ні так, як лён, прыстае́ друг да дру́га. Сукно́ тако́я браджа́вая, ні так, як палатно́. Браджа́вая – ні тако́я пло́тная, яно́ рэ́дкая. Яго́ ні саччэ́ш так, як палатно́. Палатно́ льляно́я як ччэш, аж машо́к па йім ідзе́ць. Сукно́ ні прыстае́ так, як лён.

Сукно́ валя́лі – е́та ці пра́нікам пра́лі, ці ў сту́пі таўкача́мы таўклі́. Но то́лькі сукно́ валі́лі, ходзь тро́шкі. Сукно́ паткуць, тады́ ва́люць, яно́ дзе́лаіцца пло́тным та́кім. Я ба́чыла, як так дзе́лалі, но ба́ба Тацья́на валі́ла ўжо сукно́ машы́най. Пры нас сукно́ ні тка́лі, ужо́ усё купля́лі.

### Часальня

Ча́сальня – е́та часа́лі во́ўну. Гаво́руць: панясу́ во́ўну на часа́льню. Во́ўну кі́даіш на палаце́нца. Палаце́нца – куда́ кладзе́ш во́ўну. Бараба́н бальшы́ такі́, кру́глая така́я кату́шка кру́ціцца. Кату́шкі кру́цюцца, на іх кладзе́ш во́ўну. Па ўсём палатну́ кі́даіш во́ўну. Во́ўна патхо́джая да ва́ліка. А на кату́шцы там ва́лікі таке́я, яны́ з дро́цікамі, на ва́ліках дро́цікі. Вот кру́ціш уве́сь бара́бан: два чалаве́кі з аднаго́ бо́ку, два – з друго́га. Як во́ўна мы́тая – лягчэ́й круці́ць, а як німы́тая – паку́ль іна́ разарве́ е́ты струк.

Ідзе́ць во́ўна, рашчэ́саіцца па ва́ліках. Як рашчаса́лася, там ё така́я кату́шачка, на е́ту кату́шачку нама́таіцца чы́стая во́ўна. Ідзе́ць рашчэ́саная во́ўна на кудзе́лю. Пад ні́зам ужо́ выхо́джая кудзе́ля. Іна́ праз сто́лькі – штук дзе́сіць ва́лікаў – про́йдзя. Хто заве́дая часа́льняй, ён разарве́ во́ўну, змата́я на кудзе́лю. Як кудзе́лю сарве́ з машы́ны, ён кладзе́ йе адзьдзе́льна – ужо́ усё, іна́ пачэ́саная, забіра́й.

Като́рые клачкі́, тэ́я рашчэ́саюцца, а като́рые струкі́ з гаўно́м, німы́тые, дык жа ён, той каўру́х, не рашчэ́шыцца. Іна́ ж ссо́хлася, е́та во́ўна, і тэй струк па́дая дало́ў. Ва́льшчык падбіра́я йе, мо́жа пірамы́я і тады́ ўжо надзе́лая сабе́ скру́ткаў е́тых.

Ва́льшчык і чы́сьціў машы́ну, і зма́заў. За ва́лікі гразь чапля́іцца, е́тые усе́ ва́лікі на́да ва́льшчыку пачы́сьціць. Чалаве́к чы́сьця тако́й рашчо́скай сьпіцыя́льнай ва́лікі. Як ма́лінькіе гваздзючкі́ ё, мо́жна зьдзе́лаць рашчо́ску само́му. Як ва́лікі пачы́шчаные, яны́ харашо́ чэ́шуць. Ва́лік шырыно́й як стол упе́рак. Е́сьлі ва́лікі нічы́шчаные, во́ўна пло́ха чэ́шыцца, іна́ ўся́ ідзе́ць пад машы́ну: ёй німа́ за што чапля́цца.

### Пра *каўрухі́* і *каўрыжжа*

Каўрушкі́ – што на во́ўні, як во́ўна пазьліпа́іцца. Ка́жуць: во прынісла́ во́ўну – адны́ каўрухі́. Ці ка́жуць: ой, во́ўна харо́шая, длі́нная, струкі́ бальшэ́я. Йдзе кучара́вые ко́сы ў каго́, яны́ ж ні па дной той касі́нцы, а струка́мы. Так і ў аве́чак струкі́. Вот ко́зы – ужо́ шэрсьць пра́мая, а ў аве́чак жа не.

Каўрухі́ – йдзе глеі́стая зімля́, йдзе капані́чылі лю́дзі і гавары́лі: ой, адно́ каўры́жжа, адны́ каўрухі́. Расьсячэ́ш глеі́стаю зямлю́, а там адны́ каўрухі́ – кро́шкі таке́я.

### Воўна

Як з абно́жкі, што там во́ўна? Така́я – па санці́мітру. З тако́й во́ўны валі́нкі зьдзе́лаў – яны́ палама́юцца і ўсё.

Стрыгу́ць аве́чку: сьпіна́, бакі́ – аддзе́льна, там во́ўна харо́шая, длі́нная.

Пад пу́зам і нага́х во́ўна ма́лінькая, іе́ стрыгу́ць адзьдзе́льна, і чэ́шыш адзьдзе́льна. Іе́ ні спрадзе́ш, стара́ісься то́ўсьцінька [прасці], то́нка іна́ ні спрадзе́цца.

Ласну́іш, ласну́іш – е́та кала кудзе́лі так ні ацьця́гаіш далёка, а раўна́іш, штоб яно́ так пра́лася. Як во́ўна каро́цінькая, ты ацьця́гаіш іе́ чуць-чуць – э́та называ́іцца ласну́іш.

### Спецыяліст па галёшах

Рызі́ны – у нас, а у друго́й дзярэ́ўні ка́жуць «кало́шы». Кало́шы – е́та тэ́я са́мые рызі́ны, на база́ры іх прадава́лі.

Рызі́ны як дзе́лаць? Снача́ла дзе́лаюць кало́дкі, напрыме́р, тры́ццаць во́сьмы, саракавы́ разьме́р. Які́ хто разьме́р но́ся, таку́ю на́да кало́дку. І клей дзе́лалі, біньзі́ну туды́ дабаўля́лі. Дзе́лалі спіцыя́лісты таке́я. У Зале́сьці сьпіцыя́ліста тако́га дзе́лаць рызі́ны ні было́ ніко́га, купля́лі на база́ры ўсё.

### Спецыяліст па валёнках

Валі́лі ва́лінкі, сматра́ яка́я ва́лка і хто ва́ля. Адны́ бу́дуць до́ўга, друге́я зра́зу палама́юцца. У міне́ ё ва́лінкі, даўны́м-даўно́ дзе́лалі. А было́ як. Я во́ўну раскуба́ла, і захо́дзіць Лёша. Лёша гаво́ра:

– А што з во́ўны бу́дзіця дзе́лаць?

– Дык каб знайшо́ўся хто, павалі́лі б ва́лінкі.

– У міне́ ёсьціка сьпіцыя́ліст. Я папрашу́, ён мне ні тка́жа.

Е́ты чалаве́к з Зале́сься, но пірабра́ўся у Каму́ну, і мы е́тага ва́льшчыка зна́лі. Ён крэ́пка до́бра валі́ў ва́лінкі, лёгінькіе, харо́шые.

Во́ўну мы пачаса́лі, атда́лі. На хазя́іна чаты́ры (ці тры?) ху́нты, а мне паўтара́. Вот ні зна́ю, ці так. Но мне паўкілаграма́. Хунт жа – тро́шкі ні с паўкілаграма́. Панясьлі́. Ён пыта́іцца, а які́ разьме́р дзе́лаць. Сказа́лі: жанчы́на дро́бнінькая, но дзе́лайця на тры́ццаць во́сьмы. Ён зьдзе́лаў. Яны́ лёгінічкіе таке́я. Я ва́лінкі сёліта й нашу́: адно́ што у цёплым нага́ мая́ – у па́льцы ні ко́ля.

Ва́ля я́к-та была́ ў міне, а я ў ва́лінках.

– Э́та шчэ тэ́я ва́лінкі, што Лёша прасі́ў зьдзе́лаць Васі́лявіча?

– Тэ́я.

– Як жа ты іх храні́ш?

– Храню́ так, штоб ні прале́зла моль.

Моль як у ва́лінкі уле́зя, пірато́ча.

### Выратавальныя валёнкі

Патхапі́ўсь хо́лад, а ба́цькавы ва́лінкі былі́. А сын прые́хаў сюды́ у ту́хільках. Забе́г у ха́ту, крычы́ць:

– На́да ж, во мае́ но́гі крэ́пка пасты́лі. А ба́цькавы ва́лінкі ты Бруквялю́ аддала́?

– Аддала́.

Я ва́лінкі даста́ла, пашла́ кало́шы прынісла́. А кало́шы тро́хі бальшава́тые былі́. Газе́т у нос [галёш] напха́тала, надзе́ла на ва́лінкі. Лёнік:

– О, як харашо́, на́да ж: так харашо́.

Бірагу́ я ва́лінкі, усігда́ бірагу́, гляджу́ ж, каб і ў сухо́м былі́.

Я купля́ла хазя́іну тоўстые бу́ркі, но бу́рка ё бу́рка, е́та табе́ ніхаро́шые ва́лінкі.

**Плыты**

Плыт называ́юць грабёнка, ма́лы. Ма́лыя плыты́ звя́заюць у вялі́кіе плыты́. Там ужо́ і бу́дка. Я ба́чыла плыты́ е́тые, як мато́ркай цягну́лі, дык длі́нные плыты́ і шасты́.

С шасто́м садзя́цца на плыты́. Шаста́мы атпі́хаюцца.

*ГЛЕБА І ЯЕ АПРАЦОЎКА*

**Параніна**

Па́раніна – е́та па́хатная зімля́. Іе́ кі́нуць, што йна падгуля́я тро́хі. Тады́ се́юць іе́ ўсіраўно́. Вот зямлю́ е́ту аста́вюць, ні па́шуць, таго́ што гно́ю ні змаглі́ даць. Іна́ стаі́ць, тады́ на па́раніну се́юць то грэ́чку, то́ проса, таке́я культу́ры, што нікрэ́пка трэ́баіцца гной. Ка́жды год кіда́лі, каб быў такі́ кусо́к. На па́раніне тады́ і лён пасе́юць.

**Ялавіна**

Яла́віна як, напрыме́р, запусьці́лі кусо́к зямлі́, ні ста́лі се́іць. Зімля́ така́я называ́іцца я́лавіна. То мяжні́к які зая́лавініў – ні ста́лі лю́дзі абрабля́ць.

**Як цягалі жанчыны плуг**

Плуг ціга́лі, усе́ штоб ро́ўна, ра́зам шага́лі, ні то, што я бу́ду цю́паць на адно́м ме́сьці. Усе́ штоб ро́ўна шага́лі, ува ўсіх штоб ро́ўны шаг. Як ро́ўна шага́іш, тады́ і па́лкі ця́гніш ро́ўна, і плуг ро́ўна ідзе́ць.

Усе́-ўсе ціга́лі плуг, кага́лам такі́м усі́м. Адна́ па́ша, во́сім баб ця́гня плуг. Пало́сачку пасе́юць. Усі́м па пало́саццы пасе́іш, пачына́іш па-друго́му захо́ду. Зірнавы́е се́іць – ускапа́лі лапа́тай. Уба́чылі: пірасыха́я. Прыду́малі: па ні́копанаму се́ілі. Ко́лькі пасе́юць – ускапа́юць. Калі́ўя, што з бу́льбы, для ско́та. Па калі́ўі пасе́юць і капа́юць падра́д.

**Накладзены працадзень**

Бе́гая брыгадзі́р с па́лкай – на́да іці́ць у калхо́з. Накла́лі дзьве́сьця тры́ццаць вы́хадаў ізьдзе́лаць. Е́сьлі ні зьдзе́лаў дзьве́сьця тры́ццаць вы́хадаў, зна́чыць, табе́ то́га зірна́ ні даду́ць.

**Здабыванне смалы**

Падсо́чка – е́та на сасьне́. Смала́ на сасьне́ усігда́ к со́нцу. Бяру́ць жасьцяны́е ба́начкі – ну, ні саўсі́м ба́начкі, а таке́я, як ражо́к, – і то́ркаюць к дзе́раву. Ніхто́ со́сін ні патсіка́я. Падсо́чка – э́та ніхто́ ні патсіка́я. Яно́ само́ па дзе́раву плыве́. Дзе́рава ат е́тага ні ссо́хня. Ужо́ тако́я бальшо́я дзе́рава, туды́ ба́начку ста́вюць. Но былі́ разцы́, з аднаго́ бо́ку панараза́юць, з друго́га. Падрэ́жуць – ко́рачку то́лькі сы́муць. Дзе́лалі е́та сьпіцыя́льные лю́дзі. Так сьце́жачкамі цячэ́ смала́ пра́ма у ту́ю ба́начку. Падсо́чку як дзе́лаць, вы́бяруць бор, като́ры бу́дуць выраза́ць, у строй като́ры. Зь яго́ зьдзе́лаюць падсо́чку – вы́бяруць смалу́, тады́ выраза́юць.

### Пра дранку

Дра́нка – што на кры́шу дзе́лалі, кры́лі ёй кры́шы. Клёпка то́жа што на кры́шу крыць. Уключа́юць стано́к, ён рабо́тая. Кала станко́ў пілі́лі брускі́. Мушчы́ны пілі́лі, а ты хвата́іш ско́рынька дашчэ́чкі такі́е, яны́ былі́ длінніно́й санці́метраў шэ́йсят-се́мсят. Кладзе́ш па дзе́сіць штук, па́чачкі таке́я, другі́ чалаве́к атна́шая, склада́я іх у сто́пку. Што напілі́лі, уве́чары прыхо́дзя прыёмшчык, шчыта́я, ско́лькі напілі́лі. Прыніма́я е́ту рабо́ту. Клёпачка ро́ўнінькая така́я. Прывязу́ць лес, парэ́жуць на брускі́, брускі́ е́тыя аппі́люць. Кала станко́ў пілі́лі бру́скі і пі́люць клёпку. Пілара́ма пі́ля до́скі, шалёўку. Мушчы́ны патката́юць лес, атна́шаюць на пліча́х е́тые до́скі. До́скі, яке́я склада́юць, называ́ецца шта́бель. Усіро́ўна усё склада́іцца у шта́бель. Ро́ўнінька накладу́ць радо́к адзі́н упе́рак, тады́ так удо́ўж кладу́ць. А вісачыну́ наклада́юць вісо́ка, ко́лькі там кубо́ў, даску́ ж ме́раюць, ко́лькі сьпілі́лі кубо́ў.

***

У ле́сі се́ілі про́са. Е́лку зава́люць. Е́лку дзе́лалі за барану́, смык называ́лі. Ля́да паскаро́дзюць барано́й, там ту́ю барану́ і кіда́юць. Да́йжы по́сьлі вайны́ з ма́ткай хадзі́лі на паля́ны, дык ты́е смыкі́ стая́лі. Мы раз с Таця́най пашлі́. Іна́ падбіва́я:

– Дава́й забяро́м смык.

– Таця́н, а нашто́ нам смык дамо́ў?

По́сьлі вайны́ ко́няй жа ні было́. Усе́ на вайне́, як лю́дзі, так і ко́ні.

*СЕНАКОС*

### Касьба сена

Се́на ка́жды пако́шчык кла́лі у капу́. Стано́вюцца, напрыме́р, чаты́ры чалаве́кі і но́сюць се́на у капу́. Як каса́рка ко́ся, тады́ се́на грабу́ць у валкі́. Калі́ два валкі́ ра́зам, тады́ яно́ рабрачка́мы, дубко́м такі́м стаі́ць, дык яно́ лу́ччы со́хня. А шчэ як ве́трык такі́ ды со́нца. Каса́рку тра́ктар цягня, а йна падраза́я траві́чку.

### Першы ўкос

Се́на начына́лі касі́ць, як з заліўно́га лу́га спадзе́ вада́. У нас начына́лі касі́ць у палаві́на ію́ля. Тады́ ж уручну́ю касі́лі ко́самі мужчы́ны. Падко́сюць се́на, яно́ дзень паля́жыць, ба́бы іду́ць раські́даць, варо́чаць се́на. Пасу́шуць. Пасо́хня се́на, саграба́юць яго́, кладу́ць у ко́пы. У ко́пах яно́ ма́ла стаі́ць. Мужчы́ны пастая́нна ко́сюць і ко́сюць. А калі́ старэ́йшы мушчы́на, ён пачына́я стог кі́даць. Во дзед Лаба́н, старэ́йшы, ён усё на стагу́. Бу́дуць ба́чыць, што яно́ на тры стагі́ бу́дзя нако́шана, начына́юць класьць на дзьве рукі́. Адна́ парці́я – два чалаве́кі – на стагу́, два – на стог падае́. І маладзёж, дзе́ці, яке́я пака́нчалі па сем, па во́сім, дзе́віць кла́саў, е́тые ціга́лі ко́пы. А таке́я хлапцы́, яке́я тро́хі здараве́йшые, ма́глі падава́ць на стог се́на. І так мо́жа прайці́ць цэ́лы ме́сіц, цэ́лы ме́сіц мо́жна прарабо́таць на лу́зі – касі́ць, сушы́ць, у стагі́ кі́даць.

### Укладка сена *на страху*

Папе́рад се́на кладу́ць, называ́іцца на страху́. На страху́ класьць – круго́м так накладу́ць, прыці́снуць е́та, што на страху́ накла́лі. Каб прыці́снуць е́та, што на страху́ накла́лі, ра́дам кладу́ць рад. Тады́ кіда́юць усярэ́дзіну. Е́сьлі стог кладу́ць так: папе́рад на страху́, тады́ забіва́юць сярэ́дзіну, е́ты стог нікалі́ ні замя́кня. Е́сьлі усю́ даро́гу круго́м так класьць і класьць, ён харо́шы, ён ні замя́кня той стог, бу́дзя се́на харо́шая там. Е́сьлі тут пакла́ў, а там ні пакла́ў, дзе́лаіцца я́мка на стагу́, і прапада́я то́я се́на. Хто ж з ахо́тай рабо́тая, а хто прышо́ў я́мкай навалі́ў, зрабі́ў абы́ з рук, яно́ прападзе́.

Калí сéна ніпрáвільна кладзéцца зрáзу, стог пахíліцца. Калí аціцюль пýзам такíм наклáдзіна, янó бýдзя зацікáць і бýдзя гнісьць.

***

Страхá – éта на сáмы біражóчык, кудý кладзéш сéна, так кругóм кладзéш. Ахáпачак паклáў, а другí старáйся трóшкі занімáць ахáпачак, катóры ўжо ляжыць. Кругóм стóга страхý наклáлі, тадý кладзéш другí радóк, палавíначку пéршага рáда занімáіш. Трэ́цці рад усё укíдаіш усярэ́дзіну і забіваіш сярэ́дзіну, штоб былó рóўна. Éсьлі рóўна ні бýдзіш класьць, знáчыць, éты вяршóк асýніцца наніз, і сéна ўсё замякня.

## Падаспелая дапамога

Былó так. Ігнáсь дзед кíдаў сéна із сваёй бáбай Хадóскай. Хадóска падáсьць яму на стог, а ён ськíдая і прáма на йе. Ськíдаў, ськíдаў éта сéна, бáба Матрýна ні выцірпіла, прышлá к Ігнáту к стóгу. Тадý прышлá і бáба Тацянка. Ён стаíць на тым стагý і гавóра: «Éсьлі б вы ні прышлí, я б Хадóску вíлкамы закалóў, вíлкамі б запусьцíў. Ні так падаé». А Матрýна ямý: «Ігнáт, а як нáда падавáць. Я во шчас табé падáм, і ты кажы». Інá падалá ямý сéна. Ён гавóра: «Ну, канéшна ж, ні так. Ты во падалá сéна прáма на страхý, а Хадóска кідáя прáма на мінé. А я тóя сéна кідáю прáма на йе». Бáба Тацянка стаíць і гавóра: «Дзядзька Ігнáт (но я тóлькі ні знаю які, дваюрадны ці траюрадны. Вот і Пéцька пакóйны Бéлінькі усігдá са мной радніўся), éта ж ты скажы спасíба бальшóя Хадóсцы, што у йе такí харáктір залатý». Ігнáт: «А мóжа». А Хадóска стаíць, ні чóрнага ні бéлага, а тóлькі руку пат пахóй пад прáвай дзяржыць і хвíгу ямý варсáя і варсáя. А мáтка і Матрýнка усё éта бáчуць і залівáюцца ат сьмéху. А ён дýмая, што у іх ужó такáя рабóта палучылася.

Ідýць у хáту. Ён на йе: «Хадóска, ідзí там які-нéбудзь стол прыгатýй, ніхáй дзéўкі па чáрцы выпʼюць». Хадóска ідзéць і дзéвак вядзéць і гавóра: «Ой, глянь, Сявéй, ой, глянь, які стог». Інá зь імý, мáтка, Марына, Матрýна, так дружылі. Ён быў шаптýн, ямý нясьлí падáчкі. А йна, Хадóска, éтые падáркі нікалí ў жызьні ні хавáла, дóма пірадзéля, прынясé ўсіх пачастýя. А у бáбы Тацяны былó зборышча.

## Стажар'е

Тадý на лýзі бýдзя ліжáць гальлё, што вырывáюць. Éтага гальля накладáюць на мéста, йдзе стог станóвюць. Янó называіцца адóнак. Накладáюць адóнак вісатóй так с паўмéтра. Сéна забярýць і гальлё тóя спáлюць.

Навéрх на стог клáлі апóўзьні. Зьвязаюць лáзы такéя чатыры галюкі. Кладýць, штоб вéцер ні ськінуў вéрху сéна. Як вéцір ськíня апóўзьні, мажэ́ вéцер верх сéна ськíнуць. Янó, сéна, і замякня там.

## Атава

Атáва раслá ідзé па ніжэ́йшых мéстах, па высóкіх іé ні былó. На высóкіе мéсты пускáлі скот, ён зыдáў тýю травý. Атáву касíлі, сушылі. Старáліся іййé зрáзу піравéзьць. Інá палучáлася дрóбнінькая, іé атдавáлі скóту. Пéрвы укóс – э́та сытнéйшая сéна і малакá ат ягó бóляй. А другí укóс ужó ні такí палéзны. Другí укóс дзéлалі у сіньцябрэ́.

## Лесавое сена

У лéсе сéна былó тóлькі дзе на палянках. Як сухóя лéта, ягó ні былó, янó выгарáла. На лýзі ж вóльны вóздух, а ў лéсі ні так. Па кустáх нільзя касíць, сéрпам там жáлі. У лéсі сéна былó на ніжэ́йшых мéстах. У лéсі хто хацéў, касíлі. Вóзьмя хто разрабóтая сабé палянy і там кóся. Так дзé-

лалі, хто старэ́йшы які́. По́йдзя назьбіва́я сабе́ па куста́х. А таке́я маладзе́йшые хадзі́лі на рабо́ту, ім на́да было́ на рабо́ту, йіх застаўля́лі сі́лай. Старэ́йшы такі́, што крапчэ́йшы тро́хі мужчы́на, навыка́шая, на тача́наццы прывязе́ сабе́. Такі́м каня́ піраве́зьць е́та се́на у калхо́зі ніхто́ ні дасьць. Вапро́с такі́ быў: а, сабе́ ты ко́сіш, а ў калхо́з ты хво́ры хадзі́ць.

***

У куклі́ча́нь быў бо́лі лі́сьцьвінны лес, там травы́ ні было́, а у нас было́ бо́лі травы́. Па Вузкакале́йцы былі́ ла́пічкі травы́, куклі́ча́ні е́та касі́лі. За куклі́ча́намы было́ ні ўхапі́ць. Паку́ль заліша́ні прасну́цца, куклі́ча́ні ужо́ пасушы́лі се́на і зьвязьлі́. Пад Барaво́й быў ку́кліцкі луг, дык зале́скіе ба́бы по́йдуць на яго́, за ноч стог пасьці́лкамі піранясу́ць. Ка́жан насі́ў дамо́ў сваі́м карова́м.

**Здзічэлы луг**

Луг заро́с. Луг стаў зараста́ць ат Чарно́быля. Ні ста́лі на ём так рабо́тась, ні ста́лі касі́ць. Ка́жуць, там бальша́я радзія́цыя, но, по́тым бы, накасі́лі ко́ням, і ко́ням ні ко́сюць. Ніхто́ ні хо́ча дзе́лаць нічо́га. Пірарадзі́ўся наш луг, зьдзічэ́ў, на йім ста́ла, як у ле́сі, як у Пру́дку.

Тра́ктарам даўне́й вырыва́лі лазу́, ён быў чы́сты, харо́шы луг. А ціпе́р яго́ ніхто́ ні даглідая́. Ідзе́ бальшэ́я кусты́, вырыва́лі тра́ктарам. Ідзе́ ме́ншые кусты́, прыцьсіда́ціль зага́даў мушчы́нам так выка́пась. Ціпе́р се́юць усё по́ля на луг.

***

Се́на піраво́жалі зімо́й. Патро́хі так і ране́й вазі́лі, но большынство́ зімо́й. Таму́ што па во́сіні капа́лі бу́льбу уручну́ю, было́ бага́та рабо́ты тако́й. Як про́йдзя во́сінь, начына́юць вазі́ць. Зімо́й вазі́лі усё ўрэ́мя се́на. Вазі́лі на ко́нях. А станя́ даро́га харо́шая, сьнег прачы́сьцюць – на трактара́х, на машына́х вазі́лі. Як маро́з пабу́дзя бальшы́, рэ́чкі пазамірза́юць, тады́ вазі́лі на трактара́х, машы́нах. А як ма́лінькі маро́з, ні вазі́лі на іх, таму́ што права́лісься у ваду́.

**Гісторыі пра забеспячэнне сенам прыватных гаспадароў**

Пры́дзя сто́раж на луг: «Ах, німа́, быў стог і німа́...». А як яму́ прыці́ць к прыцьсіда́цілю і сказа́ць: «Быў стог і німа́». Асо́бінна хадзі́лі у се́на на Раздво́. Калі́ было́ хало́дна на Раздво́, а калі́ цёпла, вада́ стая́ла, на луг ні падыйці́ць. Там, Пад Баравой, ні́зкі луг. Дабра́нскі луг быў тро́хі вышэ́й. Сто́раж по́йдзя шука́ць па ха́тах. А лю́дзі прынясьлі́, схава́лі на столь. Мы з ма́ткай прынясо́м і на столь схаваі́м і дра́чыкам даро́гу замято́м. Пашлі́ адзі́н раз. Я́кся ні по́мню, яко́е надво́р'я было́. Прышлі́ к сто́гу, а сто́раж сядзі́ць кала яго́. Мы дра́пнулі уціка́ць. Ба́ба Зу́шчыха пад ёлачку се́ла, сьнег страсяну́ла і сядзі́ць, як сьнягу́рачка. А сто́раж вы́скачыў на даро́гу, мацяры́цца і крычы́ць: «Прышло́ шэсьць, чаты́ры пабе́гла, а йдзе ж дзьве?». А яны́, дзе́ўкі, ста́лі пад со́сны то́ўстые. Ён туды́ пайшо́ў, яны́ паве́рнуцца, ён наза́д – яны́ у другі́ бок. Сто́раж пракруці́ўся і ні ўба́чыў іх, пашо́ў зноў на луг. Сьнягу́рка вы́лізла з-пад ёлачкі, і яны́ пашлі́ дамо́ў. Ужо́ ні ўкра́лі нічо́га.

***

Зімо́й было́. Пашлі́ ба́бы з пасьці́лкамі се́на у свой луг. Гала́н пако́йны быў сто́ражам. Яны́ то́лькі ста́лі скусьць – Гала́н прышо́ў. Га́нна пако́йная Се́нькава узіла́ пасьці́лку на галаву́ яму́ накі́нула, і ру́кі зьвіза́лі ба́бы́, і яму́ угро́зу: «Е́сьлі ты то́лькі зая́віш прыдзьсіда́цілю, мы цібе́ уто́пім у Гаро́дзішчы. Запо́мні: тапо́р во́зьмім, пе́льку прасяко́м і уто́пім». Га́лан: «Не, не, ні ска́жу. То́лькі ні скубі́ця са днаго́ сто́га, то сі́льна абскубі́це́, а прыцьсіда́ціль міне́ з рабо́ты сы́мя ці штрап дасьць. Ска́жа: «Ты ж сто́раж, а йдзе ты быў». І пра́ўда, ні сказа́ў.

Ужо́ ні ста́лі с пасьці́лачкамы, а падзе́лалі са́начкі. Пае́дуць на са́начках, стажо́к раскла́лі – і шука́й йіх.

***

А то пае́халі у кра́дла за се́нам пад Мо́ліну. Мо́ліна – е́та бальшы́ луг. Там быў лісхо́зны луг і біля́яўскі. То біля́яўцы, то лісхо́з там касі́лі. Быў там лясьні́чым Мары́ны Ры́жай дзе́вір, хазя́іна брат. Э́та То́ліка Ла́йбіка дзед. Пае́халі, тро́шкі прае́халі. Здало́ся – сто́раж сядзі́ць, а пые́халі пашці́ што на Мо́лінку. А шчэ, як то́лькі е́халі у лес, Міха́лкавых Та́нячку і Ду́нячку праня́ў пано́с. То адна́ ся́дзя, дру́гая са́начкі цягня́, то друга́я ся́дзя, та́я са́начкі цягня́. І так яны́ прае́халі да Мо́ліны. На Мо́ліні на той сядзе́ў ні сто́раж, а воўк, у яго́ кра́сные во́чы. А мо́жа то то́лькі сьнег блішча́ў, но ат стра́ха во́чы вялі́кі. Бу́шка і Падабе́д папужа́ліся, на́чалі тэ́я з даро́гі сыхо́дзіць. А Мары́на і ма́тка мая́ сьмяю́цца. Бу́шка е́ты: о-га, о-га, га́кая. Яны́ сідзя́ць на ку́чках, а Мары́на штурха́я пад бок: «Пае́халі, а то мы за і́мі ні ўхо́пім». Мы на са́нках і пае́халі к сто́гу. По́куль яны́, мужчы́ны, пад’е́халі, мы паўса́нак накла́лі. Усё забра́лі і дамо́ў прывязьлі́. По́куль мы е́та упара́дкавалі, ста́ла разьвідня́цца, і сто́раж прыхо́джая. Паглядзе́ў у хлеў – ні́ма се́на. Хаце́ў на столь лезьць, а ма́тка мая́ гаво́ра: «То́лькі сьмей на столь падня́цца, ві́лкамі ссаджу́ атту́ль». Сто́раж глядзь – Мары́на ідзе́ць. Дык ён: «А, шчэ во адна́. А то й пра́ўда: вы тут міне́ ві́лкамы зако́ліця», – і пайшо́ў са двара́.

***

У том краю́ тож ба́бы хадзі́лі на луг. На Кры́лаві было́ калхо́зная се́на. А там быў сто́ражам Чмель, ні малады́, а яго́ ба́цька. Ба́бы сабра́ліся іці́ць за се́нам. Папе́рад паглядзе́лі пад вакно́м: шчэ вячэ́рая Чмель. Яны́ бяго́м на луг. А сьняжо́к прайшо́ў. Чмель вы́шаў з до́му, ба́ча: сьляды́ пашлі́ на луг. І ён на луг прышо́ў. Ба́бы уба́чылі, што Чмель ідзе́ць, збо́ку пахава́ліся. Ён стаў на грыў́цы і крычы́ць: «Шку́рка, вы́йдзі з лу́гу! Шку́ркі, вы́йдзіця з лу́гу!». Чмель пакрычэ́ў, пакрычэ́ў, пайшо́ў дамо́ў. Ба́бы, паку́ль ён крычэ́ў, пасты́лі: сядзе́лі у лазе́ на сьнягу́. Но се́на наску́блі і прынясьлі́ дамо́ў. Чме́ля ні ба́чылі, і Чмель іх ні ба́чыў.

*З ТРАДЫЦЫЙНАЙ МЯСЦОВАЙ КУХНІ*

## Свойскі хлеб

Чо́рны хлеб ржаны́ называ́іцца ці жы́тны. Учыня́лі яго́ так. Была́ дзе́жка, у каго́ яка́я. У нас была́ дзе́жка дубо́вая: наш жа дзед Яўхі́м быў бо́ндар. У дзе́жцы заква́ска. Атку́ль та́я заква́ска? Хлеб сьпяку́ць. Дзе́жку абчы́сьцюць акура́тна, акура́тнінька, дно пашкра́буць – е́та табе́ к друго́му ра́зу бу́дзя заква́ска. Накры́юць дзе́жку надзе́жнікам. Надзе́жнік зь льляно́га палатна́ шы́юць. Про́ста дзьве по́лачкі шшы́юць уме́сьці. Ве́кам дзе́жку накры́юць. Дзе́жку паста́вюць у харо́шая ме́сца. Учыня́юць хлеб, каб падышо́ў. Е́та рашчы́ну паста́вюць. Жы́дка так заме́сюць, штоб яно́, це́ста, падышло́. Падышо́ў хлеб. Наза́ўтрага ўра́ньні заме́сюць хлеб. У хлеб дабаўля́лі бу́льбу. Вот за́ўтра хлеб печ. Сёдні бу́льбу цэ́лаю нава́руць, палу́пюць. Бу́льба астыва́я, на стале́ ляжы́ць. Тады́ іе́ патаўку́ць у сту́пі. Таўку́ць бу́льбу, паку́ль ні бу́дзя ні днаго́ жва́ля. Жвалёк – е́та камо́чкі таке́я. Вот таўчэ́ш-таўчэ́ш, штоб камо́чкаў ні было́. Кіда́іш у дзе́жку, разьме́шваіш уме́сьці з муко́й. Як бальша́я сім’я́, пячэ́ш бу́лак шэсьць-сем, таго́ што бо́ляй у пе́чы як шэсць-сем бу́лак ні сьпячэ́ш. Калі́ бу́льбу дабаўля́іш у хлеб, на́да ме́ня'й мукі́, а ўдру́гая – хлеб так ні чарсьцьве́я, калі́ з бу́льбай.

На́да вы́грабіць по́піл, накла́сьць дроў. Дро́вы пагара́ць – печ ужо́ вы́тапілі. Печ вы́мятуць памяло́м. Памяло́ тако́я: на па́лку начапля́юць уся́кага трап’я́. У ваду́ памо́чуць яго́, штоб жа ні загара́лась. Вы́мятуць по́піл уве́сь на прахо́д. Як хлеб запячэ́цца харашо́, жар, што на прахо́дзі быў, вы́грабіш у пяко́лку. Іна́ збо́ку. Уле́тку хлеб пяклі́ на капу́сным лі́сьці, зімо́й на дубо́вым.

Уво́сінь по́йдзім у лес, ні́зку лі́сьцяя надзе́лаіш. Во́зьміш пруці́к во́йстрынькі, лі́сьцікі дубо́выя то́ркаіш, то́ркаіш. Ні́зкі дзьве насо́дзіш, штоб хлеб печ, і пячэ́ш тады́ на лі́сьці. Мукі́ ж шко́да патсыпаць на лапа́ту. А лапа́та была́ асі́навая. Дуб жа цяжо́лы, а асі́на, як высахня, – са́мы лёгкі прадме́т. Хлеб пасо́дзюць. Жар вы́грабуць блі́зінька, штоб запёкся хлеб харашо́. Хлеб сма́шны быў усі́гда, ні такі́, як ціпе́р. Што туды́ дабаўля́юць у хлеб е́ты... Ён такі́ нісма́шны.

**Здор**

Ціпе́р то́пюць здор, а ране́й здор салі́лі, скру́цюць крутнём і пакладу́ць у ра́жку. Е́тым здо́рам пад во́сінь запраўля́лі суп, бу́льбу жы́дкаю. Даста́нуць кусо́к, патаўку́ць яго́ ш чыснако́м і кідаюць у суп, у бу́льбу жы́дкаю. Яго́ і ў боршч кладу́ць, абы-куды́ кладу́ць. Гаво́руць: мы са́ла пае́лі, ядзі́м здор, бу́льбу зата́ўкаім йім, у боршч кладо́м.

***

Муко́й націра́лі даўне́й чаго́ гусе́й? Сма́лілі іх на цяпле́, ён дзе́лаўся чо́рны. Каб прыбра́ць чарнату́, націра́лі, нацярэ́ш – гусёнак бе́лінькі. Кі́шачкі я харашэ́нька вы́мала, на ла́пкі закруці́ла.

Ля́шачкі гусі́ныя абрэ́ж – э́та харашо́ у суп. Мя́са із-пад пу́за узя́ў атвары́ў, тады́ паджа́рыў на скарвадзе́ – яно́ ж укусна-уку́сна. Яго́ мо́жна скруці́ць і каклє́ту сьпеч. А е́тыя ко́сткі (у ціба́ ж ё сукале́на), шы́ю, кры́льля і уве́сь хрыбётак, – пакла́ў і звары́ў. Гусі́ная мя́са бо́лій саладзе́йшая. Гусёнак е́ты які́ ён? Што е́та каба́н? Ко́лькі яго́ там? Узя́ў і звары́ў суп. Расо́льнік уку́сны з гуся́цінай.

**Як робяць свежыну**

Б’юць кабана́. Усігда́ бі́лі к Каля́дам. Абсма́люць. Папе́рад сма́лілі сало́май. Тады́ сало́мы ста-ла шко́да: бага́та па́ліцца, а сало́ма ж на по́дсьцілку. І што ста́лі дзе́лаць. У вёдрах праб’ю́ць дно, пераплятую́ць яго́ дро́цікам. Уво́сінь, як паго́да, насабіра́юць мех шы́шак із сасны́, зь е́лкі. Бо́лі з сасны́, таму́ што яны́ бо́лі смалі́стыя, яны́ лу́ччы гара́ць. Тады́, калі́ біць, пасу́шуць іх: то на печ паста́вюць карзі́ну, то ў печ. Насы́палі шы́шак, шы́шка гары́ць у вядрэ́. По́піл гара́чы абсыпа́іцца на кабана́, яно́ сма́ліцца, шчаці́на уся́ згара́я. Пасма́лілі, тады́ яго́ паско́блюць, памы́юць, абпа́-руць. Абпа́руць – е́та сало́май абкладу́ць, і зноў яго́ абшкрабу́ць. І усё – разраза́юць яго́. А пазьне́й ста́лі ла́мпай сма́ліць, а ціпе́р сма́люць ла́мпай. Бало́н падключа́юць і е́тым га́зам. Ён гары́ць у ла́мпі і сма́ліцца.

Ціпе́р як абклада́лі сало́май? Сало́май абклада́юць сухо́й. Асо́бінна бо́лі ўсяго́ жы́тная была́, таму́ што сало́ма я́шная, аўся́ная, прася́ная, грэ́цкая бо́лі ішла́ на корм ско́ту. А жы́тная сало́ма – [яе] усігда́ рэ́залі рэ́зку. Сало́му абпа́руць гара́чай вадо́й, абсы́пюць муко́й. Калі́ мукі́ ні́ма, то бу́льбу разьвядуць рэ́дка так, бу́льбай абальлю́ць. Усё пірамі́шаюць, тады́ стано́вюць там ці каню́, ці каро́ві. Хо́лад наву́ча усё есьць. На́ша Та́ня як радзі́лася, есьць [карове] нічо́га ні было́. Прыніс-ла́ ба́ба не́скалькі снапоў. Як мне рэ́заць рэ́зку? Я сноп пакладу́ каро́ві, іна́ пае́сьць. По́сьлі саломы вады́ піць [карова] ні хаце́ла, таго́ што іна́ ж нісы́тая, сало́ма.

Як абкла́лі сало́май кабана́, садзі́лі дзіце́й. Я прынясу́ сало́мы, штоб напагато́ві была́. Сало́ма жыла́цільна с-пад камба́йна, іна́ пірамя́тая, мя́ккая. А як пірамя́тай ні было́, кла́лі пра́май, снап-ка́мы, ні куля́мы. Снапкі́ яны́ таке́я, як жнеш, нібальшэ́нькіе. У каго́ бальша́я жме́нька, то тры кладзе́ш. У каго́ рука́ ма́лінькая, кла́лі па чаты́ры жме́нячкі.

А садзі́лі зато́ дзіце́й, каб прыці́снуць сало́му. Ко́лькі дзе́ці пасідзя́ць, сало́ма стано́віцца мо́к-рай. А зь яго́ [кабана] ідзе́ць па́ра, і каба́н уро́дзі мо́кры.

Пасядзе́лі дзе́ці, зноў мы́юць, пашкрабу́ць. А калі́ паляжы́ць пад сало́май парасёнак, тады́ яго́ абскабля́юць. І вот жа іна́, е́та шку́рачка, ко́жка, ста́ня така́я то́нінькая-то́нінічка. Іе́ і куса́ць

харашо́. Мой хазя́ін крэ́пка любі́ў шку́рку. Паку́ль сма́люць, ён усё падпу́зьзя абрэ́жа. Ідзе́ шку́рка мя́ккая, усё зрэ́жа і грызе́. І сын шку́ркі любі́ў і еў усі́гда. Пасьле́дні раз, як бі́лі кабана́, ён ужо́ ні еў шку́рак: зу́бы тваля́ліся вясно́й.

***

Абсма́лілі кабана́, разрэ́залі. Ат са́май галавы́ сыма́юць таку́ю пало́сачку, называ́іцца падпу́зьзя. Папе́рад выбіра́юць кроў. Тады́ выбіра́юць унутранасьць: пя́чонку, лёгкая, се́рца. Кі́шкі выбіра́юць, чы́сьцінька кроў там выціра́юць, выбіра́юць ійе́. Разраза́юць на кускі́. Папе́рад сцёгны, тады́ лапа́ткі. Тады́ рэ́бры адзьдзіля́ць [трэба], там жа бачы́ны е́тые, таго́ рэ́бры адзьдзіля́юць. Галаву́ атсяку́ць. І усё – каба́н разабра́ны.

**Расольнік**

У расо́льнік бульбі́н скрышы́ць, туды́ шчэ́пцікі квасо́лі, мо́жна шчэ́пцікі круп, ці ры́савых ці я́шных, цыбу́лінку, лі́сту лаўро́вага пакла́сьць, гуро́чка накрышы́ць, то́лькі гурка́ ні на́да кансірві́раванага, а такі́. І бу́дзя укусны расо́льнік.

**Суп са свіных вантроб**

Бярэ́ш я́шные кру́пы, хвасо́ль, укіну́ць туды́, напрыме́р, у чугуно́к ці варэ́йку (іх бальшэ́я бяру́ць – сям'і́шча ж до́ма) кусо́чык каўбуха́, пячо́нку, лёгкага, се́рца – усяго́ патро́хі накі́даюць. Супы́ таке́я вары́лі. І яны́ былі́ сма́шные тэ́я супы́.

**Бульбяныя аладкі з творагам**

Ла́дак бульбяны́х напяку́ць. Іх пяклі́ усігда́, калі́ у чалаве́ка магчы́масць ё. Тады́ ж се́м'і былі́. Адзі́н пашо́ў хазя́йства даглі́да́ць, другі́ – ваду́ насі́ць. Ма́тка кала пе́чы, іна́ і нава́ра, і напячэ́. Пяклі́ так. Бу́льбу нава́руць, палу́пюць, патаўку́ць у сту́пі. Пасо́люць, со́лянаю у сту́пі таўку́ць. Ні салі́ўшы ж не. Як жа ні салі́ўшы. На стол сы́пюць мукі́, пшані́чнай.

На стале́ раска́таюць такі́м каржо́м, танкава́та так дзе́лаюць. У печ пасо́дзюць на про́цьвін на які́. Яны́ сьпяку́цца. Тво́раг із сьміта́най разьміша́юць, памака́юць іх у мі́ску у яку́ю бальшу́ю, у цёплінькую печ паста́вюць. Яны́ там мя́кінькіе таке́я ста́нуць. Тады́ іх бяру́ць ідзя́ць, і сма́шна было́. У пе́чы яны́ пу́хлінькіе таке́я ста́нуць.

**Пра бульбяныя аладкі на рошчыне і гісторыю, спадарожную ім**

Бу́льбы надзяру́ць, і у то́я це́ста, што паста́вілі, рашчы́ны дабаўля́юць. І е́та бу́льба, як папячэ́цца з хле́бам, – аб'ядзе́нія.

Калі́сь-та по́сьлі ва́йны к На́сьці Хахлі́сі прышо́ў які́сь-та баржы́ст, прыстука́ніўся к На́сьці. Тро́хі абжы́ўся у На́сьці і нача́ў іе́ муштрава́ць:

– Што мне адны́ картафля́ные каржы́ ўсё пічэ́ш і пічэ́ш!?

А На́сьця яму́:

– А у Крэ́міні піка́рня, ты ка́жды дзень усё хле́ба бу́лачку нісёш і нісёш.

А яке́я гро́шы былі́, за што купі́ць. Жыў ён з Хахлі́хай па́ру ме́сіцаў.

Да во́сіні ат'е́ўся і паплы́ў з ба́ржай.

На́сьця е́та то́лькі сёліта плаха́я ста́ла. Жыла́, да сёлітняга го́да парасёнка дзіржа́ла, а сёліта і гусе́й збыла́. У йе дзе́ці ё, іна́ нагуля́ла тых хло́пцаў. Адзі́н ат яго́, баржы́ста, адзі́н ат Павука́. Павукі́ сі́льна хі́трые. Паву́к касі́ць по́йдзя, а як дамо́ў іці́ць, ён ідзе́ць на двух кастыля́х. Як ба у цібе́ но́гі бале́лі, ты б ні касі́ў: уся́ апо́ра у нага́х. Ён нійдзе́ ні быў, ні на вайне́, ні за вайно́й, глухі́м прыкі́нуўся.

### Клёцкі

К ле́ту, к во́сіні бу́льба нарасьце́, а круп німа́. Тады́ бу́льбы надзяру́ць, крэ́пка, су́ха вы́ціснуць, і дзе́лаюць ійе́ галу́шачкамі такі́мі нібальшэ́нькімі. Тро́хі малака́, тро́хі вады́ у варэ́йку. Закіпі́ць е́та ўсё. Тады́ у варэ́йку сы́пюць дра́нак е́тых. Малака́ ці ваду́ пасо́ліш. А іна́ там, галу́шачка, разва́рыцца, распа́рыцца. Іна́ така́я, як вот пільме́ні, і сма́шная. Яны́, е́тые галу́шачкі, называ́ліся у нас клёцкі. Я сама́ е́та варыла і ціпе́р быва́я калі́ вару́.

### Бульба *жыдкая*

Бу́льба жы́дкая ва́рыцца так. Е́сьлі зь мя́сам, на́да укі́нуць ко́стачкі з гуся́, усю́ прыпра́ву: чысначы́ну, цыбу́ліну, ліст лаўро́вы, пе́рыц, укро́п – і усё е́та ніха́й ва́рыцца уме́сьці зь мя́сам. Па ўку́су, е́сьлі хто хо́ча, мо́жна засыпаць круп любы́х, які́х хто жала́я, – ці ры́савых ці грэ́чку, там шчапо́тачак. Як зва́рыцца мя́са, сып бу́льбу і кру́пы ра́зам. Соль па ўку́су. Я пасалю́ тро́шкі, ма́ла, я шчэ ка́пільку дабаўлю. Звары́лася ўсё – еш.

### Бульба *жыдкая* з закрасай

Бу́льба ва́рыцца, кладзе́ш туды́ ліст лаўро́вы, укро́п. Звары́лася е́та, кры́шыш са́ла дро́бнінька, на цёрку пацярэ́ш мо́рквы, пакры́шыш цыбу́лі дро́бнінька. Усё е́та зажа́рыш і сы́піш у бу́льбу. Бу́льба гато́ва.

### Бульба тушаная

Бу́льбу накрышы́ць паўчугуна́, пакла́сьць туды́ усе́ прыпра́вы, парэ́зацьтро́шкі ма́сла, пакла́сьць мя́са, тады́ абра́тна сы́пацьбу́льбу. Пасы́палі бу́льбу, зноў пакла́сьць ма́сла, прыпра́вы, пасалі́ць, накрыва́й скарвадо́й і ста́ўляй у печ. Два часы́ патушы́лась – і аб’ядзе́нія.

Бу́льба жа́раная ці ту́шаная – усё раўно́ іна́ бу́льба, іна́ ужо́ ні піраве́рніцца ні ў што.

### Бабка

Бу́льбу надзяру́. Я бу́льбу ні прамыва́ла, іна́ была́ усігда́ с крухма́лам. Вы́ціснуйе на́суха. У чугуно́к пакладзе́ш. Распражэ́ш ці жы́ру, ці са́ла с цыбу́ляй, і тады́ усё туды́ выліва́іш, пірамешваіш. Е́сьлі сі́льна гу́ста – ка́пільку вады́. Крухма́л як ні разьмі́ша́іш, яно́ зьдзе́лаіцца бе́лая, і тады́ здае́цца усярэ́дзіні як сыро́я. Як разьмі́ша́іш, тро́шкі ва́дзінька яго́ зьдзе́лаіш, тады́ яно́ харо́шынькая тако́я. Перату́шыцца, цыбу́лькай па́хня. Яно́ ўку́сна.

### Гушча, або ячная каша

Асо́бінна атта́плівалі бальшу́ю варэ́йку малака́ і вары́лі бальшы́ чугу́н гу́шчы. Ужо́ така́я сма́шная была́ усігда́. Дзе ні бе́гаіш, на стале́ стаі́ць, прыбяжы́ш і есьць быстрэ́й.

Я́шные кру́пы – круп жа ні было́, таўклі́ ячме́нь – кла́лі у варэ́йку і вары́лі ка́шу таку́ю, называ́лася гу́шча. У мі́ску накладаю́ць гу́шчы, залі́ваюць малако́м то́пліным. Е́сьлі так малако́, яно́ бу́дзя ўкіса́ць, а то́пліная – яно́ даўжэ́й стаі́ць.

Паставю́ць вары́цца, пасо́люць, зва́руць, вы́цягнуць, штоб ка́ша прасты́ла. Іна́ у пе́чы до́ўга будзя́ стая́ць, іна́ укі́сьня. А як прасты́ўшы, іна́ і дво́я су́так харо́шая бу́дзя.

### Пшонная каша

Кру́пы прамы́ць, пасалі́ць, убі́ць, ко́лькі пажыла́іш яе́ц, но жыла́цільна два яйцы́. Піраце́рць усё. Кру́пы піраце́рць зь яе́чкам, пакла́сьць ма́сла, пакла́сьць мёду. Мёду па ўку́су. Адзі́н мёд

нісма́шна. Залі́ць усё малако́м, ста́ўляць к жа́ру і ча́ста міша́ць, штоб ні прыгарэ́ла. Як разва́руцца кру́пы, закрыва́й, станаві́ йе у печ, іна́ там разапрэ́я і бу́дзя ўку́сна.

### Ватрушкі

Распу́сьціш маргары́н, ма́сла, вылíва́іш у таз, пасало́дзіш, пасо́ліш, вы́льліш туда́ дро́жчы, па́ру яе́чак убі́ць на́да. Жала́цільна, е́сьлі ё сьміта́на, сьміта́ны тро́шкі палажы́ць, но е́та, як ё. Пірамі́ша́ць е́та ўсё, разьбі́ць ло́жкай ці чым. В о́пшчым, чым прыду́мая чалаве́к. Увальлі́ць малака́, сы́паць муку́ і мясі́ць. Це́ста падо́йця, раскача́ць яго́. Яго́ таўка́чыкам, качо́лачка така́я ё кача́ць. То́нка раскаці́ць яго́, парэ́заць на квадра́цікі, у ка́жды квадра́цік палажы́ць тваражку́. Но пірад е́тым тваражо́к на́да пірамі́ша́ць зь яе́чкам і са́харам. Тво́раг жа на́да атці́снуць на́суха. Пакла́лі тваражо́к, зака́твай і пячы́. Печ на́да на скарвадзе́ у пе́чы. Цяпло́ гары́ць, а ты пячэ́ш. Папяклі́, кладзе́ш у кайстру́льку. Пакла́сьць наве́рх ма́сла і ста́ўляць у печ.

Пе́чка ні на́да каб была́ жа́ркай, штоб яны́ ні згарэлі у пе́чы.

### Сушаны творагх

Тво́раг атта́пліваюць. Дзе́лаюць ласкаві́ціль. Уці́рку бяру́ць і склада́юць, штоб ро́гам было́. Ласкаві́ціль шы́лі зра́зу з но́вага палатна́, штоб яно́ было́ крэ́пкая. Ка́мінь е́сьлі наці́сьніш, штоб яно́ ні разарва́лася. Е́сьлі зьвіза́ць е́ты тво́раг, яно́ ў вадно́м ме́сьці ні бу́дзя, і бу́дзя харашо́. Высыпа́юць туды́ тэй тво́раг. Сьціка́я, націска́юць яго́ ка́міням. Ён зьдзе́лаіцца сухі́ такі́. Стара́юцца на су́ткі пакла́сьць яго́. Даста́лі, сьцёк. На стол засьціла́юць чы́стаю ска́цірку, высыпа́юць тво́раг на стол, падсо́люць. На ска́цірцы тако́й галу́шкай ме́сюць, ме́сюць. Тады́ падзе́лаюць яго́ блінка́мы, то́нкамы такі́мы. Тады́ на сало́мку і ў печ. Яно́ там пасо́хня. Зноў у яку́ю су́мачку яго́ і на печ. Ба́ба ка́зала: «Мы мя́са палаві́ну су́мкі пае́лі і узя́ліся за тво́раг. Бліно́к ухо́пім, паку́ль за ве́чкамі пры́дам, бліно́к зьядзі́м».

Я сама́ так шчэ спро́бала ко́лькі разо́ў дзе́лаць, як малада́я была́, но каб жа ні адна́ каро́ва, а ціпе́р ніко́му ён ні на́да такі́.

### Капуста тушаная

Капу́сты бярэ́ш кі́слай. Е́сьлі капу́ста кі́слая, дабаўля́ім прэ́снага качана́. Кры́шым туды́ дро́бнінька грыбы́. Но грыбы́ на́да на́нач размачы́ць, памы́ць іх, пакла́сьць у трушля́к, каб яны́ сьцяклі́. Пакрышы́ць мя́са. Са́мая уку́сная гусі́ная мя́са, яно́ сла́дкая, дае́ сла́дасьць. На дно, каб іна́ [капуста] ні прыста́ла к чугуну́, каб ні згарэ́ла капу́ста, пакла́сьць тро́шкі жы́ру. Усё е́та на́да у бальшы́м тазу́ штоб было́. Туды́ накрышы́ць цыбу́лькі, чысначы́нку, пе́рчыку, лі́сту лаўро́вага. Усё пірамі́ша́ць у бальшо́м тазу́, тады́ кла́сьць у чугу́н. Пакла́лі у чугу́н, наве́рх пакла́сьць тро́шкі жы́ру, жыр мо́жна ўся́кі, мо́жна і сьвінны́. Накрыва́й скарвадо́й і станаві́ у печ. Са́мая сма́шная капу́ста – як іна́ ні пірасма́жыцца. Е́та прыме́рна тры часы́, но ўсё заві́ся ат пе́чы. Е́сьлі жа́рка там у пе́чы гарэ́ла, то хва́ця двох часо́ў, каб іна́ увапрэ́ла.

### Квашаныя качаны

Капу́сты качано́ў накладу́ць у бо́чку, наве́рх начы́сьцюць бурако́ў, вадо́й нальлю́ць, наці́снуць кружко́м, ка́мінем наве́рх. Стаі́ць у по́грабі. Уво́сінь пакладу́ць е́тые качаны́ у наябрэ́ ме́сяцы, а ў фіўрале́ мо́жна есьць.

### Мочаныя яблыкі

Я́блакі мачы́лі у бо́чку. Бальша́я сім’я́ – бальшу́ю бо́чку мачы́лі. Я́блак накладу́ць, тады́ пірададу́ць іх аўся́най сало́май. Чаму́ аўся́най, ні зна́ю чаго́. Нальлю́ць бо́чку ту́ю вадо́й, наці́снуць. Ка́мнік кладу́ць на кружо́к. Яны́ стая́ць ко́лькі ме́сіцаў, а зімо́й ясі́ йіх.

### Бліны са свіной крыві

Бліны́ як дзе́лаюць с крыві́, падбаўля́лі е́ту кроў грэ́цкай муко́й. Крывя́нкі, като́рые у кі́шкі наліва́іш, кру́пы сы́піш у іх, а тут грэ́цкая мука́. У бліны́ жы́ру дабаўля́ю. Праглі́ на скарвадзе́ са́ла, асо́бінна праглі́ бо́ляй здор. Ён уве́сь расплаўля́іцца, і кро́шачак е́тых ма́ла. А бліны́ ста́нуць у печ, жыр падніма́я усё. Яны́ падніма́юцца і дзе́лаюцца ры́хлые, пушы́стые таке́я пяку́цца. Бяры́ еж цёплінькіе. Засты́нуць – яны́ ні таке́я уку́сные, а цёплінькіе о́чынь уку́сные.

### Крывянка

Крывя́нку дзе́лаць так. Нарэ́жуць са́ла. Я, напрыме́р, піракручу́ са́ла на машы́нцы с цыбу́ляй. Я цы́булі дабаўля́ю усігда́: па́хня. Са́ла на крывя́нку я бя́ру с падпу́зьзя, яно́ жы́рная, то нікуда [яго не скарыстаеш], а у крывя́нку до́бра. Тады́ развару́ ка́шы, круп грэ́цкіх. Усё пірамі́шаю, увальлю́ малака́, со́лі тро́шкі, со́ды то́жа тро́шкі. Ні зна́ю, як каму́ на ўкус, но мы ядзі́м. Нальлю́ у кі́шкі і пастаўлю́ у печ сма́жыцца. На́да наліва́ць у кі́шкі ні на по́ўные кі́шкі, а тро́шкі бо́лі чуць палаві́ны, тады́ яны́ ні так трэ́скаюцца. Ні на́да ста́ўляць іх у гара́чаю печ, штоб яны́ так ні трэ́скаліс. Як жа у ду́жа у гара́чаю печ, яны́ там ду́жа раздыма́юцца, ло́пацца. Йім ні хвата́я ме́ста, штоб парыхле́ць. А кі́шкі вы́дзірыш, вы́чысьціш – яны́ ж ху́дзінькіе, то́нінькіе стано́вюцца і ско́ра ло́паюцца. На крывя́нкі я кладу́ чапе́ц. Яго́ разы́рваіш і кладзе́ш на кі́шкі, штоб кі́шкі зра́зу ні засыха́лі. Чапе́ц пасьці́лачкай тако́й. Жыр сплыва́я зь яго́ на скарваду́, пад крывя́нкі, і крывя́нкі сма́жуцца на жыру́.

### Гарбуз з садавіной

Пазьне́й туды́, на Пятро́, к во́сіні, як пасьпе́юць гарбузы́, гарбузы́ мы іх спо́льзалі. Гарбу́з – е́та вітамі́ны. Я пра яго́ і па ра́дзіву чу́ла, і ў цілеві́зары гаварылі. Пасьпе́лі гарбузы́, йіх налу́пюць, накры́шуць у варэ́йку. Са́мы сма́шны габру́з кра́сны. Като́ры кра́сны, ён такі́ сало́дкі-сало́дкі. Бяру́ць я́гад, асо́бінна я́гад туды́ накі́даю. Я́гад сы́палі сухі́х, патаму́ што гарбузы́ к Пятру́ шчэ нісазрэ́ўшые былі́, а я́гады ужо́ атышлі́. Пасы́пюць туды́ я́гад, крышнёў зь я́блак. Я́блакі ні ле́тнік, а таке́я пазьне́йшые. У я́блаках павыра́заю усё. Налу́піш і усё паста́віш у печ. Яно́ папрэ́я. І я́блакам па́хня, і гарбузо́м па́хня. Сма́шна і ўсё: я́блака кіславаці́нька, гарбу́з сало́дкі, я́гады сало́дкіе. Ні са́хар ні нада́, ні соль ні на́да. Мы бе́гаім (а дух такі́ сма́шны стаі́ць) і кры́чым: «Мам, дай нам мацы́». Яно́, кане́шна, ні маца́, а як яго́ зва́лі, я ні зна́ю, я́к-та забы́лася.

Расплыве́цца гарбу́з, як ка́ша. Хо́чыш з хле́бам еж, хо́чыш біз хле́ба. Яно́ тако́я жы́дзінкая. Сьлі́зі ж там, крухма́лу, німа́. Хло́пцы ма́ла упатрабля́лі, а мы з ма́ткай тады́ аб'іда́імся. Дзень ядзі́м. Мужчы́нам на́да бо́ляй таго́, што жырне́йшая, сальне́йшая, бо́ляй сытне́йшая. Тако́я яны́ ма́ла бу́дуць есьць.

### Кулага

Прышло́ Пятро́. По́сьлі Пітра́ сьпе́юць я́блакі – бе́лы налі́ў. Я́блак ма́тка ражжыве́цца, налу́пя ў варэ́йку, нарэ́жа крышанька́мі. Разва́руцца е́тые я́блачкі крыша́нькамі. Тады́ іна́ бярэ́ жы́тнаю муку́, разьме́шае йе жыткава́та, штоб галу́шачак ні было́, і вылива́я туды́ у я́блакі. Пакіпі́ць яно́ харашо́, і сма́шна.

Адзі́н раз я была́ на гаро́дзі і падышла́ да міне́ Баброва Вульля́на. Я́кcь-та разгавары́ліся пра гато́ўлю, йна і гаво́ра: «Уну́кі былі́ ў міне́, навары́ла я йім кула́гі, йны паспро́балі, а тады́ бе́гаюць за мной і про́сюць: «Ба́бушка, вары нам, то ўку́сная». Но яно́ ж і пра́ўда: ку́лага сма́шная. Я сваі́м уну́кам тож вары́ла.

### Малочны кісель

К каро́ві схаджу́, малака́ закіпячу́. Тады́ дзе́лалі свой крухма́л. Ён сухе́нькі. Вазьму́ уваб'ю́ у крухма́л я́ечка. Тро́шкі малака́ пасалю́, а крухма́л пасаладжу́. Разатру́ так сі́льна, каб яйцо́ ні звары́лася камко́м. На́да, каб густава́цінькая было́. Харашо́ разатрэ́цца, у малако́ вы́льліш, і іда́ гато́вая. Я тро́шкі пасаладжу́, ма́сла тро́шкі у малако́ укі́ну, яно́ разо́йдзіцца, і сма́шна па́хня.

### Пасляваенная галадзішча

А сім’я́, стара́юцца дзе́ці, каб бы́стрынька ухапі́ць яды́. Іва́н крычы́ць: мне гара́ча, падажджы́ця, я загараджу́ ло́жкай, ніха́й прасты́ня. Глядзь: а ўсі ўзялі́ – пае́лі.

Як цэ́лая бу́льба, на бе́днік ма́тка вы́сыпя – бу́льбу разграблі́ па ку́чачках, а то былі́ і дзялі́лі. Мажне́й ста́лі жыць, про́ста е́лі ўво́лю, ні дзялі́лі. По́сьлі вайны́ галадзе́шча така́я была́, дык і есьць хаце́лі бага́та. Усё было́ пусто́я: калі́ ма́тка забе́ля шча́віль, а калі́ і німа́ чым. І лю́дзі былі́ таке́я худэ́я.

### Як з’елі вадзянку агуркоў

Таке́я дзе́ці, падро́сткі, ніхто́ ні гуля́ў. Снапы́ зьвязу́ць, а тады́ усе́ дзе́ці іду́ць у каласкі́. Мы пашлі́ у каласкі́, назьбіра́лі. Ужо́ со́нца з паўдня́ павара́чая, мы ужо́ зна́ім, што е́та абе́д. Не́хта: «Хадзі́мця дамо́ў, хадзі́мця». Прышлі́ дамо́ў. А ма́тка, напрыме́р учо́ра, вы́брала гуркі́ і намачы́ла цэ́лаю вадзя́нку – тры вядры́. Каб быстрэ́й закі́сьлі, іна́ заліла́ іх кіпятко́м. Мы прышлі́ с каласка́мі, су́мачкі свае́ пакіда́лі. Стая́ла вада́, вы́пілі усю́, но есьць то хо́чым. Тады́ ста́лі круго́м вадзя́нкі і е́лі е́тые гуркі́. Е́лі, пака́ ні зье́лі усе́ да аднаго́.

Жываты́ мы свае́ набі́лі. Прыхо́дзя ма́тка, Ляксе́й напе́рад: «Мам, ты нас ні руга́й, мы крэ́пка есьць хаце́лі і зье́лі усе́ гуркі́». А ма́тка спра́шая:

– А хто быў?

– Матру́ніных дво́я, Мары́ніных дво́я, Ні́на Сі́дарава і нас тро́я.

Ма́тка яго́ я́кся і ні ра́зу ні руга́ла. Мо́жа с таго́, што ён рабо́таў усігда́ акура́тнінька.

Ма́тка пашла́ за вадо́й, а хадзі́лі за вадо́й у Се́нькаў кало́дзіж, ідзе́ Ва́ська Ка́цькін жыў. Там кало́дзіж, і ключы́ у тым кало́дзіжы, мы усігда́ бра́лі там ваду́. І Матру́на напе́рад ідзе́ць. Ма́тка:

– Матру́н, ты гуркі́ вы́брала? Матру́на:

– За́візі бага́та, ну ішчэ́ ні вы́расьлі.

– А я, Матру́н, намачы́ла учо́ра тры вядры́, дык ні аднаго́ гуро́чка німа́, Ігна́т укра́ў.

На́чалі смія́цца: як укра́ў? Куда́ ён іх дзеў?

– Папыта́йсь-ка у Ляксе́я свайго́, куда́ ён іх дзеў.

Па́сьміяліся і вы́казалі: дзе́ці у каласкі́ хадзі́лі, прышлі́ атту́ль і пае́лі вадзя́нку гурко́ў. Матру́нка:

– Ой, Тацця́начка, дык я як вы́бяру, табе́ прынясу́.

– А мо́жа мне к то́му ра́зу свае́ нарасту́ць.

Папе́рад за ўсіх у мае́ ма́ткі гуркі́ расьлі́, і ў міне́ так. Тады́, як шчэ дружы́лі с Тацця́най, Тацця́на ма́ццы гаво́ра: «Пасаджу́ ране́й за ўсіх, но ў міне́ німа́, а ў цібе́ ё. І ат чаго́ так».

## *ГАВОРКІ ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ*

*Т. М. Трухан*

### ТЭКСТЫ З ВЁСКІ СЛАБАДА ІЎЕЎСКАГА РАЁНА

***Расказвае Г. А. Шакаль, 1929 г. н.;*** *запіс зроблены ў 2010 г.*

На паўночна-ўсходняй тэрыторыі Налібоцкай пушчы, за дванаццаць кіламетраў ад вёскі Бакшты месціцца невялікая вёсачка Слабада, нават не вёсачка, а хутар. Кожнае лета на працягу дзесяці гадоў мне даводзілася бываць на ўзгаданым хутары. Раней гэта была вёска, налічвала некалькі дзясяткаў двароў, а зараз засталося толькі тры хаты, у якіх жывуць пажылыя жанчыны, сярод іх і Шакаль Ганна Антонаўна – рухавая, гасцінная, працавітая і сімпатычная жанчына, а яшчэ

яна цікавая суразмоўніца, якую можна слухаць гадзінамі, здзіўляцца і захапляцца. Зіму яна праводзіць у сваёй дачкі, з якой я сябрую, у Мінску, а летам жыве ў сваёй сядзібе, сярод сасновага лесу, з цудоўным паветрам, пахам ягад і грыбоў. Ад яе я пачула шмат цікавых звестак пра асабістае жыццё і жыццё аднавяскоўцаў у гэтым краі. У жніўні 2010 г. я нарэшце запісала на дыктафон гэтыя змястоўныя гісторыі з жыцця Ганны Антонаўны. Некаторыя яе ўспаміны прапаную чытачам.

**Жыццёвыя ўспаміны**

Як былі́ малы́е дзе́ці, ма́ма ўстава́ла ра́на, каро́вы як падаю́, каро́вы по́йдуць, і ніко́лі ш ні кла́лася. Вы́палю ў пе́чы, сьві́ня накармлю́, усё ўпара́ткую і му́шу ў я́гады зьлята́ць, паку́ль на се́на ісьці́. Паку́ль се́на ісьці́ разьбіва́ць, я зьлята́ю ў я́гады, я́гад насабяру́, а тады́ на сенако́с. У рабо́це, то са мной Ма́ня ні спраўля́лася: ні ў капа́ні, ні ў жніве́, ні вот грэ́бці се́на. По́йдзем на санажа́ць, я с Ста́сям кладу́ капу́ і ге́тые валкі́, грабём у валкі́. Мы зра́зу ў валкі́ грабём, а тады́ ўжо ко́пы ста́вілі. Ко́пы вазілі дадо́му, а то стох, кі́далі стагі́. То́жэ дзіві́ліся мужчы́ны е́тые, ужэ́ е́тые калхо́зьнікі, як пры́едуць: «Каб на́шу ба́бу і-і-і на гэ́дакі стох, як ты зьле́зеш?» – э́тые мушчы́ны. Тапта́ла стох і вяршы́ла, тады́ ж ён мне падае́ ўжэ на стох такі́е, зьвяжэ́ з лазы́, я тады́ заклада́ю на э́ты кол, дзе ўжэ стох, кап ужо́ э́та дошч ні захо́дзіў, і тады́ я бяру́ся за гэ́ту ўжо лазі́ну, а ён мне прыкладае́ насі́лку, і я па гэ́тай насі́лцы апуска́юся. Ды такі́е стагі́, што ты! Стагі́ высо́кія, да чо́рта, ой, бля́ха! Ужо́ по́тым, то галава́ круці́лася.

***

Сястра́ яго́ збу́чылася, кап ён ужэ́ мяне́ ні браў. Ну пры чом я? Я была́ мала́я. Гэ́ты мой дваю́радны брат, во праз даро́гу, хадзі́ў да яе́, патстро́іў гэ́ту дзе́вачку ёй. На́шы наабаро́т гавары́лі, што Ю́заф, тваё дзіця́, бяры́, яна́ сто́лька здружы́ла. Бра́лі яе́ за́муш, яна́ ні пашла́. І што яна́? Мы тут адны́ жылі́, мы лу́ччэ ўсіх, нам мушчы́ны заві́давалі. Мы ўдзьвёх былі́, а партны́ жыў уासе́да, і ён ві́дзіць, што мы прывязьлі́ дро́ва зімо́ю ўдзьвёх, рэ́жам, шчапа́ем, дык ён ка́жа: «А́ле ш і дзяў-ча́та, а́ле ш і дзяўча́та, э́та ні дзяўча́та, але́ чэ́рці». Дак сястра́ яго́ сказа́ла, што на паро́х яна́ ні сту́-піць. Тады́ Стась ужэ́ прышо́ў, ту́така дагавары́ліся е́хаць расьпі́свацца. А Ма́нька на́ша ве́льмі была́ мо́ндрая. У яе́ Мар'я́н ні ве́лькі быў, і яны́ жылі́ ў мало́й ха́ццы. Яны́ ўжэ ду́малі то́жэ ха́ту во гэ́ту ста́віць, што яны́ жыву́ць (паказвае). А я ні за́мужам. Мы дагавары́ліся, што за́ўтра у́трам пае́дзем расьпі́свацца. Ён сабра́ўся і прышо́ў, а яны́ ша́фу закрыва́лі, ні дава́лі яму́ дзе́нех. Ой блага́я была́ сястра́! А́ле ш адгарава́ла! Дзе́сяць гадо́чкаў сьляпа́я была́ і ўнук біў. Мне то жа́лка яе́. Каро́вы зайшлі́ ў гаро́т, яна́ ні ві́дзіць. Стась, кажу́, пайдзі́ вы́жань? Ідзі́, ка́жэ, калі́ табе́ трэ́ба, ідзі́. І пашла́ я, пашла́. Такі́ хара́ктер.

Ну, зна́еш, ён увахо́дзіць. А Ма́ня да ко́йкі мяне́: «Адлажы́ на вясну́». Ужо́ два́цаць пяць гадо́ў мне было́. Бо яна́ за ноч паду́мала, што ёй жа ха́ту трэ́ба ста́віць. Ско́лька я, ой, пла́кала праз яе́, дзяло́ў ме́ла, То́мачка. Каб я ні аткла́ла, То́ма, яна́ п ста́віла сабе́ ха́ту, а я ста́віла п с Ста́сем сабе́, я б ні ме́ла ніякі́х дзяло́ў. Ён бы пашо́ў у прамхо́з, устро́іўся, расьпіса́ліся б, ён ні рабі́ў бы та́мака. Ён пашо́ў бы ў прамхо́з і я за ім, палучы́лі б там абшчэ́жыце ў Кляці́шчэ е́тым, і я го́ра ні зна́ла б.

Я яму́ тады́ кажу́: «Ты купля́й за зіму́ дзе́рава і вясно́й ужэ́ ха́ту». Ён так і зрабі́ў. Купі́ў за зі́му дзе́рава, наня́ў рабо́чых, зрубі́ў ха́ту. Сестра́ е́сьці вары́ла рабо́чым. Яна́ ж ні зна́ла гэ́тай цэ́лі. І тады́ мы пае́халі во́сеню расьпі́свацца. Дваю́радны брат пае́хаў, нам спусьці́ў ха́ту, мы ў чужо́й зімава́лі, а гэ́ту ўпраўля́лі. Яны́ зра́зу ні́чо́га, ці іх хто падбу́яў, ці іх хто? Яна́ сестра́ ка́жэ: «Бяры́ ву́гал ха́ты, бяры́ ву́гал адры́нкі, бяры́!» Ну як ён во́зьме? А тады́ яна́: «Падава́й у сут, мо табе́ сут усё прысу́дзіць». Ну рас так, а мы ўжо жыво́м у чужо́й ха́це, е́ты зруп стаі́ць, ужо́ накры́лі. Ён пада́ў у сут. Пае́халі сьвідзе́целі, пае́халі рабо́чые, като́рых ён наніма́ў. Сказа́лі, што ён нас наніма́ў, ён рашчы́тваўся с на́мі, ён усё. Пае́халі сасе́дзя: гэ́ты брат, у като́рага мы ў ха́це былі́, і другі́. Гэ́ты брат мой, яна́ ш пажы́зьнена на гэ́тага майго́ бра́та, ён ні́чо́га ні сказа́ў: «Ён на маі́х

глаза́х рос, яму́ было́ чатырна́цаць гадо́ў, як ба́цька памёр, усе́ яны́ былі́ ме́ньшые, ён гадава́ў, ён быў як за ба́цьку. Сут прысудзі́ў гэ́ты зруп і каро́ву за ім. І вот яны́ тады́ дава́й гэ́ты зруп рэ́заць ужо́. А на што ш мне гэ́та? Я была́ ве́льмі мя́ккая, і яна́ ві́дзела. Я то пані́мала, но я ні магла́ сказа́ць. Ён жа прышо́ў, мая́ ты То́мачка, расьпі́свацца пае́дзем, а ён жа ні сказа́ў, што гро́шай німа́. А ён жа рабі́ў, усе́ гро́шы адава́ў. Ён рабі́ў, а ў сестры́ былі́ ўсе гро́шы. І яна́ ні дала́ яму́ капе́йкі. Прышо́ў ён і ні сказа́ў: «Е́дзем». І Ма́ня мне ні дала́. Там жа трэ́ба было́, касну́лася, і я пашла́ пазыча́ць. У Ма́ні ўсе былі́ гро́шы. Я насі́ла во́тку, я прадава́ла. То́мачка, как прыне́сла, зра́зу ёй у ру́кі. Я паку́ль за́муш ні пашла́, я ні ўме́ла дзе́нех шчыта́ць. Дзяўча́та, ідзём мы ў Ба́кшты, дасьць яна́ там мне ско́лька. Прыхо́дзім, яна́ ле́зе ў мой по́ртфель і правяра́е. А тады́ ш ужэ́, як адышла́ я, што яна́ мне вы́дзеліла – нічаво́. Мы ўсё нажыва́лі: як плух, як бара́ну – всё, всё, всё, і сячка́рню, і а́рфі – ну всё. У іх то там, як я бы́ла, усё было́. Пашла́ ў чужу́ю ха́ту і во як ражыла́ся. Ні забу́ду вот сваю́ сястру́ цяпе́р, што яна́ дзевяно́сты гот, яна́ ні была́ гэ́такая. Яна́ до́брая была́, памяркоу́на, было́ – падзе́ліца. Нам тру́дна было́, яна́ ўсе свае́ суке́нкі нам паддава́ла, да́жа яго́ штаны́ адала́ на спадні́цы, дзяўча́тамі былі́, я ж гэ́та по́мню. Ста́ршая сестра́ жыве́. По́мню: пае́хала ў Ба́кшты, і яна́ ў Ба́кштах. І спра́шывае: «У цябе́ мо́жа гро́шай німа́?» А я дзяржу́ся, кап ні запла́кацьь. А ў мяне́ ш капе́йкі німа́. Яна́ тады́ на тые́ гро́шы два́цаць пяць капе́ек мне дала́ ў Ба́кштах. Дак я ж гэ́та по́мню, я по́мню. І навяшча́ю яе́, і ка́жды рас, ско́лька я жыву́, я і брушні́цы зьбіра́ю, я по́мню.

***

Нек мне на́та было́ ў жы́зьні нішча́сьцяў. У мале́нстві руку́ злама́ла, тады́ га́дзіна ўкусі́ла. Дзе́ці гуля́лі, і папіхну́ў мяне́ – і ўсё. Я шчэ ў шко́лу ні хадзі́ла, мала́я. Брат быў ніжана́ты, быў на сва́дзьбі, сказа́лі, ён кі́нуў сва́дзьбу, са сва́дзьбы прые́хаў і паве́зьлі мяне́ ў Ба́кшты. А га́дзіна мяне́ ў ле́се ўкусі́ла. Бо́сые ш мы пашлі́. Ні пуска́лі ш, не́калі ў Бо́га ве́рылі, гэ́та нядзе́лей было́. Пака́ імша́ ні ко́нчыцца, штоб ні ішлі́ ў лес! А дзе ш мы? Сабра́ліся дзетвара́, пашлі́ за мост у земляні́ку. І ўкусі́ла мяне́ га́дзіна, то пчала́ ўку́сіць – то бо́льна, но га́дзіна – ні пачу́ла я. То́лька яна́ мне вы́лезла во гэ́так во – і я ўві́дзела. Ой, кажу́, му́сі мяне́ га́дзіна ўкусі́ла. Мы з е́тага ле́су хо́ду. Каб яе́ забі́лі, дак ле́хчэ было́ б. А то ні забі́лі, уцяклі́. Вы́лецелі на даро́гу і там бо́льшая была́ дзяўчы́на, дак яна́ кажэ́ на мяне́: «Выціска́й э́ту кроў». Я выціска́ла кроў і пла́кала. Я разма́зала і, па-ві́дзімаму, мо́жа, папа́ла і ў рот, як пла́кала. Ідзём, а не́калі нядзе́лькай ніхто́ ні рабі́ў, мушчы́ны на мо́сьці. Дзе́ці ка́жуць: «А́ньцю га́дзіна ўкусі́ла». А мушчы́ны: «Ой, каб га́дзіна ўкусі́ла, ана́ б з ле́су ні прышла́». Я прышла́. Але́ ўжэ да ве́чара, нагу́ перавязза́лі тут, перавяза́лі, пухлі́на, паляце́лі замаўля́ць – нічаво́. Да ве́чара мяне́ с па́мяці зьбі́ла. Была́ ўся, як кало́да, і чо́рна, як га́дзіна. Тры нядзе́лі, а гэ́такая жара́ была́ во, дак выно́сілі мяне́. Вы́нясуць, ляжу́ тры нядзе́лі. По́тым ста́ла ла́зіць ра́кам, як дзіця́ мало́е ла́зіла гэ́так. Тады́ ўжо паднялась нек, ужо́ ста́ла с па́лкай хадзі́ць, нагу́ патцягну́ўшы. По́тым прышлі́ не́мцы, у нас афіцэ́р быў у ха́це, дык ён прышо́ў, павёў перагаво́ршчыка і спра́шывае: «Ці радзі́лася кале́ка?» Сказа́лі, што га́дзіна ўкусі́ла. Ён хаце́ў да ня́мецкага врача́. Тут шко́ла была́, не́мцы ў шко́ле. Так я зьляце́ла ў жы́та, цэ́лы дзень прасе́дзяла. І вот усе́ не́кіе былі́ прычы́ны. А Стась як памёр, усядно́ ён панёс за сабо́ю ўсё.

***

Тады́ ўжо зь ім пажані́ліся. Дак упра́ўная ш была́, як ша́тан. Е́ду з Бакшт і машы́на разгрузі́лася, се́на скі́нулася. Прые́хала, Ста́ся нет, німа́ до́ма. Я бяру́ яе́ (дачку), ні зна́ю ско́лька ёй было́, на вос і сама́, і пае́ду па е́тэ се́на. Пае́хала, накла́ла е́тэ се́на, варо́чаліся, яна́ мала́я была́. Я прыве́зла е́тэ се́на, То́ма, я вся мо́края была́, вся. І тады́ зі́ма, я разьдзе́лася, укла́дваюся я ў адны́ э́ты швэ́дзі і, па-ві́дзіму, мяне́ праскванзі́ла, і сярэ́дзіна как схваці́ла! Як схваці́ў радзікулі́т – о-о-о. Усю́ зі́му пралежа́ла. Прышла́ вясна́, пашла́ карто́флю перабіра́ць. Ужэ́ ні ко́шыкаў ні высыпа́ла, нічаво́. У́трам каля пе́чы как сагну́ла і ні адагну́лася. Ён мяне́ ў І́ўе павёс. Там ужо́: «Што ты

прывёс, яна́ інвалі́т, яна́ інвалі́т, а ты прывёс». І мяне́ ўжо ў ту́ю ва́ну і нічаво́. Я вот так су́ткі, во так во ко́йка, то я на ко́йку ні ле́гла, я во так упе́нчыўшы, во так во. А тады́ ўжэ, пра́ўды, на кале́нях прасто́яла, ужэ́ ста́лі мне ўко́лы ў ве́ну дава́ць, і тады́ блака́ду рабі́лі два ра́зы, па стака́ну ўпушча́лі сюды́. І прабыла́ я ме́сяц і тры дні́ ў бальні́цы с е́тым радзікулі́там. Ён жа тут адзі́н: і каро́ўкі, і сьві́ня, і ўсё, усё. А пато́м інсу́льт случы́ўся, усю́ зі́му прабыла́ ў Мінску, прые́хала аж у канцы́ ма́я. І садзі́лі, і хазя́йства: дзьве каро́вы, цялё гадава́ў, сьвінама́тка парася́та апарасі́ла. Дык усе́ дзіві́ліся. Ксёндз прые́хаў, дык дзіві́ліся, как у яго́ ха́це пара́дачак: і прыбяро́, і хазя́йства, і ўсё рабі́ў, усё. Ну, То́ма, то ты паду́май, э́та наказа́не бо́жае не́кае было́. У нас то ка́жуць: «Е́сьлі кроў праллі́лася, нільзя́ садзі́цца ў ха́ту е́ту». Тады́ ж яны́ пабі́ліся.

***

Пашла́ каро́ву даі́ць, каро́ва спако́йна така́, ніко́лі ні бі́лася, нічо́. Я нагну́лася, каро́ва мне хвасто́м па о́ку і расьсе́кла. Расьсе́кла мне глаз. А́ле прышла́ і кажу́ на яго́: «Ой, ну й се́ня мне каро́ва так (але́ рас махну́ла і бо́лей не) дала́ па во́ку, што ой-я-ёй». Пашла́, цэ́лы дзень на по́лі дра́псамі карто́флю драпкава́ла і нічо́. Тады́ павялі́ каро́ву да быка́, гэ́так во со́нца, со́нца захо́дзіць, мы каро́ву вядзём за двана́цаць кіло́матраў. Свадзі́лі э́ту каро́ву, ідзём наза́т, на кані́ гэ́та ўжо вядзём, я кажу́: «Ой, Стась, как мне во́ка забале́ла». Я плато́к сь сябе́, завяза́ла э́тэ во́ка, ну і е́дзем. Прые́халі дадо́му: і-і-і, ой мне во́ка, мне во́ка. Ішчэ́, ты зна́еш што, То́мачка, ды я ду́мала, што запарушы́ла, я э́ту во була́ўку, шпі́льку, і так падыму́ і гарта́ю э́тай шпі́лькай. А́ле до́брэ, тут прышо́ў мой аднакла́сьнік. Далякава́та ат нас жыве́, а́ле про́ста захаце́ў палядзе́ць, як мы. Ну ён, то не́калі шчэ каза́лі: «Шмы́рка за А́ньцяю лята́е». То ён малы́ такі́. Ну мы сядзі́м, ён ка́жа: «Ой, ты ні шуці́, ты едзь к врачу́». Дай Бог яму́ ту́така, што ён нада́рыўся. І Ва́нька ка́жэ: «Цёця, вы запарушы́лі, е́цьце ў Лі́ду, мне гэ́так было́». Ну я з Ва́нькам у Лі́ду. А тут вые́халі на тра́су, і е́дзе А́нін аднакла́сьнік у Мінск. Я зь ім у Мінск. Наза́ўтра ў бальні́цу кладу́ць. Тут ка́жуць: «Всё, е́сьлі б шчэ пабыла́ до́ма, без гла́за і друго́га б была́». Тры нядзе́лі, То́ма. Ды сянава́не, пачына́лі сянава́ць. І гаро́т, і каро́вы – всё на сьве́це ў таку́ю жару́. Ён адзі́н то́жэ Стась. І скасі́ў, і сянава́ў, і хазя́йство гэ́тэ. Я тры нядзе́лі з во́кам. Ды адну́ мяне́ ў пала́це палажы́лі, адну́ ні кла́лі, не́шта ш прызна́лі, я́зва ўжэ не́кая, што расьсе́кла, пашло́ заражэ́не. А тады́ ж ужэ́, як яны́ зрабі́лі з э́тым во́кам, што яны́ там ачы́сьцілі ці што? Як рабі́лі, я ні чу́ла, а пато́м, як выхо́дзіла замаро́ска, То́ма, ка́жацца на сьцяну́ ле́зла – э́дакая боль. І абазбо́льваюшчыя – сяраўно́, сяраўно́. І тры нядзе́лі правяла́ я ў э́тым Мі́нску. Прые́хала, і гаро́т мой э́ты заро́шшы. А ён бе́дны, от ён цярплі́вы! А так атпра́ўляе і ка́жды рас і пацалу́е.

***

То́ма, То́ма, я, е́сьлі б му́жык піў, я б ёй сказа́ла: «Са́ма, кап ні піў во́ткі». А я да́жэ і ні задумо́ўвалася. Вядо́ма, як Стась век ні піў: ці я пае́ду куды́, ці я што, ён стаі́ць на двара́. Ён дзелава́ць то ні любі́ў, гэ́та маё. Ён ужэ́ стаі́ць на двара́, ужэ́ чака́е, чака́е. Запражэ́ каня́ і ле́йцы пада́сьць, і атпра́віць. Ну я больш така́я была́: дзе дабі́цца, дзе што. Я ж у Мінску́ тады́ ляжа́ла і з во́кам, я ш ні паду́мала, што ў мяне́ хазя́йства ні дагле́джана. Усё было́ дагле́джана. Ні нап’е́цца, каб э́та напі́ўся там. Ой не, как часы́, как часы́. Ён скаці́нку ве́льмі любі́ў, ён з мале́нства пры скаці́не. Глаўно́, каб ні піў. А с Ста́сём было́: вот налье́ ча́рку, вот сядзі́м дзе і на балі́. Налілі́ ўсім, ён дзяржы́ць, дзяржы́ць, а тады́ ціхо́нька і паста́віць. Усе́ вып’юць, а ён сваю́ і паста́віць, ве́льмі ён ні мох піць. Рас прые́хаў участко́вы да нас, мы карто́флю капа́лі. Ну, прые́хаў, а мы ш во́тку го́нім. Я прышла́, наліла́ літр во́ткі і заку́ску паста́віла, і ду́маю: хва́ціць вам. Ва́ня падышо́ў, яны́ ўтрох. А капі́стра с во́ткай стая́ў за пе́чай. Кажу́: «Стась, глядзі́, участко́вы гэ́та!». І капа́ю карто́флю, і капа́ю. І німа́, і німа́. А э́ты ўчастко́вы, как бык, што яму́, ён піў, ён нічо́. Ён як увідзе́ў, што я іду́ с по́ля, ён на ро́вэр сеў і пае́хаў. А Стась вы́шаў – о-о-о п’янюсяньکі. Ні йдзі, ні йдзі, кажу́,

на по́ле, ляжы́ ў ха́це. Не, ён прышо́ў такі́ на по́ле і лёх на по́лі. І карто́фля ні прыве́зена, ніч́ога. Ну што ж, я яму́ ра́ды ні дам. Паляжа́ў, цёпленька было́, тады́ ачу́дзіўся. Тады́ пазьне́й участко́вы прыяжджа́е, а я: «Сьцяпа́навіч, і-і-і, как, кажу́, Ста́сю пло́ха было́, как яго́ ташні́ла!». Прыхо́джу с по́ля, карні́ста [каністра] стаі́ць каля́ стала́, ужо́ прынёс і карні́сту, дабаўля́лі ўсе. А ён: «Анто́наўна, няха́й яго́ перабо́рае во́тка і ні бу́дзе ташні́ць». Аргані́зм ні прыні́ма́е, Ста́ся ад во́ткі трэ́сла, трэ́сла, ён ні любі́цель. Мы як і пажані́ліся, То́ма, садзі́мся е́сьці, нядзе́ля, мы па крыху́ вы́п’ем. Я бы́ло с по́ля прылячу́, з ры́ла пацяну́, а цяпе́р – не. Стая́ла ў нас заўсягда́ во́тка на стале́. Ён калі́ перат ядо́й захо́ча, сто́пку вы́п’е.

***

Рабі́лі, ой крэ́пка рабі́лі. Стась ка́жа: «Ідзём зрэ́жам яшчэ́ дзьве хво́йкі на Во́ву». А ён: «Хва́ціць, хва́ціць!». Ну і пае́хаў. Пашлі́ мы ўдваі́х, пашлі́ і зрэ́залі, і Стась адзі́н ту́така ўжэ ў калхо́зным ле́се грузі́ў, о-я-ё. Ён быў нау́чаны з мале́нства, е́зьдзіў зь людзьмі́. Ён што ка́жа: «У ле́се на́да хі́трасьцямі, на́да ні сі́ла, а хі́трасьцямі». Вот пае́дзем па дро́ва. І ў ле́сі хво́йку ён абышо́ў і ён зна́е, куды́ яна́ по́йдзе, куды́ яе́ валі́ць. А раз на мяне́, каб ён мяне́ ні схваці́ў за каўне́р – забі́ла б, мяне́ б забі́ла б. Рэ́залі е́лку, така́я е́лка, то, му́сіць, на до́скі, і яна́ ста́ла валі́цца на мяне́, а я стаю́, як разе́ва. А ён усьпе́ў, усьпе́ў, аткі́нуў мяне́.

***

Ужо́ Ста́ся ні было́. Прые́хаў ён сь Ві́цям. А я: «Ну ідзе́це, Ва́ня ко́сіць, памажэ́це яму́ касі́ць во тут во». Малако́ аны́ дава́лі, но я ад нача́ла да канца́ сенава́ла. Я палячу́, разаб’ю́ ім се́на, што яны́ і ні ві́дзяць. А то о зь ёю: сваё разьбі́лі ўдзьвёх, ста́лі і ім ужэ́ разьбі́лі е́тэ се́на. У нас нікагда́ ў запа́се се́на ні было́. Мы зна́ем ско́лька на́да – всё. А яны́ сяну́юць, стагі́ ве́рнуць, у гэ́тые гу́мна пазаваро́чваюць, тады́ яго́ варо́чаюць з гу́мнаў. Ну э́та се́на так, як і са́ла staróе. Во ўжэ патна́цаць гадо́ў, як яго́ стагі́, згніў, ужэ́ трава́ на ём расьце́. Я прышла́ ўжэ пасьле́дні рас памага́ць се́на грабаць, ну ні магу́, дзе ш я бу́ду сядзе́ць, яны́ сяну́юць. Кажу́: «Бо́жа мой, ско́лька вам на́да се́на?» Дак яна́: «Ні йдзі, ні памага́й, я до́ляры мо́жа бу́ду браць за э́тэ се́на». Ужэ́ ні вы́трываць! Ну пашо́ў Ві́ця з Вало́дзем. Ідзе́це ш ужэ́ памажэ́це пакасі́ць. Сьмех! То́ма, ні магу́ вы́трываць. Ужэ́ пакасі́ўся тро́ха, а вядо́ма ўжэ то́жа жы́рны! А спа́рыў, ідзе́ во так во, раскера́чыўшыся. Ско́лька ён там накасі́ў? Лёх на дзіва́н, но́гі раскі́даў, сьмех, ні вы́трываць, ні магу́. Кажу́: «Падымі́ся і крахма́л бяры́, крахма́лам засыпа́й».

***

Я ш касі́ла. Паку́ль я за́муш ні пашла́, я з Ва́нем. Ду́ра была́, во алёша дурны́. Ма́ня з ма́май до́ма, а я зь ім іду́ касі́ць прако́с у прако́с. І ўсё ле́та кашу́ зь ім. І Ма́ня кап сказа́ла: «Хай ён мушчы́на ко́сіць, чаго́ ты?». А ўжэ пашла́ за Ста́ся, кап ты сказа́ла, То́мачка, даў касо́й залажы́ць. Прынясу́ е́сьці на санажа́ць, я ш касі́ла, вазьму́ касу́, пады́мецца і вы́рве. Дай, кажу́, я хоць прако́с, хоць прако́с прайду́. Ні даў, нікагда́ ні даў.

***

Я была́ ме́ньша са́ма, была́ Ма́ня і Стэ́фця. А Стась як прышо́ў з вайны́, дык ён усё прыхо́дзіў да нас. Пры́дзе і сядзі́ць. Рас пашлі́ мы касі́ць, асянчу́к касі́ць па лёдзе, лёд вы́беліўшыся, і ко́сім э́ту траву́. А ён на канька́х прые́хаў, малады́. Стэ́фця ста́рша была́, дзе́ўка, а я яшчэ́ ме́ньша. Ён адабра́ў ад мяне́ рукаві́цу, адабра́ў і ні адае́, дра́жніца са мной. Тады́ ве́чарам пры́дзе, Ма́ня, Стэ́фця, а я яшчэ́ ні ўча́ствавала, я залезу на печ і ляжу́. Дак яны́ ўжэ, як по́йдзе, і ка́жуць: «Вот каб зна́лі да като́рай, ды хай бы сядзе́ла. А так, ка́жуць, чаго́ мы». Дык ён пра́ма ка́жды ве́чар. У іх была́ на́та мале́нечка там ха́тачка і ў нас ні ве́лькая была́. А ў іх вабшчэ́ мале́нькая была́

ха́тачка там. У вайну́ ён с сястро́ю і тут шчэ адны́ траі́х, і нас чацьвяры́х, і ў гэ́тай малю́сенькай ха́цы ўсе памяшча́ліся, усі́м ме́ста хвата́ла. А там у куто́чку так усе́ было́ зло́жана ў іх і грэ́чка ці што, а я зале́зу на гэ́ту грэ́чку, а ён на чарда́к, ён на чардаку́ спаў.

***

Рабо́чыя дзіві́ліся: паку́ль яны́ сьпяць, Стась пае́дзе дадня́ і падвязе́ лес э́тым рабо́чым, гэ́тые плашчакі́, адзі́н. Яны́ пры́дуць – ужэ́ лес э́ты. А по́тым тут дваю́радная яго́ сястра́, ну памёр яе́ мужы́к, яна́ астала́ся зь дзе́цьмі, а ха́тачка малю́сенькая. Тут ха́тачка, тут і каро́ва стаі́ць. Вот аткрыва́юць дзьве́ры і зра́зу каро́ва стаі́ць. Ну яна́ ж ужэ́ вы́купіла гэ́тага ле́су. Друго́е то ні хаце́ў ісьці́ хрысьці́ць. А́ле прышла́ і е́ньчыцца. Я кажу́: «Ай, Стась, перахрысьці́». Ён пе́ршае хрысьці́ў, а друго́е ён ужэ́ ні хаце́ў. Яна́ така́я была́ га́ткая. Прышла́, ён атка́зваецца: «Ні пае́ду, ні пае́ду друго́га хрысьці́ць». Я кажу́: «Стась, Стась, ай, кажу́, пае́ць перахрысьці́, пае́дзь, да ве́ры трэ́ба даве́сьці». Тады́ яна́ прыхо́дзіць і про́сіць: «Стась, вы́вязі дзе́рава на ха́ту». Вы́вяз усё дзе́рава ёй на ха́ту. Яна́ во зруп тут пастро́іла, але́ акра́з ста́лі нас ужэ́ ле́сам апса́джваць, і яна́ за э́ты зруп і перавезла ў Івяне́ц тады́, ве́льмі разу́мна зрабі́ла. Стась і накрыва́ць ёй памага́ў і ўсё гэ́та дзе́рава вы́цягнуў. Што ты, на э́ты хлеў, кап хто яму́ пале́нца памо́х, адзі́н, адзі́н! Ой, То́ма, ні магу́!

Патпалі́лі ў іх хлявы́. То́ма, мі́лая мая́, как я перажыла́, э́та я ні зна́ю. У мяне́ цяпе́р нерв да таго́ беспако́іць, што вот цёмненька, я паднялáся і пашла́. Паднялáся, нахма́рыўшы, я ўжэ і ні засну́ла. Бо ду́маю, ні дай Бох дошч, пільну́ю, кап кавёр на дварэ́ ні намо́к [памылі], патсо́хшы до́брэ.

***

Стась з Ва́нем пашлі́ на сенако́с, а я там шчэ, у нас то́лька ку́хня была́, шчэ дзяце́й ні было́, шчэ я ні была́ А́няй бярэ́мена. Не́калі, То́мачка, як пашоў за́муш, то ат пе́ршай но́чы галава́ і во́чы. Я зра́зу і заберэ́менела. І-і-і, а ў чужо́й ха́ці, а ха́та свая́ ніўпраўля́ная. Э́та трэ́ба ду́маць да ба́пкі ісьці́ або́рт рабі́ць. Паве́зьлі се́на с э́тай, яна́ была́ фе́льчарам, ну прые́халі і я прашу́ яе́, яна́ ш врачо́м. Яна́ кажэ́: «Е́сьлі п ты дзе́ўкай была́, я б зьдзе́лала. Ну што ты ро́біш? Ты ж мо́жэш бізь дзяце́й аста́цца! Э́та о́чань апа́сна!». І я ста́ўлю тут каня́, Ва́ня аста́ўся вячэ́раць, а я папе́рла да ба́пкі, като́рая рабі́ла. І-і-і, То́ма! Дык аднэ́й жэ зрабі́ла і загну́лася, і паме́рла гэ́тая дзе́ўка, ды краса́віца была́ така́я. І то́жэ за́муж вышла і наду́малася зрабі́ць або́рт. Яна́ ш там не́кую рызі́нку заклада́ла. Я там мо́жэ паўчаса́ ў яе́, ні бо́льш, і пашла́. Прые́халі дадо́му на капі́, а пато́м как мяне́ ўзя́лі бо́лі, кровацячэ́не пашло́. Ну шчэ суджано́ было́. На што было́? Не́йка ж ра́да была́. А тады́ ўжэ і ні бярэ́меняю, ужэ́ і пла́чу.

***

Ну, зна́еш што, там ніўпра́уляна, гэ́ты кане́ц ха́ты ніўпра́уляны. І Ста́ся ні́ма. Шчэ да́жэ і дзьве́ры былі́ ні ўстро́еные на запо́р. Дык я закла́ла ві́лкі, кля́мку палаце́нцам завяза́ла, а ўсну́ць ні магу́. Вот мяне́ не́шта грызе́, я і паба́йвалася. Тады́ чу́ю: і-і-і. Ой, як я то́лька ў акно́ гля́нула, ві́джу пажа́р, а там на́ша каро́ва, сьві́ня на́шы там стая́лі. Шчэ ў нас хлява́ ні было́. Хлеў ужэ нача́ты быў рабі́ць. І-і-і, я ні магу́ ні адзе́цца, ні магу́ ні дзьвярэ́й адвяза́ць э́тых. Я туды́ паляце́ла, я нічэво́ ні по́мніла. А́ле Ма́ня ні расьціра́лася. Яна то́лька з ма́май, дык яны́ ўдзьвёх, то яна́ была́ забярэ́менеўшы, то э́та шчэ і дзя́куй Бо́гу. Ґа́нак у іх такі́ высо́кі, яна́ як ско́чыла з ґа́нку, ляці́ць. Ужо́ гара́ць хлявы́. І яна́ ні расьціра́лася, вы́кінула гно́ю. Зра́зу гно́ю вы́кінула за паро́х, то мая́ каро́ва пераско́чыла праз за́гаратку, конь то́жа. О, як аччыні́ла, дык зра́зу конь і каро́ва. А мае́ сьві́ня гарэ́лі ўжо. Ма́ма пале́зла, то́жэ была́ і ма́ма атва́жна, ужо́ ху́стка на ма́ме загарэ́лася, аго́нь валі́ўся, і яна́ пале́зла сьві́ня е́тые спаса́ць, то паабга́рвалі сьві́ня, абгарэ́ўшы былі́ ўсе. Ой, То́ма, дарага́я, усё насенава́ўшы былі́, усё се́нца да па́сма згарэ́ла. Адны́ то́лька калёсы тут о се́на стаі́ць –

всё. І во́кна на́шы там былі́ паро́бляны ў э́ту ха́ту, пагарэ́лі, і до́скі там, ну э́та бра́тняя была́ ха́та, ён нам пусьці́ў. Тро́ха то ён быў вінава́т, ён вінава́т, Ва́ня быў. Я каза́ла: «Пастрада́ла мно́га праз вас, ні мяне́ палі́лі, вас палі́лі». А ці на́да было́ так дзе́лаць? Быў сто́ражам на сенако́сі[е], а тут на фу́тары жылі́ яны́ шчэ ні старые́, дзе́ці ў іх былі́ ні за́мужам. І ён там пры краі́ навяза́ў кабы́лу на сенако́сі[е]. Ну дзе чалаве́к навя́жэ? У хво́йніку? Ну што той калхо́з прые́дзе, глядзе́ць бу́дзе? Ва́ня пашо́ў гэ́ту кабы́лу адвяза́ў, прывёў і навяза́ў ім каля́ до́му, прывяза́ў да пло́ту. Ён табе́ падабра́ў маме́нт, а по́тым і сам прызна́ўся: «Накармі́ў, ка́жэ, цябе́, але́ ма́ла». Ну э́та ні на́да было́ э́так. Я Ста́ся дзяржа́ла, я дзяржа́ла. Калхо́з, кажу́, пераб’е́цца. Ён была тро́ха не́рвнічаў, як прые́дуць се́на траляваць, на машы́ны грузяць і но́чы вязу́ць прадаю́ць. Кажу: «Твае ні дзе́ла. Стагі́, кажу́, ты здаў, здаў і всё. А там, што хо́чуць, хай ро́бяць». А Ва́ня службі́ст быў, службі́ст.

Ён загна́ў кабы́лу дадо́му, знаў, што мушчы́наў німа́ ў ха́ці(е), прышо́ў і патпалі́ў. І я то́лька вот прыляце́ла, і ён жа зра́зу. Калёса стая́ць се́на по́ўныя ў іх, ніразгру́жана, і зага́рваецца гэ́та се́на. І мы ві́дзім, што загары́цца гэ́та адры́нка і́хная. Мы: «Памажы́ нам атсу́нуць!». Дык ён: «Су́ньце, варо́ны!» Мы патсу́нулі э́ты вос сь се́нам. Тады́ прыляце́ў Стась. Ён за тры кіло́матры быў і пачу́ў мой го́лас, ён ду́маў, што на́шу ха́ту запалі́лі. То́лька сказа́ў: «Ва́ня, пажа́р у Слабадзе́». А іх ха́та то́жэ вот, вот магла́ загарэ́цца. То, мая́ ты То́мачка, дык ты паду́май, во гэ́та во ха́та і́хная, і Ва́ня хадзі́ў без нічо́га па страсе́. Падава́лі ваду́ і ён ліў. Ка́жацца, як э́та ён мох хадзі́ць?

***

А́ня то́жэ мала́я была́: ці яна́ хадзі́ла ў шко́лу, ці шчэ мо́жа не. Мы распусьці́лі тут во се́на і пашлі́ за рэ́чку зь ім. І хма́ра нахо́дзіць. Ну куды́ дзіця́ці што гавары́ць? Ні было́ ш каму́ гавары́ць. А сабража́ла, сабража́ла. І мы ві́дзім, што хма́ра нахо́дзіць, і ўжо мы сянно́ сюды́ ні даляці́м. Там убра́лі, ідзём і гаво́рым: «Замо́кла на́ша се́на». Ідзём дажджо́м, змо́клі. Прыхо́дзім дадо́му, се́на на́ша згрэ́блена. Дык яна́ ўжэ мала́я, як яна́ там грэ́бла, а е́хаў віцінар і ўві́дзяў, што гэ́та яна́, і памо́х грэ́бці. Э́та ш сабража́ла, мы ёй ні гавары́лі. То́жэ тру́жаніца ма́лая была́ і цяпе́рака.

Дай жэ ж, Бо́жанька, каб А́ня гэ́такіх уну́каў дачака́ла, як я, то́лька малю́. Хай Бог дае́ць сі́лы і здаро́ўе. Ой, То́мачка, як адна́, я так малю́ся і дзя́кую Бо́гу, што Бох даў мне і дзе́ткам здаро́ўе, што я па бальні́цах ні была́ ні ра́зачку! Раз у Ві́ці цімперату́ра паднялася́, паме́ралі – цімперату́ра. Ну ўжэ наза́ўтрэ ў бальні́цу трэ́ба зь дзі́цем е́хаць. Наза́ўтрэ ўсё нарма́льна. І такіе абое спако́йныя! То́ма, я ні адно́й но́чкі ні змарнава́ла. А яе́ радзі́ла, ой, То́ма, ні гавары́, са́мэ сенава́ня. Два́цаць васьмо́е іюня, я ў бальні́цы, дзе́вяць дней жэ тады́, і-і-і. А дошч ідзе́, ду́маю: дзя́куй Бо́гу, што ніхто́ ні сяну́е. Прые́хала дадо́му, і сянава́ня. Яе́ пакупа́ю, ту́така во тубарэ́тачкі, як пра́нік э́та спаві́валі, палажу́, а сама́ за рэ́чку се́на разьбіва́ць. Разьбіва́ю і ду́маю: Бо́жэ мой, я адышла́ся, а яно́ мо́жа там дзе пла́чэ? Во як гадава́лі! А тады́ ўжо калы́ску не́кую здабылі́, тады́ ўжо насі́лі. Ра́ніцай нясём с калы́скай да ма́мы, і ўжо та́мака ма́ма глядзі́ць. Дзе ш то́е малако́ ў мяне́ бу́дзе? Цэ́лымі днямі́ на санажа́ці. А́ня крэ́пкая была́. Сянава́ць памага́ла. Ві́ця наш ме́ньшы. А яна́ за яго́ так трэ́слася! А ўсё ж вы́палніць. Было́ карто́шкі э́тай мно́га, то э́та яе́ была́ абя́занасьцю: мешачо́к спусьці́ць, як яна́ там ужэ́ магла́, карто́шкі наапціра́ць. Пашлі́ зь Ві́цям у склеп апціра́ць э́ту карто́шку, і там не́шта ж яны́, а была́ га́дзіна яго́ ўкусі́ўшы. Яна́ яму́ наго́й та́мака, ён э́ту нагу́ вы́цяў, стаў пла́каць. Дык ка́жэ: «Так мне ста́ла яго́ шко́да!». А Ві́ця наш то не. Ві́ця ні рвач такі́. І всё пра́вільна. До́брэ, калі́ дзе́ці гэ́та бу́дуць цані́ць. А мо́жа забу́дуць? Вот абі́дна бу́дзе!

***

Жа́лка мне Ва́нькі, Ва́нька до́бры, до́бры ён такі́ і всё. Адзі́н па́ша на ўсіх. А ім э́та на ру́ку. Зье́хаў, а яны́ сто пі́дзісят лі́траў за ме́сяц, паку́ль ён прые́хаў з рэ́йса, яны́ вы́палілі. Ну дак, каб вы за свае́ дзе́ньгі – пажа́луста! А́ле ж ён па́ша, а вы? Купі́ў жэ дачцэ́ машы́ну. Цяпе́р ґаня́е яна́ там е́ту машы́ну.

***

Яна́ пашла́ за́муш за правасла́ўнага, а мы каталі́кі. Вот былі́ на́шы Каля́ды, куцья́, Віґі́лія. А во́сень, Каля́ды, це́мра. І я то пае́ду на кані́. А ў нас така́я была́ ўно́сьлівая кабы́ла. Пае́хала я, а галялёд даў, галялёд, рэ́чка была́ там замёршы. Пае́дзем бра́ціху прыве́зьці зь дзе́цьмі зь е́тымі блізьня́тамі. Ужэ́ мы тут спраўля́ем куцю́, бо бра́ціха то́жэ, ужэ́ там бацькі́ правасла́ўные былі́. Ну я пае́хала, паста́віла, там рэ́чка заме́ршы, на кані́ ні пае́дзеш нікуда́. Ста́ўлю. І мне кіло́матры пад два ісьці́ на́да было́. Каня́ паста́віла там на фу́тары і сама́ пашла́. А лёт, замёршы рэ́чка, блішчы́ць чо́рны э́ты лёт. Іду́ я праз э́ту рэ́чку. Прыхо́джу, яе́ сястры́ нет до́ма, яны́ во́тку го́няць. Ба́цька ка́жэ: «Яны́ ў ле́сі». Я сяджу́, а дзень малы́. То́мачка, дзень малы́, чака́ю іх. Яны́ прыхо́дзяць. Ка́жэ: «Я памагу́ табе́ дзіця́ ўжэ э́тэ не́сьці, і мы за́ўтрэ пры́дзем». Яна́ мне чэ́раз рэ́чкі е́тые памагла́ е́тае дзіця́ перане́сьці, я э́тэ дзіця́ на руку́ і прыхо́джу, а кабы́ла е́та зьме́рзла. Я прыхо́джу да во́за, э́тэ дзіця́ ўкру́чанэ – зіма́. У нас у во́зе заста́ўка, саджу́ э́тэ дзіця́, укру́чваю ў кажу́х. Э́тэ дзіця́ ўкруці́ла, а сама́ саджу́ся сьпе́раду, но́гі во так во ста́ўлю ў э́тые ру́чкі, ле́йцы ўжо бяру́, і-і-і, как пане́сла мяне́ кабы́ла, трах – лейчына́ парва́лася. А це́мра, це́мра, праце́мра! Адна́ ў ле́сі! Я адно́й лейчыно́й скірава́ла яе́ ў лес, яна́ прыастанаві́лася. Ду́маю: я зьле́зу, лейчыну́ ш трэ́ба як-та, шчэ пае́ду. Я то́лька зьле́зла, дзі́ця э́тэ на во́зе, я зьле́зла і да галавы́ ма́цаць ужэ́, дзе лейчына́ гэ́та. А яна́ как дала́, дак я шчэ за вос уляпі́лася. Дзе ш я, ні падняла́ся на вос, я патцяну́лася, пазьбіва́ла кале́ні, парва́ла ўсё. Гэ́та пе́рла кабы́ла, я адарва́лася і ні чу́ю ні ля́скату, нічо́га. Ду́маю: всё, всё, не́йдзе пераве́рне э́тэ дзіця́, заб’е́ дзіця́, і-і-і. Ой, лямянту́ю, лямянту́ю! А яна́ лейчына́ закруці́лася, і яна́ ў лес. А гэ́та дзіця́ ў во́зе сядзе́ла, і я ўжэ міна́ла, бо цёмна, ні ві́джу, ні ві́джу дзе на [яно]. Я даро́гай лячу́. А яна́ тады́: «Ма́ма!». Як я ста́ла міна́ць, ён аказа́ўся: «Ма́ма, ма́ма!». Дык я: «Ой, Анто́нічак, Анто́нічак, дзе ты?». Я скарэ́й за э́тэ дзіця́ з во́за, е́ты кажу́х разасла́ла, пасадзі́ла яго́ і дава́й сама́ ўжэ ж ду́маю, як мо́жа эту́ ле́йчыну – мо́жа што зраблю́ – нічаво́, лейчына́ ўкруці́лася ў ко́ла, ра́ды ні дам. Тады́ за э́тэ дзіця́ на руку́, це́мрай нясу́ дзіця́ на фу́тар. Прышла́ ў ха́ту, а там мушчы́ны. Я зна́ла, што там прамхо́зные мушчы́ны. Увайшла́, пла́чу, у ха́ту. А ён малы́, мале́нькі хо́дзіць па ха́ці: «Ту́ва, ту́ва, ту́ва». Каб ні пла́кала. А тут ужэ́ ждуць, ждуць – нет і нет. Што тако́е? Ждуць э́тай куці́ і мяне́ німа́. Зна́еш, яны́ нікагда́ ні паду́малі, што чака́ю ўжо іх, бу́дзем ра́зам е́хаць, мушчы́ны ш такі́. Тады́ яны́ запалі́лі фана́р, прышлі́ мы да э́тага во́за, яны́ ўжэ с фанаро́м разблу́талі і прывялі́. Мушчы́ны ні се́лі на вос, вялі́ за во́брыць яе́, вялі́, бо гэ́дакая была́. Мы то яе́ тады́ і збылі́. Наза́ўтрэ яны́ прышлі́, і раска́зваю такую сітува́цыю, што, как магла́! Зна́еш, сваё, а гэ́та ж сестрыно́! То́мачка, прывялі́ яны́ мяне́ ўжэ дадо́му, мушчы́ны, ужэ́ ту́така і яны́ ра́зам з на́мі вячэ́ралі. Прадста́ў: це́мра, па́льцам во́ка і галялёд! І даў галялёд, сьне́гу ні было́. Ішчэ́ каб сьнег, дак яно́ відне́е было́. А е́тэ сьне́гу ні было́.

***

Рас пае́хала ў Кляці́шчэ на кані́, е́ты конь на́та і ні пужлі́вы быў. Але́ стаі́ць тра́ктар, і ён стаў як пу́дзіцца. Гэ́ты сво́лач трактары́ст ві́дзіць, што конь пу́дзіцца, ён так засыґна́ліў шчэ, і-і-і, как даў гэ́ты мой конь, то хто стая́лі, то глядзе́лі: што бу́дзе? Я ў во́зі. І ні вы́скачыш, ужо́ ні ўсьпе́еш вы́скачыць, як конь е́ты нясе́. Мяне́ ско́лька рас насі́лі! То́жэ рас у Кляці́шча мы с Ста́сям удваі́х былі́. А тут с фу́тара про́сіць: «Загані́це яго́ каня́». Каб загна́лі, а ён пае́дзе к до́чке. Стась на сваём кані́, а я се́ла на і́хнага каня́. Как панёс э́ты мяне́ конь іх, дык Стась яго́ упяро́т, я то́лька скірава́ла, каб абміну́ць. І Ста́ся абміну́ла, і са мной мушчы́на сядзе́ў у во́зе, дык гэ́ты мушчы́на ні дура́к, ён бух у сьнех, а мяне́ ш і панёс! Пёр так мяне́ ў гуса́рніку. Каб гуса́рнік перавярну́ўся – всё, забі́ў бы мяне́, забі́ў! На гары́ вы́скачыў, я скірава́ла ў сьнех і ў плот.

***

Была́ ў яго́ бра́та сва́дзьба. І мы былі́ с Ста́сем на сва́дзьбі. Ён ві́дзеў, што людзе́й мно́га, а ме́сца ні хва́ціць. Ну мушчы́ны – чорт з ва́мі, а мы ба́бы ўсе пашлі́ і се́лі. Мы вы́пілі, тро́ха пае́лі, ды ідзём глядзе́ць, дзе на́шы мужыкі́ сядзя́ць. А ўжэ мужыко́м паста́вілі стол на дварэ́,

і там яны́ сядзя́ць. І сядзі́ць гэ́ты мой кавале́р бы́ўшы. А я як вы́шла, ён сядзі́ць гэ́так на краі́, і Стась сядзі́ць, усе́. Я ні ві́дзела, што э́та жо́нка яго́ сядзі́ць там на ла́ўке. Я гэ́так ру́ку закла́ла і кажу́: «Трэ́ба сесьць каля́ свайго́ любо́ўніка», – ці як я там. І е́так во се́ла. Ой, яна́ ш як падняла́ бу́чу! Стась прыхо́дзіць дадо́му: «Ой, ба́ба, нарабі́ла ты дзяло́ў!». Хай бе́сяцца, раз дурны́я! Ён кі́нуў сва́дзьбу і пашо́ў дамо́й.

***

Каро́ў па ле́се па́сьвілі. Стась тро́ху расьцярабі́ў і касі́ў. То пайду́, разаб'ю́ там се́на, тры кіло́матры, іду́ дадо́му каро́ву даі́ць, падаю́ каро́ву і апя́ць туды́.

***

Мы ўдзьвёх се́ялі лу́бін і ара́лі, жы́та се́ялі. Ма́ня больш ара́ла, я ара́ць так ні магла́. Яна́ касі́ць ні магла́ ніка́к, а я ара́ць ні магла́, я касі́ла. Больш яна́ за плу́гам. Нам заві́давалі, То́ма! У нас снапы́ кра́лі. Мы нажа́лі мэ́ндляў мно́га і пад дождж, а з-за лі́ўнасьці, по́ле было́ ме́жду ле́сам, і раскры́лі ўсе снапы́ пад дошч нам, мэ́ндлі ўсе параскрыва́лі. Прыхо́дзіць жанчы́на і ка́жэ: «Дзяўча́та, ва́шы ўсе мэ́ндлі раскры́ты». А дажджы́ іду́ць і іду́ць. І-і-і, як пашлі́ мы на по́ле, зрасьлі́ на́шы снапы́. Заві́давалі лю́дзі. На́ша ма́ці хазя́йка была́, яна́ кама́ндавала на́мі, мы слу́халі. А гэ́ты шкаф як заказа́лі. Заказа́лі тры́цаць кіло́матраў у Івянцэ́. І я пайду́, То́мачка, глядзе́ць, ці зро́бляны. Тры́цаць пяць да́жэ кіло́матраў. Іду́, іду́ і падлячу́, іду́ і падлячу́. Ле́сам, тры́цаць кіло́матраў ле́сам. Прышла́ я – шкаф ні гато́вы. Е́дуць ту́така палі́нікі, вязу́ць палі́ня. Я пасядзе́ла. Со́нца захо́дзіць, яны́ е́дуць і я зь і́мі наза́т. Наза́т, на ўсю ноч.

***

Я ме́ньша была́, яны́ ўдзьвёх ужэ́ старэ́йшые. І быў якра́з май ме́сяц. А нам адна́ была́ дзе́ньгі далжна́. Ну, мяне́ выпраўля́юць. Ды ні зна́ю я даро́гі, ды ніч́ога. Дзе ту́ю ба́бу найсьці́? Э́та за Лю́бча, Карэ́лічы, за Карэ́лічамі шчэ. Іду́ я, май ме́сяц. Каб цёпла было́! І тады́ пасьля́ вайны́ ні было́ нічо́ ні абу́ць, ні адзе́ць. Я то́лька ху́стку ўзяла́ і не́кіе штаны́, башмакі́ не́кіе, як ту́флі, узяла́. І шла я з мушчы́нам і яго́ до́чка, шлі мы туда́ ў Лю́бча, ужэ́ мы шлі ўтраі́х. А наза́ўтра, То́мачка, паначава́ла я там у знако́мых у тым Лю́бчы, как даў сьнех! Я іду́ бо́сая, сьнех ва́ліць, а я іду́ бо́сая. Лю́дзі: «Дзе́вачка, му́сіць табе́ жыць надае́ла?» Тады́ я заляце́ла ў ха́ту пагрэ́цца, ба́ба кро́сны ччэ. Ка́жэ: «Дзіця́тка, паначу́й, мо́жа, пераста́не». Нет, пагрэ́ла но́гі і ўперо́т. Паказа́лі мне ісьці́ праз лес, напраму́ю. Прышла́ і ду́маю: Бо́жачка, нічо́га ж ні хаце́ла, каб дадо́му, каб здэ́ццэ ў ха́ту, ды каб на печ, да пагрэ́цца. Прышла́ да тых людзе́й. То́ма, по́ўна ха́та, дзет ляжы́ць на пе́чы, німа́ мне дзе ні абагрэ́цца нічо́га. Э́та гро́шэй мне ні аддае́, ні аддала́ мне гро́шэй. Наза́ўтрэ, как даў маро́с! Там я ўжэ начава́ла. Бох дава́ў тако́е здаро́ўе, што ні забале́ла. Вы́шла ісьці́, даў маро́с, То́ма, і заме́рзьлі лу́жыны, пазамярза́ўшы. Я бо́сая, а зямля́ там глі́ністая, калю́шчая така́я. Іду́ бо́са, два мушчы́ны е́дуць, узя́лі мяне́ то́жа. «Дзяўчы́нка, садзі́ся падвязём, куды́ ты?» Я кажу́: «У Карэ́лічы». Ужо́ ш мне с Карэ́ліч і на Лю́бча. А яны́ е́дуць у Карэ́лічы. Я ўжэ се́ла ў вос, но́гі паткуо́чыла, сагрэ́лася. І тады́ ўжэ к Карэ́лічам. І прышла́ да сястры́ і ўжэ мае́ но́гі папу́хлі. Ужо́ як прышла́, як се́ла, то яна́ мне падала́ е́сьці, я ні магла́. То мне больш папада́ла. Яна́ хітрэ́йша была́.

***

Вот е́хала на фу́тар, там адны́м ве́зла, прысла́лі с Аме́рыкі бры́тву, кап пераде́лі, я звалі́лася і я э́тэ кале́на [пашкодзіла], яно́ і цяпе́рака. Я звалі́лася, і ўжэ дадо́му я вяла́ся, ні се́ла. Е́сьлі я падыму́ но́гу, я валю́ся. Тады́ Ва́ня гнаў во́тку, я памы́ла палы́ і панясу́ яму́ дро́ва на перагон́. Зышла́ ў лес і дава́й жэ э́тэ мне ў дро́вы выліва́ць. І вот я ста́ла памага́ць яму́ памага́ць, і мне ў ле́се как скруці́лася – всё, я ні сюды́, ні туды́. Ні ўста́ла. І ўжэ тады́ ён прые́хаў на кані́, узя́ў, прыве́з

дадо́му і мяне́ паве́зьлі да Сако́льніка гэ́тага ўжо. А тады́ ў Віле́йку паве́зьлі. Та́мака пі́шуць, врач да́лі напраўле́не, што на паўго́да ў ґіпс нагу́ мне, што беркулёс касьці́. Я ста́ла пла́каці і кажу́: «Ні да́мся». І до́брэ, што ні дала́ся, была́ б без нагі́, нага́ вы́сахла б. Прыяжджа́ем у Юра́цішкі, ён ка́жэ: «Я не прызнаю́ беркулёза касьці́» – яўрэ́й, дай Бог яму́ здаро́ўя, жыд быў, так паніма́ў. Я прашу́ся, каб даў напраўле́не ў Мінск, даём пяць зо́лата – ні ўзяў. Ні ўзяў пяцёркі гэ́тай. Ка́жа: «Я дам, но мяне́ руга́ць бу́дуць». Ма́ня паве́зла ў Мінск, а тады́ ж ні машы́наў, нічо́га, по́яздам. Там машы́ну нанялі́. Прые́халі мы да знако́мых. Вот наза́ўтрэ ўжэ па напраўле́ню ў бальні́цу. Мяне́ там палядзе́лі. Ка́жэ: «Пало́жым, за́ўтрэ апера́цыю бу́дзем рабі́ць». Я тут апя́ць не, ні бу́ду. Прыяжджа́ем, ужэ́ лю́дзі ка́жуць: «Што ж вы атказа́ліся, хто табе́ наза́ўтрэ бу́дзе рабі́ць апера́цу? Табе́ ж усе́ ана́лізы, табе́ ўсю праве́раць на́да, яна́ ці ні на́да». Мы наза́ўтрэ е́дзем. Място́ў нет. Ско́лька я вы́ліла сьлёс. А́ле такі́е мы́сьлі, Го́спадзі, прасьці́: е́сьлі інвалі́дам – ні бу́ду жыць. А Стась ужо́ патха́жываў. І я ні хачу́, ён усяраўно́ прыхо́дзіць. Прыхо́дзіць, сядзі́ць на ко́йцы. І гэ́так яго́ адбіва́лі: «Бу́дзеш на пляча́х насі́ць». Палажы́лі ў бальні́цу, ме́сяц я там прабыла́, правяра́лі, а тады́ гаво́раць, што во.... Я ўжэ напіса́ла дадо́му, што саглаша́юся рабі́ць апера́цу, што ў кале́ні ўжо бу́дуць рабі́ць апера́цу. Яны́ угава́рваюць, што ні замкнём, кале́на бу́дзе гну́цца. А дзе яно́ гну́лася, яно́ б ні гну́лася. Тады́ шчэ павялі́ на не́кі эта́ш і во ў гэ́тым ме́сцы всё такі́м прыбо́рам, і во ту́та ста́ла трапята́цца, і яны́ сказа́лі, што тут жы́лка ні адо́рвана ў ча́шацы. Сказа́лі: «Апера́цыі ні на́да». І тады́ разрабля́ць і хадзі́ць. Прые́хала ў Мінск, зра́зу на калідо́ры мяне́ пакла́лі, а там у пала́ці шасна́цаць чалаве́к. Я пла́чу, а па́рэнь такі́ красі́вы высо́кі прахо́дзіў, сеў каля мяне́. Ну, дава́й развляка́ць. Тады́ прынёс і ка́рты, каб ні пла́кала. Наза́ўтрэ ў пала́ту палажы́лі. Я накры́ла галаву́ і пла́чу. А ра́дам ляжа́ла, яе́ прастрэ́лілі баньдзі́ты ру́ку. Яна́ прыхо́дзіць, адзія́ла сарва́ла: «Што ты прые́хала лячы́цца, а ні пла́каць, штоп сьлёз ні ві́дзелі!». А жанчы́на ляжа́ла так, як я, і ўзя́лі на паўго́да ў гіпс нагу́, і всё, пры мне вы́сахла яе́ нага́. І каб я дала́ся.... Ну так Бох мяне́ жале́ў! А пато́м ужэ́ я да Юра́цішкаў шчэ на кастылёх, а ў Юра́цішках кастылі́ е́тые кі́нула і ўжо пама́лу. Ужо́ ве́зла Карале́нчыха мяне́ і Стась е́хаў. А, яна́ дадо́му е́хала, Стась е́хаў. Яна́ ка́жэ, што прые́хала А́ньця зь Мі́нска. Всё. Ве́чарам прышо́ў. Э́та ж уся́кае магло́ быць. Ніко́га ні слу́хаў. Я шча́сьлівая. Везьдзе́ Бох памага́ў, везьдзе́!

***

Быў у нас пасту́х служы́ў. Так да яго́ адно́сіліся харашо́. Ён атслужы́ў, рашчыта́ліся мы зь ім. Ён пае́хаў дадо́му, а яны́ бе́дна там жылі́, зладзе́я былі́. Пры ём кало́лі. Ён прышо́ў да нас пабы́ць, ён прышо́ў вы́вядаць. Ну буць і всё. Мы се́чку рэ́жам, без бацько́ў былі́. Гэ́та пры ём закало́лі, і мы на чарда́к. Да́лі яму́ ўжо дзяля́нку сьвежані́ны, і ён пашо́ў дамо́ў. Вот яны́ чэраз не́йкі час (вясна́, тут вада́ разьліла́ся) яны́ прышлі́ ўтро́х іх ці ско́лька. Сало́май жа была́ кры́та ха́тка на́ша. Така́я была́ ха́тка нічо́га. Ту́така два скрыва́ліся, прывяла́ мушчы́н э́тых, тады́ і пол кла́лі і накры́лі. І адзі́н хаце́ў на́тта да ста́ршай у пры́мы. Дык яна́ сказа́ла: «Сьсіве́ю, но прыма́кі браць ні бу́ду». А мы зарэ́залі цялё, закало́лі кабана́ і каро́ва. У нас і ма́сла, і всё. Дзе зямля́нка была́, дак зрабі́лі склеп. У той зямля́нцэ зрабі́лі падва́л, як бы там карто́флю сы́палі. Ну яны́ патпе́рлі дзьве́ры і прадра́лі страху́ с тае́ стараны́ то́чна нат кубе́льцам э́тым, дзе стая́ла са́ла. Всё вы́бралі да гра́ма. Во такі́ во то́лька кусо́чак о такі́ во аста́ўся. Ма́ма ўста́ла ра́на на́ша, дзьве́ры патпёртые. Тады́ ў склеп: «О, німа́, всё і мя́са пане́сена с пасу́дзіны». Яна́ така́ была́, зна́еш, ца́рскую вайну́ пражыла́! Яна́ ка́жэ: «А мо́жа дзе страху́ прадра́лі?». То́чна. За ха́тай вы́драна страха́ і вы́брана э́та са́ла.

## *ГАВОРКІ МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ*

*Т. Валодзіна, Т. Кухаронак*

### ТЭКСТЫ З БЫХАЎСКАГА РАЁНА

в. Чорны Бор

***Расказвае Г. В. Спічакова, 1952 г. н., ураджэнка Бабруйскага р-на;*** *запіс зроблены ў 2012 г.*

#### Пра каўтун

Каўту́н як клубо́к. Як гняздо́, не расчаса́ць нічо́га. Яго́ шэ́пчуць. Як ляжа́ла мая́ ма́ма ў бальні́цы, там ляжа́ла з ма́май жэ́ншчына. Плато́к з галавы́ зьбі́ўся і така́я гаму́лка ў яе́ бальша́я была́ зза́ду. Го́спадзі, адступі́ ад нас усі́х, така́я гаму́лка стра́шная. Яго́ нельзя́ зраза́ць. Яна́ з э́тым пае́хала ў Ві́цебск. Там ей вы́велі яго́. А прыязджа́ла сюда́, так му́чалася.

***Расказвае А. У. Шчокатава, 1939 г. н.;*** *запіс зроблены ў 2012 г.*

#### Пра сурокі

Мы́ла я свайго́ Сярге́я ма́ленькага, а прышла́ Васілі́са. І што вы ду́маеця, пазабаўля́ла, пака́ я мы́ла ў кары́це, а ён пасьмяя́ўся. То́лькі пашла́, я вы́няла, усё – дзіцёнак мой абамле́ў. Я замата́ла яго́ ў пасьці́лачку, а сама́ спужа́лася, ня ве́даю што дзе́лаць. Цераз даро́гу ба́ба жыла́, пабе́гла к ёй. Ну, прыбе́гла к ёй. Яна́ ка́жа: «Вазьмі́ ваду́ ту́ю вы́льлі, а пасьці́лачку гэ́ту, што яго́ замата́ла, ты пералажы́ ў другу́ю, а пасьці́лачку э́ту закі́нь у печ за дро́вы, як печ то́піцца. Я так і зьдзе́лала. Нічо́га гэ́та не памагло́. Паку́ль не ста́ла шапта́ць.

#### Пра візіт за лекамі да шаптуноў

Быў у нас дзед, і дзе́лаць мог, і атдзе́лаваць. К яму́ ўсе прыхадзі́лі. Дзед ста́ры. Вязе́ш яму́ з до́ма ваду́, ён трасане́ буты́лку і ўсё табе́ ска́жа, хто зьдзе́лаў, на буты́лке ўсё нарысо́вана.

У Бялы́ніцкім раёні Сьвяці́лавічы, там ба́ба жыла́. Я прывязла́ буты́лку сваю́. Яна́ ўзяла́ ту́ю буты́лачку, паглядзе́ла і нарысава́ла мне два ліцы: пажа́ласта, хто табе́ зьдзе́лаў. Глядзі́ць і ка́жа: у цябе́ то́я, у цябе́ то́я, у цябе́ то́я. Сказа́ла, каб прые́хала, то́лькі не ў выхадны́я, не ў пра́зьнічныя дні. Вады́ тады́ не дава́лі. А вады́ піць ка́жны дзень. Ско́лькі налье́ш у кру́жачку, сто́лькі далі́ ў ту́ю буты́лку. А што не дап’е́ш, то́я вы́лі на ву́гал. На ву́гал, што з ву́ліцы ў ха́ту. То́лькі на ха́тні ву́гал, не на сара́й. Ты пачу́ствуеш, як табе́ бу́дзе. Я была́ на ўчо́це. Врач ка́жа: «Што мне з ва́мі дзе́лаць?» Я аж спуга́лася. А ён ка́жа: «У вас няма́ таго́, што было́». Як прывязла́ я ту́ю ваду́, то́лькі нічо́га ніко́му не дава́й. Тры дні.

***Расказвае С. П. Васіх, 1928 г. н.;*** *запіс зроблены ў 2012 г.*

#### Пра чараўніцу

Была́ там Ду́ня, сасе́дка. Вот раз на стале́ ляжы́ць ртуць. З гра́дусьніка. «Со́ня, палядзі́ што ў нас!» А гэ́та пабыла́ дачка́ і сыпну́ла э́тай рту́ці. Сыпну́ла ж не́як. Яна́, Со́ня та́я, ска́церку сьняла́ акура́тненька і вы́сыпала э́ту ртуць. Не зна́ю куды́. Ну ла́дна. Э́та прашло́. Тады́ ляжы́ць ша́рфік, уве́сь на вузла́х. Сасе́дка ў нас така́я была́. Я тады́ ўжо на сьвякру́ху: «Палядзі́ця». А мы то́лькі ўста́лі. «Падажджы́, – ка́жа, – шчас печ зато́пім, і ўкі́нем э́ты ша́рфік». За яго́, на чапялу́, руко́й не ўзяла́, і ў печ. Прыбяга́е Ма́нька. Ужо́ як гарэ́ў той ша́рфік. Ей ужо́ пло́ха, яна́ ж гэ́та дзе́лала. Шчас сьвякру́ха ха́ту на зашчапо́к і дава́й яе́ чыхво́сьціць. Бі́ла і качарэ́жнікам, і чым ня бі́ла.

Алі́ вы́турылі яе́ з ха́ты. А тады́ ў ха́ту яна́ нічо́га не ўнасі́ла. Яйцо́ прынясла́. Пад зава́ліну. Са́ма гла́ўна, што разьбіра́ў Сяргей фунда́мент і нашо́ў два яйцы́ цэ́лінькіх. Як яны́ туды́ зайшлі́… На даро́гу на перакро́стак занісла́.

### Выпадак з няверным мужам

Ты ж Во́льгу зна́еш. Яе́ Іва́н гуля́ў, хадзі́ў к Наста́сі ў Пі́сараўку. Вот яна́ прышла́ і ка́жа: «Хрэ́сьніца, пашлі́-ка мы схо́дзім у Пі́сараўку». – «Матуся, а чаго́?» – «Пашлі́, пашо́ў мой кабе́ль, таку́ю яго́ маць!» – «Пашлі́». А па куста́х іці́. А цёмна, я баю́ся, што мне тады́ было́, 21 год. Пры-хо́джуем. А яна́ зна́ла, дзе жыве́ць. Захо́джаем: «Адкрыва́й дзьве́ры! Ён у цябе́!». Ён маўчы́ць. Яна́ не адкрыва́е. Дык яна́ тады́ ко́лікам па вакну́ ды і паразлаташы́ла во́кны. Вы́шаў. Вы́шаў. Ну ня біў яе́, не. Ён тады́ сьцяклі́ў во́кны.

Мая́ сасе́дка, так харашо́ з мужыко́м жылі́. Тут тро́я дзяце́й, і там прыдзе́лаў дзяцёнка. А яна́ пато́м прыхадзіла, памага́ла, к Аляксе́еўне, к жо́нкі яго́. А яна́ ноль вніма́нія. Як і пало́жана так.

### Пра чараванне

Цёця на́ша, 90 гадо́ў. У яе́ дзе́ці паміра́лі, чаты́ры памёрла, дык ей сасе́дка дзе́лала так, штоб у яе́ дзяце́й не было́. Ражда́еццa і ўміра́е. Ста́ры дзядо́к ішо́ў і ка́жа: «Жэ́ншчына, табе́ зьдзе́лана. Дава́й я цебе́ атдзе́лаю. А ты яе́ не пуска́й у ха́ту. Яна́ к табе́ любы́м вужо́м, любы́м саба́кам, жа́бай, усе́м бу́дзе прыбяга́ць. А ты не пуска́й». А цёця пабая́лася. «Э́та ра́дам твая́ сасе́дка».

А сястра́ прые́хала, Але́гу было́ яе́ го́дзікаў 6, і пашлі́ на кла́дбішча чэраз по́ля. А гэ́та жэ́н-шчына вы́шла з калі́ткі. Э́ты дзіцёнак зьбяле́ў, стаў сі́ні. Абмёр. Яна́ то́лькі паглядзе́ла. Сьвякро́ў абцёрла штана́мі, а яго́ як ста́ла ташні́ць. Ён усё гэ́та вы́ташніў, і ста́ла яму́ ле́гчы. То́лькі што паглядзе́ла яму́ ўсьлед. А цёця пабая́лася аддзе́лаваць, што грэх.

в. Хутар

***Расказвае Я. С. Арлова, 1936 г. н.;*** *запіс зроблены ў 2012 г.*

### Пра Царкавішча

Ую́н – дзярэ́ўня, і там крыні́ца, і ваду́ бяру́ць. А цэ́ркава правалі́лася, э́та ж у нас на Цар-ко́вішчы. Гэ́та ў ле́се ў нас. Э́та ізь вяко́ў вядзе́цца тако́я. І мая́ ма́тка каза́ла, а ма́тцы каза́ла ма́тка яе́, і тако́е ідзе́ць і ідзе́ць. Што стая́ла там цэ́ркава, і ішла́ яка́я-та праклятая жэ́ншчына, і спаткну́-лася. І сказа́ла: каб ты правалі́лася. І гэ́та цэ́ркава ўзяла́ і правалі́лася. Дык там вы́рас ка́мень бальшэ́нны. І ра́ньшы э́ты ка́мень бальшы́ ляжа́ў на зямле́, высо́кі. Мы хадзі́лі ў я́гады і захадзі́лі, і гало́вы так прыкланя́лі к гэ́таму ка́мню і слы́шна, як уро́дзе бы званы́ вот зьвіня́ць, пад э́тым ка́мнем. І прые́хаў адзі́н яўрэ́й. У яго́, гаво́руць, была́ ме́льніца, гэ́та мне ма́тка раска́зывала, і ха-це́ў з гэ́тага ка́мня, абдзе́лаць яго́ харашо́, жо́рны, мало́ць муку́. І стаў яго́ абсяка́ць і асьле́п. Там і ёсь, насе́чана так, во… Ён ураста́ець ужо́. Там зарасло́ ўжо, ра́ньшы та́мака і я́гады бра́лі, жура-ві́н было́ мно́га, і чарні́кі расьлі́ там, усё. Цяпе́р ні прале́зьці ні прайці́.

### Пра Благавешчанне

На Благаве́шчанне нічо́га ня дзе́лалі, бальшы́ пра́зьнік, ого́! Як Па́ска, гаво́рáць. Дзе́ўка касу́ не пляце́. Яйцо́ не падклада́лі, ку́рыца да́жа не далжна́ не́сьціся, а яна́ во́зьме ды знясе́цца, тады́ яйцо́ вы́кінуць. Забо́р нялься́ гарадзі́ць, агаро́ды капа́ць, патаму́ што дажджа́ ня бу́дзе. Да́жа пры-мяча́лі: вот я загараджу́ плот, а до́джа няма́, дак но́ччу по́йдуць і раскіда́юць гэ́ты плот, і по́йдзе дож. Ляґу́шак бі́лі, галасі́лі, прычыта́лі, я по́мню, мы ма́лыя былі́, дажджа́ няма́, лягу́шак наб’ём, а ма́ма гаво́ра: «Ідзі́ця ўжо лягу́шак набі́ця і папро́буйця папла́каць». «Макрэ́начка, суха́я на́ша

зяме́лечка», – прычыта́ем, а тады́ схава́ем і хрэст паставім ёй. А пака́ нясём, гало́сім: «Макрэ́начка, суха́я на́ша зяме́лечка». У кало́дзеж кіда́лі мак пасьвянцо́ны, каб дождж ішо́ў. Мак як Мака́ўя, тады́ сьве́цяць мак. Я сёлета храні́ла храні́ла мак, дак уле́зьлі ў гаро́д і вы́рвалі, нашлі́ ж куст адзі́н і вы́рвалі. Ён жа мак ад усяго́, абсыпа́юць каро́ў, як аце́ліцца, каб малако́ не ўкра́лі.

### Пра калядныя варожбы

Раскажу́ вам, як я дзяўчо́нкай была́, ну не дзяўчо́нкай, мне год сямна́ццаць было́. На бага́тую каляду́ абсыпа́юцца лёнам. Вот, ма́ма гаво́ра, на́да ў адно́й руба́шке і го́ламу стаць у калі́ткі і сы́паць лён і прыка́зваць: «Сы́плю лён, сасьні́ся сон, с кім бу́ду браць э́ты лён». І мне сасьні́ўся э́ты мой мужы́к, с като́рым я жыву́. Бягу́ я ў дзярэ́ўню, а со́нца садзі́цца, во як цяпе́р по́мню, а со́нца садзі́цца ні́зка-ні́зка, а лес на́да перайці́. І я ду́маю: Бо́жа мой, як жа мне перайці́ лес, тут жа і ваўкі́ хо́дзяць. Ва сьне гэ́та ўсё ба́чу. Ба́чу, з ле́са выязджа́е конь кра́сны і га́рба. Са́ні і га́рба, вазі́лі с пятна́ццатага торф. Га́рба – паво́зка. Я пагляджу́, конь завацкі́, заво́д быў кірпі́чны, а я ўсё бягу́. А мой мужы́к э́ты, като́ры на мне жані́ўся, крычы́ць мне: «Жэ́ня, ня ідзі́, там ваўкі́, ідзі́ к нам». Я як бе́гла, так к яму́ на са́ні ста́ла і пае́хала на заво́д. Устаю́, а ма́ма гаво́ра мне: «– Ну, што ты ба́чыла?» – «Ба́чыла Васіля́ Арло́вага ва сьне». «– Ну, вот ба́чыш, і судзьба́ бу́дзя твая́». Дак ско́лькі дзе́вак не было́, куды́ не хадзі́ў, я не раўнава́ла, ніч́о́га – явí́ўся ка мне. Гэ́та чу́да, гэ́та судзьба́, во, дзе́ўкі, як быва́я.

### Пра чараўніц

Да́жа было́, гаво́раць, што э́тыя като́рыя калдуны́, то ву́ліцу перавóрвалі, а тады́ като́рая калду́нья, прымяча́лі, што каро́ва яе́ ніка́гда́ чэраз гэ́та не по́йдзе, бу́дзе раўці́ стая́ць і не по́йдзе. Як дажджа́ не было́, ткалі́ абыдзённік, усёй дзярэ́ўняй сабіра́ліся і за адзі́н дзень саткý́цуць, усё сдзе́лаюць, спраду́ць, сатку́ць, вы́маюць і на́да ў цэ́ркаву гэ́та пасла́ць. Да вайны́ шчэ было́, гэ́та ж рабо́ты ўйма, адны́ жэ́ншчыны сабіра́ліся.

### Абрад пераносу свячы на Юр’я

На Ю́р’я насі́лі іко́ну ў Хо́лставе, там Ю́р’я гуля́лі, а ў нас Міко́лу і вясно́й, і зімо́й. У мяне́ стаі́ць год, сьве́чы ў зярне́, і таўсту́ю сьвячу́ дзе́лалі, хо́чаш пастáвіць у э́ты пра́зьнік, прыдзі́ к Міко́ле, паста́ў яе́. Год пастая́ла, я атпраўля́ю, спраўля́юць тут гуля́нку, атпраўля́ю к друго́му чалаве́ку забіра́юць яе́, пла́чуць, што «Міко́лачка, а куды́ ж ты по́йдзеш...». Хазя́йка так пла́ча. А там яна́ то́жа спраўля́я, і стол накрыва́я, усё чы́ста і прыніма́я Міко́лу. Мужчы́ны не́сьлі ўдваёх. У нас іко́на была́ бяз ру́чак, рушні́к вісі́ць. А та́я ўжо ўстрача́ла, сьце́ля даро́жкі ад са́мага, ад калі́ткі і ў дом, і зано́сяць гэ́тага Міко́лу ў дом, па даро́жках, і ўжо па́даюць, мо́ляцца яму́, хазя́ева цалу́юць іко́ну. У ха́це ўсё чы́ста. По́ўзалі пад іко́най, каб спіна́ не бале́ла. Пастáвяць, паве́сяць іко́ну на кут і тады́ гуля́юць. Магла́ і жэ́ншчына адзіно́кая ўзяць: «Вазьму́ я Міко́лу к сабе́, хай ён мне што мо́жа памо́жа». А тады́ зна́еця што зьдзе́лалі з на́шага пасёлка, усё ўрэ́мя там гуля́лі гэ́тага Міко́лу, перанасі́лі з дому ў дом, а тады́ забра́лі ў другі́ пасёлак, у э́ту дзярэ́ўню. І тут астанаві́ўся, ні гуля́нкі, ніч́о́га няма́. Мужы́кі сабра́ліся з на́шага пасёлку, вы́пілі ды гаво́раць: «Папа́ў наш Міко́ла ў плен, по́йдзем мы яго́ забяро́м». Забра́лі пашлі́ гэ́тага Міко́лу. Нясу́ць па вы́гану, ся́дуць на кале́нкі, пастáвяць, пацалу́юць яго́: «Міко́лачка наш, мы ж цябе́ с пле́на вы́ратавалі». Гэ́та было́ по́сьле вайны́.

### Пра дапамогу ад Божай Маці

Слу́хайця, як у мяне́ было́. Вот у мяне́ Прасьвятая Багаро́дзіца, Спасі́цельніца грэ́шных, іко́на сьвякру́хіна. Вот капа́ю я бу́льбу, я рабо́тала, два выхадны́х у мяне́ было́, а памагчы́ не было́ каму́. А я накапа́ла бу́льбы дзе́вяць град, ка́ждая града́ сто пі́йся́т ме́траў. І пашла́ капа́ць э́ту бу́льбу.

Прыхо́джу, паста́віла карзі́ну, ста́ла так во ды гавару́: «Го́спадзі, памажы́, спор у рабо́тачцы пакажы́. А на рабо́тачку, дай, Го́спадзі, ахо́тачку». Як ахо́ты няма́, дак і ня бу́дзеш жа рабо́тать. То́лькі нагну́лася капа́ць, атку́да ні вазьмі́сь – ста́рчыха ка мне, выхо́дзя с кусто́ў. Я гляджу́ на яе́, а яна́ падхо́дзя ка мне ды гаво́ра: «Бу́льбы то наганя́ла мно́га, а капа́ць прышла́ адна́». Я кажу́: «Ну, няма́ каму́ памагчы́, бу́ду капа́ць, што астане́цца, за́ўтра дакапа́ю». А яна́ ды гаво́ра мне: «Дак ідзі́ па карзі́ну, я табе́ памагу́». Гэ́та ж Бог мне пасла́ў ста́рца. Слу́хайце-ка. Яна́ така́я бе́дная, ірва́ная. Я кажу́: «Як жа Вы мне бу́дзеця памага́ць, Вы ж не́куды йдзяцё». Яна́: «Ідзі́, ідзі́ па карзі́ну». Я ўжо пашла́, і яна́ ўжо памага́ла мне. Я пабе́гла, прынясла́ ёй е́сьці, і каро́ва ж была́, тво́рагу, сьмята́ны ёй, і са́ла, і яе́ц, усяго́ нанясла́: «Ну, садзі́цясь е́сьці, раз Вы бу́дзеця памага́ць мне». Яна́, дзе́вачкі, мне памагла́, скапа́лі мы да абе́да. І я на даро́гу ёй усяго́ дала́, і са́ла, і плато́чак кра́сьненькі, і сьвякру́хіна ко́фта така́я цёплая была́, я ёй аддала́ то́жа. Паблагадары́ла і кажу́: «Мо́жа, аста́нецесь на́нач яшчэ́». Ба́чу, наскі́ ў яе́ рва́ныя, га́дкія такі́я. Я пашла́, наскі́ прынясла́, но́гі памы́ла яна́, паабе́дала і пашла́. «А куды́ ж Вы по́йдзеця?» – пыта́юся ў яе́. – «А я пайду́ куды́ мае́ во́чы глядзя́ць». І пайшла́. Я людзе́й сабіра́ла, ба́бы глядзе́лі, адку́ль што ўзяло́ся. «Ба́бачкі, ідзі́ця паглядзі́ця, як мне Бог пасла́ў». Во яко́е было́. І ўсё куда́ ня йду, я Прасьвяту́ю Багаро́дзіцу прашу́: «Памажы́ мне ў дзела́х у маі́х».

### Пра Узвіжанне

Здзьві́жаньне, у лес нyльзя́ хадзі́ць. Мой дзя́дзька, ма́ткін брат, пашо́ў у лес, дак з лесу бег, да́жа ша́пку пацяра́ў. Казаў, што ку́чу вужа́к ба́чыў, шыпя́ць, бег дамо́ў са ўсе́х ног. А на Здзьві́жаньне мяне́ сьвякру́ха пасла́ла жаць бульбо́ўнік, не было́ се́на. Я пашла́ пасьля рабо́ты. А яе́ цётка прышла́ з Мо́крага к ёй у го́сьці. І тут сядзі́ць, яна́ яе́ ўгашча́я. А на Здзьві́жаньня бу́льбу мы яшчэ́ не капа́лі. Яна́ гаво́ра: «Жэ́ня, пад’е́ш, ды ідзі́ жні калі́ўя». Ну, я пае́ла і пашла́ жаць гэ́та калі́ўя. Лю́дцы мае́, жну, чу́ю – не́шта па калі́ўю дзьві́жацца і «чы-чы-чы», і так во раздзьвіга́ецца калі́ўя. А я паглядзе́ла – во така́я вужа́ка, здараве́нная. А я: «Ай!» – дава́й крыча́ць, яна́ ж ідзе́ць пра́ма на мяне́. А сасе́д ра́дам быў, інвалі́д, ды: «Маладзі́чка, чаго́ ты крычы́ш?». А я гавару́: «Ой, дзед, така́я вужа́ка паўзе́ць на мяне́». А ён гаво́ра: «Бі яе́». А я кажу́: «А чым біць, у мяне́ серп то́лькі». Ды як дала́ ўцяка́ць дамо́й. Прыбе́гла, а тут гэ́та цётка сядзі́ць ды гаво́ра: «Во, Ма́р’ечка, нашто́ ты яе́ пасыла́ла. Ба́чыш ты, нyльзя́ на Здзьві́жане рабо́тать». А яна́ така́я здараве́нная, таўсьце́й маёй рукі́, така́я вужа́ка. А былі́ пашлі́ ў грыбы́ і на бяро́зе ба́чылі, як вужа́ка паро́сіцца і хвата́я іх, жарэ́. А като́ры скі́нецца, зна́чыць, пабе́гла. Каб яны́ парасі́ліся ды ня е́лі, іх бы было́ тут мільён, а так хоць ме́няй. Гэ́та мы ба́чылі.

### Пра цыганку

Каўту́н я ба́чыла. Прые́халі цыга́ні к нам. Мы сабра́ліся дзяўча́ты пашлі́ глядзе́ць што яны́ дзе́лаюць э́ты цыга́ні. Яны́ раскла́лі касьцёр бальшы́, ва́руць сабе́ е́сьці. Чыгу́н здаро́вы во такі́ во. Пакрышы́лі бу́льбы, усяго́ туды́ накла́лі. І кусо́к такі́ са́ла, ня рэ́залі ніч́ога, туды́ яго́. Цыга́нка прыно́шуя дзеся́ткі два яе́ц, яны́ іх раскалацілі туды́ ўсе чы́ста. Навары́лі яны́ чыгу́н бу́льбы, се́лі і яду́ць. Тады́ пад’е́лі. Са́ла выцягнулі, палажы́лі, парэ́залі і яду́ць. Мы се́лі і глядзі́м. Тады́ цыга́нка ўста́ла така́я пажы́лая і нам: «Хто з вас уме́е во́шы біць?». Тады́ ж во́шы было́ ўйма, по́сьле вайны́. А дзе́ўкі на мяне́: «Ой, Жэ́ня, ты ж уме́еш галаву́ глядзе́ць». «Я, – ка́жа, – бясплатна пагада́ю». А я і хачу́ і баю́ся. Цыга́нкі е́тае. А яны́ мне: ты ж уме́еш харашо́ біць. Я і ўзяла́ся цыга́нкі галаву́ глядзе́ць. Во́шы і во́шы, тра́хаю іх. Нажо́м тра́хаю, ёмка ж нажо́м. Ко́нчыкам. А ў яе́ ззаду і во такі́ каўту́н. Я пабі́ла во́шы, яна́ ка́жа: «Ну дава́й руку́, я табе́ пагада́ю», – і гаво́ра: «Ты ўчы́цца ня бу́дзеш, а рабо́тать бу́дзеш з благаро́днымі людзьмі́. Твая́ судзьба́ – ён чырве́нны, ха́та стаі́ць во́кнамі на по́ўдзень і на за́хад, у цябе́ бу́дзе дзьве ша́пкі». Я ў вае́нных рабо́тала. Э́та яны́ шчыта́юцца благаро́днымі.

### Пра вяселле

Ма́ма раска́завала, што яе́ падру́га ішла́ за́муж. А ўжо бярэ́менная. Сьвёкар выно́шую дзяжу́-хле́бніцу і ста́віць, і ўстрача́е малады́х. Е́сьлі яна́ чэ́сная, на дзе́жку э́ту зала́зя, нага́мі, і стаі́ць. А е́сьлі не – не пале́зя, патаму́ што бу́дзя ўсегда́ хлеб пе́ччыся нехаро́шы. Мужы́к жа зна́я, што яна́ бярэ́менная. Сьвёкар прынёс, паставі́ў, на́да ж ёй станаві́цца, дык жані́х як даў сапаго́м у э́ту дзе́жку, дык яна́ кувырко́м пакаці́лася, дзе́жка сабе́, ве́ка сабе́. Ён жа сам і дзе́лаў. Ду́мае, бу́ду ўсю жызь е́сьці хлеб нясма́чны. І про́стынь глядзе́лі. Ма́тцы пасыла́лі буты́лку з кра́сным ба́нтам. І пе́сьні сьпява́лі такі́я.

Вы́йдзі, ма́мачка, паглядзі́,
Каго́ мы табе́ прывязьлі́.
А ко́шку ў луко́шку,
А кацёначка ды ў мяшку́.

Гуля́шчую не бра́лі ні за дру́жку, ні за куму́, тады́ прэзіра́юць таку́ю.

Бі́лі адзі́н аднаго́ ды гаўно́м абліва́лі. На заво́дзе рабо́тала, а Іва́н Прахо́раў, Зі́на была́. А к Мо́це прыкла́лі гэ́тага мужыка́. Жо́нка набаўта́ла гаўна́ ды абліла́ э́ту Мо́цю. Пака́заваюць па целеві́зару – кіслато́й, дык лу́ччы гаўно́м.

Ба́бы бо́лі гуля́лі. Адзіно́кія, звадзі́лі мужыко́ў.

в. Уюн
***Расказвае Г. Р. Новікава, 1920 г. н.;*** *запіс зроблены ў 2012 г.*

### Пра назву вёскі

Я чыта́ла ў істо́рыі, тут быў непрахадзі́мы лес. І не было́ э́тай дзярэ́ўні. А пато́м цякла́ па э́таму лясу́ лясна́я рачу́шка. І там вялі́ся ду́жа ры́ба ўюны́. І па э́тай рэ́чачкі лаві́лі ўюно́ў і ўжо дзярэ́ўню назва́лі. Я чыта́ла так, даўне́й.

### Пра Адама і Еву

Пе́рвы чалаве́к, сазда́ны Бо́гам, – Ада́м. І зь зямлі́, ка́жацца, сазда́ў. А пато́м пабы́ў э́ты чалаве́к тро́хі і Гаспо́дзь ка́жа: «На́да сазда́ць яму́ по́машч, жэ́ншчыну». Навёў на Ада́ма бальшы́ сон. Ён усну́ў, вы́няў у яго́ рабро́. Я рабо́тала на медпу́нкце, там гавары́лі дактары́, ско́лькі рабёр у чалаве́ка, а ў мужчы́ны на адну́ рабры́ну ме́ней. Так раска́зывалі. І з э́тае рабры́ны зьдзе́лаў жэ́ншчыну. Так яны́ і жылі́. Пасялі́ў, даў ім харо́шае ме́ста ду́жа жыць. Пасялі́ў, там пе́лі пці́чкі, ве́села ўсё, і назва́ў то́е ме́ста зямны́м ра́ем. І пасадзі́ў там Гаспо́дзь два дрэ́вы і сказа́ў: «З у́сіх е́шця, а з гэ́стых двох ня е́шця пладо́ў, а то памрацё». А ра́ньшы э́ты (змей. – *Т. В.*) ка́жа: «Ён вас падвадзі́ў, як зьясьцё, Бо́гам са́мі ста́неця». Ну дык яны́ ўзя́лі ды е́лі, не, Е́ва…

Прыляце́ў е́ты, зьмей, у е́ты рай. У рай ніхто́ не захадзі́ў. А тады́ ішо́ў, ка́жацца, Міха́іл праве́даць, Міха́іл арха́нгел, праве́даць, ці до́бра жыву́ць лю́дзі. Зайшо́ў – до́бра, панра́вілася, пці́чкі так на плячэ́ сідзя́ць, усё, панара́вілася яму́. А е́ты ды не зачыні́ў до́бра варо́т у рай. І тады́ зьмей увайшо́ў сеў на я́блыньку ды і ка́жа: «Ня слу́хайця, а то баі́цца, што вы Бо́гам ста́неце». Угавары́ў Е́ву гэ́ту. Яна́ ўзяла́ я́блыка гэ́тага зье́ла і панясла́ Ада́му. Ада́м разгле́дзеў, і яму́ адкры́лася, што яны́ саграшы́лі, зье́лі… І січа́с вы́гнаў іх Бог з ра́я, Ада́м і Е́ву. Яны́ пла́калі. І наказа́ў зьме́я то́га, што саблазьні́ў іх. А Е́ве сказа́ў: «Ты ў бо́лях далжна́ ража́ць дзяце́й. А Ада́му – ты ў трудзе́ бу́дзеш дабыва́ць хлеб».

### Пра набыццё чарадзейскіх ведаў

У нас тут стару́ха была́, яна́ раска́завала, што тут былі́ нясхадзі́мыя лясы́. Былі́ два браты́ ахо́тнікі, а ў ляса́х былі́ і за́йцы, і кабаны́. Яны́ хадзі́лі на ахо́ту. Дак вот адзі́н по́йдзя, прынясе́ і на адзі́н бок на плячо́ за́йца, і на другі́, і напе́рад, і пту́шак уся́кіх ра́зных. А другі́ як по́йдзя, так

і пры́дзя, ру́кі ў карма́ны, і сі́льна мно́га дзяце́й было́ ў яго́. Ба́ба каза́ла, э́та ў Гама́рні. Ну, тады́ ўжо гэ́ты жжа́ліўся над тым:

– Хо́чаш, я цябе́ наўчу́, бу́дзеш і ты насі́ць.

Ну, дак той з ра́дасьцю:

– Наўчы́.

Ра́ньша ж быў зако́н у цэ́ркву хадзі́ць усі́м, спаве́дацца, прычашча́цца. Ка́жа: – По́йдзеш на і́спаведзь, бу́дзеш прычашча́цца, даю́ць там віно́ ў ло́жачцы і хлеб, це́ла Хрысто́ва. Дак ты, – ка́жа, – віно́ праглыні́, а кро́шачку ту́ю нікуда́ не кіда́й, вазьмі́ ў бума́жку, прыдзі́ дамо́й і ідзі́ ў лес. Пракруці́ сьвярдзёлачкам ў дзе́раве дзі́рачку, улажы́ туды́ э́ту кро́шачку і закры́й ту́ю дзі́рачку. І тады́ атыйдзі́ся, вазьмі́ і стрэль. Табе́ там бу́дзя здава́цца ўся́кая чу́да, дак ты не глядзі́ на гэ́та, а ўсё ро́ўна стрэль.

Ну, э́ты ўжо рад, зьдзе́лаў усё, схадзі́ў у цэ́ркву і пашо́ў у лес. У дзі́рачку ўклаў, атышо́ўся то́лькі страля́ць, разгле́дзеўся, аж там стаі́ць крэст, а на красьце́ вісі́ць Ісу́с Хрысто́с. Ён як спуга́ўся, кі́нуў ружжо́, пабе́г дамо́ў, жо́нцы раска́зая. І пашо́ў у цэ́ркву, прызна́ўся сьвяшчэ́нніку на і́спаведзі. Сьвяшчэ́ннік ка́жа:

– Саграшы́ў, но ты ж ня зьдзе́лаў гэ́тага?

Ён ка́жа:

– Не.

### Пра русалак

Руса́лкі-краса́віцы жыву́ць у бало́це, нікаго́ не хвата́лі. Быў у нас музыка́нт, ігра́ў на скры́пку, дык яго́ ўзя́лі йграць. Э́ты дзед ішо́ў п’я́ны, а яны́ яго́ акружы́лі, прыбра́ныя: «А, дзяду́лечка, а ро́дненькі, хадзі́ нам пайгра́й, у нас ду́жа пір харо́шы сёньня». Дзед захаце́ў паглядзе́ць, пашо́ў іс скры́пкай. Аткры́ў дзьве́ры, а там ня дзьве́ры, ка́жа, а вы́вараць з е́лкі ці з чаго́, адкры́ў дзьве́ры, а сталы́, ка́жа, стая́ць папрыбіра́ныя, пакра́шаныя, а заку́ска, а ві́на ўся́кага. Ну, дак я, ка́жа, за стол сеў, і выпіць да́лі сваёй вы́піўкі. Сеў і засну́ў. Напі́ўся гэ́так, ды ішо́ў п’янава́ты. Прачну́ўся, ажно́, ка́жа, я не за стало́м сяджу́, а пад е́лкай і ў гразі́.

в. Баркалабава

***Расказвае М. А. Еліна., 1937 г. н.;*** *запіс зроблены ў 2012 г.*

### Пра Каляды

Ма́ма нясла́ абы́чна се́на на кут, тады́ ж такі́я скаме́йкі былі́. Былі́ іко́ны вісе́лі, стая́ў стол і дзьве скаме́йкі, дзе схо́дзюцца. Там яна́ лажы́ла се́на, вынімала ка́шу і ста́віла на се́на. Як то́лькі начына́лі вячэ́рацць, тады́ яна́ бра́ла верх э́ты. І тады́ ўжо каро́ві, кура́м, усі́м, ве́рха гэ́тага, ко́рачку. Пост саблюда́лі крэ́пка. А наза́ўтра разгаўля́ліся. Ка́шу абы́чна з пярло́ўкі, мёду ці са́хару, на вадзе́. Тады́ сваё кру́пы таўклі́, нічо́га не купля́лі. Малі́ліся ўсе. Та́тава ма́тка была́ ду́жа набо́жная. Майго́ ба́цькі рука́мі іканаста́с зьдзе́ланы. Не́мцы разрышы́лі, і́лі ў іх была́ цэль, што парці́йныя ня по́йдуць у цэ́ркаў, каб гэ́та ба́чыць, ці што. Ну як жа, алтара́ няма́. Мой ба́цька зьдзе́лаў алта́р.

***Расказвае Л. І. Мацвеева, 1935 г. н.;*** *запіс зроблены ў 2012 г.*

### Пра назву вёскі

На́да Баркула́бава. Зьдзесь быў пан Баркула́б, като́ры аснава́ў э́ту дзерэ́ўню. Тут жа ра́ньшы было́ бало́та, лес тако́й был. А сяло́ бы́ла ў лясу́, і цяпе́р называ́ецца Ста́рае Сяло́. А ён абаснава́ўся і там жыў. Там гара́, сад па́нскі, людзе́й сабіра́ў. Да́жа аднаго́ купі́ў за таба́к. У друго́га па́на. Тот харо́шы быў рабо́тнік, малады́ мужчы́на. За таба́к табе́ прада́м. Ско́лькі ён ве́сіць, сто́лькі табаку́. Вот, жыво́га чалаве́ка за таба́к.

### Пра крынічку «Пад Міколкам»

Ра́ньшы там нічо́га не было́. Кагда́-та даўны́м-даўно́ лю́дзі абнару́жылі іко́ну, паяві́лася на дзе́ряві, на ёлкі, іко́на Нікала́я Чудатво́рца. Э́ту іко́ну сьня́лі. І тут абразава́лася крыні́ца, сама́ абразава́лася крыні́ца. Усю́ жызь мы па лясу́ хо́дзім, куды́ дзе жара́, сейча́с жа ідзём к крыні́чкі. Там така́я была́ вада́ чы́стая, уку́сная. Пато́м ужо́ яе́ пачы́сьцілі, здзе́лалі кало́дзец дзеравя́нны. І до́мік там здзе́лалі. Но дзеравя́нная... вада́ ту́хня, кало́дзец палучы́ўся ні́жы бало́та, вада́ так не сьцяка́ла. Мы ўсе, жанчы́нкі, пае́дзем туда́, пачы́сьцім, зале́зім у кало́дзец зь ле́сінкай, туды́ вязём. Адна́жды пае́халі. А мужыко́ў ніко́га не было́. Я кажу́: «Ла́дна, мяне́ спуска́йця». Ста́лі мяне́ спуска́ць, на вяро́ўкі, галава́ мая́ то́лькі схава́лася ў ізру́б, усё, мне дыша́ць не́чым. Я гавару́: «Скарэ́й! Скарэй!». Яны́ мяне́ наза́д вы́цягнулі. А так і мужчы́ны е́зьдзілі. А кагда́ манасты́р ста́лі стро́іць, там завязьлі́ тру́бы, тру́бы там ста́лі ста́віць, крышу зьдзе́лалі. І іко́ну паста́вілі высо́ка.

А пато́м, кагда́ была́ камсамо́лія ў нас. Усё там спалі́лі. І капли́чку, і іко́ну. А пато́м у нас Канстанці́н Рыго́равіч быў у нас, пастаме́нт такі́ зьдзе́лаў і іко́ну, усё. А ў яго́ забале́ла жана́, і вот гэ́та он там усё зьдзе́лал, а он быў камуні́стам. А жана́ забале́ла. Он абро́кся і ўсё там зьдзе́лал. І жана́ яго́ паднялáсь на но́гі і да ста́расьці дажыла́ на харо́шых нага́х. Ну, яго́ застаўля́лі. Хаце́лі па́спарт у яго́ адня́ць, а он сказа́ў: «Дзе́лайця, што хо́чаця, у мяне́ жана́ ўста́ла на но́гі, я ўністажа́ць ні бу́ду».

Ра́ньшы мно́га людзе́й сабіра́лася, на Міко́лу і 22 мая́, і ў дзекабры́, а ў ма́і мно́га людзе́й. Ба́цюшкі, мале́бен там. А тады́ ска́церці расьціла́юць там на лугу́. Атмеча́лі э́ты пра́зьнік.

### Пра вадуна і вадзяніка

У ле́се ёсь. Ён называ́ецца ваду́н. Ён нехаро́шы. Е́сьлі чалаве́ка зачэ́пя, то ўжо бу́дзя вадзі́ць па круга́м па лясу́. Мы былі́ ў лясу́ і папа́лі на гэ́тага ваду́на. Ра́дам ля бяро́зы, або́йдзем круго́м і апя́ць пападзём. На то́я ме́ста. Ста́ла малі́цца: «Го́спадзі Бо́жа, ізба́ві нас ад э́тай не́чысьці. Напра́ві нас на пуць пра́ведны». І ўсё. І вы́шлі. Усё аказа́лась нарма́льна. Ён не пака́зваецца ніка́му. І ў вадзе́ вадзяны́, абяза́цельна ёсь вадзяно́й. У нас купа́ліся, дык яна́ – усе́ павы́скачылі, ві́дзілі, то́лькі ліцо́ лахма́тая вы́нырнула. Во́здух хватану́ла і наза́д пашло́. Так ві́дзілі. Ён забіра́е людзе́й, як то́пюцца. Яму́ на́да чалаве́ка забра́ць, чалаве́к нехаця́ прыбяжы́ць і бу́дзя… жджэць э́тага чалаве́ка.

Раска́завалі быль, таку́ю былі́ну. Сядзі́ць старычо́к над Дняпро́м. А бяжы́ць па́рань. Маладо́й па́рань. Падбе́г, з э́тым старычко́м паздаро́ваўся. Ён яму́: «Ну, падажджы́, дзе́тухна». – «Ой, я так хачу́ іскупну́цца!» А он слы́шыт, слы́шыт слава́: «Вот ідзёт. Вот ні́ма. Вот ідзёт. Вот ні́ма». Стары́к слы́шыт слава́. І гаво́рыць: «Сядзь, дзе́тачка, пасядзі́ са мной». – «Не, я іскупну́сь, тады́ з табо́й пасяджу́». – «Не, ты сядзь са мной пасядзі́. А пато́м іскупнёшся. Міну́та гэ́та, ужо́ не спячэ́шся». Ён сеў зь ім, пасядзе́ў. «Усё, – ка́жа, – ідзі́ купа́йся». – «А я ўжо, дзе́душка, не хачу́». І ён не ўтану́ў.

в. Сядзіч
***Расказвае Н. А. Верхавец, 1930 г. н.;*** *запіс зроблены ў 2012 г.*

### Пра маму

Мая́ ма́ма с А́ўстрыі, па́па яе́ по́сьле вайны́ прывёз, а зь яко́й вайны́, Бог сьвяты́ зна́ець… Яна́ хаце́ла ўдраць адсю́ль, ёй жы́зьні тут ніяко́й не было́. Прагарава́ла ў дзярэ́ўні, мо́жна сказа́ць. Я сваю́ ма́тку пло́ха по́мню. Яна́ пло́ха гавары́ла, а тады́ навучы́лася. У па́пы было́ чатыры сястры́ незаму́жнія, яны́ яе́ навучы́лі і ткаць, і прасьць, яна́ нічо́га ня ўме́ла. Яна́ сядзе́ла і ўсё.

## Пра сустрэчу са святым Мікалаем

Мне два ра́зы сьвяці́цель Мікала́й праяўля́ўся. А пе́рвы раз я жыла́ ў Залахве́ньні, і я там жыла́ ў цёткі. Каро́ўку ёй па́сьціла. Прышло́ся мне іці́, і ён за руку́ мяне́, ка́жацца, ўзяў і цягне́ мяне́ на мае́ магі́лкі. Дзе мае́ радны́я пахаро́нены.

– Хадзі́, я табе́ пакажу́ ўсё.

Я і мацяры́лася, было́. Жы́зьня застаўля́ла. А ён гаво́ря:

– Я цябе́ павяду́ на кла́дбішча і ўсё цябе́ пакажу́. Што́бы ты бо́льшы не мацяры́лася.

І за руку́ мяне́. Я і куса́ла ту́ю руку́, ня́к не магла́. А тады́ на магі́лах як варо́ты такі́я адкры́ў, кры́шка така́я, ру́чка жале́зная. Адкры́ў і мяне́ па ступе́ньках, як у по́граб ве́сьці. Вёў мяне́ і гаво́ря... А там ба́цька мой, ве́руюшчы бы́ў, кні́жку чыта́ў. А ма́тка сядзе́ла пра́ла на верацяно́. Я хаце́ла к ім падыйці́, а ён мяне́ – за руку́ і не пусьці́ў. А ў мяне́ і дзе́вачка ўмёрла, два ме́сяцы. А там по́ля тако́я бальшо́я, бе́гаюць дзе́ці, гуля́юць, а цьвяты́ ўся́кія ра́зныя. А я сваю́ дзе́вачку ўгада́ю, ей бы было́ 12 гадо́ў. Я гэ́ты сон ніка́гда́ не забу́дуся. Я гавару́:

– То́мачка, лю́бка мая́, хадзі́ ка мне!

Яна́ цьвято́ў так нарва́ла, нарва́ла аха́пачак, так прынясла́, ля мяне́ кідзе́ль. Я яе́ хаце́ла ўхваці́ць. А яна́:

– Ма́ма, нельзя́ мне к табе́.

І ўшла. Так ён мне праяві́ўся і каза́ў, што па-ма́цернаму руга́цца нельзя́. Дзе́вачкі, не руга́йцеся ў маць. Перад чалаве́кам згара́е земля́, асо́бенна пе́рад жэ́ншчынай, на два́ццаць са́жняў. У маць руга́цца нельзя́. Ён гаво́ра:

– Е́сьлі ты бу́дзеш руга́цца, цябе́ істрябя́ць, у бе́здну пападзёш.

– А дзе та́я бе́здна?

– Такі́ як ро́ў і там чо́рна, як дзёгаць. І чарапкі́. Людскі́я чэ́рапы і скрэ́гет зубо́ў. Так стра́шна. Ты, – гаво́ря, – ты ба́чыш гэ́та ці не?

Я кажу́:

– Ба́чу. А яго́ перагапну́ў і пашо́ў.

А ён ка́жа:

– Не, не перагапне́ш.

І ён руко́й як махну́ў і ста́ла нідзе́ кра́я бе́рага ня ві́дна.

– Вот цяпе́р, – ка́жа, – ты перага́пай.

Я сагну́ла галаву́ і кажу́:

– Я не зна́ю, дзе́душка, што гэ́та тако́я.

А ён гаво́ря:

– Гэ́та ўся́ твая́ жы́зьня бу́дзе ве́чная. Е́сьлі ты ня кі́неш руга́цца, бу́дзеш тут. Малі́ся Бо́гу і пра́сі́ прашчэ́ньня за про́шлая.

І мне так па́льцам па губа́м:

– Бо́льшы руга́цца ня бу́дзеш.

Гэ́таму сну гадо́ў тры́ццаць, а мо́жа і бо́лей.

в. Грудзінаўка

***Расказвае Т. А. Пермінава, 1953 г. н., ураджэнка в. Ляжынка Быхаўскага р-на;*** *запіс зроблены ў 2012 г.*

## Пра графіню Талстую

Ба́ба раска́зявала, што Талста́я была́ графі́ня, яе́ ма́тка рабо́тала ў графі́ні. О́чань была́ до́брая графі́ня. Гаво́ря, плаці́ла па 5 капе́ек за дзень. Гаво́ря, я іду́ і сваі́м дзіця́м купля́ю, сабе́ куплю́ кра́сьненькі плато́чак к пра́зьніку, а дзіця́м вяза́начку бара́нак. За пяць капе́ек. Кашамі́равы плато́к сабе́ купі́ла, дзеўкі. Така́я была́ до́брая-до́брая. Слу́гі ў яе́ былі́, як то́лькі пра́зьнік які́, у яе́ така́я

але́я была́ з гра́фскага зда́нія але́я, і на во́зеры мо́сьцік, яна́ ўсё на мо́сьціку стая́ла. Кагда́ ўжо шла, слу́гі нясьлі́ падо́л яе́, а яна́ абсыпа́лася і канфе́тамі, і граша́мі, капе́йкамі, на пра́зьнік. Яна́ сы́пала. Тады́ сабіра́ліся дзе́ці вакру́г. Сабіра́лі, было́ інцере́сна.

### Пра Купалле

Мы на Купа́лу, як нас вучы́лі. Ра́ньша, зна́яця, было́ мно́га такі́х, што заніма́ліся чо́рнымі ма́гіямі, ве́дзьмаў. Ра́ньша трепа́лі лён, і было́ э́та па́кальля, мы бра́лі э́та па́кальля і на́да было́ ісьці́ ў дзьвяна́ццаць часо́ў но́чы на кла́дбішча, брацъ зямлю́ і с э́тым пераме́шываць. І ў канцэ́ дзярэ́ўні мы пересыпа́лі даро́гу і сядзе́лі там да пяці́ часо́ў, пака́ не гна́лі на ра́нкі каро́ў. Хто ўжо ўмеў э́та дзе́лаць, каро́ва чэраз то́е не пайдзёт. Вот тады́ і зна́лі. Адны́м жа дзяўча́там стра́шна было́ сядзе́ць, з на́мі хло́пцы сядзе́лі, вот прібяга́лі каты́, дабяга́юць да гэ́тай паласы́ і да́льшэ ня йдуць, начына́юць не́ма раўці́ і ўцяка́юць. А нам жа інцяре́сна на э́та глядзе́ць. А тады́ ўжо каро́ў го́няць, э́тыя каро́вы ідуць, а хто ўме́е варажы́ць, та́я ўжо каро́ва ня йдзець чэраз э́та, э́ту перясы́пануую даро́гу. Нас узро́слыя застаўля́лі так дзе́лаць.

Палі́лі касьцёр, а што ж ноч дзе́лаць. Сядзе́лі і пе́сьні пе́лі, пад ра́ньня патушы́лі яго́, каб жа нас не заме́цілі. Нам было́ гадо́ў па пятна́ццаць, а като́рым па два́ццаць, з на́мі ўсе ўме́сьці гуля́лі. Вред дзе́лалі, то каму́ трубу́ перякрі́ем, крест с кла́дбішча прінасі́лі пад ха́ту каму́ паста́віць, заніма́ліся э́тай ерундо́й на Купа́лу. Дро́вы, вот, напрімер, дзе́ўка с хло́пцам дру́жыць, зна́чыць, мы к таму́ хло́пцу ад дзе́ўкі што́-та перанясём, а дзе́ўцы ад хло́пца друго́е. А яны́ ж тады́ сьцесня́юцца забіра́ць. Бацькі́ тро́хі паруга́юцца, ды і ла́дна.

Хадзі́лі ў лес шука́лі э́ту па́параць-кве́тку. Сабіра́ліся, у ле́се ж страшнава́та но́ччы, сабіра́ліся чалаве́к па пятна́ццаць, па два́ццаць і хадзі́лі, цэ́лай талако́й, блужда́лі па лясу́. Шука́лі стары́х пнёў, а ў э́тых ста́рых пнях сядзе́лі светлячкі́, яны́ гарэ́лі но́ччу, ду́жа жуткава́та было́, аж мура́шкі па це́лу бе́галі. Тарка́лі такі́ вот дзед калю́чы ўваро́ты, штоб ужо́ ве́дзьмы не прайшлі́. Раска́залі, што яны́ ў чаты́ры часы́ ўтра любі́лі сабіра́ць расу́, а пато́м на э́тай расе́ яны́ што́-та каму́-та дзе́лалі. А мы, бесталко́выя, бе́галі, сьлядзі́лі. Каго́ ска́жуць узро́слыя глядзе́ць, за ты́мі мы і бе́галі, глядзе́лі. Глядзе́лі адну́ ба́бу, като́рая сабіра́ла вот е́ту расу́. Про́ста вот руко́й зьбіра́ла ў яку́ю-та пасудзі́ну. Мы сказа́лі бацька́м і ма́мам, што э́ту ба́бу ба́чылі. На кла́дбішча ў дзьвяна́ццаць часо́ў но́чы жу́тка хадзі́ць, кре́пка было́ стра́шна. С хло́пцамі хадзі́лі. Э́та ж на́да было́ не абы́чны, а са сьве́жай магі́лы ўзяць пі$^{е}$ска́. І вяно́чкі плялі́, са ўся́кіх цьвято́ў плялі́, які́я папада́ліс нам, такі́я і плялі́. А тады́ пуска́лі, тако́е ў нас было́ о́зера, пуска́лі – чый быстрэ́й паплыве́ць, пе́рвы паплыве́ць... Ду́жа за́муж усі́м хаце́лася быстрэ́й.

## *ГАВОРКІ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ*

*Л. П. Кунцэвіч*

### ТЭКСТ З ВЁСКІ РУХАВА СТАРАДАРОЖСКАГА РАЁНА

***Расказвае Н. М. Пілюк*, *1932 г. н.*, *мясцовая жыхарка***; *запіс зроблены ў 2013 г.*

***

Е́тых вужо́ў і гадзю́к у нас распладзі́ласо цяпе́р, як ніко́лі. Ле́тась Аню́ччыну А́ню ўкусі́ла за но́гу ў сваі́м агаро́дзе. Яна пу́рськала кардо́плі ат жуко́ў, а кардапля́нік вусо́кі. Не, каб надзе́ць чо́баты. А яна́ пашла́ ў е́тых шлёпанцах і наступі́ла на яе́. Ка́жэ, што зра́зу ду́мала, што аса́ ўкусі́ла. Ву́шла з агаро́ду, шчэ й па ву́ліцы пахадзі́ла, а тады́ чу́е, што ёй што́-то ні до́брэ. Прышо́ў зь ле́су мужы́к, палядзе́ў і гаво́рыць: «Ты што ні ба́чыш, што зу́бы віда́ць, е́то ні аса́, а гадзю́ка

цябе́ ўкусі́ла». Ву́звалі ско́ру. По́куль тая ско́ра прые́хала, ёй і саўсі́м ні до́брэ, упа́ла бес сазна́ньня. Уну́чка бе́гае круго́м: а ба́бачка, ні памі́ра́й. Заве́зьлі ў Даро́гі, і ляжа́ла ў ранíма́цыі цэ́лу нядзе́лю, нага́ распу́хла як кало́да, сі́ня ста́ла. Ледзь атка́палі ка́пяльніцамі. Сказа́лі, што се́рцэ сла́бае, ледзь ву́жыла.

А сёлята зноў бяда́. Ужэ́ ўкусі́ла Грыцуко́ваго зя́ця. По́куль Ка́ця була́ жыва́я, дак прасі́ла, кап паапко́швалі с усі́х бако́ў, а як паме́рла, то хто яго́ апко́швоў. С аднаго́ бо́ку Наза́р даўно́ нічо́го ні се́е, запусьці́ў агаро́т, ужэ́ бяро́зы парасьлі́, з друго́го Сярбія́на даўно́ ні́ма́, ха́ту дзе́ці прадалі́, агаро́д заро́с бады́ллём, с трэ́йцяго – Та́сіна ха́та згарэ́ла ра́зом з дачко́ю п’я́ніцаю, зноў ніхто́ ні са́дзіць нічо́го. А там ні́зкае ме́сто, сы́рась, от іх і распладзі́ласо. Ён пашо́ў ву́браць клубні́цы (шчэ Ка́ця насадзі́ла). Трэ́бло ш прыгляда́цца, раз круго́м такі́е за́расьлі. І га́дзіна ўкусі́ла яго́ за ру́ку. То ты́е ўжэ ні ста́лі ждаць ско́рае, а са́мі скарэ́й папе́рлі яго́ ў Даро́гі, тры дні ляжа́ў у ранíма́цыі, а тады́ перавялі́ ў Мінск, яны́ ш са́мі с Хва́ніпаля. Ва́ля каза́ла, што ні то́лькі рука́ распу́хла, а ўвесь сам распу́х, шчэ й цяпе́р на бальні́чным. І клубні́ц тых аццура́ліса.

Яны́ то і даўне́й куса́лі, але́ ж ні ў агаро́дзе, ні ў двар́э. Не́калі твайго́ ба́цька ўкусі́ла на сенако́се. У Абры́шчах касі́лі се́но, і яго́ вялі́ка чо́рна ўкусі́ла за но́гу. Паку́ль яго́ на кані́ ў сяло́ прыве́зьлі, то но́гу расьпе́рло. Ні́якаго ж цілі́хво́на тады́ ні було́, малакаво́з малако́ ўёз у Даро́гі і яго́ заўёз у бальні́цу, то то́жэ до́ўго ляжа́ў. А ўкусі́ла на Пятра́. Ён жэ сам Пятро́ зва́ўса. Каза́ў, што больш ніко́лі на е́ты пра́зьнік ні́якае рабо́ты ні рабі́ў, сьвяці́ў.

А к нам жэ ле́тась пра́мо к паро́гу прышла́. Аню́та хі́ба́ табе́ ні раска́звала? У святы́ дзень на Узьві́жаньне. Па́шла Аню́та курэ́й запіра́ць і ні́ма́ не́што до́ўго, а тады́ йдзе і ка́жэ, каб мяне́ ні спужа́ць: сяструі́цка, к нам не́хто прышо́ў. Я кажу́: ку́ра чужа́я? – Не, ні ку́ра, а га́дзіна. Туды́ йшла́, то ні ба́чыла, а наза́д іду́, ба́чу не́йкае блішча́стае калясо́ ляжы́ць. Як серабро́ блішчы́ць. Прыгле́дзеласа, а е́то га́дзіна. – А бяжы́ скарэ́й забі́, а то ўцячэ́. – Ні ўцячэ́, я на яе́ тру́бку ця́шку ўскі́нула, мо ні ву́паўзе, тады́ схапі́ла не́йку до́шку, да то́ю до́шкаю па галаве́ таўкла́. А ў яе́ це́раз рот ста́лі гадзяня́та вула́зіць, кру́цяцца круго́м. О, стра́ху нацярпе́ласа. Тады́ ўзяла́ лапа́ту і пане́сла з двара́, а я ш хо́чу палядзе́ць. Ву́шла на га́нак, яна́ ўжэ далекава́то була́, але́ е́тым ду́хом і мяне́ праняло́. То мы но́чачку вачэ́й ні самкну́лі, ні маглі́ засну́ць і ўсё. Я ду́маю, е́то ве́дзьма була́. Ці Маму́ля ці Сьцёпчыха мне прырабля́лі. Е́ту га́дзіну шчэ два гады́ наза́д ба́чылі, як Сьцёпчышын агаро́д ара́лі. Кот хаце́ў убі́ць, а За́гра ні даў, закі́нуў на Ма́ньчын агаро́д. Яны ўжэ тады́ ні се́ялі. Ле́тась Ма́ньчын зяць касі́ў і крычы́ць: Аню́та, у цябе́ на мяжы́ гадзю́ка ляжы́ць. Хай бы ж убі́ў, дак не, Аню́ту заве́. Аню́та атказа́ла: мо паляжы́ць, дай по́йдзе куды́. А яна́ во куды́ прышла́: убе́це мяне́. На Узьві́жаньне ж яны́ скру́чваюцца ў клупкі́ і хава́юцца на зі́му (я ніко́лі ў лес у е́ты дзень ні хаджу́, бо ка́жуць, паўзу́ць с усі́х бако́ў), а е́та ні пашла́. Е́та ве́дзьма мяне́ і му́чыла ўсю́ жысь: гаспада́р пам’ёр у со́рак гадо́ў, Са́шку с а́рміі прыве́зьлі ў труне́, тады́ Ко́лька, як і ба́цько, у со́рак гадо́ў пам’ёр, Ада́м з нага́мі му́чыцца. Дак дзе ж у мяне́ бу́дзе то́е здаро́ўе. Дыха́ньне захлупля́е, ні магу́ ды́хаць, у бальні́цы сказа́лі, што ве́льмо се́рцэ ўвялі́чанае, но́гі атказа́лі саўсі́м, кап ні е́та Аню́та, то хоць жыва́я ў я́му лезь. Е́то то́чно яны́ прырабля́лі мне, абе́дзьве зна́лі, адну́ ма́ці навучы́ла, Ана́ніха, а другу́ю ба́ба.

Вясно́ю Ула́сянчыха кардо́плі садзі́ла, дак ву́аралі дзьве, то тых забі́лі. Шчэ ні паўла́зілі наве́рх, у нары́ сядзе́лі. А во ўчо́рэ раска́звала, што маты́чыла ты́е кардо́плі, а тады́ се́лі з Дахту́ркаю пуд ігру́шаю аддыхну́ць. Глядзя́ць – га́дзіна, скруці́ўшыса ляжы́ць, грэ́ецца. Ула́сянчыха ж ішчэ́ шу́стра, ускочы́ла, да маты́каю засе́кла ту́ю га́дзіну. Цяпе́р без чабо́т у агаро́д ні ты́кайса, стра́шно. Хі́ба́ ж калі́ тако́е було́, кап так пазаро́стало круго́м, усе́ ж засе́яно було́, за пало́ску зямлі́ сварылі́са. Ні дай Бог, каб су́се́д, хоць на п’я́дзю заня́ў чужо́го! Усе́ було́ апко́шано, ва ўсіх жэ каро́вы булі́, усе́ стара́ліса, хоць бы дзе яку́ю дзяру́жку се́на ву́касіць. І кана́вы апко́швалі, і ўзле́скі, і ме́жы. Палядзі́, яка́я цяпе́р кана́ва, вады́ тае́ ні віда́ць, панараста́ло круго́м малі́ньніку, ажы́ньніку, крапі́вы, лазо́ю пазаро́стало. Чаму́ тым гадзю́кам ні пладзі́цца. Ты ж са́ма по́мніш, яка́я була́ кана́ва. Вада́ чы́сьцянька, пясо́чэк на дне жо́ўцянькі, ідзе́ш зь ле́су і нап’е́сса, і са́мі му́ліса, і бяльлё пра́лі, ля ко́жнаго двара́ кла́дачка. Берагі́ аплецяные булі́, апко́шаные, па тры раз на ле́то касі́лі. Дзе той

га́дзіне схава́цца? А цяпе́р дзе той жо́ўцяньці пясо́чэк? Чо́рнае каламу́ці панано́сіло, ля во́зяра бабрэ́ плаці́ны парабі́лі, е́тые п’я́ніцы нае́жджые абы-што́ кі́даюць у кана́ву, ніхто́ ні апко́швае. Ра́ньшэ ж назнача́лі кана́ўшчыка, то ён і глядзе́ў. А цяпе́р нічо́го ніко́му ні трэ́ба. Адна́ каро́ва ў сяле́. Што яна́ ўсе е́тае се́но пае́сь? Му́сіць, ско́рэ ні сяла́, ні людзе́й ні бу́дзе. Адны́ га́дзіны бу́дуць по́ўзаць. Во зрабі́ласо, хіба́ не́калі хто ду́моў, што так бу́дзе? У ле́се дзень хадзі́ і ні ўба́чыш ні вужа́, ні гадзю́кі, а ў дварэ́ бо́йса, хадзі́ і агля́дайса.

*В. П. Трайкоўская, Г. К. Ціванова*

## ТЭКСТЫ З ВЁСКІ ПРЫЛУКІ МІНСКАГА РАЁНА

***Расказвае Г. У. Вайтовіч, 1935 г. н., адукацыя 7 класаў, ураджэнка в. Далгінава Уздзенскага р-на, з 1958 г. жыве ў в. Прылукі;*** *запіс зроблены ў 2012 г. Н. А. Коўшар, В. І. Ліхадзіеўскай, студэнтамі 2-й групы аддзялення беларускай філалогіі філалагічнага факультэта БДУ.*

### Пра сябе

Працава́ла, паштальёнам была́ два́ццаць во́сем го́т пранасі́ла. У́зьдзенскі раён, та́мака вучы́ліся, радзі́лася. А вёска Далгі́нава. Вёска бальша́я. Па́па Вало́дзя, ма́ма Со́ф’я, брат Ва́ся, Шу́ра, я і сістра́ ста́ршая мая́ Гэ́ля. Ну, па дакуме́нтах яна́ дык і Еле́на ш, а як вот заву́ць па-дзераве́нскі, дык Гэ́ля. Ужэ́ залату́ю сва́дзьбу атгуля́лі зь дзе́дам уме́сьці ў дзьве ты́сячы дзеся́тым. Мой муш працава́ў ў электрадзепо́ ў го́радзі, сігналі́ст, цяпе́р по́ймеш, як ён называ́ецца. У дзе́цтві ў шко́лу хадзі́лі, сем кла́саў ко́нчыла. Чаты́ры ў сваёй дзярэ́ўні, а тады́ сем кіло́метраў атхадзі́лі. Па́па рабі́ў у леспрмхо́зі, а ма́ма ў калхо́зі. Бра́т адзі́н трактары́стам і другі́ кантралёрам, а сістра́ была́ на брыга́дах хадзі́ла. Ну а тады́ ўжэ ў шэйся́т пя́тым гаду́ ўжэ на по́шту пашла́ по́шту насі́ць, да дзевяно́стага го́ду [насіла]. На пе́нсію пашла́, тады́ яшчэ́ тры гады́ парабі́ла.

### Маладосць

Ай, яко́е ў нас вясе́льле было́. Ну, было́ сра́зу ш у мяне́, пато́м прые́халі сюда́. Ай, нічо́га я ні ве́даю. У шко́лу хадзі́лі, а на ле́тнія кані́кулы ў калхо́с хадзі́лі. У калхо́зі па́лкі ста́вілі – трудадні́, а палучы́ць... Ну хадзі́лі за жа́ткаю, вяза́лі снапы́. Як ста́рыя, дык там па тры, шэсь, а нас мо́жа і пятна́ццаць чалаве́к – вядо́ма дзе́ці малады́я. Наро́бісься, а як уве́чары пачу́еш му́зыку, дык усё: памы́ўся і галяпа́ на та́нцы.

### Танцы

Цяпе́р жа ш дзіскаце́ка, тады́ та́нцы былі́. Кавале́раў было́: дзе́ ні пайе́дзем, да́жэ са сваі́м дружы́ла хло́пцам. Да́лі мне́ каранці́н: дзьве́ нядзе́лі на та́нцы ні хадзі́ла, а мы с падру́гай на віласыпе́т і да́льшэ пае́халі. Ну, ка́ждый ш дзень ні было́, субо́та, нядзе́ля. Паглядзе́ў, што дзе́ла ні клюе́цца, тады перада́ў бра́там дваю́радным: пусьць прыхо́дзіць на та́нцы. Та́нцы ш ні такі́я, як цяпе́р. Як уклю́чаць по́льку, дык е́ле на двор вы́скачыш, то́паеш, набярэ́сься.

### Варажба і святы

Тады́ беднatá была́, тады́ ў што адзява́ліся, бо́жа мо́й, сі́тцавыя [сукенкі], і то красі́ва. Гада́лі... і дро́вы насі́лі, бліны́ пяклі́, саба́ку кармі́лі. І дро́вы цяга́лі, і до́ма пра́лі, і ба́бкі насі́лі, бо ў яе́ няма́, ні было́ дро́ў, а яна́ адна́ адзіно́кая, а яна́ нам гарэ́лкі дась, самаго́начкі. Шчо́дры ве́чар рабі́лі, бе́галі пад во́кнамі ці ісьці́ ці сяць. Ма́ма то ўчу́ла, ка́жа, не́хта шкрэ́баў кала акна́. Дык яна́: «Ідзі́, ідзі́!» У ха́це на нас на като́рых ці там на ката́: «Ідзі́, ідзі́, бяжы́!» А так уся́к было́. Дзяду́лю і бабу́лю ні ве́даю я. Вот на Па́сху ужэ́ зьбіра́емся, чака́ем, кап пла́це.

**Не тое, што раней...**

Больш людзе́й было́: стары́х было́ мно́га. Усе́ во пазьміра́лі, малады́я ў го́радзі туда́-сюда́, пу́ста. Шчэ як ле́там на кані́кулы, дык... а ха́ты пусты́я стая́ць. А ле́та, дык дзе́ці на кані́кулах, дык бо́лей людзе́й. Маладзёш у го́радзі, стары́я... так і дажыва́ем. Маладзёжы і стары́х многа было́, ве́дама, дзярэ́ўня. Цяпе́р паразьяжджа́ліся, дамы́ стая́ць, акані́цы гэ́тыя пазакрыва́ны: у той німа́ каму́ жыць, там німа́ каму́ жыць. А не́калі ш ве́села было́, дзяце́й у ка́ждай ма́церы які́х чацьвёра, пяцёра. Маладзёжы мно́га было́.

**Як жылі**

То́лькі што ве́села, людзе́й, маладзёжы, а то́жа бе́дна жылі́. Шчэ ў каго́ па́пка, дык лу́чша, а ў каго́ ні было́ – бе́днінька. Уса́дзьбы па шэ́йсят со́так, дык се́ялі, каро́ўкі былі́, а кап каро́вы ні было́, дык бы і памёр бы з го́ладу. Пасьля вайны́ дык гэтак нічо́га ні было́, то́лькі што сваё пасе́еш, зьбярэ́ш. Калхо́зы ста́лі, дык нічо́га ні было́ палуча́ць, а рабі́ць рабілі. Ішлі́, ні по́йдзеш, дык абагу́львалі, ішлі́. Сабра́нія зрабі́лі і пашлі́. Ко́ней забіра́лі, каро́ў. Адзін ні пашо́ў, дык с калхо́за зямлю́ адня́лі па паро́х. Тады́ і пашо́ў. Што рабі́ць.

Жыло́ся пло́ха. І на вайне́ людзе́й, маладзёш, пабі́ла. Ну, а цяпе́р... Сем кіло́метраў шко́ла, хадзілі це́разь ле́с, дык паплято́мся адна́ за адну́ю, а дзе ўбо́к як лес, дык у пе́нь сту́кнесься, дык вот так гу́ртам зьбіра́ліся. У каго́ батарэ́йка, у каго́ не́йкую ба́нку рабілі ад консе́рвы, дзі́ркі паро́бяць, і там смо́лак, кру́цяць, іду́ць. Віда́ць тро́ху. Зады́мімся, ваню́чыя. Кніг ні было́. Даду́ць на траі́х, на чатыро́х, дык ты́я [у каго няма кнігі] прыхо́дзяць і сьпі́сваюць. Ру́чак ні было́, бума́гі ні было́. У ма́мы сунду́к такі́ быў аклее́ны, дык акура́тнька ма́ма ўжэ адзьдзярэ́, і на гэ́тай бума́гі піса́лі. Экза́мены здава́лі ў чацьвёртым кла́се, дык цьвято́ў ні было́, чаро́муху, бэз по́йдзеш нало́міш. А чаму́ ні се́ялі до́ма? Му́сіць, семяна́ ні было́.

**Не ўвесь час працаваць**

Што паса́дзіш на ўса́дзьбі, [елі]. Гро́шай ні дава́лі, калі́ яко́е яйцо́ на база́р занясе́ш ці які́ сыро́к, кап на пла́це. Палядзіш «ой, ма́мка, у Лі́ды пла́ціца во..» «Ну дык вы хо́чаце кап і сьмята́нку паліза́ць, і кап яе́чка зье́сьці, зна́чыць на́да тро́шку аканамне́й». А сі́цец быў па пійсят капе́ек ме́тар. Сістра́ дваю́радная на́ша шы́ла харашо́, ана́ дзьве з ма́май то́лька жылі́. Дык мы по́йдзем, дро́вы парэ́жам, садзі́ць ці пало́ць по́йдзем памо́жам. Ана́ сядзі́ць нам шые́ пла́ці, суке́нкі, а мы ўжэ рабо́таем. Вот на ве́чар і на та́нцы адзе́неш. Дзе яны́ і калі́ ўсьпе́лі пашы́ць. Але́ к Па́схі заўсёды былі́ і ту́фелькі, і пла́ціца. Чака́еш скарэ́й, кап надзе́ць ды паляце́ць па ву́ліцы.

**Як вялі гаспадарку**

Усё садзі́лі: цыбу́лю, марко́ўку, бурачкі́, карто́шку. Як і цяпе́р на дзярэ́ўні ўсё са́дзяць. Ну і яшчэ́ што се́ялі – трэ́ба ш кап і каро́ўцы была́ сало́ма яка́я, бру́чку ў калхо́зі садзі́лі, дык укра́дзеш раса́ду і до́ма паса́дзіш. Уручну́ю касі́лі, уручну́ю і жа́лі сярпо́м. Мы малы́я хадзілі ма́мі памага́ць, хаце́лася ш, кап бо́лей вы́жаць, а тады́ жжэ́ўнік гэ́ты быў, а тады́ дава́лі касі́ць, ну дык памага́лі, кап больш ма́ці нажа́ла со́так. Пасьля вайны́ ве́льмі ця́шка было́, ве́дама, усё паразьбіва́на. Але́ паціхо́ньку, паціхо́ньку, што сваё, тады́ ўжэ ста́лі дзе́ рабі́ць дзе́ што́, гро́шы яку́ю капе́йку, ну і пашлі́ ў хот. І ні ве́рыцца, што ўсё прайшло́.

**Свята**

Сёньня ш пра́зьнік, сьвя́та. Тут як пае́халі ўчо́ра, я кап ні на машы́ні, дык бы ні пашла́. Ну а як на машы́ні ўнук прые́хаў: «Ба́бушка, садзі́ся пае́халі». Дык я нічо́га ні рабі́ла там, стая́ла, пахадзі́ла, а прае́хала, дык паглядзе́ла. Бо́жачкі!.. Так убіра́юць, так убіра́юць, падо́йдзеш, усё ро́ўна як гары́ць. Гэ́так цьвято́ў цяпе́р, бо́жа.

### Паўсядзённы клопат

Ку́ры ёсьці і парася́ткі ёсьць. Купі́лі пат кане́ц наябра́, падрасьлі́. Як жа ш жы́ць, кап нічо́га ні было́. Во прыяжджа́юць із го́рада: «Ма́ма, дай што». Во за́рас прые́дуць – накрыва́й ма́ці сто́л. Уну́чка дык любіць шква́рачку, дык і ідзі́ пажа́р шква́рачку. Ёсьць што́ ні дзяржа́ць ні ку́ры, і ні парася́ціны, ні курча́ціны. Няве́стка ў бальні́цы по́варам, дык атхо́ды – памы́і, што астае́цца, кускі́ хле́ба, яда́, муку́ ку́пім, так і глядзі́м. До́рага, ні вы́гадна, як ка́жуць, дзяржа́ць, усё купля́ем. Здаро́ўя німа́, ста́расьць найшла́ і ўсё, як вол у до́ўбні, але́ ш трэ́ба рабі́ць, трэ́ба жыць.

*В. П. Трайкоўская*

## ТЭКСТЫ З ВЁСКІ КАХАНАЎШЧЫНА МІНСКАГА РАЁНА

***Расказвае Н. П. Тараканава, 1925 г. н., адукацыя базавая, ураджэнка і жыхарка в. Каханаўшчына;*** *запіс зроблены ў 2012 г. А. А. Якуба, А. А. Казлоўскай, М. М. Мандавай, студэнтамі 2-й групы аддзялення беларускай філалогіі філалагічнага факультэта БДУ.*

### Вёска

А што вам расказа́ць пра гэ́тую вёску? Мае́ дзе́ткі, мае́… Вот вёска. Жыву́ць лю́дзі ды ўсё, рабо́таюць. У на́шая вёскі то́лькі со́рак дамо́ў ці со́рак адзі́н. А цяпе́р нам там прыстро́ілі. На фе́рме ма́ла было́ гэ́тых людзе́й, дык прыстро́ілі, мы ау́лы завём ужэ́. Ну, длі́нныя такі́я, як бара́кі. Дык вот прыстро́ілі. А так нічо́га тако́га. Лю́дзі рабо́таюць. Ра́ньша і цяпе́р. Цяпе́р ужо́ у нас ма́ла саўсі́м людзе́й ста́лася [засталося], мае́ вы дзе́ткі. Усе́, усе́, і маладзёш пашла́ ў го́рат, такі́я стары́я ста́ліся [засталіся] до́ма. Дык ужо́ хто саста́рыўся до́бра, а хто йшчэ́ і маладзе́йшы тро́ха. І вот так і жыву́ць. Ні дзіржа́ць нічо́га ні хо́чаць ніхто́. Ну, ўжо і стары́я като́рыя і ня хо́чуць дзяржа́ць.

### Як сябе людзі называюць

А ў нас… Нія́к не заву́ць, наве́рна, вот. Быва́е, дзе з кім гаво́раць, дык гаво́раць: «Атку́да ты?». Ці ў бальні́цы, ці дзе, дык ці ў го́радзе. Дык гаво́раць: «С Каха́наўшчыны». Другі́ – Ляво́нцавічы. Вот там. Мо́сьцік такі́, са́жалачка. Гэ́на Ляво́нцавічы. Там Падга́й. Дак про́ста так вот і заву́ць. Як ано́ называ́ецца? Я нічо́га тако́га ні зна́ю. То́лькі рабо́таш і ўсё.

### Вайна

Не́мцы былі́. Жэш [ужо ж] вайна́ была́, по́мніце. Дык вот… Там жа ў нас на го́рке, там і до́ма німа́, дык э́та з нача́ла дзярэ́ўні на гэ́ты бок у́ліцы, там [былі] парцыза́ны, мы дык ні зна́ім, но вот гавары́лі, што заста́лі парцыза́наў. Дык іх бацько́ў… А ў Падга́і ш кара́цельны атра́т быў. Я́к-та аны́ называ́ліся? Ой… Кара́цельны атра́д не́мцаў гэ́тых. От забы́лася. Дык яны́ [немцы] йіх забра́лі. Дык бе́дныя дзе́ткі і ні зна́юць, дзе іх бацькі́ пахо́ваны. Лупі́лі іх, бі́лі, бі́лі, пазабіва́лі. Яны́ там не то́лька йіх, але́ хто правіня́іцца, правіні́ўся, ўжо йіх [катавалі]... Ці яны́ йім пацсказа́лі, наве́рна, мо́жа, што прыхо́дзілі. Я дак сама́ ні зна́ю. Тады́ ш вайна́, дык на́тта ш ніхто́ ніхдзе́ і ні хадзі́лі. Ды мы, дзе́ткі, такі́е [былі, як] вы. Мы малы́я яшчэ́ былі́. Дык забра́лі, заму́чылі гэ́тых бацько́ў, ма́му й па́пу. А дво́е там астало́ся малы́х, дык йіх нагадава́ліся, гадава́ліся. Вот цяпе́рака адзі́н памёр ужо́, стары́ стаў, а адна́ ішчэ́ жыве́.

### Як жывуць людзі

Ну, чым я займа́юся? Ніздаро́віцца тро́ха. Што вот раблю́, займа́юся, нічо́га ні [магу]… Там у нас лю́дзі займа́юцца, хто як хто. А людзе́й тут німа́ такі́х. Маладзёжы, ніко́га німа́. Так у нас там адна́, дык яна́ туры́стаў прыма́е. Ну, ні туры́стаў, а хто хо́ча аддыхну́ць. Вот, мо́жа, ба́чылі тут

такі́я, на бало́це [домікі]. Вот так ідзе́ш с той стараны́. Да́жэ з двара́ ў нас там віда́ць. Такі́я до́мікі парабі́лі, і лю́дзі прые́дут. У го́радзе такі́я, як вы, ро́біце, жывецё, німа́ блі́ска радны́х, у каго́ і саўсі́м німа́. І вот яны́ прыязжа́юць к йім на о́ддых к гэ́тай жэ́ньшчыне. Там вон рэ́чка ідзе́, і лес там і там. Вот так вот і жыву́ць лю́дзі. Ла́ўка прыяжжа́е ў ты́дзень рас ці два, ні зна́ю, ні по́мню. А што стары́ чалаве́к… Як былі́ малады́я, дык хадзі́ла ў го́рад на по́ест аш у Шчо́мысліцы. Там Слабада́. На по́іст, е́зьдзілі на рабо́ту ў го́рат. Далёка, дзе́ткі, ды стра́шна. А зімо́й як заду́е сьнех, дык ла́зіш па гэ́тым сьнягу́. Лявонцаўскія да́жэ ў гэ́ты бок прыхо́дзілі.

**Цяжкі пасляваенны час**

Мяне́ ш забра́лі на гэ́ты… на вайну́, дык аш у По́льшчу. Гэ́та ужэ́, як асвабадзі́лі нас, – Мінск, Белару́сь. Яны́ ш ужо́ атту́ль йіх гна́лі, на за́пат, ну дык вот тады́ забра́лі. А пасля́ вайны́ галадо́ўка была́, дзе́ткі. І адзе́ць ні было́ чаго́. По́мню, мне ма́ма пашы́ла ю́пку с адзія́ла. С зялёненькага, суко́ннага. Тру́дна было́ жыць… Але́ ш жылі́, рабо́талі. Вайна́ ко́нчылася, дык во маладзёш пасьля́ гэ́тага пашла́ ўся ў го́рат на заво́ды, на фа́брыкі. І я рабі́ла, але́ вот так прышло́ся.

**Сродак сувязі**

Цяпе́р жа во гэ́такія ё, мабі́льнікі ці як яны́? А ў нас э́ты, целефо́н такі́, як ужо́ уча́снік вайны́, дык нам правялі́. Там напі́сана на гэ́тым. Дык нам такі́ целефо́н, насто́льны. Дык зво́ніць, зво́нім у бальні́цу. Там хто ско́рую вызыва́е, каго́ забяру́ць прые́дуць. Каму́ до́ма памо́гуць, яку́ю по́машч. Вот так і жывём, дзе́ткі.

**Што садзяць**

І бу́льбу, і ўсё са́дзіцца. Я ўжо… І калі́ я бу́ду садзі́ць можа́, ні зна́ю. Што ране́й саджа́лі? Пе́рвае… Ну што са́дзяць? Карто́шку пе́рвую, яку́ю цыбу́лю ці там сала́т, кроп, бурачкі́, марко́ўку, капу́сту, усё гэ́такае. Са́дзіць хто. Хто са́дзіць, а хто тро́ху, хто бо́льшыя, как хто хо́ча.

**Прысмакі на Вялікдзень**

Старо́му чалаве́ку на́тта сма́чная ня вы́думаеш. Трэ́ба малады́ кап што рабі́ў. Ай. У маладо́сьці ўсё. Вары́лі я́йкі, кра́сілі, бу́лкі пяклі́, мя́са вары́лі, калба́сы. Ра́ньше ш сваё не́як было́ ўсё: дзержа́лі свіне́й, каро́ў, усё. А цяпе́рака што? У гэ́тым гаду́ бу́лку купі́ў гато́вую. Але́ ўку́сныя былі́ бу́лкі гато́выя то́жэ. Ну тро́ха ні така́я, як свая́. У свае́ там яе́чкі, малако́ льюць, а гэ́та ўжо ні так. Но і то ўку́сная, сла́ткая.

**Танцы**

Во, дзе́ткі, у маладо́сьці, дык такі́я та́нцы. На ву́ліцы зьбіра́ліся ў бу́дныя дні. Хлапцы́ ігра́лі, хто ўме́е, на гармо́шке, балала́йкі. Хадзі́лі мы, зьбіра́ліся, та́нцы рабі́лі. Так прасі́ліся ў каго́, у ха́ту [каб] пусьці́лі пагуля́ць. Ай, гармо́шка, крык і стук. Іньцярэ́сна. Маладо́му, дзе́ткі, саўсі́м друго́е настрае́нье. Шмат было́ і хло́пцаў, і дзе́вак. У ка́жнай ха́це было́ па не́ска [некалькі] чалаве́к. А цяпе́р што, асталі́ся ту́дака пяць гэ́тых… Дык хто памёр, хто ў го́радзе, хто як гдзе. Німа́. Ужо́ асталі́ся ста́лыя, стар’ё гэ́та. Стары́я, дзе́ткі, астало́ся дажыва́ць век.

Адзява́лі што? Што хаце́лі… Хто ж хо́ча, кап са́мае харо́шае ў яго́ было́. Ну, рабі́лі с мацеры́ялаў, шы́лі. Ня по́мню, гато́выя ці купля́лі, то шы́лі. Партні́хі былі́ ў сяле́. Адна́ ці дзьве́ быва́е. А дзе́ўкі ш малады́я, хо́чуць, кап но́вы ці ту́фель купі́ць, кап у яго́ было́, у яе́, у друго́й не было́. Але́ ш купля́лі. Ну зра́зу пасля вайны́ то́жа тру́дна было́. Ні было́ нічо́га.

### Як пасвілі кароў

Па́сьвілі [кароў]. Дзе пасту́х, найма́юць, калі́ ёсць, зго́дзіцца. А як ні́ма, дык пасу́ць па чарзе́, там па дваі́х ці па адно́м пасу́ць. Па адно́м, дык не́шта я ня по́мню. Як малы́я былі́, дык он па́сьвіў ка́жны дзень. І свіня́м мэшо́к от такі́ травы́ нарве́м, бо іш [яшчэ] хадзі́лі і ў лес во ў гэ́ты. Дык ні падня́ць [мяшок]! Ста́віш на кале́нькі, падыма́іш. Стано́вісься, кап зь мяшко́м уста́ць. На́да ш. Вот прынясе́ш дамо́ў, дык тады́ ўжо дасі́ каро́ве ці свіня́м, асо́бенна свіння́м.

### Шмат дзяцей – весела!

У мяне́ трох было́, у нас. От ра́ньша ў като́рых было́ па дзе́сяць дзяце́й, па дзе́вяць, па сем [дзяцей]. Э́та до́бра, як усе́ вы́гадуюцца. Тады́ як вялікі́я, дык ве́села! У го́сьці адзі́н да аднаго́ прыхо́дзяць.

### Школа

Была́ ў Лявонцавіч шко́ла, у тэй дзярэ́ўні. А тада́ сяміго́тка, у Прылу́кі хадзі́лі. Яны́ не тут, да рэ́чкі. Вот мост, там, вот як на Ато́ліна, даро́га. Дык стаі́ць такі́, двухпавярхо́вы [дом]. Э́та шко́ла была́. Сяміго́тка была́. Зва́лі сяміго́тка. Во́сем кла́саў зако́нчыла. Не было́ кні́жак, дык больш не хадзі́ла. Кні́жак ні было́, ні [дакупішся]. Ай… Ды йшчэ гэ́та, як ні́ма як учы́цца, на́да, бывае́, і рабі́ць до́ма каму́! Учы́цца… Усе́ ж ня бу́дуць учы́цца.

### Якія бываюць людзі

Уся́кія ж лю́дзі быва́юць. Вот і хара́кцер як у каго́, зло́сны такі́, і не скажы́ нічо́га тако́га, фы́ркне… быва́юць і такі́я. Да, быва́юць такі́я ла́скавыя, хоць ка́жа: «У карма́н кладзі́ яго́ ўжо», – такі́я. А другі́я такі́я. Гэ́та ж як ат хара́кцеру чалаве́ка. Вот, мае́ дзе́ткі, ой.

### Як пры немцах на работу ганялі

Пры не́мцах ганя́лі на рабо́ту… О-о-о… А то ў Герма́нію забяру́ць, дык ця́шка то́жэ было́. [На работу] хадзі́лі, баі́сься жэ. Яны́ ж з ару́жыям. І по́йдзеш на даро́гу, ганя́лі. Але́ яны́ не ганя́лі на́тта, кап ужо́ рабі́лі спрыгну́ўшыся. Ста́неш, пастаі́ш, але́ кап шавяль́іўся, кап рабі́ў. Ай, ай е чо́рты ж жы́зьні, дзе́ткі, маладо́му дык харашо́.

### Нікога няма...

Ай, у нас, наве́рна, ніко́га німа́ тут. Тут ма́ла людзе́й. Вот у нас адзі́н мушчы́на, што прыхо́дзіў што сюды́… Дык вот там ха́та йіх і на́ша, і во на то́й бок. Тут дамо́ў шэсьць. А шчэ ле́там прыяжжа́юць да́чнікі. А як так, дык німа́ ніко́га. Зімо́й дык то́лька вот гэ́тыя, ку́чка. Нас шэсьць, наве́рна, дамо́ў. Вот кірпі́чны [дом] і там ля яго́ так. І вот мы, і вот гэ́тыя. Но і там яшчэ́ два дамы́, за кало́дзежам тры, і ўсё, ніко́га німа́. Вот так і жыве́цца. Хто як смо́жа… Ле́там калі́ прыяжжа́юць свае́, цяпе́р німа́ каму́. Усе́ рабо́таюць, дзе́ткі. Вот на кла́дбішчы прыяжжа́лі учара́. А так німа́. У нас вот гэ́ты сасёнічак, во гэ́ты – на́шы мо́гілкі. За гэ́тым… во за гэ́тымі дама́мі. У гэ́тым сасёнічку блі́ска мо́гілкі, дык далёка валачы́ць ні на́да, блі́ска.

***

Тут вот, у гэ́ты бок тро́хі, і там за кало́дзежам ішчэ́ дамы́ са тры ці с чаты́ры, наве́рна жыву́ць, чорт іх зна́е. Гэ́та цяпе́р… Тут з го́раду хто, а там адна́ ёсць мясцо́вая, але́, ну, во́бшчэм, яна́ ўсё врэ́мя жыве́, як вы́шла за́муш. Сюды́ прыхо́дзяць то́лькі на ўса́дзьбу ле́там. Прыхо́дзяць, пасе́яць, вот да́чы. У каго́ бацькі́, дык ім ня трэ́ба і прасі́ць, дзе гэ́та то́лька афо́рміці там па два́ццаць пяць со́так да́шнікам.

**Баліць – дык жывём!**

О-о-о-о, мае́ вы дзе́ткі, дзе до́бра, калі́ ўсё балі́ць. У бальні́цу як по́йдзіш, дык усё балі́ць: но́гі баля́ць, тут такі́я… такі́я панараста́лі, галава́ балі́т, даўле́нне, се́рца і спіна́… Да, боль гэ́та ш, ка́жа, як па целівізіру пака́зывае, рас балі́ць ці як гэ́та, дык жывём. Не́як так, я забы́лася, Бог яго́ зна́е. Дык вот так і жывём, вот такі́е дзяла́. Дык тады́, ка́жуць, на́да хоць за сьце́нку, за крава́ць бра́цца, кап гэ́та [рабіць], кап хадзі́ць.

*Г. К. Ціванова*

## ТЭКСТЫ З ВЁСКІ МОРАЧ КЛЕЦКАГА РАЁНА

***Расказвае С. І. Сасіновіч, 1942 г. н., адукацыя 8 класаў, мясцовая жыхарка, праваслаўная;*** *запіс зроблены ў 2012 г. І. У. Кашуба, студэнткай 1-й групы аддзялення беларускай філалогіі філалагічнага факультэта БДУ.*

**З гісторыі назвы вёскі Колкі**

Я чу́ла даўно́ ад стары́х людзе́й, што ране́й тут былі́ ляса́ непрахадзі́мыя. Дак нек хадзі́ў па гэ́тых лясо́х чалаве́к. Ён блука́ў-блука́ў і дайшо́ў да таго́ ме́сца, дзе сяго́ння Ко́лак. А там к дзе́раву была́ прыў́язана жанчы́на. А ён жа ш ні знаў, што гэ́то жанчы́на, таму́ што яна́ была́ адзе́та ў вае́ннае. Яна́ яго́ пачала́ прасі́ць, кап ён яе́ не бая́ўся, разьвяза́ў. От разьвяза́ў ён яе́ і пачалі́ гавары́ць. Што, зна́чыцца, вы́йшло так. Яна́ сасла́на была́ сюды́. Яе́ прыве́зьлі, к дзе́раву прывяза́лі, штоп заму́чылася. Ён то́жэ быў адзіно́кі. Ну дак от сышлі́ся й ста́лі жыць. І гэ́то ме́сто, дзе нашлі́ жанчы́ну, ста́лі называ́ць Ко́лкі, бо гэ́ты чалаве́к, як кол, быў адзі́н на ўвесь сьвет. От таму́ і Ко́лкі.

**Пра марачанскую даўніну**

Мо́рач сра́зу была́, як мне раска́зваў мой дзет, нівялі́кім сяло́м, а круга́ – анно́ бало́то да лес. Лю́дзі былі́ адарваны ад усе́нькага сьве́ту, жылі́ са свайго́ мазуля́. А ў ле́сі было́ мно́го га́даў, грыбо́ў, да й зве́ру хапа́ло, от і выжыва́лі. А як пасьпе́юць я́гады, то ўсе жанкі́ зь дзе́цьмі бягу́ць у лес. До́брэ тагды́ зімо́ю, калі́ ма́ло хле́ба зье́сці, вары з грыба́мі, су́шаных я́гадак. А як засьпява́е като́ра з жано́к, то я́хо нясе́ пе́сьню па ўсім ле́сі. А нам і я́гады лаў́чэ́й зьбіра́ць. А шчэ ж ве́льмо мно́го было́ ўво́сень на балато́х, у Пы́р’і, жураўлі́н. А як ране́й лю́дзі адзі́н за аднаго́ заро́й стая́лі. От калі́ ў каго́ ха́та згара́ла, то ко́жны стара́ўся памахчы́ (ні лі́шняе ш і ў сваёй ха́ці было́: бе́дно жылі́ ўсе), але́ нёс чалаве́ку, памага́ў, чым мо́х. А мужыкі́ лес кра́лі, цяга́лі на ха́ту, а по́сле й рабі́лі ра́зам. Зямлі́ ў людзе́й было́ ма́ло, ну хіба́ ўжэ ў Галавіны́х ці Якубавых было́ больш, бо круга́ ж бало́то. Але́ ко́жна сям’я́ працава́ла на зяме́льцы до́брэ. А калі́ ўжэ вы́йдуць жанкі́ ўра́нку жаць, да като́ра пачне́ пе́сьню:

Малада́ мало́дачка жы́то жа́ла,
Пад мяжо́й дзіця́ ляжа́ло…

А быва́ло, і ляжа́ло дзіця́тко пад мяжо́ю, бо ні бы́ло калі́ над ім сядзе́ць. Запла́чэ като́рае, а ма́ці падбяжы́ць, пако́рміць яго́, а то шчэ яко́му крыклі́ваму і су́слу ўсу́не ў рот, каб не адрыва́ло ад рабо́ты. А сама́ зноў за серп. Мно́го і ця́шко рабі́ў ко́жны.

**Цыганскі праклён**

Даўне́й у нас у Мо́рачы было́ мно́го маладзёжы, усе́ зьбіра́ліся ве́чарам на ла́ўкі, сядзе́лі на ла́ўках і сьпява́лі, а ў мяне́ па-сусе́тву жыла́ дзе́ўка, адна́ ў бацько́ў, яна́ ве́льмо хо́рашо ўбіра́лася, яна́ ўме́ла ткаць, вапшчэ́ была́ ўда́ла. По́тым да нас прыяжджа́лі цыга́не, тые цыга́не рабі́лі

сва́дзьбу, зае́халі ў лес, накла́лі касьцёр вялі́кі агню́, а мы ж усе́: дава́й пабяго́м на цыга́нску сва́дзьбу. І пашлі́. Там та́нцы, там сьпява́лі й нас бра́лі танцава́ць, дак като́ра дзе́ўка пашла́, а гэ́та, мая́ сусе́дка і ні пашла́ з цыгано́м, які́ бра́ў яе́. Каб яна́ ні з кім ні пашла́, а то з другі́м марацкі́м хло́пцам пашла́ танцава́ць. Што ш гэ́така была́: адна́ ў бацько́ў, да гэ́така бага́та, да гэ́такіх бацько́ў залаты́х, ужэ́ ні вядо́мо. Яна́ ні пашла́. Дак да яе́ падышо́ў той цыга́н ды ка́жэ: «Ты бу́дзеш усю́ жы́зьню танцава́ць, на ка́жды пра́зьнік». Дак нек даў ёй руко́ю па галаве́. Грабя́ні́ ты́я ж ра́зы ў ко́сы ў нас, да сту́жкі, да па́церкі закла́двалі, каб хо́рашо было́. Дак ужэ́ ж яна́ нек ні заме́ціла нічо́го, а по́тым к ёй ужэ́ так бы назнача́ліся сваты́. Марацкі́ хло́пец прыхо́дзіў. «От я прыду́ ў субо́ту ў сваты́», – ка́жэ. Ну до́брэ, яна́ й сагла́сна. Так, яны́ ўжэ́ ў субо́ту зра́нку шчэ узна́юць, што гэ́туй дзе́ўцы пло́хо ста́ло, ужэ́ яна́ хо́дзіць сю́ды-ту́ды. Ужэ́ гэ́то не́што ёй той цыга́н насла́ў, мо пракля́ў. І яна́ ўжэ й па бальні́цах ляжа́ла і ўсю́ды, і ніхто́ нічо́го ёй ні памо́х, так яна́ і застала́ся ў дзе́ўках, і ніхто́ яе́ ні ўзяў. Яна́ й паме́рла малада́я.

### Сямейная ваенная трагедыя

У нас у сям'і́ было́ мно́го дзяце́й. Даўне́й жа ж было́ й тру́дно, й ця́жко жыць, але́ ш кі́даліся як-не́будзь. А як пачала́ся вайна́, дак што ш, як той каза́ў, усе́ уцяка́юць у лес. Дак та́то ўзяў Ні́ну, ма́ма ўзяла́ То́цю на ру́кі, бо яшчэ́ ж усе́ малы́я. Я радзі́лася тады́ ў со́рак втаро́м, то́жэ шчэ была́ мала́я. Ма́ма ка́жэ: «Ой, Іва́нко, пакі́ньмо яе́, тут вялі́кі чалаве́к ляжы́ць на даро́зі застрэ́ляны, а гэ́то малу́ю, ад нас жа ўсе уцяка́цьмуць, яна́ ш пла́кацьме, вядо́мо мале́нька. Ну, та́то вярну́ўся, бо ўспо́мніў, хоць яны́ ўжэ адышлі́ і ка́жэ: «Ой, Зо́ню забы́лі!». Вярну́ўся та́то, забра́ў на ру́кі мяне́ й пабе́глі ў лес. Дак там ужэ́ хто на хво́ю зале́с, хто куды́ ўжо глядзе́лі, што Мо́рач гары́ць. Уся́ Мо́рач згарэ́ла. Яно́ ўжэ сьці́хло там, стральба́, усе́. Ко́лькі дзён у ле́сі лю́дзі шчэ жылі́, мо дзён п'яць, а да́ля вярну́ліся. Ужэ́ ж ача́хло ўсе, гэ́ты дым. Прышлі́ наза́т, дак анно́ ляжа́ў ланцужо́к на том ме́сьці, дзе мая́ калыбе́лька ві́се́ла. І каб ні та́то, то й мяне́ б ні было́ б. А так ён ка́жэ: «Ой, старэ́нька, забярэ́м, не́калі яна́ табе́ вады́ пада́сьць». Анно́ ж і пра́ўда, я ма́му й дагле́дзела, яна́ ў мяне́ й паме́рла.

***

Тады́ ж здава́лі ко́жны год, от як ко́нчыш п'я́ты кла́с, шо́сты, экза́мены. Ну, я шо́сты кла́с ні ко́нчыла, ужэ́ пашла́ сьві́нья па́сьвіць у калхо́з. Ну, ду́маю, сянно́ ж зараблю́. Гэ́так яны́ й плаці́лі, у канцы́ анно́ го́да, лі́тру ма́лака дава́лі. Але́ й тож до́брэ, бо сям'я́ была́, дзяце́й мно́го было́. Я ўжэ іду́ сьві́нья па́сьвіць, а мяне́ наста́ўніца запы́ніць ды ка́жэ: «Зайдзі́, Зо́ня, да здай экза́мены». Мне дасьць лі́сьцік таго́, хто ўжэ паздава́ў, напіса́ў, дак я перапішу́, дый пайду́ зноў сьві́нья ты́я па́сьвіць. А ўжэ на во́сень ду́маю: «Не, пайду́ ужэ́ к зацэ́хніку, бу́ду прасі́цца, каб мяне́ паста́вілі за сьвіна́рку». Прышла́ я, кажу́: «Валяньці́на Іва́наўна, калі́ ла́ска, вазьме́це мяне́ за сьвіна́рку!». А яна́ сьмяе́цца: «Ты ж мала́я шчэ, што ж ты! Ці ты ж ве́дра цяга́цьмеш, што ты наду́малася?». А я ка́жу: «Зна́еце, як тру́дно, та́то захварэ́ў, на́до рабо́таць і ўсё». Яна́ мяне́, пра́ўда, паста́віла. То я й рабі́ла-рабі́ла, гадо́ў дзе́вяць на сьвіна́рніку, по́тым ужэ́ сьві́нья сакрацілі, я ужэ́ за цяля́тніцу пашла́, то́жэ рабі́ла, до́ўго, ой, гадо́ў мо пятна́ццаць.

### Гісторыя стварэння Марацкага народнага хору

Даўне́й жа ш не то́лько маладзёш ця́жко рабі́ла: от і пат камба́й хадзі́лі ты́я ра́зы ў нас, а мы ўся маладзёш зьбіра́емся, ідо́м на рабо́ту. А по́тым прышо́ў малады́ хло́пец Абабу́рко Яўге́ній з а́рміі і ўжэ пачу́ў, як мы сьпява́ем, дак нас сабра́ў. Так ужэ́ хор пача́ўся. Мы сьпява́лі до́ма, а пато́м убра́нье пашы́лі харо́шае нам, ужэ́ ў шлягі чырво́ныя. Дак ужэ́ й на Мінск нас, усю́ды пазыва́лі. Ды нек сьпява́лі «Бу́льбу» (песню), дак так сьпява́лі, што на біс вызыва́лі. Дак шчэ раз сьпява́лі. Нас усю́ды ўжэ, дзе й у калхо́зе які́ пра́зьнік быў, ці што, то нас запрашáлі. І цяпе́р сьпява́ем, хоць мы й стары́я, але́ сьпява́ем. Так жыве́ наш Марацкі́ наро́дны хор.

***

Гэ́то было́ шчэ перад вайно́й. Малады́я хло́пец і дзе́ўчына ве́льмо мо́цно палюбі́лі адзі́н аднаго́. Але́ ма́ці дзе́ўчыны ні хаце́ла, кап дачка́ выхо́дзіла за́муж за гэ́таго хло́пца, не́чым ён ей не панара́віўсе. Наперако́р усяму, малады́я ўсе раўно́ вы́рашылі быць ра́зам. І от наду́малі такі́ план. Дзе́ўчына до́ма спа́ла но́ччу зь сястро́й. Заме́ст дзе́ўчыны прыбра́лі ў жано́чае адзе́нье сту́пу і палажы́лі каля сястры́. Ра́ніцай ма́ці бу́дзіць: «Дзе́ткі, вы сьпі́це? Устава́йце е́сці». Вот адна́ ўста́ла, а друга́я ні ўстае́. Паглядзе́лі: а на пасце́лі сту́па. А гэ́то другу́ю дзе́ўчыну хло́пец но́ччу ўкраў праз вакно́ і завёў дадо́му. А калі́ дзе́ўчына пабыла́ ў ха́ці жаніха́, то наза́д даро́гі няма́, трэ́бо, як той каза́ў, рабі́ць вясе́лье. Гэ́то такі́ ў наро́дзі зако́н. У час вясе́лья, калі́ малады́я і́шлі вянча́цца ў царкву́, ма́ці нявéсты апсы́пала малады́х пяско́м. Пасля вясе́лья малады́я жылі́ хо́рашо, ме́лі сваю́ гаспада́рку, нарадзі́лі дво́е дзе́так. Але́ пачала́ся вайна́. У людзе́й пазабі́ра́лі ко́ней. Забра́лі і ў іх. Паліца́і ўжэ ко́ней пазаво́дзілі ў лес. Пасля пашлі́ слу́хі, што ко́ней ужо́ аддаю́ць наза́т, ужэ́ лю́дзі хадзі́лі й прывадзі́лі сваі́х ко́ней. Дак пашлі́ па свайго́ каня́ й малады́я гаспада́р з гаспады́няю. Калі́ прышлі́ яны́ ў лес, то паліца́і іх сустрэ́ліваро́жа, с руж’е́м. Жо́нку пакіда́лі жыву́ю, хаце́лі забра́ць с сабо́ю, але́ яна́ ні сагласі́лася, ка́жэ: «Як расстраля́еце му́жа, то страля́йце й мяне́». Тады́ паліца́і заста́вілі вы́капаць я́му, іх расстраля́лі й у ту́ю я́му пакі́далі. Так загі́нула вялі́ка любо́ў, а дзе́ткі засталі́ся сіро́тамі. Мо́жа, та́я мацяры́нска пры́мха ім і нашко́дзіла…

**Традыцыйнае вясковае вяселле**

Ну, пе́ршым было́ сва́танье. Гэ́то зна́чыць дамо́віцца ап сва́дзьбі. Калі́ ў сям’і́ хаце́лі ажані́ць хло́пца, то перш-на́перш падбі́ра́лі сва́та, сме́лаго, гаварко́го й жана́таго чалаве́ка. Ну дак, у сваты́ ішло́ тры чалаве́кі: ба́цько хло́пца, сва́т і жані́х. Як зьвечарэ́е ішлі́, у субо́ту, з сабо́ю не́сьлі хлеп і буты́лку ў насто́льніку. Няве́сту для хло́пца выбіра́лі ча́сто бацькі́, ні всягда́ прыма́лі ту́ю, яку́ю выбіра́ў сын. Перш за ўсё глядзе́лі, ці бага́тыя ў няве́сты бацькі́, бо ад гэ́таго заві́сеў паса́г. Глядзе́лі, ці до́бра дзе́ўка ро́біць, ці рабо́ча. У на́шай ме́снасьці хло́пцы ў аснаўны́м бра́лі ў жо́нкі дзяўча́т са сваёй дзярэ́ўні, бо не пачо́тна было́ ісьці́ ў другі́ край. Пачці́ ўсягда́ ўсе ў ха́ці няве́сты ве́далі, што да іх пры́дуць сваты́, таму́ прыбіра́ліся. Сват гавары́ў з гаспадаро́м, шуці́ў, а калі́ запро́сяць гасце́й да ста́ла, то ста́віў на стол буты́лку з гарэ́лкай, клаў хлеп. За стол садзі́ліся ра́зам з малады́мі і вялі́ гу́тарку, калі́ ўжэ бу́дуць рабі́ць зару́чыны. Калі́ ўсё было́ дамо́ўлена пра зару́чыны, то ўжэ хадзі́лі й зва́лі да сябе́ ма́церу малада́го, хрышчо́ных бацько́ў, а і́ншы раз і са́мых ро́дных. Бы́ва́ло й тако́е, што бацькі́ не хаце́лі адда́ць дачку́ за гэ́таго хло́пца, то адмаўля́лі, вярта́лі гарэ́лку з хле́бам і дава́лі ім з сабо́й гарбу́с.

***Расказвае П. С. Сасіновіч, 1940 г. н., адукацыя 8 класаў, мясцовы жыхар, праваслаўны;*** *запіс зроблены ў 2012 г.*

Ха́ты ж даўне́й былі́ невялі́кіе. І нат падло́гі ні было́ нігдзе́. А спа́лі на палка́х, а калі́ сям’я́ вялі́ка, то сла́ліся на пе́чы й на до́лі. А печ была́ вялі́ка. То зімо́ю ўсе дзе́ці на ёй, бо абу́ць ні было́ ш чаго́. А шчэ ш у ха́ці ў запе́чку ку́ры жылі́. А як малы́я парася́ткі, то й свіньня́ была́ ў ха́ці зь і́мі. От як жылі́ ў мурзаце́, у хо́ладзі і цемнаце́. Бо сьве́ту ж ране́й ні было́, анно́ смалякі́ палі́лі на пры́печку. А трэ́бо ж было́ жанка́м і кудзе́лю шчэ пра́сьці ды й пало́тна ткаць. Це́сно было́, бо кро́сны ш палаві́ну ха́ты займа́лі. Але́ ж нек жылі́ і ў цемнаце́. І́ншы раз дак не́калькі се́м’яў жы́ло, бо сыны́ ш, як пажэ́няцца, то прыво́дзяць жо́нак дадо́му. Дак некато́рые сварылісе, але́ ж нідзе́ ні дзе́несьсе, трэ́бо ж жыць ра́зам.

**Здарэнне ў лесе**

Ну, ты ўсім ціка́вісься, а от ле́су на́шаго ні зна́еш… Гэ́то ні то, што цяпе́рака, а гэ́то быў лес, лес дак лес. Цяпе́р адзі́н маладня́к і той пазараста́ў усяля́кімі куста́мі. А ко́лько грыбо́ў ране́й было́. На адно́м ме́сьці каро́бку праўдзівіко́ў набярэ́ш і то́рбу каранёў ад іх нарэ́жаш. Я любі́ў

у грыбы́ хадзі́ць. От аднаго́ ра́зу са мно́ю ў грыбо́х прая́ва была́. До́брэ, што тагды́ ні спужа́ўсе. Скуме́каў, а то наўра́т ці сядзе́лі б мы тут з табо́ю дай балака́лі… За́рэ табе́ раскажу́, мо й ні паве́рыш, як нікато́рые… Як сабе́ хоч. Пашо́ў гэ́то я ране́нько, то́лько разьві́днело, па грыбо́х, здэ́ццо, і ні далёко быў, мо каля Бо́рачэня. Шны́пару сабе́ па е́льніку да беразаку́… То́лько ў адно́м ме́сьці нагну́ўся падрэ́заць праўдзі́віка, а не́хто мне на спі́ну га́пчэк і спрабу́е зуба́мі гры́сьці… А ў мяне́ быў такі́ вае́нны брызенто́вы пла́шч, ну про́сто бля́ха, здэ́ццо, і цьвіка́ ні ўваб’е́ш, а то зу́бы… Я гэ́то як дзяржа́ў нажа́ ў руцэ́, так і шарара́хнуў, ну, про́сто ў гарля́к… Зьвяры́на захрыпе́ў, зае́нчаў, замя́ўкаў – і паляце́ў зь мяне́ нівядо́мо куды́. Ду́маеш, хто́ гэ́то быў… Са́мы настая́шчы ры́сь… Спас мяне́ тагды́ плашч, а то задра́ў бы мяне́ тады́ гэ́ты зьвер – ране́й, каза́лі, ко́ней задзіра́ў. От што было́…

*Г. К. Ціванова*

## ТЭКСТЫ З ВЁСКІ АЗЯРКО СЛУЦКАГА РАЁНА

***Расказвае Н. Р. Казючыц, 1932 г. н., адукацыя 4 класы, нарадзілася ў в. Азярко Слуцкага р-на Мінскай вобл., з 1950 г. жыла і працавала ў Мінску;*** *запіс зроблены ў 2012 г. А. У. Чыжовай, Н. В. Карнацкай, Т. А. Раманкова, С. А. Шаўцовым, студэнтамі 1-й і 2-й груп аддзялення беларускай філалогіі філалагічнага факультэта БДУ.*

### Бацькі, дзяцінства, адукацыя

Па́па і ма́ма бы́ла, па́пу зва́лі Грыго́рый Васі́левіч, ма́му Со́фя Аксёнаўна. Нас бы́ла во́сьмера дзяце́й. Радзі́целі рабо́талі, ну ў каўхо́зі. Аце́ц рабо́тал лесьніко́м, а ма́ць рабо́тала ў калхо́зі, і ўсе астальны́я учы́лісь. Кане́шне вы́сшева абразава́нія не́ была. Срэ́днее бы́ла. А я то́ка нача́льнае абразава́ніе ко́нчіла, то́ка четы́ре кла́са.

### Праца

Застаўля́ла ма́ма рабо́тацъ, пра́сьці, кро́сна ткаць, каро́вы па́сьвіла, ну, в о́бшчэм трудалюбі́ва была́, вот рабо́тала. Пато́м парабо́тала, падро́сткам у калхо́зі, хадзі́ла на рабо́ту. Тры го́да ста́жа мне к пе́ньсіі́ пайшло́. А ў піся́там гаду́ ў дзекабрэ́ ме́сяцы я ўехала ў Мінск. Рабо́тала па вярбо́ўке, рабо́тала год на стро́йке. Го́рад быў разру́шан, і мы стро́ілі го́рад. Цяга́лі на насі́лках ка́мні, даро́гі лажы́лі, кірпі́чь на насі́лках насі́лі, раство́р на дама́ насі́лі на пя́ты эта́ж, да і про́чэе ў вёдрах. Парабо́тала год на вярбо́ўке, прапіса́лась у дзярэ́ўню Сьці́кляві і устро́ілась на падшы́пнікавы завод. А с падшы́пнікага заво́да (парабо́тала да шэйся́т дзявя́тага го́да) у шэйся́т дзявя́тым гаду́ в сьвязі́ с раждже́ньнем рыбёнка я ўво́лілась. Адбыла́ дзікрэ́т, ра́ньшэ ж быў дзікрэ́т два ме́сяцы, до ме́сяц і по́сьле ме́сяц. Пато́м пашла́ рабо́тацъ дво́рнікам. Пака́ парaслі́ дзе́ці. Ужэ́ дзе́ці пашлі́ ў шко́лу, паканча́лі наве́рна, не по́мню і́лі кла́саў па шэ́сьць і́лі сем, я то́лька тада́ ўжэ, штоб было́ аста́віць іх спако́йна, вярну́лась апя́ць на заво́д. Ну і на заво́дзе апя́ць [работала], зарабо́тала пе́ньсію і прадалжа́ла ішчо́ рабо́тацъ да две́сьця пятага го́да [дзве тысячы пятага]. Но ужэ́ рабо́тала: і в магазі́ні ўбіра́ла, і ў на фасо́ўке была́, і э́та са́ма ў гардзеро́бе стая́ла ў магазі́ні. А ўжэ́ ў две́сьце пя́тым [дзве тысячы пятым] гаду́ ў сьвязі́ с бале́зьнямі я не ста́ла рабо́тацъ. І вот да сех пор не рабо́таю.

### Школа

Шко́ла бы́ла ў нас у дзірэ́ўні нача́льная. І мы хадзі́лі ў э́ту шко́лу. У то ўрэ́мя бы́ла я пашла́ ў пе́рвы клас. Мне было́ дзе́вяць гадо́ў. Вайна́ ж начала́сь у со́рак пе́рвым. А я радзі́лась у тры́цацъ втаро́м. І вот да вайны́ в о́бшчэм, мо́жа, і пайшла́ бы я, да я не по́мню. А по́сле вайны́ пайшла́

ў пе́рвы клас. У пе́рвам кла́се [я была], а ў то ўрэ́мя бы́ла о́чэнь бальша́я галадо́ўка. В о́бшчэм лю́дзі не стара́лісь, штоб наўчы́ць дзяце́й абясьпе́чыць, а стара́лісь, штоб вы́хадзіць йіх ад го́лада, штоб пражы́лі ані́. Рабо́талі, нева́жна піса́лі, мы або́і [са] сьце́нкі сьніма́лі, дзе́лалі цетра́дзі і піса́лі. Піса́лі мы, чарні́ла не́ была, іс са́жы дзе́лалі чарні́ла ў буты́лачках. І піса́лі э́цім чарні́лам. А пато́м, када́ была́ галадо́ўка, на ўсех была́ учы́цельніца, была́ адна́ ў нас ад пе́рвага і да чацьвёртага кла́са. Адна́ учы́цельніца была́. І када́ папрыхо́дзяць дзе́ці ў шко́лу гало́дныя, са шко́лы ана́ іх насі́ла па аднаму́ па дама́м. Абамле́юць ані́. Урэ́мя было́ о́чэнь тру́днае. Паэ́таму я ако́нчыла то́лька нача́льнае абразава́ніе і пашла́ рабо́таць. І вот так і рабо́тала.

**Дом і гаспадарка**

Вот жы́лі мы ў дзярэ́ўні, был адзі́н дом. Дом был тако́й срэ́дні, дзе́-та ме́траў на шэсь і́лі шэсь на пяць, пяць на шэсь. А мо́жа, і на сем, чуць бо́льша. Сям’я́ была́ во́сем чалаве́к дзяце́й, і аце́ц, і маць – дзе́сяць. І када́ жані́ўся ста́ршы брат, э́та вот Со́ніна маць была́ неве́стка. Так э́та ўжо была́ адзі́нацатай. І мы пражы́лі с э́тай неве́сткай адзі́нацаць год усе́ ўме́сьці. Спа́лі как мы: булі́ крава́ці дзерэвя́нныя. Не́ была нікакі́х прабле́м. Был тако́й пол. На палу́ пала́ не́ была. Про́ста глі́най замо́шчаны пол. І э́ты са́мы пол ка́ждую суботу мы глі́най мы́лі. Так, как палы́ мо́ем тра́пкай зьдзесь. Жо́ўценькі, красі́вы. Паталкі́ бялі́лі. Сьце́ны хто кле́іў, а хто і не кле́іў. В о́бшчэм не́ была ў людзе́й срэдств. А е́лі што? Што папа́ла. У то врэ́мі бы́ла тру́дна, ждалі́ то́лька, када́ вы́расьця шчаве́ль. Када́ начну́цца я́гады. Каро́ва падо́яць, насы́плюць мі́ску я́гад, малака́ налю́ць і ку́шалі. А ку́шалі так. Вот за́ўтрык. Ма́тка выва́ра́чвае (не́ была мі́сак, не ва ўсех э́та была ў то врэ́мя, а такі́я но́чвачкі дзерэвя́ныя зьдзе́ланыя, і вот ма́ці атва́рыць карто́шкі ў мундзіра́х, а када́ і пачы́сьціць) у э́тыя но́чвачкі, высыпа́е. Вы́сыпала ў но́чвачкі, расо́л агурэ́чны ёсьць, сьве́жы агурэ́ц парэ́жа на адну́ сто́рану у мі́ску бальшу́ю і на втару́ю. Е́лі ўсе дзерэвя́нымі самадзе́льнымі ло́жкамі. Вот э́та ўсё было́, ну так жа. Па хазя́йству тада́, у каго́ бы́ла со́весьць, [памагалі]. Аце́ц і маць рабо́талі. А ста́ршыя то́жэ бы́лі за́няты рабо́тай. А мла́дшыя, я, напрыме́р, была́ ро́стам ма́ленькая, а печ высо́ка была́, на́да і дроў налажы́ць, на́да і падпалі́ць, на́да чыгу́н карто́шкі, не кастру́льку, а чыгу́н бальшы́. На́да карто́шкі начы́сьціць, станаві́ла сту́льчык, на сту́льчык ста́ну, паста́ўлю чыгу́н на аго́нь, тады́ нале́ю вадо́ю і вары́ла карто́шку. І сьвіня́м так вары́ла. Дзержа́лі каро́ву, дзержа́лі аве́чак, дзержа́лі ку́ры, кро́лікаў дзержа́лі. Усё было́, как хто мох, так і стара́ўся сваі́м трудо́м пракарміць сваі́ се́м’і. Сьві́ня кане́шня бы́лі. Агаро́д быў пі́ся́т со́так. Пі́ся́т і́лі шэсьцьдзеся́т. Была сем’я́ былыша́я, так наве́рне шэйся́т бы́ла. То, што са́мі вы́расьцілі, то́е мы ку́шалі. На працадзе́нь паста́вят то́е, што ў каўхо́зе рабо́талі. То́лько па́лку, што ты вы́йшаў на рабо́ту. І ў канцы́ ўжо го́да, е́сьлі ты кілагра́м тры жы́та яко́га даду́ць і́лі чаго́, э́та было́ ўжо харашо́. А не, то і нічэво́, за па́лку і рабо́талі лю́дзі.

**Як пяклі хлеб**

А хлеб са́мі пяклі́. Чо́рны хлеб пяклі́, расчыня́лі. От, муку́ гэ́тую ржану́ю. І вот я не по́мню, што туда́ ішчо́ дабаўля́лі. І выпяка́лі тако́й хлеб уку́сны, што вы́меш яго́ сь пе́чы… А бы́ла бо́йка така́я, смета́ну сабіра́юць і ма́сла [б’юць]. Паса́дзяць вот мяне́ і́лі сястру́, і во так во хло́паеш, б’еш ма́сла, і ма́слам нама́жаш гара́чае хле́ба, така́я ўкусьня́ціна была́, э́та ваабшчэ́. Сматрэ́ла на ма́му. І ўсё я навучы́лась ад ма́мы. І пірагі́ расчыня́ць ат ма́мы навучы́лась. Пірагі́ расчыня́юць так: малако́ падаграю́ць, туда́ дабаўля́юць са́хар, дро́жджі і мука́. Э́та падайдёт, пато́м ло́жаць ужэ́ ма́сла туды́ і што́-та яшчэ́, я́йца б’юць і абра́тна ста́вяць, падайдёт. Када́ падайдёт, печ ужэ́ вы́паліцца, жар ужо́ вы́грабуць, тада́ ув э́ту цёплую печ. Лапа́та была́ така́я шыро́кая дзерэвя́ная, на э́ту лапа́ту на кляно́вае лі́сьця пало́жаць, і хлеб так пяклі́. Э́та хлеб на кляно́вых [лістах пяклі]. А пірагі́ пяклі́, награва́лі такі́я кастру́лі, мі́скі, сма́зывалі по́сным ма́слам і пяклі́ пірагі́.

*Т. М. Трухан*

## ТЭКСТЫ З ВЁСКІ ЗАМОШША ЛЮБАНСКАГА РАЁНА

***Расказвае В. Г. Трухан, 1934 г. н.;*** *запіс зроблены ў 2009 г.*

У нас адна́ ў адну́ карто́пелькі, да ба́льшые, як і ты́е го́ды. А ў іх не, ду́маю, што там каравяку́ шмат, мо з-за таго́ яны́ ні ціка́вые. Ажно́ і тут ге́тые ко́нчацца, што ды́млянкі (сорт), што як нажо́м атрэ́зано, саўсі́м другі́я.

Зі́на акра́з на ла́ўцэ была́, я ішла́ і прысе́ла. Да кажу́: «Ты ні ба́чыла, шчэ ніхто́ ні йшоў». Яна́ кажэ́: «Не-не, ні ба́чыла». Дак я пашла́ ўжэ са Нто́лькаю (Антолька) на сабра́не. Там я́блынка, то адны́ патпо́рачкі, галье́ гне́цца. Дак яна́ кажэ́: «Хадзе́м хаця́ паглядзі́ш с таго́ бо́ку што ро́біцца». То табе́ кажу́: ко́лькі жыву́, то ні ба́чыла тако́га ўраджа́я. Ні лі́сьціка ні відно́, нічо́го на сьве́це, адны́е я́блыкі. І ні кры́мскіе во, як у нас ра́ньшэ былі́, што ўрадзі́лі ве́льмо, дак ні та́кіе, а про́сто кра́сные такі́е і адно́ на адно́м, адно́ на адно́м – га́лье гне́цца. Німа́ во тако́е мале́нечкае на п’я́дзю галі́начкі, што б ні ві́сялі я́блычкі. Ко́лькі жыла́, то ні ба́чыла тако́го чу́да, на ка́жду галі́начку патпо́рачка, на ка́жду, на п’я́дзю патпо́рачка і галі́начка. А капу́ста, то то́жэ града́ капу́сты, вялі́ка града́, але́ то́жэ е́так са́мо есь, што ўкру́чваюцца е́тые лі́сьцікі ат сябе́, то качано́ў ко́лькі харо́шые. А есь то́жэ ні ва́жные. Пе́рац німно́га расьце́, парні́к там есь, ну яны́ цяпе́р ні абіва́лі парні́ка. Нічо́го ён по́льзы ні дае́ той парні́к. Парні́к рабі́ць – трэ́ба што б хазя́ін быў, а е́то што прые́дзе калі́, што ні прые́дзе – дак ні ва́жно. Пе́рац паро́с, но струко́ў ма́ло. Агурцы́ былі́, то́жэ такі́е во ляжа́ць, як парася́та. А там Жэ́нька засе́яла пшані́цу сабе́ ці траціка́лі. Там карто́шкі німно́го. Садаву́ю траву́ то́жэ пасе́ялі.

Як былі́ або́е ба́цько і ма́ці, то як панаса́джваюць капу́сты, а ў іх жэ там ні́ско, ве́дамо, ля са́маго ле́су заці́шак, дак у іх града́ на ўсіх капу́сты. Агурцо́ў ізно́ў, усяго́ на сьве́це. А цяпе́р што? Хто бу́дзе садзі́ць? Хто бу́дзе паліва́ць? Е́то ж на́да до́глят. Хазя́ін на́да. Е́то што пасе́еш да прые́дзеш гады́ ў рады́, то лепш і ні сей.

***

Ва́ля Пе́карышына кажэ́: «Вох, у нас ні по́люць у Слу́цку е́тых агаро́даў, што пабра́лі па кусо́чку зямлі́. Бур’я́ны расту́ць, то́лькі бур’я́ны. А я то палю́», – яна́ е́так. У мяне́ сасе́тка каза́ла так: «Е́сьлі ні пало́ць, дак лепш і ні се́яць». Я ей каза́ла ге́так. А на што се́яць, е́сьлі ні пало́ць, да ні даглядáць е́таго ўча́стка. Лепш ні сей. А то то́лькі труды́ заклада́еш і ўсё. А што ты во́зьмеш у зе́лы ў е́таго: таго́ агурца́ на́йдзеш, ці ту́ю цыбу́льку.

***

У Фе́ні рады́ ж рабі́лі, Тама́ра. Ні за плу́гам садзі́лі карто́шку, а ўзара́лі, а тады́ рады́ разганя́лі, а тады́ кі́далі о так. Ве́дамо здаро́вые, дак яны́ насі́лі мяшка́мі: і То́ля, і Пе́ця. Яны́ са́мі і се́ялі ўдвох. То папрыстава́лі, ка́жэ. Ужэ́ то́лькі палаві́нку бу́дам се́яць. Ні хо́чуць ні карто́шкі, ні рабо́ты, ні забо́ты. Вот як цяпе́рашнія лю́дзі. Цяпе́р каб ізь не́ба па́дало. А тут не. Ні ад дурно́го пры́каска: «Што ўле́тку наго́ю, так зімо́ю руко́ю». Што прыдабу́дзеш, усё прыбярэ́ш. На гот о́чэнь мно́го на́да е́таму чалаве́ку.

***

Ішла́ ў магазі́н, я ду́мала зайду́ і Ка́ці скажу́: «Хадзе́м, мо ў мага́зін по́йдзеш?» Ажно́ ля іх машы́нка стая́ла, а То́ля прыяжджа́ў с Та́няю. І відно́, што яна́ за ха́таю ў агаро́ччыку была́ і абіра́ла не́йдзе смуро́дзіну. І біто́нчык патпяра́заны, і бе́гла с агаро́ччыка ўжэ, і пабе́гла бы́странько-бы́странько. Но я далекава́то была́. Ба́чу, што Та́ня. І пабе́гла про́сто ў по́тбешкі ў двор, яшчэ́

пабе́гла ў агаро́ччык за по́грап абіра́ць смуро́дзіну. Дак я ду́маю: «Ой, ні бу́ду захо́дзіць, а то то́лькі на ўсё за́баўка е́та, мо калі́ так зайду́. А калі́ так, то пашла́ карто́плі атко́пваць. Патро́шку, патро́шку і кап харо́шые рады́, то й і вы́капала б і по́ўно вы́капала б. Е́то што абы-які́е рады́ шыро́кіе. І ця́шко капа́ць. Ой, одэ́тые лягчэ́й, што я садзі́ла. І то пазапляхо́ўвало, і то глубакава́то. Дзе вялі́ка, дак парэ́жэш. Я зрабі́ла маты́чкаю раткі́ так ні глыбо́ко, а тады́ е́таю маты́чкаю дзеўбану́, пасаджу́ карто́шку, тады́ зноў перагрбу́ зе́млю, палажу́ ў м'я́ке карто́шку, зноў е́так. І маты́чкаю пазасо́ўвала. Я пацці́ і ні засо́ўвала, яно́ і само́ засо́ўваецца – м'я́ко. Я пе́рво ратко́ў нарабі́ла, што б ні касяка́мі, што п пра́мо, маты́каю. А сядно́ гнілы́е пракіда́ліса карто́плі. Па чаты́ры карто́шыны ў ратку́, па п'яць, глядзе́ла. Да крот пасто́чваў зе́млю. І цяпе́р жэ там разо́ру то́чыць. Я ні ве́даю, чаго́ ў нас е́так краты́ е́тые да мураве́йнік е́ты? Е́то на́ўлёт ад грат падня́ў усю́ бо́разну, навылят. Ба́цько ка́жэ: «Е́то ён чарве́й шука́е». І падня́ў усю́ бо́разну. Капа́й, а ге́тые дажджы́ лілі́, так ні зьбяга́е вада́, але́ ён жэ падня́ў дак разо́ра настая́шча ля кусто́ў, м'я́ко, дак усе́ дож е́ты ўхо́дзіць, дак сто́лькі гнілы́х, бач, накі́дала, на́ўлёт ку́чак нарабі́ла. Я мяшо́к карто́пель ці накапа́ла зь е́таго ра́да.

***

Адна́жды ўво́сень, ужэ́ ліст асы́паўса з беразаку́, береза́к чы́сты. Я пазі́раю с паро́га, ду́маю: трэ́ба ісьці́ ро́зак нарэ́заць на ме́тла. Пашла́, пашуме́ла я ў е́тые ме́тла ці ў ро́скі. Я яго́ рэ́жу, рэ́жу. А беразачо́к пашо́ў расьці́ ля са́мага по́ля. Паабраза́лі механіза́тары зь ні́зу на ве́нікі, дарасі́нскіе механіза́тары, да ўжэ і с Урэ́ча былі ўво́сень гэту. Рэ́зала, рэ́зала – ужэ́ нарэ́зала в'я́ску, як падня́ць. Ада́ле нек пазіра́ю, а відно́ двор наш, я ду́маю: мо хто бу́дзе хадзі́ць, а мо Ко́ля прые́дзе, дак мне відно́. Паго́да была́, со́нечны дзень. Я зьвяза́ла е́тые ро́скі, да ду́маю: а ці я ха́ту замыка́ла, ці мо атмы́кано? За е́тые ро́скі закіда́ю за пле́чы і іду́ дадо́му. Пранясла́ тро́хі, цяжкава́тые ро́скі. Яны́ ні ачы́шчаные е́тые непатрэ́бные галі́нкі. Як рэ́зала, так зьвяза́ла ў в'я́ску. Пранясла́ тро́хі пад Гараськавы́х сюды́ бліжэ́й, палажы́ла е́ту в'я́ску, ду́маю: паабрыва́ю пабы́страму тро́хі е́тые ніпатрэ́бные ро́скі. Абрыва́ю, абрыва́ю, ада́ле ду́маю: усе́ш-такі́, а дзе я ключ дзе́ла, калі́ замыка́ла, ці я ве́шала дзе, і мо так палажы́ла? Ізно́ў сьці́снула, што ачысьці́ла, што не і пашла́. Ужэ́ передумала ўсе се́дзячы. Прыхо́джу, Тама́ра, дадо́му, кі́нула е́тые ро́скі ля хлява́, віра́нда атмы́кана, ключ у се́нцах, замкну́ла і палажы́ла ў шупля́тку ў віра́ндзе. Яка́ галава́ і які́ ро́зум? Бяры́це што хо́чэш і цяпе́р! Така́я галава́, што пакі́ну атчы́няно дай пашла́. А ме́тла трэ́ба двор мясьці́, а ву́ліцу? Там жэ захлябне́са ад лі́сту, за нага́мі клеі́цьмеца, да ў ха́ту цяга́й. Да ўсю́ды. Е́так жэ і на ву́ліцы. То алыча́, трэ́ба зьмясьці́. А сама́ ні пайду́, то ён на сяло́ за́йдзе, а ў ро́скі ні по́йдзе. У мага́зін лята́е.

***

Быва́е пазна́еш, як на дош. Со́нцэ белава́тэ за́хадам ужэ́. Я часьцяко́м кажу́ на ба́цька: «Ужэ́ на дош пака́звае». А на харо́шу паго́ду празры́сто со́нцэ сьве́ціць. Быва́е пападзе́, што ве́цяр вялі́кі, няго́да быва́е, як калі́. Быва́е і ні прыгляда́еса. Е́то глядзі́ш тады́, калі́ ве́даеш, што рабо́та наза́ўтрэ есь така́я, што трэ́ба паго́да. А калі́ рабо́ты тако́е ні́ма, то і ні прыгляда́еса. Со́нцэ і празры́сто, то мой паго́да бу́дзе. Мо́жэ і дажджу́ нагна́ць, мо́жэ і паго́ды. Тут-сют сербану́ў, дай паго́да. Памідо́ры мо пабганя́ло ве́трам? Шмат яшчэ́ і есь. Ужэ́ падняла́ і до́ле. Трэ́ба абіра́ць акура́тно, штоб ні апа́двалі. Вот памідо́ры, памідо́ры, а пасадзі́ліса, то і ні пло́хо сва́е памідо́ры. Да́жэ агурцы́ – і то харашо́ із грады́. Дак яно́ да́жэ прыятне́й і ўкусьне́й.

***

Ізь дзе́цтва, мо гадо́ў трына́цаць было́, а мо і чатырна́цаць, наўра́т ці чатырна́цаць было́. Жыла́ шчэ там у Гра́маце. Ужэ́ ж лю́дзі ста́лі ха́ты бялі́ць. Зра́зу жылі́ ні бе́ляные, ні ма́заные, так. Ба́цько ў тры́цаць васьмо́м перацёх ха́ту с ху́тара і злажы́ў сьце́ны. І ні сяне́ц ні было́, нічаво́ на сьве́це.

К дзьвяра́м жарто́к наста́вілі, ла́пак нацяга́лі. Ста́ла бе́гаць зь дзевачка́мі па ха́тах, то к адно́й, то к друго́й. Ба́чу: ха́ты прыбіра́юць, абма́зваюць сьце́ны, бо там с хутаро́ў уве́сь пасёлачак гэ́ты, усі́х сьцяга́лі, пераво́зілі ха́ты да склада́лі. Абма́зваюць глі́наю пазы́ е́тые. Дава́й мы глі́ны шука́ць. Ма́ма на́ша і паня́ця ні зна́ла. Яна́ ні дава́ла да́жэ й прыбіра́ць ха́ты. У ха́це по́грап быў, карто́шку сы́палі, яна́ і падло́гі мне ні дава́ла мыць. Усе́ ж-такі́ дава́й абма́зваць е́ту ха́ту. Ні ве́даю: дзе мы глі́ну бра́лі і як е́то? Намяшу́ тае́ глі́ны, пайду́ сама́ і вазьму́, ніхто́ мне ні пада́ў і жме́ні нічаво́. Сёстры ж ме́ньшые былі́, ні маглі́ рабі́ць нічо́га. На стол паста́ўлю, на стол узьле́зу. А ты́е го́ды ні сту́лікаў э́тых ні было́. Там засло́нчык адзі́н быў, дак і туды́ трэ́ба, і туды́ засло́нчык той. Ні дастава́ла пат столь, там жэ то́жэ пазы́ высакава́та. Дак но́чаўкі перакулю́ на стол, да на но́чаўках на тых абма́зваю пазы́. Патсу́ну но́чаўкі па сталу́ і да́лей. А тады́ злазь жэ і зноў стол атцяга́й усе́ ўпяро́т і ўпяро́т. Ха́та ні мала́я ў ма́мы, нарма́льна. Абма́зала, паці́ху, паці́ху абма́зала як-ні́буць усю́ ха́ту адна́. Тады́ дава́й жэ бялі́ць. Ме́лу ма́ма дастава́ла, ні по́мню дзе. Ба́цькавыя друзья́ мо дзе далі́. Ба́цько із дваюро́дным бра́там там ро́ство. Ён ішоў на во́йну, як і чу́ствуваў, прасі́ў, што мо я ні вярну́са, дзяце́й штоб глядзе́ў, нагляда́ў. Мо і той прывёс таго́ ме́лу. То пабялі́ла ж ўсю ха́ту адна́. А шчэ ж чым бялі́ць было́? Ні цяпе́р, што кі́стачкі все́. А травы́ нарву́ сама́, да ашпа́ру яе́, да сьвяжу́ ні́ткамі. Е́тые як кро́сна ткалі́, дак хваста́мі, датыка́лі ўжэ, канча́лі датыка́ць кро́сна, дак ты́е хвасты́. Зьвяжу́ до́брэ сука́нымі ні́ткамі, це́сно траву́ і тады́ ашпа́ру яе́, і разаб’ю́ абу́шкам э́ту траву́, дак яна́ памякча́е. Тым пе́ндлям і столь жэ, ні то́лькі ха́ту. Чуць што дастава́ла столь. І столь пабялі́ла і сьце́ны. А мыць ма́ма ні дава́ла. Як хо́чаш, выціра́й ану́чаю мо́краю. Што ш ты паўціра́еш? Ме́лу сто́лькі наразьліва́ла па ўсёй ха́це. Мне ні запу́скай вады́ ў карто́плі, як хо́чаш, калі́ табе́ трэ́ба е́та ха́та ці е́та падло́га. Така́я жы́зьня была́. У Гра́маце ге́так працава́ла, Тама́ра, прышла́ сюды́, я́шчэ папра́вілаcа. Як пачалі́, там то́е трэ́ба, усю́ды, дзе ні паглядзі́. І хлёў цячэ́, ха́та праце́кае сало́маю кры́та. Во́кна, падако́нікі папрагніва́лі, так і падло́га. Тут трэ́ба здабыва́ць, як хо́чаш, го́ла і бо́са. А ш чаго́ начына́ць? Ужэ́ пачала́ на рабо́ту на е́ту хадзі́ць. Пападро́сталі вы тро́шкі. Пачала́ на рабо́ту гарца́ць. І ўсе на такі́е рабо́ты, што ўсе на цэ́лы дзень. А ўста́ну, печ вы́палю, сьвіня́м папацяга́й чагано́ў е́тых, завяла́ дзьве сьвінама́ткі, каро́ўка, цяля́тко – двор худо́бы. На́да і накармі́ць, ма́ці сьляпа́я, сьвякро́ў. Ні нава́рыць, ні карто́шыны ні абычы́сьціць, нічо́га на сьве́це. Сама́ і чысь, сама́ пале́зь у по́грап. Ну ў по́грап дак бы́вае калі́ зла́зіць во́бмацкам, да й во́зьме карто́шкі паўко́шыка ці ко́лькі. А я сама́ і намы́ю тых карото́шак, сама́ і начы́сь, і гату́й які́я супы́, яко́е што. Тады́ ні выгатаўля́лі ге́так жэ. Ці боршч, ці суп, ці пасо́лі яко́й. Паста́віш на дзень, а сама́ на цэ́лы дзень на рабо́ту. Ада́ле ста́лі зарабля́ць, ста́лі худо́бу, худо́бу мно́го таргава́лі і сьвінама́ткі дзьве было́, і парася́тка про́далі, і ста́лі е́тые гро́шы тро́хі зьбіра́ць.

***

Ужэ́ пачалі́ лес дастава́ць, ха́ту штоп паста́віць. І цыме́нт купі́лі, і пазаво́дзілі тро́хі знако́мства зь лесьніка́мі, то той дась, то той дась, як пае́дам у лес. Такі́ быў лясьні́к адзі́н, на ба́цька: «Бяры́ жо́нку і з жо́нкаю прыязджа́й. Дак я дам вам і ўсё, а во́зьмеш каго́ друго́го, дак і той ска́жэ: дае́ш яму́, дай і мне зрэ́заць, штоб бярвяно́ ці дзьве вы́шлі». І ўсе ж ізь ім е́зьдзіла. Уся́к было́: і по́сьле рабо́ты, і ўся́к е́зьдзілі. Быў даста́ў у Гарадзя́чычах машы́ну, прыўёз вонь за кура́тнік, злажы́ў за пло́там. Не́хто ш пада́ў, прые́хала мілі́цыя: дава́й біле́т на лес! А дзе біле́т? Ні́ма! Дак ён у Трафі́мавіча ва Іва́на папрасі́ў. Таму́ лес дава́лі, да, ма́біць, у яго́ быў, і ў Гры́шкі, у тае́ Марху́лькі мало́е, што жыла́ там за Сідарэ́нкам. І ў таго́ даста́ў біле́т. Той даў. А прышло́со, як мілі́цыя прые́хала: дава́й біле́ты? Німа́! На сут падалі́. А ён з э́тымі біле́тамі, да з э́тымі мушчы́намі, за мушчы́ны трэ́ба заплаці́ць і за само́го, і на сут пае́халі ў Лю́бань. Пае́халі, яго́ судзі́лі. Суд прайшо́ў, ужэ́ ба́цьку нічо́га штра́фу ні было́. Біле́ты ні яго́, а чые́ біле́ты Трафі́мавіча і таго́ Гры́шкі – ім штраф падава́лі. Трафі́мавіч вучы́цель, ты вучы́цель і таргу́еш ле́сам, табе́ атпусьці́лі будава́цца, ты про́даеш. Е́так і на таго́. За біле́ты і таму́ далі́ штра́фу, што про́даеш лес ці біле́ты. А ён жэ по́сьле суда́ за іх і ў стало́ву паўёў. А ты́мі гада́мі пакармі́ў аднаго́, да шчэ ж і друго́га, ні то́лькі

пакармі́ў, да шчэ ж і па сто грам ці па дзьве́сьце. І даво́льны быў, што хаця́ яны́ ні каза́лі на яго́ нічо́го, што ты падаўёў нас, ці за цябе́ нам валакі́та. А яны́ даво́льныя шчэ былі́, што ён ужэ́ іх ні абі́дзяў. Ада́ле тут. Ха́ту зрубі́лі, стара́ласа, чым магла́. Пакармлю́. Ні магу́ сказа́ць, забы́ла: ці чаты́ры мужыкі́ бра́лі ўжэ такі́е ў во́зрасьце, самастая́цельные като́рые і ха́ты рабі́лі, ці рубі́лі е́тые: Ю́рко Шуру́біных, во Алёшчын ба́цько, тады́ Пата́п, тады́... Хто ж больш? Я ўжэ і пазабыва́ла, чаты́ры чалаве́кі бра́лі. Вот е́тых запо́мніла, пазабы́вала, хто і ха́ту больш рубі́ў. А е́сьці нагату́ю: і накупля́ю ў магазі́не, ты́е ж го́ды яшчэ́ ж зна́еш, купі́ консе́рвы ці саля́нку – што ш ты, куплёнэ! І панава́рваю, што магла́. І кало́лі сьві́ня, то сабе́, як папа́ло – усе́ ш каб людзе́й пакармі́ць, як сьле́дуе. По́мню, як сяго́дне: ста́ўлю абе́т, а на рабо́ту ўжэ ні пашла́ той дзень, як мушчы́ны рубі́лі ха́ту, а машы́на людзе́й вязе́ із Дзяці́лавічаў, садзі́лі карто́шку, і на абе́т ужэ́ вязе́ баб е́тых. Ю́рко Шуру́біных да ка́жэ на мяне́: «Што ты наста́віла? Ідзі́ заві́ е́тых, што на машы́не е́дуць да пакармі́! Е́то сто́лькі гато́віць? Дак хва́ціць і на тых, ні то́лькі на нас!» Да так даво́льные! Хадзі́лі, паку́ль усё парабі́лі нам. Тады́ ко́нчылі рубі́ць – плаці́. Ты́я го́ды па п’яць, па шэсь рублёў плаці́лі за дзень на чалаве́ка. Як-нібу́ць ужэ́ зрубі́лі. Накры́лі шы́ферам. Дастава́ць і шы́фер трэ́ба было́. Шы́фера ж ні было́. Німа́ ле́су на сто́лі, на ха́ту як-не́буць нацяга́лі. Чарнасто́ль ба́цько палажы́ў ад ба́лкі да ба́лкі. І ту́ю ж чарнасто́ль пабялі́ла. А тады́ дава́й, Тама́ра, ха́ту глі́наю абма́зваць. Дак ба́біну абма́зала, а тады́ сваю́. І ўсю на сьве́це, ма́ло, бач, крутні́!

***Расказвае А. Р. Трухан, 1936 г. н.;*** *запіс зроблены ў 2009 г.*

Зара́нь, зара́нь спаў картапля́нік. Ты́е ра́зы хаця́ б да Ільі́ або́ да Іспа́са. Ато́ шчэ дзе ме́сяц да Ільі́, а ўжэ спаў картапля́нік. Так пячэ́. Пры́дзеш капа́ць – гара́ча зямля́. А вы́мачыло е́так, яно́ раўнасі́льна пячы́. Па́рыласо. Жанчы́на пры́дзе падбіра́ць за мно́ю, да ка́жэ: «Глядзі́, гара́ча зямля́». Вы́мачыло ве́льмі, а цяпе́рачы гара́ча зямля́. Вот табе́ і калхо́з? Ку́ста ніўса́дзіць, таму́ што ра́ды ні дась. Яны́ ўсе і згнію́ць. А ў калхо́зе во бач, да Урэ́ча німа́ ку́ста карто́пель. Дак мой То́ля во, яго́ со́ткі тут ля гарадка́, дак кажу́: «Пачаму́ ня по́леце тут у зе́лі?» Дак ка [кажа]: «Вы́паль, то за́ўтрэ і аднае́ ня бу́дзе, парву́ць». Ле́тась былі́ на е́туй даро́зе, што е́хаць у Любань, дак былі́ тут карто́плі, дак е́ты ўвесь гарадо́к там рваў, а цяпе́р, То́ля ка́жэ, вы́паль, той і аднае́ ня зно́йдзеш, ня се́юць, да хо́дзяць у тваё рваць. Скашу́, як бу́ду выбіра́ць. Е́тые бамжы́ ніхто́ ня се́е, а карто́плі хо́чэ е́сьці. Дак ле́тась у калхо́зе было́ е́то паўз даро́гу, як каро́вы хо́дзяць, е́дучы на Таль. Дак там рва́лі, а на́шые ня чапа́лі. А цяпе́р, ка [кажа], папро́буй вы́паль, то ня на́йдзеш які́я і есь.

І ў нас вот тут карто́плі былі́. А Усо́віч пільнава́ў. Ён е́дзе і на Але́га ка [кажа]: «Ты ж тут пільну́ў карто́пель, штоб ніхто́ ня рваў». Ада́ле е́дзе другі́ дзень, мы сядзі́м на ла́ўцэ, да ка [кажа]: «Ну как сто́раж дзяла́?» – «Ніхто́ ня рваў, кро́ме на́шай Ва́лі». Дак і Пе́карыха ка [кажа]: «Або́?». Дак ён ка [кажа]: «Да. На́ша Ва́ля йдзе ў Слу́цак, дак нарве́ і са Слу́цка йдзе к нам і нарве́. Ніхто́ ня рве, кро́ме на́шай Ва́лі». Справядлі́вы сто́раж і свайго́ далажы́ў.

Палягло́ ўжэ зе́лье і дзе праз жы́то прабіва́е. Ужэ́ мая́ ўчо́рэ ла́зіць і вырыва́е. Ба́чыш што, ні карто́пель німа́, ні жы́та – прапа́ло ўсе. Няве́рт ужэ́ што чалаве́к яго́ ро́біць. Ле́тась да Ільі́ сажа́лі. Аранда́тар прыяжджа́ў. А за́раз жанчы́на ня пуска́е. Гадо́ў два ці тры е́ты Ві́ця спаса́ў. Ён прые́дзе, то ўжэ як сажа́ў, але́ сажа́ў. А цяпе́рака, во ба́чыш, ня пусьці́ла жанчы́на. Ле́тась, я табе́ ку [кажу], да Ільі́ сажа́ў, а сёне, ужэ́ бачы́ш, і Іспа́с прышо́ў. І да Іспа́са, і по́сьле Іспа́са ні сажну́. І по́сьле Іспа́са яшчэ́ вато́ ні даду́ць. Ты ве́даеш калі́? Пака́ Лукашэ́нко не ска́жэ, яны́ і ні кра́нуць. А Лукашэ́нко ска́жэ губарна́тарам е́тым, прадсяда́целям райспалко́ма – прыступа́йце па вазмо́жнасьці. Паку́ль яны́ ні разрэ́шаць, то е́ты ні адзі́н не чэ́піць. Я ўжэ па цілівізару чу́ю: вазмо́жно дава́ць і на прыўса́дзебныя ўча́сткі. Вот та́ды ўжэ і начына́юць. А паку́ль ён ні ска́жэ, то да́жэ і ні ка́ўкнуць.

У нас буракі́ вато́ за хляво́м у дварэ́. І ле́тась конь з’еў усе́ буракі́. Ішчэ́ ў То́лі было́ по́ўно, дак ужэ́ я сварыу́са: нашто́ ты вязе́ш? А яму́ дзець німа́ дзе, дак ён прыўёз мне. Дак я ку [кажу]: нашто́. Ада́ле паеў і ты́е і То́ліные. Вы́пусьціш і на па́жу, і прывядзе́ш, кашэ́ль закі́неш – і паеў усе́

буракі́ конь. А цяпе́р ужэ́ як пры́дзецца, да ма́ло карто́пель, дак і сьві́не есь, дак сьвіня́м дава́цьму. А каню́ аўса́ дам яко́ кіло́, мукі́, да се́на дам, дай стой. Ячме́нь разьмялі́, то не ху́джэ аўса́. І цяпе́р То́ля прыўёз машы́ну тры то́ны васімсо́т, дак вот я намялю́, то кака́ ра́зьніца – па́ру кілагра́м атва́жваю і яму́ даю́. Адны́м жэ і ару́ць. Дак даю́ мукі́, зімо́ю ня так, ні на адно́м се́не дзяржу́. Цяпе́р ня бу́дзе карто́пель, дак хай сьві́не буракі́ ядзя́ць. Дам па́ру кілагра́м мукі́ о, да се́на даў, briefly вады́ даў, дай жыві́. Се́на накасі́ў – хвата́е. Два стажкі́ і То́лі заўёз ужэ́ с то́ну, шчэ ко́шанаго ля́жыць. Вот тут то́лькі ўручну́ю і на ву́ліцы аткасі́ў уручну́ю, а так касі́лкаю. Ты́е го́ды хло́пцаў пагука́ю, да каса́мі по́йдам, а то і хло́пцы абляні́лі – ня хо́чэ ніхто́. А цяпе́рачы і со́тку ніхто́ не хо́чэ скасі́ць. У калхо́зе за дзень по́йдуць па пі́йся́т, па се́мсят со́так ско́швалі.

# НАШЫ ЮБІЛЯРЫ

*В. М. Курцова*

## ДА 80-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ І. Я. ЯШКІНА



У лютым 2012 г. споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння Івана Якаўлевіча Яшкіна, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь за 2000 год. Такой высокай і пачэснай узнагародай Іван Якаўлевіч быў уганараваны за ўдзел у стварэнні фундаментальнага навуковага даследавання «Лексічны атлас беларускіх народных гаворак у 5 тамах» (ЛАБНГ).

Любая дзяржаўная ўзнагарода – гэта прызнанне заслуг асобы за створанае ў адпаведнай галіне яе дзейнасці. Для аўтарскага калектыву, у складзе якога быў адзначаны І. Я. Яшкін, высокае званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь стала не толькі ацэнкай яго асабістага ўдзелу ў рэалізацыі буйнамаштабнага навуковага праекта, гэта найперш паказчык важнасці такога даследавання для дзяржавы, для нацыянальнай навукі і культуры. У час працы над лінгвагеаграфічным атласам – даследаваннем, прысвечаным вывучэнню лексічнага складу гаворак беларускай мовы, І. Я. Яшкін быў не толькі непасрэдным складальнікам лінгвістычных карт ва ўсіх пяці тамах атласа, ён стаў нязменным навуковым рэдактарам публікацыі, займаўся ўпарадкаваннем інфармацыйных дадаткаў да атласа (спіс абследаваных населеных пунктаў, індэкс і інш.), як адзін з аўтараў спецыяльнага метадычнага дапаможніка «Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання лексічнага атласа беларускай мовы» (1971) падрыхтаваў раздзел «Старажытныя вераванні».

Надзвычай адметным на першым, збіральніцкім, этапе ў стварэнні ЛАБНГ, у якім удзельнічаў даследчык, з'яўляюцца палявыя выезды. Збіраннем матэрыялаў для лексічнага атласа дыялектолаг займаўся на працягу 16 гадоў. Першая яго дыялекталагічная экспедыцыя адбылася ў 1963 г., апошняя — у 1979 г. Выязджаць даводзілася часам двойчы на год. Да слова сказаць, навуковыя дыялекталагічныя вандроўкі па роднае слова ў творчым жыцці І. Я. Яшкіна такімі інтэнсіўнымі былі не толькі ў перыяд працы над ЛАБНГ. Актыўны ўдзел у штогадовых палявых даследаваннях браў ён і ў наступным. Ладзіліся яны як для выканання нацыянальных навукова-даследчых праектаў, так і міжнародных — «Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа» і «Лінгвістычнага атласа Еўропы». Назапашванне лексічных набыткаў роднай мовы І. Я. Яшкін заўсёды спалучаў з іх навуковым асэнсаваннем.

У гісторыі стварэння ЛАБНГ моваведу належыць яшчэ адна надзвычай важная місія. Змест яе перадаецца сціплым запісам, змешчаным у кожным томе выдання: «Вялікую працу выкананаў І. Я. Яшкін па арганізацыі і ажыццяўленні выдання тома». Практычным увасабленнем гэтай фразы з'яўляецца сапраўды падзвіжніцкая дзейнасць Івана Якаўлевіча, накіраваная на пошукі магчымасцей, каб надрукаваць падрыхтаванае навуковае даследаванне. З вялікім энтузіязмам пераконваў І. Я. Яшкін кіраўніцтва устаноў рознага тыпу, заможных людзей фінансава падтрымаць праект, ахвяраваць сродкі на яго выданне. Неўтаймаваная энергія навукоўца дасягнула мэты – задуманае завяршылася паспяхова. Першы том атласа быў выдадзены ў 1993 г., апошні –

у 1998 г. Фундаментальны культурна-гістарычны помнік беларускага народа, у якім амаль на 1800 лінгвістычных картах зарэгістравана звыш 200 000 слоўнікавых адзінак, запісаных у 149 вёсках рэспублікі, выйшаў. Свет ён убачыў дзякуючы высілкам вось такіх апантаных, як Іван Якаўлевіч, асоб, якія па ўласнай ініцыятыве давялі пачатую справу да лагічнага канца.

І. Я. Яшкін акрамя працы па стварэнні «Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак у 5 тамах» за час сваёй навуковай дзейнасці займаўся распрацоўкай іншых, надзвычай важных для нацыянальнай навукі калектыўных даследаванняў. Адным з іх з’яўляецца лексікаграфічны даведнік «Тураўскі слоўнік у 5 тамах» (1982–1987). Паводле зместу «Тураўскі слоўнік» належыць да поўнага рэгіянальнага слоўніка, у якім адлюстравана ўсё багацце традыцыйнай мясцовай лексікі асобнай гаворкі, што характарызуецца адзінствам сваёй структуры. Гэта структурнае адзінства гаворак Тураўшчыны абумоўлена гістарычнай агульнасцю іх развіцця і функцыянавання. Сінхроннае апісанне лексічнай сістэмы тураўскіх гаворак дазволіла даследчыкам паказаць семантычны лад мясцовых абазначальных сродкаў у іх сувязях з іншымі словамі і ва ўсёй сістэме цалкам. «Тураўскі слоўнік» і сёння ў беларускім нацыянальным мовазнаўстве застаецца адметным лексікаграфічным выданнем, якое істотна адрозніваецца сярод падобных абагульняльных дыялектных словазбораў. Увасобіць ідэю, прапанаваную аўтарскаму калектыву А. А. Крывіцкім, і стварыць адметны тып слоўніка атрымалася дзякуючы супольным творчым намаганням усіх лінгвістаў, якія займаліся вывучэннем лексічнага складу гаворак Тураўшчыны. Немалая роля ў ажыццяўленні даследавання, пачынаючы з рэгулярных палявых выездаў да сістэматызацыі і ўпарадкавання сабраных лексічных матэрыялаў з Тураўшчыны, належала тут таксама І. Я. Яшкіну.

Вывучэнню розных узроўняў моўнай сістэмы гаворак беларускай мовы прысвечаны і больш раннія працы І. Я. Яшкіна. Так, адной з іх з’яўляецца манаграфічнае даследаванне, выдадзенае ў дзвюх кнігах. У першай кнізе «Узаемадзеянне рознадыялектных сістэм: фанетыка» (1976) апісваецца гукавы лад мясцовых гаворак, у другой – «Узаемадзеянне рознадыялектных сістэм: марфалогія. Сінтаксіс» (1980), якая выступае лагічным працягам першай публікацыі, асвятляюцца працэсы міжмоўнага ўзаемадзення беларускіх гаворак у галіне марфалогіі і сінтаксісу. У якасці аб’екта вывучэння сталі гаворкі Слаўгарадчыны. Гэтыя мясцовыя гаворкі характарызуюцца ў нацыянальнай дыялекталогіі як гаворкі ўсходнемагілёўскага структурнага тыпу паўночна-ўсходняга дыялекту беларускай мовы. У складзе ўсходнемагілёўскіх гаворак яны займаюць паўднёвую ўскраіну, тэрытарыяльна лакалізуючыся на памежжы розных унутрыдыялектных згрупаванняў. Іх выбар быў невыпадковым. Іван Якаўлевіч нарадзіўся ў в. Шаламы Слаўгарадскага р-на ў 1932 г., адсюль паехаў вучыцца ў Магілёўскі педагагічны інстытут, які паспяхова закончыў у 1954 г. Праз тры гады пасля заканчэння вышэйшай навучальнай установы пачаў працаваць у Полацкім педагагічным інстытуце, але затрымаўся там ненадоўга. Выкладчыцкай працы аддаў каля двух гадоў (1957–1959).

Пошукі сябе, жаданне не проста навучаць мове іншых, а займацца навуковым даследаваннем яе асаблівасцей прывялі І. Я. Яшкіна ў Інстытут мовазнаўства тагачаснай Акадэміі навук Беларусі. Пачаткам яго працоўнай дзейнасці ў Акадэміі навук Беларусі з’яўляецца 1959 г., тут у 1970 г. ён абараніў дысертацыю на атрыманне навуковай ступені кандыдата навук. Навукова-даследчай працы ў Інстытуце мовазнаўства (сёння гэта філіял «Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы» Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі) было аддадзена 40 гадоў жыцця, у 1999 г. старшы навуковы супрацоўнік аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі І. Я. Яшкін пайшоў на адпачынак. Аднак жаданне паслужыць роднаму слову, пакуль стае сілы, прывяло навукоўца спачатку ў Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны, а потым у Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя М. Танка.

Так склаліся асноўныя жыццёвыя вехі І. Я. Яшкіна. Працаваць прыходзілася ў розных установах, але асноўная частка яго жыцця звязана з працай у аддзеле дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі.

Менавіта тут былі напісаны найбольш вядомыя кнігі і артыкулы І. Я. Яшкіна, упарадкаваны шматлікія лексічныя словазборы.

Навукова-творчая дзейнасць І. Я. Яшкіна багатая на набыткі. Асаблівае месца ў спісе публікацый мовавeда займаюць даследаванні па вывучэнні слова як адметнага намінацыйнага сродку. Сярод такіх прац і кніга «Беларускія геаграфічныя назвы. Тапаграфія. Гідралогія» (1971). Гэта публікацыя з'яўляецца выданнем, у якім сістэматызаваны і абагульнены багацейшы дыялектны матэрыял. Наяўнае даследаванне служыць той лексікаграфічнай крыніцай, якая дазваляе ўзнавіць ландшафт мінулага, гісторыю жыцця на той ці іншай тэрыторыі продкаў, пакінутай у спадчыну нашчадкам у найменнях. Пры рэалізацыі задумы аўтар імкнуўся стварыць максімальна поўны слоўнік апелятыўнай лексікі, таму ўключыў у яго як агульнавядомыя абазначальныя сродкі, так і вузкія, лакальна абмежаваныя па распаўсюджанні. Дынаміку змен у беларускім тапаніміконе адлюстраваў праз параўнанне зафіксаваных найменняў з засведчанымі семантычнымі адпаведнікамі ў гістарычных надрукаваных ці архіўных крыніцах. У наступным гэта выданне, але значна пашыранае і дапоўненае новымі матэрыяламі пад назвай «Слоўнік беларускіх мясцовых геаграфічных тэрмінаў: тапаграфія. Гідралогія» (2005), было перавыдадзена. Яшчэ адной з кніг па анамастычнай праблематыцы, аднак у галіне антрапаніміі, з'яўляецца даведнік «Слоўнік беларускіх імёнаў» (2009). Гэты імяслоў аб'ядноўвае ўласныя імёны і вытворныя ад іх імёны па бацьку, ужывальныя ў праваслаўнай і каталіцкай канфесіях у Беларусі, адлюстроўвае не толькі іх літаратурную форму, але і мясцовыя адаптацыйныя варыянты, якія суправаджаюцца адсылкай на крыніцы фіксацыі. Гэта публікацыя, істотна пашыраная і дапоўненая, у наступным зноў пабачыла свет пад назвай «Слоўнік беларускіх імёнаў і сямейна-родавых паняццяў» (2013).

Сярод значных па аб'ёме і адметных па змесце публікацый, напісаных І. Я. Яшкіным, ёсць і такія працы, у якіх папулярызуюцца вынікі навукова-даследчай дзейнасці беларускіх дыялектолагаў. У іх ліку кніга «Грыбы і грыбная кулінарыя: папулярны энцыклапедычны даведнік» (2005), падрыхтаваная сумесна з Г. І. Сяржанінай. Дадзенаму даведніку, напоўненаму багатымі і адметнымі звесткамі пра грыбы, пра іх месца ў прыроднай біясістэме і ў будзённым жыцці чалавека, папярэднічалі два кніжныя выданні: манаграфічная аўтарская праца «Грыбы ў традыцыйнай кухні беларусаў» (1995) мае характар папулярнага даведніка для шырокай чытацкай аўдыторыі, іншае выданне — «Грыбы» (1986), падрыхтаванае сумесна з прафесійным даследчыкам-батанікам Г. І. Сяржанінай, стала грунтоўным навуковым падмуркам для стварэння ў наступным на яго аснове вышэйзгаданых кніг «Грыбы ў традыцыйнай кухні беларусаў» і энцыклапедычнага даведніка «Грыбы і грыбная кулінарыя: папулярны энцыклапедычны даведнік».

Іван Якаўлевіч Яшкін з'яўляецца аўтарам звыш 130 публікацый, у якіх асвятляюцца самыя розныя праблемы беларускага мовазнаўства. Значная колькасць яго даследаванняў для доказнасці і пераканаўчай падачы апісаных лінгвістычных з'яў забяспечваецца архіўнымі матэрыяламі, што дазваляе разглядаць тую ці іншую моўную асаблівасць не толькі ў тэрытарыяльных межах яе пашырэння, але і ў часавай прасторы, інакш кажучы, выкарыстоўваючы сістэмны падыход для аналізу выяўленых фактаў.

Працалюбства, работа звыш сілы, каб дасягнуць жаданага выніку, сціпласць і прастата ў зносінах, добразычлівасць – вось рысы, якія характарызуюць І. Я. Яшкіна як чалавека. Зроблена многа, і гэта сталася магчымым дзякуючы працы не дзеля ўзнагарод, а дзеля спасціжэння багаццяў роднай мовы і іх навуковага асэнсавання.

# ПАКАЗАЛЬНІК ПРАЦ І. Я. ЯШКІНА[1]

Падрыхтавала *В. М. Курцова*

## 1965

Назвы роднасці, сваяцтва, сяброўства і суседзяў на тэрыторыі Слаўгарадчыны // Беларуская мова: даслед. па лексікалогіі / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; М. Р. Суднік [гал. рэд.], А. І. Жураўскі, А. А. Крывіцкі, М. П. Лобан. – Мінск: Навука і тэхніка, 1965. – С. 143–151.

Топонимика и микротопонимика Славгородчины (Могилёвской области) // Тез. докл. и сообщ. Всесоюз. конф. по топонимике СССР, Ленинград, 28 янв. – 2 февр. 1965 г. – Л., 1965. – С. 89–92.

Марфалагічныя і сінтаксічныя дыялектныя асаблівасці гаворак Слаўгарадчыны // Пытанні мовазнаўства і методыка выкладання моў: матэрыялы IX канф. маладых вучоных АН БССР. – Мінск, 1965. – Вып. 5. – С. 102–115.

## 1966

Фанетычныя асаблівасці гаворак Слаўгарадчыны // Беларускі лінгв. зб. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. М. В. Бірыла [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1966. – С. 79–93.

Из истории развития топонимики Славгородчины // Конференция по топонимике Северо-Западной зоны СССР: тез. докл. и сообщ. – Рига, 1966. – С. 140–143.

У скарбніцу роднай мовы [Рэцэнзія] // ЛіМ. – 1966. – 11 лістап. – Рэц. на кн.: Юрчанка, Г. Ф. Дыялектны слоўнік (з гаворак Мсціслаўшчыны) / Г. Ф. Юрчанка. – Мінск, 1966. – 227 с.

## 1967

Вакалізм паўночна-ўсходняй групы гаворак Слаўгарадчыны (Націскныя галосныя фанемы) // Вес. АН БССР. Сер. грамад. навук. – 1967. – № 1. – С. 113–122.

Некаторыя этнаграфічныя і дыялекталагічныя асаблівасці Слаўгарадчыны // Пытанні беларус. этнаграфіі, фалькларыстыкі і тапанімікі. – Мінск, 1967. – С. 133–143.

## 1968

З жыцця слова ў гаворках Слаўгарадчыны // Лінгв. даслед. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. М. В. Бірыла, В. У. Мартынаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1968. – С. 101–110.

Назіранні над развіццём семантыкі дыялектнай лексікі // Беларус. лексікалогія і этымалогія: праграма і тэз. дакл. міжрэсп. канф. па беларус. лексікалогіі і этымалогіі / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск, 1968. – С. 166–168.

Пашпарт роднай зямлі [Рэцэнзія] // ЛіМ. – 1968. – 7 чэрв. – Рэц. на кн.: Жучкевич, В. А. Топонимика Белоруссии / В. А. Жучкевич. – Минск: Наука и техника, 1968. – 184 с.

З жыцця роднага слова [Рэцэнзія] // Звязда. – 1969. – 29 студз. – Рэц. на кн.: Янкоўскі, Ф. М. Беларуская фразеалогія. Фразеалагізмы, іх значэнне, ужыванне / Ф. М. Янкоўскі. – Мінск: Вышэйш. шк., 1968. – 449 с.

Семантыка назваў рыбалоўства ў гаворцы пяшчанцаў Слаўгарадскага раёна // З жыцця роднага слова: лексікалаг. зб. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. А. І. Жураўскі (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 1968. – С. 119–132.

## 1969

З нівы народнай сінанімікі [Рэцэнзія] // Звязда. – 1969. – 23 жн. – Рэц. на кн.: Юрчанка, Г. Ф. Народная сінаніміка / Г. Ф. Юрчанка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1969. – 280 с.

## 1970

Ландшафтная тэрміналогія ў тапаніміі і мікратапаніміі Слаўгарадчыны // Пытанні беларус. тапанімікі: матэрыялы Першай беларус. тапанім. канф., 1–3 снеж. 1967 г. – Мінск: Вышэйш. шк., 1970. – С. 109–116.

Славгородские говоры (взаимодействие разнодиалектных систем): автореф дис. … канд. филол. наук: 10.02.01 / АН БССР. Ин-т языкознания. – Минск, 1970. – 19 с.

[1] Асобныя з газетных нататак і некаторыя матэрыялы і тэзісы ў бібліяграфію не ўключаны.

## 1971

Беларускія геаграфічныя назвы. Тапаграфія. Гідралогія / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. Беларус. філ. Геагр. т-ва СССР. – Мінск: Навука і тэхніка, 1971. – 256 с.

Старажытныя вераванні, традыцыйныя і рэлігійныя святы // Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання Лексічнага атласа беларускай мовы / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. Н. Т. Вайтовіч [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1971. – С. 133–137.

Метадычныя рэкамендацыі да Інструкцыі па збіранні матэрыялаў для складання Лексічнага атласа беларускай мовы. – Мінск, 1971.

Гідронімы і мікрагідронімы Слаўгарадчыны (Басейн Сажа́) // Питання гідроніміки: матеріали III Респ. ономаст. (гідронім.) наради. – Київ: Наук. думка, 1971 . – С. 125–130.

## 1972

Топографическая и гидрологическая лексика Белоруссии (преимущественно ее восточной части) и западной части РСФСР // Топонимия центра: тез. докл. – М.: Мысль, 1972.

Хай коціцца, хай валіцца [Рэцэнзія] // ЛіМ. – 1972. – 26 мая. – Рэц. на кн.: Юрчанка, Г. Ф. І коціцца і валіцца: устойлівыя словазлучэнні ў гаворцы Мсціслаўшчыны / Г. Ф. Юрчанка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1972. – 288 с.

## 1973

З беларускіх народных назваў грыбоў (гісторыка-этымалагічныя нататкі) // Беларус. лінгвістыка. – Вып. 4. – С. 30–34.

Бел. *вугары́на* ‘прывязка ў цэпе’; *вясна* ‘лета (май, чэрвень, ліпень)’ (гісторыка-этымалагічныя нататкі) // Беларус. лінгвістыка. – Вып. 4. – С. 69–71.

Філалагічная канферэнцыя ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце // Беларус. лінгвістыка. – Вып. 4. – С. 79.

Ідучы ад народнага [Рэцэнзія] // Полымя. – 1973. – № 6. – С. 250–252. – Рэц. на кн.: Сцяцко, П. У. Народная лексіка і словаўтварэнне / П. У. Сцяцко. – Мінск: Навука і тэхніка, 1972. – 287 с.

Слоўнік Сярэдняга Пасожжа // Рэгіянальныя асаблівасці беларускай мовы, літаратуры і фальклору: тэз. дакл. рэсп. навук. канф., Гомель, 25–26 мая 1973. – Гомель, 1973. – С. 82–85.

## 1974

Даследаванне моўных кантактаў [Рэцэнзія] // Полымя. – 1974. – № 10. – С. 247–250. – Рэц. на кн.: Расторгуев, П. А. Словарь народных говоров Западной Брянщины (Материалы для истории словарного состава говоров) / П. А. Расторгуев. – Минск: Наука и техника, 1973. – 295 с.

Топографическая и гидрологическая лексика Белоруссии и западной части РСФСР // Вопр. географии. – 1974. – № 94. – С. 172–177.

## 1975

Да гісторыі сярэднясожскіх гаворак // Беларуская мова і мовазнаўства: міжвуз. зб. / рэдкал.: У. В. Анічэнка (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, 1975. – Вып. 3. – С. 151–160.

З лексікі вёсак Дудзічы і Азярычына Пухавіцкага раёна // З народнага слоўніка: зб. арт. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. А. А. Крывіцкі, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1975. – С. 110–118.

Остатки древнерусской лексики в современных белорусских говорах // Проблемы славянской исторической лексикологии и лексикографии: тез. конф., Москва, 1975, окт. Славянская историческая лексикология (семантический анализ древнеславянского слова). – М., 1975. – Вып. 2. – С. 56–57.

К общеславянской лексике в Среднем Посожье // Совещ. по общеславянскому лингвист. атласу, Гомель, 1975: тез. докл. – М., 1975. – С 288–290.

Этнаграфічныя і дыялекталагічныя нататкі з паўднёвага ўсходу і ўсходу Беларусі // Этнаграф. зб.: дакл. аддз-ня этнаграфіі Геагр. т-ва Беларус. ССР. – Мінск, 1975. – С. 123–128.

## 1976

Узаемадзеянне рознадыялектных сістэм: фанетыка / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск: Навука і тэхніка, 1976. – 176 с.

Пра слоўнік Тураўшчыны // Народнае слова: зб. арт. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; пад рэд. А. Я. Баханькова. – Мінск: Навука і тэхніка, 1976. – С. 288–307 (у суаўтарстве).

З лексікі Выганаўскага Палесся (вёска Горталь Івацэвіцкага раёна) // Народнае слова: зб. арт. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; пад рэд. А. Я. Баханькова. – Мінск: Навука і тэхніка, 1976. – С. 76–82 (у суаўтарстве).

## 1977

Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; пад агул. рэд. К. К. Атраховіча (К. Крапівы). – Мінск: БелСЭ, 1977. – Т. 1 (у суаўтарстве).

З лексікі вёскі Дзяржынск Лельчыцкага раёна // Народная лексіка: зб. арт. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; А. А. Крывіцкі, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977. – С. 238–243.

Стратыфікацыя і частотнасць некаторых тапонімаў Слаўгарадчыны на гісторыка-геаграфічных і картаграфічных матэрыялах // Беларус. анамастыка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977. – С. 50–63.

Иноязычные памятники как источник белорусской исторической диалектологии // Совещ. по общим вопросам диалектологии и истории языка: тез. докл. и сообщ. – М., 1977. – С. 133–134.

К вопросу о генезисе акающих сибирских говоров // Говоры территорий позднего заселения: межвуз. науч. сб. – Саратов: Изд-во Саратовского ун-та, 1977. – Вып. 1. – С. 147–149.

[Рэферат] // Науч.-рефератив. бюл. Отечественная лит. – № 28. – Рэф. на кн.: Яшкін, І. Я. Узаемадзеянне рознадыялектных сістэм: фанетыка / І. Я. Яшкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1976. – 176 с.

Моўныя самацветы [Рэцэнзія] // ЛіМ. – 1977. – 18 лістап. – Рэц. на кн.: Юрчанка, Г. Ф. Слова за слова: устойлівыя словазлучэнні ў гаворцы Мсціслаўшчыны / Г. Ф. Юрчанка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977. – 271 с.

## 1978

Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; пад агул. рэд. К. К. Атраховіча (К. Крапівы). – Мінск: БелСЭ, 1978. – Т. 2. (у суаўтарстве).

Аляксандр Антонавіч Крывіцкі (да 50-годдзя з дня нарадж.) // Беларус. лінгвістыка. – Вып. 12. – С. 75–76.

Аб беларуска-ўкраінскіх лексічных паралелях // Проблемы дослiджэння дiалектної лексики i фразеологiї укр. мови: тези допов. – Ужгород, 1978. – С. 85–86.

## 1979

З лексікі Сярэдняга Пасожжа // Народная словатворчасць: зб. арт. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. А. А. Крывіцкі, І. Я. Яшкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979. – С. 74–81.

Лінгвагеаграфічнае вывучэнне Тураўшчыны // Народная словатворчасць: зб. арт. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. А. А. Крывіцкі, І. Я. Яшкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979. – С. 301–303 (у суаўтарстве).

## 1980

Узаемадзеянне рознадыялектных сістэм: марфалогія. Сінтаксіс / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. А. І. Жураўскі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1980. – 103 с.

[Рэцэнзія] // Беларус. лінгвістыка. – Вып. 18. – С. 67–68. – Рэц. на кн.: Булахов, М. Г. Восточнославянские языковеды: библиограф. сл.: в 3 т. / М. Г. Булахов. – Минск: Изд-во БГУ, 1976. – Т. 1. – 320 с.; 1977. – Т. 2. – 352 с.; 1978. – Т. 3. – 384 с.

З назіранняў над націскам у гаворках Сярэдняга Пасожжа // Рэгіянальныя традыцыі ва ўсходнеславянскіх мовах, літаратурах і фальклоры: тэз. дакл. II рэсп. навук. канф., Гомель, 25–26 верас. 1980 г. – Гомель, 1980. – С. 55–56.

[Реферат] // Научно-реферат. бюл. Отечественная лит. – № 39. – Рэф. на кн.: Мяцельская, Е. С. Беларуская дыялекталогія: хрэстаматыя: вучэб. дапам. для вузаў / Е. С. Мяцельская, Я. М.Камароўскі. – Мінск: Выд-ва БДУ, 1979. – 320 с.

## 1981

[Рэцэнзія] // Беларус. лінгвістыка. – Вып. 19. – С. 67–68. – Рэц. на кн.: Васілеўская, Л. Д. Беларускае мовазнаўства: бібліяграф. паказ. (1966–1975) / Л. Д. Васілеўская, Я. М. Рамановіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1980. – 352 с.

Мікратапанімія // Беларуская ССР: карот. энцыкл. – Мінск: БелСЭ, 1981. – Т. 4. – С. 361.

Иноязычные и другие памятники как источники белорусской исторической диалектологии // Лингвистическая география и проблемы истории языка: матер. VI Всесоюз. совещ. – Нальчик, 1981. – Ч. 2. – С. 235–240.

Багацце народнага слова [Рэцэнзія ] // ЛіМ. – 1981. – 26 чэрв. – Рэц. на кн.: Юрчанка, Г. Ф. Народнае вытворнае слова: з гаворкі Мсціслаўшчыны. А–Л / Г. Ф. Юрчанка. – Мінск: Навука і тэхніка. 1981. – 280 с.

## 1982

Тураўскі слоўнік: у 5 т. – Т. 1: А–Г / склад.: А. А. Крывіцкі, Г. А. Цыхун, І. Я. Яшкін; рэд. А. А. Крывіцкі; Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982. – 255 с.

Тураўскі слоўнік: у 5 т. – Т. 2: Д–К / склад.: А. А. Крывіцкі, Г. А. Цыхун, І. Я. Яшкін; рэд. А. А. Крывіцкі; Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. А. А. Крывіцкі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982. – 271 с.

## 1983

Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. – Т. 5, кн. 1: С–У. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; пад агул. рэд. К. К. Атраховіча (К. Крапівы). – Мінск: БелСЭ, 1983 (у суаўтарстве).

О географии некоторых полесских трудовых приемов // Полесье и этногенез славян: предварительные материалы и тез. конф. / АН СССР. Ин-т славяноведения и балканистики МГУ. – М., 1983.

## 1984

Тураўскі слоўнік: у 5 т. – Т. 3: Л–О / склад.: А. А. Крывіцкі, Г. А. Цыхун, І. Я. Яшкін; рэд. А. А. Крывіцкі; Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск: Навука і тэхніка, 1984. – 311 с.

[Рэцэнзія] // Беларус. лінгвістыка. – Вып. 2. – С. 77–78. – Рэц. на кн.: Сцяшковіч, Т. Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці / Т. Ф. Сцяшковіч. – Мінск: Навука і тэхніка. 1973. – 671 с.

## 1985

Тураўскі слоўнік: у 5 т. – Т. 4: П–Р / склад.: А. А. Крывіцкі [і інш.]; рэд. А. А. Крывіцкі; Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск: Навука і тэхніка, 1985. – 360 с.

Белорусско-украинские изолексные зоны по названиям грибов // Региональные особенности восточнославянских языков, литератур, фольклора и методы их изучения: тез. докл. и сообщ. III Респ. конф. – Гомель, 1985. – Ч. I. – С. 232–233.

## 1986

Грибы. – Минск: Наука и техника, 1986. – 232 с. (у суаўтарстве).

Да лінгвагеаграфіі назваў традыцыйных працоўных прыёмаў на тэрыторыі БССР // Беларуская мова: міжвед. зб. / рэдкал.: У. В. Анічэнка (гал. рэд.) [і інш.]. – Гомель, 1986. – Вып. 14. – С. 33–38.

Из особенностей словообразования многоприставочных глаголов в говорах Славгородчины // Словообразование и номинативная деривация в славянских языках: тез. докл. II Респ. конф., Гродно, 25–26 сент. 1986 г.: в 2 ч. – Гродно, 1986. – Ч. 2. – С. 103–105.

Да лінгвагеаграфіі рэгіянальных фразеалагізмаў у творах Якуба Коласа // Каласавіны: зб. навук. прац з нагоды дня нарадж. нар. паэта Беларусі Якуба Коласа. – Мінск, 1986. – С. 40–42.

## 1987

Тураўскі слоўнік: у 5 т. – Т. 5: С–Я / склад.: А. А. Крывіцкі, Г. А. Цыхун, І. Я. Яшкін; рэд. А. А. Крывіцкі; Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск: Навука і тэхніка, 1987. – 424 с.

[Рэцэнзія] // Беларус. лінгвістыка. – 1987. – С. 73–75. – Рэц. на кн.: Назарова, Т. В. Лінгвістичний атлас Нижньої Прип'яти / Т. В. Назарова. – Київ, 1985. – 136 с.

[Рэферат] // Науч.-рефератив. бюл. Отечественная лит. – № 80. – Рэф. на кн.: Назарова, Т. В. Лінгвістичний атлас Нижньої Прип'яти / Т. В. Назарова. – Київ, 1985. – 136 с.

## 1988

Слаўны дзеяч беларускай культуры [Да 200-годдзя з дня нарадж. І. Насовіча] // Беларус. мова і літ. у школе. – 1988. – № 10. – С. 74–75.

[Рэферат] // Науч.-реферагив. бюл. Отечественная лит. – № 93. – С. 128–129. – Рэф. на кн.: Народная словатворчасць: зб. арт. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. А. А. Крывіцкі, І. Я. Яшкін. Мінск: Навука і тэхніка, 1979. – 336 с.

[Рэферат] // Науч.-реферагив. бюл. Отечественная лит. – № 93. – С. 130–131. – Рэф. на кн.: Народная лексіка: зб. арт. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. А. А. Крывіцкі, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977. – 287 с.

[Рэферат] // Науч.-реферагив. бюл. Отечественная лит. – № 93. – С. 161–164. – Рэф. на кн.: Сцяшковіч, Т. Ф. Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці / Т. Ф. Сцяшковіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1972. – 619 с.

[Рэферат] // Науч.-реферагив. бюл. Отечественная лит. – № 93. – С. 187–192. – Рэф. на кн.: Юрчанка, Г. Ф. Народнае вытворнае слова: з гаворкі Мсціслаўшчыны. А –Я / Г. Ф. Юрчанка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1981–1985.

[Рэферат] // Науч.-реферагив. бюл. Отечественная лит. – № 93. – С. 135–136. – Рэф. на кн.: Матэрыялы для абласнога слоўніка Магілёўшчыны. – Вып. 1 / уклад. М. В. Абабурка [і інш.]; рэд. А. А. Крывіцкі, І. Я. Яшкін; Магілёўскі пед. ін-т. – Мінск: Навука і тэхніка, 1981. – 128 с.

## 1989

Охрана и восстановление исторических названий Белоруссии // Исторические названия – памятники культуры: тез. докл. и сообщ. Всесоюз. науч.-практ. конф., Москва, 17–20 апр. 1989 г. – М.: Наука, 1989. – С. 97–98.

Да геаграфіі дзядоў // ЛіМ. – 1989. – 5 мая.

Іван Іванавіч Насовіч і беларуская дыялекталогія // Вес. АН БССР. Сер. грамад. навук. – 1989. – № 3. – С. 94–102.

## 1990

Глаголы движения, действия с суффиксом -ану- // Вопр. словообразования н нормативной деривации в славянских языках: матер. III Респ. конф., Гродно, 5–6 окт. 1989 г. – Гродно. 1990. – С. 232–234.

Канферэнцыя па ўсходнеславянскай дыялекталогіі // Беларус. лінгвістыка. – 1989. – Вып. 37. – С. 77–78.

Да геаграфіі мікалагічнай наменклатуры ў беларуска-ўкраінскім паграніччы // Проблеми укр. діалектології на сучасному етапі: тез допов. і повідомл. – Житомир. 1990.

## 1991

Дыялектызмы ў творах Францыска Скарыны // Франциск Скорина и Вильнюс: сб. материалов Респ. науч. конф., посвящ. 500-летию со дня рожд. Франциска Скорины / сост. Л. В. Судавичене. – Вильнюс, 1991.

Да сістэмы лексікалагічных тэрмінаў і наменклатурных адзінак // Дыялекталогія і культура беларускай мовы: тэз. Рэсп. навук.-практ. канф., Мінск, 10 снеж. 1991 г. – Мінск, 1991. – С. 204–207.

Зберагчы народны скарб // Народная газета. – 1991. – 12 верас.

Міжнародная славістычная навуковая канферэнцыя // Беларус. лінгвістыка. – Вып. 42. – С. 73–75.

Суфіксы -с-, -іс(ь)к-, -ішч-, -іс(ь)- у гаворках Сярэдняга Пасожжа // А. А. Потебня – исследователь славянских взаимосвязей: тез. Всесоюз. науч. конф., Харьков, окт. 1991 г. – Харьков, 1991. – Ч. 2. – С. 29–30.

Да гісторыі стварэння ЛАБНГ // Дыялекталогія і культура беларускай мовы: тэз. Рэсп. навук.-практ. канф. – Мінск, 1991. – С. 28–31.

## 1992

Да вытокаў моўнай сітуацыі ў Беларусі // Полымя. – 1992. – № 4. – С. 207–225.

Дыялектызмы ў творах Францішка Скарыны // Наша слова. – 1992. – 29 ліп.

## 1993

Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. – Т. 1: Раслінны і жывёльны свет / АН Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; пад рэд. М. В. Бірылы, Ю. Ф. Мацкевіч; навук. рэд. Ф. Д. Клімчук, Я. М. Рамановіч, І. Я. Яшкін. – Мінск: Фонд фундам. даслед. Рэсп. Беларусь, Кам. геадэзіі пры Савеце Міністраў Рэсп. Беларусь, 1993. – 160 с.; XIX + 368 карт (у суаўтарстве).

Назвы грыбоў у беларуска-літоўскім пагранічны (баравік, асавік, порхаўка) // Lietuvą Kalboryros klausų Periferines lietuvių kalbos tarmės. – Vilnius: Akademia, 1993.

## 1994

Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. – Т. 2: Сельская гаспадарка / АН Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; пад рэд. Ю. Ф. Мацкевіч; навук. рэд. А. І. Чабярук, І. Я. Яшкін. – Мінск: Фонд фундам. даслед. Рэсп. Беларусь, Кам. геадэзіі пры Савеце Міністраў Рэсп. Беларусь, 1994. – 145 с.; 354 карты (у суаўтарстве).

Мясцовая беларуская лексіка 1851–1874 гадоў у матэрыялах фондаў аддзела рукапісаў навуковай бібліятэкі Вільнюскага ўн-та // Acta Baltico-Slavica. – 22. – Warzsawa, 1994. – S. 147–220.

З гаворкі в. Шаламы Слаўгарадскага раёна // Гавораць чарнобыльцы (з мясцовых гаворак чарнобыльскай зоны ў Беларусі) / склад. і навук. рэд. А. А. Крывіцкі. – Мінск: ЦНБ АН РБ, 1994. – С. 100–115.

З жыцця слоў у гаворках Слаўгарадчыны // Слова беларускае: з гісторыі лексікалогіі і лексікаграфіі: зб. арт. / уклад. Т. В. Кусянкова; пад рэд. А. Я. Міхневіча. – Мінск: Нар. асвета, 1994. – 89–99.

Кніга пра наша вымаўленне [Рэцэнзія ] // Полымя. – 1994. – № 10. – Рэц. на кн.: Выгонная, Л. Ц. Інтанацыя. Націск. Арфаэпія / Л. Ц. Выгонная; Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск: Навука і тэхніка, 1991. – 215 с.

Руск. *попасть в просак* – бел. *упасці ў прычыну //* Беларус. лінгвістыка. – Вып. 40. – С. 68–70.

## 1995

Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. – Т. 3: Чалавек / АН Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; пад рэд. Ю. Ф. Мацкевіч; навук. рэд. І. Я. Яшкін. – Мінск: Фонд фундам. даслед. Рэсп. Беларусь, Кам. геадэзіі пры Савеце Міністраў Рэсп. Беларусь, 1995. – 115 с.; 293 карты (у суаўтарстве).

Паўночна-ўсходнія і сярэднебеларускія ізаглосы // Лексічныя ландшафты Беларусі: жывёльны свет / Акад. навук Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. Ф. Д. Клімчук, І. Я. Яшкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1995. – С. 197–231.

Грыбы ў традыцыйнай кухні беларусаў. – Мінск: БелЭН, 1995. – 126 с.

## 1997

Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. – Т. 4: Побыт / АН Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; пад рэд. Ю. Ф. Мацкевіч; навук. рэд. Т. М. Трухан, І. Я. Яшкін. – Мінск: Фонд фундам. даслед. Рэсп. Беларусь, Кам. геадэзіі пры Савеце Міністраў Рэсп. Беларусь, 1997. – 150 с.; 439 карт (у суаўтарстве).

## 1998

Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. – Т. 5: Семантыка. Словаўтварэнне. Націск / НАН Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; пад рэд. Ю. Ф. Мацкевіч; навук. рэд. В. М. Курцова, І. Я. Яшкін. – Мінск: Фонд фундам. даслед. Рэсп. Беларусь, Кам. геадэзіі пры Савеце Міністраў Рэсп. Беларусь, 1998. – 125 с.; 337 карт (у суаўтарстве).

## 2000

Сама яна Тураўшчына // Тураўшчына: мінулае, сучаснасць, будучыня / П. Ф. Лысенка (гал. рэд.). – Тураў–Мінск: УП «Тэхнапрынт», 2000. – Вып. 1. – С. 59.

## 2005

Слоўнік беларускіх мясцовых геаграфічных тэрмінаў: тапаграфія. Гідралогія. – Мінск: Беларус. навука, 2005. – 806 с.

Грыбы і грыбная кулінарыя: папул. энцыкл. давед. – Мінск: Беларус. асац. кулінараў, 2005. – 388 с. (у суаўтарстве).

## 2009

Слоўнік беларускіх імёнаў. – Мінск: Адукацыя і выхаванне, 2009. – 136 с.

## 2013

Слоўнік беларускіх імёнаў і сямейна-родавых паняццяў. – Мінск: Адукацыя і выхаванне, 2013. – 440 с.

## НАВУКОВАЕ РЭДАГАВАННЕ

Жывое слова: дыялекталагічны зб. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. Ю. Ф. Мацкевіч, І. Я. Яшкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1978. – 287 с.

Народная словатворчасць: зб. арт. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. А. А. Крывіцкі, І. Я. Яшкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979. – 336 с.

Матэрыялы для абласнога слоўніка Магілёўшчыны / уклад. М. В. Абабурка [і інш.]; рэд. А. А. Крывіцкі, І. Я. Яшкін; Магілёўскі пед. ін-т. – Мінск: Навука і тэхніка, 1981. – Вып. 1. – 128 с.

Жывое народнае слова: дыялекталаг. зб. / Акад. навук БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. П. А. Міхайлаў, І. Я. Яшкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – 271 с.

Лексічныя ландшафты Беларусі: жывёльны свет / Акад. навук Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; рэд. Ф. Д. Клімчук, І. Я. Яшкін. – Мінск: Навука і тэхніка, 1995. – 255 с.

Жывое наша слова: дыялекталаг. зб. (Да 90-годдзя чл.-кар. НАН Беларусі Ю. Ф. Мацкевіч) / НАН Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Якуба Коласа; рэд. Л. П. Кунцэвіч, І. Я. Яшкін. – Мінск: Беларус. навука. 2001. – 352 с.

Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. – Мінск, 1993–1998:

Т. 1: Раслінны і жывёльны свет / пад рэд. Ю. Ф. Мацкевіч; навук. рэд. Ф. Д. Клімчук, Я. М. Рамановіч, І. Я. Яшкін. – Мінск, 1993. – 160 с.; XIX + 368 карт.

Т. 2: Сельская гаспадарка / пад рэд. Ю. Ф. Мацкевіч; навук. рэд. А. І. Чабярук, І. Я. Яшкін. – Мінск, 1994. – 145 с.; 354 карты;

Т. 3: Чалавек / пад рэд. Ю. Ф. Мацкевіч; навук. рэд. І. Я. Яшкін. – Мінск, 1995. – 115 с.; 293 карты;

Т. 4: Побыт / пад рэд. Ю. Ф. Мацкевіч; навук. рэд. Т. М. Трухан, І. Я. Яшкін. – Мінск, 1997. – 150 с.; 439 карт;

Т. 5: Семантыка. Словаўтварэнне. Націск / пад рэд. Ю. Ф. Мацкевіч; навук. рэд. В. М. Курцова, І. Я. Яшкін. – Мінск, 1998. – 125 с.; 337 карт.

## ЛІТАРАТУРА ПРА І. Я. ЯШКІНА

Яшкін Іван Якаўлевіч // Энцыкл. літ. і мастацтва Беларусі. – Мінск, 1987. – Т. 5. – С. 702.

Яшкин Иван Яковлевич // Республика Беларусь: энцикл.: в 7 т. – Минск: БелЭН, 2008. – Т. 7. – С. 739.

# ПРАДМЕТНЫ ПАКАЗАЛЬНІК

**Б**

## В

## Г

## Д

### Е



### Ж



### З

## Й

**М**

### Н

### О



### П

## Р



## С

## Т

## Ч



## Ш

# ІНФАРМАЦЫЙНА-ДАВЕДАЧНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

### НАЗВЫ РАЁНАЎ

Акц. – Акцябрскі
Арш. – Аршанскі
Асіп. – Асіповіцкі
Астр. – Астравецкі
Ашм. – Ашмянскі
Бабр. – Бабруйскі
Бар. – Баранавіцкі
Барыс. – Барысаўскі
Бераст. – Бераставіцкі
Беш. – Бешанковіцкі
Браг. – Брагінскі
Брасл. – Браслаўскі
Брэсц. – Брэсцкі
Буда-Каш. – Буда-Кашалёўскі
Бых. – Быхаўскі
Бял. – Бялыніцкі
Бяроз. – Бярозаўскі
Бярэз. – Бярэзінскі
Валож. – Валожынскі
Ваўк. – Ваўкавыскі
Верхнядзв. – Верхнядзвінскі
Ветк. – Веткаўскі
Віл. – Вілейскі
Віц. – Віцебскі
Воран. – Воранаўскі
Ганц. – Ганцавіцкі
Гарад. – Гарадоцкі
Гл. – Глускі
Глыб. – Глыбоцкі
Гом. – Гомельскі
Гор. – Горацкі
Гродз. – Гродзенскі
Дзярж. – Дзяржынскі
Дзятл. – Дзятлаўскі
Добр. – Добрушскі
Докш. – Докшыцкі
Драг. – Драгічынскі
Дрыб. – Дрыбінскі
Дубр. – Дубровенскі
Ельск. – Ельскі
Жаб. – Жабінкаўскі
Жлоб. – Жлобінскі
Жытк. – Жыткавіцкі
Зэльв. – Зэльвенскі
Іван. – Іванаўскі
Івац. – Івацэвіцкі
Івян. – Івянецкі
Іўеў. – Іўеўскі
Калінк. – Калінкавіцкі
Кам. – Камянецкі
Капыл. – Капыльскі
Карм. – Кармянскі
Карэл. – Карэліцкі
Касц. – Касцюковіцкі
Кобр. – Кобрынскі
Кір. – Кіраўскі
Клецк. – Клецкі
Клім. – Клімавіцкі
Кліч. – Клічаўскі
Кобр. – Кобрынскі
Краснап. – Краснапольскі
Кругл. – Круглянскі
Круп. – Крупскі
Крыч. – Крычаўскі
Лаг. – Лагойскі
Лельч. – Лельчыцкі
Леп. – Лепельскі
Лёзн. – Лёзненскі
Лід. – Лідскі
Лоеў. – Лоеўскі
Лун. – Лунінецкі
Люб. – Любанскі
Лях. – Ляхавіцкі
Маг. – Магілёўскі
Маз. – Мазырскі
Маладз. – Маладзечанскі
Малар. – Маларыцкі
Маст. – Мастоўскі
Мёр. – Мёрскі
Мін. – Мінскі
Мсцісл. – Мсціслаўскі
Мядз. – Мядзельскі
Навагр. – Навагрудскі
Нараўл. – Нараўлянскі
Нясв. – Нясвіжскі
Паст. – Пастаўскі
Петр. – Петрыкаўскі
Пін. – Пінскі
Пол. – Полацкі
Пруж. – Пружанскі
Пух. – Пухавіцкі
Раг. – Рагачоўскі
Рас. – Расонскі
Рэч. – Рэчыцкі
Саліг. – Салігорскі
Светлагор. – Светлагорскі
Свісл. – Свіслацкі
Сен. – Сенненскі
Слаўг. – Слаўгарадскі
Слон. – Слонімскі
Слуцк. – Слуцкі
Смал. – Смалявіцкі
Смарг. – Смаргонскі
Старадарож. – Старадарожскі
Стаўб. – Стаўбцоўскі
Стол. – Столінскі
Тал. – Талачынскі
Уздз. – Уздзенскі
Ушацк. – Ушацкі
Хойн. – Хойніцкі
Хоц. – Хоцімскі
Чав. – Чавускі
Чач. – Чачэрскі
Чашн. – Чашніцкі
Чэрв. – Чэрвеньскі
Чэрык. – Чэрыкаўскі
Шарк. – Шаркаўшчынскі
Шкл. – Шклоўскі
Шум. – Шумілінскі
Шчуч. – Шчучынскі

## НАЗВЫ ДЫЯЛЕКТНЫХ ГРУП ГАВОРАК

асн. мас. г. – асноўны масіў гаворак
віц.-маг. г. – віцебска-магілёўская група гаворак
гродз.-бар. г. – гродзенска-баранавіцкая група гаворак
зах.-пал. г. – заходнепалескія гаворкі
паўдн.-зах. д. – паўднёва-заходні дыялект
паўн.-усх. д. – паўночна-ўсходні дыялект
пол.-мін. г. – полацка-мінская група гаворак
слуцк.-маз. г. – слуцка-мазырская група гаворак
сярэд.-бел. г. – сярэднебеларуская група гаворак
усх.-маг. г. –– усходнемагілёўская група гаворак

## АСНОЎНЫЯ ДЫЯЛЕКТНЫЯ ЗОНЫ

зах. з. – заходняя зона
паўдн.-усх. з. – паўднёва-ўсходняя зона
паўн.-зах. з. – паўночна-заходняя зона
усх. з. – усходняя зона
цэнтр. з. – цэнтральная зона

## ДЫЯЛЕКТНЫЯ РЭГІЁНЫ

Беластоц. р. – Беласточчына (Польшча)
Бярэз. р – у наваколлі р. Беразіны
Вілен. р. – Віленшчына
Віц. р. – у наваколлі Віцебска
Гом. р. – у наваколлі Гомеля
Гродз. р. – у наваколлі Гродна
Зах.-бран. р. – Заходняя Браншчына (Расія)
Латгал. р. – Латгальскі рэгіён
Маг. р. – Магілёўскі рэгіён
Панямон. р. – Панямонскі рэгіён
паўдн. р. – паўднёвы рэгіён
паўн. р. – паўночны рэгіён
Слуцк. р. – Слуцкі рэгіён
Смален. р. – Смаленскі рэгіён
усх.-маг. р. – усходнемагілёўскі рэгіён
Чэрв. р. –– Чэрвеньскі рэгіён

## ІНШЫЯ СКАРАЧЭННІ

*абрад.* – абрадавае
*абраз.* – абразлівае
*агульн.* – агульны род
*адз.* – адзіночны лік
*адзінк.* – адзінкавае
*адм.* – адмоўнае
*анат.* – анатамічнае
*арніт.* – арніталагічнае
*арх.* – архаічнае
*астр.* – астранамічнае
*асудж.* – асуджальнае
*бат.* – батанічнае
*біял.* – біялагічнае
*буд.* – будаўнічая справа
*В.* – вінавальны склон
*в.* – вёска
*ваен.* – ваенная справа
*вет.* – ветэрынарнае
*вульг.* – вульгарнае
*выкл.* – выклічнік
*высл.* – выслоўе
*выш.* – вышэйшая ступень
*гандл.* – гандлёвае
*ганч.* – ганчарная справа
*геагр.* – геаграфічнае
*гіст.* – гістарычнае
*гл.* – глядзі
*груб.* – грубае
*Д.* – давальны склон
*да т. п.* – да таго падобнае
*дзеепрым.* – дзеепрыметнік
*дзеепрысл.* – дзеепрыслоўе
*дзіц.* – дзіцячае
*дражн.* – дражнілка
*ж.* – жаночы род
*жарт.* – жартаўлівае
*заал.* – заалагічнае
*забаўл.* – забаўлянка
*займ.* – займеннік
*зак.* – закончанае трыванне
*зам.* – замова
*зб.* – зборны назоўнік

